# ЯКУБ КОЛАС

# ЗБОР ТВОРАЎ

## У СЯМІ ТАМАХ

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
*Пятрусь Броўка, Пятро Глебка,*
*Міхась Лынькоў, Максім Лужанін,*
*Янка Шарахоўскі*



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
*Рэдакцыя мастацкай літаратуры*
Мінск 1952

# ЯКУБ КОЛАС

## ЗБОР ТВОРАЎ

### Том 6

НА ПРАСТОРАХ ЖЫЦЦЯ

АДШЧАПЕНЕЦ

ДРЫГВА





ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
*Рэдакцыя мастацкай літаратуры*
Мінск 1952

*Частка першая*

## НА ПАРОЗЕ

«— Вы павінны прабіць сабе дарогу і выйсці на шырокія прасторы жыцця.
— А дзе такія шырокія прасторы?
— У шырокіх размахах грамадскай работы».

### I

Сцяпан — чалавек сур'ёзны, хоць яму ўсяго дванаццаць гадкоў. Толькі часамі прарвецца ў ім маладая, бурлівая натура, і тады Сцёпка, як і ўсе людзі яго века, выкажа гэтую маладую імкненнасць: прабяжыць па вуліцы так, што аж вецер каля вушэй засвішча. І зробіць яшчэ Сцёпка такія выбрыкі ў паветры, што і артыст другі пазайздросціць.

Але гэта ніколечкі не шкодзіла славе яго сур'ёзнасці. І яшчэ можна было-б адмеціць у ім адну рысачку, якая таксама як-бы трошачкі супярэчыць гэтай сур'ёзнасці.

Справа, бачыце, у тым, што тады, калі Сцёпка віхрыцца па вуліцы, яму кожны раз пападзецца на вочы гэтая Аленка, дачка Андрэева. Стаіць яна каля веснічак свайго дворыка. Ясныя, прыветныя вочкі яе глядзяць

на Сцёпку, а на губках свеціцца такая лагодненькая ўсмешка! Бегучы, Сцёпка толькі бліснe на яе сваімі шэрымі вачыма, прычым бровы яго ссунуцца грозна, але кінуць ёй якое-небудзь слова няма часу — Сцёпка імчыцца далей. Аленка-ж стаіць, праводзіць яго сваімі яснымі вочкамі.

А калі Сцёпка бег назад, то ўжо за некалькі крокаў да Аленчынага дворыка грозна паварочваў галаву ў бок Аленкі. А тая не заўсёды стрымаецца і скажа яму часам:

— А я дагнала-б цябе.

Скажа і ўсміхнецца. Усмешка гэтая выразна казала аб тым, што Аленка нічога не мела-б, каб паганяцца за Сцёпкам. Ды ці-ж згодзіцца на гэта Сцёпка? Хіба-ж дапусціць ён сябе да таго, каб сябраваць з гэтым жаночым насеннем?

Па-першае, яму дванаццаць год, ёй усяго дзесяць, па-другое, ён — мужчына, а яна — баба.

І Сцёпка яшчэ больш грозна бліснe вачыма і зробіць намеры сцерці яе з твару зямлі, пасля чаго імчыцца далей, а Аленка, пакрыўджаная ў лепшых сваіх жаданнях, у сваёй шчырасці да яго, стаіць маўклівая, гасне ўсмешка на яе губках.

Яшчэ больш сур'ёзны стаўся Сцёпка, скончыўшы пачатковую школу. А гэта было ўжо тады, калі Сцёпка меў трынаццаць гадкоў.

І Аленка таксама хадзіла ў школу. І цікавей усяго тое, што яна хоць і «баба», але далёка ішла ўперад ад «мужчын», што вельмі дзівіла Сцёпку, бо гэта парушала ў корні яго прадстаўленне аб «бабах», — яны ўсё-ж не тое, — думаў ён, — што, скажам, наш брат — мужчына.

Сцёпка быў чалавек заняты. З васьмі гадкоў і нават раней яму ўжо прышлося, як і ўсім дзецям беднаты, прыняць удзел у будаўніцтве жыцця, калі можна так сказаць. Трэба было і матцы ў хаце памагчы, і свіней папільнаваць, і каня папасвіць, ды з бараною за бацькам у полі пахадзіць... Ды ці мала работы ў гаспадарцы? Але гэтая работа, сказаць праўду, не надта захапляла і гарнула да сябе Сцёпку: яго больш цікавіла кніжка... Эх, каб у яго ды былі грошы: кніжак, кніжак накупляў-бы ён сабе! У тым-та і бяда, што гэтых грошай няма, і ў бацькі іх не возьмеш — галота!

Скончыў Сцёпка школу.

Настаўнік яму сказаў:

— Не пакідай, Сцёпка, навукі: у цябе вялікія здольнасці да яе. Прыходзь да мяне вольным часам—падганю цябе, у вышэйшую школу паступіш. Толк з цябе будзе.

Задумаўся Сцёпка. А добра было-б яшчэ павучыцца!

Настала лета, уцягнуўся Сцёпка ў гаспадарскую работу, нават думкам сваім не было калі аддацца.

II

На дванаццатым годзе скончыла школу і Аленка Андрэева. Здала яна экзамен не толькі лепш за вучняў свае школы, — з усіх школ, якія былі на экзаменах, выдзелілася яна сваімі здольнасцямі. Проста на ўсё сваё сяло праславілася. Дачуўся аб гэтым Сцёпка, зайздрасць патайная абудзілася ў ім.

«Няўжо гэта праўда, што яна такая здольная?» — думаў Сцёпка і не хацеў даваць веры. З поўгадзіны не мог заснуць Сцёпка, думаючы аб вучонасці Аленкі. Успомніў, што сам ён закінуў сваю навуку, і яму стала нявесела на сэрцы. З галавы не выходзілі ўсе гэтыя думкі. Урэшце, Сцёпка спыніўся на думцы — пабачыцца як-небудзь з Аленкаю. Толькі трэба зрабіць так, як-бы гэта было незумысня.

Назаўтра ранічкаю прайшоўся Сцёпка каля хаты, дзе жыла Аленка. Яе там не было. Прайшоўся другі раз, а Аленкі так і не відаць.

Чаму-ж гэта даўней тырчала яна каля веснічак кожны раз, калі-б толькі Сцёпка ні з'явіўся на вуліцы? Можа хіба яе дома няма? А можа фанабэрыі набралася, што ўжо не хоча і глянуць на яго?

Потым Сцёпка разважыў так, што яна напэўна баіцца на вочы яму пападацца, каб ён не запытаў у яе чаго-небудзь па часці навукі, бо ў Сцёпкі, калі хочаце ведаць, якраз і былі гэтыя запытанні, хацелася ўпэўніцца ў яе вучонасці і ў яе здольнасці. Ды і так хацелася пабачыцца з ёю.

Прайсціся трэці раз Сцёпка не адважыўся: лёгка магло стацца так, што хто-небудзь з суседзяў мог-бы звярнуць на яго ўвагу і пранікнуць у таямніцы яго ду-

мак. Што-б яму было адказваць, калі-б яго запыталіся, чаго ён шнуруе каля Андрэевай хаты?

А людзі маглі-б падумаць чорт ведае што: гатовы яшчэ сказаць, што ён за Аленкай хадзіць пачынае. Вось чаму, калі Сцёпка мінуў Аленчыну хату, не пабачыўшы Аленкі, ён кінуўся на хітрасць: вярнуўся назад і пайшоў па вуліцы наўскасяк. Супроць яе хаты, з другога боку вуліцы, быў гародчык Алесі Ганчаровых. У гэтым гародчыку пад вокнамі раслі такія слаўныя кветкі. Гэтымі кветкамі і любуецца Сцёпка. Адным вокам на кветкі глядзіць, а другім незаметна і на вокны Аленчынай хаты кіне... Не, нічога не выходзіць — не відаць Аленкі. І пазіраць-жа на гэтыя вокны нялоўка, і тут стаяць доўга не выпадае. Сцёпка заўважыў бусла над сялом. Ляціць нізка над хатамі. Правёў вачыма бусла і таксама на Аленчыну хату глянуць не забыў... Поўная няўдача. Прайшоў па вуліцы далей, хаты тры-чатыры, зноў на той бок вуліцы перайшоў, назад павярнуўся і апошні раз каля Аленчынай хаты прайшоўся.

— Тфу, дурань! — аблаяў сам сябе Сцёпка і дадому пайшоў. — Падумаеш, важнасць якая — Аленка! — і Сцёпка засвістаў, з самаю нявіннаю мінаю, нейкі вясёлы матыўчык.

А Аленка бачыла Сцёпку. Стаяла ў хаце каля акна і бачыла, як Сцёпка прайшоў па вуліцы. Падумайце, якая хітрая! Стаілася каля акна і за Сцёпкам цікуе, а сама не паказваецца. Дагадваецца Аленка, што Сцёпка нічога не меў-бы, каб пабачыцца з ёю, але і ашукацца баіцца. Бачыць яна, як Сцёпка на кветкі глядзіць і як бусла вачыма праводзіць. Намерылася ўжо выйсці, ды маці штосьці затрымала, а калі яна апынулася на двары, то Сцёпка, пасвістваючы, у свой двор уваходзіў. Калі гляне яшчэ ў яе бок, то ўжо напэўна можна лічыць, што Сцёпка спецыяльна хадзіў тут, каб яе пабачыць. Не, не агледзеўся.

## III

Гэтая няўдача крыху збянтэжыла Сцёпку. Таксама непрыемна было і Аленцы, што Сцёпка і папраўдзе мог так сабе вандраваць па вуліцы, не маючы на ўвазе яе

асобу. І ў той час, калі Сцёпка думаў над пытаннем, ці дома была Аленка, ці проста не хацела з ім пабачыцца,— бо быў такі момант, калі яму здалося, што яна быццамбы стаяла ў хаце каля акна, — Аленка ламала галаву, думаючы над тым, чаго Сцёпка каля іх хаты вандраваў. Хацелася думаць, што Сцёпка меў на ўвазе пагаманіць з ёю. *Але-ж ён не аглянуўся ў яе бок, калі ў свой двор уваходзіў, а гэтая акалічнасць казала за тое, як і* згадала Аленка, што ён хадзіў так сабе. Але, як вядома, калі тое ці іншае гаданне кажа не ў нашу руку, то мы, звычайна, не хочам яму і верыць.

Як бачыце, і ў Сцёпкі, і Аленкі ў выніку гэтай справы была няпэўнасць. І Сцёпку, і Аленцы хацелася гэтую няпэўнасць выясніць. Сцёпка-ж быў чалавек цвёрды. Ён ніколі не дапусціць, каб другі раз пайсці туды. О, не дачакае яна гэтага! Ну, і Аленка — дзяўчына з гонарам. Хіба забылася яна, як Сцёпка колькі раз зневажаў яе? Яна добра памятае, як хацела дагнаць яго, а ён толькі воўкам зірне на яе — і ані прыступу... І як гэта яна магла дапусціцца да гэтага? Адно толькі апраўданне: дурная была яшчэ, і будзе яна яшчэ, можа, шукаць яго? Ды ніколі!

Ясныя, слаўныя вочкі яе зрабіліся незвычайна строгімі.

Вось яна што зробіць: яна возьме сваю кнігу, а такая кніга яму і не снілася, і пойдзе сабе пад магазін чытаць. Адзін настаўнік на экзаменах падарыў ёй гэтую кнігу. Гэта кніга «Кабзар» Тараса Шэўчэнкі, і настаўнік сказаў яшчэ:

— Якая ты разумная і мілая! Вось табе падарак ад мяне.

Які гэта быў добры настаўнік! Напэўна, другога такога ўжо і на свеце няма. Заскочыла ў хату Аленка, Тараса Шэўчэнку ўзяла, хустачку на плечы накінула, зірнулася ў люстэрачка ў бляшанай аправе і на вуліцу вышла.

Пад магазін можна было-б бліжэй гародамі прайсці, але хто ёй забароніць ісці вуліцаю! Разгарнула яна кнігу, ідзе і чытае:

Реве та стогне Дніпр широкий,
Сердитий вітер завива.

А ідучы каля Сцёпкавай хаты, яна так захапілася чытаннем, што ішла зусім памаленечку, чуць-чуць ногі перастаўляла.

А Сцёпка, адрэзаўшы лусту хлеба, стаяў у хаце каля акна, пазіраў на вуліцу і паважна развержаў, жуючы хлеб. Аж бачыць — Аленка з кнігаю ідзе. Уся важнасць і ўся Сцёпкава цвёрдасць адразу прападаюць. А як пабачыў яшчэ такую шыкозную кнігу, дык і зусім уладу над сабою страціў.

Кніга і толькі кніга змусіла яго на вуліцу выскачыць, бо каб Аленка без кнігі ішла, то ён ані зварухнуўся-б.

Хоць Аленка захапілася чытаннем вельмі моцна, але гэтае захапленне не пашкодзіла ёй заўважыць Сцёпку. Сцёпка стаяў каля веснічак.

— Алена!

Сцёпка акликнуў яе досыць громка. Аленка-ж так захоплена чытаннем, што і вачэй ад кнігі не адводзіць, а сама думае, ці глянуць на Сцёпку, ці не?

Каб яшчэ раз пазваў яе, то яна глянула-б.

А Сцёпка развержае, як далей быць яму.

— Аленка! — пазваў ён мацней.

Аленка, нібы спалохаўшыся, раптам спыняецца і глядзіць на Сцёпку так, як-бы яго за сто вёрст ад сяла спаткала.

— Якая гэта ў цябе кніга? Дай паглядзець!

Сцёпка падыходзіць да Аленкі. Па голасу яго яна чуе глыбокую да яе павагу і пачцівую просьбу.

Не вытрымлівае сур'ёзнасці і Аленка. Яна прыветна ўсміхаецца.

— Ды гэта мне такую кнігу настаўнік адзін падарыў на экзаменах, — адказвае Аленка і паказвае Сцёпку кніжку.

— Вось дзіўна як тут напісана, — зазначае Сцёпка.

— Гэта украінская мова такая, і напісаў гэтую кніжку Тарас Шэўчэнка, — кажа Аленка.

— Гэта хахлацкая мова? — пытае Сцёпка.

— Не хахлацкая, а украінская. Казаць «хахлацкая» — гэта будзе знявага.

Дзівіцца Сцёпка. З кніжкі дзівіцца і з Аленчынай вучонасці, і ён не адважваецца паэкзаменаваць яе.

— Слаўная кніжка, — кажа Сцёпка. — А за што табе далі яе?

— А за тое, што я лепш за ўсіх экзамен здала, — горда кажа Аленка.

— Бачыш ты... якая шчаслівая!

— А я цябе бачыла, як ты каля Ганчаровых на кветкі глядзеў.

— А ты дзе была?

— У хаце.

— Чаму-ж я цябе не бачыў?

— А хіба ты хацеў мяне бачыць? — злавіла Аленка Сцёпку.

Сцёпка трохі замяўся.

— Ну, хацеў, — прызнаецца ён.

Аленка зусім здавольваецца.

— Хочаш, будзем чытаць разам? Пойдзем унь туды, пад магазін, будзем чытаць.

Сцёпка чухае галаву.

— Бачыш ты, мне сёння часу няма. Хіба як другім разам.

— Ну, як уважаеш,— адказвае Аленка і весела ідзе далей, ужо не пазіраючы ў кнігу. А Сцёпка спыніўся каля весніц і пазірае на Аленку, пакуль не знікне з вачэй. І не азірнулася нават.

## IV

Выходзіла так, што Аленка верх брала над Сцёпкам. Ён скончыў школу, і яна скончыла — ды яшчэ як! Кнігу нават падарылі ёй. І яна ведае, чаму не трэба казаць «хахлацкая» мова.

Яшчэ дачуўся Сцёпка, што Аленка думае далей у навуку ісці. І ёй гэта лягчэй, бо дома без яе куды спадручней абыйсціся, чым у іх доме без яго. Дый бацька яе багацейшы за яго бацьку. І няўжо-ж яму так і аставацца без навукі?

Многа думаў над гэтым Сцёпка, і надумаўся ён за навуку сур'ёзна ўзяцца. Але як? Часу няма і, самае галоўнае, — няма кніжак.

І ўспомніў ён свайго настаўніка. Выбраў вольную часіну і пайшоў у школу. Якраз і настаўніка дома застаў.

— Ну, здароў, Сцёпка! Як жывеш?

Распытаў яго настаўнік, пагаманіў з ім.

— А я прышоў да вас — ці не маглі-б мне кніг сякіх-такіх даць?

— А якіх-бы табе кніг?

— А каб падвучыцца можна было.

— Дык табе падручнікі трэба? Гатавацца куды хочаш?

— Хацеў-бы.

— Ну, а куды-б?

— Ды куды-б небудзь.

Настаўнік крыху падумаў.

— Ведаеш што, Сцёпа, папрабуй ты на рабфак паступіць. Падгатуйся і рызыкні. Кніг я табе дам; чаго не зразумееш, прыходзь да мяне — разам разбірацца будзем. Табе я ахвотна памагу. Пры тваіх здольнасцях ды старанні многа можна зрабіць.

Абнадзеіў настаўнік Сцёпку, ахвоты да навукі паддаў. І пайшоў Сцёпка дадому другім чалавекам.

Кожную вольную часіну за кніжкамі сядзеў і рабіў сваю справу незаметна, без шуму. Пісаць вучыўся сам, свае метады стварыў.

Праз месяц да настаўніка пайшоў.

— Ну, як твая навука?

— А папытайце мяне.

— Ну, давай.

Зрабіў настаўнік экзамен Сцяпану.

— Ды ты, брат, малайчына! — пасля некалькіх пытанняў сказаў настаўнік. — Ну, а з пісьмом як твая справа?

Замест адказу Сцяпан дастаў з-за пазухі цэлы жмут паперак.

Паглядзеў настаўнік, чытаць пачаў.

Сцёпка пільна сачыў за выразам твару настаўніка. А настаўніцкі твар усё больш і больш прасвятляўся.

— Малайчына, чэснае слова, маладзец. І граматна і разумна. Ды з цябе проста пісьменнік будзе!

Сцёпка рос, як на дражджах.

— Ну, а цяпер табе трэба за матэматыку ўзяцца. І перш за ўсё трэба з арыфметыкі пачаць. Садзіся, я табе сёе-тое пакажу.

Селі. Пачалі з дробаў. Растлумачыў яму настаўнік пахаджэнне дробаў, іх сутнасць, складанне, адніманне, множанне і дзяленне. А ўрэшце і кнігу яму даў, каб Сцёпка сам папрабаваў разабрацца ў ёй.

Сцёпка вясёлы ішоў дадому, каб у вольную часіну ўзяцца за дробы. Ці не зайсці яму да Аленкі? Хацелася пахваліцца ёй і даць некалькі пытанняў, якія даваў яму настаўнік. Не, пакуль што лепш нічога не казаць ёй.

V

Прайшоў год часу.

Ужо неяк пад восень сказала Аленка Сцёпку:

— А ведаеш, Сцёпка, на зіму я хачу ў сямігодку паступіць.

Сцёпка, здавалася, ніколечкі не здзівіўся, як-бы ён і ведаў, што Аленка на зіму куды-небудзь у школу падасца. Ён толькі спытаў:

— У якую сямігодку?

— У Загорскую.

— А чаму-ж ты выбіраеш Загорскую, — у Трасцянскую табе было-б бліжэй.

— А ў Загорскай, кажуць, лепей вучаць.

— А, хіба што так, — разважна сказаў Сцёпка. — А жыць-жа дзе ты там будзеш?

— Кватэры пашукаць прыдзецца.

— Ну, разумеецца... Так, значыцца.

Сцёпка трохі задумаўся, а Аленка сказала:

— А ведаеш, у які клас паступаць хачу?

— Ну?

— У пяты.

І тут Сцёпка не выказаў здзіўлення.

— А я, каб паступаў, то паступаў-бы ў шосты клас.

Аленка глянула на Сцёпку: праўду гаворыць ён, ці жартуе.

— Для шостага класа трэба многа чаго ведаць, — заўважыла Аленка.

— Ну, пэўна-ж падгатоўку мець трэба. Трэба, скажам, ведаць усю арыфметыку — простыя дробы, дзесятковыя, прапорцыі, трайное правіла, процанты, — ну, слю-

вам, усё, таксама трэба трохі і алгебру ведаць, ды і другія навукі.

Аленка шырока расплюшчыла свае ясныя вочкі і пазірала на Сцёпку, скуль ён гэтыя навукі ведае?

— А чаму ты, Сцёпка, не вучышся далей? — спытала яна: — ты-ж гэтакі здольны!

Сцёпка значна змякчыўся. Ён прыветна зірнуў на Аленку і сказаў многазначна:

— Можа я і буду вучыцца, гэта яшчэ невядома.

Хвіліначку памаўчаўшы, сказаў:

— Можа я і вучуся. Вось, калі хочаш, паслухай, як я пішу.

— Цікава паслухаць, — сказала зусім здзіўленая Аленка.

Сцёпка дастаў з кішэні некалькі памятых лісткоў, азірнуўся, каб не было лішніх сведак.

— Пойдзем на прыгуменне — там зацішней будзе.

Селі пад страхою адрынкі.

— Ну, слухай: «На начлезе».

Прачытаў Сцяпан аб адным здарэнні на начлезе, дзе апісвалася вельмі жыва і натуральна, як дзядзька Мікола шукаў сваю люльку і за гэтую люльку з Лявонам Садоўскім чуць-чуць не пабіўся.

Гэтая гісторыя з люлькаю была вядома ўсяму сялу і апісана была яна так смешна, што Аленка, слухаючы, шчыра смяялася. А гэта было найлепшай пахвалаю для маладога пісьменніка.

— І гэта ўсё ты сам напісаў, Сцёпачка? — у захапленні спыталася Аленка, калі Сцёпка скончыў свой расказ.

— Ну, што, добра напісана?

— Ой, як слаўна! Усёроўна як-бы ў кнізе! — адказала Аленка і пазірала на Сцёпку так, што Сцёпку ясна стала, як высока падняў ён свой аўтарытэт у яе вачах.

— Грэх табе будзе, Сцёпка, ну, проста такі грэх, калі ты вучыцца не будзеш, — казала Аленка.

Тут ужо Сцёпка не мог стрымацца і прызнаўся Аленцы, што ён вучыцца, што ў яго ёсць шырокія планы, толькі ён нічога аб іх не кажа, а Аленка аб іх не павінна нікому казаць, бо ён толькі ёй адной і сказаў аб гэтым.

О, ён працярэбіць сабе дарогу!

## VI

Канчалася лета. Заварушылася моладзь, бы тое птаства на вырai. Пачыналася для яе гарачая пара, час радасці і надзей для адных, час горкіх слёз — для другіх.

Цэлае лета жыла Аленка думкаю аб новай школе, аб далейшай сваёй навуцы. Перад ёю адчыняўся цэлы свет новага жыцця: вучнёўскія гурткі, работа ў іх, вечары, даклады. Яна ўся была поўна няясных імкненняў, яшчэ невядомага ёй адчування і радасці за парогам яе роднай ваколіцы.

У гэтых думках, у гэтых жаданнях і лета прайшло. Аставалася некалькі дзён да паступлення ў школу, у Загорскую сямігодку.

Усе гэтыя дні Аленка была ў нейкім зусім новым для яе настроі. Яе трохі палохалі экзамены — ці мала што можа там здарыцца. Але была і надзея, што ўсё скончыцца добра. Яе вабіла гэтая школа. Было трохі і смутна на сэрцы з прычыны разлукі з домам, з сям'ёю. І была нават такая мінута, калі Аленка шчыра прыгарнула чорную кошачку з белаю грудзінкаю і ціхенька ёй сказала на вуха:

— Катусянё ты маё мілае! Астанешся ты без мяне! Хто цябе песціць будзе?

Гатавалася Аленка ехаць у дарогу. Яна загадзя сабрала свае кнігі і рэчы і чакала дня ад'езду. Адвезці ў Загор'е меўся сам бацька яе, Андрэй Гарнашка.

І прышоў гэты час. Запрог бацька коніка. Забрала Аленка свае пакуначкі, кніжкі і ўсе патрэбныя рэчы. Заплакала маці, пусціла слязу і Аленка.

Выехалі на вуліцу. Украдкам зірнула ў бок Сцёпкавай хаты. А Сцёпка ў процілежным канцы стаяў. Відаць, яе паджыдаў. А Аленка і не чакала ўгледзець яго. Убачыла, прыветна-радасна ўсміхнулася яму. А Сцёпка замаркочаны быў.

Кіўнула яму Аленка на развітанне. Сказаць хацела нешта, ды, мусіць, бацькі засаромілася.

— Ну, шчаслівай дарогі і добрай часіны! — сказаў Сцёпка.

— Аставайся здаровы, Сцёпка!

І радасна стала Аленцы.

А Сцёпка доўга праводзіў яе вачыма. Пазіраў у той бок і тады, калі і цялежка даўно з вачэй знікла.

## VII

Перадрыжэла бедная Аленка на экзаменах.

Насілу-насілу паступіла. Ну, гэта не бяда: Аленка сваё возьме.

Яшчэ з большай стараннасцю ўзяўся Сцёпка за сваю навуку. Жартаваць тут няма чаго: Аленка цераз тры гады скончыць сямігодку, а там дарога ёй шырэйшая будзе. Яна ўжо, можна сказаць, прыстроена, а ён што? Становішча яго зусім няпэўнае. Разлічваць на бацькаву дапамогу не прыходзіцца: бацька і слухаць не хоча аб яго навуцы. Па-першае, якая цяпер навука? Вучні ў школах лынды б'юць, ходзяць ды лісце збіраюць. Начорта яно? Хлеб на іх пякуць ці што? Па-другое, распуста пайшла, дзеці настаўнікамі кіруюць, а вучыцца не хочуць. Лусты хлеба не адрэжа, а свет перавярнуць збіраецца, келб няшчасны! Хіба так даўней вучыліся? Не вывучыш, бывала, лекцыі, дык настаўнік так загрэе табе, што аж іскры пасыплюцца. На калені паставіць ды яшчэ палена ў рукі дасць — стой і палена над галавой трымай. Вот гэта была навука: баяліся і вучыліся. А цяпер чаму вучаць? Бацькоў не слухаць, старых звычаяў не шанаваць... Не, брат, за такую навуку дзякую табе! Вучыся, як хочаш, а бацька памагаць табе не будзе, — вучыць, як на бацькавым карку ездзіць.

Але Сцёпка сваё вядзе: чытае, піша, думае, разважае. Ні адзін вечар вольны не прападаў дарма. І яшчэ трэба адмеціць, што быў такі выпадак, калі Сцёпку прыйшлося на справе паказаць, які ён ужо быў вучоны чалавек: сакратаром давялося раз быць яму. І што-ж вы думаеце? Такі пратакол закаціў, што нейкі гарадскі адказны работнік, прачытаўшы гэты пратакол, доўга ўглядаўся ў Сцёпку і сказаў:

— Ну і маладзец! На рабфак табе паступіць трэба.

Гэтыя словы казаліся пры ўсіх людзях.

Людзі чулі, як іх хлопца, хлопца іх сяла, пахваліў

такі вучоны чалавек, і гэта хвала лажылася трохі і на іх саміх. І бацька Сцяпанаў усцешан быў, як-бы яго маслам па сэрцы памазалі, і ён моцна зацікавіўся рабфакам, толькі ніяк не мог зразумець гэтага слова, а вечарам запытаў у Сцёпкі:

— Скажы ты мне, што гэта такое «рабак»?

Тут зноў прадставіўся Сцёпку выпадак паказаць сваю вучонасць, і ён зняў з бацькі вялікі цяжар, хоць, праўда, можа і не ў поўнай меры.

— Не рабак, — тата пераблытаў, — рабфак, гэта значыць — рабочы факультэт, дзе вучацца дзеці рабочых і сялян.

— Ну, а факультэт, гэта што такое?

Тут і сам Сцёпка з нагі збіўся, а бацька заўважыў:

— Вось пайшлі словы — і мазгі на іх скруціш! — І тым не меней ён застаўся задаволены, што мае такога сына. А Сцёпка стараўся скарыстаць гэты выпадак для поўнай агітацыі.

— Ну, вядома, седзячы тут, многа чаго ведаць не будзеш. А без гэтага як ты цяпер жыць будзеш? Мы цяпер самі павінны гаспадарыць над сваім жыццём. Мусібыць, і тата не згадзіўся-б паклікаць пана, каб ён нам парадкі заводзіў.

— Няхай іх, сынку, сляпых водзяць, каб яны нам зноў парадкі заводзілі!

— А каб умець жыць па-людску, дык трэба вучыцца і не толькі ведаць, што такое рабфак, а і павучыцца на рабфаку.

«Праўду кажа», — думае Сцёпкаў бацька.

## VIII

Загорская сямігодка была распушчана на два тыдні зімовых вакацый. Прыехала Аленка дадому. Яна прабыла ў школе месяцаў пяць. Пасля такой доўгай разлукі з домам Аленка адчувала сябе шчаслівай.

За гэты час побыту ў школе Аленка значна змянілася. Яна заметна падрасла і яшчэ пахарашэла, хоць і без таго была прыгожанькая дзяўчынка. І калі вечарам, у першы дзень прыезду, да яе пазбягаліся таварышкі, бо





цікава-ж было паглядзець на Аленку, то яе русавая галоўка з мілым тварыкам і яснымі ўдумнымі вочкамі вельмі выгодна для Аленкі выдзялялася з цэлай чарады галовак яе таварышак. Тварык яе набываў той адбітак адухаўлення, які звычайна накладае навука, работа мыслі і разважання. У школе Аленка не зводзіла часу дарма. Старанна слухала лекцыі, чытала кнігі, якія толькі можна было дастаць, а кожнае няяснае для яе пытанне старалася зразумець, а калі ёй гэта было трудна, яна зварачалася да настаўніка, хоць на першых часах крыху саромілася. Гэтая стараннасць, гэтае шчырае адданне навуцы, а таксама і здольнасць да навукі вывелі яе і тут на першае месца ў класе. Яна кіравала сваім гуртком па вывучэнню прыроды: яна-ж, не хочучы адставаць ад Сцёпкі па часці прыгожага пісьменства, прымала ўдзел у насценгазеце і ў школьных журналах, але яна аддавала перавагу не прозе, а вершам, бо верш ёй больш падабаўся, і наогул верш яна лічыла вышэйшаю формаю літаратуры.

Можна смела сказаць, што на гэтую дарогу накіраваў яе дзядзька Тарас Шэўчэнка, а свае беларускія паэты, з творамі каторых Аленка пазнаёмілася ў сямігодцы, яшчэ мацней паставілі яе на грунт вершавальнай творчасці.

За той-жа час побыту ў школе Аленка змясціла два свае вершыкі ў газеце і адзін вершык у школьным журнале. Але ёсць у яе адзін верш. Яна хавае яго,. як нейкі сакрамант, і нікому яго не паказвае, не гледзячы на ўвесь аўтарскі сверб падзяліцца з чытачом сваёю творчасцю. Гэты верш заўсёды неразлучан з маладою паэткаю. Ён акуратненька запісан на паперачцы і аздоблен рысуначкамі.

Яго Аленка ведае напамяць. На свеце ёсць толькі адзін чалавек, для каго напісан гэты верш. Але ці прачытаць яму? Вось пытанне! Аленка перажывала мукі гэтай няпэўнасці.

Мілыя паэты! Дазвольце выказаць вам спачуванне ад імя чытачоў і пасведчыць перад усім светам, што вы — вялікія пакутнікі на зямлі.

Хто-ж такі ён, для каго напісан гэты верш?

Адгадаць не так трудна: гэты чалавек — Сцёпка.

І цікава ведаць Аленцы: ці зойдзе ён да іх ці не. Яна напэўна ўсцешылася-б, калі-б ведала яго думкі наконт гэтага. У Сцёпкі было многа прычын пабачыцца з Аленкаю: трэба было дазнацца, як многа навучылася Аленка за гэты час, цікава было пачуць, як там наогул стаіць справа з навукаю, і, калі ўжо на тое пайшло, яму проста хочацца на Аленку паглядзець, бо толькі ён ды Аленка — вучоныя людзі на іх сяле. Настаўніка лічыць тут няма чаго.

У той час, калі маці пазірала на сваю вучоную дачку і цешылася з яе, бо яна так выдзялялася з гэтай шумлівай чарады дзяўчатак, Сцёпка думаў, як тут латвей і натуральней пабачыцца з Аленкаю. Лепш-бы, вядома, было спаткацца адзін-на-адзін. Але можна і проста зайсці да іх. Толькі-б гэтых стракатух-піскух там не было.

## IX

Аказвалася не так проста зайсці да Андрэевых, як думаў учора Сцёпка.

Першая яго памылка была ў тым, што з таго часу, як Аленка паехала ў Загор'е, ён ні разу не зайшоў да іх. Трэба было-б па-суседску як-небудзь наведацца. Другая, не меней важная памылка — Сцёпка ні разу не сказаў «дзень добры» цётцы Ганне, Аленчынай матцы, хоць на вуліцы яе і бачыў не раз. Але-ж казаць ёй «дзень добры» таксама магло-б навесці на пэўныя думкі. І цяпер нейк проста нялоўка было заходзіць, бо адразу кінецца ўсім у вочы, што ён пайшоў да Андрэевых. Як гэта раней не прыняў ён пад увагу?

Сцёпка трохі падумаў.

Ні да чаго пэўнага не дадумаўшыся, вышаў на вуліцу і мерным крокам, як чалавек сталы, пайшоў у бок Андрэевай хаты.

Было холадна.

Зайздросны мароз узяў ды пазакрываў лёдам і хрыбусткім снегам шыбы на вокнах, асабліва на вокнах тых хат, дзе жывуць дзяўчаты. Але дзяўчаты ўмеюць перахітрыць старога зайздросніка, і гарачым дыханнем прагрэюць халодныя заслоны, а каго трэба ім пабачыць, то пабачаць.

Як толькі Сцёпка параўняўся з адною хатай у сяле і зірнуў на яе мёрзлыя шыбы, ён адразу заўважыў гэта прагрэтае акеначка ў аконцы. Мала гэтага: ён пачуў стук у акенца. Сцёпка спыніўся.

Момант — і ў веснічках паказалася Аленка... Ну, ведаеце, і сэрца застукала мацней у грудзях Сцёпкі.

— Можа ты да нас? — спытала Аленка.

Нашто яна так запыталася?

Сцёпка не ведае, што ёй сказаць на гэта.

Але як не сказаць ёй праўды, калі яна так многа памагла яму развязаць незвычайна трудную задачу.

Усміхнуўся Сцёпка і сказаў:

— Ну але, да вас.

А можа яно лепш было-б сказаць: «Да цябе?»

Бадай, што лепш так, як сказаў.

— Ну, здароў-жа, Сцёпка!

Аленка падала яму руку. Сцёпка, прызнацца, не ўжываў гэтага звычаю вітання, знаходзячы яго залішне далікатным. Ён няспрытна падаў руку, а яна так слаўна, папрыяцельску паціснула і патрэсла яе.

Увайшлі ў хату.

У хаце была адна толькі цётка Ганна, і Сцёпка, як толькі мог, сказаў ёй вельмі прыветна «дзень добры».

— Ну, сядай у нас, Сцёпка, — сказала цётка Ганна, а Аленка латвей паставіла яму заслончык каля стала і сама села з краю стала насупроць.

— Ты пакажы, Аленка, свае рысункі Сцёпку.

— Ат, якія там рысункі: Сцёпка смяяцца будзе, — як-бы трошкі засаромілася Аленка.

— Пакажы, пакажы, — папрасіў і Сцёпка.

Аленка дастала сшытак са сваімі рысункамі. Сцёпка разглядаў іх уважна, і цётка Ганна падышла паглядзець на іх яшчэ раз, бо яны ёй вельмі падабаліся, а самае важнае тут гэта тое, што іх нарысавала яе Аленка.

— Слаўныя рысункі! — пахваліў Сцёпка. — Гэта ты сама рысавала?

— Сама.

Сцёпка здзівіўся.

— Я такіх напэўна не нарысаваў-бы.

— Ды што ты кажаш? Яшчэ лепшыя нарысаваў-бы, каб павучыўся.

— Хіба што, каб павучыўся.

Праўду сказаць, Сцёпка не лічыў за навуку гэтае рысаванне і не бачыў у ім нічога сур'ёзнага.

Вось чаму ён спытаў:

— А што ў вас праходзіцца з навукі?

— А мы ўсё комплексы распрацоўваем, — важна сказала Аленка.

Беднаму Сцёпку аж горача стала ад гэтых комплексаў: што гэта яшчэ за навука такая? Ніколі аб іх і не чуў і ў кнігах нідзе не вычытаў іх. Пярун-бы іх пабіў, і нялоўка яму перад Аленкаю: яна комплексы праходзіць, а ён аб гэтых комплексах ні бэ, ні мэ. І што-ж яны, праклятыя, азначаюць? Ці тут некалькі скарочаных і злучаных слоў, накшталт «рабфака»?

У Сцёпкавых мазгах мільгацяць розныя разгадкі слова, але не разумее комплексаў. Ён не паказвае віду, што не разумее комплексаў. Можа як з далейшай гутаркі выясніцца. Сцёпка пускаецца на хітрасць.

— А што-ж вы з гэтых... як... компексаў праходзіце?

Аленка зірнула на Сцёпку.

— Як ты смешна сказаў: «компексы», — і, як дурная, пачала хіхікаць.

Сцёпка пачырванеў. Злосць яго забрала.

— А халера іх ведае, што яны і як яны там! Не чуў такога паганага слова!

Сцёпка змушан быў прызнаць сваё паражэнне. Але ён у далейшым адыграецца, бо ў сэрцы яго накіпела, і ён спытаў:

— А якая-ж гэта навука?

Прыбавіць «комплексы» ён не адважыўся.

— А гэта, бачыш, так. Бярэцца які-небудзь прадмет або якая-небудзь з'ява, скажам «калодзеж», і разглядаецца з усіх бакоў.

— Ну, а як вы калодзеж разглядаеце з усіх бакоў? Выкопваеце яго, як той цыган, з зямлі, ці што?

Сцёпка стаў на грунт крытыкі, каб хоць гэтым насаліць «комплексам».

— Не, мы так робім: разбіраем калодзеж...

— Як, зруб разбіраеце?

— Ды ты дай-жа сказаць! Мы разглядаем, нашто патрэбен людзям калодзеж...

— Дык гэта кожнаму дурню вядома, — заўважыў Сцёпка.

Тут і Аленку трохі забрала.

— А як пападае вада ў зямлю?

— Ды вельмі проста. Вада знаходзіцца ў стане вечнага руху. Ад сонца яна паруе, з пары робяцца хмары, з хмар падае дождж. Дажджавая вада застаецца на паверхні зямлі, а часткаю прасачваецца ў зямлю. У зямлі ёсць такія грунты, дзе вада спыняецца, не ідзе далей... Але-ж гэта ўсё я ведаю з геаграфіі. А гэтыя вашы, як іх... компасы чаму вучаць?

— А мы ў комплексах усё разам разглядаем: і геаграфію, і гісторыю, і ўсё.

Умомант перад Сцёпкам мільганула думка, і ён усміхнуўся.

— Гэта, значыць, так: паставілі табе на стол капусту, яечню, кіслае малако, локшыну. Дык вось пазліваць іх у адну пасудзіну — і еш. Глупства гэтыя вашы... комплексы.

Бачыць Аленка, што са Сцёпкам гаварыць цяжка, што ён проста ўгневан гэтымі комплексамі, бо не ведае іх. Ну, што-ж з ім спрачацца? Яна гатова не гаварыць аб іх.

Цётка Ганна, тупаючы каля печы, хоць і мала разумела ў гэтай іх гутарцы, але бачыла, што Сцёпка, мусібыць, проста ў навуцы адстаў. Але ён так загаварыў пра гэты вечны рух вады, што як-бы пачаў верх браць над яе Аленкаю. А як загаманіў яшчэ пра гэтыя стравы, то і ёй стала ясна, што калі-б іх змяшаць, як кажа Сцёпка, то вышла-б нямаведама што. Урэшце, гэта павяло яе на разважанне, што ў жываце гэтыя стравы ўсёроўна перамяшаюцца-ж, а як перамяшаеш іх у адной пасудзіне, то і есці не стаў-бы. Чаму гэта так?

— Цяпер яны мне ясны, — сказаў Сцёпка.

— Не, ты дарма на іх нападаеш, а вот каб ты прарабіў адзін-другі комплекс, то ты пабачыў-бы, што яны не такія ўжо кепскія.

— Глупства, — махнуў рукою Сцёпка.

Цётка Ганна вышла з хаты.

— Мы свае газеты пішам, — сказала Аленка.

— Газеты?

— І журналы.

— А што вы там пішаце?

— Усё: апавяданні, вершы, заметкі розныя, часам крытыку на каго-небудзь напішам.

— А хто іх чытае?

— Усе чытаюць. Вывесім газету на сцяну — і чытаюць. Я не раз думала, вот каб ты быў там, вось напісаў-бы! — усе чыталі-б і смяяліся.

Сцёпку гэта заметна кранула.

Аленка трошачкі замялася.

— І я, Сцёпка, пішу ў газетах і журналах.

— Ну, ты каб адстала! — заўважыў Сцёпка.

Як разумець яго словы?

Трошачкі памаўчалі.

— А што ты пісала?

Аленка на момант замялася.

— Вершы.

Тут Сцёпка і вочы вырачыў. Ён пачуў новую канкурэнцыю.

— Можа ты пачытаеш?

Для Аленкі была вялікая спакуса прачытаць той верш, але адвагі нехватала.

— У мяне іх тут няма, — салгала яна.

— Шкада! А можа ты напамяць ведаеш?

— Ну, дай падумаю.

Аленка стала думаць.

— Ну, вось.

Яна апусціла галоўку і стала чытаць па памяці:

Як я цябе люблю,
Хай скажа гэта сонца,
Што раніцай на небе узышло
І, цалуючы прыроду ўсю лучамі,
Душу маю абаграло.

Як я цябе люблю,
Хай скажа гэты вецер,
Што ласкава калыша васількі,
Хай скажуць птушкі, што пяюць
Мне песні роднай стараны.

Як я цябе люблю,
Хай скажа гэта ніва,
Што узрасла на роднае зямлі
І цяжкі каласы схіляе,
Ціхенька шэпча уначы.

Як я цябе люблю,
Хай скажа рэчка гэта,
Што хвалямі удаль бяжыць...
Хай скажа песняй салавей,
Хто так табою даражыць.

І паэтка, і яе слухач у часе дэкламавання адчувалі сябе «неяк нялоўка». Дэкламуючы, Аленка думала, што Сцёпка запытае, каго яна мае на ўвазе ў гэтым вершы. А Сцёпка, слухаючы, адчуваў зайздрасць да самой паэткі, бо яна, на яго погляд, напісала вельмі добры верш, і яшчэ большую зайздрасць адчуваў да таго, каму верш прызначаўся.

Аленка нясмела зірнула на Сцёпку. Сцёпка сядзеў, угнуўшы галаву.

— Калі гэта ты напісала, то вельмі добра. Вельмі добра, — сказаў Сцёпка.

X

Эх, і слаўныя гэтыя летнія ночы!

Здаецца, дзеля таго толькі і сходзяць яны на зямлю, каб паказаць, што ў цёмнай цішыні ёсць і паэзія і хараство. А можа яны проста толькі баламуткі: прыдуць, разальюць хмеліва чар сваіх, закруцяць, замуцяць цябе, закружаць галаву, нямаведама чаго наабяцаюць, тысячы ўсякіх спакус прынясуць табе і чорт ведае на якія ўчынкі падбухтораць... Эх, ночы, хмельныя летнія ночы!

Сцёпка вышаў на вуліцу. Цёмныя, нізкія хаты пад саламянымі стрэхамі яшчэ ніжэй туліліся да зямлі. Дзесь, на другім канцы вуліцы, малады дзявочы голас, як тонкі срэбраны званочак, прарэзваў цёплую цішыню летняй ночы:

Я пастаўлю самавар,
Залатыя трубы,
А ў заборцаўскіх хлапцоў
Навыварат губы.

Песня раптам абарвалася. Выбух дружнага маладога смеху. Дзявочы піск, крык. Відаць, хлопцы зрабілі налёт, бо іх грубыя галасы пачуліся з таго канца вуліцы, пераплятаючыся з звонкімі галасамі дзяўчат, і зліліся ў віхор разудалага шуму жыцця.

Сцёпка ў няясным парыванні яшчэ неразгорнутых маладых крылляў адчуваў патрэбу выявіць сябе хоць чым-небудзь у гэтую ноч. Яго цягнуў вір сельскага шуму. Было нейк і смутна на сэрцы. Хацелася кудысь пайсці, нешта зрабіць, адным словам, паказаць, што на свеце ёсць Сцёпка, каб гэты свет звярнуў на яго ўвагу. Але ў тым віры яму не месца: яго, падлетка, спаткалі-б там зняважліва. Ды ці гэта яго дарога? Яму засталося колькі дзён да паступлення на рабфак. У яго яшчэ не ўсе дакументы сабраны. Яму трэба заручка комсамольскай ячэйкі. І невядома, што яшчэ ячэйка скажа яму. Справа ў тым, што сакратар ячэйкі, Макар Лагун, ужо не раз казаў Сцёпку, чаму ён не ў ячэйцы, чаму не ходзіць на яе сходкі і чаму не выявіўся нічым, як бязбожнік. Сцёпка нічога не мае супроць комсамольства, ён нават і запісаўся-б у комсамол, але бацька Сцёпкаў сказаў раз:

— Калі ты, гад, пойдзеш супроць бога, то я з цябе скуру злуплю! А запішашся ў комсамол, дык дадому не яўляйся!

Не хацелася Сцёпку з бацькам сварыцца.

Перш за ўсё, гэта сварка сама па сабе непрыемна, затым, пасварыся з бацькам — не спадзявайся бацькавай дапамогі. А Сцёпку так хацелася вучыцца!

У часе глыбокага Сцёпкавага разважання па вуліцы прасунуліся дзве чорныя постаці. Сцёпка пазнаў іх адразу: гэта былі — Макар Лагун, сакратар ячэйкі, і Мікіта Дудзік, таксама комсамолец.

— Гэй! — аклікнуў іх Сцёпка.

Хлопцы спыніліся.

— Куды ідзяцё?

— На наш сход, — адказаў Макар.

— А мне можна з вамі?

Хлопцы як-бы трохі замяліся. У іх будзе нарада, як павесці змаганне «з рэлігійным дурманам». У іх Заборцах якраз заўтра фэст. На «іспаса» кожны год наязджае сюды з суседніх сёл і хутароў многа народу. Дык ці добра дапускаць на такое паважнае і экстранае сабранне ячэйкі пастаронніх?

А ўрэшце, чаму-ж бы Сцёпку і не пабыць там? Няхай уцягваецца, а карысць з яго будзе. Сцёпка самы вучоны паміж іх хлопец.

— Думаю, што можна, — сказаў Макар.
— Ды можна, — даў згоду і Мікіта.
І трое хлопцаў пасунулі па цёмнай вуліцы Заборцаў.

## XI

Сходка адбывалася ў пакоі старшыні ячэйкі, Кандрата Гугі. Кандрат Гуга быў больш-менш незалежным гаспадаром у сваім доме. Маці яго, бедная ўдава, не ўмешвалася ў справы свайго сына. У іх было трохі зямлі, але самі на зямлі не працавалі — ніяк не маглі на каня ўзбіцца, і зямлю прыходзілася аддаваць на палавіну.

На сходцы было пастаўлена пытанне, якім спосабам выявіць заўтра антырэлігійную прапаганду. Гутарак і спрэчак гэтае пытанне выклікала многа. Многа было і розных прапаноў.

Сцёпка маўчаў і слухаў.

— Дайце мне сказаць, — папрасіў ён слова.

Шумлівы комсамольскі сход адразу сціх. Усе хлопцы павярнулі галовы на Сцёпку.

— Самае лепшае, што можна зрабіць на заўтрашні дзень, — гэта пайсці да «святога калодзежа», зняць крыж і знесці адтуль «фігурку». Прыдуць папы маліцца, а там нічога не будзе.

Самому Сцёпку паказалася смешным папоўскае здзіўленне, калі пабачаць яны, што там нічога няма.

Комсамольцы — а іх было чалавек восем — дружна зарагаталі і запляскалі Сцёпку.

Сцёпкава прапанова была прынята аднагалосна, і ўсе хлопцы, а з імі і Сцёпка, пайшлі да «святога калодзежа».

Ціха ішлі хлопцы па пустой вуліцы Заборцаў. Дзявочыя песні даўно змоўклі, і вёска спала моцным сялянскім сном.

Вышлі ў поле: «святы калодзеж» быў ад сяла вярсты за паўтары. Стаяў ён у надзвычайна прыгожым месцы пад невысокай горкаю. Гэтая горка досыць крута спускалася ў глыбокую мурожную даліну, на другі бок каторай стаялі дубы-волаты. З горкі выбівалася чыстая, бы крышталь, крынічка. Прабегшы некалькі дзесяткаў сажняў краем даліны, крынічка зноў хавалася ў зямлю.

І толькі буйная сакавітая трава зялёным шырокім кустом разрасталася на месцы знікання крынічкі.

Трошкі вышэй, у тым пункце, дзе крынічка, дабегшы да даліны, рабіла паваротак управа, перасякаліся дзве дарогі: на Загор'е і на Трасцянку. На гэтым перасеку дарог і быў «святы калодзеж».

За апошнія гады калодзеж трохі заняпаў. Драўляны зруб яго пачарнеў і падгніў знізу. Высокі крыж з распяццем хіліўся на бок.

Пачарнеў і пагнуўся дашок на чатырох слупках над крыжам. Сівая старажытнасць захавала яшчэ свой след каля «святога калодзежа», і дух глыбокай старасвецкасці веяў над гэтаю збуцвелаю «фігуркаю».

Маладыя бязбожнікі спыніліся каля «фігуркі». Маўклівая чорная ноч агортвала мрокам зямлю. Было ціха. Дзесь у лузе над рэчкаю нейкая бяссонная ці патрывожаная пташка закрычала два разы: «кі-і-і-вік, кі-і-і-вік» і змоўкла.

— Ну, хлопцы, — сказаў Мікіта Дудзік: — давайце рабіць сухоты папу.

Мікіта першы памацаў зруб «святога калодзежа».

— Паддаецца, браткі! — радасна прамовіў ён.

— А ну, возьмемся талакой, — скамандаваў Макар.

Рванулі гуртам. Здрыгануўся падгнілы зруб, за другім разам адарваўся зусім і, пад смех бязбожнікаў, перакуліўся нізам дагары.

— Занесці яго куды-небудзь, — сказаў Гуга.

— Занясем у кусты. Ну, бярыцеся!

Раман Аўсейчык, Цішка Гулак, Сцёпка і Мікіта паднялі зруб і панеслі. Адышліся крокаў дзесяць, песню заспявалі.

А мой-жа ж ты, Мікалаю,
Дзе-ж я цябе пахаваю?
Пахаваю пад вярбою
Ды паплачу над табою.

Крыж таксама завалаклі на той бок даліны і кінулі ў тоўстых дубах.

Праз поўгадзіны паліўся дождж.

Хлопцы кончылі сваю работу і пайшлі дамоў. Каля «святога калодзежа» было цяпер пустое месца.

## XII

Расчасаўшы бараду і паднядзеліўшыся, як і належыць у такі ўрачысты дзень, заборцаўскі поп накіраваўся на цвінтар, каб пачаць раннюю службу. Цяжка жылося цяпер а.Ціту. Народ адкаснуўся ад цэрквы, даходу было мала і разгону аніякага. Сядзі цішком, як-бы цябе і на свеце няма. Можа сёння каля «святога калодзежа» ці не палапіцца трохі. Лета было добрае, пагода спрыяла ўраджаю і рабоце. Народ падхадзіўся. Фрукты розныя паспелі.

А ўночы і дождж прайшоў добры. Неба яснае, пагода вельмі добрая, усё гэта хіліла думкі а. Ціта ў найлепшы бок. І калі ён уваходзіў на цвінтар, то паціхеньку паспеўваў 103-ці псалм:

«Благослови, душе моя, го-о-о-о-о-о-о-спода».

Падняўшы галаву, а. Ціт раптам сарваў свае святыя спевы: на цвінтары каля царкоўных усходаў стаяў «папячыцель» Язэп Дзыгун. Відаць, ён чакаў тут бацюшку, каб сказаць яму нешта вельмі важнае. Від у «папячыцеля» быў заклапочаны.

— А ці ведаеш, бацюшка, што?

Ад тону гэтага пытання павеяла страхам. А. Ціт стаяў, як слуп.

— А што такое, Язэп?

— Разбурылі, бацюшка, «святы калодзеж» і «фігурку».

А. Ціт ад нечаканасці аж назад адкінуўся.

— Не можа быць! — здушаным голасам выкрыкнуў ён, а на твары яго адбіўся жах.

— Усё паламалі і пазносілі, каб іх хвароба паламала і саміх на могілкі пазносіла! Вось паглядзіце, бацюшка, што зрабілі паскуднікі!

Язэп Дзыгун дастаў з-за пазухі кусок пасівелага дрэва ад рукі «фігуркі».

А. Ціт узяў гэты кусочак дрэва, паглядзеў на яго і, трасучы галавою, прамовіў:

— Госпадзі многаміласцівы! Дакуль тваё доўгацярпенне!.. Сволачы, сволачы! Сукіны, сукіны сыны!.. Ляснула працэсія!..

Пятрусь Кравец, званар, сядзеў на званіцы, дзержачы

ў руках вяроўку, і зрэдку біў у звон ды прыслухоўваўся да гутаркі «папячыцеля» з а. Цітам. Гэтае здарэнне са «святым калодзежам» яму было ўжо вядома.

А. Ціт падняў вочы на званіцу і сярдзіта падаў рукою знак Петрусю-званару.

— Кінь званіць! — у абурэнні крыкнуў яму а. Ціт і ціха дадаў: — Ні чорта лысага не вызваніш там.

Пятрусь выпусціў з рук вяроўку і злез са званіцы.

— Служыць, бацюшка, трэба, — нясмела сказаў «папячыцель».

А. Ціт махнуў рукою.

— І праўдзіва прыказка: згадзілі абедню, паскудзілі, шэльмы! — не мог супакоіцца а. Ціт.

Да іх далучылася некалькі мужчын. Кучка жанок стаяла асобна. Старэнькія бабкі гаротка ківалі галовамі і цяжка ўздыхалі.

— Божачкі, божачкі, якая распуста пайшла!

І каля цэрквы, і на сяле вяліся гутаркі аб злачынстве і, разам з гэтым, рабілася саматужнае следства. Усе вінаватыя былі выяўлены. Нават беднага Сцёпку падглядзела чыёсць зоркае вока.

— Расколы, расколы! — трос галавою дзед Марцін. — Не хочаш ты богу маліцца, маліся чорту лысаму, але навошта гэты здзек над святыняю?

— Параспускаліся, гадаўё, як старэцкія пугі. Палавіць-бы, разбойнікаў, ды галовы паадкручваць к чортавай матары—тады асцерагаліся-б,—сказаў нізенькі Пятрусь-званар.

Калі выявіўся дух апазіцыі супроць бязбожнікаў, а. Ціт адмяніў свой загад не званіць. Пятрусь Кравец зноў палез на званіцу. А. Ціт пайшоў служыць абедню. У часе службы яму сказалі, што крыж паставілі новы, і такім чынам працэсія павінна адбыцца.

Скончыўшы службу і падлічыўшы даходы, а. Ціт ззяў, як тое сонца. З хрысціянскаю пакорлівасцю ён гатоў быў цяпер памаліцца за бязбожнікаў. І тым не меней, спаткаўшы Міхайлу Баруту, Сцёпкавага бацьку, ён сказаў:

— Добрага сынка маеш, Міхале!

## XIII

Вярнуўся Сцёпка з паходу на досвіце, ціхенька адчыніў адрынку, дзе спалі двое меншых яго братоў, Алесь і Юрка, і, не раздзяючыся, мокры да ніткі, залез пад коўдру. Лежачы, разважаў аб падзеях гэтай ночы і аб выніках гэтых падзей. Сцёпка адчуваў, што ён пераступіў нейкі незвычайна важны рубеж. Тыя мыслі, што выні̇калі цяпер, яшчэ некалькі гадзін таму назад былі яму зусім незнаёмы, і сам ён у той час быў другім чалавекам. А ўвогуле-ж было такі непрыемна. Праўда, Сцёпка стараўся ўпэўніць сябе, што нічога благога ў яго ўчынку не было. Ніякага бога няма, так цяпер усюды па школах кажуць, аб гэтым лекцыі чытаюць, аб гэтым на мітынгах крычаць. Бог, рай, той свет—усё гэта выдумкі, каб трымаць народ у страху і паслушэнстве.

Сцёпка сагрэўся пад коўдраю і заснуў моцным сном. Ён спаў тады, калі на сяле пранеслася незвычайная навіна. Яго бацька яшчэ раненька паехаў да валіспалкома па сваёй гаспадарскай справе.

Сцёпку ўжо разы два будзілі яго браты. І толькі калі маці дачулася, што і яе Сцёпка мае нейкае дачыненне да «святога калодзежа», яна сама пайшла ў адрыну і за справу абуджэння ўзялася належным чынам.

— Дзе ты быў уначы, гад ты?

Сон Сцёпкаў прайшоў умомант. Па тону пытанняў ён пачуў, што на яго насоўваецца нейкая навала. Пачухваючы чупрыну, Сцёпка прыкінуўся, што нічога не цяміць, а сам думае, як адказаць мацеры, якую наогул выбраць лінію паводзін, і дзівіцца, што так скора раскрылася іх бязбожніцкая дзейнасць.

— Дзе ты быў і што рабіў уначы, пытаюся?

— Нідзе не быў!—груба адказвае Сцёпка, сеўшы на пасцелі.

— Праўду кажы, абібок!—насядае маці.

— Дзе быў? — гуляў з хлопцамі.

— І не раздзяваўся, валяч нягодны!.. Кажы, быў каля «святога калодзежа»?

— Ці раз я там быў, — спакойна адказвае Сцёпка.

— Ды ты мне зубы не загаварвай, бамбіза!..

Маці траціць усякае цярпенне.

— Прызнавайся, гад, што рабіў каля «святога калодзежа»?

Узяўшы пэўны тон, Сцёпка вядзе яго і далей. І цяпер ён ужо так кажа:

— Што рабіў? — комплексы і сухоты папу.

Маці аж чырванее ад злосці: выяўна насміхаецца з мацеры. Яна ў абурэнні кідаецца на сына і таўчэ яго ў бок.

Сцёпка таксама ўваходзіць у злосць, але стрымлівае сябе і, каб больш дапячы мацеры, смяецца і кажа:

— Вось якраз тут свярбела, а ты мяне пачухала.

— Гэрад ты, бязбожнік, кат! І ты катаваў Езуса, ручачку зламаў яму, а цяпер мяне ты катуеш!.. Не будзе-ж табе дабра!..—жорсткія словы кідала яму маці.

Сцёпку непрыемна было слухаць гэта, але тон вытрымлівае да канца, і, калі маці пагразіла яму страшнымі карамі на тым свеце і на гэтым і, плачучы, выходзіла з адрынкі, ён кажа ёй:

— Заплакала, падумаеш — прадналог за цябе аддаў Езус твой?

Сцёпка астаўся ў адрынцы адзін. Да слёз матку давёў. Э, ды ўсё ўжо роўна!

Ён падняўся, вышаў з адрынкі, пастаяў трохі на прыгуменні, а потым пералез цераз засаўкі і пасунуўся ў поле.

## XIV

Адно для Сцёпкі было ясна: цяпер ён за парогам бацькавай хаты. Таго, што зрабілася, назад не адробіш. Але трэба было нешта прыдумаць, знайсці выхад з гэтага стану.

Ён адышоўся вярсты дзве ад сяла, сеў на камень каля хвойніку і стаў думаць. Зайсці яму дадому, ці лепей на вочы бацьку не паказвацца, бо ўсёроўна бацька яго прагоніць? І яшчэ думаў Сцёпка аб горадзе. Горад далёка — каля ста, а можа і сто вёрст з хвосцікам. На машыне не паедзеш: дзе грошы ўзяць? Астаецца

адно: пяхотам па шпалах. Хоць можа і далей, але па чыгунцы не зблудзіш. На дарогу трэба прыкінуць тры дні часу. Астаецца два вольныя дні. Дакументы, праўда, ёсць. Вось толькі ад ячэйкі ўзяць пасведчанне. Яго цяпер, напэўна, дадуць з ахвотаю. Але ці браць яго? Пасля ўсяго таго, што здарылася, гэтае пасведчанне не хіліць яго. Яно набывае характар нейкага дакору. І ўспомніў ён матку сваю. За што пакрыўдзіў яе?.. А ў горадзе дзе ён прыткнецца? Горада ён ніколі не бачыў. У яго ўяўленні горад прадстаўляецца нейкім бясформенным, дзе лёгка прапасці.

Сцёпка падняў вочы ў бок сяла і стаў углядацца: па іржышчы борзда да яго рухаліся дзве фігуркі вясковых хлопцаў. Гэта былі яго меншыя браты, Алесь і Юрка. Алесь бег без шапкі, шапка была ў руцэ. Відаць, Алесь штосьці нёс у шапцы. Калі браты дабеглі да Сцёпкі, то яны моцна затаміліся ад шпаркага бегу, але твары іх былі вясёлыя. Яны былі рады, што знайшлі Сцёпку. У шапцы аказалася дзве грэцкія пухаўныя аладкі, зложаныя папалам, а між іх была досыць дзябёлая скварка.

Сцёпка павесялеў, убачыўшы братоў. Можа з той прычыны, што ён быў у такім адзіноцтве.

— Гэта вы самі іх узялі?

— Не, — адказалі браты.

— Маці дала?

— Не.

— Ды скуль-жа вы ўзялі іх?

— Аленка Андрэева прыслала, — разам сказалі хлопцы.

Для Сцёпкі гэта было поўнаю нечаканасцю, і ён пранікся незвычайнаю падзякаю да Аленкі. У ім узнікае жаданне пабачыць Аленку і падзякаваць ёй за гэта. Аленцы асталося пабыць апошні год у сямігодцы, і яна скора паедзе. Калі сёння-заўтра не пабачыць яе, то калі сустрэне яе і ці сустрэне?

Сцёпку хочацца распытаць аб Аленцы, але яму было трохі неяк сорамна. І ўсё-ж такі ён запытаўся:

— А дзе-ж вы яе бачылі?

— Яна сустрэла мяне на вуліцы, — сказаў Алесь, — і спытала, дзе ты і што з табою было... Комсамольцы, брат, паўцякалі — біць іх хацелі.

— А бацька прыехаў?

— Прыехаў.

— А ён ведае... пра «святы калодзеж»?

— Маці сказала, і ўсе сказалі.

— А ён што?

— Нічога. Сярдзіты.

Сцёпка адламаў кусок аладкі і стаў есці.

— Можа вы па кусочку з'елі-б?

— Не,—разам адказалі меншыя браты і галовамі затрэслі.

Сцёпка падзакусіў, распытаўся аб вясковых навінах.

— А ты, Сцёпка, дадому прыдзеш?—запытаў Юрка.

Алесь і Юрка ўставілі вочы ў Сцёпку і чакалі, што ён скажа.

— Сёння я дома начаваць не буду. Заўтра прыду — не надоўга, але прыду. Так і скажыце дома бацькам.

— А дзе-ж ты начаваць будзеш?

— Глупства! Зайду дзе-небудзь у клуню і пераначую ў сене.

Алесь і Юрка заспакоіліся.

Усе тры браты змоўклі. Кожны штось думаў сам сабе.

— Ну, мы пойдзем дадому, — парушыў гэтую маўклівасць Юрка.

— Ідзіце, ідзіце, — азваўся Сцёпка, бо ўжо вечар. Вось што, браткі, калі ўбачыце Макарку Лагуновых, то няхай ён мне паперку напіша—ён ведае, якую... Не, лепш не трэба — абыйдзецца.

Сцёпка крыху замяўся.

— Пабачыце Аленку, падзякуйце ёй ад мяне за аладкі.—І, памаўчаўшы, яшчэ сказаў, не гледзячы братам у вочы: — Я заўтра буду ў Рэмусавай луцэ — з раніцы, калі раса ападзе. Скажыце Аленцы, няхай яна прыдзе туды... ну, кнігу мне прынясе. А вы мяне не шукайце, я сам прыду дадому.

— Добра,—сказалі браты.

На гэтым яны разышліся.

## XV

Раненька вышаў Сцёпка з Дзям'янавай клуні. Прайшоў загуменнем у хвойнік, павярнуў і хвайнікамі пашыбаваў у Рэмусаву луку. Выбраў там добрую пазіцыю і стаў чакаць Аленку.

Сонца падымалася неяк марудна, раса ападала паволі. Можа яна ў гэтую раніцу ападала-б і вельмі доўга, каб Аленка не прышла раней тэрміну.

Сцёпка замеціў яе здалёк. Ішла яна борздзенька, паглядаючы па баках. Цяпер яна была ўжо ладненькая дзяўчынка на шаснаццатым годзе. Яна ведала, што на яе пачынаюць заглядацца, і гэта надавала ёй пэўнай гордасці.

Добраю, прыветнаю ўсмешкаю спаткала яна Сцёпку.

— Ну, як маешся, богаборац?

Як разумець такое прывітанне? Няўжо-ж і яна супроць яго?

Але Сцёпка даведаецца з далейшай гутаркі.

Ён хоча захаваць сур'ёзнасць, нават значную жорсткасць, як і належыць усякаму, хто пайшоў адзін супроць усіх. І ён панура адказвае:

— Ды вось, цягаюся, як воўк, адзін.

— Бедны ты, Сцёпка, мне так цябе шкада!

Сцёпку, з аднаго боку, прыемна, што Аленка пашкадавала яго, але калі на справу глянуць з пункту геройскасці, то гэтае шкадаванне траціць усякую цану, і яно тут зусім не на месцы. Ён выступіў супроць бога і супроць людзей, а яго шкадуюць! Не шкадаваць — спачуваць толькі можна тут. І нават учарашнія грэцкія аладкі, што прыслала яму Аленка, паказваюцца цяпер Сцёпку да некаторай ступені абразаю для яго бунтарскага духу.

І Сцёпка адказвае:

— А чаго тут шкадаваць? Прапашчы я, ці што? І паміраць яшчэ я не збіраюся.

Гаворыць Сцёпка і на Аленку не глядзіць, каб па вачах яго не пазнала, што ён трохі туману напускае.

— А што-ж ты далей рабіць будзеш?

У Сцёпкі ёсць адказ і на гэтае пытанне, але ён хоча фасон дзяржаць і трагічна заяўляе:

— У бандыты пайду.

Аленцы страшна робіцца ад гэтых слоў. Яна пужліва глядзіць на Сцёпку, а Сцёпка на Аленку зірнуў. Ён бачыць, што ў яе прыгожыя бровы і такія слаўныя вочы, як-бы ён іх першы раз убачыў. Ад гэтага погляду Аленчын страх праходзіць. Яна адгадвае больш, чым ён сказаць ёй хоча.

— А каго-ж ты забіваць будзеш? — умее прыкінуцца і Аленка.

А Сцёпка і не падумаў, каго-ж, і праўда, забіваць ён будзе.

— Тых, хто ўпоперак дарогі мне стане, — яшчэ больш панура адказвае Сцёпка.

Аленка перамагае ўсмешку, гатовую закрасаваць на яе свежанькіх губках. Хіліць трохі на бок русавую галоўку і пытае:

— Ну, а калі-б я стала ўпоперак твае дарогі?

Аленка стараецца захаваць сур'ёзнасць, губкі яе строгія, а ў вачах смех руніць.

Мімаволі і Сцёпкавы губы расчыняюцца для смеху. Ну, што-ж бы яму рабіць з ёю, каб яна яму ўпоперак дарогі стала? І не гэта хацеў сказаць Сцёпка Аленцы. Ён чуе фальшывы тон, які ён сам даў іх гутарцы. І ці можна думаць, што Аленка супроць яго, калі яна прышла сюды?

А Аленка весела засмяялася, зрывае з яго галавы шапку, кудлачыць яму валасы.

— Ой, які-ж ты, Сцёпка, смешны! А ці ты ведаеш, што каля «святога калодзежа» паставілі новы крыж? І зруб новы паставяць. А каб вы не чапалі яго, то ён, напэўна, збуцвеў-бы там і ніхто-б яго не аднаўляў. Ну, і што-ж вышла? Твой бацька казаў пры людзях, што не пусціць цябе ў дом.

Апошнія словы балюча кальнулі Сцёпку, хоць гэтага ён і спадзяваўся ад бацькі.

Аленка глядзіць на Сцёпку спачувальна.

— Трэба падумаць, што рабіць табе.

— Я ўжо думаў. Сёння я пайду ў Мінск.

— Пяхотам?

— Так, на сваёй пары паеду.

Аленка засмучана апускае галаву.

— Ну, а як-жа?.. А грошы ў цябе ёсць?

— Без грошай пайду.

— А дадому ты зойдзеш?

— Зайду.

Аленка штосьдумае.

— Не пусціць цябе бацька — прагоніць.

— Вось дзеля гэтага я і пайду, бо калі не зайду, то выйдзе, што я сам пакінуў бацькоў.

— А ты як-небудзь паладзь з бацькам.

— Потым паладзім, а цяпер ладу не будзе.

— Як гэта ўсё нядобра зрабілася, — прамовіла Аленка.

— А што-ж тут нядобрага? Разбурылі ўсё — і ніякі бог не пакараў. А што са старымі нелады вышлі — глупства, паладзім.

Некаторы час Аленка і Сцёпка маўчалі.

— Ну што, Аленка, пойдзем, — сказаў Сцёпка.

Прайшлі яны хвойнікам, баравікоў трохі знайшлі, а недалёка ад сяла развіталіся.

Аленка пайшла адна. Канцы расплеценых кос на ветры калыхаліся. Сцёпка глядзеў на яе, каля хвойніку стоячы. Аленка прайшла крокаў дваццаць, азірнулася і сказала:

— А той верш гэта я пра цябе напісала.

І, не азіраючыся болей, борзда-борзда ў сяло пайшла.

Счакаўшы некаторы час, пайшоў і Сцёпка. Пералез цераз засаўкі і з прыгумення ў хату пайшоў.

А бацька чакаў яго ў хаце — меншыя сыны папярэдзілі. Строгі і цвёрды чалавек Міхайла Барута, але трохі затраслося ў ім, калі непакорны бацькавай волі сын на парозе паказаўся. А маці за хвіліну перад гэтым маліла яго не рабіць калатні.

Пераступіў парог Сцёпка, шапку зняў.

«Прасіцца будзе» — думае Міхайла, і гнеў, што быў улёгся ў ім, зноў пачаў падымацца. Спакойна запытаў сына:

— У комсамол запісаўся?

— Не, не запісаўся, — смела зірнуўшы ў вочы бацьку, адказвае Сцёпка.

— А бацьку ты паслухаў?

На гэтае пытанне Сцёпка прамаўчаў.

— А супроць бога ты не пайшоў?

— З богам вышлі нелады.

— Дык чаго табе трэба?

— Пачуць ад цябе, што ты мяне выгнаў.

Такога адказу бацька ніяк не чакаў. Чуе бацька, што сын адольваць яго пачынае.

— Ты сам сябе выгнаў, — кажа бацька, і сэрца яго баліць па сыну.

Сцёпка збірае свае сякія-такія рэчы, дакументы.

— Куды збіраешся? — пытае Міхайла.

— Пайду навукі шукаць, на рабфак ці не паступлю.

Прыпамінаюцца Сцёпку яго размовы з бацькам аб рабфаку.

— Ну, ідзі, павучыся: паразумнець табе трэба, — спакойна адзываецца бацька.

Слухае маці і нічога не цяміць, як-бы ёй розум засланіла.

Сцёпка нешта хоча ўзяць, але не адважваецца — ці варта. Хлеба ў людзей папросіць.

Бацька маўчыць, на покуць пазірае.

Маўчаць, баязліва паглядаюць Алесь і Юрка.

Сцёпка сабраўся. Ідзе, спыняецца каля дзвярэй, акідае поглядам хату.

— Ну, то бывайце здаровы!

Ніхто нічога не кажа яму.

Сцёпка ступае крок, на парозе затрымліваецца.

— Я, мама, вінаваты перад табою... Ну, да ты не гневайся.

Маці кідаецца да яго, кладзе яму на плечы рукі, а галавою да грудзей прынікае...

Плача ўголас і Юрка. Алесь крэпіцца, маўчыць зацята, зрэдку на бацьку ваўчком паглядае.

На вуліцы перад акном людзі збіраюцца.

— Адстань ты ад яго — прыліпла! — крычыць на жонку Міхайла.

Сцёпка вызваляецца з матчыных рук. Выходзіць на

вуліцу. Яму няма чаго людзей сароміцца. Пазіраюць людзі на Сцёпку, а ён высока падняў галаву, глядзіць на сваю дарогу.

— Куды-ж гэта ты? — пытае нейчы голас.

Сцёпка не абарочваецца, кідае на хаду:

— Рабіць новы зруб на новы калодзеж.

Міхайла Барута за сталом сядзіць. На вуліцу праз аконца глянуў. Дзве слязы з вачэй выкаціліся. Выкаціліся і высахлі.

— Добры хлопец! — кажа ён сам сабе і потым дадае: — І чорт яго не возьме!

*Частка другая*

## ЗА ПАРОГАМ

### I

Мінуў Сцёпка сяло, у поле вышаў.

Бяскрайнія прасторы ляжаць перад ім, пазіраюць на яго незлічонымі вачыма, пазіраюць маўкліва і ўдумна, як-бы пытаючыся: «Якая бура нясе цябе, хлопча? куды і чаго?» І нейкае, яшчэ нязведанае, адчуванне жалю агарнула Сцёпку, калі ўзышоў ён на ўзгорак і азірнуўся на сяло. Усё, што было найдаражэйшае ў яго жыцці,— дзяцінства, таварышы, сям'я, Аленка і гэтае пяшчотна-кволае дрыгаценне струн яго сэрца, — усё гэта засталося там, пад саламянымі стрэхамі, дзе сям-там узняліся дрэвы сваімі верхавінамі.

Сцёпка змусіў сябе адвесці вочы ад сяла, каб не паддацца ахапіўшаму яго жалю.

— Бывай! — сказаў ён уголас, крута павярнуў і шырокімі крокамі пайшоў на той бок узгорка, адкуль ужо не ўгледзіш сяла. Адышоўшы з поўвярсты, яшчэ раз назад азірнуўся, азірнуўся і спыніўся: з узгорка, як куля, шыбаваў Алесь, яго брат, і махаў шапкаю, каб Сцёпка спыніўся.

Алесь зараз-жа дабег да Сцёпкі. Затаміўся хлопчык бегучы, аж расчырванеўся: яму-ж так хацелася дагнаць

Сцёпку! Лагодна ўсміхнуўся брату. А Сцёпка глядзеў недаўменна: якая прычына змусіла Алеся даганяць яго?

— Мама паслала мяне... Вось табе хлеб на дарогу.

Алесь перадаў брату досыць ёмка напакаваную белую зрэбную торбу з хлебам і салам, а потым дастаў з-за пазухі маленькі скрутачак.

— Тут мама трохі і грошай дала. А гэта вось нейкая паперачка ад Мікіты Лагуна.

Сцёпка на момант замяўся: браць ці не браць гэтую пасылку.

Але яго так моцна кранула матчына дабрата і такую віну пачуў перад ёю, што не пасмеў зрабіць ёй крыўду. Дый Алеся-ж ён пакрыўдзіў-бы.

— Ну дзякую, браток! Скажы маме, што я ніколі не забуду яе, ніколі не скажу ёй больш благога слова.

І Сцёпка трохі адвярнуўся ад брата, каб не паказаць яму вачэй.

— Ты як-жа пойдзеш? — спытаў Алесь.

— На Загор'е, а там — па чыгунцы.

Алесь многа меў сказаць чаго, але слоў не знаходзілася.

А можа лепей і не гаварыць! Ды ўсё-ж такі не стрымаўся і сказаў, але зусім не тое, што хацелася сказаць.

— Ну, а ты-ж не будзеш баяцца?

— Я? — Сцяпан усміхнуўся. — Не, брат, я нічога не баюся.

Алесь аж пазайздросціў яму: такі ён вялікі, смелы і дужы!

— Тут ёсць такая сцежачка, што можна латвей прайсці.

— Ведаю, — адказаў Сцёпка і рашуча прамовіў: — Ну, бывай, брат, здаровы!.. Маме там памагай.

Сцёпка зірнуў Алесю ў вочы, кіўнуў галавою і, закінуўшы кіёчак з торбаю за плечы, пайшоў у сваю дарогу.

Алесь трохі пастаяў, пазіраючы ўслед Сцёпку, а потым стала і разважна павярнуў назад, калі-ні-калі аглядаючыся на Сцёпку. Сцёпка-ж скора знік з вачэй, бо дарога павярнула ў кусты.

Чым далей адыходзіўся Сцёпка ад сяла, тым больш мілым яно станавілася яму, але разам з гэтым яно неза-

метна выціскалася з Сцёпкавай душы новымі думкамі, новымі разважаннямі, вобразамі дарогі і тым невядомым, далёкім, што яго чакала і цалкам ляжала наперадзе. І пачуццё адзіноты часам агортвала Сцёпку. А калі мінуў ён Загор'е, ён пачуў, што гэта — апошні парог, які злучаў яго са сваім сялом, бо ў Загор'і вучылася Аленка, а ад Загор'я пачалося зусім новае і чужое.

## II

І Загор'е засталося ззаду.

Яшчэ вярсты тры, і Сцёпка вышаў на чыгунку. Вёрст васемнаццаць адбіў. Нават ногі затаміліся трохі. На чыгунцы прыпыніўся на момант, у адзін і другі канец яе глянуў. Для большай пэўнасці запытаў сустрэчнага незнаёмага селяніна, у які бок трэба на Мінск ісці і колькі лічыцца вёрст да яго. Змерыў вачыма дарогу. Маўкліва, безадказна яна, але як прыгожа яна, як павабна! Зграбненька ляжаць рэйкі, акуратненькі павароты-загібы іх, і згодзен іх бег. А гэтыя слупы з роўна нацягнутым тоўстым дротам! І дзень і ноч выігрывае на іх вецер свае песні, песні прастораў зямлі, і мудрая людская мысль лётае па іх лёгкакрылаю птушкаю, а гэтыя белыя гугачкі на слупах выглядаюць здалёк беленькімі галубкамі.

Вось гэтыя, моцна збітыя між сабою рэйкі адным канцом сваім у самы Мінск упіраюцца. Восемдзесят шэсць вёрст! Ой, не малы гэты кус для маладых непрывычных да хады ног!

Ідзе Сцёпка, дзе чыгункаю па шпалах, а дзе вузенькаю сцежкаю, што павіваецца па хібах насыпу побач чыгункі, ідзе, мінае чырвоныя домікі будачнікаў, пераезды, купкі дрэў, а перад ім раскрываюцца ўсё новыя і новыя рысункі дарогі: лясы, лужкі, мосцікі, пажоўклыя гоні палёў, дзе пападаюцца сям-там яшчэ непрыбраныя мэндлікі аўсоў і атуленыя сіняватаю смугою далечы.

З кожным паваротам чыгункі, з кожнаю новаю вярстою Сцёпка глыбей адчувае ўладу гэтых незнаёмых прастораў, сярод якіх параскіданы цёмнасінія палоскі лясоў. І гэтыя вёсачкі, і людзі, і гаі побач дарогі пазіраюць

на яго, як на чужынца, неспагадліва і нават, здаецца, варожа. Маркотна і неспакойна на сэрцы.

Успомнілася Аленка. Ад гэтага ўспамінку адразу неяк цёпла і радасна стала Сцёпку. Але чаму яна не выйшла, калі ён выходзіў адзін з сяла ў гэтую невядомую дарогу? Хоць-бы здалёк паказалася. І шкада стала яму Аленкі, і трохі крыўда на яе забірала яго. Ён успомніў спатканне з ёю. Слаўнае было спатканне! Не, Аленка — мілая, залатая дзяўчына! Такой дзяўчынкі ніколі не забудзе Сцёпка. Гэтыя думкі і гэтае адчуванне апошнімі звеннямі ўзварухнуліся ў Сцёпкавым сэрцы і заступілі поўнасцю месца другім думкам і другому пачуццю.

Калі маркота і адзінота і не ўзялі верх над Сцёпкам, то толькі затым, што ў Сцёпкі за плячыма была торба з салам. Гэтая торба была для яго прыяцелем, сваім чалавекам, самым блізкім земляком, з каторым не так цяжка было ў дарозе. Паварочваючыся за плячыма ў тахт яго хады, яна чым далей, тым болей пачынала напамінаць яму аб сабе. І Сцёпка стаў разглядацца, дзе-б выбраць лепшую мясціну для адпачынку. Такая мясцінка скора і знайшлася. Сышоў з дарогі, выбраў зацішнае месца на беразе маленькай рачулачкі і разлажыўся для папаскі. Дарожны вецер і гарачае жнівеньскае сонца яшчэ больш распісалі загарам яго і без таго загарэлы твар. Сцёпка борзда развязаў торбу, скінуўшы па сялянскаму звычаю шапку з галавы, адламаў кусок хлеба, адарваў надрэзаны кавалачак сала і са смакам стаў сілкавацца.

Падмацаваўшыся, Сцёпка напіўся ў рэчцы вады. І тут ён пачуў такую млявасць, што мусіў прылегчы. Яму так моцна захацелася спаць, што вочы яго пачалі зліпацца самі. Але Сцёпка перамог сябе; не, спаць не гадзіцца! Ці мала што можа здарыцца! Лепш пасядзець трохі, а там памаленьку дабрацца да станцыі, тым болей, што пачынала ўжо вечарэць, а да станцыі заставалася вёрст пяць, не болей. І тут толькі Сцёпка пачуў, што дарога — не такая ўжо лёгкая рэч, як гэта здавалася яму дома. Трэба яшчэ дайсці да першай станцыі, а там яшчэ цэлых чатыры. Не так-та скора і лёгка адмераць іх сваімі нагамі.

І тут Сцёпку прышла ў галаву смелая думка — прыстроіцца як-небудзь на поездзе і махнуць машынай! Гэтая думка выціснула ў яго ўсе іншыя думкі. Нават і сон яго разагнаўся. Сцёпка падняўся на ногі, закінуў зноў торбачку за плечы (а яна цяпер палягчэла трохі), вышаў на чыгунку і патрапаў удоўж яе па вузенькай бясконцай сцежачцы, так добра яму цяпер знаёмай. Ідзе і абмяркоўвае, як-бы гэта латвей на машыну папасці. Трэба спрабаваць шчасця: ездзяць-жа людзі на машынах, дык чаму-б і яму не праехацца? І час-бы выйграў, і ўсякую такую эканомію. Пры гэтым у галаву яго ўбілася адно глупства: калі праедзе ён на машыне, то паступіць на рабфак!

### III

Сонца было ўжо зусім нізка над лесам, калі з-за павароту дарогі перад Сцёпкам вынікнуў семафор, бы нейкі вартаўнік з працягнутаю рукою. Сцёпка бачыў яго першы раз, і яму было невядома, для чаго стаіць тут гэты дзіўны слуп. Не было калі Сцёпку разважаць над гэтым, бо зараз-жа з-за купак раслін паказалася і сама станцыя. Аж сэрца забілася ў хлопца мацней: на гэтай станцыі яму прыдзецца развязаць сваю, можна сказаць, першую задачу, задачу адзінокага вандроўніцтва, і развязаць сваім розумам, бо хто-ж тут паможа табе? І не адну задачу, а дзве: пераначаваць і ўладзіцца з яздою на машыне. І гэтая звадлівая думка — калі праедзе на машыне, то паступіць на рабфак — таксама жыве ў яго галаве, карціць яму, спакою не дае. З гэтымі двума задачамі звязваецца цэлы рад другіх задач... З чаго пачаць? Як прыступіць?

Зменшыўшы тэмп хады і нясмела аглядаючыся, падыходзіць ён да станцыі. Яго ўвагу займаюць пустыя вагоны, загнаныя ў глухое месца. Можа гэтыя вагоны ці не ідуць на Мінск?

Сцёпку ніколі не даводзілася быць на станцыі, і цяпер кожную пядзю яе зямлі, кожную часціну яе прыходзілася адольваць сваім уласным розумам. На станцыі бы-

ло досыць пуста і ціха. Дзе-ні-дзе праснуе людская фігура і зараз-жа знікне невядома куды. Сцёпка ступае яшчэ павальней, разглядаючыся навокал. Ён заўважыў кучку хлапчукоў, такіх вось, як Алесь і Юрка; яны ішлі дзесь з другога боку чыгункі праз рэйкі, накіроўваючыся ў галоўны будынак.

— Скажыце, хлопчыкі, якая гэта станцыя?

Сцёпка ведае, як называецца станцыя, але яму трэба разгаварыцца з хлапчукамі, каб дазнацца таго, што цікавіла яго цяпер.

— Станцыя Беразайка, каму трэба — вылязайка! — пачуў ён адказ, і чародка жэўжыкаў, як спуджаныя верабейчыкі, са смехам паімчаліся па платформе ўздоўж будынкаў. Адзін, адбегшыся, павярнуў галаву ў бок Сцёпкі, гукнуў:

— Прачытай: там напісана.

Хлопчык думаў, што Сцёпка непісьменны, пасмяяцца хацеў з яго. Але тое, што гаварылася на глум, Сцёпка ўзяў на вум. І сапраўды: чаму-ж бы яму і не пацікавіцца надпісамі? Сцёпка павярнуў галаву ў бок будынкаў і падняў вочы ўгору. Тут ён знайшоў «зал І кл.», «зал II і III кл.», «буфет», «тэлеграф», «багажнае аддзяленне», а таксама і «для мужчын», «для жанчын» і інш. На дварэ пачынала цямнець, і трэба было добра прыглядацца, каб разабраць не зусім выразныя літары, відаць, стускнелыя за доўгія часы.

— Чаго ты шукаеш тут?

Сцёпка здрыгануўся, бо запытанне было для яго нечаканым, а ў голасе незнаёмага чалавека — Сцёпка яго і не заўважыў — чулася начальніцкая строгасць, хоць, праўда, начальства гэта было і невялікае. Гэта быў толькі стрэлачнік, сярэдніх гадоў чалавек з светлымі, спушчанымі ўніз вусамі, у зашмуленым ліхтарамі каптане. За поясам у яго былі заткнуты два сігнальныя знакі, а цераз плячо перакінут ражок.

— Нічога, так гляджу.

Сцёпка думаў гэтым і адрабіцца, але стрэлачнік не адступаўся, бо Сцёпка паказаўся яму чалавекам падазроным, ва ўсякім разе вартым увагі. У такіх разах стрэ-

лачнік не прапускаў здарэння распытаць, даведацца, хто, чаго, куды і як? Бо ён быў чалавек цікаўны і вельмі любіў прачуць сёе-тое: па яго думцы, на свеце яшчэ павінна нешта цікавае зрабіцца, нешта такое, пасля чаго пачнецца ўжо сапраўднае жыццё.

Стрэлачнік, не адыходзячы ад Сцёпкі, пацягнуў папяросу-суслу, ушчаміўшы яе двума пальцамі, пацягнуў заядла і запытаўся:

— Едзеш куды?

Сцёпка ўсміхнуўся.

— Не, пяхотам іду.

У тоне Сцёпкавага адказу была мяккасць і пашана да стрэлачніка, што таму вельмі спадабалася.

— А куды ідзеш?

— У Мінск.

— У Мінск? пяхотам.

— Ехаць не маю за што.

— А чаго ідзеш ты ў Мінск?

— Вучыцца хачу.

Стрэлачнік яшчэ раз смактануў папяросу і гопнуў яе на платформу.

— Вучы-ы-цца! Бачыш ты! А скуль-жа сам?

— З Заборцаў.

— Вот маладзец!.. Але я табе скажу, што цяперашняя навука...— стрэлачнік патрос галавою і рукою махнуў: — нікуды не варта, распуста, а не навука.

— Не, дзядзька, няпраўда! — з жарам запярэчыў Сцёпка: — цяпер-жа сапраўдная навука і даецца. Гэта раней навуку дзялілі для бедных і для багатых: багатым — універсітэты, а бедным — гула асмаленая. Вучылі толькі, каб падаткі плацілі ды на багатых працавалі і бога баяліся.

— Ось, у тым-жа, брат, і справа, што бога баяцца перасталі. А раз у цябе няма бога, то які-ж ты чалавек? Чым адрозніваешся тады ад скаціны?

— Розумам.

— А розум табе хто даў?

— Розум ад прыроды!..

— А прырода адкуль узялася?

— Ну, а бог адкуль узяўся? — запытаў і Сцёпка.

— Мы — чэрві ў параўнанні з богам. Як можам яго ведаць?

— А калі не ведаем, дык як-жа верыць у тое, чаго не ведаеш?

Стрэлачнік паглядзеў на Сцёпку.

— А ці ведаеш ты Галабурду? — запытаў ён нечакана.

Сцёпка трохі замяшаўся.

— Якога Галабурду?

— От, — ёсць такі.

— Не, не ведаю.

— А можаш ты сказаць, што Галабурды няма?

Сцёпка замяўся, а стрэлачнік атакаваў яго яшчэ больш энергічна, зрабіўшы з гэтага адпаведны вывад, а потым пашлёпаў Сцёпку па плячы і сказаў:

— Трэба, брат, многа павучыцца, каб ведаць маленькае. І вучацца людзі, аж лысеюць з навукі, а ўсяго ведаць не будуць. Вучыся і ты. Але вось як ты да Мінску дабярэшся? Шкада мне цябе, хлопча, і ног тваіх маладых шкада.

Вынікам гэтага спаткання і гэтага дыспуту было тое, што стрэлачнік заклікаў да сябе Сцёпку, пачаставаў яго кіслым малаком і начаваць пусціў. А назаўтра раніцаю здаў яго на тормаз знаёмаму кандуктару з таварнага поезда.

## IV

Людзі мала калі бываюць такімі шчаслівымі, як быў шчаслівы Сцёпка, седзячы на тормазе. Калі-б тая радасць і тое шчасце, што часам, хоць і вельмі рэдка, трапляюць да чалавека, маглі-б спяваць і звінець сваімі акордамі, то наша вуха чула-б найцікавейшую на свеце музыку. Такая музыка была цяпер і ў Сцёпкавым сэрцы. Ён цяпер ні аб чым не думаў, ён проста пазіраў на тыя вобразы, што ўзнімаліся з нутра яго самога, ціхусенечка сам сабе ўсміхаўся.

Адпачыў з дарогі Сцёпка, а раніца новага дня, так шчасліва пачатага, рассявала па станцыі і навокал пра-

менні святла, надзей і нейкай новай беспрычыннай радасці. Скрозь высокія круглыя топалі, што стаялі на станцыі, прабівалася сонца, а лісці на іх трапяталіся так ціха і так паважна, што Сцёпку часам здавалася, нібы яны гаварылі штосьці гэтаму новаму дню і яснаму сонцу. У галаве поезда заложна-аднатонна сіпеў паравоз. Яго высока падняты яшчэ старасвецкі комін, нібы галава ў цюрбане, выпускаў густую хвалістую стужку чорнага дыму. Яшчэ некалькі хвілін і гэтая сіпаватая песня паравоза абарвалася, прыціхла. «Тух-тух-тух-тух!» заклакатаў ён сярдзіта, магутна дыхнуў дымам, выкаціўшы ўгору чатыры клубкі, а следам за гэтым засвістаў тонка-прарэзліва і працяжна. «Кіў-гець!» скрыганулі вагоны, і поезд здрыгануўся, бразнуў крукамі, грымнуў буферамі, здрыгануўся, неахвотна-гультайна прыпыніўся, здрыгануўся мацней, зрушыўся з месца і, пазвоньваючы сцэпамі, пакаціўся па рэйках, што-раз прыбаўляючы ходу.

Сцёпка стаяў у цесным карыдорчыку між вагонамі і тормазам і пазіраў, як адыходзіла ўзад станцыя з яе будынкамі, вадакачкаю, семафорам і круглымі топалямі, робячыся ўсё меншаю і меншаю, пакуль не знікла з вачэй, схаваўшыся за пукатасцю зямлі. На тормазе нікога больш не было, і Сцёпка адчуваў сябе вольна. На першых часах ён захапляўся яздою і тымі новымі малюнкамі, што мільгацелі перад яго вачыма. Ні аб чым не думалася, было проста весела і радасна. Падзеі апошніх дзён адышлі дзесь далёка-далёка, як-бы іх і не было, як-бы яны толькі прысніліся яму. Але незаметна, паводле таго, як поезд імчаў Сцёпку ўсё далей і далей, яго пачалі забіраць думкі аб горадзе, аб паступленні на рабфак. Дзе прыпыніцца яму ў невнаёмым горадзе? Што ён будзе рабіць, калі не паступіць на рабфак? Куды дзецца тады?

І Сцёпка пазіраў у той бок, куды імчаўся поезд. Праўда, «імчаўся» ён не так ужо шпарка, але для Сцёпкі, як не бачыўшага больш шпаркай язды, здавалася, што ён тут імчыцца сокалам. Пазіраў Сцёпка, ці не відаць ужо часам Мінск, ды горад быў яшчэ далёка. Сцёпкаў непакой дасяг сваёй найбольшай сілы тады, калі ён ехаў апошнюю станцыю. Горад-жа доўга не па-

казваўся, і толькі пад вечар перад ім вынырнулі гарадскія будынкі.

Дык вось ён які Мінск!

Ой, дый горад-жа! Аж галавою паківаў Сцёпка: яму здавалася, што ўжо большага, харашэйшага горада і на свеце няма.

Поезд спыніўся досыць далёка ад станцыі. Сцёпка злез з вагона, азірнуўся па баках, куды яму накіравацца, і павольна пасунуўся ў бок вакзала. У дзвярах, пры ўваходзе ў залу, яго запынілі. Страху набраўся тут Сцёпка. Нават прышлося паказаць дакумент, пасведчанне Міхіткі Лагуна ў тым, што Сцёпка — добры бязбожнік і кандыдат у комсамол. Ад сябе-ж Сцёпка дадаў, што ён ідзе пяхотам сто вёрст, каб паступіць на рабфак. Пра язду на таварным поездзе, па сялянскай сваёй хітрасці, Сцёпка дыпламатычна змаўчаў. І Сцёпку з пашанаю прапусцілі.

На станцыі было людна і шумна. На лаўках па баках і пасярэдзіне залы сядзелі і ляжалі пасажыры, абложаныя рознымі пакункамі. Там і сям снавалі людскія фігуры, як-бы не знаходзячы сабе месца. Адны сядзелі ціха, нерухома, другія перамаўляліся між сабою, жартавалі і смяяліся. Некаторыя закапаліся ў чытанне газет. Сцёпка акінуў усю гэтую грамаду людзей, жанчын і дзяцей, — нідзе няма ні адной асобы, хто хоць-бы звярнуў на яго ўвагу. Чужыя, незнаёмыя, далёкія, неспагадлівыя, занятыя кожны сам сабою. Сцёпка, прыпыніўшыся ў больш-менш зацішным месцы, пастаяў трохі, разглядаючы публіку і разважаючы, што яму рабіць тут, дзе правесці ноч. У крайнім выпадку перабудзе як-небудзь тут. Часу ў яго хватае: цэлыя два дні выйграў ён у дарозе. Першы непакой, ахапіўшы яго тут, прайшоў, і Сцёпка пачаў разважаць больш спакойна. Шчаслівая думка выклікала ў яго памяці Дом селяніна, аб якім ён чытаў яшчэ летам. Знайсці гэты дом, устроіцца там — вось яго першая задача. Сцёпка зусім павесялеў. Вышаў са станцыі на пад'езд, запытаў людзей, дзе знаходзіцца Дом селяніна, даведаўся, што на другім канцы горада, што, сеўшы на конку, можна даехаць аж да самага таго дома.

## V

Добрая рэч гэты Дом селяніна, і не аднаго толькі Сцёпку прыхіліў ён. Нахваліцца не мог Сцёпка гэтым домам, бо дзе-ж бы ён падзеўся ў незнаёмым горадзе? А тут і адпачыць можна, як належыць чалавеку, і час правесці разумна сярод газет і кніг, і людзей паслухаць, і аб справах патрэбных дазнацца.

Сцёпка прачнуўся досыць рана. У доме было ціха. Апрача яго, тут было яшчэ некалькі чужых людзей. Заснуць ён ужо не мог, але не ўставаў, каб не патрывожыць сон людскі. Але-ж і спяшацца яму няма куды. Першыя думкі яго былі аб тым, што ён у горадзе і што гэта ўжо другая ноч, праведзеная за парогам бацькаўскага дома. І гэты бацькаўскі дом успомніўся яму, і сэрца нейк трохі заныла. Асабліва шкада яму стала маткі, калі ўспомнілася, як прыпала яна галавою на грудзі яму і плакала. Дрэнны ён хлопец: навошта было так крыўдзіць матку, казаць ёй такія дзёрзкія словы? І яна гэта ўсё даравала яму, усё забыла, і колькі любасці выказала яна да яго! І толькі яна паклапацілася, каб не быў ён галодны ў дарозе. Сцёпка заспакоіў свае сумленне тым, што цвёрда пастанавіў хоць чым-небудзь узрадаваць сваю матку, хоць-бы і як цяжка прышлося яму на свеце. А следам за гэтым пайшлі і другія думкі, многа думак. Сцёпку трэба перш за ўсё знайсці рабфак, а там навесці спраўкі, ці дайшлі яго дакументы туды. Праўда, яны разам з заявай былі пасланы — пасылалі іх з настаўнікам — па пошце. Але-ж трэба ўпэўніцца, ці там яны: мала што можа быць! І яму нейк страшна стала, што яго заява дзе-небудзь прапала, а праз гэта і ўся справа можа прапасці. Трэба, трэба ўпэўніцца, пакуль не позна.

Аглядаючы новую абстаноўку, незвычайна цікавую, Сцёпка хацеў апісаць усё гэта і паслаць... Каму? Зноў успомніў Аленку, а разам з гэтым адчуў і нейкую непрыемнасць у сэрцы. Напісаць-бы ёй пісьмо? І напіша, абавязкова напіша. Але што пісаць цяпер? Невядома, як абернецца справа. Лепш пачакаць, пакуль скончацца экзамены. Не пераскочыўшы роў, няма чаго і «гоп» казаць.

Асцярожненька падняўся Сцёпка, адзеўся і вышаў з кватэры. На карыдоры сустрэўся незнаёмы чалавек, адзеты на гарадскі манер, пажылы. Як відаць, гэты незнаёмы чалавек меў нейкае дачыненне да Дома селяніна.

— Што, дзетачкі, начаваў тут? — ветла спытаў Сцёпку незнаёмы чалавек.

— Але!

— Ну, і што-ж, добра табе тут было? — незнаёмы чалавек палажыў пры гэтым сваю тоўстую, мяккую руку Сцёпку на плячо.

Сцёпку тут успомніўся лозунг «тварам да вёскі», але на шырокім твары незнаёмага чалавека было столькі дабраты, што напэўна ёю — і толькі ёю выклікана гэтая ўвага да Сцёпкі. Ёсць-жа на свеце і добрыя людзі.

Разгаварыліся.

— А-а-а! — працягнуў незнаёмы чалавек, даведаўшыся, што Сцёпка прышоў у горад навукі шукаць, і губы яго разышліся ў найдабрэйшую ўсмешку, бы вароты ў гумне, калі яно напакавана пад самы шчыт сенам і збажыною.

— Добра, добра, дзетачкі! Трэба, трэба вучыцца!

У Сцёпкі прамільгнула жаданне спытацца пра рабфак, як яго тут знайсці. Ён толькі замяўся трохі, як назваць добрага чалавека: «таварыш» як-бы крыху і не падыходзіць, бо незнаёмы чалавек такі паважны і шырокі, а галоўнае — у гадах такая розніца.

— Выбачайце, я вот не ведаю, як вас назваць...

— Дзедушка, дзедушка называй мяне: мяне так усе завуць.

«Дзедушка» гаварыў па-беларуску.

— Я хацеў вас спытаць... — Сцёпка запнуўся, яму было нейк нязручна казаць «дзедушка»: лепш — «дзедка» або «дзядок», як кажуць на вёсках, — ці не ведаеце часам, як да рабфака дайсці?

— Хадзем: я табе раскажу і пакажу.

«Дзедушка» ўзяў Сцёпку за руку і вышаў з ім на вуліцу.

— Ось мы выйдзем зараз на Траецкую гару, — па-старому назваў ён плошчу Парыжскай Комуны, — адтуль я табе пакажу, як на рабфак зайсці.

— Ну, вось глядзі, — казаў «дзедушка», узвёўшы Сцёпку на сярэдзіну Траецкай гары, — там улева, бачыш? высокая труба. Гэта — электрычная станцыя, а правей, на горцы, цэрква, бачыш? Зверху зломаная вежа, а справа каўпак такі. Вось гэта музей, а там, правей, на самай горцы, высокая будыніна. Гэта — вадакачка. Дык вось, дзетачкі, паміж музеем і вадакачкаю будзе вуліца. Па праваму баку вуліцы, на рагу, у прысадах — сквер ён па-гарадскому называецца — будзе стаяць гэтая самая вадакачка. Ты туды і пойдзеш, ось так спусцішся, пройдзеш мост цераз Свіслач — улева дзяржыся, потым выйдзеш на Совецкую. Там і ўбачыш музей і вадакачку. Туды і шыбуйся, дзетачкі. Пад вадакачку выйдзеш і ідзі туды каля прысад, мінеш прысады, пройдзеш трохі далей па той-жа вуліцы, там і будзе універсітэт, той самы рабфак. Там ты ўжо лёгка знойдзеш. Ну, будзь-жа здаровы!

«Дзедушка» падаў Сцёпку руку і развітаўся з ім, а Сцёпка шчыра яго падзякаваў.

Некаторы час, як зачараваны, стаяў тут Сцёпка і любаваўся горадам. Грамада камяніц, раскінутых на вялікіх прасторах, вельмі прыгожа спускалася да даліны Свіслачы. Там-сям па кругавіне горада стаялі, бы вытачаныя, фабрычныя трубы з хвастамі цёмнага дыму. Правей вадакачкі, дзесь у глыбі горада, віднеліся слупы з густа нацягнутым дротам. Сцёпкаву ўвагу прыцягвалі гэтыя высачэзныя жэрдкі, цёмнымі рысамі ўзнятыя ва ўсіх канцах горада. Для чаго яны? У некаторых мясцінах скрозь прасветліны камяніц прабіваліся сінія далечы, дзе чарнеліся лясочкі, узгоркі і лапінкі поля — прасторы сялянскіх вёсак.

Сцёпка доўга стаяў, любуючыся горадам, і нейкае новае адчуванне калыхала яго, прыцягвала да гэтага горада і ў той-жа час палохала і непакоіла.

Слаўны горад! Эх, павучыцца-б тут, пажыць-бы ў ім!

Сцёпка зрушыў з плошчы і пайшоў шукаць рабфак, кіруючыся на вадакачку. Праблытаўся ён досыць доўга па незнаёмых вуліцах, покі трапіў на вадакачку, адтуль і на рабфак.

## VI

Са страхам увайшоў Сцёпка ў канцылярыю рабфака.

Тое прадстаўленне аб рабфаку, што склалася ў Сцёпкі дома, зусім не адпавядала таму рабфаку, які Сцёпка бачыў цяпер перад сабою. У канцылярыі было многа моладзі: і хлопцы, і дзяўчаты. Каля аднаго століка, дзе сядзеў нейкі пісар ці можа і сакратар, бо выгляд і трыманне яго змушалі думаць аб ім, як аб асобе важнай, збілася цэлая грамада моладзі. У другіх мясцінах досыць прасторнай канцылярыі таксама стаяла моладзь гурткамі. Да аднаго такога гуртка і Сцёпка падышоў, падышоў асцярожна і нясмела, і лавіў вухам тыя гутаркі і абрыўкі яе, што выбіваліся з гэтай кучкі моладзі. «Таксама прыехалі паступаць», — заўважыў сам сабе Сцёпка, прыслухаўшыся да гутаркі, і паглядзеў на гэтых маладых людзей, як на сваіх канкурэнтаў. Тое, што далей даведаўся тут Сцёпка, яго трохі засмуціла: незвычайна вялікі наплыў народу — з чатырох прыходзіцца выбраць аднаго. «Рэзаць будуць», — насілася сярод моладзі.

І вось што яшчэ гаварылася тут: прымаць будуць у першую чаргу дзяцей рабочых, як паказвае ўжо і само слова «рабфак». І людзі пралетарскага стану пры гэтым весялелі. Затым будуць аддаваць перавагу і тым, хто мае пэўны рабочы стаж. Ну, а пра комсамольцаў і казаць няма чаго. Ні пад адну з гэтых груп Сцёпка не падыходзіў. І заслуг у яго перад рэволюцыяй ніякіх няма. Хоць-бы якога гада-бандыта злавіў! Праўда, ён надумаў думку разбурыць «святы калодзеж», але гэтая заслуга — віламі на вадзе напісана. Каб тут даведаліся аб гэтым, то можа яшчэ і ці пахвалілі-б? Вось тут-жа і падумаць трэба! Чым больш уставала гэтых перашкод, тым больш расло ў Сцёпкі ўпартае жаданне дабіцца свайго. Напралом пойдзе, кулакі ў дзела пусціць, а рабфака не ўпусціць. Трэба свайго дабіцца — і больш нічога.

Сцёпка цвёрдымі крокамі падышоў да таго стала, дзе сядзеў важны пісар, а можа і сакратáр. Якраз гэта тут і спраўку патрэбную можна ўзяць. Расштурхаў Сцёпка грамаду і бліжэй да стала праціснуўся. Было

кінута некалькі не зусім ветлых позіркаў у Сцёпкаў бок, але Сцёпка зрабіў від, што не заўважыў іх.

— Паглядзіце, таварыш, ці ёсць тут мая заява?

Пісар падняў на Сцёпку вочы. Сцёпка глянуў на пісара, глянуў цвёрда і сур'ёзна. Пісар хацеў нешта сказаць, але, замест адказу, узяў вокладкі, распёртыя рознымі паперамі.

— Прозвішча ваша?

— Барута Сцяпан.

Гэтае «Барута» для самога Сцёпкі загучэла нейк дзіўна. Сцёпка нават трошкі засароміўся, бо ўсе зірнулі на яго. І ён таксама зірнуў... на адну дзяўчыну — проста яна тут бліжэй стаяла. Ну, куды-ж ёй з Аленкаю раўняцца? Падстрыжаная, кудлатая і рот вялікі.

Пісар тым часам борзда перакінуў паперы, спыніўся.

— Барута?

— Так.

— Ёсць ваша заява, — і галавою махнуў.

Сцёпка адышоўся. Яму адразу стала лёгка, як-бы ён перамог тут нешта важнае і труднае або ўжо на рабфак паступіў.

І пра экзамены даведаўся Сцёпка — праз дзень пачнуцца. І вось яшчэ што зрабіла на Сцёпку ўражанне: студэнты рабфака, арганізацыя іх, многа рабіла захадаў, каб памагчы прыехаўшым кватэрамі і абедамі. А памагчы ім трэба было, бо многім не было дзе прыткнуцца, не было чаго есці. Беднота, чуць прыкрытая беднота, стукала ў дзверы навукі, шырокаю хваляю сцякалася з далёкіх акругаў. Вядомым стаўся для Сцёпкі і той факт, калі старыя студэнты-рабфакаўцы некалькіх чалавек такой бедноты прыстроілі ў больніцы.

Усё гэта было вельмі цікава. Цікава тым, што горад не забыў вёскі, і вядомы лозунг не ёсць толькі словы, як гэта часам гаварылася там, на вёсцы. Такім парадкам, ужо адно знаёмства з горадам, хоць далёкае і павярхоўнае, раскрывае табе вочы. А пажыць тут ды павучыцца!.. Не, што-б там ні было, а на рабфак паступіць трэба. А як не ўдасца? Тады што?

Не, гэта было-б для Сцёпкі надта цяжка.

## VII

Было шумна і людна каля будынка рабфака ў дзень экзаменаў. Чырвоныя хустачкі дзяўчат мяшаліся з хлапцоўскімі шапкамі розных гатункаў, пачынаючы гарадскімі кепкамі і канчаючы самадзельнымі саламянымі брылямі. Пераважала ўсё-ж такі сялянская суконная світка. Не было недастачы і ў галіфе, таксама вельмі рознастайных як па матэрыі, так і па шырыні іх злучаных мяшкоў. Сабраныя ў адно месца, яны рабілі поўнае ўражанне і выклікалі ў Сцёпкі некаторую зайздрасць, бо ў яго ніколі не было галіфе. Увесь гэты стракаты натоўп, як жывы этнаграфічны музей, рассыпаўся па ўсходах, карыдорах і аудыторыях, несучы з сабою і надзеі свае і свае трывогі.

І тут Сцёпкава прадстаўленне аб экзаменах не адпавядала рэчаіснасці. Сцёпка думаў, што экзамены будуць рабіць у камісіях, дзе будзе многа розных прафесароў, аказалася-ж, што экзамены рабіў адзін чалавек. У некаторых аудыторыях сядзела некалькі прафесароў — можа яны і не зусім прафесары, ну, але думаць аб іх, як аб прафесарах, нікому не пашкодзіць, і менш усяго самім «прафесарам» — і прымалі экзамены па аднаму прадмету, але кожны асобна.

Сцёпка ўвайшоў у аудыторыю, дзе прымалі экзамены па матэматыцы, каб прыгледзецца і прыслухацца, а потым ужо выбраць лепшага «прафесара». Тыя пытанні, якія давалі прафесары, былі для Сцёпкі так просты і лёгкі, што ён раптам набраўся смеласці і, трымаючы ў руках свой лісток на права здаваць экзамен, стаў у невялікую чаргу. Стоячы за спіной свайго незнаёмага таварыша, Сцёпка то ўсміхаўся, то паціскаў плячыма, калі чуў няправільныя адказы. А калі дайшла яго чарга і прафесар запытаў штосьці з арыфметыкі, то Сцёпка, дакладна адказаўшы на ўсе прафесарскія запытанні, тут-жа сказаў, што ён вельмі добра ведае ўсе раздзелы арыфметыкі. Але з такой заявай ён набраўся клопату, бо прафесар заначыў яму:

— У такім разе вам няма чаго рабіць на рабфаку.

Спрачацца з прафесарам было рызыкоўна, і Сцёпка змаўчаў. Прафесар тым часам справядліва ацаніў яго веды, што і адмеціў на яго лістку. А Сцёпка вывеў з гэ-

тага такое заключэнне, што і перабор меры таксама нядобры, як і недабор. Трэба быць асцярожным і больш дзяржацца сярэдзіны.

Экзамены цягнуліся блізка тыдзень. За першыя дні Сцёпка паздаваў іх усе, але спакою не было ў яго: можна паздаваць усе экзамены і на рабфак не паступіць. Будзе яшчэ адна камісія ў канцы экзаменаў. Гэта камісія і скажа, каго прыняць, а каго не. Маркотна цягнуліся для Сцёпкі апошнія дні. Сланяўся ён па горадзе, знаёмства завёў з некаторымі хлопцамі, — з тых, што з ім паступалі на рабфак. А часу ўсё-такі было многа. Баяўся Сцёпка, што камісія знойдзе яго багатым або нават і кулаком, і па гэтай прычыне не прымуць. Вось чаму з найбольшым непакоем чакаў ён той дзень, калі гэтая камісія адбярэ студэнтаў на рабфак.

І дзень гэты прышоў... Эх, лепш-бы ён і не прыходзіў! Не прыняла Сцёпку камісія, і не аднаго Сцёпку, а сотні такіх Сцёпак: месц нехватала. Як асуджаныя на выгнанне, хадзілі непрынятыя з паніклымі галовамі, стукаліся ў розныя дзверы, а гэтыя дзверы, хоць і адчыняліся перад імі, а памагаць мала памагалі.

Нахмураны і сур'ёзны хадзіў Сцёпка каля будынка рабфака. Зжыўся з ім, палюбіў яго, і ў думках сваіх жыў і вучыўся ў ім, і не прынялі! Што-ж яму рабіць? А рабіць нешта трэба. Туды-сюды кінуўся — адказ адзін:

— Што рабіць? Вакансій няма... Камісія так пастанавіла.

Звярнуўся да таго-другога з членаў камісіі. Той і другі члены камісіі артыстычна ўскідалі плячыма, разводзілі рукамі, рабілі выразную міну.

— Вакансій няма... Не я — камісія так пастанавіла. Звярніцеся ў Галоўпрафобр.

Пайшоў Сцёпка ў Галоўпрафобр.

І карыдор, і пакой каля Галоўпрафобра, і самы той пакой, дзе сядзеў загадчык Галоўпрафобра, былі нашчэнт забіты вучнёўскаю моладдзю. Дзівіўся тут Сцёпка, скуль яе столькі набралася.

Змучаны, знерваваны загадчык Галоўпрафобра з сухім бледным тварам сядзеў, як у шчыльна абложанай крэпасці, размахваў рукамі, ускакваў і садзіўся, як-бы баронячыся ад пчол, а на яго насядалі з усіх бакоў, нася-

далі ўпарта, стыхійна. Прыціскаючыся бліжэй, Сцёпка наглядаў сцэны размовы моладзі з загадчыкам, прычым заўважаў, што не ўсім ён адмаўляе, робіць часам дапіскі на дакументах, пасля чаго ад яго адыходзілі ўжо вясёлымі. І яшчэ адно назіранне зрабіў Сцёпка: хто мацней насядае, той свайго дабіваецца. Вось чаму, калі наперад высунуўся Сцёпка, то ён стаў у баявую позу і прыняў вельмі грозны від.

— Вам што? — секануў загадчык.

— Я здаў экзамены на рабфаку, а мяне не прынялі. — І падае квіток аб здачы экзаменаў.

Загадчык зірнуў на квіток.

— Дык што я магу зрабіць? — крыкнуў ён і рукою махнуў.

— А мне што рабіць? — падняў голас і Сцёпка, і таксама рукой махнуў.

Загадчык зірнуў на Сцёпку, як-бы з нагі збіты, а Сцёпка, не даючы слова сказаць, засыпаў словамі:

— Мой бацька бедны, самому няма на чым жыць. Мяне з дому выгнаў за тое, што я з комсамольцамі на сходы хадзіў. Я сам гатаваўся, сто вёрст пяхотам трапаў, здаў экзамены... Што-ж мне цяпер рабіць? Красці ісці? Я хачу вучыцца, каб з мяне карысць была дзяржаве.

Загадчык узяў квіток і рэзалюцыю налажыў. Вярочаючы яго назад Сцёпку, ён сказаў сярдзіта:

— Ну, вас залічаць звыш камплекту, але на дапамогу не разлічвайце.

Не верачы свайму шчасцю, Сцёпка казаў сабе ў думках:

«Абы мяне прынялі. Рэшта дадасца».

Позняю восенню Сцёпкава маці сядзела за прасніцаю, а Міхайла Барута майстраваў сані на зіму. Алесь сядзеў бліжэй да лямпы з пісьмом у руках, а збоку каля яго стаяў Юрка. Алесь чытаў:

«Дарагія тата, мама, Алесь і Юрка!

Пакінуў я вас трохі не так, як людзі. Вы мне даруйце і на мяне не гневайцеся. Прызнаю, што я быў вінаваты.

Я паступіў на рабфак. Хоць і цяжка было, але паступіў. У нас на рабфаку вучацца больш 450 чалавек. У часе заняццяў, раніцаю а 9 гадзіне, як збяруцца ўсе рабфа-

каўцы, то будыніна гудзе ўсёроўна, як пчолы ў вуллі. Столькі руху бывае, што мудрэй, як у час жніва ў вёсцы. Пасля заняццяў, а 3—4 гадзіне, мы ідзем абедаць у сваю студэнцкую сталоўку. Тутака, у гэтай сталоўцы, абедае столькі людзей, што ў нас, у вёсцы, няма такой ніводнай вялікай сям'і: каля 1300—1500 студэнтаў. А пасля абеду я іду чытаць газету і вучыцца ў гурток. Тут рыхтуем на наступны раз лекцыі.

Кладземся мы спаць вельмі позна: а 12 або а першай гадзіне ночы. А то ўсё вучымся і чытаем шмат кніжак. Жывем мы ўсе ў вялікім мураваным агульным доме па асобных пакоях. У нашым пакоі жыве 9 чалавек: 4 хлопцы — беларусы з вёскі і 5 яўрэяў з фабрыкі. Жывем адною сям'ёю. Што ёсць у аднаго, напрыклад, з яды, дык карыстаемся ўсе. Апрача хлопцаў, ёсць у нас і дзяўчаты. Яны жывуць у асобных пакоях. Нам даюць пенсію — 12 рублёў у месяц, але з іх вылічваюць за абед, вячэру, хлеб і на другія дробныя патрэбы, так што на рукі прыходзіцца 2—3 р. Мне тут жывецца добра. Нядаўна выдаў мне наш рабфакаўскі камітэт сяннік, коўдру і матэрыі на бялізну. У лазню ходзім праз кожныя 2 тыдні. Са мною вельмі добра сябруюць комсамольцы. Я ўжо думаю паступіць у комсамол, каб быць арганізаваным і весці барацьбу з буржуазіяй за наша сялянскае жыццё. Дарагія, родныя! Каб вы ведалі, як я цяпер здаволен, што вучуся! Нават і ў святыя дні не маю адпачынку. Як прыдзе якое-небудзь свята, то я не праводжу дарма часу так, як праводзіў дома, а заўсёды знайду сабе работу. Акуратна хаджу я ў гурткі. Нядзелямі часта езджу ў вёскі, дзе наш рабфак вядзе культурную работу. Мне, як знаёмаму з вёскай, хочацца дапамагаць сялянскай справе. Наша дапамога вёсцы заключаецца ў тым, што рабфак дапамагае праводзіць культурна-асветную працу ў вёсцы. Пасылае без грошай кніжкі, газеты для школ і хат-чытален. Збіраем усе скаргі на розныя непарадкі мясцовай улады і, чым можам, дапамагаем там, на месцы, а то ўсе скаргі перадаем у газеты.

Жыццё-ж у Мінску ідзе так шпарка, проста так і б'е крыніцаю. На вуліцах бесперастанку цэлы дзень да позняй ночы ходзяць людзі, лётаюць аўтамабілі, ездзяць фурманы. На вуліцах гарыць святло, электрычнасць.

Дамы стаяць мураваныя, двухпаверхныя, а нават ёсць і шасціпаверхныя. У горадзе і за горадам ёсць розныя фабрыкі. Там працуюць рабочыя разам па некалькі сот чалавек. Пасля цяжкай працы (я раз быў на заводзе і бачыў іхнюю працу і жыццё) ідуць яны па рабочых клубах і там праводзяць час: чытаюць газеты і кнігі.

Бачыце, дарагія, родныя, што рабочыя таксама цяжка працуюць, але яны пасля стараюцца разумна скарыстаць час, не так, як у нас: у сварках, п'янстве і розных бойках.

Дарагія, родныя! Ужо вельмі позна: тры гадзіны ночы. Усе мае таварышы заснулі і моцна храпуць. Мне таксама хочацца спаць. А што робіцца на свеце, то я напішу вам другім разам.

Бывайце здаровенькі! Напішы мне, Алеська, як вы там жывеце, што ў вас чуваць.

Шлю вам усім свой рабфакаўскі паклон.

Ваш сын Сцёпка».

Міхайла Барута ціха ў вус усміхаецца, а Сцёпкава маці ўцірае слёзы радасці і жалю.

## VIII

Аб Сцёпку і Аленцы па Заборцах гутарка прайшла. Вось як вярнулася тады Аленка з лесу, калі яна ў Рэмусаву луку хадзіла, дык гэтая гутарка ўжо з некалькіх языкоў зляцела. І як борзда такія плёткі па людзях расходзяцца! Ну, як-бы іх вецер у вушы ўдзімае! Здаецца-ж, і не было нікога, і ніхто не бачыў іх, а вось-жа ўсё дакладна перадавалася: дзе і калі спаткаліся, як хто на каго зірнуў, хто каму ўсміхнуўся і нават як усміхнуўся. А як даведалася Аленка, што пра яе і пра Сцёпку гаварыць пачалі, то моцна засаромілася.

Ніколі-ж яна не думала, што на яе сяброўства з Сцёпкам людзі паглядзяць вось якраз гэтак. Усё-ж гэта няпраўда, няпраўда! Аленка ведала, што часамі хлопцы і дзяўчаты любяцца, што ёсць на свеце каханне, нават і ў песнях аб ім спяваецца, але сама яна гэтага пачуцця ніколі не зазнавала, не адчувала, не разумела і знаць яго не хоча. Яно для яе незнаёмае, чужое... Глупства ўсё

гэта! У Аленкі пратэст з душы выбіваецца. Хочацца голасна сказаць усім гэтым плеткарам, што яны лгуць, брэшуць! Крыўдна стала нейк Аленцы, хоць вазьмі ды заплач.

Узяла кнігу, на двор вышла, на прыгуменні ў зацішнае месца села. Разгарнула кнігу, водзіць вачыма па літарах, бачыць словы, цэлыя радкі, але ад гэтага чытання ў памяці нічагусенькі не застаецца, — аб Сцёпку думае. І як ён на памяць ёй узышоў, сама не ведае, людскія-ж плёткі на нейкі час зусім забываюцца. А ўрэшце — ліха іх бяры! Хіба ты язык людзям завяжаш? Горш за ўсё вось што: покі аб гэтых плётках нічога не было вядома, яна хацела прыпільнаваць Сцёпку, як ён будзе з дому ў дарогу выходзіць, — за сялом можна было-б пераняць яго і даць яму на дарогу маленькі баханак хлеба і той рубельчык грошай, што прыхаваны ў яе на ўсякі выпадак, а цяпер хіба яна пойдзе? Ніколі! І злосць узяла на Сцёпку — з-за яго столькі непрыемнасці, і яна ніколечкі не шкадуе яго. Наадварот — глядзець на яго не хоча!

Аленка ведае такую мясцінку на сваім двары, адкуль можна добра пабачыць Сцёпкаў двор, а самой быць незаметнай. Не гледзячы на ўсю злосць на Сцёпку, ідзе яна на тое месца. Ёй проста цікава паглядзець наогул. Каля хаты там народ сабраўся. Аленка прагна, але дарэмна ловіць словы — нічагутка не чуваць. І раптам Аленчына сэрца супроць яе волі забілася мацней: з двара якраз выходзіць Сцёпка! Ідзе без нічога, ідзе смела, высока падняўшы галаву. Маладзец усё-ж такі хлопец! Момант — і Сцёпкава постаць знікае з Аленчыных вачэй. Цяпер яго больш адгэтуль ужо не пабачыш. Ные сэрца ад нейкага жалю і ўспомніўся Аленцы той верш, што чытала Сцёпку. Нядаўначка-ж яна прызналася яму, што гэты верш напісан спецыяльна для яго... Вось тут Аленка і заблыталася ў сваіх разважаннях. І дзе-ж яе праўда? Чаму веры даць? Не лгала-ж яна Сцёпку, складаючы яму той верш... І нашто яна складала яго? Нашто чытала? І горш за ўсё, нашто было яшчэ і казаць?

Злуецца Аленка сама на сябе, аж палец кусае сабе, а нарэшце і заплакала нават. Дурная яна, эх, якая дурная! Смяяцца з яе будзе Сцёпка: хіба ім можна верыць?

Ашуканцы яны, манюкі!.. Каб толькі ведалі хлопцы, што думала аб іх цяпер Аленка, то напэўна пакрыўдзіліся-б на яе.

Людзі разышліся ад Барутавай хаты. Некаторы час Аленка яшчэ пастаяла ў патайным месцы свайго дворыка. Бачыла, як з двара выбег Алесь з ёмкаю белаю торбачкаю. Алесь борзда пабег, а следам за ім вышла і Сцёпкава маці. Прыпынілася каля весніц, пазірала ў той бок, куды Алесь пабег, і выцірае цішком слёзы.

— Хлеба маці пасылае, — падумала Аленка і павесялела, бо гэта-ж і яе была такая думка. Але ці дагоніць яго Алесь?

Аленка борздзенька вышла з патайнага месца і пайшла сцежачкаю ў поле: можа адтуль убачыць дарогу. Не, ні дарогі, ні Сцёпкі, ні Алеся не бачыла Аленка. Дарэмна толькі ногі трапала. Азірнулася навакол: на полі там-сям жанкі былі. Ёй здавалася, што яны дагадаюцца, чаго яна ў поле вышла, і яшчэ больш гаварыць пачнуць. Выбачайце: яна проста ў гарод пайшла, каб зелля нарваць. Збірае Аленка зелле, а сама пра Сцёпку думае... Што ні кажыце, а хлопец ён слаўны!

## IX

Скончылася лета. У пачатку восені паехала Аленка ў Загор'е. Апошні год астаўся ёй павучыцца. Пачалася школьная работа, і час праходзіў борзда. Незаметна набліжаліся зімнія вакацыі. Нічога не ведала Аленка пра Сцёпку. Дзе ён? Што з ім? Відаць, нядобра з ім, калі да гэтага часу не падаў аб сабе вестачкі. А можа проста не хоча з ёю знацца, астаўшыся ў горадзе. Ці мала там у яго сяброў і сярод хлопцаў, і сярод дзяўчат? Ізноў успамінаўся Аленцы яе той верш. Прыкра рабілася дзяўчынцы. Ну, але-ж калі гэта было? Яна была тады проста дурная. А ёй так хочацца аб горадзе даведацца. Сапраўдную навуку і можна пазнаць толькі ў горадзе. І хто, як не Сцёпка, мог-бы расказаць пра жыццё ў горадзе, пра навуку? Пасылала Аленка ліст дадому, хацела пра Сцёпку спытаць, але нейк сорамна было, бо яшчэ з маткаю дома размову мела аб ім. Праўда, жартуючы, казала ёй маці

тое, што сама ад людзей чула, аб іх каханні. Ну, а калі-б і так? Не крадзенае-ж гэта, і такая хвор ходзіць па людзях. А што на Аленку заглядаюцца, то што-ж тут дзіўнага? Не на ўсякую, нябось, і глядзець будуць. Ну, словам, матка зірнула на гэта зусім проста, а потым адразу нейк перайшла на сур'ёзны тон.

— А ўсё-ж, дачушка, ой як трэба шанавацца! Асабліва цяпер, калі такая распуста па людзях пайшла.

У падмацаванне факта гэтай распусты Аленчына маці расказала некалькі прыкладаў. Прыклады былі жывыя, блізкія і ўсім вядомыя: Анетка Шаркуновых, Насця Жук. Пацешыліся ды кінулі, як агрызеныя косці, з малымі на руках. Што ім цяпер рабіць? І не высудзілі нічога, бо аказалася, што ў тых лайдакоў нічога няма, хоць жылі пры гаспадарках — выкруціліся. І каго-ж тут вінаваціць? Самі вінаваты. Вось так і правучаюць дурных.

— Я павінна папярэдзіць цябе, дачушка. Ты-ж ужо не маленькая: праз год, праз два і замуж пойдзеш.

Аленка зачырванелася ад сораму і вочы ўніз апусціла.

— І не думаю я пра замуж, — нездаволена адказала яна.

— Усе мы ў свой час так гаварылі, а толькі тое і рабілі, што думалі, каб скарэй замуж выйсці.

Вось чаму Аленка і не адважылася ў лісце аб Сцёпку спытаць, і чамусь спадзявалася, што Сцёпка сам напіша ёй. Так яно і было.

Калі Аленка зірнула на памяты канверцік — відаць, у дарозе вандраваў нямала, — то сэрца яе забілася, як пташка ў клетцы, а шчокі румянкам загарэліся. Са школы якраз выходзілі. Звычайна Аленка ў такіх разах не вельмі спяшалася: павольна складала кнігі і сшыткі, адзявалася ці таварышку каторую-небудзь чакала, каб разам са школы пайсці і пагутарыць аб тым, што з'яўлялася выдатнейшым момантам дня. Часамі-ж да іх і хлопцы далучацца, бо былі такія, што і пажартаваць ужо любілі з дзяўчатамі і так ці іначай сваё кавалерства выказвалі. І дзяўчаты, калі ўжо праўду казаць, не аставаліся глухімі на гэтыя жарты. Для віду злаваліся, пратэставалі, ад хлопцаў нібы старaліся, але цалкам цікавалі такі за імі і былі рады, калі жартуючы і штурхане ці ўшчыпне іх хто з хлапцоў ці так якую штуку выкіне... Ну,

проста прыемна адчуваць, што цябе ўвагаю людзі не крыўдзяць.

Цяпер-жа Аленка пастаралася борздзенька і незаметна выйсці, каб адной астацца. Не, не адной, а са Сцёпкавым лістом! Бегучы на кватэру, некалькі разоў на канверт зірнула і толькі дома асцярожненька распячатала яго. На самы пачатак і на канец ліста глянула. А ў самым канцы «Сцяпан Барута» стаяў.

У незвычайным хваляванні прыступіла Аленка да чытання. Ліст быў напісан старанна. Відаць, Сцёпка многа думаў, каб напісаць яго. Найбольшая труднасць тут для Сцёпкі была ў напісанні самога звароту да Аленкі: як яе назваць? «Таварыш» — аддае нейкаю невыразнасцю. Напісаць «друг»? — але так спадручней да хлопца звярнуцца. Напісаць хіба «мілая Аленка»? А можа лепш «дарагая Аленка»? Тут у Сцёпкі пытанне з'явілася: якое слова лепш перадае шчырасць і сардэчнасць — «мілая» ці «дарагая»? Мусібыць «дарагая» ўсё-ж такі бліжэй да сэрца. Але зноў-жа — каб не станавіцца тут на шлях звычайных закаханых лабатрасаў, пакутнікаў кахання, бо ніякай закаханасці ў Сцёпкі няма, а ёсць проста пачуццё дружбы да свае зямлячкі, з якою звязвае Сцёпку жыццё дома, блізкае суседства і розныя агульныя інтарэсы, што мелі і маюць дачыненне да іх вучнёўства. Ну, а затым Аленка проста слаўная дзяўчынка. Нават і верш такі добры напісала яму. Урэшце, Сцёпка пайшоў на такое згодніцтва.

«Дарагая суседка, мілы таварыш Аленка!

Мне дужа хочацца ведаць, як ты жывеш, а таксама і як твая навука пасоўваецца. Вось чаму і пішу я табе. Можа ты ніколі і не думала, што я табе ліст прышлю, і забылася ўжо, як мы апошні раз развіталіся. Ну, але-ж некалі вучыліся разам і цяпер вучымся, толькі ў розных школах, і мне ўсё цікава ведаць. Яшчэ тады, як пакідаў я дом, я сказаў сабе, што напішу табе. Збіраўся напісаць, як у Мінск прыбыў, а потым адлажыў, покі не выясніцца справа з маім паступлennем.

Каб апісаць усё па-парадку, то трэба было-б вельмі многа пісаць. Вышаў я тады адзін і мне маркотна нейк

зрабілася; ішоў-жа я ў незнаёмы горад, дзе ўсе мне чужыя. Адну станцыю прайшоў і заначаваў на ёй, а адтуль паехаў машынаю дармагалам. Выпадкам я пазнаёміўся там з адным добрым стрэлачнікам, і ён пасадзіў мяне на поезд. Наогул мне пашанцавала. Паздаваў я экзамены добра і лёгка, як плюнуць, бо я шмат болей ведаў, чым гэта трэбуецца, каб паступіць на рабфак. Але здаць экзамены яшчэ не значыць — паступіць: наехала ўчацвёра больш, чым можна прыняць. І мяне былі не прынялі. Горка мне было. Што рабіць? Пайшоў я да вышэйшага начальства ў Галоўпрафобры і там нават шуму нарабіў, проста біцца хацеў, бо я быў пастаўлен перад фактам голага змагання — быць ці не быць. Разумеецца, не задзёрыстасць мая памагла мне, а маё становішча, як выгнанага з дому, — за што? ты ведаеш. І мяне залічылі на рабфак звыш нормы, а потым усё ўладзілася, і мяне запісалі сапраўдным студэнтам рабфака, далі пенсію дванаццаць рублёў і гатовае памяшканне.

Ты не ведаеш, Аленка, як я рад, што вучуся! Я нічога не ведаў, ідучы шукаць навукі, і цяпер яшчэ многа чаго не ведаю, але я чую, што мае вочы прасвятляюцца, што перада мною адчыняецца зусім новы свет; і ўсё тое, што праходзіла перад маімі вачыма, што не спыняла на сабе маёй увагі або накіроўвала яе ў другі бок, цяпер устае перада мною ў новым асвятленні, набывае зусім другі сэнс і характар. Я цяпер ведаю ролю пралетарыята ў рэвалюцыі і яе ролю ў тым, каб завесці новыя парадкі і новае жыццё. Для мяне цяпер усё больш і больш праясняецца пагляд і на сябе самога, як на адзінку грамадскага калектыва. Наогул, Аленка, шчыра табе раю звярнуць большую ўвагу на грамадазнаўства. Чытай газеты, але іх яшчэ трэба і ўмець чытаць.

Ты ў гэтым годзе скончыш сямігодку. Што будзеш рабіць потым? Ці думаеш на гэтым спыніцца, ці вучыцца далей? Здаволіцца адною сямігодкаю не выпадае, бо яна мала дае. Трэба прабівацца ў вышэйшую школу, каб заняцца навукаю як належыць. Я думаю, скончыўшы рабфак, падавацца ва універсітэт. Трэба добра павучыцца, каб быць карысным у жыцці. Добра падгатаваўшыся, і

ты можаш папасці туды. Не трэба толькі спяшацца замуж выходзіць. У нас многа дзяўчат вучыцца. Усякія ёсць. Сярод нашых рабфакаўцаў розныя людзі: і моладзь, і людзі сталыя, з барадамі. Ёсць і жанатыя, а некаторыя тут і жэняцца, і замуж выходзяць. Я на гэта гляджу, як на рэчы непатрэбныя. Калі навука, дык навука.

Вольнага часу ў мяне мала. Многа чытаю, мала куды хаджу. Жывем мы ў агульным памяшканні, у паасобных пакойчыках. Выдаем насценную газету. Некалькі сваіх артыкулаў даў і я. Мяне больш цікавіць «наш быт», і ў гэты аддзел і пішу. Яшчэ трэба сказаць табе, што паэтаў цяпер развялося, як камароў у балоце. Са мною таксама жыве адзін паэт. Слаўны ён хлапец, і мы з ім дружым. Адна яго загана, што ён паэт. Але ён сваёю паэзіяй карыстаецца ў меру. Калі яму няма за што купіць папярос, то ён кажа: «Трэба, брат, верш злажыць — курыць няма чаго», і садзіцца пісаць. Вершы-ж піша затым, што за радок даражэй плацяць, і верш, кажа ён, вельмі лёгка напісаць. Аб нашым быце я напішу табе, калі толькі прышлеш мне сваё пісьмо. За паэтаў не гневайся на мяне, бо я ўпусціў з памяці, што і ты пішаш вершы, але-ж вельмі многа фабрыкуецца гэтага тавару.

Я часта, Аленка, успамінаю цябе... Ну, і бывай здарова. Памятай, што трэба яшчэ вучыцца табе. Прыедзеш на зімнія вакацыі — зайдзі да нашых. Я не скора, мусібыць, прыеду да сваіх.

Усяго найлепшага. Сцяпан Барута».

Некалькі разоў прачытала Аленка гэты ліст. У некаторых момантах чытання ёй то было прыемна, то горка і крыўдна. Асабліва з гэтымі вершамі яна так і ведала — насмяецца з яе Сцёпка. Аленка доўга ўзважвала, чаго больш ў Сцёпкавым лісце, добрага ці благога для яе, напісаць яму ліст ці не?

## X

Сярод таварышоў Сцёпка выдзяляўся сваёю стараннасцю ў навуцы, сваёю сталасцю і сур'ёзнасцю. За гэта яго празвалі тут другім Ламаносавым, тым больш, што

ён не пабаяўся пайсці пяхотам цэлых сто вёрст, каб паступіць на рабфак. Але-ж яму больш нічога і не аставалася, як толькі вучыцца. Навука гарнула Сцёпку і давалася яму лёгка. Ён памятае, як трудна была тая дарога, што прывяла яго сюды, і якую адказнасць узяў ён на сябе, кінуўшы бацькаў дом. Таксама не забывае ён і тых слоў, што кінуў людзям, выходзячы са свайго двара: «будаваць новы зруб на новы калодзеж». Сцёпку самому падабаліся гэтыя словы, і самае важнае тут тое, што вырваліся яны самі сабою, не надумана. Трэба даказаць усім, што ён сваіх слоў на вецер не кідае, і калі думаюць аб ім людзі, што ён — адшчапенец, што з яго толку не будзе, то памыляюцца. Апрача ўсяго гэтага, тыя ўмовы, у якіх яму давялося быць, яго здавольвалі: ёсць разгон для навукі, можна чыста хадзіць і не быць галодным. Пасцель у яго такая, што ў Заборцах магла яму толькі прысніцца.

Сцёпка быў трохі дзікаваты і замкнуты. Ён стаяў як-бы крыху наводшыб ад таварышоў і пільна прыглядаўся да ўсяго, што праходзіла тут перад яго вачыма. І перш за ўсё ўвагу яго спыняў іх вучнёўскі быт і асабліва адносіны паміж хлопцамі і дзяўчатамі. Адносіны гэтыя былі самыя простыя і звычайныя. У часе перапменак па карыдорах і аудыторыях усе яны шумелі, ганяліся адны за другімі, дурэлі, як гэта ўласціва моладзі. А то проста хадзілі ў парах з дзяўчатамі, пабраўшыся за рукі ці «падручку», ці проста абняўшыся.

Сцёпку дзівіла гэтая прастата і натуральнасць, але сам ён не адважваўся прайсціся так з дзяўчынаю, як гэта рабілі яго таварышы-хлопцы, бо Сцёпка бачыў, што ў гэтых адносінах ёсць нешта не зусім сяброўскае, як ні стараліся адны і другія надаць гэтым адносінам характар сяброўскасці: за сяброўскасцю хавалася нешта іншае.

Часам і Сцёпка са сваім прыяцелем Сымонам Галызаю, з тым паэтам, аб якім ён пісаў Аленцы, выходзіў на карыдор. Яму проста было цікава пацерціся тут, зрабіць пэўныя назіранні, каб мець матэрыял у газету і праверыць некаторыя свае мыслі.

Скончылася лекцыя. З аудыторый па кватэрах сталі разыходзіцца. Шумнаю грамадою хлынула рабфакаўская братва, у выхад на сходы імкнецца. Штурхаецца, бурліць,

жыве. Вясёлая баявая Насця Чычка, ёмкая, з мужчынскімі ўхваткамі, бураю налятае на мізэрнага Міхайлу Драбка, хватае пад паху і — круць з дарогі, а сама наперад бяжыць, за пярылца бярэцца, каб на ніз спусціцца латвей. Крутнуўшыся ваўчком, вёрткі Драбак наганяе Насцю, закідае рукі ёй на плечы, садзіцца «катла», а Насця пад шум і рогат духам на ніз імчыцца з ім.

— Вось пракаціўся — лепш, як на аўтобусе, — смяецца Драбак і паказвае цэлы рад белых зубоў.

## XI

Сымон у зацішны куток падаецца, карандаш бярэ і з сшытка лісток паперы вырывае. У яго ёсць ахвота напісаць што-небудзь, рассеяць свой настрой, выявіць сябе, паказаць сваё «я». І паўстае пытанне: варта яму пісаць ці не варта? Трэ' было-б з кім парадзіцца. У Сымонавай галаве зараз-жа і план узнікае — бліжэй пазнаёміцца з арганізацыяй маладых паэтаў, увайсці ў яе. А для гэтага трэба мець у руках нешта такое, з чым можна было-б у людзі выйсці. І першая задача — напісаць, напісаць такі твор, каб адразу відаць было, хто такі Сымон Галыза. І гутарка аб ім пройдзе, як аб выдатнейшым маладым паэце. Усе звернуць на яго ўвагу. Усё гэта захапляе Сымона. У Сымона вір гудзе-шугае. І мыслі і вобразы, як снег у мяцеліцу, кружацца; іх трудна стрымаць, падпарадкаваць сваёй волі, накіраваць іх на пэўную дарогу і даць ім пэўнае афармленне. Але Сымон несвядома падпарадкуецца нейкаму рытму, якога нават і не заўважае. Хочацца яму заклікаць людзей на вялікую новую працу, і ўвесь час у яго гэтае «гэй» на языку верціцца. Сымон нічога не бачыць навокал сябе, вочы яго блішчаць, пазіраюць у адзін пункт, нарэшце ён хапае карандаш, паперу, і піша:

Гэй, прайшоў Кастрычнік плугам,  
Пралажыў мільён разор!  
Дык выходзьце шчыльным кругам—  
Ёсць разгон тут, ёсць прастор!  
Гэй, за працу ўсе дзвання,  
Грамадою, як адзін!

Грымнем песню, гімн змагання,
Злітнай воляй цьмы грудзін!
Хай пачуюць па ўсім свеце
Нас, рабочых і сялян,
Як пусцілі мы на вецер
І паноў, і іх абман!
Нам не трэба дармаедаў!
Нам няма дарог назад,
Бо народ наш волю зведаў
І зажыў на новы лад.
Дык выходзьце ўсе да працы!
Сам ідзі і кліч другіх!
Не на небе — тут палацы
Мы збудуем без святых!
Гэй, звініце, грайце, струны:
Мы пакінем вечны след —
Пабудуем Дом комуны,
Дом адзін на цэлы свет!

Пішучы, Сымон увесь гарэў, як у гарачцы. Ён бордзенька перапраўляў тэкст, мяняў словы, выразы, касаваў цэлыя строфы. І толькі тады ўжо, калі верш быў перапісан, Сымон-мастак адышоў, саступіў месца Сымону-чытачу і самакрытыку. Чытач-крытык быў задаволены.

Асабліва падабалася тут яму гэтае самае «гэй». «Гэй, за працу ўсе дазвання!» «Гэй, звініце, грайце, струны!» Першы радок — «Гэй, прайшоў Кастрычнік плугам!» якбы трошкі і не зусім гладкі, бо «гэй» тут можа і не зусім дарэчы. Але і гэтую невялічкую шурпатасць Сымон ухіліў, ухіліў вельмі проста: увесь яго верш праходзіў пад знакам «Гэй!» Ён і назваў яго «Гэй!» Зусім добра. Сымон прачытаў верш яшчэ раз — добра! А каб прадэкламаваць яго? Яшчэ лепш вышла-б. Цяпер у Сымона па закону эвалюцыі аўтарства з'явілася моцнае жаданне прачытаць свой твор каму-небудзь, каб пачуць голас сапраўднага чытача-крытыка. У кватэры быў адзін толькі Сцёпка. Залажыўшы за спіну рукі, ён хадзіў ад адной сцяны да другой. Відаць, думаў нешта. Часта на яго гэтая задумлёнасць находзіць. Сымон пазірае на Сцёпку, як-бы пільнуючы той момант, калі найлепей зачапіць яго. Сцёпка мімавольна падняў вочы на Сымона.

— Хадзі сюды, Сцёпка!

— Ну? — Сцёпка стаяў каля Сымона і чакаў.

— Вось ты паслухай. Я ведаю, што ты не любіш паэзіі, але паслухай.

— Ну, — зноў сказаў Сцёпка, гатовы слухаць.

Узяў Сымон лісток паперы і энергічна прадэкламаваў: «Гэй!»

Верш прачытаў з такім-жа натхненнем, з якім і напісаў яго. Скончыў і вачэй на Сцёпку не падымае, чакае, што Сцёпка скажа. Сцёпкава сур'ёзнасць з твару сходзіць.

— Во, гэта верш!.. Добра, дальбог добра!

Сымон прасвятляецца.

— Дык добра, кажаш?

Замест адказу Сцёпка весела гаворыць:

— А ну, чытані яшчэ раз!

Смялей і з большым захапленнем прадэкламаваў Сымон другі раз.

— І адкуль ты ўзяў, што я паэзіі не люблю? Сапраўдную паэзію ўсе любяць і я люблю яе. А твой верш у сто раз лепш сотні другіх, што друкуюцца.

І Сцёпка стаў сам дэкламаваць некаторыя строфы, адступаючы ад тэксту:

Хай пачуюць па ўсім свеце
Нас, рабочых і сялян,
Як пусцілі мы на смецце
І паноў, і іх абман!

— «Як пусцілі мы на вецер», — паправіў Сымон.

— Ну, гэта ўсёроўна: смецце па ветры якраз і лятае добра... Не, брат, слаўны верш!.. Сымон! скажы ты мне вось што. Якраз гэта будзе ў сувязі з вершам. Ці думаў ты калі-небудзь над тым, што мы занадта многа гаворым?

— Як гэта — гаворым многа?

— Да так: слоў у нас вельмі многа. Куды ні пайдзі, усё толькі і чуеш прамовы. Адно якое-небудзь слова выклікае тысячы другіх слоў. Слова на слове едзе і словам паганяе. Выходзіць нейкая слоўная гімнастыка, слоўкультура.

— А чым-жа гэта кепска? Гаварыць складна людзі навучацца. А хто добра гаворыць, той добра выкажыць і думку сваю.

— Каб выказаць разумную думку, не трэба многа прыгожых і выкрутасістых слоў.

— А я ўсё-такі не разумею, што ты хочаш сказаць?

І якая тут сувязь з маім вершам? Для мяне гэта найболей цікава.

Сцёпка на момант апусціў вочы ўніз, як-бы разважаючы, сказаць ці не, або як сказаць гэта, а потым зірнуў на Сымона.

— Я хачу вось што сказаць. Мне здаецца, што за словамі не бачым мы жывой работы, сапраўднага дзела. А *словагаворню* за гэтае дзела прымаем. Цяпер аб тваім вершы. Верш, бясспрэчна, добры. Ты ў ім заклікаеш усіх да работы, да працы, заклікаеш будаваць «Дом комуны». Вельмі добра. Ну, а вось скажы, з чаго ты мысліш пачаць будаваць гэты дом?

— Як з чаго? Перш за ўсё трэба пашырыць ідэі комунізма сярод шырокіх пластоў народу, трэба паказаць усе выгады і ўсе перавагі калектыўнага жыцця перад жыццём індывідуальным, трэба будзіць, падымаць шырокія масы, рабіць іх палітычна свядомымі... Ды ці мала з чаго можна пачаць!

— Займацца прапагандаю? Гаварыць, гаварыць без канца? — запытаў Сцёпка. — Добра, але я думаю, было-б яшчэ лепш, каб і тыя, хто гаворыць, ад слова да дзела перайшлі.

— І пераходзяць.

— Пераходзяць, але мала... Вось што, Сымон, давай летам паедзем куды-небудзь на вёску. Прачытаем наўперад там верш твой, запалім сэрцы, а потым за дзела возьмемся. Я табе скажу, за якое дзела.

І Сцёпка тут выклажыў праграму свае работы.

## XII

На кватэры застаўся адзін толькі Сцёпка. Яго таварышы разышліся, хто куды. Яму нават і на руку было гэтае адзіноцтва, бо часамі-ж трэба пабыць аднаму, зусім аднаму, каб не чуць і голасу людскога. Карыстаючыся вольным днём, Сцёпка падчытаў сёе-тое з таго, што ўваходзіла ў праграму яго дзейнасці на вёсцы. На гэтую справу Сцёпка глядзеў сур'ёзна. Чытаючы, рабіў сякія-такія нататкі, выпіскі, а нарэшце паставіў сабе такое пытанне: ці не пайсці яму па сканчэнні рабфака ў

які-небудзь спецыяльны вуз — па будаўнічай ці па аграмічнай часці? Гэтае пытанне Сцёпка пакуль што пакінуў адкрытым, бо наўперад трэба скончыць рабфак, а затым жыццё і практыка летам на вёсцы памогуць яму правільна развязаць гэтае пытанне. І яшчэ была адна прычына, што таксама казала за адклад: сёння якраз прышоў ліст ад Аленкі. У гэтым лісце было многа цікавага, але Сцёпка прачытаў яго борздзенька — проста не хацеў пры таварышах сядзець над ім доўга, каб не выклікаць гэтым іх зубаскальства, бо зараз-жа падхопяць на язык: «Го, Сцёпку дзяўчаты лісты прысылаюць». Гэта — яго персанальная справа, да якой другім няма ніякага дзела. Цяпер, калі нікога не было, можна прачытаць ліст з належнаю ўвагаю.

Трэба сказаць, што Сцёпка даўно ўжо чакаў адказу на свой ліст. Але час праходзіў, Аленка-ж упарта маўчала. Якая была ці магла-б быць гэтаму прычына? А прычын магло быць многа: ліст мог не дайсці да яе, магла яна пакрыўдзіцца на яго за тое, што пісаў ён ёй аб паэтах, магла яна, урэшце, з кім-небудзь і сардэчную дружбу завесці. Ва ўсякім разе Аленка і яе адказ вельмі займалі Сцёпкавы мыслі. І вось гэты доўгачаканы ліст у Сцёпкавай кішэні.

Выняў Сцёпка з кішэні ліст, палажыў на разгорнутую кнігу — ну, на ўсякі выпадак, — і стаў чытаць.

«Мілы, дарагі і слаўны Сцёпачка!», — пісала Аленка.

Прачытаў Сцёпка, прыгледзеўся да гэтых слоў, сказаў іх шапатком, каб пачуць гукавую прыроду іх, вуха сваё задаволіць, і нават пастараўся пачуць іх у вуснах Аленкі, — з усіх канцоў добра. А як называе яго — «Сцёпачка»... Чатыры толькі словы, а колькі ў іх зместу! Добра нават і тое, што іх тут да пары.

«Не гневайся на мяне, Сцёпка: хацела напісаць табе, як дадому прыехала, ды прастудзілася і так кашляла, што аж страшна было слухаць. Хварэла ўсе канікулы і з хаты нікуды не выходзіла, так, можна сказаць, увесь час на печы і прасядзела. Алесь і Юрка сяды-тады да нас забягалі. Яны ходзяць у школу і вельмі рады, што ты вучышся ў горадзе. «І мы, — кажуць, — скончым школу і

таксама пяхотам пойдзем навукі шукаць». Дома ў вас усе здаровы. І матку тваю бачыла, але пагаварыць з ёю не прышлося. Калі ты пайшоў тады з сяла, то ўсе казалі, што цябе бог пакарае і што не будзе табе шчасця. А як даведаліся, што ты паступіў і вучышся, то здзівіліся, а некаторыя казалі нават, што такім бязбожнікам, як ты, памагае чорт. Пра «святы калодзеж» забыліся. Язэп Дзыгун кінуў сваё «папячыцельства» ў цэркве. Смяялася мая маці і расказвала, што, падвыпіўшы, Язэп прызнаўся людзям, што ён даўно адышоў-бы ад бога, але, паважаючы божую матку, не хоча ёй на старасці рабіць прыкрасці. З навін нашага сяла можна яшчэ адзначыць, што памёр дзед Трондзель. Перад смерцю казаў, што калі апыніцца на тым свеце, то першым дзелам пацікавіцца, ці ёсць там рай і пекла, а потым прысніцца старшыні сельсовета, каб ён афіцыяльна паведаміў людзей на сходзе і расказаў усё, што знойдзе там дзед Трондзель...

Цяпер я зноў у Загор'і. У нас тут зладжыўся краязнаўчы гурток. У гэтым гуртку і я працую. Запісала шмат песень, прыказак, сабрала многа ўзораў тканін. Ёсць у нас і свой краязнаўчы музей... Вельмі цікавая работа ў краязнаўчым гуртку.

Да канца заняткаў засталося два месяцы, а там залікі, і — бывай здарова, сямігодка. Мне нейк і шкада, што скора прыдзецца развітацца з сямігодкаю. Куды я потым дзенуся, сама не ведаю. А хацелася-б яшчэ павучыцца, прабіцца ў вышэйшую школу, пажыць у горадзе. А ці ўдасца гэта, сказаць трудна. Калі я была дома і мне нездаровілася, то маці казала, што гэтае нездароўе ад навукі, бо навука высушвае мазгі, заганяе ў сухоты. Ёй здаецца, што я і так ужо вучоная. Адным словам, відаць, што яна не хоча, каб я далей вучылася. Кажа, што ёй цяжка, што многа работы, а памагаць ёй няма каму.

Я так рада, Сцёпка, што ты свайго дабіўся, жывеш і вучышся ў горадзе. Дзе ты будзеш летам? Прыязджай да бацькоў, яны будуць рады, калі ты прыедзеш. І мне хацелася-б пабачыць цябе, якім ты стаў цяпер. Напішы мне, як ты жывеш там, ты гэта абяцаў у сваім пісьме. Я вельмі была рада, калі прышоў ліст ад цябе. Чытала яго многа разоў. Завошта зневажаеш так паэтаў? Мусі-

быць ты проста хацеў з мяне пасмяяцца? Я хацела пасля гэтага зусім кінуць пісаць вершы, але часам надыйдзе такая мінута, што вельмі хочацца напісаць. Тады я саджуся і пішу і ў гэтым знаходжу вялікую асалоду. Але я больш чытаць і паказваць табе сваіх вершаў не буду. Дараваць сабе не магу, нашто я тады чытала табе свой верш. Ну, але ты глядзі на гэта, як на дзіцячую забаўку — проста дурная была. Цяпер дур гэты ў мяне прайшоў.

Ну, бывай здаровы. Усяго табе найлепшага. Ды не смейся з майго ліста. Хацелася напісаць і больш і лепш. Ну, але няхай на гэтым будзе канец і застаецца так, як напісалася.

Алена Гарнашка»

Прачытаў Сцёпка і задумаўся. Шкада нейк стала Аленкі. І такою блізкаю, роднаю ўвайшла яна ў яго сэрца. І ён пакрыўдзіў яе ў тым сваім лісце! І за што? За яе шчырасць да яго. А які слаўны ліст напісала яму яна! Яна хоча пабачыць яго, яго, такога жорсткага і нячулага.

І Сцёпка стаў упікаць сябе за гэтую жорсткасць. А ўсё ад таго, што ён аб сабе думае больш, чым гэта трэба. Ён і матку сваю пакрыўдзіў, і з Алесем развітаўся тады зусім не па-брацку, і Аленцы прычыніў прыкрасць. Чаму ён такі нягодны?

Сцёпка акуратненька зложыў Аленчын ліст і схаваў. Устаў, прайшоўся па кватэры раз, другі. Вобразы дзяцінства і яго вёскі ўсплылі перад ім так яскрава, як-бы яны былі намаляваны перад яго вачыма. Хадзіў Сцёпка і разважаў. Перш за ўсё ён Аленцы напіша, напіша безадкладна, сёння-ж. У Сцёпкавай галаве пачаў складвацца ліст да Аленкі. Ён апіша, у якой абстаноўцы чытаў яе ліст і з якою прыемнасцю чытаў, як нецярпліва чакаў яго, як прабіраў ён самога сябе за свае неабдуманыя словы аб паэтах, і ён зусім не меў на ўвазе тут Аленкі. Калі-ж у яе такое моцнае цягненне да складання вершаў, то гэта ёсць ужо адзнака таго, што Аленка — сапраўдная паэтка. Няхай яна піша, але вясёлыя, жывыя, поўныя энергіі вершы, бо ў жыцці так многа радасці, а ўсякае гора, няўдачы трэба асіліць.

А што Сцёпка не вораг паэзіі, то гэта відаць з таго, што ён з прыемнасцю чытаў верш Сымона Галызы — «Гэй!» Ён нават папросіць у Сымона гэты верш і пашле яго Аленцы, як прыклад тых вершаў, якія Сцёпку падабаюцца. Далей напіша, каб Аленка весялей глядзела на жыццё, на сваю далейшую навуку. Калі што, то ён дапаможа ёй.

Сцёпка ўжо быў памкнуўся, каб узяцца за пісанне ліста Аленцы, ды раптам спыніўся: прышоў Сымон Галыза.

## XIII

Прыслаў Сцёпка адказ на Аленчын ліст.

Гэты ліст прышоў да Аленкі тады, калі яна ўжо скончыла сямігодку і жыла дома. Яна ўжо нават страціла надзею на гэты ліст і пад уплывам смутнага разважання напісала некалькі лірычных вершаў. Адзін такі верш пачынаўся так:

Я вяночкам мар дзявочых
Мілы вобраз спавіла,
З ім я гутарыла ночы,
З ім шчаслівa я была.

І сэрца забілася ў Аленкі, калі зірнула яна на канверт, на чоткі характар Сцёпкавай рукі. І ліст быў не просты, а заказны. І было ў гэтым лісце тое, чаго Аленка ніяк не спадзявалася: Сцёпкава фатаграфія! Як глянула на гэтую фатаграфію, радасцю зацвіла дзяўчына, і шчокі яе макам загарэліся. Ну, жывы Сцёпка! Як-жа добра ён вышаў! Аленка некаторы час не магла адвесці вачэй — хвацкі хлопец. Сур'ёзны, нешта думае, вочы пазіраюць кудысь далёка, лоб высокі, адкрыты, валасы назад закінуты. Твар падалікатнеў — што значыць у горадзе хлопец жыве, вучыцца! І вусікі чуць прабіваюцца. Глянула на другі бок фатаграфіі, а там напісана: «Дарагому другу дзяцінства, мілай Аленцы на ўспамін ад Сцёпкі. Мінск, 30/V 1924». Да сэрца прыгарнула Аленка Сцёпкаву фатаграфію, тайком пацалавала яе, схавала і пачала чытаць ліст.

Сцёпка паведамляў яе, што гэтым летам ён не можа прыехаць у Заборцы, хоць яму і дужа хочацца пабачыцца з Аленкаю і наогул пабыць дома. Летам ён паедзе ў далёкую акругу аж пад самае Палессе і там прабудзе аж да канца канікул. Пытаўся, як скончыла Аленка сямігодку і што думае далей рабіць. З свайго боку ён радзіць ёй не закідаць кнігу і не падаць духам: можна падгатавацца ў вуз самой, як падгатаваўся Сцёпка сам, каб паступіць на рабфак. Ён вышле ёй праграмы, а яна няхай напіша яму, якія кнігі ёй патрэбны — і гэтыя кнігі ён ёй вышле. Не трэба зварачаць увагі на тое, што маці ёй кажа: жанчына павінна прабіваць сабе дарогу ў новае жыццё. Ён напомніў тут словы Леніна аб тым, што і кухарка павінна ўмець кіраваць дзяржаваю, і напісаў, якое значэнне мае сялянка (разумеецца, адукаваная) у арганізацыі новага быту ў вёсцы. Толькі тады культура ў вёсцы падымецца на належную вышыню, калі культурнаю стане жанчына-сялянка.

Далей апісваў Сцёпка свой погляд на паэзію і на яе значэнне як у рэвалюцыі, так і наогул у жыцці чалавека, і сам Сцёпка ні ў якім разе не з'яўляецца працiўнікам яе. Аленка не павінна крыўдзіцца на яго за рэзкае слова яго аб паэтах, бо часта, трэба прызнацца, прыходзіцца чытаць такія вершы, што і сам Сцёпка, хоць ён ні ў якой меры не паэт, але напісаў-бы лепш. На падставе некаторых прымет залічыў ён Аленку ў сапраўдныя паэты, а дзеля гэтага ніякім чынам не трэба закідаць ёй «сваю размову з музамі».

У канцы Сцёпка пісаў, што ён намеціў сабе план работы на летні час і гэты план ён пастараецца ажыццявіць у Заборцах, куды ён прыедзе на другое лета. «Ты-ж, Аленка, жывучы дома, прыглядайся да балючых месц вёскі, да яе патрэб, пішы ў газету «Совецкая Беларусь», асвятляй сучаснае жыццё вёскі, змагайся з яе алмоўнымі бакамі. Гэта будзе твая першая грамадская работа. Яна незаметна ўцягне цябе ў карысную працу. Арганізуй нашых дзяўчат, чытай ім газеты — часу знойдзецца. А я прыеду — работы вам усім хваціць. Заеду на месца, напішу табе і дам свой адрас. Бывай здарова! С. Барута».

Гэты ліст надта ўзрадаваў Аленку, ажывіў, падняў яе настрой, выклікаў цэлы рад новых пытанняў у сувязі з

грамадскаю работаю. А Сцёпка яшчэ больш вырас у яе вачах. Не было таго дня, каб Аленка не паглядзела на яго фатаграфію. Такую фатаграфію прыслаў Сцёпка і матцы.

Алесь, спаткаўшы Аленку, заклікаў яе ў хату і паказаў ёй Сцёпкаву фатаграфію. Аленка паглядзела, сказала, што вельмі добра вышаў, а пра тое, што і ёй прыслаў Сцёпка, нічога не сказала.

Раней Аленка мала зварачвала ўвагі, чытаючы газеты, на допісы з месц. Цяпер-жа стала прыглядацца да іх, каб па ўзору іх і самой напісаць, бо цяжка зрабіць першы крок. Напісала адну карэспандэнцыю, падпісала яе прозвішчам, скамбінаваным з яе і Сцёпкавага прозвішча — «Багар». Ніхто не дагадаецца, хіба толькі Сцёпка, а ёй, зразумела, і прыемна. На жаль толькі, яе карэспандэнцыю чамусьці не змясцілі. Напэўна не дайшла. Затое-ж у часе жніва Аленка падгаварыла чараду дзяўчат і з імі хадзіла жаць жыта ўдаве Тэклі, бо сама яна была хворая, а сын яе адбываў лагерны збор.

Незаметна для Аленкі прайшло гэтае лета.

Настала восень, забушавалі вятры. Кудлатыя нізкія хмары бясконцаю кудзеляю рассцілаліся па небе, сеючы халодным дажджом і дробным градам. Заляскалі церніцы па дварах каля сялянскіх хат, застукалі цапы на таках... Аднатонныя песні спявала восень, жалобна шумеў аголены лес. Вечарамі падслепаватыя вокны сялянскіх хат мільгалі сваімі цьмянымі бляскамі з-пад стрэх, як прыжмураныя і патускнелыя старэцкія вочы з-пад навіслых брывей.

У Заборцах было некалькі хат, больш прасторных і светлых, дзе ў доўгія асеннія вечары збіралася моладзь. Схадзіліся на вячоркі дзяўчаты з прасніцамі і калаўроткамі, а да іх далучаліся хлопцы. Не столькі было тут той работы, колькі смеху, жартаў, песень і ўсяго таго, што трэба моладасці. Адпаведна свайму густу і свайму культурнаму стану, знаходзіла яна сабе і забаўкі. Да Аленкі таксама прыходзілі яе таварышкі. Натуральным парадкам тут рабіўся пэўны падбор і падзел моладзі. Вакол Аленкі гуртавалася больш моладзь новага кірунку, моладзь граматная, любіўшая кнігу, моладзь, што шукала дарог у новае жыццё. Аленчына хата ў насмешку была

празвана «Рабфакам». Так празвалі яе хлопцы, прадстаўнікі старога сяла. Праходзячы вечарам каля хаты Андрэевых, яны дзіка свісталі, гагокалі, адпускалі непрыстойныя жарты. А потым хтось з іх і песню зламсыў пра Аленку:

Вось і стала я вучоная,
Непрыступная, чырвоная,
Не хачу за гаспадарыка,
А падай мне камісарыка.

Аленцы было гэта вельмі прыкра, але яна старалася не зважаць на такія выхадкі.

Незадоўга да сёмай гадавіны рэвалюцыі сабралася заборцаўская моладзь у школе. Тут была і Аленка і яе таварышкі: Маня Гулька, Марынка Пракапчук, Люба Андручэня і хлопцы: Мікіта Дудзік, Макарка Лагун і другія. Гатаваліся да свята. Была рэпетыцыя, збіраліся паставіць адну з новых п'ес. Рэпетыцыя вялася пад кіраўніцтвам настаўніка Амяльяна Рэдзькі. Артысты захапіліся сваімі ролямі і выконвалі іх старанна.

— Выдатна! — пахвальваў настаўнік артыстаў.

Як толькі скончылася рэпетыцыя, у школу ўвайшоў малады незнаёмы хлопец, высокі, чарнявы, з бліскучымі вачыма, стройны і досыць прыгожы. Яго паяўленне тут было нечаканым і зацікавіла маладых артыстаў. Настаўнік падышоў да яго. Незнаёмы хлопец назваў сябе і сказаў, чаго ён сюды прыехаў, пасля чаго настаўнік прамовіў да моладзі:

— Прыехаў таварыш з Мінска па справах комсамольскай ячэйкі.

Настаўнік вышаў, а малады хлапец падышоў да моладзі, паздароўкаўся.

— Дазвольце быць знаёмым з вамі. Маё прозвішча — Шулевіч. Я хачу пазнаёміцца з вашаю работаю і наогул, як вы жывеце, у чым вам трэба дапамагчы.

Шулевіч пабываў у некалькіх месцах. Камандыроўка яго аказалася вельмі цікавая, але тую ролю, дзеля якой ён выехаў з горада, выпаўніць было цяжка: усё гэта — інтымныя людскія справы, як падыйсці да іх? Праўда, сабраў ён многа цікавага матэрыялу, яго закідалі пытаннямі, скардзіліся на тое, што мала літаратуры і што

цэнтр не заўсёды чутак да культурных патрэб на мясцах. Гэтае знаёмства з комсамольскімі ячэйкамі на мясцах навяло Шулевіча на мысль напісаць другі даклад — аб патрэбах і дапамозе комсамольскім арганізацыям на вёсках.

У Заборцах Шулевічу прышлося заначаваць. Вечарам сабралася моладзь у Аленчынай хаце. Сюды зайшоў і Шулевіч. Калі ён даведаўся, што Аленка збіраецца далей вучыцца, то адобрыў яе намер.

— Я вітаю ўсіх, хто ідзе ў навуку, — казаў ён, падсеўшы да Аленкі. — А вам проста грэх марнець у глушы. Вы павінны прабіць сабе дарогу і вырвацца на шырокія прасторы жыцця.

— А дзе такія шырокія прасторы жыцця? — запытала Аленка.

— У шырокіх размахах грамадскай работы, работы па замацаванню тых пазіцый, што заваёваны Вялікім Кастрычнікам.

— А хіба-ж у глушы няма такіх прастораў?

— Глуш заглушыць вас. Трэба пажыць у горадзе, павучыцца, развіць і ўзброіць прыродны свой розум, тады і ў глушы не страшна.

— Я і хачу вучыцца. А потым-бы я зноў вярнулася ў вёску: працавала-б у ёй. Ну, настаўніцаю ў школе.

Шулевіч паглядзеў ёй у вочы.

— Вы, Алена, такі чалавек, што адразу хіліць да сябе. Бываюць на свеце такія людзі. Ніколі іх не знаў, а спаткаеш, скажаш слова, пачуеш ад яго, і ўжо здаецца, што ты яго даўно-даўно ведаеш. Проста ён як-бы родны табе, блізкі твой друг. Давайце будзем прыяцелямі?

Аленка паглядзела на яго бачлівым поглядам.

— А ў вас, мусібыць, многа такіх прыяцеляў?

Шулевіч уздыхнуў.

— Іх вельмі цяжка знайсці.

— А вы іх усё шукаеце? І чаму вы думаеце, што я была-б вашым прыяцелем?

— Так адчуваецца. Мне так здаецца.

Аленка засмяялася.

— У нас у вёсцы кажуць, калі каму што здаецца: «перахрысціся — не будзе здавацца».

— З вамі трэба гаварыць асцярожна.

— І трэба заўсёды думаць, што гаворыш. Гэта мая мама так кажа.

Шулевіч змоўк і пабарабаніў пальцамі.

— А дзе-ж вы вучыцеся? — запытала зноў Аленка.

— На II-м курсе рабфака.

— А ці ведаеце вы... Баруту Сцяпана.

— Ведаю... А вы яго як ведаеце? — здзівіўся Шулевіч.

— Ды гэта-ж наш хлопец, зямляк мой.

— А я і не ведаў.

— А як-жа, — вучыліся разам! І я на яго трохі сярдзіта.

— За што?

— За тое, што да гэтага часу не знайшоў ён у мне прыяцеля.

Шулевічу штось цюкнула.

— А ён вам піша? — запытаўся Шулевіч.

— Вы яшчэ запытаеце, аб чым піша?

«Ці не напісаў ён пра мяне чаго?» — падумаў Шулевіч і пастараўся перавесці гутарку на другое.

На развітанні Шулевіч доўга дзяржаў руку Аленкі ў сваёй руцэ і прасіў Аленку напісаць яму, ён ахвотна адкажа на яе ліст, гатоў дапамагчы ёй усімі спосабамі, як таварыш, як прыяцель. А калі Аленка надумаецца прыехаць у Мінск, то смела можа зайсці да яго.

## XIV

Недалёка ад «святога калодзежа», улева ад дарогі на Загор'е, спрадвеку ляжыць гіблае месца, Гнілое балота. Ніхто не памятае, з якіх часоў утварылася яно тут. Ні легенд, ні паданняў не засталося аб ім. Яно займае велізарную плошчу, валок на дзесяць. Сям-там на гэтым балоце пападаюцца невялічкія астраўкі жорсткай буйнай асакі, гайкі высокіх мятлістых чаротаў. Зялёнымі шляхамі цягнецца шырокалісны аер, і голасцябляны цыбаты сітняк звешваецца над смалістачорнаю гладдзю «чортавых акон», аздобленых круглымі вадзянымі лопухамі. Ні чалавек, ні жывёла не можа ступіць на гэтыя нетры Гнілога балота. Так і ляжыць яно, засланае прэллю гнілых туманоў, поўнае машкары, камарэчы, разносячы заразу.

За балотам пачынаюцца Сухія груды. Няма карысці заборцаўцам і ад гэтых грудоў, бо іх выжарвае сонца, і не расце на іх трава. Прабавалі засяваць іх сям-там, ды кінулі, бо на сіняпёсе нічога не расло, а падвезці гною было і трудна па разбітай грэблі побач Гнілога балота, і не выгадна. Так і пуставалі, аблогам ляжалі і тое балота і тыя груды.

Аб гэтым Гнілым балоце і аб гэтых Сухіх грудах часта думае Сцяпан Барута. Яны так жывы ў яго памяці, што ён памятае кожную драбніцу іх. Ведае ён, што Сухія груды крута спускаюцца да глыбокай даліны рэчкі Міранкі. Па яго меркаванню Гнілое балота ляжыць вышэй жолаба рэчкі. Сама сабою напрошваецца думка — прарэзаць глыбокім каналам грудзі Сухіх грудоў і спусціць Гнілое балота ў Міранку, каб на яго месцы зазелянеў пышны луг. Ідэя, над якою варта падумаць. Гэта была-б яго першая падваліна пад «зруб для новага калодзежа».

Яшчэ тады, калі Сцёпка спрачаўся з Сымонам Галызаю аб марнай трацо слоў, у ім жыла гэтая ідэя. Але яна была першым і толькі адным маленькім звенцам у сістэме Сцёпкавага плана работы на вёсцы. Гэты план ён звязаў з ідэяй эканамічнай культуры краіны. Чым больш думаў і разважаў Сцёпка над сваім планам, тым цвярдзей умацоўваўся над канечнаю яго патрэбаю, тым больш рэальнае афармленне прымаў ён.

Па Сцёпкавай думцы, рост эканамічнай моцы краіны толькі тады пойдзе належным ходам, калі мерапрыемствы дзяржавы не толькі сустрэнуць поўнае падтрыманне самога сялянства, але калі само сялянства пойдзе на дапамогу дзяржаве. А для гэтага трэба выхаваць у ім грамадскую дысцыпліну, уласны пачын і прывычку весці работы калектывам. Сродкам для такога выхавання могуць быць саюзы, якія Сцёпка назваў-бы «калектывамі працы». Грамадскай работы для такіх «калектываў працы» знойдзецца ў кожнай сялібе. Сцёпка і хоча на практыцы спрабаваць, ці можна выступаць з прапагандаю такіх саюзаў. З гэтымі думкамі і ехаў ён у свае Заборцы пасля двух гадоў разлукі з імі.

Цяпер Сцёпка быў ужо сталым юнаком. Шыракаплечы, моцны, як дуб, ён рабіў уражанне спакойнага ча-

лавека, упэўненага ў сваіх сілах. Шэрыя вочы яго пазіралі ўдумліва і сур'ёзна, а часамі насмешліва.

Яго паяўленне ў Заборцах было цэлаю праяваю вясковага жыцця, бо ў свой час ён нарабіў столькі шуму ў сяле, што аб ім доўга гаварылі і прарочылі яму нялюдскую долю.

Аказалася-ж, што ён вярнуўся жывы і здаровы і ў вус сабе не дзьме.

Завярнуўшы ў свой двор, Сцёпка спаткаўся з бацькам. І сын і бацька спыніліся, моўчкі паглядзелі адзін аднаму ў вочы. Сур'ёзнасць раптам зышла з твару Міхайлы Баруты, а вочы засвяціліся радасцю.

— Глядзіце, што за дуб! І бура не зваліць! — і нота задаволення пачулася ў голасе Баруты-бацькі.

— Дармо, бацька! Досыць пад бурамі гнуцца!

І бацька і сын павіталіся за рукі.

— А нічога сабе кормяць там вас, дальбог... Ну, маладзец, што на бацьку не зацяўся. Пойдзем-жа ў хату... Давай свой «чумадан».

Не зрабілі і двух крокаў, як з хаты выбегла маці.

— Ах, сыночак мой, Сцёпачка! — і са слязьмі кінулася да сына.

— Папрабуй узяць яго на рукі, — пажартаваў Міхайла.

Усе трое ўвайшлі ў хату. Зараз-жа прыбег і Юрка; Алеся не было дома, у полі быў. Маці закідала сына пытаннямі, плакала і смяялася. А Сцёпка паважна расчыніў чамадан і выняў адтуль вялікую суконную хустку, — гасцінец для маткі, а потым вывалак боты на бацькаву нагу, а для братоў дастаў кусок матэрыі на кашулі, карандашы і сшыткі. Юрка зараз-жа пабег з карандашом на вуліцу пахваліцца сваім гасцінцам і нават распісаўся некалькі разоў на сценах. Падышлі сваякі і суседзі. А па Заборцах скора пайшла гутарка, што Сцёпка «навалок» дадому дабра.

Падвечар таго-ж самага дня пайшоў Сцёпка за сяло.

— Куды-ж ты, сынок, пойдзеш? — запытала маці.

— Прайдуся пад «святы калодзеж».

— Хаця-ж ты, сынок, не чапай яго, — затрывожылася маці.

— Не, — махнуў рукою Сцёпка: — зусім не тое ў мяне на ўме.

А потым, запыніўшыся, сказаў да бацькі:
— Ведаеш, тата, што я тут хачу рабіць?
— Ну?
— Думаю папрабаваць спусціць Гнілое балота ў Міранку.
Паглядзеў Міхайла на сына, і твар яго нейк змяніўся.
— Вось гэтая, брат, думка была і ў мяне, дальбог!
Памаўчаў.
— Уся справа ў тым, каб знайсці рукі, — сказаў ён, — ну і трэба галава, каб магла пакіраваць гэтаю справаю.
— Эге, — весела азваўся сын: — калі такая думка была ў цябе, то яна напэўна была і ў другіх галовах.
— Ты што-ж хочаш сказаць, што мая галава горшая за другія?
— Не, я толькі хачу сказаць, што Гнілое балота не будзе балотам.
— Ну, але-ж гэта трохі цяжэй, ніж раскідаць «святы калодзеж».
— Пабачым.
Сцёпка вышаў, а Міхайла стаяў на дварэ, пазіраў услед сыну і штось разважаў, а потым кіўнуў сам сабе галавою: «Ёсць у хлопца галава: бач ты, што замысліў!.. Ну, ну... Славу сабе набыў-бы. Цікава, кудою думае канал павесці?»
Праходзячы каля «святога калодзежа», Сцёпка запыніўся. Новы крыж і зруб паспелі пасівець ужо за гэты час. Сцёпку прыпомнілася тая ноч, калі ён з хлопцамі разбурвалі гэты калодзеж. «Разбурыць трэба самую ідэю, а зруб і крыж — гэта што?» — падумаў Сцёпка і пайшоў далей. Мінут праз дзесяць ён стаяў над Гнілым балотам і прагным поглядам азіраў яго тапаграфію, яго зялёныя шаты аераў, чаротаў, сітняку і пышных купін. З аднаго боку над балотам цягнуўся вал досыць правільным поўкругам. На гэтым вале, пахіліўшыся над балотам, стаяў старэнькі-старэнькі дуб, тоўсты і нізкі з сухім верхам. «Ці не было тут калі возера?» — думаў Сцёпка. Другім сваім поўкругам Гнілое балота ўпіралася ў Сухія груды. Груды былі значна ніжэй процілеглага вала. Так, ён не памыліўся: на-вока заметна, што балота ляжыць вышэй даліны Міранкі. Спусціўся ў даліну, пастаяў, штось мяркуючы, а потым павярнуў назад да Гнілога ба-

лота, лічачы крокі. Тысяча восемсот крокаў, трохі болей вярсты.

Гэты агляд зусім задаволіў Сцёпку, — можна смела прыступаць да работы. Як добры знак, улічваў Сцёпка і тое, што сказаў яму бацька.

«Ну, балота, пабарукаемся з табою, патрывожым твой спакой!»

Ужо змяркалася, калі Сцёпка падыходзіў да Заборцаў. А на вуліцы бабка Агата казала суседцы Таклюсі:

— Каля «святога калодзежа» стаяў і пазіраў. А потым снаваў паміж рэчкаю і Гнілым балотам! — бабка Агата гаварыла гэта таямнічым голасам.

— На душы ў яго неспакойна! — аўтарытэтна адказала Таклюся: — «Святы калодзеж» у яго з памяці не выходзіць.

У той-жа вечар у хаце Кандрата Гугі адбыўся сход, скліканы з прычыны прыезду Сцёпкі. Сцёпка сам праз Юрку паслаў запрашэнне Аленцы. Сабралася многа хлопцаў і дзяўчат.

— Таварышы, — звярнуўся Гуга да сходу: — да нас прыехаў наш таварыш і зямляк, Сцяпан Барута. З намі ён прабудзе ўсё лета. У яго ёсць план работы, аб якім ён і даложыць вам.

У кароткіх і простых словах расказаў Сцёпка сходу аб задачах эканамічнага адраджэння краіны, аб ролі рабочых і сялянства і ў першую чаргу аб ролі актыўнай моладзі ў гэтым эканамічным будаўніцтве. Затым ён перайшоў да свайго плана. Па меры таго, як выкладаў Сцёпка свой план, слухачы ўсё больш і больш захапляліся ім. І не так вабіла і прыцягвала іх тая карысць, што можа быць у выніку ажыццяўлення Сцёпкавага плана, як самы размах і велічыня той задачы, што ўставала перад імі. А калі далей Сцёпка загаварыў аб арганізацыі «калектываў працы», аб іх задачах і дзейнасці, то ўсе, як адзін, тут-жа пастанавілі скласці такі калектыў.

— Ды тут і старыя бабы запішуцца, калі прачуюць, што з Гнілога балота можна сена сабраць, — заўважыла Марынка Пракапчук.

«Добры пачатак», — думаў Сцёпка.

Аленка чакала Сцёпку, як яны і ўгаварыліся, на сцежцы каля Дзям'янавай клуні.

— Я сёння-ж хацеў пабачыцца з табою, Аленка, і запрашэнне табе паслаў. Ну, пакажыся-ж, што ты за чалавек?

— Які ўжо там з мяне чалавек? — засаромілася Аленка.

— І чалавек і дзяўчына ты адлічная, — паглядзеўшы на Аленку, сказаў Сцёпка.

— Я вельмі рада, калі гаворыш праўду.

— Ну, як-жа твая падгатоўка?

— Слаба, — то тое, то другое замінае, і часу малавата.

— А ведаеш, Аленка, што? — можа-б ты ў педагагічны тэхнікум спрабавала? Так-бы ў канцы лета і паехала-б.

— У Мінск?

— Але. Падумай. Справа там наладжана добра... Ёсць сэнс.

— А хіба ў тэхнікум! І сама я трохі думала аб ім.

— Ну, як-жа ты жывеш, Аленка?

— А нічога. А як ты, Сцёпка, пасталеў, проста хоць куды!

— А Шулевічу ты пісала?

— Не: буду я пісаць чорт ведае каму! Скажы, што ён за чалавек?

— Пустазвон і... дзяўчат зводзіць. І горш за ўсё — дзяўчаты яго любяць.

— А цябе хіба не любяць?

Сцёпка ўздыхнуў, а потым сказаў:

— Я хацеў-бы, каб мяне пакахала... Ну, адна яна.

— Хто? — ціха спытала Аленка.

— Тая, каторую я пацалую.

Абняў Сцёпка Аленку і пацалаваў.

— Дурны-ж ты: яна даўно-даўно цябе любіць. — І Аленка сама прыгарнулася да Сцёпкі. Пацалаваў яе Сцёпка, а потым сказаў:

— Ты, Аленка, памятай: ніхто цябе так не палюбіць, як я. Адну цябе пакахаў і больш нікога не хачу.

— Ты праўду кажаш?

— Каб не асушыць мне балота, калі я лгу, — пакляўся Сцёпка.

— Цяпер я паверу табе, — засмяялася Аленка. — Які-ж ты мілы, дарагі, слаўны і смешны!

Слаўная была гэтая ноч, шкада толькі, што борзда світаюць такія харошыя ночы.

## XV

Яшчэ зранку на другі дзень па Заборцах панеслася гутарка аб Сцёпку. Адны казалі, што хлопец крануўся розуму, і гэта ёсць божая кара за «святы калодзеж». Такія гутаркі былі пушчаны бабкамі Агатаю і Таклюсяю. Другія, наадварот, казалі, што мазгі яго працуюць вельмі добра і што шмат якім бацькам не мяшала-б мець такога сына. А калі прайшла чутка, што Сцёпка задумаў асушыць Гнілое балота, то адразу не ведалі, што на гэта сказаць і якое даць тлумачэнне такому смеламу замаху. Адным словам, Сцёпка зрабіўся цікавейшым чалавекам, якога яшчэ не было ў Заборцах.

Пра ўсе гэтыя толкі даведаўся Сцёпка, бо ў яго-ж тут былі і сапраўдныя прыяцелі. Усё гэта Сцёпка ўзяў пад увагу і вечарам склікаў сход у школе. Ніколі не было ў Заборцах такога многалюднага сходу. Сцёпка гаварыў так проста і разумна, што яго слухалі з вялікай цікавасцю. Канчаючы сваю прамову, ён сказаў:

— Я спадзяюся, шаноўныя дзядзькі-грамадзяне, што вы дапаможаце нам, маладым, сваім розумам і багатаю жыццёваю практыкаю, і грамадою мы ў два месяцы скончым гэтую работу.

— Бач, з якою павагаю гаворыць аб старэйшых! — таўхануў локцем свайго суседа Мікалай Зубнік.

— Так, гэта ён — маладзец! — адазваўся сусед Лукаш Гудач.

А калі пасля Сцёпкі слова ўзяў настаўнік Амяльян Пятровіч, усімі паважаная асоба, і падтрымаў Сцёпку па ўсіх пунктах, сказаўшы пра яго, як пра аднаго з самых лепшых сваіх вучняў, якім ён смела можа ганарыцца, то Сцёпка яшчэ больш вырас у вачах сялян.

— Што-ж? — у добры час.

— Паможам, — для сябе-ж, ні для каго.

Сцёпка пакланіўся сходу.

— Я так і ведаў, шаноўныя дзядзькі, што вы дапаможаце нам.

Зашумелі, зазвінелі маладымі галасамі і звонам рыдлёвак Сухія груды. Дваццаць хлопцаў і сем дзяўчат прышлі на работу. І работа закіпела адразу. Паставілі дзве высокія тычкі з саламянымі мётламі каля рэчкі Міранкі, вызначылі месца, дзе павінен прайсці канал, і правялі дзве роўныя барозначкі пад шнур на адлегласці ў сажань адна ад другой. Далёка тыя тычкі, чуць згледзіць зоркае маладое вока. Залацеюць на першых праменнях сонца пяскі Сухіх грудоў, сівым туманом атулілася Гнілое балота, а старэнькі дубок, што за балотам, маўкліва стаіць і грэе на сонцы сваю лысую галаву ды пасмейваецца. «А ну, паваюйце», — як-бы падзадорвае моладзь. Трывожыцца Аленка: «Ці здолееш ты, Сцёпачка, да канца работу давесці?» — думае яна. А Сцёпка, сур'ёзны і спакойны, парадак работы наладжвае, ад балота заставу пакідае, каб у канал вада не найшла, рабоце не шкодзіла. Размеркавалі хлопцы работу сабе.

— Даеш два сажні на брата? — чуецца голас.

— Не гарачыся, таварышы! — спыняе Сцёпка: — памалу, паволі возьмемся, каб не таміцца адразу — работы нам будзе. Канал тут, хлопцы, будзе глыбокі: тут самая высокая часць груду, а далей пойдзе лягчэй.

— Пачынаем! — гукнуў Макар Лагун.

Зашорхалі рыдлёўкі ў зямлі, паляцелі кідкі направа і налева.

— Павольней, павольней, хлопчыкі! — стрымлівае Сцёпка заўзятых таварышоў і сам кідае ў паветра зямлю. Расце земляны вал, ніжэй у дол уваходзяць землякопы.

— Адпачні, хлопцы! — падае Сцёпка каманду.

Вылазяць маладыя работнікі, твары іх ад работы разгарэліся, весела жартамі перакідваюцца ў часе адпачынку.

Хлопцы-падлеткі прыбеглі. Паглядзелі на свежы вал, весела стала ім. Хапаюць рыдлёўкі, у роў лезуць, капаюць, стараюцца.

— Вось нам і змена прышла, — кажуць старэйшыя хлопцы.

— Малайцы, хлопцы! — пахвальвае іх Сцёпка: — ву-

чыцеся гуртам працаваць. Акуратненька, браткі, капайце, вось як тут пачалі: зверху шырока, а падніз вузей.

Старыя заборцаўцы — раскіданыя хмары пасля навальніцы. Яны яшчэ не сталкаваліся, ні да якога пэўнага погляду не прышлі. Адны ходзяць ды ў вус пасміхаюцца: заядла штось адразу моладзь узялася, глядзі, каб назаўтра-ж не астыла. Другія проста не даюць веры, каб можна было на работу столькі народу паставіць. Трэціх зайздрасць трохі і страх забірае, каб з носам не астацца. Чацвертыя на-вока прыкідваюць, колькі-б з гэтага Гнілога балота можна сена сабраць. На адным толькі ўсе сходзіліся: Гнілое балота прыцягвала цяпер увагу кожнага з іх. Проста цікава было, што з гэтага выйдзе. І пасля поўдня ўжо то той, то другі заверне пад Гнілое балота, хоць здалёк паглядзець, што там робіцца.

Дзядзька Сымон тайком захапіў рыдлёўку і таксама папёр на Сухія груды. Схаваў рыдлёўку ў кустах, а сам на месца работы падыходзіць, крок прыпыняе, разглядаецца. Бачыць — высокі вал расце, дружна ў паветры зямля мільгае, толькі шапкі і хусткі землякопаў відаць. Сам сабою смех набягае на губы дзядзькі Сымона. Ідзе работа, а дзядзька Сымон і параду любіць даць. Падыходзіць.

— Памажы вам... — пачынае дзядзька Сымон і не канчае: богавай дапамогі ім не трэба.

— Піонер! — загукалі хлопцы з рову: — ура, дзядзька Сымон прышоў!

— А чаму гэта, дзядзька, без рыдлёўкі? — запытаў яго хтось.

— Я толькі проста паглядзець хачу.

— Добра ўжо і тое, што дзядзька хоць і паглядзець прышоў.

— Эх, вы! — сказаў дзядзька Сымон і крута ў кусты павярнуў, а адтуль з рыдлёўкаю ідзе.

— Брава, брава, дзядзька Сымон!

— А вы што-ж думалі, уломак дзядзька Сымон?

І, захапіўшы дзялянку зямлі, пачаў кідаць яе не горш маладых.

— Не бойся, Аленка, — гаворыць да яе цішком Сцёпка: — глядзі, унь яшчэ два дзядзькі каля балота пахаджаюць.

Аленка радасна ўсміхаецца яму, у вочы заглядае.

І праўда, што ні дзень, новыя работнікі прыбываюць. Не прыдзе адзін, на яго месца два стануць. Сама ўжо праца пакарае, захапляе чалавека, бо ў гэтай дружнай грамадскай працы так многа і музыкі, і паэзіі, і сілы, і хараства.

Яшчэ гучней загаманілі Сухія груды, а балота маўчыць панура, закрыўшыся зялёнаю коўдраю. Дзед-дуб з-за балота глядзіць на Сухія груды, як-бы грамадою любуецца. А грамада працуе. Яшчэ гусцей ляцяць сінія, жоўтыя, белыя камякі зямлі, срэбрам і золатам кладучыся па адзін і па другі бок канала. На ніжэйшае месца выбіраліся, яшчэ спарней выцягваецца канал. Паглядзець — любата! Усё сяло часам збіраецца тут. Адны — працаваць, другія — проста так сабе, палюбавацца. Нават чужыя людзі заходзілі сюды. Глядзяць ды галовамі трасуць.

— Сенакос, сенакос будзе! — кажуць, і Гнілое балота аглядаюць.

— Спусціць-бы і нам сваё балота!

— Няма каму пакамандаваць намі!

— І няма ў нас блізка такой Міранкі!

А заборцаўцаў яшчэ больш ахвота падшыбае.

Каля Гнілога балота пастануць часамі дзядзькі, глядзяць, мяркуюць, праекты строяць. Тут і тэхнікі-спецы ёсць: што ні скажа, як у сцяну ўлепіць.

— Гэта што! — па суху капаць усякі патрапіць, а вось як ты на балоце паскачаш? — часамі пачуецца і голас няверы.

— Дармо, дзядзька: і балоту пашэпчам, дамо рады,— заспакойвае Сцёпка.

— Маладыя ногі і ў балоце не гразнуць, — задорыста адгукнецца хто з моладзі.

Цяпер старых і не адгоніш адгэтуль: у смак увайшлі. Уся гэтая справа сталася блізкаю, душу мазоліла, думкі займала. А работа была нялёгкая, перашкоды былі: расцелюць тут свае срэбраныя невады грымотныя хмары, дажджу нальюць у канал, а там работа надышла, сенакос, жніво. Рабочыя рукі адкідаліся. Але Сцёпка ўпарта вядзе сваё, ні разу не спынілася работа. У дваццатых чыслах ліпеня роўны, глыбокі, акуратны канал ляжаў

між Гнілым балотам і рэчкаю. Але наперадзе было яшчэ многа работы: трэба пратоку зрабіць на балоце ды прарэзаць заставу, злучыць канал.

Тут было многа гоману і спрэчак і розных праектаў, як наладзіць работу на балоце. Адны казалі, што трэба насцілаць грэблю з двух бакоў, дзе-б маглі стаяць рабочыя, каб прачысціць пратоку.

— А мы гэта зробім прасцей і скарэй, — сказаў Міхась Барута.

Ён таксама блізка да сэрца прыняў гэтую справу і дапамагаў сыну. Збілі яны дзве пары перакідных кладак з дошак і прывезлі іх. Палажылі кладкі на балота, на кладкі работнікі пасталі і пайшлі варушыць Гнілое балота. Мацюта-каваль зрабіў спецыяльныя рыдлёўкі-каўшы і сам прывёз іх сюды. Перад заставаю для вады расчысцілі шырокае месца. Работа к канцу падыходзіла. Сяло хвалявалася. З нецярплівасцю чакалі таго дня, калі будзе прарэзана застава.

Тры дні аставалася да «іспаса».

— Мы свой «фэст» наладзім, — казаў Сцёпка, бо моладзь згаварылася пусціць канал якраз у гэты дзень, калі збярэцца народ каля «святога калодзежа». Падгаталіся, як мае быць. Проціў заставы набралася многа вады з балота. На расчышчаным месцы цэлая сажалка стаяла, і вада ўсё прыбывала. Проціў уваходу ў канал зрабілі дашчаную заставу, а зямлю выбралі. Праз дошкі ў канал вада патрошкі прасочвалася, і малюсенькая крынічка пакацілася па каналу ў Міранку.

На «іспаса» дзень выдаўся ясны, цёплы, такі, як і два гады таму назад. Народ пачаў з'язджацца ў Заборцы з самага ранку. Усе двары пазаймалі прыезджыя людзі. А Заборцы гулі гутаркамі аб іх канале. На Сухіх грудах каля каналу народу было, як маку, і свае і чужыя. У поўдзень, калі збіраўся крэсны ход пад «святы калодзеж», хлопцы-школьнікі загаласілі:

— Ваду спускаць! Ваду спускаць!

Народ замітусіўся, паваліў агромністаю грамадою. Азірнуўся а. Ціт і не ведаў, што думаць: ці гэта пад «святы калодзеж» народ валіць, ці на канал глядзець. Сэрца яго затрывожылася. «А можа зноў дапаможа мне

гэты лайдак», — падумаў ён і з непакоем правіў святыя літанні.

Каля «святога калодзежа» спыніліся толькі старыя бабкі, калекі, а некаторыя жабракі з лерамі і гармонікамі таксама пайшлі за народам на «Сухія груды».

Каля дашчанай заставы насыпалі хлопцы курганок зямлі. На гэтым курганку стаяў Сцёпка Барута і ўся моладзь, што дзень-у-дзень ваявала тут на фронце працы. Загарэлая, зморaная цяжкаю працаю, яна была вясёлая, жывая. Яна была гордая свядомасцю, што зрабіла вялікую справу, бо падышла цяпер важная мінута, якою жылі яны ўвесь час сваёй упартай працы.

— Таварышы-грамадзяне! — зазвінеў малады голас.

Узварухнуўся народ і заціх, а на самым версе курганка стаяў без шапкі Сцяпан Барута і гаварыў:

— Мы вельмі рады, што прышлі вы на наш «фэст», на наша маладое свята працы. Мы працавалі, каб спусціць з быстраю рэчкаю гніль Гнілога балота, каб на яго месцы зазелянеў муравою грамадскі луг. Сотні гадоў пакланяліся вы «святому калодзежу», і сотні гадоў стаяла тут Гнілое балота, заражала паветра і разносіла хваробы. І «святы калодзеж» не памагаў вам. Таварышы! Задумайцеся над гэтым. Не «святыя калодзежы», не малітвы бацюшак дадуць вам шчасце і добрабыт, бо шчасце і добрабыт — у вас саміх. Тут зроблена спроба, каб паказаць сілу дружнай грамадскай працы, і вы бачыце вынікі яе, бачыце сваімі вачыма. Але мы зрабілі маленькую частку таго, што нам трэба зрабіць і што мы можам зрабіць. У нас няма добрага будынка для школы, а дзе і ніякай няма школы, у нас няма народнага дома, бібліятэкі, нашы дзеці ўлетку без догляду, нашы саламяныя стрэхі спрыяюць пажарам, нашы дарогі топяцца ў гразі, на нашых грэблях грузнуць коні, на нашых мастах калечацца людзі і жывёла. А ўсё гэта можна ўхіліць, сваімі рукамі пабудаваць новае моцнае, прыгожае і канечна патрэбнае нам. І гэта вы зробіце, калі будзеце выступаць грамадою дружна, згодна. Дык няхай жыве свабодная праца! Няхай закрасуюць і разаўюцца грамадскія «калектывы працы»! Няхай наша нядбаласць пройдзе разам з гэтым Гнілым балотам!

Тут Сцёпка з моладдзю, з аднаго боку, і сталыя сяляне, з другога боку, паднялі дашчаную заставу, праз якую чуць-чуць не пералівалася вада.

З шумам хлынула вада ў канал і пабегла далей і далей, несучы з сабою пясок, кусочкі дрэва, траву. Удоўж канала стаяў па-святочнаму ўбраны народ, моўчкі слухаючы музыку вады. А з-пад «святога калодзежа» далятаў, як-бы з разбітага чыгуну, нудны, гнусавы звон, але з-за шуму вады ў канале яго бадай што і не чуваць было.

Праз тыдзень пасля таго, як быў пушчан канал, паехаў Сцёпка вучыцца; кончыліся летнія вакацыі. Адчуваў ён сябе вельмі добра: па-першае, яго праект — асушыць Гнілое балота — удаўся яму, як лепей не трэба; па-другое, сяляне вельмі сардэчна праводзілі яго і прасілі прыехаць да іх на другое лета, і, па-трэцяе, з ім ехала і Аленка. Што яна паступіць у педтэхнікум, у Сцёпкі не было ніякага сумнення. Аленка-ж была ўпэўнена, што са Сцёпкам яны нідзе не прападуць, але ім яшчэ трэба многа вучыцца, каб ужо потым рука ў руку пайсці ў шырокія прасторы жыцця.

I

Смела і ўпэўнена, як нейкі асілак-забіяка, ходзіць па полі вецер. Ці не захапіла і яго ідэя калектывізацыі, бо ён вельмі гарліва сцірае ўсякія сляды і знакі аднаасобнай гаспадаркі — засыпае снегам вузенькія межы, дзе матляюцца голыя вярхі сухога быльніку, абагульняе загоны і цэлыя палеткі, бязлітасна трасе хірлявыя кусты па канцах шнуроў, як-бы хочучы павырываць іх, каб і следу не засталося ад іх, каб не напаміналі яны аб граніцах. І з асабліваю заўзятасцю насядае ён на двор і сядзібу Пракопа Дубягі, наносячы туды цэлыя гурбы хрыбусткога снегу, пранятага ёмкім марозам. Ад Пракопавага плоту засталіся адны толькі кончыкі колляў над замыславатымі карнізамі снягоў, а клуня па самую страху ўвайшла ў гурбы. І трудна сказаць, чаму такі няласкавы вецер да дзядзькі Пракопа; ці то таму, што яго сядзіба крыху вытыркае з раду другіх сядзіб, тулячыся ў лагчынцы каля балота, што падступае амаль да самай вёскі Затонне, ці можа і таму, што дзядзька Пракоп не надта горнецца да калектывізацыі.

Ужо месяцы са два, а можа і болей, як дзядзька Пракоп носіць у сабе гэты клопат і гэтыя неадступныя думкі аб калгасе. Ды як і не думаць аб ім, калі ўсе і ўсюды толькі тое і робяць, што гавораць аб калектыві-

зацыі, аб калгасах і чым далей, тым усё галасней і ўсё з большым запалам.

Пракоп на двары тупае, пракідае сцежку ад клуні да хлява, ды толькі пачмыхвае носам, каб прачысціць трохі ноздры-люхты ад насеўшага там пылу — ён толькі што дамалаціў апошні пасад грэчкі. Матлошыць вецер Пракопаву бараду і псуе работу яму: засыпае сцежку белымі струменьчыкамі дробнага, пухкага, як мука, снегу. Пракоп не зважае на гэта, упарта скробае лапатаю. Сказаць, не так і патрэбна яму гэтая работа — проста хочацца хоць чым-небудзь заняць рукі, каб адчапіцца ад надакучлівых думак. Але няма ад іх ратунку, свідруюць яны яму мозаг, не даюць спакою, і работа не клеіцца. Разгінаецца, выпроствае сваю крыху згорбленую спіну, трубіць пачырванелым носам у пальцы, на хаду зняўшы рукавіцу, ды глядзіць на пагорак, што за балотцам. На пагорку ледзь рудзее пакручастая дарожка, як баразёнка, узораная плыўкімі палазамі, мясцінамі яна замецена снегам, мясцінамі цямнее рудымі плямкамі конскага памёту. Маўклівая дарога, глуха і пуста на ёй.

«І што яно будзе? — у соты, у тысячны раз пытае сябе Пракоп і не знаходзіць адказу. — І як гэта так? ён больш не будзе гаспадаром на сваёй зямлі! Цяпер, думаецца, ён волен рабіць, што хоча, як хоча і калі хоча, а там, брат, дудкі: рабі тое, што табе скажуць. Нават над сваім конікам не будзе ён гаспадаром!»

Пракоп утыкае ў снег лапату і ідзе ў хлеў. Своеасаблівы і такі знаёмы Пракопу пах хлява і конскага стойла востра б'е ў нос. Падласая карова з закарэлымі ад гною сцёгнамі і трацячка-цялушка стаяць з аднаго боку, а па другую руку, звесіўшы губу, дрэмле над жолабам рахманы чырвоненькі конік. Скаціна лагодна, кожная на свой манер, вітае гаспадара простымі аднаскладовымі гукамі, што адпусціла для іх скупая прырода. Колькі хвілін Пракоп стаіць моўчкі, глядзіць на скаціну, як-бы штось прыкідаючы ў сваім розуме, а потым гаворыць да цялушкі:

— Зробіш ты мяне, воўчае мяса, кулаком! А карысці з цябе — кот наплакаў. Прадаць цябе ці што? Ці ты ў калгас пойдзеш?

Цялушка, чакаючы, каб яе пачухалі пад сківіцаю, трасе галавою і выцягвае морду.

— Не хочаш у калгас? Ой, мусіць, пойдзеш, — гаворыць Пракоп і чухае цялушку, а потым адразу абрывае гэтыя пяшчоты і дзелавіта падыходзіць да каня, глядзіць, як там у яго ў жолабе. Строгім голасам робіць вымову каню за яго недалікатныя паводзіны: конь умудрыўся насыпаць у жолаб таго, чаму быць там не належыць. Пракоп робіць у жолабе парадак і надае іншы характар свайму візіту ў хлеў, хоць асноўнаю прычынаю гэтага візіту было якраз жаданне палюбавацца на сваю жывёлу. Зрабіўшы парадак, яшчэ раз глядзіць на скаціну і выходзіць на двор. Работы няма там ніякай. Яго цягне на вуліцу паслухаць, што чуваць новага, што кажуць людзі. З раёна мелася прыехаць сёння нейкая брыгада. Будуць, кажуць, рабіць калектывізацыю. Пракоп уздыхае і сунецца на вуліцу, яшчэ раз глянуўшы на дарогу.

## II

Густа лепяцца паабапал вуліцы сялянскія хаты з такімі-ж вузкімі і цеснымі, як і сама вуліца, дворыкамі. У гародчыках каля хат за пасівелымі частаколамі намецены гурбы снегу. Маленькія шыбы шчыльна затканы марозам. Тоўстым пластом лёг на саламяных стрэхах снег і, здаецца, яшчэ ніжэй прыгінае да зямлі старасвецкія будынкі, шэрыя, нізкія, аднастайныя. Адбітак старасветчыны, убоства і акасцянеласці налажыў на іх глыбокі след. Але Пракоп прывык да гэтых малюнкаў свае вёскі, як прывыкае прусак да абжытай шчыліны. Ён не бачыць плесні заскарузлага ў сваёй старадаўнасці вясковага жыцця.

Глуха і пуста на вуліцы, хіба толькі часамі прамільгне на ёй жаночая постаць з вёдрамі ды скрыпучым голасам зарыпіць журавель над студняю з трухлявым дзервяным зрубам і гузамі лёду каля яго. Пустым, нібы вымершым, здаецца і само Затонне. Але пад гэтымі прыгнутымі саламянымі стрэхамі, за заснежанымі шыбамі акон ідзе жыццё, вядуцца гарачыя спрэчкі, а часамі і ліквідацыя рухомай сялянскай маёмасці. Сям-там на задворках пылае агнём салома, а вецер разносіць гарэлы пах

свіной шчэці. У гэтых ціхіх на погляд хатах на ўсе лады памінаецца калектывізацыя. Каля яе згуртаваны ўсе думкі, пачуцці і разрахункі практычнага сялянскага розуму, навокал яе вядзецца самая дзейсная агітацыя і за і супраць. Яна робіць людзей і шчырымі прыяцелямі і зацятымі ворагамі, падзяляючы іх на розныя катэгорыі.

Пацягнуўшы носам паветра, Пракоп падымае галаву. Яго погляд запыняецца на хаце Лявона Марыніча. З коміна, дзе ўткнута шэрая пад колер сталі гліняная труба, тарапліва, як-бы яго ліхаманка трасе, плыве-бяжыць сіняваты дымок, а разам з ім расплываецца ў паветры спакуслівы пах сакаўных скварак.

«Гуляе Марыніч, запускі спраўляе, — сам сабе думае Пракоп, — у калгас наважыўся запісацца».

Павярнуўшы галаву на другі канец вуліцы, дзе яна ўжо выходзіць у поле, ён бачыць — чалавек пасоўваецца сюды. Хто-ж гэта? Пракоп прыглядаецца, пазнае. Ды і пазнаць нятрудна: лісіная шапка, кароткая на аўчынах бравэрка, суконныя нагавіцы з некаторым намёкам на галіфэ. Гэта Ігнат Чыкілевіч. Пракоп зноў прачышчае нос, праводзіць рукою па вусах — рыхтуецца да гутаркі з Чыкілевічам. Чыкілевіч — абаротлівы, кемлівы чалавек, спрытны гаспадар, жыве на водшыбе, індывідуальна абложаны, з чым ён ніяк не можа пагадзіцца і лічыць, што з ім паступілі несправядліва.

— Дзень добры, таварыш Пракоп!

Чыкілевіч стараецца паказаць сябе савецкім чалавекам. На людзях ён гарою стаіць за савецкую ўладу і часамі можа, дзе выгадна, падпусціць на яе карысць агітацыі.

— Здароў! —коротка адказвае Пракоп.

Чыкілевіч адразу заўважае, што Пракоп чымся заклапочаны, не ў гуморы.

— Што не весел, галаву павесіў? — пытае Чыкілевіч і вострымі, крыху насмешлівымі вачыма глядзіць на Пракопа. Пракоп, як і кожны селянін, крыху дыпламат. Свае карты раскрывае не адразу.

— Цяпер, брат, невясёлых няма. Усім стала весела. Работу пакідалі. А Марыніч, дык той зараз цэлага япрука прыкончыць. Такое зажарвае смажэнне, што ўсіх тхароў з ваколіцы пасцягвае сюды.. П'юць, гуляюць, як

перад пустым канцом, прагульваюць і зводзяць гаспадаркі... Пагібель чуе народ, — не вытрымлівае нарэшце тону Пракоп. Чыкілевіч таксама мяняе пазіцыю і заходзіць з другога боку.

— Цёмны, дурны народ! Ой, які цёмны! І чаго яму валаводзіцца? Запісваліся-б у калгас.

— Ды некаторыя і пазапісваліся былі, але назад паадпісваліся.

— Бо дурні! — з жарам накідаецца Чыкілевіч: — ну, чым-жа кепска будзе ў калгасе? Ты-ж пасудзі сам: грамада, гуртовая праца, прастор. Ні табе гэтых межаў, ні вузкіх загонаў, дзе і з канём павярнуцца нельга. Зямля-ж, брат, вольнаю з'явілася ў свет, дык навошта дзяліць яе, рэзаць на шматкі, калаціцца з-за яе? А гуртам управіцца з ёю латвей. Што адзін чалавек, а што грамада! Вось табе прыклад. Ты адзін цупаеш цэпам і рукі дранцвеюць, падымацца не хочуць. А стануць чатыры малацьбіты ды як жарнуць — адкуль яно што і возьмецца: і рукі лёгка ходзяць, і цэп сам падымаецца, проста як пад музыку, хоць у танцы ідзі. Так і ў калгасе. Ды ці цапамі-ж там малаціць будуць? Машын табе прышлюць, трактар пусцяць, а ты сабе хадзі ды пасвіствай.

— Як будзеш свістаць, то трасцу і мець будзеш, — панура адзываецца Пракоп: — машына сама рабіць не будзе. І перш, чым пусціць трактар, трэба папацець. І што твой трактар? Трактар каштуе вялікіх грошай: і сам ён дарагі, і бензін аплаціць трэба, аліву. Ды яго-ж хтонебудзь і вадзіць павінен, а мяне ці цябе на яго не пасадзіш. Ды па нашай зямлі, па камяніцы, ці пойдзе табе твой трактар? А паломіцца, вось тады і свішчы. А гною дасць ён табе? Рабіць-жа грамадою хоць, праўда, і выгадна, але ці ўсіх-жа ты на работу паставіш? Адзін будзе працаваць, а дзесятак туляцца ад работы, як сабакі ад мух.

— Дысцыплінка, дысцыплінка, браце, павінна быць! Без гэтага нельга! — Чыкілевіч падымае палец, злёгку грозіць Пракопу, як настаўнік неразумнаму вучню, і пераходзіць ужо на такі спосаб абароны калгаса, каб яшчэ больш адштурхнуць ад яго Пракопа.

— Перш за ўсё патрэбна цвёрдая рука. Трэба пакамандаваць нашым братам, кожнага на работу паставіць

ды прымусіць зрабіць яе. А свае меркаванні і сваю волю прыдзецца ў кішэньку схаваць. Там, брат, не скажаш сабе: сёння зраблю гэта, а заўтра тое, або сёння даўжэй пасплю, а заўтра ўстану раней. Тут, брат, як па гудку на фабрыцы — загулі, і збірайся. І ўжо не паедзеш куды табе зажадаецца. А калі такая патрэба здарыцца, то мусіш да начальства свайго пайсці. Начальствам-жа можа быць і Кандрат Казей, бо хоць яго рукі да работы і не здатны, але язык ходзіць спрытна. Ну, што-ж? работнік з яго хоць і не важны, а адміністратар можа быць добры.

Пракоп, унурыўшыся, слухае, а потым перастае сачыць за словамі Чыкілевіча, разважаючы над пытаннем, ці пойдзе ён у калгас, ці не пойдзе.

III

Андрэй, старэйшы Пракопаў сын, быў у Чырвонай Арміі. Якраз у гэты дзень прышло ад яго пісьмо. Другі Пракопаў сын, Мікіта, сядзеў у хаце і чытаў матцы пісьмо. Між іншым Андрэй катэгарычна патрабаваў, каб ішлі ў калгас, што вельмі радавала і цешыла падлетка Мікіту. Ён ужо не раз казаў бацькам, што калгас мае ўсе перавагі над дробнаю гаспадаркаю. Вось аб гэтым у Тацяны з Мікітам і вялася гутарка. З маткаю Мікіта дагаварыўся лёгка: сваім практычным здаровым розумам яна бачыла, што ў калгасе чалавеку будзе лепей. Яшчэ да Андрэевага пісьма Тацяна выказвала Пракопу думку, што няма прычыны баяцца калгаса, бо калі чалавек будзе працаваць, то яму ўсюды можна жыць. Вось тут, на сваёй гаспадарцы, калі захварэе работнік, дык уся работа спыняецца. У калгасе-ж зусім інакш. Там работа ніколі не спыніцца: захварэе адзін, а на работу стануць дзесяць. Ды і работаю там не будзе так душыцца чалавек. Праўда, гэтыя думкі выказваліся спачатку нясмела, асцярожна. Падаючы голас за калгас, маці пераважна кіравалася інтарэсамі меншага сына, якога яна дужа любіла і паважала Мікіта-ж быў, можна сказаць, чалавек адукаваны. Мала таго, што ён скончыў сямігодку, дык ён яшчэ процьму кніг прачытаў аб калгасным будаўніцтве. Цяпер-жа, калі і Андрэй так цвёрда гаворыць пра калгас, маці стала больш актыўнаю яго прыхільніцай.

— Пражылі мы сваё жыццё. Дзеці заступяць наша месца, — разважала Тацяна, — а раз яны хочуць жыць у калгасе, дык навошта станавіцца ім упоперак дарогі?

Але калі ў хату ўвайшоў Пракоп, маці і сын адразу змоўклі. Пераступіўшы парог і спыніўшыся ў качарэжніку, Пракоп, скосу зірнуўшы на жонку і сына, ушчаміў пальцамі нос, як музыка кларнет, і двоекратна звонка затрубіў. Так ён рабіў кожны раз, калі быў чым-небудзь нездаволены або моцна заклапочаны. Не пазіраючы ні на кога і тупнуўшы разы са два, Пракоп моўчкі распеabsent разаўся і зняў сярмягу. Некалькі хвілін у хаце панавала маўчанне. Пракоп адчуваў, што і ў сваёй уласнай хаце наступала на яго калгасная стыхія, выбівала грунт з-пад ног: ні ў жонцы, ні ў сыне не знаходзіў ён апоры ў сваіх адносінах да калгаса. Але чым крапчэй націскала гэтая стыхія, тым з большай сілаю і ўпартасцю адпіхаўся ён ад яе. Хоць яго аргументы блеклі і трацілі сілу ў яго ўласных вачах, але ён не здаваўся, ламаў галаву, шукаючы новых, прагавіта лавіў іх на вуліцы, на сходах і наогул дзе толькі можна злавіць.

— Апошнімі днямі цябе, Пракоп, і пазнаць няможна, — першая падала голас Тацяна: — ходзіш пануры, як асуджаны, або як-бы на сабе зямлю носіш.

Гэтая прадмова была тою лішняю кropляю, што перапоўніла пасудзіну Пракопавых згрызот. Ён увесь ускіпеў і гатоў быў распрыжыцца ўсімі адзнакамі навальнічнай хмары, але раптам стрымаўся, сам не ведаючы як, і замест маланак і громаў, гатовых вырынуць з яго, са спакойнаю насмешкай адказаў:

— Не можна пазнаць? то, мусібыць, багатым буду.

Тацяна не спадзявалася такога спакойнага тону і наогул Пракопавага адказу, і гэта збіла яе з тропу.

— Невялікае шчасце быць цяпер багатым, — заўважыла яна.

Мікіта, баючыся, што бацькі пачнуць гарадзіць усякае глупства і Андрэева пісьмо можа выпасці з цэнтру ўвагі, палічыў патрэбным умяшацца ў іх гутарку.

— Андрэй пісьмо прыслаў, — звярнуўся ён да бацькі.

Пракоп перавёў погляд на Мікіту, а потым на пісьмо.

— Што-ж ён піша?

Мікіта разгарнуў пісьмо і стаў чытаць. Тацяна ціхень-

ка ўходжвалася, каб не перашкаджаць чытанню, а Пракоп вастрэй наставіў левае вуха і слухаў уважліва, гледзячы ў неакрэслены пункт.

Андрэй паведамляў, што ён здаровы. Апісваў сваё жыццё ў Чырвонай Арміі, сваю вучобу, асабліва спыняючыся на вучобе агульнаасветнага характару, а ў заключэнне, пытаючыся, што робіцца ў іх вёсцы, рашуча патрабаваў ісці ў калгас. Калі Мікіта дайшоў да гэтага месца, голас яго стаў званчэйшы, а тэмп чытання больш паважны. «Пара скончыць з аджытымі формамі гаспадарання на вузкіх палосках і забіць асінавы кол у магілу індывідуальнай гаспадаркі, дзе людзі толькі гібеюць, а на іх целе расце шкодны грыб — кулак. Калектывізацыя сельскай гаспадаркі — вось лозунг сённешняга дня. Вы-ж там павінны стаць піонерамі калгаснага будаўніцтва. Дык не слухайце кулацкіх правакацый, а першымі запісвайцеся ў калгас».

Дачытаўшы апошні сказ, Мікіта выразліва паглядзеў на бацьку. Пракоп сядзеў нерухома. Андрэева пісьмо яшчэ больш прыгнула яго. Вось насланнё — як-бы ўсе згаварыліся супроць яго і цiснуць з усіх бакоў. Але-ж трэба нешта сказаць, адгукнуцца на сынава пісьмо. Усміхнуўся недарэчнаю ўсмешкаю.

— Маладзец Андрэй: ведае чырвонаармейскую дысцыпліну!

Мікіта не заўважыў іранічнага тону і палічыў бацькаў адказ за добры знак.

— Вось няхай толькі Андрэй са службы вернецца: яго старшынёю калгаса абяруць, — горача азваўся Мікіта. У ім гаварыла гордасць за брата і ў той-жа час хацелася ўлагодзіць і бацьку.

— А цябе зробяць сакратаром, і будзеце бацькам камандаваць... А працаваць на вас хто будзе? — Пракоп двойчы затрубіў носам. Мікіта расчаравана паглядзеў бацьку ў вочы, але тут не ўтрывала маці:

— Табе таксама ніхто не замінае быць сакратаром.

Пракоп з дакорам паглядзеў на жонку: навошта-ж гэты глум з яго? Як ён можа быць сакратаром, калі ён непісьменны? Сярдзіта затрубіў носам, а маці сыпала далей:

— Ты-ж думаеш — пісаць дык гэта не работа? Трэба

пасушыць галаву, покі навучышся. Ды ці знясе яшчэ твая галава, каб пісаць.

— Ды куды ўжо варта мая галава? — з крыўдаю ў голасе сказаў Пракоп: — стараўся, працаваў, колькі хапала змогі, збіраў дабро, як крумкач косці...

— Хто-ж кажа, што ты не працаваў? Працаваў то ты многа

— Многа ці мала, а падзяка адна.

І раптам, павысіўшы голас, зняважліва сказаў:

— Эх вы, калгаснікі! Парабкамі захацелі быць!

У яго з'явілася патрэба выказаць свае мыслі аб калгасе. Даўно ўжо карцела ў яго думка выступіць з прамоваю на сходзе, а цяпер якраз налучаецца зручны выпадак. Дык ці не сказаць яе цяпер? Па-першае, будзе практыка яму, а па-другое, праверыць моц свае прамовы. Каб наблізіць сваю ролю да ролі прамоўцы на сходзе, Пракоп кашлянуў, устаў.

— Таварышы! — праз меру голасна пачаў Пракоп. Таццяна і Мікіта са здзіўленнем і страхам паднялі на яго вочы. Пракоп зрабіў невялікі перапынак і сказаў яшчэ раз:

— Таварышы!.. Вось вы тут кажаце — калгас, абагульненне жывёлы, каб, значыцца, нічыё, калектыўна, ну, значыць, гуртам... леканструкцыя сельскай гаспадаркі...

— Рэканструкцыя! — паправіў бацьку Мікіта.

— Папраў казе хвост! Што ты не даеш мне слова сказаць?

— Што ты чаўпеш, Пракоп? — у тоне жончынага пытання чулася недаўменне.

Пракоп збіўся з тропу, нос яго пачырванеў, і мыслі вылецелі з галавы, як маладыя шпакі з дупла. Злосць апанавала яго: правальваецца ён з прамоваю.

— Вы слухайце, пустыя вашы галовы! Гэта я вам кажу, як сказаў-бы на сходзе! Павінен-жа я выказаць свае думкі, сваё разуменне, а не кідацца галавою ў букту, каб потым не бегаць, як кот з падсмаленым хвастом. А вы мне рот затыкаеце... Калі вы не хочаце слухаць мяне, дык я буду казаць гэтым глухім сценам, няхай хоць яны паслухаюць мяне! — з гараччу выгукнуў Пракоп.

— Дурны ты чалавек, што ты забраў сабе ў галаву? Ды ты-ж не ведаеш, ці табе лепш аднаму на гаспадарцы, ці з людзьмі ў калгасе. Няўжо-ж гэта людзі ўсе дурныя, а ты адзін разумны? Проста глядзець на цябе моташна. Нямаведама чаго згрызаецца чалавек. Жывуцьжа людзі ў калгасе. І работаю так не душацца, і жывуць лепей. Не ты-ж, калі на тое пайшло, жыць там будзеш, а дзеці твае. Пражылі мы ўжо, можна сказаць, свой век. Няхай дзеці жывуць. Не станавіся ты ім упоперак дарогі. Ці ліха сабе нажыць хочаш? Каго ты слухаеш?

— Класавых ворагаў, — заўважыў Мікіта: — проста не хоча паварушыць мазгамі, упёрся і ўсё. Тут робіш тысячы работ, а там будзеш рабіць адну. Тут дрыжыш ты за свайго каня, каб яго не ўкралі ў цябе, а там хто будзе красці? Начорта ён патрэбен каму? Кожны стане на сваю работу і будзе ведаць адну справу, а не разрывацца, як тут, на кавалкі. Зямля дасць больш прыбытку — будуць абрабляць яе машынамі, падвязуць мінеральных гнаёў... Ды што тут казаць? Сляпому толькі не відаць гэтага.

Мікіта трохі сароміўся, і прамова яго была не зусім гладкая, але ён гаварыў шчыра, з перакананнем.

Пракоп адчуў сябе пабітым і адзінокім. Унурыўся і маўчаў. У хаце зноў стала ціха. Свая-ж хата пазірала на Пракопа нявётліва і негасцінна, як-бы ён тут быў чужы і лішні. А можа і праўда ён тут чужы і непатрэбны?

Гутарка змоўкла. Ды і аб чым гаварыць? Пракоп моцна задумаўся.

— Папалуднуйце, — парушыла цішыню Тацяна і стала засцілаць настольнік.

Пракоп падняўся і, нічога не сказаўшы, вышаў з хаты.

## IV

Затонская школа набіта бітком. Кажухі, сярмягі, шапкі і хусткі рознай формы і колеру стракацяць у вачах. Барадатыя і безбародыя, маладыя і старыя сядзяць і стаяць, дзе толькі можна, плячо ў плячо. Шуміць, гудзе сход, як разводдзе вясною. Настрой узняты: сёння

на гэтым сходзе павінна так ці іначай скончыцца справа аб калгасе.

Старшыня сельсовета Мікалай Тур з суседняй вёскі Крутагор'е заметна хвалюецца. Па правую руку ад яго сядзіць, разлажыўшы паперы, сакратар Міхайлік, наставіўшы буферам чуб, што надае сакратару значную долю заліхвацкасці. Побач з ім шырокаплечы, худашчавы і жылісты, нібы збіты з чыгуну, Мірон Брыль, брыгадзір, рабочы з завода. Шырокі твар яго спакойны, а погляд смелы, упэўнены. З другога боку яшчэ два чалавекі: худы, бледны настаўнік тутэйшай школы і пісьменнік Базыль Базылец. Гэта высокі, жывы, рухавы чалавек, гадоў пад трыццаць, у чорным кажуху з вялізным каўняром. Быстрыя шэрыя вочы яго то бегаюць па натоўпе, то па тварах членаў прэзідыума. Перад ім на стале запісная кніжка, куды ён не-не ды нешта запіша. Гэтая кніжка і запісы ў яе робяць відавочнае ўражанне на сход. Там нават перакідаюцца заўвагамі з поваду гэтага, але, на шчасце, Базыль Базылец іх не чуе.

Пара-б ужо і сход пачынаць, але там, за сталом, не надта спяшаюцца: у іх ёсць практыка — чым больш нагаворацца, нашумяцца да сходу, тым гладзей праходзіць сход.

Сход пачынае выказваць нецярплівасць — абрыдала ўжо так сядзець.

— Сход пачынаць! — заглушаючы шум грамады, чуецца голас з цёмнага кутка.

— Пачынаць! Пачынаць! — далучаюцца галасы.

Старшыня нахіляецца да Мірона Брыля, штосьгаворыць, відаць, аб адчыненні сходу. Брыль моўчкі ківае галавою, як-бы ўсёроўна яму: цяпер ці яшчэ пачакаць. Не спяшаючыся, падымаецца старшыня, перабірае паперачкі, збіраецца з думкамі, а потым звоніць. З пярэдніх радоў шум заціхае. Хваля гэтага заціхання паволі праходзіць па ўсёй школе і, нарэшце, зусім глухне на задніх партах.

— Абвяшчаю сход адчыненым!

Выбіраецца прэзідыум, запрашаецца туды некалькі асоб.

— Таварышы, — пачынае старшыня.

Пракоп стаіць каля печы. Сэрца яго застукала мацней, як і ва ўсіх членаў сходу. «Таварышы і я магу сказаць, але што скажаш ты далей?» — думае сам сабе Пракоп.

— У нас сёння на парадку дня пытанне аб калектывізацыі і бягучыя справы. Другіх пытанняў не будзе?

— Хопіць і гэтага! — гудзе сход.

— Пяць сходаў утапілі ў гэтай калектывізацыі, — чуецца сярдзіты голас.

— А табе што — часу няма? — Хтось спакойна падае рэпліку з месца.

— Таварышы! — голас старшыні робіцца строгім: — давайце пяройдзем да справы, і прашу спыніць гармідар — так мы ні да чога не дагаворымся. А дагаварыцца і вырашыць пытанне мы павінны. Вось тут хтось сказаў, што ўжо змарнована пяць сходаў. А хто ў гэтым вінаваты?.. Таварышы! Калектывізацыя сельскай гаспадаркі — наша чарговая, баявая задача, і мы павінны выканаць яе на сто працантаў.

— У некаторых месцах яна зроблена на сто шэсць, — з цёмнага кутка даносіцца нейчы насмешлівы голас.

— Чулі мы ўжо гэтыя вашы песні! Дакалгасімся да таго, што і шалудзівай авечкі не застанецца, — вырываецца прарэзлівы жаночы голас.

— Ды сціхніце вы там! — грыміць чыйсьці голас: — што не даеце слова сказаць?

Падымаецца шум. Старшыня звоніць з усяе сілы. Парадак наладжваецца. Узрушаны і выведзены з роўнавагі, старшыня грозна ўсчуньвае крыкуноў.

— Таварышы! ці мы сабраліся тут справу рабіць, ці кулацкіх падпявалаў слухаць? Іншыя меры прыму процi тых, хто зрывае работу сходу!

— Правільна! — гудуць галасы.

У гэтым гармідары старшыня, відаць, забыўся, што меўся яшчэ сказаць. Ён пацёр лоб і потым сказаў:

— Слова даецца таварышу Брылю, рабочаму з завода. Брыль, тваё слова!

Шырокі і звязісты Брыль падымаецца і здаравеннымі мазолістымі кулакамі, парадкам папрацаваўшымі

каля станка, упіраецца ў стол. Ён весела акідае вачыма сход.

— Таварышы! — пачынае ён. Голас яго чысты, звонкі. — Я думаю, таварышы, што нашаму старшыні не прыдзецца зварачацца тут да строгіх мер: мы — людзі свае, а чужых мы лёгка пазнаём. Дык давайце пагамонім папросту, як гаворыцца, начыстую.

Брыль робіць кароткі перапынак. І яго магутная постаць, і голас, і нейкая прастата і шчырасць у словах робяць на сялян добрае ўражанне.

— Не лішнім тут будзе запытацца, таварышы, — паніжаным прыяцельскім голасам гаворыць далей Брыль: — у чым сіла і моц нашай совецкай дзяржавы?

Як напрактыкаваны настаўнік, ён робіць ізноў кароткі перапынак, як-бы даючы сходу падумаць.

«Куды-ж гэта ён хіліць?»—думае сход, а Брыль заразжа адказвае сам:

— Будзе правільны адказ, калі я скажу: сіла і моц нашай дзяржавы трымаецца на саюзе рабочага класа з працоўнай сялянскай, батрацкай і серадняцкай масай. Гэты саюз даў перамогу Кастрычніцкай рэволюцыі. Ён вызваліў нас ад памешчыцкага гнёту, выпраг з ярма капіталізма. Ён-жа абараніў нас ад навалы белых армій і іх саюзнікаў, замежнай буржуазіі, што ў смертнай схватцы прабавала задушыць нас, каб ізноў вярнуць панаванне памешчыкаў і капіталістаў. Нарэшце, гэты саюз зрабіў нас гаспадарамі на зямлі і на фабрыцы і будаўнікамі свайго ўласнага жыцця на новых асновах. І калі, таварышы, я чуў тут злосныя выкрыкі, недавер'е, то гэтыя выкрыкі можна расцэньваць толькі як голас або свядомага ворага, які імкнецца расшчапіць наш саюз з працоўным сялянствам, або проста як голас неразумення і палітычнай несвядомасці.

— Правільна! — пацвярджаюць галасы. Сход слухае ўважна. Настрой яго змяняецца.

— Цяпер я пераходжу да асноўнага нашага пытання, да перабудовы нашай сельскай гаспадаркі на аснове калектывізацыі. Гэтая перабудова, таварышы, такая вялікая і настолькі новая, што свет бачыць яе ўпершыню.

Дык не дзіва, таварышы, што вы падыходзіце да яе з некаторым страхам і сумненнем. Але давайце разбярэмся, дойдзем да канца, каб прыняць правільнае рашэнне. Дапусцім, таварышы, што каму-небудзь з вас прыходзіцца перарабляць той ці іншы свой будынак. Вось ён пачынае аглядаць яго, што падправіць і як. І аказваецца: страха сапрэла, латы спарахнелі, сцены пакрывіліся, бярвенні згнілі, падмуроўка збуцвела. Што-ж ён тады будзе рабіць? — Прыклад, прыведзены Брылем, спадабаўся. Яму запляскалі, а з пярэдніх радоў гукнулі гусцей:

— Ламаць гнілы будынак і будаваць новы, моцны!

— Правільна, таварышы! У плане савецкага будаўніцтва, калі на нашых вачах гіблыя балоты робяцца ўраджайнымі землямі, калі краіна пакрываецца сеццю электрастанцый і ўзнікаюць волаты-заводы, фабрыкі і цэлыя гарады, ваш будынак, ваша форма дробнай сельскай гаспадаркі ёсць гніль! Вашы гаспадаркі раскіданы, адгароджаны межамі, а на гэтых межах і ў гэтых межах разам з палыном і быльнікам будзе расці і тое дзікае зелле, што ўжо ў сілу свае прыроды імкнецца разарваць наш саюз — будзе расці кулак. Ваша гаспадарка, таварышы, у яе цяперашняй форме, адна недарэчнасць. Вы працуеце многа, а збіраеце мала. Жывяце ў душных і цесных хатах, разам з жывёламі, у гразі, у брудзе, але вы не бачыце гэтага бруду — вы аблытаны павуціннем старасветчыны і знаходзіцеся ў яе палоне. Наша задача, таварышы, задача партыі і савецкай улады — захаваць сілу чалавека, зрабіць палёгку ў яго рабоце, вызваліць яго з-пад улады зямлі, што так скупа аплачвае яго працу, наша задача — павялічыць яго прадукцыю, даўшы яму машыны. А гэтага можам дабіцца толькі тады, калі мы дашчэнту зломім гнілы будынак цяперашняй гаспадаркі, а на яго месца паставім новы, на падмурку калектыва свабодных людзей.

Таварыш Брыль быў някепскі прамоўца. Ён вельмі прыгожа і трапна даў малюнак жыцця ў калектыве, не заплюшчваючы вачэй і на тыя труднасці, што неўнікнёна павінны быць на першых часах. І калі ён скончыў прамову, яму дружна і доўга пляскалі. Нягоршым прамоўцай аказаўся і пісьменнік Базыль Базылец. Як пісьмен-

нік ён галоўным чынам спыніўся на культурным баку і пераважна зварачаўся да жанчын, да іх гаротнай долі ў старой гаспадарцы. А калі ён пачаў гаварыць аб дзецях, аб якіх мала дбаюць бацькі, і ў імя дзяцей заклікаў бацькоў у калгас, то некаторыя больш мяккія натуры ўцерлі слязу.

## V

Мікіта, седзячы ў першых радах і слухаючы прамовы, увесь гарэў. Мацней і шчырэй за ўсіх пляскаў ён прамоўцам, і радасць яго ўсё ўзрастала, у меру таго, як раставаў лёд недавер'я ў сялянскіх сэрцах. Павесялеў і прэзідыум: перамога выяўна хілілася ў яго бок.

Зусім іначай адчуваў сябе Пракоп. Перад сходам ён цешыў сябе надзеяй, што і сёння скончыцца так-жа, як і раней: пагавораць, пакрычаць, можа хто і запішацца, а ў агуле справа наперад не пасунецца. Але калі з прамовай выступіў гэты рабочы і захапіў сялян прастатою свае гутаркі і шчырасцю веры ў пераможнасць новых форм жыцця, то Пракопава надзея пагасла, і ён ціха сказаў свайму суседу, таўхануўшы яго локцем:

— Пазапісваюцца ўсе!

— Пазапісваюцца! — пацвердзіў сусед.

Пракоп слухае прамоўцу, а думкі яго пачынаюць снавацца каля калгаса. Ён бачыць шырокае поле, нідзе ні межачкі, і яго палоска, у якую пад восень так добра даў гною, злілася, згубілася ў суцэльнай заворанай лаве зямлі. Ён баранue паркаю калгасную зямлю, а за ім, таксама за бараною, ідзе Марыніч. Марыніч — хітры, гультаяваты чалавек, толькі від паказвае, што робіць, а сам пасмейваецца з Пракопа.

— Глядзі, Пракоп, як Міхалка сцябае твайго каня! Што значыць не свая ўласная скаціна!

Пракопа забірае злосць на Марыніча: сам папрагульваў усё сваё дабро ды яшчэ насміхаецца, што ён, Пракоп, захаваў сваю маёмасць і ў калгас прышоў, як маладая з заможнага дому ў сям'ю свайго мужа. Пракоп успамінае, што ён яшчэ не ў калгасе, шукае вачыма Марыніча.

А Марыніч сядзіць сабе з выглядам нявіннага дзіцяці ды слухае. Пракоп упэўнены, што ён адзін з першых папрэцца ў калгас, і вялікая непрыязнь да яго шаволіцца ў Пракопавым сэрцы.

Мікіта часта назад аглядаецца — хочацца ведаць, як успрымае бацька словы гэтага слаўнага Брыля. Брыль у яго вачах робіцца героем. Але нічога не можа разгледзець Мікіта на бацькавым твары: Пракоп сядзіць ззаду каля сцяны, і твар яго відаць цьмяна.

Кончыліся прамовы. Старшыня зварачаецца да сходу:

— Запытанняў няма?

— Няма.

— Хто хоча выказацца?

Сход маўчыць, а потым чуецца адзін голас, другі, а за ім хор галасоў гудзе:

— Чаго там выказвацца? Запісвацца і ўсё!

— Давайце запісвацца, — гаворыць старшыня, — але можа запішам пастанову?

— Гэта і будзе пастанова, калі пазапісваемся.

— Ну, хто першы?

Замінка. Ніхто не адважваецца выступаць першым. Падштурхоўваюць адзін аднаго, патроху жартуюць, пасмейваюцца. Нарэшце выпхнулі Амяльяна Нічыпарука, матывуючы гэта тым, што Амяльянава рука лёгкая. Амяльян набіраецца смеласці, падыходзіць да стала і жорсткімі заскарузлымі пальцамі выводзіць сваё прозвішча.

— Ну, калгас, дык калгас! — кажа распісаўшыся. За ім смялей і дружней валіць народ. Каля стала робіцца чарга. І Марыніч у першых радах. Парог, што стаяў між сходам і калгасам, пяройдзены, людзі апынуліся на другі бок мяжы.

Мікіта з трывогаю назірае за бацькам. Пракоп падаецца наперад, запыняецца. Углядаецца ў пярэднія рады, у чаргу каля стала. Бачыць Марыніча. Пракоп хмурыцца, топчацца на месцы і незаметна падаецца ў дзверы. Яшчэ з большаю трывогаю глядзіць Мікіта на дзверы, што зачынілі бацьку на той бок сходу. Няма, не варочаецца бацька. Мікіта таксама падаецца да дзвярэй — дагнаць, вярнуць бацьку назад!

## VI

Ужо трэція пеўні праспявалі на вёсцы. І які дзіўны, які далёкі і глухі голас іх! Гэта вясковыя гудкі і сірэны, што з глыбіні вякоў данеслі свой голас аж да гэтага часу і першабытнаю мераю мераюць вясковым людзям час і вяшчаюць аб зменах надвор'я. Пашумлівае вецер у голым вецці бярозы, у вокны пазірае бясконцая зімняя ноч, а там, за вёскаю, ляжаць бяскрайнія, амярцвелыя прасторы. Пракоп бачыць іх у сваіх мыслях, лежачы на палку каля печы. Дакучлівыя, невясёлыя думкі таўкуцца ў яго галаве, і на сэрцы цяжка. Ад гэтага ніяк не можа заснуць Пракоп. Перабірае ў памяці падзеі сённешняга дня і вечара. І які гэта доўгі, бясконца доўгі дзень!

Прыпамінае раніцу, спатканне і гутарку з Чыкілевічам. Чыкілевіч можа і рад быў-бы пайсці ў калгас, ды яго не прымуць, бо ён пазбаўлены голасу. Можа і вышлюць яго. А што зробяць з ім, з Пракопам? Нешта гэты рабочы як-бы ківаў на яго ў сваёй прамове. Пракоп у непакоі варушыцца пад дзяругаю. Мыслі яго ідуць на другое. Яму прыпамінаюцца і жончыны словы — ці ты ліха сабе шукаеш? — І праўда: ці не шукае ён сабе ліха? Пракоп ціха ўздыхае. Адвечны круг сялянскага жыцця яму робіцца цесным. Падымаецца, садзіцца, звешвае ногі і думае. Яму штось трэба зрабіць, але што? Не ведае. Трэба знайсці нейкі выхад, на нешта адважыцца. У ваччу ўстае Мікіта. Як прасіў, як маліў, як дакараў бацьку, каб вярнуўся на сход! Але ён не вярнуўся, а хлопец плакаў ад крыўды.

Пракоп падымае галаву, пазірае праз цемру на тапчан, дзе спіць Мікіта. Мікіта спіць роўна і спакойна — што значыць моладасць: яе не бяруць так згрызоты, як забіраюць яны яго, старога. На патускнелыя ад гадоў вочы набягаюць слёзы. Пракоп адчувае сябе адзінокім, яго штосьці есць, грызе. І ён тут чужы для ўсіх, лішні. Адшчапіўся ад грамады, ад сям'і, як пень тырчыць на іх дарозе.

Перад яго вачыма ўстаюць белыя прасторы за вёскай, халодныя, неласкавыя, і дарожка на пагорку з рудымі плямамі аб чымсьці напамінае яму.

Ён рашуча падымаецца з пасцелі, запальвае газоўку. Абуваецца. Накручвае на ногі суконкі, надзяе лепшыя

боты. Адбірае адзежу, як-бы ён збіраецца ў госці. Прачынаецца жонка, палохаецца, моўчкі глядзіць на Пракопа.

— Куды гэта строішся? — у жончыным голасе чутна трывога.

— Пайду ў сваю дарогу: нашы дарогі разыходзяцца.

— Пракоп! ды адумайся ты! Што ты забраў сабе ў галаву? — лемантуе Тацяна: — ох, божачка!

— Глухім стаўся бог да нас, і няма чаго ўспамінаць яго, — строга заўважае Пракоп.

— Тата! што з табою робіцца? Куды збіраешся?

Пракоп маўчыць. Адзяе кароткі кажушок, а наверх нацягвае доўгі, новы з шырокім каўняром. Становіцца перад абразамі, стаіць колькі хвілін, а потым насоўвае на вушы шапку, бярэ торбу з хлебам і кій.

Тацяна і Мікіта слупянеюць, а потым старая зрываецца з пасцелі, хапае Пракопа за руку. Пракоп адпіхае яе, вырывае руку. На дапамогу ёй бяжыць Мікіта. Пракоп замахваецца на іх кіем.

— Прэч! — строга крычыць ён, а потым больш лагодным тонам гаворыць: — Не замінайце мне, як не хачу замінаць і я вам. Цяпер ідзіце ў калгас: не буду стаяць вам упоперак дарогі. А я цяпер — бабыль і вольны чалавек. Аставайцеся здаровы, жывіце шчасліва. — Павярнуўся к парогу.

Жонка і сын кідаюцца зноў запыніць яго, але ён трасе на іх кіем і адганяе ад сябе.

— Не ўводзьце мяне ў злосць!

Рыпнулі дзверы, адны і другія, разоў пару хрыбуснуў снег пад нагамі, і стала ціха.

Цёмная ноч ахапіла Пракопа з усіх бакоў, і прыгнутая постаць яго зараз-жа знікла ў цемры, не даходзячы да алешніка, дзе пралегла дарога.

## VII

Добрыя вярсты тры прайшоў Пракоп, калі ў полі пачало святлець, займацца на дзень. Парадзеў, рассунуўся цяжкі і сляпы змрок, выпускаючы з свае няволі тонкія празрыстыя абрысы зімняга пейзажу, журботнага ў сваёй застылай паныласці.

Ніякай акрэсленай мэты ў Пракопа не было, калі ён наважыўся на гэтае самавыгнанне. Ён проста выказаў свой пратэст, абурэнне і крыўду ў форме гэтых старых традыцыйных прочак. Але чым далей адыходзіў ён ад свайго котлішча, тым з большаю сілаю ахаплялі і наступалі на яго гэтыя халодныя прасторы, сярод якіх вастрэй адчувалася адзінота і сіроцтва на свеце, і тым ярчэй уставала ў вачах яго хата, гаспадарка, сваякі і суседзі і ўсё, з чым ён зжыўся за доўгія гады сялянскага жыцця.

Жаласць да самога сябе агарнула Пракопа. Хто ён цяпер? бадзяга, жабрак, бяздомнік! Але разам з гэтым была і нейкая асалода ў той жаласці і пакуце, і ў гэтым бадзянні яго, няясным, як і змрок.

Праўда, яго ніхто не выганяў, ён сам захацеў так, гэта яго добрая воля. У яго ўласнай волі вярнуцца назад. Пракоп прыпыніўся, азірнуўся. Некалькі агеньчыкаў блішчэлі сям-там у парадзелым ранішнім змроку... Было кароткае змаганне з самім сабою... Не: назад ён не вернецца — не скарыцца перад чужою воляю! І ён моцна пратрубіў носам апошняе развітанне з тым, што засталося там, і цвёрда заківаўся далей. У яго ёсць яшчэ сіла, ёсць прывыкшыя, прызвычаеныя да работы рукі. З імі ён не прападзе. З гэтымі думкамі ішоў ён наперад.

Быў у Затонні Пракоп, цяпер яго там няма. Затонская грамадскасць яшчэ і не ведала аб гэтым: час быў дужа ранні, а пасля такога важнага сходу спаць пакладаліся позна. Толькі ў Пракопавай хаце свяціўся агонь. Тацяна і Мікіта адчувалі крыху сваю віну перад Пракопам, і не так было-б ім цяжка, калі-б ён проста памёр, як належыць кожнаму чалавеку. А то жывы, і няма яго. Кінуў дом і пайшоў, куды? Невядома. Вернецца ён ці не, ці наложыць на сябе рукі, — нічога невядома. Вось гэтая невядомасць і прыгнятала іх больш за ўсё.

— Што-ж рабіць? — поўная бездапаможнасць чулася ў Тацяніным голасе.

Мікіта панура маўчаў, адчуваючы, што на ім цяпер ляжыць адказнасць, бо ён адзін мужчына ў хаце, ён галава. А ў гэтай галаве і ў маладым сэрцы мітусіўся заблытаны клубок мысляў і пачуццяў. У іх перапляценні выразней вылучаліся дзве процілеглыя плыні: жаласць да бацькі і абурэнне супроць яго тупой несвядомасці.

Накінуўшы на плечы кажушок, Тацяна ў непакоі выйшла на двор. Панурыя сцены нізкіх будынкаў, белая зямля, нахмуранае цёмнае неба і халодны змрок між імі таілі ў сабе няветлую цішыню і маўклівасць. З усходу патыхаў востры, калючы вецярок, шурхаючы па страсе сухім снегам, а з-пад балотца даносіўся няроўны перарывісты шум аголеных кустоў. Тацяна прыслухоўваецца да гэтых шолахаў і таемных шумаў ночы і ўглядаецца ў няясныя і зманлівыя контуры цёмных сілуэтаў, прымаючы іх часам за Пракопа.

І раптам яна ўся здрыганулася: каля прыгрэбніку пад чэзлаю вішняю стаіць нехта і памахвае рукою, як быццам-бы падзывае да сябе Тацяну.

— Хто там? — аклікае перапалоханая Тацяна.

Чалавек маўчыць, але рукою махаць не перастае. Яшчэ большы страх забірае Тацяну. Яна баязліва азіраецца, як-бы мяркуючы, ці паспее ўцячы ў хату, калі гэты невядомы чалавек — а можа і Пракоп — раптам рынецца на яе. Яна ўжо хацела пазваць Мікіту, але голас яе сарваўся, а ў гэты момант з-за вугла рвануўся вецер, і рука страшнага чалавека адарвалася ад яго і сама некалькі разоў закруцілася ў паветры.

— Цьфу, прападзі ты! — мімавольна вырвалася ў Тацяны, і страх яе развеяўся, але рукі і ногі моцна дрыжалі.

Страшны чалавек аказаўся даволі ёмкаю плашкаю, прыслоненаю да страхі, а яго рука — кавалкам рызмана, што нейкім спосабам зачапіўся за вішнёвую галінку і матляўся на ветры.

Перад Мікітавымі вачыма ўвесь час стаяў бацька ў розных постацях і момантах яшчэ так свежага часу. Адзін момант і адна постаць асабліва востра ўрэзаліся ў памяць: адзеты, гатовы ў дарогу, з кіем у руцэ, без шапкі стаіць бацька тварам да абразоў. Мікіта сам падымае на іх вочы. Цэлы рад абразоў, крыху нахіленых. У цэнтры, скрозь слаба асветлены змрок, выглядае Мікалай Мірлікійскі. Пранізлівыя вочы пазіраюць упарта, куды-б ты ні павярнуўся. Рука паднята, і пальцы зложаны для благаславення. З нянавісцю і з адценнем нейкага страху глядзіць на яго Мікіта. Яму робіцца крыўдна за бацьку, за яго пашану і веру ў гэтых ідалаў.

— Эх ты! — ціха, але сярдзіта і выразна гаворыць

Мікіта на Мікалая. Трошачкі счакаўшы, дадае: — кулацкі рупар і падпявала!..

У хату ўваходзіць Тацяна.

— Што-ж будзем рабіць, сынок?

— Як развіднеецца, пайду ў сельсовет. Заявіць трэба. А там відаць будзе.

«Малады, а ўсё-ж такі развважае па-мужчынску», — сама сабе думае Тацяна і плача.

## VIII

Новае жыццё пачынаў Пракоп, пачынаў бадзяннем і надзеяй на свае прывыкшыя да работы рукі.

І нямала прабадзяўся ён па свеце, і не надта соладка было яму гэтае бадзянне. Але затое-ж Пракоп набыў пэўную жыццёвую практыку. Яго заскарузлы розум змушан быў паварушыцца і пакіраваць мыслі крыху ў іншы бок, каб лаўчэй прыстасавацца да гэтага вандроўніцкага жыцця і не згінуць. Яго не пакідала думка: знайсці сабе прыпынак на свеце, а на сваё вандроўніцтва ён глядзеў, як на часовую з'яву. Але хоць свет і прасторны, ды чалавеку, сарваўшыся з наседжанага месца, прастор гэты мала чаго дае. І калі Пракоп і не згортваў сваіх крылляў, то толькі таму, што на такое бадзянне ён наважыўся сам і зрабіў так, як знаходзіў лепш.

Шмат вёсак і гаспадароў абышоў Пракоп, але прыпынку ўсё не знаходзілася. Прыходзілася паспрабаваць і жабрацкага і батрацкага хлеба. Ды не вельмі смачны такі хлеб, і не так ужо лёгка і ён даецца. Гэта вандроўніцтва і шуканне прыпынку паказала Пракопу, якое вялікае значэнне ў жыцці мае рамяство. Калі-б ён быў шаўцом або краўцом, сталяром ці слесарам, то і гора не ведаў-бы. Але гэта ўсведамленне важнасці рамяства ў жыцці карысці Пракопу не давала, а пры цяперашнім стане рэчаў попыту на Пракопавы «прывыкшыя да работы рукі» сярод сялян амаль што не было. Асабліва трудна было яму ў першыя дні, калі ён яшчэ не асвойтаўся з сваёю новаю роляю вандроўніка. Перад ім паўстаў цэлы рад новых пытанняў, і трэба было знайсці на іх ясныя адказы. Уся яго бяда была ў тым, што ён меркаваў замаца-

ваццa ў жыцці на сваіх старых поглядах і на старым грунце. Тым-жа часам гэты стары грунт правальваўся пад яго нагамі. Гэта было ясна Пракопу. З кожным днём пераконваўся ён у тым, што патрэбна нейкая змена яго курсу. І сапраўды: хто з сялян возьме яго цяпер на работу? Навошта людзям гэты клопат. І што-ж выходзіць? Пракоп, трэба прызнацца, збег ад калгаса, але ўсюды, куды ён ні пойдзе, калгаса не ўнікнеш: грыміць і грыміць аб ім гутарка. Ліквідацыя дробных гаспадарак ідзе поўным ходам. Як ні круці, як ні мяркуй, а парасткі новага жыцця прабіваюцца буйна, густа, сакавіта.

Вандруючы ад сяла да сяла, Пракоп гэта бачыў, а свае пераходы скарачаў думкамі аб тым, што-ж рабіць яму? Праўда, людзі давалі яму часовы прыпынак, прымалі, кармілі. Былі нават і такія, што і спачувалі яму. Але-ж век так жыць не будзеш. Туляючыся, начуючы дзе-небудзь у кутку на саломе ці на гарошынах, гасцінна прынесеных гаспадаром, Пракоп цэлымі гадзінамі не спаў і разважаў, прапускаючы праз сіта самакрытыкі свае паводзіны, няяснасць і неакрэсленасць свайго стану. А да гэтага далучаліся і думкі аб пакінутай гаспадарцы, аб сям'і і доме. Шкада было старога котлішча і цесных закуткаў уласнага дворыка, дзе Пракоп так многа пакінуў свае працы, свайго жыцця. Варочаўся Пракоп у сваім логаве сярод цемры сялянскай хаты і мернага пахрапвання гаспадаровай сям'і. Ноч, цемра, глухмень. Чуваць, як дзесь каля печы шалпочуцца ў шчылінах прусакі. Мерна і аднатонна падаюць кроплі вады з акна і гулка шлёпаюцца аб сырую зямлю, бясплатная музыка на сон гаспадарам хаты. А Пракопавы думкі ідуць ды ідуць, нанізваючыся адна на другую, покі, нарэшце, незаметна для Пракопа адна з іх не запыніла на сабе яго ўвагі на адным з такіх яго начлегаў.

І сапраўды, гэта не кепская думка! Пракоп прыцішана трубіць носам і пачынае развіваць яе далей. Як запраўскі філосаф, мяняючы сваю ранейшую сістэму светапогляду, прапускае яе праз няўмольную крытыку, так і Пракоп, лежачы на саломе, пачынае асуджаць цяпер сваё вандроўніцтва. Да чаго прывядзе яно? Па-першае, ён часта заходзіў на хутары і наогул трымаўся больш тых элементаў, што варожа настроены да калектывізацыі. Не гаво-

рачы ўжо аб тым, што такія паводзіны яго небяспечны, яны не даюць ніякіх вынікаў. Другая Пракопава памылка была ў тым, што ён шукаў сабе работы ў дробных гаспадарках, як-бы на свеце няма соўгасаў і калгасаў. І трэцяя, можна сказаць самая прыкрая, яго памылка заключалася ў тым, што ён, проста сказаць, жабруе. Навошта-ж яму ўсе гэтыя прыкрасці, калі ён можа ўзяць на сябе ролю дэлегата? Вось тая шчаслівая думка, што запыніла на сабе Пракопаву ўвагу. Але як да яе прыступіцца? А вось як: Пракоп дужа зацікаўлен калектывізацыяй, як і ўся тая грамада, адкуль родам сам Пракоп. Але ў іх ёсць некаторыя няпэўнасці, няяснасці ў сувязі з пераходам у калгас. Дык вось Пракопу і даручана абрэвізаваць ужо наладжаныя калгасы, азнаёміцца, прыглядзецца да іх, каб потым зрабіць належны даклад сваёй грамадзе... Ну, чым-жа гэта кепская думка? Пракоп цалкам захапляецца ёю. Яна суліць яму процьму выгод. Як дэлегата, яго будуць шанаваць, карміць, і жабрацтва яго адпадзе само сабою. На правах дэлегата ён можа прабыць у калгасе тыдзень, а можа і болей, гледзячы, як прымуць. А прыняць яго павінны добра. Пабудзе некаторы час і падасца ў другі, у трэці. А можа і сапраўды надарыцца яму дзе што добрае. Не трэба толькі спаць у шапку, трэба адпаведны спрыт і рухавасць. І калі на справу паглядзець сур'ёзна, то тут і машэнства няма ніякага. Бо сапраўды: ці не мог-жа ён зусім шчыра азнаёміцца з калгаснаю справаю?

Захоплены гэтаю новаю ідэяю, Пракоп доўга не можа заснуць. Грамчэй і весялей трубіць ён носам, больш лагодна прыслухоўваецца да шалпатання прусакоў у шчылінах, да шлёпання кропель з акна і ставіць гэта ў сувязь з адлігаю, што таксама яму на руку.

А назаўтра раненька накіроўваецца на новую дарогу, а ў дарозе абмяркоўвае сваю дэлегацкую ролю.

## IX

Калгас «Хваля рэвалюцыі» заснаваўся не так даўно. Гады тры таму назад вярнуўся з Чырвонай Арміі ў свае Клінкі Максім Шахлевіч.

Клінкі была даволі вялікая вёска, але к часу Максімавага звароту з Чырвонай Арміі яна значна зменшылася: больш заможныя гаспадары выбраліся на пасёлкі, на хутары. Хоць у Клінках трохі і папрастарнела, але ўсё-ж рэшта гаспадарак, цягнучы старое ярэмца земляробчай акасцянеласці, жыла бедна. Пабітая на вузкія шнуркі, параскіданыя па розных мясцінах, і разгароджаная межамі, зямля скупа аплачвала працу. І зямля была не роўная: жоўты пясок, камяністыя ўзгоркі, сіняпёс, і толькі месцамі трапляліся кавалкі добрай зямлі. Лепшыя землі захапілі пасялкоўцы і хутаране, а яшчэ лепшая зямля была пад панскім маёнткам, дзе заснаваўся цяпер соўгас «Чырвоны шлях».

Беднасць і малазямелле змушалі клінкоўцаў шукаць заработку на старане або каля дому, калі яны трапляліся. Адны ішлі на чыгунку — а яна праходзіла тут непадалёку — рамонтнымі рабочымі, другія складалі кадры батракоў і служачых у заможнікаў-кулакоў. Максім Шахлевіч з пятнаццаці гадоў служыў у батраках і толькі за год да ваеннай службы кінуў сваё батрацтва і цэлае лета хадзіў з сястрою і старэйшым братам капаць торф на балоце. Гаспадарка была ў іх невялікая, і з ёю спраўляўся бацька.

Максім быў самы вясёлы і самы рухавы хлопец не толькі ў сям'і, але і ва ўсёй вёсцы. Ні беднасць, ні служба ў чужых людзей, ні цяжкая праца не зніжалі яго добрага гумору. Любіў ён і паспяваць, і пасмяяцца і прыправіць жартамі сваю бойкую гутарку. За вясёлы характар і працавітасць яго любілі і шанавалі сярод клінкоўскай бедната. Ён скончыў пачатковую школу. Вольнаю часінаю любіў пачытаць газету і кнігу. Наведваў сходы, уважліва слухаў даклады, асабліва прыезджых таварышоў. На ваеннай службе паступіў у комсамол і палітычна значна развіўся. Вярнуўшыся з Чырвонай Арміі, ён лёгка мог знайсці сабе службу ў горадзе. Але ў яго былі іншыя думкі.

— Не, — казаў ён, — на службу не хачу: пайду дамоў, рабіць рэволюцыю ў Клінках.

У Максіма быў ужо зложан шырокі план арганізацыі калгаса ў Клінках. Вярнуўшыся з арміі, ён зараз-жа і прыступіў да работы. Ён пачаў з арганізацыі комса-

мольскай ячэйкі. Нельга сказаць, каб гэта работа давалася яму лёгка. З першых-жа дзён Максіму прышлося ваяваць з сялянскаю кансерватыўнасцю, з неарганізаванасцю клінкоўскіх хлопцаў. Але патроху, памалу ён уцягнуў у работу найбольш жывых і актыўных з моладзі і сярод яе пачаў прапагандаваць ідэю: залажыць у Клінках калгас. Сваімі сіламі адчынілі хату-чытальню, пачалі праводзіць сходы, рабіць даклады, выпускаць насценную газету, дзе асвятлялася іх сялянскае жыццё, асуджаўся стары быт, прымітыўныя спосабы гаспадаркі, і рэзка ставілася пытанне аб эксплаатацыі кулакамі клінкоўскай беднаты. Ва ўсёй гэтай справе насценгазета адыграла вялікую ролю. Заварушыліся пасёлкаўцы і кулакі на хутарах. Першая і значная прабоіна ў закасцянеласці сялянскага жыцця была зроблена. Класавая свядомасць клінкоўскай беднаты была абуджана. Яна цясней гуртавалася навокал ідэі калектывізацыі, рашуча рыхтавалася ў паход супроць мясцовых павукоў. Калі такім парадкам была праароблена папярэдняя работа, комсамольская ячэйка склікала агульны сход сялян. На сходзе паставілі пытанне аб арганізацыі ў Клінках калектыўнай гаспадаркі. Сход быў шумны і бурны. Сярод клінкоўскай беднаты знайшліся і праціўнікі калектывізацыі. Але ўсё-ж такі пераважная большасць клінкоўцаў пастанавіла перайсці ў калгас.

Узрушаны і радасны Максім Шахлевіч пры гэтым сказаў:

— Таварышы! Пачатак зроблены. Дазвольце запэўніць вас, таварышы, што наша справа калектыўнай гаспадаркі ёсць справа жыццёвая, правільная, а таму ёй належыць будучыня... Далоў усякія хістанні! Смялей наперад!

На гэтым-жа сходзе было абрана і праўленне калгаса і месца, дзе павінен быць калгасны штаб. Як асаблівасць гэтай пастановы, трэба адзначыць, што для «штаба» быў адведзены пустыр у полі, збоку ад Клінкоў. На гэты пустыр у тую-ж восень перавезлі будынкі шасці гаспадарак. Замест шасці клунь, шасці хат і ўсялякіх іншых будынкаў пабудавалі адну прасторную клуню, накрылі яе новаю страхою, як залатым плашчом, свежай жытняй саломай. Выштукавалі адну абору, дзе можна было

змясціць не менш як трыццаць кароў і гэтулькі-ж цялят. Паставілі зухаваты свіронак, свінарнік і пабудавалі тры дамы для шасці сем'яў, адвёўшы месца для калгаснай канторы і для дзіцячай пляцоўкі. І ўсё гэта было зроблена сваімі сіламі, сваімі майстрамі.

На пустым месцы, у полі, вырас цэлы пасёлак, першая аснова новай, цікавай і не для ўсіх яшчэ яснай формы маладога жыцця. Гэты пасёлак вырас па ініцыятыве клінкоўскай беднаты і складаў іх сапраўдную гордасць. Сюды, як да вогнішча ў халодную цёмную ноч, накіроўваліся думкі, імкненні і надзеі новых калгаснікаў. Сюды-ж падымаліся і поўныя нянавісці вочы хутаран і пасёлкаўцаў.

— Таварышы! — казаў на адчыненні калгаса Максім. — Новая вясна чакае нас. У нас ёсць час, каб сустрэць яе ў поўнай зброі, па-большэвіцку. Нашу поўную перамогу забяспечыць нам грамадская свядомасць, дысцыплінаванасць і наша актыўная праца на фронце соцыялістычнай гаспадаркі. Будзем-жа працаваць па-большэвіцку!

Новы калгас назвалі «Хваля рэволюцыі». Сюды, у гэты калгас, і дыбаў цяпер наш Пракоп Дубяга, неразумны вандроўнік, дэлегат-самазванец.

## X

Нясмела і няўпэўнена ўваходзіў Пракоп у новы калгасны пасёлак «Хваля рэволюцыі».

Даволі было кінуць гаспадарскім вокам на двор, на калгасныя будынкі, каб адчуць, што справа тут пастаўлена на цвёрды грунт, што чыясь моцная і разумная воля пракладае шырокую дарогу ў новы гаспадарскі добрабыт.

Першае, што кінулася Пракопу ў вочы, быў узорны парадак і чыстата на дварэ і каля будынкаў. А гэтых будынкаў, дзервяных і мураваных, малых і вялікіх, крытых саломаю, гонтамі і чарапіцаю, было тут многа. Спрактыкаванае вока староннягa гледача заўважала, як шпарка рос гэты калгасны пасёлак, удасканальваючыся ў сваім будаўніцтве, з якою дбаласцю, стараннасцю і

прадуманасцю абмяркоўвалася кожная будыніна, кожная драбніца ў ёй. А гэтыя новыя мураванкі, вырасшыя за апошні год, сведчылі аб поступе наперад калгаснікаў. Снег у тую зіму быў глыбокі, і па адных толькі сцежках, пракіданых у снезе па розных кірунках прасторнага двара, па шырокіх пляцоўках, прачышчаных каля клуні і іншых будынкаў, па высокіх і роўных валах снегу можна было судзіць аб дбаласці калгаснікаў.

Уражаны і здзіўлены Пракоп запыніўся, ступіўшы на тэрыторыю пасёлка, бегла акінуў поглядам калгасны двор і будынкі, як-бы разважаючы, куды накіравацца і да каго тут звярнуцца.

Яго старамодная сялянская постаць у саматужнай шапцы з аўчыны, у доўгім памятым кажуху, збітая на адзін бок пасівелая і занядбаная барада, пануры, загрубелы, абветраны твар і глыбока запаўшыя вочы, у якіх адбіваўся смутак і непакой бяздомнага бадзягі, ніяк не стасаваліся з агульным тонам гэтага пасёлка і яго гаспадарамі, сям-там мільгаўшымі па белым фоне ў глыбі двара і каля будынкаў.

Пракоп крыху сумеўся, адчуўшы трывогу і страх, і ўсё ніжэй і ніжэй стала апускацца яго дэлегацкая роля. Так бывае з непапсаванымі ці, справядлівей, з мала напрактыкаванымі нават у дробным ашуканстве натурамі, калі яны прабуюць звязаць надуманы фальш з праўдаю жыцця. Але адступаць ужо было позна, і Пракоп тарапліва рушыў да першай чалавечай постаці, што найбліжэй трапілася яму ў гэты час. Маладая зграбная жанчына ў чырвоным кажушку, шчыльна і кунежна атуляўшым яе стройную фігуру ,— відаць, спецыяльна на яе быў пашыты кажушок, — вышла з дзвярэй хаты і жвава падалася па сцежцы ў бок новай будыніны.

— Пастойце! — махнуў Пракоп кіем.

Маладая жанчына спынілася, кінуўшы на Пракопа крыху здзіўленыя і трохі строгія шэрыя вочы.

— Будзьце ласкавы, мілая, скажыце, хто тут у вас начальства і дзе яго знайсці? —пачціва звярнуўся да яе Пракоп.

— Калі хочаце пабачыць старшыню калгаса, дык ён напэўна ў канторы, — адказала маладая жанчына. Але,

відаць, і самой ёй паказаўся сухім яе адказ, і яна ўжо лагодней дадала:

— Кантора унь там, у мураванцы... Хадзеце за мною, пакажу, — ужо зусім мякка прагаварыла маладая жанчына.

«Ці добра зрабіў, што адразу запытаў пра начальства?» — думаў Пракоп, ідучы за маладою жанчынаю. — «Трэба было-б трохі разгледзецца і не пароць так гарачкі». Ён адчуў, што яго меркаванні і планы адносна яго дэлегацкай ролі адразу-ж разыходзяцца з практыкаю. Але многа разважаць аб гэтым не прышлося: яны спыніліся каля дзвярэй канторы.

— А па якой-жа вы справе? — пацікавілася на ўсякі выпадак маладая жанчына.

— Ды вось хачу паглядзець ваш калгас... Ад грамады я...

Гэты адказ зусім задаволіў маладую жанчыну, а Пракоп адчуў некаторую палёгку, і ён нават асмеліўся запытаць:

— А хто такі сам старшыня калгаса?

— А ён мой муж, калі хочаце ведаць, Максім Шахлевіч, — горда адказала маладая жанчына.

— Муж ваш! — здзівіўся Пракоп, зірнуў на маладую жанчыну і з дасціпнасцю спрытнага кавалера заўважыў:

— То добрую жонку мае старшыня вашага калгаса!

Жанчына ўсміхнулася, а Пракоп зазначыў сам сабе, што справы ён не папсаваў.

Прасторная і светлая кантора, куды ўвайшоў Пракоп, была галоўным дзелавым штабам калгаса. Яна не зусім была скончана, і пабеленыя мураваныя сцены выступалі тысячамі цагляных рэбер. На сценах віселі розныя плакаты і лозунгі адпаведна патрэбам часу. На адной сцяне віселі партрэты Карла Маркса і Леніна, а насупроць іх змяшчаліся Сталін і Варашылаў. Каля сцяны пры ўваходзе стаяла самадзельная дзеравяная канапка, невялічкі кніжны шафік для канторскіх кніг і папак, дзе хавалася розная перапіска і запісы. Два сталы, пісьмовы і звычайны, таксама работы калгасных майстроў, ды некалькі крэслаў складалі ўсю мэблю і абстаноўку канторы. Сама-ж кантора з'яўлялася часткай мураванага свірна з прасторным ацамантаваным падвалам. У гэтай будыніне

хаваліся галоўныя калгасныя прадукты: зерне, бульба і гародніна.

За пісьмовым сталом сядзеў малады хлопец з задзёрыстым віхрастым чубам, комсамолец Грышка Гаруй. Ён быў дзелаводам і бухгалтарам. З аднаго і другога боку стала былі — старшыня калгаса Максім Шахлевіч і яго намеснік Кандрат Ваган. Правяралі канторскія кнігі. Справа гэта для іх новая.

— А ўсё-ж такі, брат Грышка, не шкодзіць, я думаю, пабыць табе на бухгалтарскіх курсах. Калгас наш расце, справа ўскладняецца, — заключыў рэвізію кніг старшыня калгаса і дадаў:

— Не гаруй, Гаруй!

На гэтай вясёлай і жартлівай яго прыказцы з'явіўся на парозе канторы Пракоп.

## XI

Усе трое паднялі вочы на Пракопа. У сваю чаргу Пракоп зірнуў на іх.

— Прабачайце, таварышы! — першы загаварыў Пракоп: — хто тут старшыня калгаса?

— Я! — азваўся Максім і вокам вайсковага чалавека зірнуў на Пракопа.

— А сам хто будзеш? — запытаўся і ён.

— Дубяга Пракоп, з вёскі Затонне... Прышоў я да вас, таварышы, паглядзець, як будуеце вы калгас. У вас-жа, бачу, можна павучыцца.

— Ага!.. ну, добра... Сядайце! — паказаў старшыня Пракопу на канапку.

Пракоп сеў, зняў шапку і павесіў яе на заціснуты між каленяў кій. Гэтую прывычку набыў ён за час свайго вандроўніцтва.

— А вы самі калгаснік?

Пракоп трохі замяўся.

— Як вам сказаць? і калгаснік і не калгаснік... Мы толькі нядаўна пазапісваліся, а работы, сказаць, яшчэ няма ніякай. Людзі ў нас маласвядомыя, а справа маласвядомая, — як будзе, што будзе? Адны кажуць так, дру-

гія гэтак. Дык трэба хоць паглядзець, як людзі ў калгасах жывуць, каб ведаць, як да чаго прыступіцца.

Гаварыў Пракоп, і няёмка было яму пад поглядамі незнаёмых людзей, перад якімі, праўду сказаць, ён разыгрываў камедыю. А гэтыя людзі пазіралі на яго ўважна, і асабліва старшыня. І вочы ў яго вострыя і быстрыя, так, здаецца, і пранікі ў Пракопава нутро. Але твар яго добры, лоб шырокі, адкрыты, і ўсё аблічча яго хіліла да сябе. Пракоп пераводзіў свой зрок то на смуглы твар Вагана, то на ваяцкі Грышкаў чуб, то на адкрыты вясёлы твар старшыні.

— Ну, а самі-ж вы, як глядзіцё на калгас? — проста запытаў старшыня.

— Па-мойму, калі-б усе былі дружныя ды працавалі-б так на калгас, як працуе кожны сам на сябе, то чаму-ж? калгас — рэч добрая. Што адзін чалавек, а што грамада!

— А як вы арганізавалі свой калгас, самі, ці вас угаварвалі? — загуў басам Ваган.

— Ды ўсё адно з другім злучылася. Маладыя, дык тыя больш напіраюць. Вось і мой сын, Мікіта, падлетак, мае да калгаса вялікую ахвоту. Другі сын, Андрэй, у Чырвонай Арміі, піша, каб не слухалі кулакоў і непрыменна ішлі ў калгас.

— А ваш сын у Чырвонай Арміі? — пацікавіўся старшыня.

— Служыць, і такі ўжо заядлы калгаснік, што свет гатоў перавярнуць, а калгас яму давай.

— Значыцца, маладзец ваш сын, — азваўся Грышка Гаруй.

— Ну, што-ж, таварышы, кончым канторскую работу. Паабедаем, накорміім нашага госця, няхай ён трохі адпачне... Вы-ж не надта спяшаецеся? — звярнуўся старшыня да Пракопа.

«Вось залаты чалавек»,—падумаў Пракоп і далікатна сказаў:

— Вы пра мяне не турбуйцеся, таварыш. А спяшацца мне некуды так. Ды ў мяне і хлеб свой ёсць. — Пракоп палажыў руку на пазуху.

— У парадку азнаямлення з нашым калгасам вы павінны наведацца і ў нашу сталоўку. І месца для вас мы знойдзем.

Пракоп прагавіта глытаў сліну і яшчэ раз падумаў: «Золата, а не чалавек».

Старшыня ўзяў Пракопа пад сваю апеку і павёў яго ў сталоўку.

Для сталоўкі была пастаўлена спецыяльная хата; накрытая чарапіцаю, з двума прыгожымі ганкамі і прасторнымі верандамі, яна наогул мела выгляд даволі фарсістага дачнага будынка. На верандах сталаваліся летнім часам. Цяпер яны пуставалі, прыкрытыя фанераю, каб не наносіла туды снегу. Сама сталоўка займала палавіну дома і двума ходамі злучалася з кухняй: праз адны дзверы неслі страву ў сталоўку, а праз другія выносілі парожнюю пасуду.

На сценах сталоўкі віселі надпісы, напамінаўшыя аб гігіене: «мыйце рукі перад ядою», «не піце сырой вады», «выцірайце ногі» і інш. У карыдорчыку стаяў бляшаны ўмывальнік, а пры ім віселі ручнікі. Каля парога ў сталоўцы была паслана мата з саломы — выціраць ногі. Адным словам, гігіена мела тут сваю адпаведную базу, каб гэтыя надпісы не заставаліся пустымі напамінаннямі.

Пасярэдзіне стаяў даўгі стол на козлах. За гэтым сталом магло размясціцца чалавек дваццаць, а каля сцен, па адзін і па другі бок, малыя сталы: тры з аднаго боку і тры з другога. Такім чынам зараз у сталоўцы магло свабодна абедаць чалавек сорак, але было яшчэ шмат вольнага месца, каб пры патрэбе гэты лік можна было значна павялічыць.

Гордасць і здавальненне свяціліся на твары старшыні, калі ён паказаў Пракопу сваю сталоўку. Пракоп не знаходзіў адпаведных слоў выказаць сваё здзіўленне.

— І гэта ўсё зрабілі вы самі, сваімі сіламі? — дзівіўся ён.

Старшыня весела пасміхаўся, як-бы ведаючы ўсе Пракопавы мыслі:

— Самі, дзядзька, самі. Трэба толькі ясным вокам убачыць новае жыццё ды ўсвядоміць сабе ўсю недарэчнасць старой дробнай гаспадаркі.

— А! брат ты мой! — ахаў Пракоп ды пачухваў патыліцу.

— Захочаш па-сапраўднаму — усё зробіш грамадою.

— Ну, як-жа вы ўсё-ж такі збудавалі гэты дом? Ды і не адзін гэты дом—у вас, бачу, шмат чаго пабудавана?

— Расказваць можна тут і доўга і коратка. Я раскажу вам кароценька. Наш калгас немалы: у нас паўтары тысячы *га* зямлі, і народу ў нас нямала: сем'яў каля двухсот. Чаму пайшлі мы ў калгас? Таму, што зусім ясна ўсвядомілі перавагу калектыўнай гаспадаркі над гаспадаркай індывідуальнай. Стаўшы на гэты шлях, мы і пайшлі дружна, як адзін. Пачалі мы з гэтага пасёлка. Майце на ўвазе, што тры гады таму назад тут было пустое месца. Вось мы і надумаліся залажыць тут ядро, фартэцыю нашага калгаса, яго штаб. Кінуліся гуртам, перанеслі сюды будынкі шасці гаспадароў, перакроілі іх ды зрабілі адну добрую клуню, тры дамы і іншыя патрэбныя будынкі. Справа пайшла. На сённешні дзень мы тут маем сорак сем'яў. Навошта-ж кожнай сям'і, кожнай гаспадыні ў хаце траціць час, сілу каля печы? Падумалі, абмеркавалі і зрабілі адну кухню на ўсіх... Мая жонка стаяла летась за сваю кухню, а папрабуй цяпер скажы ёй пра сваю кухню — яна табе чапялою ў нос суне.

Наш пасёлак з'яўляецца тым асяродкам, каля якога будуць расці новыя. У нас ужо ёсць такая праграма, шырокая праграма. Усе нашы калгаснікі бачаць, што мы — на правільным шляху, і дружна бяруцца за работу. А гэта самае важнае. Не думайце, што ўсё гэта лёгка даецца. І самае труднае — арганізаваць рабочую сілу, паставіць кожнага на сваё месца. А мы гэтага дабіліся, мы гэта зрабілі.

## XII

Застаўшыся адзін у пакойчыку для «гасцей» і акінуўшы яго поглядам, Пракоп сам сабе падміргнуў, кіўнуў галавою.

— Вось табе і калга-а-с! — ціха і працягла сказаў ён.

Гэты пакойчык змяшчаўся ў тым-жа доме, дзе жыў і старшыня калгаса, і адгароджваўся ад яго кватэры светлымі і даволі прасторнымі сенямі, а за глухою сцяною жыла сям'я калгасніка. Тры шырокія дзервяныя тапчаны з саламянымі падушкамі і сеннікамі, засланымі

коўдрамі сялянскага вырабу, служылі пасцеллю. Спецыяльнае прызначэнне гэтага пакойчыка — даваць прыпынак людзям, па той ці іншай справе наведваўшым калгас.

У пакойчыку было цёпла, ціха, утульна. Пахла смалою свежага дрэва. Гэтая каморка, або «станцыя», як называў яе Пракоп, паказалася яму верхам чалавечага дабрабыту. Ён скінуў кажух, палажыў яго ў ногі на тапчан, і сам выцягнуўся на ўсю даўжыню свайго стомленага і абцяжэлага пасля ёмкага абеду цела. «Добра жывуць!» — пазайздросціў ён калгаснікам. Даўно ўжо так не абедаў Пракоп, і лепшым доказам гэтага багатага абеду служылі засеўшыя ў зубах кавалачкі гавядзіны. Цяпер наш дэлегат выкалупліваў іх адтуль пруткаю саломінкаю і страляў імі аж у процілеглую сцяну. Такі-ж самы абед елі і ўсе калгаснікі, так што Пракопавы меркаванні аб яго дэлегацкіх прывілеях адпадалі тут самі сабою. Гэты ёмкі абед наводзіў на Пракопа сон і спакой. У безмяцежным разважанні над праблемаю, што лепш, ці быць калгаснікам ці дэлегатам у справе азнаямлення з калгасам, ён і заснуў моцным сном.

Яшчэ адна прыемная неспадзяванка чакала Пракопа ў гэты дзень. Вечарам, пасля здаравецкага храпака, яму, як дэлегату, далікатна запрапанавалі паглядзець калгасную лазню, а калі ў яго будзе ахвота, то і памыцца ў ёй. Пасланцом быў калгаснік, Пракопаў сусед па кватэры, Мікола Гнак.

Лазня таксама добры і дарагі пачастунак для госця, асабліва такога, як Пракоп.

— Ну, і малайцы-ж вы: і лазню сваю маеце! — з захапленнем азваўся Пракоп.

— Як не мець у калгасе лазні? Папарышся ды памыешся — проста як-бы ты другі раз на свет народзішся. На цэлы год здароўя прыбавіцца, — адказаў Мікола.

— Даўно ўжо ў калгасе?

— Тры гады.

— Ну, і скажы-ж, браток: лепш вам у калгасе ці не? Для Пракопа гэта было пякучае пытанне.

Мікола ўскінуў на Пракопа вочы, усміхнуўся.

— Дзіўны вы чалавек! ды што-ж тут і пытацца? Калі-б вы ведалі, як мы жылі раней і як сталі жыць

цяпер, што мелі мы тады і што маем зараз, то вам смешна было-б пытацца аб гэтым. Ды вы-ж паглядзіце на нашы будынкі, на нашы кватэры, ды на нашы машыны. Гэта-ж нашы работнікі! А паглядзелі-б вы на наша поле вясною, летам!.. Скажу вам проста: цяпер толькі і жыццё мы пабачылі, цяпер толькі свет нам адчыніўся.

У гэтых гутарках незаметна ішоў час і была пройдзена адлегласць да лазні. Праўда, яна была тут і недалёка, крыху на водшыбе за будынкамі пры лагчынцы, дзе прабівалася невялічкая крыніца-ручаёк. На гэтым ручайку выкапалі сажалку, аблажылі яе берагі каменнем, дно прачысцілі і пабудавалі лазеньку, правёўшы трубы ў сажалку, адкуль і бралі ваду. Лазня была прасторная і выгодная. Адна палавіна была адведзена для раздзявальнай, а ў другой мыліся і парыліся. Тут ужо мітусілася з дваццаць цел, пачырванелых ад пары і венікаў. Шум, жарты, вясёлыя выкрыкі поўнага задаваленння поўнілі лазню. Сярод гэтых галышоў Пракоп угледзеў ваяцкі чуб комсамольца Гаруя, якога спаткаў ён у канторы.

Пракоп раздзеўся. Яму далі венік, пахучы, як май. З венікам пад пахаю і з нагавіцамі і кашуляю ў руцэ пайшоў ён парыцца, мяркуючы, куды-б латвей прыстроіць бялізну, каб яе найлепш праняло параю, бо ў бялізне за часы яго вандроўніцтва завялося нямала featuringрознага бруду. Павесіўшы яе над дзвярамі печы, дзе давалі пару, ён палез на палаткі.

— От дзе рай, браткі мае! а-а-х, як добра! — выгукваў і пакрэктваў ад задавальнення Пракоп, грэючыся на палатках і неміласэрна хвошчучы сябе мяккім венікам. Гразь і бруд спаўзалі і сплывалі з яго гадамі нямытага цела.

— Паддай, паддай пары! — крычалі аматары папарыцца.

Чырвоны, як рак, угнуўшы галаву, падаваўся Пракоп на ніз, бо такой гарачай пары, якой нагналі цяпер калгаснікі, ён, з непрывычкі мыцца ў лазні, не мог перанесці.

— Дайце вам плечы пашарую, — запрапанаваў свае паслугі Мікола Гнак.

Пракоп падставіў спіну, а Мікола з заядласцю і спрытам запраўскага лазніка шараваў яму спіну і сцёгны.

— Ой, браток, і скуру з мяне спусціш!

ную гутарку. На падлозе каля стала забаўляліся дзеці. Іх было двое: малы хлопчык Пятрусь, гадкоў трох, і старэйшая пяцігадовая дзяўчынка Насця. На дзіцячым табурэціку ляжалі фігуркі жывёлін, выразаных з паперы Насцяю. Цяпер яна вырэзвала коніка, а Пятрусь уважна глядзеў і з'яўленне новай жывёліны сустракаў радасным крыкам.

— Распранайцеся-ж ды сядайце за стол, — звярнулася гаспадыня да госця, а сама расстаўляла шклянкі і сподкі, увіхаючыся каля стала.

Здзіўлены і моцна ўражаны Пракоп нясмела сеў за стол у гэтай непрывычнай для сябе абстаноўцы. Яму ніколі ў жыцці не даводзілася піць чай з такою раскошаю, як тут. Ён недаўменна пазіраў на кватэру, на гаспадароў. З аднаго боку як-бы гэта і простыя сяляне, але-ж гэта кватэра — проста такі гарадская! Ён стараўся звязаць у сваіх мыслях штось знаёмае для яго ў сялянскім быце, што бачыў ён тут, з тым, што пракладала сабе новую дарогу. І ўсё гэта ніяк не ўкладалася ў яго галаве.

— Скажыце, — не ўтрываў, нарэшце, ён: — ці ў вас усе так жывуць, як вы?

— А што? — Мікола прыкінуўся, што не зразумеў яго.

— Ды проста мне не верыцца, што я на кватэры ў калгасніка: жывеце вы, як паны! Выбачайце мне.

— Як людзі, вы хочаце сказаць? — папраўіў яго Мікола, — так, жывём лепш, як жылі да калгаса.

— Чыста ў вас, хараша. І няўжо-ж гэтак у вас штодзень? Ці можа гэта жонка ваша такая ўдалая гаспадыня? І як дабіліся вы такога парадку?

— А вы чулі пра самакрытыку? — запытаў Пракопа гаспадар.

Ніякага рэальнага зместу не ўкладаў Пракоп у гэтае слова. Ён моўчкі глядзеў на Міколу, баючыся паказацца невукам і чакаючы паяснення.

— Усім нам добра вядома, у якім брудзе жылі мы вякамі. Мы яго нават і не заўважалі... лічачы, што для мужыка так і павінна быць. Цяпер-жа, калі ўсё старое, што заядала нас, мы выкінулі на сметнік, перад намі паўстала пытанне: няўжо-ж мы гэты спрадвечны бруд заха-

— Нічога, нічога! — заспакойваў яго Мікола: — каб помнілі нашу лазню.

— Ох, якая-ж гэта слаўнота! — слоў не знаходзіў Пракоп, каб выказаць сваё адчуванне і захапленне лазняю.

А калі ён выходзіў памыты з лазні, то казаў:

— Праўду гаварыў ты, браток: усёроўна як зноў ты на свет нарадзіўся: так лёгка, так добра, — ну, як-бы табе дзесяць гадоў скінулі!

Мікола Гнак запрасіў Пракопа да сябе на чай пасля лазні ды заадно каб і паглядзеў ужо і на яго кватэру.

## XIII

Першае, што ўсюды кідалася Пракопу ў вочы пры аглядзе калгаса, было — чыстата і парадак. Гэты парадак і гэта чыстата заўважаліся і ў кватэры Міколы Гнака, куды зайшоў Пракоп пасля лазні. Зграбная, увішная гаспадыня, з падстрыжанымі цёмнарусымі валасамі, адзетая як-бы трохі на гарадскі лад, ветліва сустрэла мужа і госця.

Кватэра Міколы Гнака мела тры асобныя каморы-пакойчыкі, выгадна злучаныя між сабою дзвярамі: прыхожая, якую-б можна назваць і кухняю, бо тут стаяла звычайная вялікая печ і меліся некаторыя адзнакі ранейшых сялянскіх хат; далей ішоў другі пакой, адгароджаны ад першага тоўстымі дошкамі, прасторны і светлы. Яго можна назваць і гасціннаю і сталоваю і, нарэшце, трэці пакой, таксама адгароджаны дошкамі, служыў спальняю. У кухні-прыхожай падлога была цагляная, а ў сталовай і ў спальні — дзервяная. Шырокія дарожкі-даматканкі, паложаныя ў сталовай і ад сталовай у спальню, сведчылі аб тым, як дбаюць тут аб чыстаце і акуратнасці. Замест абразоў на сценах вісела некалькі плакатаў і партрэтаў выдатных палітычных дзеячоў. Таксама не было тут і традыцыйных сялянскіх лавак уздоўж сцен. Іх замянялі канапа, простыя крэслы самадзельнага вырабу і некалькі акуратных табурэтаў. Насупраць уваходу стаяў стол, накрыты белым абрусам, а на стале ўжо весела пашумліваў самаварчык, ведучы сваю няўпын-

ваем і надалей? Не: мы аб'явілі яму смяротны прыгавор. І не на словах, а на справе. А калі хто адставаў або мала зварачаў на гэта ўвагі, таго ўжо нашы жанчыны, наш калгасны жаночы актыў, бралі на прыцэл. Ну, каму-ж гэта хочацца папасціся на язык і за што? за неахайнасць? І навошта-ж яна, калі можна жыць па-чалавечы, калі гэта і для вока прыемней і для твайго-ж здароўя лепей?

— Праўда ваша, — пацвердзіў Пракоп, з шумам дапіваючы другую шклянку чаю. — Мяне яшчэ вось што цікавіць: на якім палажэнні жывеце вы ў калгасе — ці як гаспадары, ці як рабочыя?

— І тое і другое. Гаспадары — паколькі калгас з'яўляецца нашым, рабочыя — паколькі мы працуем на нашай агульнай гаспадарцы.

— А скажыце, як у вас размяркована работа?

— А размяркована яна так, што на кожную работу ставяцца найболей адпаведныя калгаснікі. Агульнае наша правіла такое: ніводзін працаздольны калгаснік не павінен застацца без работы. Ёсць калгаснікі, што ходзяць пры машынах, другія даглядаюць скаціну, трэція — тыя ці іншыя майстры, чацвертыя абслугоўваюць калгаснікаў... Ды ці мала работы ў такой гаспадарцы?

— А хто ставіць на работу?

— Самі. Выбіраем праўленне сваё і яму даручаем распараджацца рабочымі рукамі, а ў некаторых выпадках склікаем агульныя сходы. Кожны з нас мае сваё цвёрдае заданне, і яго трэба зрабіць.

— І многа прыходзіцца працаваць? — дапытваўся Пракоп.

— Ды працы то хапае. Але як-бы мы тут ні працавалі, усё-ж трэба вам сказаць, працуем мы меней, чым працуе гаспадар на сваёй дробнай гаспадарцы.

— А куды вы дзеяце вольны час?

— Адпачываем, чытаем кнігі, газеты, слухаем даклады, лекцыі. Непісьменныя вучацца, каб стаць пісьменнымі. Хто мае ахвоту і здольнасці, ідзе ў музычны, у тэатральны гурток...

— Цікава! — круціў галавою Пракоп, адчуваючы, як розныя думкі вартуюць яго старую галаву, каб насесціся на яе, калі ён застанецца сам з сабою.

## XIV

Ноч, працятая пругкім холадам, пазірала ў падвойныя вокны Пракопавай «станцыі». Пасля поўначы неба выяснілася, засеялася рознакаляровымі трапухкімі агеньчыкамі-зорамі, дрыжачы і лагодна пераліваючыся мяккім вясёлкавым бляскам. Мільярды такіх-жа агеньчыкаў адсвечваліся і ў сняжынках белага покрыва зямлі, занямеўшай у маркотным ззянні месяца. А месяц ужо даўно зрушыў з палавіны свае дарогі і хіліўся да краю зямлі, павярнуўшы ў яе бок свае бліскучыя вострыя рожкі.

Гэты глыбокі спакой і тужлівае ззянне месяца, зазіраўшага ў вокны Пракопавай «станцыі», наводзілі на яго маркоту і сум. Ён востра адчуў сваю адзіноту, сваю адарванасць ад людзей, сваё бадзянне ў дарогах, сваё дармаедства. Уражанні ўчарайшага дня выплывалі ў яго памяці жывымі звеннямі сапраўдных праяў тутэйшага калгаснага жыцця і клалі рэзкую граніцу паміж двума светамі сялянскага побыту. Тое, што бачыў Пракоп з першых-жа дзён свайго далёка няпоўнага азнаямлення з калгасам і з калгаснікамі, яго моцна здзівіла. У глыбінях свае свядомасці ён адчуваў, што калі-б у калгасе ён знайшоў непарадкі, разбежнасці з гаспадарскімі запатрабаваннямі, то яму было-б лягчэй на сэрцы. Праўда, шмат чаго засталося для яго незразумелым. Для яго былі няяснымі тыя спружыны, што прыводзілі ў рух жыццё ў гэтым калгасе. Ён успомніў свайго суседа па кватэры Міколу Гнака і гутарку з ім учора. Няўжо гэта ўсё праўда? Няўжо людзі так перарабіліся ў калгасе, што асабістая ўласнасць для іх не мае вялікага значэння, і яны так-жа дбаюць аб калектыве, як некалі дбалі аб сваіх інтарэсах? Ці шчаслівыя яны тут і як мысляць яны сваё шчасце?

Такія пытанні балюча і востра ўставалі ў Пракопавай галаве, і ён думаў над тым, як знайсці тут праўдзівы адказ.

Яшчэ не развіднелася, але Пракоп, па прывычцы ўставаць рана, заснуць ужо не мог, спяшацца не было куды, і ён ляжаў ды думаў. «Аднак-жа калгаснікі не надта спяшаюцца ўставаць», — крытычна заўважыў ён сам сабе, бо пачынала развідняцца, а на калгасным двары было яшчэ ціха. Не спяшаючыся, Пракоп адзеўся і ціха

вышаў на двор сустрэць новы дзень і па свайму старому звычаю — патупаць да дня на дварэ.

Бледна-яснае неба на ўсходзе святлела, расчышчаючы дарогу кароткаму дню. Насычанае крохкім, як шкло, марозам, паветра чулліва лавіла ранішнія гукі на рыпучым снезе і далёка кідала іх у прасторы. Мернае і як-бы нясмелае парыпванне снегу пад нейчымі нагамі пачулася каля клуні, і чыясь постаць з ёмкім мяшком на плячах выплыла з парадзелага змроку і пасунулася ўніз па вузенькай сцяжыначцы, тулячыся ў задворках між калгасных будынкаў. Пракоп зацікавіўся, перамяніў пазіцыю, каб яшчэ раз пабачыць гэтую постаць і праверыць сваю здагадку, што гэта напэўна хто-небудзь з калгаснікаў цішком панёс калгаснае дабро. Але постаць знікла, а Пракоп толькі крутнуў сам сабе галавою, упэўнены ў праўдзівасці свае здагадкі. Яшчэ прайшло некалькі хвілін цішыні, і калгас патроху пачаў абуджацца. Грукнулі дзверы ў адным, у другім месцы, пачуліся людскія галасы, і некалькі калгаснікаў паказаліся на дварэ. Потым зарыпелі вароты ў клуні і, трошкі счакаўшы, сярдзіта зашамкала сячкарня вострымі нажамі, перасякаючы салому на дробныя шматочкі.

— Дзень добры, таварышы! — сказаў Пракоп, спыніўшыся на парозе клуні.

Два калгаснікі завіхаліся каля сячкарні. Адзін падаваў салому ў жолаб пад зубы і нажы, а другі круціў кола спецыяльна прыстасаванаю ручкаю. Цэлыя струмені перасечанай саломы сыпаліся на ток. Даволі ёмкая кучка сечкі, як невялічкі стажок, стаяла на таку, як відаць загатаваная раней. Двое другіх калгаснікаў насыпалі сечку ў цабэркі. Пасыпалі яе промешкаю, што тут-жа стаяла ў дзервяной скрыні, нанізвалі цабэркі на доўгую тоўстую палку і неслі каровам.

— Добра ідзе работа ў вас!.. — пахваліў сячкарню Пракоп.

— Наладзілася, — азваўся круцільшчык.

— Добра, добра! — яшчэ раз пахваліў Пракоп і сам узяўся за ручку, каб папрабаваць, як лёгка ходзіць кола.

Абхапіўшы пальцамі ручку, Пракоп налёг, крутануў раз, другі. Першыя некалькі колаваротаў патрабавалі намагання мускулаў, а потым кола разгайдалася, яно ўжо

само далучыла сілу інерцыі да сілы мускулаў рук і кру-
цілася лёгка.

— Вось яно табе і тэхніка! — дагадліва азваўся Пракоп. Работа скончылася, і ён злёгку затрубіў носам, адвярнуўшыся, як чалавек далікатны, у бок ад сечкі.

— Ну, гэта ўсё-ж такі саматужніцтва, — салідна заўважыў той, што падаваў салому ў жолаб сячкарні, таксама прачысціўшы нос старым спосабам. — Мы мяркуем прыладзіць маторчык, — важна дадаў ён.

— О! гэта ўжо будзе... дасягненне! — Пракоп быў здаволены, што знайшоў такое трапнае слова.

У кароткай гутарцы ён даведаўся аб размеркаванні работы паміж калгаснікамі і аб унутраным распарадку ў калгасе. Важнейшыя пытанні калгаснага жыцця вырашаліся агульным сходам. Кіруючым прынцыпам быў лозунг: ніводзін працаздольны калгаснік не павінен заставацца без работы. Работа-ж павінна размяркоўвацца так, каб кожны работнік найбольш падыходзіў да яе і найболей адпавядаў свайму прызначэнню. Таксама браўся тут пад увагу і прынцып добраахвотнасці. Размеркаванне работы і прызначэнне на яе работнікаў даручалася праўленню калгаса.

— Ну, а калі-б усе захацелі сечку рэзаць? — хітра пад'ехаў Пракоп.

— А грамада што скажа? — адказаў Лапко, што падаваў салому.

— А самакрытыка нашто? — уставіў слова і круцільшчык Макрыня.

— Ну, і грамадская дысцыпліна, — дадаў ён.

## XV

Пракоп і яго новыя знаёмыя накіраваліся з клуні бліжэй да хлявоў. Па дарозе спыніліся каля спецыяльнага будыначку па суседству з хлявамі. Раз ужо Пракоп хоча азнаёміцца з калгасам, то мінуць гэты будынак яму не выпадае. Так прынамсі казаў Лапко. Але ў даным выпадку ім кіравала пераважна гордасць будаўніка і аўта-

ра праекта гэтага будынка. Лапко ў калгасе — відная фігура.

Ён быў вясковы муляр, але не муляр-прафесіянал, а муляр-мастак, бо ў сваёй творчасці ён унікаў штампаваных форм і спосабаў работы і стараўся даць што-небудзь новае, арыгінальнае. Калі яму здаралася быць у каго-небудзь на рабоце, зладжыць там печ, склеп ці што, то перш чым прыступіць да работы, ён з усіх бакоў вымяркоўваў план, кіруючыся асаблівасцямі месца, абстаноўкі, характарам гаспадароў, іх густам і г. д. Усе ведалі гэтую асаблівасць выдатнага муляра, любілі яго і шанавалі, асабліва дзеці і гаспадыні. Яны ўносілі папраўкі ў праект, давалі парады, а Лапко ўважна слухаў, рабіў свае папраўкі, даваў контрпраекты, і ўсё гэта абмяркоўвалася разам, і калі ўжо даходзілі да агульнай згоды, тады толькі прыступаў ён да работы. А дзецям зверх праграмы ён вылепліваў з гліны хвацкія цацкі: свісцёлкі, казельчыкаў, баранчыкаў, парасятак, сабак, а ў апошнія часы шэдэўрам яго мастацтва была вылепленая з гліны фігура пана Пілсудскага з доўгімі вусамі і нагайкаю. Усе, хто пазіраў на гэтую фігуру, проста канчаліся со́смеху. Чым дакладней выходзіла работа, тым меншую плату назначаў Лапко. Бывалі выпадкі, калі на гэтым грунце вынікалі самыя прыемнейшыя ў свеце спрэчкі. Проста яго ўпрошвалі набавіць цану, але Лапко не парушаў сваіх прынцыпаў:

— Добра яно вышла, ну і добра. Гэтым самым плата мне падвышаецца, — казаў у такіх разах Лапко.

Будынак, перад якім спыніліся калгаснікі з Пракопам, быў камбінаваным будынкам новага тыпу, зробленым па праекту Лапко. І вельмі трудна аднесці яго да якой-небудзь пэўнай катэгорыі будынкаў. Гэта быў разам і склеп, дзе хавалася розная гародніна для жывёлы — рэдзька, бручка, буракі, бульба, — і кухня для гатавання стравы свінням і цялятам. Разам з тым Лапко ўмудрыўся выштукаваць тут і цэлы пакой для галоўнай свінаркі Таклюсі Галынкі. Калі прыняць тут пад увагу некаторыя акалічнасці, як, скажам, тое, што Лапко быў яшчэ кавалерам, хоць яму падбіралася пад палавіну пятага дзесятка, і той факт, што Таклюся была бяздзетная ўдава і таксама яшчэ жанчына-ягада, то стане зразумелым тое

старанне, з якім Лапко майстраваў гэты будынак і пакойчык для Таклюсі.

Большая частка Лапковага будынку, склеп, знаходзілася ў зямлі. Гэта была прасторная чатырохкантовая яма даўжынёю ў восем метраў і на чатыры метры шырыні. Сцены склепа былі абложаны каменнямі, моцна сцамантаванымі, а дно вымашчана цэглаю. Акуратнае скляпенне, як неба над зямлёю, звісала над ямаю. Зверху скляпенне было прысыпана зямлёй і абложана дзірваном, цяпер закрытым снегам. У вузейшай частцы, дзе скляпенне падымалася над долам, была зроблена вузенькая, доўгенькая аконная рама ў чатыры шкелцы. Акенца было зроблена так, што яго можна было лёгка вымаць, а пры патрэбе апускаць у спецыяльна зробленую шчыліну.

Калі трэба было складаць у склеп гародніну, то да акенца пад'язджалі фурманкі, акенца апускалася, ставіліся жалабы-латакі, і па гэтых жалабах скочвалася бульба і ўсякая гародніна ў свае адпаведныя сусекі. Каб папасці ў склеп, трэба было зайсці ў кухню, адтуль вузенькім праходам, дзе, праўда, лёгка маглі размінуцца два чалавекі, спусціцца па ступеньках уніз і адчыніць шчыльныя дзверы, што аддзялялі склеп ад кухні.

— Гэта ўсё — штукарства яго, — паказаў Макрыня Пракопу на Лапка: — пабачце, як гэта ўсё спецыяльна зроблена.

— Можна было-б зрабіць яшчэ лепей, — скромна заўважыў Лапко: — ды не было так вельмі калі разгортвацца.

Усе трое ўвайшлі ў кухню.

Кухня была прасторная і даволі светлая, з цагляным памостам. Чвэрць кухні займала нізкая ёмкая печ з двума ўмураванымі катламі для награвання вады і для варкі бульбы. Для адводу пары была зроблена выцяжная труба над шырокім бляшаным каптуром. Каля сцяны стаяла вялізнае дзервяное карыта з паднятым крыху адным канцом. У спушчаным канцы карыта была зроблена дзірка, заткнутая спецыяльным шпунтам. У карыце прамывалася бульба. А брудная вада сама вылівалася праз дзірку ў дне карыта і сцякала на двор: пад карытам у падлозе Лапко зрабіў зліў.

Пазіраў Пракоп на ўсе гэтыя ўдасканаленні,ківаў галавою і дзівіўся.

— І людзі-ж у вас здольныя!

— Людзі, як людзі, ды не было дзе і як праявіцца ім раней, — казаў задаволены Лапко, паказваючы Пракопу цікавыя рэчы і даючы тлумачэнні.

Але самым цікавым, прынамсі для Лапка, быў тут пакой для Таклюсі, бо яго афармленне найболей займала майстра і ўзяло ад яго, можна сказаць, львіную долю творчага энтузіязма. Таклюся, завязаўшы ў кружок чырвоную хустку канцамі на патыліцу, жывая, хударлявая, секла ў цэбры бульбу. Яна зірнула на Пракопа, а потым на Лапка. Гэты погляд глыбокіх цёмных вачэй казаў Лапку, што яна зразумела яго і нічога не мае супроць таго, каб паказаць госцю свой пакоік. Лапку-ж было трохі няёмка ўводзіць чужога чалавека ў Таклюсін пакой. Але спакуса паказаць сваё майстэрства ўзяла верх над іншымі пачуццямі.

Таклюсін пакойчык быў зусім адгароджаны ад кухні. Адною сцяною яго служыў выступ, куды Лапко прапусціў душнік для награвання пакоя. Гэты выступ шчыльна ўпіраўся ў столь. Ёмкая дзервяная пераборка адгароджвала пакойчык з другога боку кухні. Угары, пасярэдзіне пераборкі, было зроблена акенца. У гэтай-жа пераборцы былі і дзверы. Пакойчык быў сухі, цёплы, зусім прасторны для аднаго чалавека. Але затое-ж якіх толькі пячурак, ямак, закарвашачкаў не нарабіў тут Лапко! Усё гэта дзеля таго, каб чалавеку сапраўды выгодна было тут размясціцца. І Таклюся ў поўнай меры была задаволена сваім пакойчыкам. А для Лапка гэта было самае галоўнае, бо хто-ж гэтак аб ёй паклапоціцца?

## XVI

У кухні кіпела дружная работа. Дзве Таклюсіны памочніцы раскладалі корм свінням, абмешвалі — каму чыстаю ячнаю, аўсянаю або грэцкаю мукою, каму промешкаю, а каму і мякінаю — у залежнасці ад свіных катэгорый, і борздзенька адносілі сваім выхаванцам. Выхаванцы-ж іх, а было іх тут за трыста штук, падымалі такі

гармідар, усёроўна як-бы пад імі траслася зямля. Двое калгаснікаў, пастаўленых даглядаць рагатую жывёлу, бралі са склепу буракі, каб падмацаваць дойных кароў. Сюды-ж сыходзіліся даяркі, тут-жа парадкавалася малако і адпускалася поўная норма тым калгаснікам, што паздавалі свае каровы ў калгас. Лапко прыглядаўся да работы; як гаспадар, кідаў тут сваё вока, аб сім-тым распытваўся, што трохі здзівіла Пракопа.

Пазіраў Пракоп на гэтую, як называў ён, фабрыку, непасрэдна наглядаючы калгасную работу і знаёмячыся з яе арганізацыяй. Так, ён даведаўся, што калгас вызначыў цэлую групу калгаснікаў, брыгаду, па часці абслугоўвання жывёлы, а на чале гэтай брыгады стаяў не хто іншы, як наш муляр Лапко. Такія-ж брыгады былі вылучаны і для іншых работ.

«А бадай што так і лепш», — падумаў сам сабе Пракоп, і мімаволі на памяць усплылі словы яго Мікіты: «Тут ты робіш тысячы работ, а там будзеш рабіць адну». Пракоп незаметна ўздыхнуў, але спыніцца на гэтых думках цяпер не было калі: рабочая мітусня, жывое жыццё разбівалі яго думкі. У гэты-ж час сюды прышоў і старшыня калгаса Максім Шахлевіч.

Ніводнага дня не прапускаў старшыня, калі ён быў дома, каб не абыйсці калгасны двор і асабіста не паглядзець, як ідзе справа. Ніколі не мінаў ён у такіх разах гэтай кухні і хлявоў, каб сваім вокам паглядзець на жывёлу і асабліва на коней. Сам ён служыў у кавалерыі, прывык хадзіць за канём і ўмеў хадзіць, і калгасныя коні карысталіся асаблівай ўвагаю старшыні. Быў у яго тут улюбёны жарабок са спецыяльным прызначэннем множыць конскую пароду. Сяды-тады, каб не даць яму застаяцца, ён сядлаў яго і, як дасканалы кавалерыст, любіў віхрам пранесціся на сваім «Ворану». Калгаснікі пазіралі тады на старшыню з захапленнем і гордасцю.

— Хоць карціну пішы, — казалі яны. — Няхай толькі сунуцца паны: пакажуць нашы малойцы па чым фунт сушанага ліха!

Калгаснікі любілі Шахлевіча, Шахлевіч любіў свой калгас. Галава яго была заўсёды поўна ўсякіх новых планаў, праектаў, як паставіць лепей калгас, як палегчыць працу чалавека і мець больш прыбытак, каб гэтым

самым агітаваць за калектывізацыю суседнія вёскі. Сваю адданасць ідэі калектывізацыі ўмеў ён перадаць і сваім калгаснікам. Ён пашыраў і паглыбляў калгасны актыў, уцягваючы яго ў грамадскую работу.

— Добрай раніцы, таварышы! — сказаў ён, увайшоўшы ў кухню, а з Пракопам павітаўся за руку.

— Ну, як падабаецца наша гаспадарка?

— Маёнтак! — у прастаце душы сказаў Пракоп.

— Не зусім маёнтак: у маёнтку пан сядзіць, — заўважыў старшыня.

— Розніца тая, што панам тут не пан, а калгаснікі, — паправіўся Пракоп.

— Лепшай гаспадаркі, як у панскім маёнтку, таварыш не бачыў, — закінуў слова за Пракопа Лапко.

— А нашу жывёлу бачылі?

— Не, яшчэ не былі там, — адказаў за Пракопа ізноў Лапко, а потым станавіта дадаў: — Ведаеш, брат старшыня, аб чым я ўсё думаю?

— Ну?

— Тут трэба было-б нешта прыдумаць з гэтаю вадою.

— А што?

— Ды вось бачыш ты: ваду прыходзіцца цягаць у катлы саматугам: і цяжка, і гразь наносіцца, і часу забірае многа.

— Гэта ты праўду кажаш. І сам я аб гэтым думаў. Трубы трэба правесці?

— Так, трубы.

— Памяркуй ды прыкінь, як і што.

— Праект у мяне гатовы.

— Тым лепей. Сёння-ж разгледзім.

— Залаты ў вас чалавек Лапко, — заўважыў Пракоп.

— Мы яму прэмію выдадзім, — адазваўся старшыня.

— Нашто мне тая прэмія: добра будзе, вось табе і прэмія.

— Не, брат, нідзе ты не дзенешся: прэміруем!

Каля Пракопа, старшыні і Лапка сабралася цэлая грамада калгаснікаў. Было відаць, што яны не сароміліся паказаць староннямy чалавеку сваю калгасную гаспадарку. Агляд пачалі са свіней.

Хлеў, куды ўвайшлі калгаснікі, быў прасторны, чысты, з вокнамі. Дзервяная пакатая падлога, шырокі праход

між загарадак, кармушкі, прыстасаваныя так, каб свінні не залазілі туды з нагамі,—усё гэта сведчыла аб тым, што свінні былі ў найлепшым доглядзе. Свіней, не сёння-заўтра гатовых стаць свінаматкамі, пераводзілі ў асобныя загарадкі. У такіх-жа загарадках змяшчаліся і свінні з парасятамі. Белыя, чыстыя, гладкія, аблепленыя харошанькімі парасяткамі, яны сапраўды станавілі найцікавейшае відовішча!

— Вось гэта — свінагадоўля дык але! — у шчырым захапленні казаў Пракоп.

І асабліва зварачаў увагу на сябе тут адзін кныр, сур'ёзны, важны, з даўжэразнымі, выгнутымі ікламі. За яго сур'ёзны ваяцкі выгляд і за гэтыя крывыя, загнутыя, як панскія вусы, іклы комсамолец Гаруй даў яму гучнае імя: «Пан Іклінскі».

## XVII

Увесь гэты дзень, за выключэннем перапынку на снеданне і абед, а снедаў і абедаў Пракоп у той-жа сталоўцы, быў прызначан агляду калгаснай гаспадаркі. Аглядаючы гаспадарку, Пракоп забываў сваю самазваную ролю дэлегата і са ўсёй пільнасцю і ўважлівасцю знаёміўся з формамі калгаснай работы, набыткам, маёмасцю і наогул з пастаноўкаю справы ў калгасе. Калі раней была біта яго супроцькалгасніцкая тэорыя, то ў яшчэ большай ступені біла яго цяпер калгасная практыка. І як ні стараўся Пракоп знайсці тут якую-небудзь нядбайнасць, упушчэнне, каб да чаго-небудзь прыдрацца, зачэпкі для гэтай прыдзіркі ён не знаходзіў. Нават той невядомы чалавек, якога бачыў Пракоп раніцаю з мяшком на плячах, не парушаў парадку ў цэлым.

Такія думкі праплывалі ў Пракопавай галаве, калі ён аглядаў калгас, пастаўлены моцна на грунт. Яму паказалі насенны фонд, ачышчаны машынаю, буйны і ядраны, важкі, як срэбра.

Апроч насеннага фонда, калгас меў у дастатковай меры хлеба ў зерні для свайго спажывання і для корму жывёлы. Пры гэтым Пракопу далі справаздачу, што каля

тысячы цэнтнераў зерня было здана дзяржаве, расказалі, які быў ураджай. Так, адзін гектар жыта ў сярэднім даваў пудоў семдзесят пяць, у той час калі ў індывідуальнай гаспадарцы ў лепшым выпадку збіралі пудоў сорак— пяцьдзесят. Зямля-ж тут не дужа ўраджайная. Чым-жа гэта тлумачыцца? Тым, што ў калгасе лепш ураблялася зямля, у калгасе былі трактары, плугі навейшай сістэмы. Калгаснікі-плужане і калгаснікі-трактарысты ўступалі ў соцспаборніцтва, пры гэтым не забывалася, што зямлю трэба ўлагодзіць таксама і гноем і, асабліва, попелам. Калгасная практыка давяла, якое значэнне мае попел для павышэння ўраджайнасці.

Пракопа павялі пад шалашок, ізаляваны ад будынкаў. У гэтым шалашку стаялі тры дзерваныя, шчыльна збітыя з дошак скрыні, спецыяльна зробленыя для ссыпання попелу. Пасярэдзіне скрыні зверху была зроблена дзірка з жалезным сітам для прасявання попелу. А каб зручней было выбіраць яго з скрыні, унізе зрабілі другую дзірку, закрытую засовачкаю: падняў засоўку, і попел сам высыпаецца з скрынкі.

Для машын таксама быў зроблены спецыяльны будынак. Гэта быў і гараж для трактароў і склад для розных сельскагаспадарчых машын. Тое-ж шанаванне калгаснай маёмасці асабліва выяўлялася тут у дбаласці да машын. Усе яны былі пастаўлены так, каб не іржавелі і не псаваліся. А трактары займалі самае лепшае месца, былі пакрыты посцілкамі, што яшчэ болей падкрэслівала іх вагу ў сельскай гаспадарцы. Пракоп многа чуў аб трактарах, але ніколі іх не бачыў. І вось цяпер, калі ён стыкнуўся нос у нос з трактарам, дык мімаволі адчуў некаторы страх, як-бы гэта была не проста машына, а нейкая жывая істота, прышоўшая спецыяльна для таго, каб зрабіць рэволюцыю ў гаспадарцы. Калгаснікі навочна паказалі Пракопу, колькі баразён праводзіць трактар за раз, колькі ён можа ўзараць поля і як узараць, і расказалі яшчэ, якую наогул работу можна рабіць трактарам. Калі ён усутыч азнаёміўся з трактарам, то ў яго нават не павярнуўся язык, каб запытаць, ці выгодная гэта машына? Доўга тупаў Пракоп каля трактара, аглядаў яго з усіх бакоў, стукаў па ім кулаком і не ведаў, як паставіцца да яго. І ўсё-ж такі адышоў ён ад трактара з такім-жа па-

чуццём, з якім адыходзіць параможаны ад свайго пераможцы.

— Ну, што скажаце? — запытаў Пракопа Шахлевіч, калі агляд быў скончаны.

Пракоп трошкі памаўчаў, таўкануў пальцам нос, як-бы забараняючы яму затрубіць, паківаў галавою:

— А колькі ўсё гэта каштавала... вам? — Ён хацеў сказаць «дзяржаве», але не адважыўся сказаць так. У Пракопе сядзеў усё яшчэ стары Пракоп, асцярожны, падазроны, недаверлівы. Але, каб змякчыць крыху сваё запытанне, ён зараз-жа дадаў:

— У такі калгас, як ваш, я пайшоў-бы смела.

— Мы нікому не закрываем дарог у наш калгас, разумеецца, толькі не кулаку ці іншай сволачы, — адказаў старшыня: — але пакольκі ў вас нараджаецца свой калгас, то вы павінны быць там. Новым калгасам лягчэй будзе стаць на ногі: у іх ужо будзе практыка калгасаў, арганізаваных раней.

— А таго, колькі калгас каштуе дзяржаве, вы не павінны баяцца. Падведзены баланс якраз гаворыць за тое, што наш калгас дае дзяржаве прыбытак, — заўважыў комсамолец Гаруй.

— Такіх-бы людзей нам, як вы тут, — паківаў галавою Пракоп.

— Людзі ўсюды ёсць. Адно толькі трэба: жывое жаданне, цвёрдая пераконанасць у перавазе калектыўнай формы гаспадаркі над старой, распыленай, дробнай. А рэшта ўсё... дадасца.

І старшыня энергічна махнуў рукою.

## XVIII

Мінаўся другі дзень Пракопавага прабывання ў калгасе «Хваля рэволюцыі». Шмат новага, цікавага для сябе, для свайго разважання пабачыў ён тут, але далёка не ўсё яшчэ было ім агледжана, каб мець болей закончаны малюнак таго, як і чым жывуць калгаснікі, што яны робяць дома, скончыўшы калгасную работу. Да гэтага часу ён меў дачыненне пераважна з адміністрацыяй калгаса. Тым-жа часам, некаторыя пытанні, узнікшыя раніцаю, калі ён ляжаў яшчэ ў пасцелі, засталіся для яго не зусім яснымя,

Вось чаму ў яго нарадзілася думка распытаць людзей збоку, паслухаць, што яны гавораць аб гэтым калгасе, як глядзяць на яго. Але яму зноў успомніўся Мікіта і яго перасцярогі — не надта слухаць такіх людзей, як Чыкілевіч, кулакоў: яны наогул ворагі калгаса. Але чаму-ж не падслухаць, што гавораць і ворагі. Пракопа-ж таксама лічаць ворагам калгаса? А хіба ён вораг? Пракоп трохі падумаў. Не — ён проста хоча ведаць праўду! Ды нарэшце-ж можна слухаць усялякія гутаркі, але трэба мець і свой розум.

Бліжэйшаю сядзібаю, дзе можна было пагаварыць аб калгасе з староннімі людзьмі, быў пасёлак Высокі Дол. Тут жылі тыя заможнікі, што выселіліся з Клінкоў. Праўда, значная частка іх зямлі была прырэзана да калгаса, і цяпер яны трохі заняпалі. Некаторыя з іх агітавалі супроць калектывізацыі і былі высланы адгэтуль. Рэшта прысмірэла, пападціскала хвасты і сядзела ціха, сыкаючы на калгас спотайку і то азіраючыся і прыслухоўваючыся. Яны нічога не мелі цяпер супроць таго, каб іх прынялі ў калгас і нават заявы падавалі. Але калгас адмовіў ім наадрэз. Кулацкая заўзятасць іх звяла, і жылі яны ў трывозе, чакаючы з дня на дзень свае страшнае часіны: суцэльнай калектывізацыі.

У пасялкоўца Цімоха Бабуры здарылася бяда ў хаце: у печы правалілася чарано. А людзі кажуць так: раскідаецца печ зімою — тое самае, што абрадзініцца жонка ў жніва. Бабура на скорую руку залажыў дзірку зверху печы кавалкам іржавай бляхі і прымазаў глінаю, каб хоць дым не валіў на хату, а сам тайком пабег да Лапка.

Лапко і Бабура — старыя дружакі. Бабура таксама батрацкага роду. Рэвалюцыя паставіла яго на ногі. Яму далі зямлі. Ён завёў гаспадарку. Абжыўся трохі, моцна трымаючыся за зямлю. А потым пацягнуўся за заможнікамі і выбраўся з Клінкоў на Высокі Дол. Лапко шчыра шкадаваў яго, асабліва цяпер, калі дарога ў калгас была ўжо таму зачынена. Хоць яны і апынуліся на розных баках барыкад, але і цяпер, хоць і рэдка, сустракаліся, як прыяцелі. Гэтую прыязнь Лапка да Бабуры жывіла яшчэ адна акалічнасць: Таклюся Галынка была Цімохава сястра. І апроч усяго, Лапко наогул быў чалавек лагодны, адзыўлівы на чужое гора.

Аб сваім жаданні пабыць на пасёлку паведаміў Пракоп Лапку, як чалавеку, якому можна даверыцца. Лапко памеркаваў, падумаў.

— А чаго-ж вы хочаце пайсці туды? — запытаўся Лапко.

— Ды проста так — хачу паглядзець і на некалгаснікаў, — ухілліва адказаў Пракоп.

— Ну, то калі хочаце, пойдзем разам, — запрапанаваў свае паслугі Лапко: — толькі-ж пойдзем, як сцямнее... Ну, ведаеце, мала там што...

Яны зразумелі адзін аднаго і больш аб гэтым нічога не гаварылі, а вечарам, як добра змеркласся, Лапко захапіў сваю мулярскую лапатку і малаток і ціхенька рушылі на пасёлак.

Праз поўгадзіны яны былі на пасёлку. Цімохава сядзіба стаяла на горцы каля кудзеркі невялічкага кучаравага сасонніку. Непадалёку сям-там свіціліся агеньчыкі ў вокнах другіх пасялкоўцаў. Кудлаты сабака сустрэў іх злосным брэхам. Сам гаспадар вышаў ім на спатканне і вельмі ветла паздароўкаўся з Лапком. Зайшлі ў цёмныя сенечкі. Цімох шырока расчыніў дзверы ў хату.

— Заходзьце-ж, калі ласка.

— А гэта наш калгасны госць, — адрэкамендаваў Лапко Пракопа, калі яны ўсе трое ўвайшлі ў хату.

Цімохава хата была моцная, ёмкая, пабудаваная з тоўстага сасновага дрэва, гладка спушчанага пад склюд, смалістага, здаровага. Адным словам, хата была гаспадарская, разлічаная на доўгі век... Трэцюю частку яе займала кухня, адгароджаная ад чыстай палавіны тоўстымі дошкамі. У кухні і была тая печ, у якой завалілася чарано. На шчасце, гэтую печ рабіў не Лапко, а нейкі другі муляр.

Побач з кухоннаю печчу стаяла ляжанка, дзе ўжо трэці дзень гатавала страву гаспадыня, хоць для такой ролі ляжанка і не была прыстасавана.

Цімох павёў гасцей у чыстую палавіну, дзе іх сустрэла гаспадыня і дачка Анэтка, дзяўчына гадоў васемнаццаці. Анэтка была адна дачка ў бацькоў. Сыноў-жа было чатыры. Самаму меншаму з іх было дзесяць гадоў.

— Ты, Анэтка, будзеш калгасніца! — сказаў многазначна, хоць з адценнем жарту, Лапко. Анэтка трохі за-

мяшалася і пачырванела: яна дагадалася, што дзядзька Лапко пранік у яе сардэчную тайну. Справа ў тым, што Анэтка моцна кранула чубатага бухгалтара Гаруя.

— Не прымуць мяне ў калгас у ваш, ды я і сама не пайшла-б туды адна.

Лапко толькі хітра падміргнуў ёй і стаў адзявацца ў мулярскую спецадзежу, каб не зводзіць дарма часу. Гліна і цэгла былі ўжо загадзя прыгатаваны, і Лапко заразжа зачыркаў сваім малатком і мулярскаю лапаткаю.

## XIX

Цімох Бабура быў хітры чалавек і тонкі палітык. Бяда толькі ў тым, што ён зрабіў гэтую прыкрую памылку, выселіўшыся з Клінкоў разам з заможнікамі на гэты Высокі Дол. І чаго панесла яго нялёгкая з гэтай кампаніяй, яго, парабка ў мінулым, а потым маламоцнага серадняка? Але-ж слова з песні не выкінеш. На Высокім Доле ён пусціў моцныя карэнні. Яшчэ два гады таму назад у яго быў парабак. Было ў яго тады чатыры каровы і пара коней ды авец штук восем і шасцёра свіней. Але каянне прышло пазней, калі ў паветры запахла рэвалюцыяй сельскай гаспадаркі, калі была выкрыта да канца існасць кулацтва і азначаны яго лёсы. Вось гэта і прымусіла Цімоха перамяніць тактыку. Патрошку ён стаў згортвацца, як бульбяное лісце перад захадам сонца, і ў той-жа час, аціаніўшы сітуацыю, выпаўняў усякія развёрсткі, падаткі і абкладанні. Яму трэба было звярнуць на сябе ўвагу як на чалавека, цалкам адданага совецкай уладзе, і давесці, што кулацкасць яго—проста непаразуменне адно, што ён той-жа батрак. Калі арганізоўваўся калгас «Хваля рэвалюцыі» і ў кулакоў пачалі забіраць машыны, Цімох сам павёз туды жняярку.

— Таварышы, браткі! Вось вам мой падарунак. Разжывайцеся з маёй лёгкае рукі. Маё сэрца цалкам у вашым калгасе. Але між намі, таварышы, — прорва: я — пасялковец, — маё такое няшчасце, — вы, браткі, маеце права не паверыць маёй шчырасці. Але той, хто чытае ў людскім сэрцы, сказаў-бы вам праўду пра мяне.

Прамова яго была гарачая, сам прамоўца расчуліўся,

і сляза вось-вось гатова была скаціцца з яго вострых і хітрых вачэй. Гэта прамова кранула некаторых калгаснікаў. Старшыня-ж калгаса толькі пасміхнуўся, але падзякаваў за падарунак. Ды Цімох закінуў зерне сумнення і ў мыслі старшыні, як-бы ў пакаранне за тую ўсмешку недавер'я з боку Максіма Шахлевіча, што не схавалася ад вострых Цімохавых вачэй. Пад вялікім сакрэтам ён шэптам сказаў Максіму ставіць на ноч варту ў калгасе: пасялкоўцы замышляюць супроць яго ліхія замахі. Праўда гэта было ці не, засталося невядомым, але варта была пастаўлена, і аб гэтым стала вядома на пасёлку.

Так была наладжана сувязь з калгасам, і гэтай сувязі ён стараўся не губляць, наадварот, ён яшчэ болей замацоўваў яе, заваёўваючы давер'е з боку асобных калгаснікаў. Вялікім козырам была цяпер у Цімохавых руках яго Анэтка. Асцярожны і прадбачлівы бацька не спускаў яе з свайго вока. Яму гарліва памагала ў гэтым і маці. Уся бацькоўская энергія іх была накіравана на тое, каб не выпускаць з рук комсамольца-калгасніка. Анэтка павінна памятаць, што на яе ўскладаецца важная місія — быць аховаю сям'і і гэтага хутарка. А гэты хутарок быў так дораг Цімоху, асабліва цяпер, калі становішча яго, як кулака, няпэўнае, невыразнае, цёмнае і страшнае. На ліхі выпадак Цімох стараўся працерабіць сабе дарогу ў калгас.

Лапко ўлез у печ і ўзяўся за работу. Памагала яму Анэтка, спрытная, гнуткая дзяўчына. Падавала гліну, цэглу.

— Цесна там вам, дзядзька, і непаваротна! — шчыра спачувала яна муляру, устрасаючы стрыжанымі цёмнымі валасамі, адкідаючы іх з ілба. Алег, яе меншы брат, стаяў і назіраў.

— Нічога, Анэтка, нічога, — як шэршань у дупле, бубніў у печы Лапко: — мы яе сеймігà да ладу давядзем.

— Ты, брат, не вельмі ўжо старайся там: залажы трохі збольшага, абы да вясны дастаяла, — сказаў Цімох, ведаючы, што Лапко ўсёроўна зробіць акуратна.

— Дзве пяцігодкі прастаіць, — азваўся з печы Лапко, закладаючы цэглу.

Покі Лапко завіхаўся ў печы, Пракоп і гаспадар сядзелі ў святліцы і гутарылі. Гаспадыня тым часам клала

ў ляжанку сухія, тонкія паленцы, а бразгат скаварады сведчыў аб тым, што будзе пачастунак.

— Дык вы, значыцца, калгас глядзелі?

Уступная перад гэтым гутарка была прысвечана Пракопавай асобе: адкуль ён і хто?

— Ды вось цікава паглядзець, як будуецца калгас і як тут жывуць людзі.

— О, калгас пастаўлены за разлюлі маліну! — выгукнуў Цімох: — цяпер і сляпыя бачаць, што калгас ёсць вышэйшая форма гаспадаркі. Іначай і быць не можа.

Пракоп трохі панурыўся.

— Нічога не скажаш супроць: гаспадарка іх — дзівіцца трэба. А ўсё-ж такі скажу вам... ну, тут як-бы нешта людзі згубілі.

Вострымі вачыма мацнуў Цімох Пракопа. Відаць, на балючае месца наступіў яму госць. Але ён не паддаўся першаму парыву. Зарагатаў і сказаў сур'ёзна.

— Яны нічога не згубілі, мілы чалавек! А калі што і згубілі, дык гэта сваю галечу. Бедныя былі ў нас людзі, па заработках цягаліся, служылі за няшчасныя рублі, за скарынку хлеба. І сам я быў такі і вельмі шкадую, што не астаўся такім: і я быў-бы ў гэтым калгасе.

А ў затоеных мыслях сваіх Цімох гаварыў: «Мяне ў калгас па добрай волі на вяроўцы не зацягнулі-б». Пракопу-ж уголас казаў далей:

— Губляе заможнік, кулак...

— Ну, а вам цяпер няможна ў калгас? — пацікавіўся Пракоп.

Цімох невыразна махнуў рукою.

— Яно-б можна, калі-б то ў часе зрабіў захады, і папаў-бы. А цяпер... трудна. Заможнік, бачыце, кулак. А які кулак? Што парабка некалі трымаў? Дык і сам-жа я парабкам быў. Адно другім пакрываецца. Уся мая бяда ў тым, што выселіўся на гэты пасёлак... Ды каб-жа чалавек ведаў, дзе ён паваліцца, дык там саломкі падаслаў-бы... Мяркуеш, як лепей, ды не заўсёды яно на дабро выходзіць.

— Вось вы тут блізка жывяце, і вам лепей відаць: ці здаволены яны жыццём у калгасе? — рубам паставіў пытанне Пракоп.

— А чаго ім, скажыце, больш трэба? Жывуць у цёплых, чыстых кватэрах. Працуюць меней за тых, хто вядзе сваю гаспадарку. Ядуць на поўны пуп, чыста ходзяць, клопату не маюць, кожны ведае адно якое-небудзь дзела. Дзеці іх у доглядзе — маюць свой дзіцячы сад. Вечары ладзяць, прыстаўленне, музыку ды яшчэ і ў лазні могуць мыцца. Ну, чым-жа не жыццё?

— Але ўсё-ж яны там... ну, як вам сказаць? сабою і сваім часам не могуць распараджацца, як хочуць.

Пракоп успомніў, з якою перасцярогаю ішоў з ім сюды Лапко, ды аб гэтым не сказаў нічога.

У затоеных сваіх мыслях Цімох гаварыў: «У тым-та і бяда, што ў калгасе такім гаспадаром, як на сваім хутары, ты не будзеш і сваім адумам нічога зрабіць не здолееш. І працаю, здабыткам яе, па-свойму не пакруціш».

Пракопу-ж ён пераконана тлумачыў:

— Ну, гэта байкі адны! Дзе можна знайсці такога вольнага чалавека, як вы думаеце? На сваёй гаспадарцы ты вольны? Ды ты сам сабе тысячу раз тут нявольнік. Нявольнік свае зямлі, свае працы, свае скаціны, сваіх абавязкаў перад дзецьмі, перад людзьмі. Дрыжыш за кожную дробязь, за кожную няўдачу... Калі добра паглядзець, дык няхай яно калом пойдзе. А ў калгасе адбарабаніў сваё, і ты вольны казак.

А ў заключэнне сваіх слоў Цімох у мыслях дадаў:

«Чорт-жа цябе ведае, што ты за чалавек і як лепш з табою гаварыць!»

— Як відаць, усё, што робіцца на свеце, ідзе к лепшаму, — глыбокадумна заўважыў Пракоп, дзівячыся, чаму такога чалавека, як Цімох Бабура, не прымаюць у калгас.

Лапко паправіў печ, акуратна замазаў яе зверху і, калі ўжо ўся работа была скончана, жартам напалохаў Анэтку, намерыўшыся замазанымі глінаю рукамі ўзяць яе за шчокі.

— Ой, дзядзька! — са смехам і піскам адскочыла яна ад Лапка, а потым палівала яму ваду на рукі. А гаспадыня накрывала стол.

## XX

Перш чым сесці за стол, Цімох вышаў на двор і пазачыняў акяніцы. З двара завярнуў у варывеньку, дзе хаваўся розны гаспадарскі скарб. Тут-жа стаяў і шафік, а ў шафіку пра запас вадзілася гарэлка. Таксама ў варывеньцы віселі цяпер і абразы, бо трымаць іх у хаце было нязручна. Цімох заходзіў сюды памаліцца богу, памятаючы словы яго сына: «Ты, калі молішся богу, выйдзі ў клець тваю і зачыні за сабою дзверы: няхай малітва твая будзе патайною». Дужа трапна казаў калісь сын божы! У цемнаце падняў Цімох вочы ўгору, дзе віселі абразы, уздыхнуў, памаліўся каротка, але горача: «Захавай, божа, мне хутар». А потым намацаў кручок на шафіку, адчыніў, пашоргаў рукою па бутэльках, выцягнуў важкую пляшку літра на паўтара, сунуў за пазуху і накіраваўся ў хату.

Пах скварак і кілбасы так спакусліва разліваўся па хаце, што кожны, хто быў тут, мусіў адгукнуцца на гэта сваім носам. А Пракопаў нос вывеў такія трэлі, якіх не выводзіў яшчэ ні разу.

Круглая, агромная, у меру глыбокая патэльня, на палавіну занятая светларужовым распушчаным салам, дзе плавалі скваркі, як крыгі ў разводдзе, і нерухома ляжала скручаная ў дзве столкі кілбаса, якою можна было-б падперазаць самага тоўстага чалавека, заняла пачэснае месца на стале. Анэтка прынесла міску квашанай капусты. Цімох паставіў бутлю. Госці гарэлі ад нецярпення, але сядзелі паважна, нічым не выказваючы свайго прагавітага жадання кінуцца ў наступленне.

Першым выпіў Цімох, гаспадыня, яшчэ малажавая, чарнабровая, у меру тоўстая і ў меру высокая жанчына, уступіла яму сваё права. Першая чарка была выпіта за Лапка, за яго работу, здольнасці, за брыгадзірства і за добрае сэрца.

— Карацей, карацей, — саромеўся трохі Лапко: — кілбаса стыне!

Сваю чарку ён перадаў гаспадыні. Гаспадыня з далікатнасці зноў адмаўлялася, але Лапко катэгарычна заявіў, што ён вып'е толькі пасля гаспадыні, матывуючы гэта тым, што ён хоча ведаць яе мыслі. А калі потым ён

выпіў і сам, то ад здавальнення моцна крэкнуў — гарэлка, наліўка на вішні, была дужа добрая — і жартліва сказаў Цімоху:

— Ты павінен жыць, покі я не памру.

— То дай божа Лапку жыць сто гадоў! — умеў сказаць дарэчы і Пракоп.

— Дай божа! — пацвердзілі Цімох, гаспадыня і Анэта.

На некаторы час гутарка прыціхла, саступіўшы месца чаўканню сківіц. Адна толькі гаспадыня разрывалася на часткі, частуючы гасцей.

Госці церабілі кілбасу з капустаю. А кілбаса была сакаўная, крохкая і калі адкусіш, то яе кавалачкі выпіраліся самі з свае няволі, расквечваліся, як бутон ружы.

Пракоп са смакам пытляваў кілбасу, зацярушваючы бараду капустаю. Малы Алег заўважыў, як калыхаўся на сцяне цень ад яго барады, і моўчкі сам сабе пасміхаўся, пазіраючы то на Пракопаву бараду, то на яе рухлівы цень на сцяне.

— Ну, кілбаса-ж у цябе, Алена: проста сама ў роце растае! — у захапленні хваліў Лапко кілбасу, а тым самым і гаспадыню.

— Гэта мы з Анэткаю рабілі, — перадала здаволеная маці частку пахвалы дачцы.

— З Анэткаю? — Лапко паглядзеў на дзяўчыну, паківаў галавою.

— Не, нічога не будзе: забяру, мусібыць, я цябе ў калгас, Анэтка!

Анэтка, выпіўшы чарку наліўкі, сядзела з паружавелымі шчокамі, жывая, вясёлая, шчабятлівая. Свежасць і маладосць прабівалася ў кожным яе руху, у кожным слове, у смеху і ў іскрыстым бляску чорных вачэй.

— Няма мне дарогі ў ваш калгас! — нібыта з засмучэннем адказала Анэтка.

— Пойдзем! — рашуча заявіў Лапко: — я сам запішуся ў комсамольцы, а цябе вазьму... Эх!.. Ну, і чаму я не комсамолец?.. А кілбасы смачныя!

— От такіх кілбас няма там у калгасе, — тонкую шпільку пусціў Цімох.

— Няма! — тужліва згадзіўся Лапко, а потым да-

даў: — ну, калі-б хто ўжо захацеў, то нарабіў-бы сабе трохі кілбас. Не кажу такіх смачных, а наогул.

— Ды там-жа ў вас і распараджэнне ёсць — злупліваць скуры з свіней, — гнуў сваё Цімох.

— Ёсць!

Лапко высока падняў галаву.

— А ты ведаеш, — сказаў ён: — што пяцьсот свіных скур даюць калгасу адзін трактар?

— Трактар? За пяцьсот свіных скур? — здзівіўся Цімох.

— Так, адзін трактар! — з выглядам пераможцы пацвердзіў Лапко.

Не ўцярпеў тут і Пракоп:

— А! вось табе і свіная скура! Дык колькі-ж мы сваёю вёскаю за свой век трактароў паелі! Божа, твая воля, што робіцца на свеце!

Пракоп апусціў галаву і задумаўся. Ён нават не чуў, што сказаў Цімох на яго заўвагу. А Цімох сказаў:

— А калі прыняць пад увагу, што мы елі і мяса і сала разам з скураю, то мы праелі не толькі трактары, а і цэлыя трактарныя заводы разам з трактарамі.

— Ты гаворыш праўду, хоць выступаеш, як класавы вораг. І не гавары ты гэтак, каб я не ўзлаваўся. Шчасце тваё, што я выпіўшы... Эх! дзе мая злосць, каб яе агонь спаліў!

Лапко пакруціў галавою.

— Ануча я, а не чалавек!

Пракоп даўно ўжо не піў гарэлкі, і хмель наймацней стукнуў яму ў галаву. Наўперад яму стала так добра, добра як, здаецца, ніколі яшчэ ў жыцці. І людзі, і ўсё на свеце здалося яму такім добрым і мілым. Цэлыя калкі жыцця, з'явы, малюнкі праходзілі перад яго вачыма. Ён моцна соп носам, аддаючыся сузіранню свайго жыцця. Стараўся слухаць, што гавораць каля яго, сам устаўляў свае слова, але мыслі яго былі дзесь далёка. А потым зрабілася яму журботна. Проста хацелася плакаць і расказаць людзям пра сваё жыццё, пра сваё гора і самадурства. Ён чмыхнуў носам так, што спалохаў Алега, і непаслухмяным языком сказаў:

— Лапко, таварыш Лапко! Адзін ты спадабаўся мне

ў калгасе, як... ну, не ведаю хто... — Пракоп на хвілінку змоўк. Нечакана для сябе сказаў:

— Вы-ж думаеце я — дэлегат? Які я ў чорта дэлегат? Адшчапенец я, бадзяга!.. Сам сябе выгнаў з свае хаты, з свае гаспадаркі. На сваю старую, на свайго Мікітку насварыўся, кіем на іх махаў, бо яны ў калгас цягнулі мяне, а я не хацеў, збаяўся калгаса. І вось я ім сказаў: ідзіце ў калгас без мяне, а сам я ў свет пацягнуўся работы і праўды шукаць... Цягаюся, не мілы сам сабе. Дзе-ж мне дзецца? — Пракоп закрыў далонямі вочы і заплакаў, унёсшы замяшанне ў вясёлую бяседу.

— Ды аб чым-жа тут нудзіцца і гараваць? — запытаў Лапко: — вось галава! Вярніся дамоў ды ў калгас валяй!

— Вярнуся, браток! — весялей загаманіў Пракоп: — успомню, што ў калгасе ёсць такія людзі, як ты, і мне будзе весела, і ахвота знойдзецца ў калгасе працаваць.

Пракоп абняў Лапка, і сталі яны цалавацца.

А гаспадыня сказала:

— Ну, вось і добра! Павесялеў чалавек і добра.

— Будзем старацца брыгадзірам цябе зрабіць у калгасе, — паддаваў Пракопу ахвоты Лапко.

Як добрыя прыяцелі варочаліся яны з хутара.

## XXI

Роўналежна і адначасна адбываліся падзеі і ў Затонні, адкуль і зачалася ўся гэтая гісторыя.

Нельга сказаць, каб Пракопаў учынак паспрыяў калгаснаму руху ў Затонні. Калі назаўтра даведаліся затонцы аб тым, што Пракоп сышоў з дому нямаведама куды, абы толькі не быць у калгасе, то найбольш хісткія людзі, што пазапісваліся ў калгас, захісталіся яшчэ мацней. Большая палавіна іх заходзіла ў аўдавеўшую цяпер Пракопаву хату, каб даведацца з першых крыніц аб падрабязнасцях і прычыне яго прочак. Яны спачувалі Пракопу, дзівіліся той упартасці, якую выявіў ён у сваім нежаданні ісці ў калгас. Дзе-ж гэта відана, каб пражыўшы ўсё жыццё на зямлі чалавек, не шалагон, а чалавек сталы, працавік, руплівы гаспадар, раптам кінуў свой

дом, сваю сям'ю, увесь набытак і паваломся ў свет? Такога здарэння ніхто не памятае! І людзі моцна задумваліся над гэтым.

Многа было гутарак аб Пракопе. Разважаючы аб ім і дзелячыся гэтаю незвычайнаю навіною, часамі і пасміхаліся людзі, але гэта не быў вясёлы, жартлівы смех — гэта быў смех жалю, няпэўнасці і сумнення. Трэслі галовамі, пацiскалі плячыма, і непрыемнае ўнутранoе пачуццё халадком павявала на сэрца. Ва ўсякім разе знак гэта нядобры: не паспелі яшчэ і прыступіць да афармлення калгаса, а ўжо чалавек выбыў з грамады. І невядома, куды ён пайшоў і што ён намысліў. Некаторыя найбольш уражлівыя затонцы ўпотайку прыглядаліся, ці не ляжыць дзе Пракопаў труп. Словам, настрой быў панылы.

Чыкілевіч раней за ўсіх адчуў подыхі небяспекі. Але Чыкілевіч быў чалавек прадбачлівы. Хоць у яго і былі некаторыя надзеі, што калектывізацыя не адбудзецца або пойдзе нейк іншым шляхам, ён тым не меней на ўсякі выпадак прымаў свае меры. Яшчэ з восені выкапаў ён патайны паграбок у сваёй клуні і ў гэтым паграбку хаваў кубел сала, дзве кадушачкі круп і іншы свой скарб. Быў у яго добры япрук, і ён закалоў яго нядаўна. Каб людзі не ведалі аб гэтым, Чыкілевіч не смаліў яго звычайным спосабам, саломаю: агонь і дым прыцягнулі-б людскую ўвагу. Каб унікнуць гэтага, Чыкілевіч асмаліў япрука ў пограбе жароўняю, для чаго напаліў добрых бярозавых вугалёў. Вынікі гэтай аперацыі пераканалі Чыкілевіча ў тым, што новы спосаб ніколечкі не горшы за стары, а пры сучасных умовах проста дасканалы. Разам з гэтым ён сваю жывёлу выменьваў на горшую, беручы добрыя прыбыткі, рабіў з ёю розныя камбінацыі, але рабіў ціха, гладка, незаметна. Гаспадарскія-ж машыны прыводзіў у такі стан, каб у калгасе яны баставалі, але калі-б яны засталіся ў яго, то працавалі-б належным парадкам пасля некаторага рамонту, з якім лёгка-б справіўся іх сапраўдны гаспадар, гэта значыць ён, Чыкілевіч. Ціхае шкодніцтва кіравала яго мыслямі і ўчынкамі.

Хоць сам Чыкілевіч на сходзе і не быў, але там былі яго вушы: кожны разумны чалавек павінен мець некалькі пар вушэй. Ён таксама доўга не спаў у гэту ноч, раз-

важаў над тым, у якой меры закране яго калектывізацыя, што возьмуць у яго ў першую чаргу, што потым і што нарэшце станецца з ім самім. Не было ніякага сумнення: яго раскулачаць, раскулачаць зараз-жа. Разважанне асноўвалася на вядомых Чыкілевічу выпадках. Ён увесь тросся ад злосці і думаў, як папомсціцца. У гарачай галаве яго мітусіліся самыя страшныя планы. Ён думаў аб розных бяздонных правалах зямлі, дзе калгасы асталююцца, аб заразе, якою-б можна было спустошыць усю скаціну ў калгасе, аб пошасці для тых «трутняў», што пагоняцца на яго дабро, аб забойствах, падпалах і іншых жахлівых рэчах.

Раніцаю даведаўся ён, што яго ўжо збіраюцца раскулачваць. У хваляванні, у трывозе чакаў ён неўнікнёнага налёту на сваю гаспадарку. Прайшло некалькі вострых мінут напружанага чакання. Але яму становіцца вядома і аб тым, што Пракоп сышоў з дому і чаму сышоў. Яму расказалі, якое замяшанне выклікаў Пракопаў учынак паміж новаяўленых калгаснікаў.

— Дай табе божа здароўя, Пракопе! — Лягчэй уздыхнуў Чыкілевіч і ледзь не заплакаў ад радасці, гаруючы па Пракопе: калі Пракоп і не зусім выратаваў яго, то час раскулачвання ўсё-ж быў адтэрмінован. Сядзець аднаму на хутары стала неўцярпеж. У яго з'явілася думка выкарыстаць гэты выпадак. Апранае бравэрку, насоўвае лісіную шапку, напускае на сябе выгляд засмучонага чалавека. Ідзе на вуліцу, дзе густа снуюць патрывожаныя затонцы.

У невялікай групцы сялян стаіць Марыніч, як ні ў чым не бывала, і глыбокадумна пыхкае піпкаю. Вострым і калючым поглядам акінуў яго Чыкілевіч. Марыніч не заўважае гэтага погляду і сам даволі прыязна глядзіць на Чыкілевіча. «Гад ты, гад!» — каротка атэстуе ў мыслях Чыкілевіч Марыніча, а ўголас гаворыць лагодна:

— Дзень добры, мужчыны!

Некалькі хвілін Чыкілевіч стаіць моўчкі, слухае, што людзі гавораць. А гаворка ўсё каля Пракопа верціцца. Нарэшце, улучыўшы зручны момант, выступае Чыкілевіч.

— Дзівак, скажу я вам!

Чыкілевіч тут чалавек свежы, яго слухаюць уважна.

— Проста сказаць — несвядомы чалавек, калгаса за-

баяўся! Гаварыў з ім учора. Упёрся — не хачу ў калгас! Я і так, і гэтак, а ён — хоць ты яму грудзі пары, з месца не зрушыш. «На сваёй гаспадарцы, кажа, які ты ні быў гаспадар, але гаспадар, сам сабе галава, сам сабе загадчык і камандзір. Хачу — раблю, хачу — адпачываю. А ў калгасе я што? Парабак — не парабак, батрак — не батрак, а волі свае не маю». Ну што ты скажаш такому цёмнаму чалавеку?

Чыкілевіч уваходзіць у Пракопаву ролю і ад яго імя б'е па калгасу.

## XXII

Мікіта падняўся з пасцелі раней, як звычайна. Першы раз у жыцці апанаваў хлопца гаспадарскі клопат. А клопату нарабіў яму бацька нямала. Тое-ж адчуванне невыразнасці і няпэўнасці Пракопавага лёсу цяжкім гнётам ляжала на Мікітавым сэрцы. Нахмураны і задумлёны вышаў Мікіта з хаты.

З чаго-ж тут пачаць?

Першым дзелам пайшоў у клуню — трэба накарміць жывёлу. Гаспадарскім вокам зірнуў на сена, на салому, на запасы корму, пастаяў разважліва, залажыўшы адну руку за пазуху кажушка.

«Корму павінна хваціць, калі яго расходаваць эканомна», — сам сабе падумаў Мікіта і тут-жа стаў прыкідаць у мыслях, як чалавек сталы, на чым можна зрабіць эканомію, як з большай карысцю ўжываць корм. Бацька больш налягаў на трасянку. Шмат корму трацілася дарма, ішло проста пад ногі, у гной. Мікіта тут-жа рашыў перайсці на сечку, на паранку. Калі Мікіта запыніў свае мыслі на гэтым, ён прышоў да вываду, што паранка — гэта і ёсць той своеасаблівы від сіласу, аб якім так многа цяпер гавораць. Загатаваць сапраўднага сіласу бацька і не думаў, хоць пастараўшыся і мог-бы зрабіць невялікі запас. Ну, але што ты зробіш, калі чалавек акасцянеў у поглядах на жыццё, на гаспадарку?

Гэтыя меркаванні засланілі сабою на некаторы час мыслі аб калектывізацыі і адсунулі на задні план і самога бацьку.

У Мікітавай галаве борзда складаўся план гаспадарскіх работ на бліжэйшы час, але гэты дзень яшчэ прыдзецца ахвяраваць заведзенаму бацькам парадку, прасцей сказаць — натрэсці трасянкі.

Наскуб сена, асакі з лугу, дадаў бярэма мурагу, каб хоць на першы раз не крыўдавала скаціна на новага гаспадара, палажыў трохі грэцкай, трохі аўсянай і трохі ячнай саломы, усё гэта старанна ператрос вілкамі і ўжо тады панёс карове і цялушцы, пільна сочачы, каб не церушыўся корм.

Корм быў прыгатаваны добра, карова і цялушка адразу кінуліся есці, што вельмі ўсцешыла Мікіту, і ён адчуў вялікую прыязнь да жывёлы, пагладзіў карову і цялушку. Можа-б ён і даўжэй палашчыў іх, але рахманы конь лагодна загагокаў яму, напамінаючы аб тым, што ён таксама чаго-небудзь ды варты ў гаспадарцы. Мікіта вярнуўся ў клуню — трэба-ж даць і каню. Конь такая жывёла, што без яды заставацца не любіць. Каню Мікіта прынёс аднаго мурагу, прычым заўважыў уголас:

— Пачакай, брат: я можа чаго і лепшага прыстараюся табе.

Словам, гаспадар абудзіўся ў Мікіце ва ўвесь рост.

Падаваўшы скаціне і зачыніўшы хлеў, ён зноў пайшоў у клуню. На таку каля пярылаў стаяла саматужная сячкарня — бервяно-казлы на чатырох ножках з двума парамі ўбітых наўскасяк спіц, накшталт зайцавых вушэй, каб трымалася салома. На гэтай саматужнай прыладзе сечку рэзалі сярпом, для чаго да яго ручкі прывязвалася вяроўка ў дзве столкі. Паміж гэтых столак прасоўвалася нага, як рычаг, што прыводзіў серп у рух. Рэзаць такім спосабам сечку было і цяжка і марудна. Тым не меней малады гаспадар так захапіўся работаю, што калі прышла маці клікаць Мікіту снедаць, у яго была ўжо нарэзана даволі ёмкая куча сечкі.

— Запрацаваўся, сынок, — з ласкаю ў голасе заўважыла Тацяна і заплакала.

У той час, калі Мікіта рэзаў сечку, Чыкілевіч стаяў з мужчынамі на вуліцы і дзяліўся з імі сваімі ўспамінамі аб Пракопе, прыпісваючы яму такія погляды на калгас, якія таму і ў галаву не прыходзілі. Праўда, у аснове ўсёй гэтай лухты была доля праўды, але Чыкілевіч ды-

пламатычна абышоў моўчкі, што ўсе такія мыслі ён сам увёў Пракопу ў вушы, як уводзіў ён цяпер іх сваім слухачам. Таццяна ўжо дачулася аб гэтай гутарцы. Людзі, расказваўшыя Тацяне, не абышліся без таго, каб не дадаць сяго-таго і ад сябе. У выніку Пракопава постаць выступіла ў выглядзе заядлага ворага калгаса.

Пануры і хмурны, ссунуўшы бровы, сядзеў Мікіта за сталом і слухаў, што расказвала маці аб усіх гэтых прыкрых рэчах. Хлопца брала крыўда за бацьку, злосць на Чыкілевіча, як галоўнага звадыяша і баламута. Усё-ж гэта было яшчэ поўліха, калі-б яно не адбівалася на грамадскай справе.

Але горш за ўсё, што сярод падпісаўшых учора пратакол аб уступленні ў калгас пачалося зноў хістанне, зноў пайшлі гутаркі аб выпісванні з калгаса. Мікіта адчуваў тут, што і на ім ёсць нейкая доля віны. Трэба нешта зрабіць і яму. Ён толькі што хацеў падзяліцца з маткаю сваімі думкамі, адгукнуцца на ўсе гэтыя падзеі, але не паспеў: у хату зусім нечакана зайшоў сам Чыкілевіч.

Калі-б у хату забег воўк, то маці і сын напэўна здзівіліся-б меней. Чыкілевіч ішоў асцярожна, ступаючы мякка і з такім выразам на твары, як-бы ў хаце быў нябожчык.

— Выбачайце!—лісліва загаварыў няпрошаны госць:— проста не мог стрымацца, каб не зайсці да вас.

Мікіта яшчэ больш панура апусціў вочы.

Тацяна знямела на месцы і, толькі ўжо трошкі апамятаўшыся, сказала:

— Сядайце!

— Пастаю: я не надоўга. — Ну, і што надумаўся зрабіць чалавек! — голас Чыкілевіча быў повен жалю, — мне так і здалося ўчора, што ў чалавека нешта ёсць на мыслях. Як роднага, угаварваў яго ісці ў калгас. Не! упёрся, не хачу... І куды ён пайшоў?

Тут Мікіта не мог стрымацца. Закалаціўся ад злосці, вочы іскрамі блеснулі. Але ўзяў сябе ў рукі:

— Пайшоў па свеце пахадзіць, каб развеяць кулацкія ўплывы, — сказаў ён, як дарослы чалавек.

Чыкілевіч кіўнуў галавою, але ўжо загаварыў да Тацяны:

— І што вы думаеце рабіць?

Мікіта, хоць пытанне ставілася не яму, пераняў матку і сам, як гаспадар у хаце, адказаў:

— Вось зараз іду ў праўленне калгаса і падам заяву, каб нас прынялі ў калгас.

Гэта думка прышла Мікіце ў галаву раптоўна.

— І гэта будзе згодна з бацькаваю воляй? — спытаў Чыкілевіч і з усмешкаю паглядзеў на Мікіту.

— Вон з хаты!

Мікіта ўвесь пачырванеў, згарнуў кулакі.

— Пабойся ты, смаркач, бога, пад абразамі сядзіш! — узлаваўся абражаны Чыкілевіч.

Мікіта падскочыў на лаве і знячэўку штурхнуў плечуком Мікалая Мірлікійскага. Абраз з шумам гвазнуўся наперад аб стол, а потым аб лаву. Шкло разбілася.

Чыкілевіч борздзенька падаўся за дзверы, сказаўшы:

— Шалёны!

## XXIII

Варочаючыся з хутара, Лапко і Пракоп падтрымлівалі адзін аднаго. Хоць дарога была і невялікая, але часу адабрала яна даволі многа. Па-першае, дужа спяшацца ім не было куды, і яны ішлі павольна, па-другое, ногі іх трохі звязвала Бабурава гарэлка, па-трэцяе, у іх вялася самая жывая гутарка, хоць кожны з іх захапляўся пераважна сваімі мыслямі і пачуццямі, па-чацвертае, дарога была вузкая, а наабапал дарогі ляжала шмат снегу, прыяцелі-ж нашы ніяк не хацелі разлучыцца, ішлі плячо ў плячо, хоць амаль не на кожным кроку то той, то другі правальваўся ў снег.

— Слаўныя людзі! — сказаў Пракоп і затрубіў носам.

— Людзі! што такое людзі? — запытаў Лапко і сам адказаў.

— Гліна! З гліны добры майстар зробіць усё, што хочаш... усё!

Тут яны стукнуліся плечукамі, і іх ногі, у аднаго левая, у другога правая, праваліліся ў снег. Покі яны іх даставалі, Лапковы мыслі зблыталіся ў галаве, але сувязі з агульнаю тэмаю, на якую ўзяўся ён разважаць, не гублялі, а толькі пайшлі па іншай лініі.

— Я — калгаснік і... муляр і яшчэ — брыгадзір?.. Ды які я брыгадзір?

— Брыгадзір з цябе першы сорт!—заўважыў Пракоп.

— Ну, няхай так, — згадзіўся Лапко: — але куды я хадзіў? Чаго хадзіў? Ось дзе яна, самакрытыка.

— А я? чаго я цягаюся па свеце? — жаласліва азваўся Пракоп: — дома ёсць гаспадарка: конь, карова, цялушка-трацячка, ды якая ўдалая цялушачка! Ну, як родная дачка! Прыдзеш у хлеў, яна табе і шыйку выцягне, здаецца так і гаворыць: «Пачухай мяне!» — І кінуў усё, паваloкся нямаведама куды і чаго. Хто-ж будзе даглядаць іх?

Пракоп рэзка мяняе тон, з журботнага пераходзіць на вясёлы.

— Мікіта мой... о, шэльма! калгаснік, якіх і свет не радзіў... Граматны хлопец!.. Ну, раз вы хочаце ў калгас — ідзіце сабе! Мая Тацяна праўду казала: не замінай жыць, хто хоча жыць па-новаму — разумная баба!.. І я на іх трос кіем! Ну, жывеце сабе, як хочаце, а я пагляджу: Пракопа ты таксама не возьмеш за тры капейкі. Ось якая мая самакрытыка! — скончыў ён перанятым ад Лапка дасканалым словам, сэнсу якога не разумеў.

Лапко цярпліва маўчаў, покі не выгаварыўся Пракоп.

— Самакрытыка — штука вострая, — заўважыў ён, адгукваючыся больш на ўласныя мыслі, — запытаюць: а чаго ты хадзіў туды? Да каго ты хадзіў? Хто ты і хто ён?.. Ты — чалавек, ён — чалавек, ты хочаш жыць і ён хоча жыць. Але ты калгаснік, ты муляр ды яшчэ брыгадзір! Гэтага не трэба забываць. І ён хоць і чалавек, але воўк, бо ў свой хутар глядзіць. Можа не поўны воўк, але процантаў пяцьдзесят ваўчэчыны ў ім ёсць. І ты да яго ходзіш? — Хаджу! — журботна прызнаўся Лапко. — А чаму ты ходзіш? — Ну? Прыяцелі былі, дружылі, — на свае-ж уласныя пытанні адказваў Лапко, знаходзячы сабе апраўданне.

— Брэшаш, Лапко! — рашуча накінуўся ён на сябе самога: — ты слізняк, натура твая... сказаў-бы, Пракоп, ды шаную цябе!

Яны зноў моцна стукнуліся плечукамі і на гэты раз абодва паваліліся ў снег — Пракоп на адзін бок дарогі,

Лапко — на другі. Рухавейшы Лапко першым устаў на ногі і вылез са снегу, а Пракоп яшчэ церабіўся.

— Ну, як ты там, дэлегат? — запытаў дабрадушна і жартліва Лапко.

— Ось, падымаюся і я. Але, ведаеш, лёг-бы ды і ляжаў-бы ўжо так...

— Бачыш ты, як спадабаў калгас: на калгаснай зямлі хочаш ляжаць!

— Добры калгас! Зрабіць-бы нам такі!.. Эх, Мікітка ты мой, і Андрэйка, і Таццяна мая! — лірычна выгукваў Пракоп, упёршыся локцем у снег, як-бы забыўшыся, што трэба ўставаць.

— Ну, уставай, браце! пойдзем памалу, — цягнуў яго за руку Лапко.

— Пойдзем! — цвёрда сказаў Пракоп і падняўся на ногі: — трэба ісці, трэба! Дарога вялікая, нагамі маімі нямераная... Дзе мой дом? дзе мой прыпынак?

— Кінь ты! — махнуў рукою Лапко. — Мой, мой! От у тым-та і бяда, што ўсё мой ды мой! А мой дзе дом? Усюды, дзе ёсць людзі!.. Ма-е-е! стой! стой! Злавіў, брат, я цябе, Лапко! — раптам схамянуўся муляр і тут-жа стаў выкрываць сваю памылку: — хутары твой дом? Кулакі твае людзі?.. Думай, што гаворыш, Лапко! — пастрашыў ён сябе самога.

— Дом твой — калгас, соўгас, фабрыка, завод, калі ты стаіш на правільнай лініі, — строга зазначыў Лапко і дадаў:

— Іначай сказаць — наш дом там, дзе будуецца соцыялізм.

— А вось ты скажы: Бабура кулак ці не? — пацікавіўся Пракоп.

— Як табе сказаць? Няма ў мяне на яго цвёрдага погляду. Адно гаворыць ва мне, што ён — кулак, а другое кажа — як-бы і не кулак...

— Адно я табе скажу: не хацеў-бы я, каб нашы ведалі, што я да яго хадзіў, печ папраўляў. Калгасны брыгадзір — і кулаку печ правіць! Дык ты, брат, пра гэту печ маўчы! Калі часамі што якое, дык ты кажы, — і я буду так гаварыць, — што ты прасіў мяне правесці на пасёлак. Чаго? ну, ці мала там якая магла быць патрэба? Ты — дэлегат...

— А ты ўжо, калі ласка, пра маё дэлегацтва таксама маўчы, бо які-ж я дэлегат? — Яно калі па справядлівасці рассудзіць, то чаму-ж я не дэлегат? Сам ад сябе дэлегат!

— Дэлегат, ну і дэлегат! Так і запішам. Але пра печ — маўчок! Натура мая, ведаеш... занадта пакладзістая.

— Ну, што ты ўсё натуру сваю ганіш? Скажу і я табе тое, што і Анэтка казала: каб такія людзі былі, як ты, то лёгка было-б жыць на свеце.

— Не, не! — запратэставаў Лапко: не кажы мне гэтага! Трэба быць цвёрдым. А я — кісель. Хто ні папросіць — не магу адмовіць! Ну, але калі-небудзь і я ўзлуюся! Тады, брат, сцеражыся! — пагразіў Лапко.

Падыходзілі да калгаса. Яны трохі працверазелі. Час быў даволі позны. Толькі ў вокнах Максіма Шахлевіча свяціўся агонь.

— От дзе чалавек! галава! Цвёрды, справядлівы і ўсё па закону... Гаспадар! — хваліў Лапко свайго старшыню.

Вышлі ў двор. Лапко правёў Пракопа на яго «станцыю».

Запыніліся на ганку.

— Дык пра печ маўчок! — ціха сказаў Лапко.

На гэтым яны і разышліся.

## XXIV

У гэты дзень Максім Шахлевіч быў дужа заняты. Апроч звычайнай штодзённай работы ў калгасе, а работы заўсёды было даволі, асабліва для такога руплівага старшыні, як Максім, яму прышлося ўдзяліць шмат часу камісіі па абследаванню быту ў калгасе. Хоць камісія прышла да найлепшых вывадаў і калгас «Хваля рэвалюцыі» быў прызнаны, як узор для другіх калгасаў, тым не меней старшыня быў моцна заклапочаны.

Выпадак, які навёў на Максіма такую заклапочанасць, на першы погляд можа паказацца малазначным: старшыні стала вядома, што Лапко потайкам даваў сяды-тады калгасны корм сяму-таму з калгаснікаў, што мелі свае каровы. У калгасе-ж быў заведзены такі парадак, што калгаснік, меўшы сваю карову, атрымліваў на яе

корм на заробленыя ім працадні. Гэта рабілася з дазволу, адкрыта і законна. Калі да таго-ж ён сам прыстараецца корму для жывёлы, дык было тым лепей. У даным-жа выпадку Лапко зрабіў незаконна, і яго ўчынак не павінен быць замоўчан. Але аб замоўчванні тут гаварыць не прыходзіцца: па-першае, замазванне розных недахопаў супярэчыла прынцыпам самакрытыкі, бо самакрытыка—тая здаровая глеба, на якой гадуецца і выхоўваецца новы чалавек. І, па-другое, гэты выпадак стаў вядомы ў калгасе. Аб ім, між іншым, і ў насценгазеце «Калгасная праўда», якую нядаўна выпусцілі і ўжо вывесілі для чытання, быў змешчан артыкульчык пад загалоўкам «Дабрачыннасць ці крадзёж?» Калгасная грамадскасць чутка сачыла за ўсякімі праявамі непарадкаў у калгасным жыцці.

Старшыні было прыкра, што ў калгасе маюць месца такія выпадкі, і самае важнае тое, што вінаватым аказаўся Лапко, відная ў калгасе фігура. Што тут Лапком кіравала не злачынства, а пакладзістасць і мяккасць яго натуры, для старшыні было ясна, але факт трэба браць такім, як ён ёсць.

У праўленні калгаса была ўжо гутарка аб Лапковым учынку. Член праўлення, намеснік старшыні, Ваган, стаяў за тое, каб не выносіць учынак Лапка на шырокую калгасную грамадскасць, а зрабіць яму ад імя праўлення і партыйнай ячэйкі вымову, строгую вымову з папярэджаннем. За гэтую меру стаялі яшчэ тры члены праўлення: Марына Палеха, Мікола Гнак і комсамолец Гаруй. Але старшыня самым катэгарычным чынам выступіў супроць. — Вы, таварышы, недаацэньваеце факта, — абурана заявіў ён,—такая мера спагнання ёсць не што іншае, як замазванне праступку, зводзячы яго на мёртвае канцылярскае ўсчуццё. Не трэба забываць, што ў нас ёсць сотні калгаснікаў, а сярод іх ёсць такія, што сваімі карэннямі стаяць у мінулым, не пазбавіўшыся старых замашак. І справа тут ходзіць не аб адным Лапку, але і аб асобах, дачынёных да гэтай справы. Я цвёрда стаю і буду стаяць на тым, каб яе вырашаць не ў праўленні, а на агульным сходзе калгаснікаў.

У якасці аргументу быў прыведзен і Пракоп, чалавек староннi, які з'яўляецца сведкам прыкрай падзеі ў калга-

се. Ды не інтарэсамі Лапко тут трэба кіравацца, а інтарэсамі калгаснага калектыва, і не толькі іхняга, а і наогул.

Проці довадаў старшыні трудна было што-небудзь сказаць. З ім згадзіліся ўсе і пастанавілі склікаць сход калгаснікаў на заўтрашні дзень.

Правёўшы Пракопа, Лапко памаленьку сунуўся калгасным дваром, беручы кірунак на свой знамяніты будынак. Яму проста было прыемна прайсціся каля яго лішні раз. Абагнуў яго з левага боку. Гучней зарыпеў пад нагамі снег, і павольней рабіўся Лапкоў крок, калі праходзіў ён каля акон кухні, дзе мела кватэру Таклюся.

І гэты выяўна падкрэслены скрып снегу пад нагамі Лапка, і замаруджаны крок яго, і кашаль, што вырваўся з грудзей, калі Лапко параўноўваўся з вокнамі кухні, — усё гэта сведчыла аб тым, што не адно толькі жаданне лішні раз палюбавацца творам сваіх рук і галавы прывяло сюды майстра — былі *і* іншыя прычыны прайсціся тут і нават запыніцца на кароткі час. Лапку здалося, што ў проразі цёмнага акна як-бы нешта мільгнулася, чыйсьці няясны абрыс прыпаў да шыбы, на дзве траціны затканай марозам. Лёгкі стук у шыбу сігналізаваў Лапку, што ён апазнаны. Лапко азірнуўся па баках і падаўся бліжэй да дзвярэй. Трошкі пастаяў тут. Дзверы зараз-жа адчыніліся, і Лапко ўвайшоў у кухню.

— Не спіш яшчэ?

— Не, не спала... Нічога не чуў?

Пытанне было пастаўлена ў такім тоне, што прымусіла Лапка здрыгануцца.

— Не, не чуў? А што?

Таклюся момант маўчала.

— Прыкрая справа, Пятрусь!

Дзве праявы на кароткі міг пранесліся ў галаве: ці не здарылася чаго са скацінаю? ці не стала ўжо вядома, што ён быў на хутары?

— Ну? — у Лапковым голасе была трывога, і ён чакаў, што ўсплыве тут наверх: хлеў ці хутар?

— У насценгазеце пра цябе напісалі, што ты разбазарваеш калгасны корм.

У Лапко адлягло ад сэрца.

— Як разбазарваю?

— А даеш таму, каму не маеш права даваць.

— Ну, гэта глупства, — стаў трохі храбрыцца Лапко.

— А хіба ты нікому не даваў?

Па голасу заметна было, што Таклюся хацела пачуць ад Лапка адно толькі — не!

Лапко-ж мусіў прызнацца, што корм ён даваў. Ну, але-ж ці гэта злачынства, што ён дасць калі-ні-калі мяшок сечкі ды прысыпле з прыгаршчы аўса?

— Ты, Пятрусь, як малое дзіця, — сказала ў засмучэнні Таклюся і нават уздыхнула.

— Каб я карысць меў якую-небудзь з гэтага, ну, то іншая справа, — стаяў на сваім Лапко.

— Ну, але-ж даваў-жа ты потайкам?

— Ды няўжо-ж тут бюракратызм разводзіць з-за жмені сечкі? — яшчэ храбрэй заўважыў ён.

— А хто ведае, што ты даваў і колькі даваў? Ты мяркуеш так, а людзі глядзяць іначай. Шахлевіч страшна абурыўся (Лапка пачаў забіраць страх), хацелі абмежавацца вымоваю, а ён паставіў гэта на агульны сход калгаснікаў. Заўтра вечарам сход будзе.

Лапко раздумліва чухаў патыліцу.

— Натура мая паганая! Хоць-бы не даведаліся яшчэ, што на хутары быў, печ Цімоху правіў... Не, годзе: больш мяне не ўпросіш, хоць разарвіся! — цвёрда заключыў Лапко.

## XXV

І на гэты раз абудзіўся Пракоп рана. Ён прыпамінаў падзеі ўчарашняга вечара, пачастунак у Бабуры, разважанні яго аб калгасе. «Хітры бестыя, і нешта мае на вуме, — падумаў сам сабе Пракоп:—цвярозы гаворыць за калгас, але калі-б ён з'еў тое, што думае пра калгас, то да вечара не дажыў-бы! Выпіўшы, пачаў трохі прагаворвацца». Нарэшце ўспомніў Пракоп і аб тым, што ён за лішняю чаркаю прызнаўся ў сваім фальшывым дэлегацтве. Не варта было гаварыць гэтага: карысці нікому не будзе, а сабе пашкодзіць можна. Пракопу стала сорамна. І яму прыкра была гэта выдуманая роля дэлегата сярод сумленных і чэсных работнікаў. Але ён заспакоіў сябе

на тым, што век тут векаваць не будзе, і час падумаць яму, што рабіць далей. Ясна адно: трэба ісці, але куды?

Гэта «куды» ўстала цяпер перад Пракопам з усёй вострасцю і ў поўнай велічы. Як-бы загадзя вырашаючы адказ на балючае запытанне, перад ім ясна-ясна ўстала яго вёска, сям'я, гаспадарка, пакінутая ім на раскрыжаванні старых і новых дарог сялянскага жыцця. Што-ж робіцца цяпер там? Калектывізацыя не палохала яго ўжо так, як раней. Ён думаў аб тым, як-бы гэта было добра, калі-б і там збудаваць такі-ж калгас, як і тут.

Не спыніўшыся ні на якой цвёрдай мыслі, Пракоп адзеўся і пасунуўся на двор. Надвор'е было ціхае. Хоць неба было яснае, але мароз адпаў. Адчувалася прадвесне. Пракопа мацней пацягнула дадому. Ён стаў тварам у той бок, дзе, як здавалася яму, была яго вёска, і стаяў, аглядаючы прасторы. Перад ім паказалася постаць чалавека. Пракоп зірнуў і пазнаў Лапка. Рушыў яму насустрач.

— Здароў, Лапко! — ветла паздароўкаўся ён, — я думаю ў дарогу рушыць.

— Што-ж так спяшаешся? пажыві яшчэ ў нас.

Пракоп зірнуў на Лапка. І выгляд яго і голас, як здалося Пракопу, былі не такія, як звычайна. У яго закралася падазрэнне, ці не даведаліся тут, што яны былі на хутары, чаго так баяўся Лапко.

— Ну, што чуваць? — запытаў Пракоп.

— Заўсёды на свеце што-небудзь чуваць, — крыху здалёку зайшоў Лапко і потым ужо бліжэй падступіў да справы.

— Нічога не чуў?

— Не!

Пракоп у сваю чаргу з трывогай зірнуў на Лапка і са страхам чакаў навіны. Лапко, не ўтойваючы нічога, увёў Пракопа ў курс справы. Для Пракопа цяпер зусім стала ясна, што ён не памыліўся, разважаючы аб постаці чалавека з мяшком. Але калі ўчора ён хацеў знайсці якую-небудзь пляму ў жыцці калгаса, то цяпер ён шчыра хацеў, каб гэтых плям тут не было. Перад ім разгорталася новая старонка ў кнізе калгаснага жыцця, ставячы яго перад магчымасцямі шырэй і глыбей убачыць гэта

жыццё. Яму толькі дужа было шкада, што гэтую старонку разгортвае Лапко, якому ён спачуваў ад усяго сэрца. Хацелася дапамагчы яму выблытацца з гэтай прыкрай справы, параіць, як сябе трымаць на сходзе, што казаць. Але Пракопавы дарады засноўваліся на хітрасцях зайца, што заблытвае свае сляды. Для Лапка яна не падыходзіла.

Сход пачаўся роўна а восьмай гадзіне ўвечары. Прасторны клуб рэдка калі бачыў такі поўны збор калгаснікаў. Уся калгасная грамадскасць была прадстаўлена багата: старыя, маладыя, людзі сярэдніх год, жанчыны, падлеткі мужчынскага і жаночага роду запаўнялі і лаўкі і праходы.

Лапко, непрыдатны герой сённешняга дня, заняў месца бліжэй да сцэны. Сядзець у сярэдзіне ці ззаду і бачыць увесь час, як на цябе паглядаюць, было проста нязручна і непрыемна. Яшчэ больш укрытае месца заняла Таклюся. Было заметна, што справу Лапка яна прыняла блізка да сэрца і хвалявалася не менш за яго, а Лапко нічым не выказваў свайго хвалявання, можа толькі бровы яго трохі ніжэй спусціліся над вачыма. Пракоп сеў ззаду, непадалёку ад Лапка. Ён хацеў быць поруч з ім, але некаторыя меркаванні не дазвалялі зрабіць гэтага.

Над узвышкам, дзе змяшчалася сцэна, цяпер стаяў стол для прэзідыума, гарэла вялікая лямпа, і там было даволі светла.

Лапко сядзеў нерухліва, павярнуўшы галаву ў бок сцэны, дзе вось-вось павінен з'явіцца старшыня і адчыніць сход. Лапковы вочы запыніліся на партрэце Леніна. Партрэт выступаў цяпер у новым для Лапка асвятленні. Ён звярнуў увагу на гэты мудры, удумлівы, крыху прыжмураны погляд трохі насмешлівых, але строгіх вачэй, азіраўшых тое, чаго не ведаюць і можа яшчэ няясна ўяўляюць масы, правадыром якіх ён з'яўляецца.

Але на сцэне паказаўся старшыня. Шум галасоў, поўніўшых клуб, адразу стаў радзець і зараз-жа сціх, толькі некалькі хвілін глуха тухкалі ногі, покі не паселі ўсе ці не занялі найболей выгодных для сябе пазіцый.

Для парадку і па сходаўскай традыцыі старшыня пазваніў. Зала замерла.

— Агульны сход калгаснікаў абвяшчаю адчыненым,—

урачыста і гучна зазвінелі словы старшыні: — членаў праўлення прашу заняць месца ў прэзідыуме.

Непарушная цішыня стаяла ў зале клуба. Праўленне было ў поўным зборы.

— Таварышы! сённешні сход — сход, так сказаць, непрадбачаны, выпадковы. Праўленне калгаса пастанавіла склікаць вас з повяду вядомага вам артыкула ў нашай «Калгаснай праўдзе»... Ці трэба зачытаць яго? — запытаў старшыня.

— Ведаем, чыталі! — загуў сход.

— А калі хто не ведае, дык даведаецца з далейшага, — пачуўся адзінокі голас.

— Я коратка перакажу, таварышы, сэнс гэтага артыкула, — казаў старшыня далей: — у нашым калгасе выяўляецца нездаровая з'ява, на якую мы не павінны і не маем права заплюшчваць вочы. Дык вось мы і павінны абмеркаваць гэтае пытанне і зрабіць усё ад нас залежнае, каб такія і ўсякія іншыя нездаровыя з'явы не мелі больш месца ў калгасе.

— А хто пісаў гэты артыкул? — запытаў хтось з калгаснікаў.

— Калі выявіцца тут, што напісанае ў артыкуле — няпраўда, тады я скажу, хто пісаў, — быў адказ старшыні.

— Другіх пытанняў не будзе?

— Не!

— Дык хто, таварышы, хоча ўзяць слова па сутнасці артыкула?

Пастаноўка пытання была не зусім ясная. Ні Лапко, ні яго хаўруснікі тут не ўпаміналіся. Проста як-бы трохі было няёмка называць імя ўсім вядомага Лапка. У гэтым быў грэшан і сам старшыня. Але так было толькі спачатку.

## XXVI

Пасля кароткай і непрыемнай у такіх разах замінкі і паўторнага запытання старшыні падняўся Сымон Таркевіч.

Таркевіч рабіў уражанне сярдзітага чалавека. Бровы яго пераважна былі нахмураны, ён меў звычай бубніць

і прыгаварваць: «Ці гэта парадак?» А калі ён збіраўся гаварыць больш-менш доўга, то шоргаў правым пальцам па два разы па адным і па другім боку свайго носа, уцягваючы паветра. Так зрабіў ён і цяпер, «намянціў нос», як казалі пра яго людзі.

— Як тут выказвацца? — сярдзіта запытаў Таркевіч: — трэба наўперад ведаць, што гэта за сход: ці гэта чыстка, ці суд? А то не ведаю, як прыступіць... Ці гэта парадак?

— Мне здаецца, што пытанне стаіць даволі ясна, — адказаў старшыня: — сход павінен сказаць сваё слова і вынесці пастанову аб учынку таварыша Лапка і тых таварышоў-калгаснікаў, што былі з ім у згаворы — Мулейкі і Ступіка. Ці мелі яны права рабіць вось так, як значыцца тут, — старшыня паказаў насценгазету, што ляжала тут-жа на стале, — ці не?

Тады слова ўзяў калгаснік Мікіта Ганчар.

— Таварышы! Мы добра ведаем таварыша Лапка. Гэта — наш лепшы калгаснік, чалавек без усялякіх хітрыкаў, сумленна працуе на калгас. Ён-жа, можна сказаць, сваімі рукамі пабудаваў склеп і кухню... Дзе вы знойдзеце такога чалавека? Дык што аб ім казаць? Які праступак ён зрабіў? Што выдаў некалькі мяшкоў сечкі? І каму? сваім-жа калгаснікам. Але я запытаюся: калгасная, абагуленая скаціна, якую даглядае Лапко, пацярпела ад гэтага ці не? У якой меры гэтыя некалькі мяшкоў няшчаснай сечкі адбіліся на запасах калгаснага корму? Вось, таварышы, што трэба ўлічваць, калі мы гаворым сёння аб Лапку. Што-ж на чалавека накідвацца адразу...

— Таварыш Ганчар! ніхто не накідваецца на яго, — заўважыў старшыня.

— Ды мы і не ведаем, колькі выдана гэтай сечкі: можа мяшок, можа два. Няхай сабе дзесяць, ну дык што-ж? Прадаваў ён? грошы браў за гэта?.. Скажы, Лапко, дзе ты там сядзіш? многа ты наскладаў за гэтую сечку грошай?

Старшыня зноў зрабіў увагу прамоўцы.

— І ніякага тут згавору не было,—адвакатаваў далей Ганчар: — папрасіў чалавек сечкі карове, ну ён і

даў. Мы павінны тут сказаць, каб такіх выдач больш не было, і іх не будзе. Вот і ўсё!

З вялікім задавальненнем, з асалодай, можна сказаць, слухаў Пракоп гэту прамову. Калі прамоўца скончыў, ён быў ужо шырока разгарнуў рукі, каб адпаведна гэтай шырыні пляснуць далонямі. Але ў зале не было падтрымання, і яго рукі, не пляснуўшы, зноў зашыліся ў рукавы кажуха. Зірнуўшы на прэзідыум, Пракоп запыніўся на старшыні: ясна было відаць, што прамова Ганчара нядобрае зрабіла на яго ўражанне.

— Хто яшчэ хоча выказацца?..

— Няхай скажа сам Лапко, — пачуўся голас ззаду.

— Тады дазвольце мне, — узяў слова сам старшыня.

— Гэта праўда, таварышы, Лапко мае вялікія заслугі перад калгасам, як і шмат хто з іншых таварышоў-калгаснікаў, і ніхто гэтых заслуг ад яго не адбірае. Але не ў гэтым справа. Пытанне трэба ставіць так: ёсць парушэнне парадку ў калгасе ці не? Ёсць! — падкрэсліў старшыня: — факт праверааны. Але гэтага мала: калгас не багадзельня і не скарбонка, адкуль дабратою таго ці іншага таварыша, у даным выпадку Лапка, будуць браць калгаснае, аграмаджанае дабро для задавальнення ўласніцкіх патрэб. А гэта, таварышы, чым пахне? Спрыяе гэта калгаснаму росту? Падымае аўтарытэт калгаса? Служыць гэта на карысць самой ідэі калектывізацыі, ажыццяўленне якой паставіла перад намі партыя і савецкая ўлада? Таварыш Ганчар пытаў, ці многа наскладаў т. Лапко грошай за сечку. Я лічу ганебным такое пытанне ў вуснах калгасніка! Я ўпэўнены, як і большасць з нас, калі не ўсе вы, што не карысць кіравала тут таварышам Лапком, —сход шумна далучыўся да думкі старшыні, — але давайце разбярэм і дабрату яго.

Лапко заварушыўся за выступам сцяны: у гэты час ён, як можа ніколі, праклінаў сваю дабрату. А старшыня без жалю аналізаваў яе: таварыш Мулейка і Ступік маюць па карове. Добра: калгасны парадак дазваляе гэта. У іх, аказалася, бракуе корму. Яны ідуць да таварыша Лапка, просяць. Лапко цішком дае ім, у Лапка добрае сэрца. Таварыш Лапко: звярнуся і я да цябе: ці думаў ты, даючы ім корм, над тым, чаму ў іх корму раптам не стала? Ці запытаўся ты ў іх аб гэтым? Можа-б яны табе

сказалі, што свой корм яны тайком прадавалі? Як-жа ты мяркуеш: чаму служыла твая дабрата, таварыш Лапко? Вось, таварышы, у чым сэнс і значэнне гэтага факта, і мы павінны кваліфікаваць яго, як з'яву нездаровую і не толькі гэтак расцэньваць, а і ў ніякім разе не дапускаць, бо гэта ёсць пачатак развалу калгаса, гэта — ігра ў руку кулаку! Гвалтам нікога мы не трымаем у калгасе.

Апошнія словы былі адрасаваны Мулейку і Ступіку. Лапко, Таклюся і Пракоп, Мулейка і Ступік і шмат хто з калгаснікаў слухалі гэту прамову з апушчанымі галовамі, а на гэта ў кожнага былі асабістыя прычыны.

Сваім выступленнем старшыня даў моцную зарадку сходу. Чулася неперамножная праўда і сіла яго логікі. Яго прамова мела бясспрэчны ўплыў на выступленні іншых прамоўцаў, хоць усе яны імкнуліся знайсці нешта сярэдняе паміж двума першымі прамовамі.

Але самую горкую пілюлю паднёс Лапку, а разам з ім і Пракопу, той-жа сярдзіты Таркевіч. Ён з асаблівай энергіяй паторгаў свой нос, так што ўсе звярнулі на гэта ўвагу і з некаторым страхам за Лапка чакалі прамовы:

— Зусім правільна, таварышы, — спакойна пачаў Таркевіч, а гэта азначала, што ў яго прыпасены нейкі моцны аргумент, — падышоў да пытання наш старшыня. Мы цяпер бачым, куды можа павесці чалавека дабрата — старшыня давёў гэта ясна. Ці-ж гэта парадак? І старшыня, таварышы, не памыліўся... Па дабраце сваёй наш брыгадзір, прыкладны калгаснік, з вялікімі заслугамі перад калгасам, таксама хадзіў і на хутар да кулака Бабуры, які нам некалі жняярку падараваў, ведаючы, што яе ўсёроўна забяруць ад яго. І хадзіў наш Лапко не далей, як учора. І што-ж вы думаеце ён там рабіў? Правіў печ кулаку! Чарано, бачыце, правалілася. Хто-ж яму, бачыце, паможа? — з едкім смехам запытаў Таркевіч і сам адказаў: — Ну, вядома: наш добры таварыш Лапко! Ці-ж гэта парадак? Такую дабрату вытручваць трэба. Я пайшоў-бы печ кулаку правіць? Ды няхай яго шэсць разоў халера задушыць! — сярдзіта скончыў Таркевіч.

Да пералічаных ужо апушчаных галоў далучылася цяпер і чубатая галава камсамольца Гаруя.

Страшныя мінуты перажываў у часе гэтай прамовы і наш «дэлегат». З аднаго боку, страшна было за сваё дэлегацтва, з другога — трэба было заступіцца за Лапка. Яму раптам як-бы нешта стрэліла ў галаву.

— Дазвольце мне слова!

У гэты момант Пракоп не помніў нічога, у вачах завіўся туман, але ён узяў сябе ў рукі.

— Таварышы! Як я тут ёсць чалавек старонні, то... можа мне і не трэба ўмешвацца... Агледзеў я ваш калгас. Скажу — дай божа ўсім добрым людзям такі калгас...

Мыслі яго блыталіся, але ён учапіўся за слова «добры», успомніў, што за дабрату крыюць Лапка.

— Гэта мая віна, таварышы, што т. Лапко хадзіў на хутар. Прызнаюся вам, таварышы, што я хацеў пачуць, як людзі збоку гавораць пра ваш калгас. Мне хацелася ведаць усё: і ваш моцны бок, і слабы. І я павінен сказаць вам, што калі ў калгасе парадак, лад, такі, як у вас, калі калгас моцна стаіць на нагах, як у вас ён стаіць, то ніякі кулак не зганьбіць яго. Дык гэта я, таварышы, папрасіў, падбіў Лапка схадзіць са мною, бо я-ж тут дарог не ведаю. Я пайду дамоў, буду расказваць пра ваш калгас, буду гаварыць усім, каб ішлі ў калгас. І нашы калгаснікі прыдуць вучыцца ў вас. І каб засталася добрая памяць аб вашым калгасе, я прашу вас, таварышы, не ставіць у віну таварышу Лапку, што ён хадзіў на хутар. Няхай гэта віна ляжа на мяне.

Ніколі ў жыцці не гаварыў Пракоп такой доўгай прамовы. Ногі яго дрыжалі, у грудзях было горача, і пот выступіў у яго на ілбе. Затое-ж яму папляскалі — ці то, як чужому чалавеку, ці за добрыя словы аб калгасе, ці то за гарачую абарону Лапка, і Пракоп адчуў, як высока ўзняўся яго ўласны дух.

Апошняе слова сказаў сам Лапко. Яму прышлося выйсці з свайго кутка на трыбуну. Лапко быў спакойны, і прамова яго была нядоўгая.

— Усё гэта, таварышы, праўда, у чым тут абвінавачвалі мяне, і я шчыра дзякую за праўдзівыя словы. Натура мая, — тут Лапкоў голас загучэў злосцю: — паршывая натура! Але я зламлю яе!.. Праўда і тое, што гаварыў наш госць, але не ўсю сказаў ён праўду, я і без яго збіраўся на хутар. Толькі тут нашы дарогі супалі, і я

нават меркаваў прыкрыцца таварышам Пракопам, бо я ведаў, што калгаснік не павінен вадзіць кампаніі з пасялкоўцамі. Дык я, таварышы, прызнаюся ў сваёй віне, і мне будзе лягчэй на сэрцы, калі вы пакараеце мяне за гэта!

Пастанавілі — зрабіць Лапко вымову.

Вечарам, калі скончыўся сход, а Лапко і Таклюся засталіся ўдваіх, вось што сказала яму Таклюся, пагаварыўшы наперад аб сходзе:

— А чаму-б, Пятрусь, нам не запісацца?

Пытанне гэта дужа кранула Лапка.

— Ты мяне шкадуеш, Таклюся? Твае словы — дарагія для мяне словы, запішамся.

## XXVII

Мяккая, утульная і лагодная сінеча-смуга тонкаю покрыўкаю засцілала лясы, што цёмнымі рысамі значыліся па краях далёкага кругу снежнага прастору. А над гэтым прасторам разгортвалася бяздонне яснага прадвясенняга неба. Адчувалася воля і радасць, поўная і шырокая, як і гэтыя прасторы неба і зямлі, атуленыя цішынёю і сонцам.

Пракоп ішоў памалу, разважліва аглядаў дарогу перад сабою, а часамі прыпыняўся на кароткі час, пазіраў назад, адкуль ён нядаўна рушыў у дарогу. Калгас «Хваля рэвалюцыі» ўжо ледзь значыўся на белым полі цёмнымі кропкамі сваіх будынкаў. Постаці калгаснікаў, іх справа, якую робяць яны, інтарэсы, якімі яны жывуць, усё гэта злівалася ў адзін суцэльны вузел уражанняў, пакінуўшых глыбокі адбітак у Пракопавай душы, і навявала на яго лёгкую журботу з прычыны развітання з гэтым калгасам.

Прайшоўшы яшчэ з вярсту, Пракоп спыніўся. Дарога падышла да самага лесу, пралёгшы прыгожым завіткам па правым яго баку. Каля самай дарогі стаяў густы зялёны хвойнік, а трошкі далей старыя стромкія хвоі, узносячы над ім кучаравыя верхавіны, так весела песціліся на сонцы, і такі быў тут прывабны зацішак, што Пракоп не мог не паддацца жаданню прысесці на гладка

спілованым пні і трошкі пагрэцца на першым цяпле яшчэ ўсё-ж такі зімняга сонца. На ўгрэве каля шурпатых камлёў разложыстых хвоек раставаў снег, і сям-там выступалі з-пад снегу жоўтыя плямы пясчанай зямлі, мёртвыя цыбуры пабітых марозам красак і засохлыя вусікі леташняй травы.

Даўно не адчуваў Пракоп такой лёгкасці, такога спакою душы, як цяпер. Было так лёгка, як-бы з яго плеч зваліўся нейкі цяжар, і ён памаладзеў на цэлых дзесяць гадоў. Ці то гэты першы дзень цяпла, прадвеснік вясны і абуджэння жыцця, ціш і шырыня вольных прастораў спрыялі такой лёгкасці і спакою сэрца, ці яшчэ іншыя прычыны, Пракоп не ведаў. Яму проста было лёгка і добра, і ён некалькі разоў казаў сабе: «Годзе цягацца, лавіць ветру ў полі, шукаць нямаведама чаго». Усе падзеі апошняга часу, увесь клопат і згрызоты яго, добраахвотнае вырачэнне свайго дому, бадзянне ў дарогах і гэты слізкі і няпэўны шлях дробнага ашуканства, на які стаў ён, і неакрэсленасць яго ролі, — усё гэта ўставала, як прыкры сон, як нейкая цяжкая хвароба, ад якой ён стаў ачуньваць. І калі ў Пракопа і былі яшчэ хістанні, то ўчарашні вечар, сход, дзе разбіралася справа Лапка, быў паваротным пунктам у Пракопавым жыцці, прымусіўшы паглядзець на гэта жыццё іншымі вачыма. І што асабліва ўрэзалася ў памяць Пракопу, дык гэта Лапко і яго праўдзівае прызнанне, і той прысуд, які вынесен быў яму сходам калгаснікаў. Над гэтым сходам Пракоп многа думаў. Спачатку ўсё гэта здалося яму дзіўным, але калі ён узважыў усё за і супроць і ўспомніў пры гэтым, якую ролю адыграў у яго бадзянні Чыкілевіч, то мусіў прызнаць праўду і глыбокі сэнс такіх сходаў.

З іншымі мыслямі, з іншым настроем варочаўся Пракоп у Затонне. Ён там раскажа, як жывуць людзі ў добрых калгасах. Ён растлумачыць і прычыну свайго знікнення, нават прызнаецца, што ён выдаваў сябе за дэлегата: свайго дэлегацтва Пракоп не судзіў строга, бо яно вывела яго на правільную дарогу.

А што-ж рабілася далей у Затонні?

Пасля таго, як Чыкілевіч выскачыў, як апантаны, з Пракопавай хаты, паміж Тацянаю і Мікітам была такая гутарка.

— Што ты нарабіў, сынок?

Мікіта быў сур'ёзны, і злосць яго яшчэ не астыла, але ўсё-ж такі ён меў выгляд чалавека, які дабіўся вялікай перамогі.

— А што-ж ён мне пагражае ды яшчэ смаркачом называе!.. Бацьку звёў, а цяпер прыходзіць спачуваць і адгаварваць ад калгаса! Сволач кулацкая!

— Ну, як-жа ты гоніш вон старога чалавека? — страх і трывога чулася ў Тацяніным голасе, і яна нагнулася над абразом. Шкло пабілася на друзачкі. Абраз ляжаў тварам да зямлі.

— Чорт яго бяры! Калі ён падымецца сам, то я тады скажу, што ён святы, — заўважыў Мікіта.

— Не даруе ён табе гэтага — помсціцца будзе.

— Хто будзе помсціцца?

— Чыкілевіч!

— А я думаў — святы Мікалай... Няхай помсціцца. Паглядзім яшчэ, што з гэтага выйдзе, — задзёрыста адказаў Мікіта.

Ну, зусім ён быў мужчына!

Маці падабрала друзы шкла.

Куды цяпер падзець святога Мікалая? Вешаць яго ізноў на сцяне без шкла, нейк проста нязручна. Нават святым, што яшчэ віселі на сцяне, наўрад ці было-б цікава аставацца з ім у адной кампаніі.

Тацяне было трохі прыкра ад Мікітавага ўчынку. У глыбіні яе душы туліўся страх, што гэты ўчынак можа наклікаць якое-небудзь няшчасце, яшчэ горшае за тое, што ўжо налучыла іх. І яна дала сабе абяцанне, што калі вернецца Пракоп, то яна непрыменна зашкліць святога Мікалая і павесіць яго на старое месца. Яна ціхенька вынесла абраз у камору і перш, чым схаваць яго, у мыслях папрасіла прабачэння ў святога Мікалая і пацалавала яго ў хударлявы твар.

Мікіту-ж мала цікавіў цяпер святы Мікалай. Мыслі яго былі заняты зусім іншым. А калі маці вярнулася з каморы, то ён сказаў:

— Трэба нам падаць заяву аб уступленні ў калгас.

Тацяна пасля ўсіх гэтых падзей зусім безудзельна прыняла гэтыя словы.

— Як сабе хочаш, — даволі спакойна адазвалася яна і ўздыхнула.

Мікіта маўчаў, а маці дадала:

— Можа-б трохі счакаць. Паглядзім, як і што будуць рабіць людзі.

Тады Мікіта самым катэгарычным чынам запярэчыў мацеры:

— Чакаць тут якраз і не можна. Покі мы будзем чакаць, гэты кулачэчына будзе весці сваю работу, выкарыстае бацьку на ўсе сто працантаў. А потым нас будуць вінаваціць, што мы — прычына развалу калгаса. Калі бацька зрабіў памылку, то мы павінны яе выправіць. Ды бацька-ж і не пярэчыў нам уступаць у калгас.

Калі Мікіта ішоў у праўленне калгаса, учора толькі абранае і яшчэ не прыступаўшае да работы і таксама збянтэжанае, ён сустрэў на вуліцы Чыкілевіча, хоць і зрабіў выгляд, што не заўважыў яго. Чыкілевіч правёў Мікіту злосным вокам... «У, шчанюк!» — працадзіў ён скрозь зубы.

Мікіта доўга блытаўся па затонскіх хатах, покі не знайшоў старшыню праўлення Лукаша Гулака. Гулак — чалавек сярэдніх год, маламоцны серадняк. У яго хаце таўклося ўжо чалавек з дзесяць затонцаў і Марыніч у тым ліку. Гулак быў узрушаны і меў выгляд сярдзітага чалавека. Відаць, угнявілі яго. Усе са здзіўленнем паглядзелі на Мікіту. А Мікіта адразу прыступіў да справы:

— Запішыце мяне і маю матку ў калгас!

Гулак грозна зірнуў на мужчын, а потым на Мікіту, і тады яго твар праясніўся. Ён зноў павярнуў сваю галаву ў бок мужчын і сказаў:

— Ну? Яшчэ чарніла не высахла, а вы прышлі выпісвацца. Вот вам прыклад, дурні вы!

— А чаго-ж яго бацька збег?

А Мікіта сказаў:

— Бацька, выходзячы з дому, сказаў, каб мы запісваліся. А калі вы паслухалі Чыкілевіча, то гэта ваша справа. Але чакайце — знойдзем мы ўправу на Чыкілевіча!

— Малайчына, яй-богу малайчына!

І Гулак па-прыяцельску пахлопаў Мікіту па плячы.

## XXVIII

Падаўшы заяву аб уступленні ў калгас — заява была падана ад яго і ад Тацянінага імя, — Мікіта пачуў, што ён выпаўніў вялікі грамадскі абавязак, і яму стала адразу лягчэй. Сваёю заяваю Мікіта ў значнай ступені паспрыяў заспакаенню таго разброду, што пачаўся паміж затонцамі ў сувязі са знікненнем Пракопа і хітрымі Чыкілевічавымі падходамі, накіраванымі на разбурэнне калгаса.

За кароткі час Мікіта дабіўся значных перамог. Адны толькі яго перамогі над Чыкілевічам чаго варты! Калі Мікіта ўспамінаў, як вытурыў ён гэтага васпана з хаты, то гордасць яго прымала вялікія памеры. І толькі адна акалічнасць засмучала Мікіту і зацямняла радасць яго перамог: што стала з бацькам? Куды ён пайшоў і на што наважыўся? Гэтыя пытанні заставаліся цёмнымі і неразгаданымі і значна зніжалі яго настрой. Яны, Тацяна і Мікіта, не раз абмяркоўвалі гэту праяву з Пракопам і, нарэшце, па сталым разважанні прышлі да думкі, што Пракоп ва ўсякім разе не зробіць аднаго — на самагубства не пойдзе: аб гэтым сведчылі ўсе яго паводзіны. Яго зборы ў дарогу і тыя рэчы, што захапіў ён з сабою, і тыя словы, што сказаў ён, пакідаючы дом. Такая думка іх трохі заспакоіла.

— Напішы ты, сынок, Андрэю, — успомніла пра сына-чырвонаармейца Тацяна: — трэба даць знаць яму, як ён паглядзіць на гэта? Усё-ж такі ён старэйшы. А можа яго і з войска пусцілі-б, хоць на кароткі час, — раздумліва казала далей маці: — што-ж мы тут будзем рабіць самі?

Ноткі журботы чуліся ў яе голасе.

Так: маці гаворыць праўду — Андрэю напісаць трэба! Мікіта проста выпусціў гэта з памяці. А вось наконт таго, што яны будуць самі рабіць, дык Мікіта меў свой погляд: работы ён не баяўся і ведаў, што трэба рабіць — у яго былі тут свае меркаванні. Дайце толькі яму разгарнуцца.

Пісьмо Андрэю Мікіта пастараўся напісаць як наймудрэй, каб не скасавацца перад братам, не ўраніць свае



Якуб Колас з калгаснікамі Калгаса імя Молатава, Пухавіцкага раёна, Мінскай вобласці, Дзятка Марыяй Іванаўнай і Дзятка Канстанцінам Сцяпанавічам. 1950 г.

годнасці ў яго вачах. Але ён трохі перастараўся, што і адбілася на пісьме.

Мікіта пісаў:

«Дарагі наш брат Андрэй, а таксама і сын!

Піша табе Мікіта і маці твая Тацяна. У першых радках пісьма мы жывы і здаровы, чаго і табе жадаем. У нас нічога новага няма, за выключэннем, што вот пачалася калектывізацыя. Але не ўсё яшчэ ў нас добра. Каторыя беднякі і серадняк, як ёсць несвядомыя, мала разбіраюцца ў соцыялістычнай рэканструкцыі, а больш слухаюць таго, як спяваюць кулацкія падпявалы і іх прыхваснi і трубадуры. І яшчэ паведамляем, дарагі наш брат Андрэй чырвонаармеец, стой цвёрда на варце совецкіх граніц супроць інтэрвенцыі ўсіх колераў, а з сваімі кулакамі мы тут расправімся самі. Затым наш дарагі бацька Пракоп, падвучаны вядомым табе Рыгорам Чыкілевічам, не захацеў калектывізавацца. Сваёю несвядомасцю пайшоў з дому, невядома ў якім напрамку, пакінуўшы жану Тацяну, тваю родную маці, і сына, мяне, Мікіту, і ён цяпер тут галоўны гаспадар дома. І яшчэ паведамляю табе, дарагі наш брат чырвонаармеец Андрэй, што ёсць у мяне ў актыўнай форме класавая нянавісць да кулака Чыкілевіча. Ён тут самы першы падбухторшчык і звадыяш нашага дарагога бацькі Пракопа Іванавіча, як стаўшы кулацкім рупарам і не пайшоўшы ў калектыўную гаспадарку. І гэтая зараза заходзіў да нас, паставіўшы сабе контррэволюцыйную мэту не дапусціць мяне ў калектывізацыю. Няма ў нас добрага арганізатара, каб пакіраваць работаю і замацаваць дасягненне. А тут трэба павесці наступленне на шырокім разгорнутым фронце, а ў першую чаргу — склікаць сход бедноты і намеціць праграму. Дарагі наш брат чырвонаармеец Андрэй! Напішы мне, што рабіць далей, як свядомы і актыўны чырвонаармеец, і дай дырэктывы... Яшчэ раз паведамляем табе, што мы жывы і здаровы. Маці нізка кланяецца табе і шле сваё таварыскае прывітанне».

Мікіта прачытаў пісьмо матцы. Тацяна слухала, і слёзы цяклі па яе ўпалых шчоках. І трудна сказаць, чым выклікаліся гэтыя слёзы: ці то стылем пісьма, перасыпаным такімі звонкімі і мудрымі словамі, ці то Мікітаваю здольнасцю пісаць так хараша і складна, ці тымі ўсімі

падзеямі, што ў злучэнні сваім і паслужылі тэмаю для гэтага пісьма. Многа розных пачуццяў і думак ускалыхнулася ў Тацяніным сэрцы і ў галаве, але яна не магла належным чынам іх выказаць, і яны проста выліваліся ў слязах.

— Добра, — расчулена сказала маці, але ў тоне, якім было выказана гэта, чулася няпоўная шчырасць.

Тацяна ўздыхнула.

Яна хацела яшчэ запытаць, што гэта за слова: «трубадур», але ёй здавалася, што яно і так даволі выразнае і гаворыць само за сябе, складаючыся з двух слоў: труба і дурыць. Так разумеў яго і сам Мікіта — слова гучнае, і яно якраз было тут на месцы. І яшчэ хацелася Тацяне зрабіць адну заўвагу: мала было ў пісьме паклонаў, а таварыскае прывітанне замяніць матчыным благаславеннем. Але яна не сказала нічога.

## XXIX

Чыкілевіч быў больш, чым пакрыўджан і абражан. Калі да таго моманту, як Мікіта выгнаў яго з хаты, ён, перажыўшы страх, адчуваў сябе ў добрым гуморы і ўпотайку гатоў быў спяваць хаўтурную песню затонскай калектывізацыі, то цяпер ад гэтага гумору не заставалася і почуту, бо справа павярнулася так, што хаўтурную песню хутчэй за ўсё прыходзілася спяваць па хутарской гаспадарцы і па самім Чыкілевічу. Пракоп падняў дух Чыкілевіча, знікшы з Затоння, але не меней здзівіў народ і Мікіта, падаўшы сваю заяву. Стан, у якім апынуліся цяпер затонцы, можна параўнаць хіба з тою з'яваю, што была-б у выніку сустрэчы двух процілеглых вятроў аднакавай сілы — ураўнаважаны зацішак.

Звычайна-ж зацішкі цягнуцца нядоўга, а тым болей зацішак у жывым людскім жыцці. Розныя сілы па-свойму выяўляюць сваю дзейнасць, ці затармажваючы ці падпіхаючы няспынную плынь жыцця.

— Ну, гэта-ж вы падумайце: ці было калі на свеце тое, што робіцца цяпер? — сказаў Чыкілевіч на вуліцы дзядам і старым жанчынам: — прышоў да чалавека ў

хату, пагаварыць, паспагадаць, а ён, Мікіта, Пракопаў шчанюк, гоніць мяне з хаты!

— Мікіта? Пракопаў Мікіта?! — узбурыўся дзед Піліп заімшавелаю бародкаю.

— Цяперашнія падлеткі — чорт ведае што, — выказала спачуванне Чыкілевічу і бабка Цынклета: — няма ў іх ні бога, нікога.

— Бога! — падхапіў з горкаю ўсмешкаю Чыкілевіч. Тут ён якраз падышоў да самага кульмінацыйнага пункту ў сваім паведамленні, каб выкарыстаць яго належным парадкам і ўтаптаць у гразь свайго заклятага ворага, а разам з гэтым і тую справу, з-за якой і загарэўся свет. Але Чыкілевіч вядзе сваю лінію тонка: хіба яму ходзіць справа аб яго ўласных інтарэсах, аб яго асабістай абразе? не — яму балюча зносіць гэтую нечуваную знявагу святых угоднікаў божых!

— Калі я напомніў гэтаму вырадку, няшчаснаму блазну, — казаў ён далей тонам узрушанага чалавека: — пабойся ты, хлопча, бога — пад абразамі сядзіш ты! — то што-ж ён зрабіў? Сарваўся з месца, ды так штурхнуў плечуком абраз, што ён упаў са сцяны і разбіўся. — Бабкі гаротка паківалі галовамі.

— Ну дзе-ж будзе тое дабро на свеце, мае вы мілыя? — пытала бабка Цынклета: — галаву адкруціць яму і то мала!

— Захацеў ты ў калгас, ну, ідзі сабе, ніхто цябе не трымае, бацька даў табе поўную волю, з дому сышоў, каб не замінаць табе, можа дзе рукі налажыў на сябе, але на што-ж такая абраза? — у парыве гарлівасці аб богу разліваўся Чыкілевіч: — перад ім тысячы гадоў маліліся людзі, у ім шукалі сабе спакою і ўцехі. Дык хоць-бы ты пашанаваў свайго бацьку — ён-жа таксама маліўся святым божым угоднікам перад тым, як ісці ў свет, зрокшыся свайго набытку.

Жаласліва гаварыў Чыкілевіч. Бабка Дарота і бабка Палуся высмаркалі насы і абцерлі вочы.

— І будзе табе дабро ў калгасе, калі ты, недаверак, зняважыўшы сталага чалавека, пайшоў запісвацца ў калгас, ад якога збег твой бацька? — граміў Мікіту дзед Піліп. — Дык дзе-ж яно будзе тое дабро, калі такія саплякі пачынаюць ездзіць па карку і верхаводзіць?

Смаркачы яшчэ з носу цякуць, а збіраюцца свет перайначыць... Божа ты мой, божа! от дачакаліся! — гаротна выгукваў дзед Піліп.

Не адставалі ад яго і бабкі, кожная на свой лад выказвала абурэнне з поваду блюзнерства Пракопавага Мікіты.

— А маці яму патурае, выгадавала вучонага! — накінулася на Тацяну бабка Цынклета.- Цынклету за яе баявы характар называлі ў Затонні чаркесам.

— Зняла-б хвартух ды высвенцала-б паскамі, паказала-б яму і абраз і калгас!

— Ды дай ты, галубка, свет! — заступілася за Тацяну бабка Палуся: — што яна з ім зробіць, калі ім дана такая воля? А вучаць іх чаму?

Ад Мікіты перайшлі да агульных пытанняў маралі і палітыкі, а потым і да самага балючага надзённага пытання, да калгаса. Сыходзіўся патроху народ, спыняўся, слухаў прамовы дзеда Піліпа і бабак. Потым самі памалу ўцягваліся ў гутарку, падаючы наўперад рэплікі, і больш распальвалі настрой дзеда Піліпа і бабак.

Дзеда Піліпа абыходзіла балюча пытанне адносна лёсу старых у калгасе. Куды ты іх там прыткнеш? Тут яшчэ, покі носяць цябе ногі, ты сяк-так тупаеш, шворышся каля дому, знойдзеш сабе сякую-такую работу, хоць лапаць спляцеш ды прыбярэш каля току, а там што ты будзеш рабіць?

— Палежваць будзем, — заўважыў Марыніч, пыхкаючы піпкаю. Сказаў ён проста так сабе, абы сказаць што-небудзь.

— Будзеш ляжаць, покі з голаду ног не выпрастаеш, бо хто там цябе карміць будзе? — горка азваўся дзед Піліп.

Амяльян Нічыпарук, першым падпісаўшы пратакол, знаходзіў зусім лішнім і несвоечасовым пытанне аб тым, што будуць рабіць у калгасе старыя. Яму проста хацелася падражніць дзеда Піліпа і бабак, а таму ён сказаў:

— Пойдуць у дзела і старыя ў калгасе, і з іх якая-небудзь карысць будзе: каторыя сыцейшыя — на мыла пойдуць, а сухарлявыя, такія як ты, перапаляцца на попел, і засеюць на табе лубін або кукурузу для сіласу.

Злосна зірнуў дзед Піліп на Амяльяна, агнём загарэліся старыя вочы. Але чорт яго бяры — лепш не паказваць, што Амяльянавы словы, выклікаўшыя смех, дайшлі да дзедавага сэрца, і ён са спакоем філосафа адазваўся:

— Ну, што-ж? І з майго попелу карысць будзе, а вось з цябе ні богу свечка, ні чорту качарга.

Калі гутарка перайшла на калгас у тоне, які быў дадзены Чыкілевічам, то сам ён ціхенька адышоў назад, схаваўся за спіны, паслухаў, як рэгент, ці добра спявае хор, і калі пераканаўся, што «хор» не губляе тону, то памаленьку падаўся на сваю сядзібу. Нашто яму быць пры такіх гутарках? Потым чапляцца толькі будуць, скажуць, што гэта ён падбухторвае народ. Яго справа — старана.

## XXX

Некалькі дзён шумелі затонцы.

Амяльян Нічыпарук, першым падпісаўшы пратакол, стараўся не пападацца людзям на вочы, а гэта сведчыла аб тым, што ў Затонні пачала падымацца хваля супроць калгаса. Тыя затонцы, што не запісаліся на сходзе ў калгас, цяпер вышай пападымалі галовы і даволі зняважліва пазіралі на адступнікаў, на тых, што павыпісваліся з калгаса, а яны, адступнікі, трымаліся нейтральна. Рэшта-ж, хоць іх было цяпер і меней, не здавалася, але ранейшага запалу ў іх не было.

Затое-ж козырам хадзіў дзед Піліп, трасучы сваёю заімшавелаю бародкаю. І не мінаў ён здарэння падказаць Амяльяна Нічыпарука, першым падпісаўшага пратакол. Сустрэўшы яго, дзед кожны раз з самай сур'ёзнаю мінаю запытае:

— Дык гэта ты, Амяльян, першым падпісаў пратакол?

І раптам уся сур'ёзнасць сыходзіць з дзедавага твару, і ён заліваецца смехам. Смяецца так, што вочкі яго праплачуць, а бародка трапечацца, як кудзеля, з якой прадзіха вытрасае кастрыцу.

— Лёгкая, брат, твая рука, Амяльян, першы падпісаўшы пратакол!

Так і называў дзед Пiлiп Амяльяна: лёгкая рука, першы падпісаўшы пратакол.

Амяльян часамі змоўчыць, а часамі заўважыць:

— Ты яшчэ пачакай смяяцца: не пераскочыўшы, не кажы гоп!

Праўду казаў Мікіта, калі пісаў Андрэю, што няма тут чалавека, каб пакіраваць работаю і ўзяць арганізацыю калгаса ў цвёрдыя рукі. Старшыня праўлення, Лукаш Гулак, паторкаўся трохі, пакіпяціўся і таксама астыў і выпусціў лейцы з рук.

— Ці мне больш трэба, як усім? Не хочаце, ну, і чорт вас бяры! — усердаваўся ўрэшце ён і плюнуў.

З тых нямногіх асоб, што засталіся вернымі калгасу, Мікіта найболей балюча прымаў да сэрца гэтыя няўдачы. Уся Мікітава бяда ў тым, што ён яшчэ недарослы чалавек, і яго тут мала слухаюць — не мае ён аўтарытэту сярод несвядомых людзей. І трэба прызнацца — Мікалай Мірлікійскі выставіў Мікіту таксама з нядобрага боку і што называецца падмачыў яго рэпутацыю сталага хлопца ў вачах затонскіх старадумаў. І гэта ўжо другі выпадак, калі Мікалай Мірлікійскі становіцца яму ўпоперак дарогі. Адным словам, Чыкілевіч у саюзе з Мікалаем Мірлікійскім выяўна бралі верх над Мікітам. З зларадным смехам сачыў Рыгор Чыкілевіч за яго марнымі патугамі паправіць калгасную справу. А стараўся Мікіта нямала, ён заходзіў да кожнага члена праўлення, каб узяліся за справу. Але на яго глядзелі, як на недалетка.

Ён угаварваў старшыню праявіць актыўнасць, напамінаў яму, што не дарма-ж яго абралі за старшыню: старшынства яго да чаго-небудзь ды абавязвае-ж. Як гэта ён патурае кулацкай агітацыі? Чаму-б не склікаць сход калгаснікаў ды не пагаварыць аб справе?

Старшыня чуў праўду ў Мікітавых словах і злаваўся.

— Ну, што я зраблю, калі тыя, хто мяне абіраў, уцякаюць, як чэрці ад крыжа? Пакінулі мяне аднаго...

Прабаваў Мікіта падыйсці і да тых, што яшчэ не павыпісваліся з калгаса, каб праз іх націскаць на старшыню і на праўленне. Адзін толькі Амяльян Нічыпарук, першым падпісаўшы пратакол, горача падтрымліваў Мі-

кіту. Яму хацелася, па-першае, апраўдаць сваю славу чалавека з лёгкай рукою, а па-другое, мелася на ўвазе насаліць дзеду Піліпу за яго кпіны. Але за імі не было тут ніякай рэальнай сілы, і поспеху яны не мелі. К гэтаму-ж часу супроць Мікіты паўстала яшчэ адна варожая сіла: група найболей адсталых жанок на чале з бабкаю Цынклетаю. Бабка Цынклета, настроеная Чыкілевічам, злавалася на Мікіту.

— Супакойся ты, хлопец! — сказала раз Мікіту Цынклета на вуліцы, чуючы за сабой падтрыманне жанок, — захадзіўся ты нешта з гэтым калгасам. Соваеш нос, куды табе не трэба. Суслу яшчэ ссаў-бы.

Мікіта быў хлопец гарачы. Злосць узяла яго.

— Заткніся, рэдзька параная!

Ён бліснуў вачыма і пайшоў сваёю дарогаю.

— А каб табе заткнула ды не адпусціла! — кляла яго ўслед Цынклета.

Мікіта павесялеў, бо чуў, што дапёк старой Цынклеце. Прыпыніўся і сказаў, каб яшчэ больш дапячы ёй:

— Не гневайся, бабка. А калгас будзе. Абагулім тваю карову, авечкі, свінню з парасятамі.

Цынклета аж затрэслася ад злосці. Але Мікіта ўжо не чуў, што гаварыла яна і чым пагражалі яму жанкі. Мікіта ішоў далей, пацяшаўся над злосцю жанок, думаў сваю думку.

Гэта думка была ў Мікіты і раней, але ён з розных прычын не мог запыніцца на ёй належным парадкам, каб прадумаць усё да канца. Яна проста мільгнула ў яго галаве мімалётнай бліскаўкаю і на некаторы час знікла. А цяпер зноў з'явілася ў Мікітавай галаве.

Перад Мікітавымі вачыма пранеслася цэлая чарада малюнкаў і вобразаў, звязаных з тым знамянітым сходам, дзе выступаў Брыль. Ён, таварыш Брыль, і займаў цяпер цэнтральнае месца ў Мікітавых думках. Мікіта прыпамінаў захапіўшую яго прамову і паважную постаць прамоўцы. І Мікіта так мала ведае аб ім — рабочы з завода, вот і ўсё, што мог сказаць ён аб ім. Цяпер, калі ён пераканаўся, што сваімі сіламі пасунуць наперад калгасную справу цяжка, можа памагчы Брыль. Але дзе яго знайсці?

Абмеркаваўшы з усіх бакоў гэтае пытанне, Мікіта прышоў да цвёрдага заключэння знайсці Брыля, расказаць яму ўсё. Не можа быць, каб такі чалавек не паслухаў яго і не дапамог яму.

## XXXI

Мікола Тур, старшыня Крутагорскага сельсовета, меўся паехаць у вёску Загацце. Заставалася яна адна яшчэ не калектывізаванай. З прычыны таго, што Брыль, адзін з рабочых дваццаціпяцітысячнікаў, гэтымі днямі павінен быў выехаць у другі раён, старшыня стараўся, каб як найбольш выкарыстаць у гэтай справе дапамогу Брыля. Пісьменнік Базыль Базылец, абцяжаны рознымі матэрыяламі, уражаннямі і назіраннямі, падаўся назад у сваё котлішча, каб ператравіць гэту пісьменніцкую страву. Брыль меў свой погляд на такі паспешны ход калектывізацыі, і ён выказаў яго старшыні.

— Ці не занадта гонішся ты, таварыш Тур, за процантам калектывізацыі? Трэба болей удзяліць увагі на афармленне і на замацаванне ўжо арганізаваных калектываў і мець там сваё вока.

— Нічога, нічога, брацe Брыль! — заспакойваў яго старшыня: — дапамажы, браце, правесці нам работу ў асноўным, а ўжо дэталі адшліфуем мы самі.

— Ну, глядзі! — перасцерагаў яго Брыль.

Старшыня зрабіў ужо ўсе распараджэнні свайму намесніку, падпісаў найболей пільныя паперы. Збіраліся ехаць. У той момант, калі старшыня браў свой пузаты партфель, дзверы ў канцылярыю сельсовета адчыніліся, і на парозе паказаўся Мікіта, пачырванеўшы ад холаду і борздай хады.

Спыніўся, быстра акінуў вачыма старшыню і ёмкую фігуру Брыля. Напружаная заклапочанасць збегла з Мікітавага твару, а замест яе засвяцілася лагоднейшая ўсмешка. Ён дужа быў рад, што ўбачыў Брыля. Такая змена на хлапецкім твары кінулася ў вочы старшыні.

— Што скажаш?

Відаць было, што старшыня спяшаецца.

— Ёсць справа і вельмі важная, — сказаў Мікіта і імкліва падаўся наперад.

— Якая такая важная справа? — трохі занепакоіўся старшыня і тут-жа патарапіў Мікіту:

— Хутчэй, бо мы едзем на калектывізацыю.

— Па справе калектывізацыі прышоў і я да вас.

Старшыня зірнуў на Брыля, і гэты погляд як-бы пытаў:

— Слухаць яго ці не?

Але Мікіта так выразна зірнуў на Брыля, што той адразу стаў на яго бок.

— Ну, раскажы, дружок: паслухаем!

— Развальваецца наш калгас, таварыш!

Мікіта адразу ўзяў з высокага тону: ён баяўся, што старшыня паедзе і не даслухае ўсяго. Дык трэба, што-б там ні было, затрымаць іх і выкласці ўсе свае згрызоты, трывогі і няўдачы.

— Гэта дзе? — цень заклапочанасці лёг цяпер на твар старшыні. Ён палажыў на стол пузаты партфель. Брыль кіўнуў старшыні галавою і без слоў сказаў:

— Ну, што?

— У Затонні, дзядзечка!

Старшыню Мікіта палічыў лепшым называць дзядзечкам.

— Як так развальваецца?

— Выпісваюцца ўсе, а праўленне не робіць нічога.

— А чаму выпісваюцца?

Мікіта апусціў вочы, на момант замяўся.

— Бацька мой напсаваў тут трохі!

— Гэта хто такі?

— Дубяга Пракоп.

— Цікава!.. І што-ж ён зрабіў? — запытаўся Брыль.

— У тую ноч, як вы праводзілі ў нас калектывізацыю, ён сышоў з дому — не хацеў калгаса.

— Куды ён пайшоў?

— Хто яго ведае. Сабраўся і пайшоў. Цяпер, кажа, ідзіце сабе ў калгас: я вам замінаць не буду, — Мікіта хацеў трохі выгарадзіць бацьку, але гаварыў праўду.

— Дык прычым-жа тут бацька твой? — недаўмяваў старшыня.

— Гэта вельмі ўсіх здзівіла, што ён кінуў усё, адцураўся хаты, абы толькі не быць у калгасе. Пайшлі ўсялякія гутаркі, сталі перадумваць... Ну, адным словам, пачалася завіруха. Пачалі выпісвацца, хто запісаўся.

— Ты — свядомы хлопец, — пахваліў Мікіту Брыль, — комсамолец?

— Не, — журботна адказаў Мікіта, утупіўшы вочы.

— Табе трэба было ўзяць у рукі бацьку, перавыхаваць яго, — заўважыў Брыль.

— Прабаваў, але ён не слухаў мяне... Можа-б гэтае здарэнне з бацькам і не мела-б яшчэ такіх паганых вынікаў, бо я зараз-жа, назаўтра, падаў заяву, каб мяне і матку прынялі ў калгас, але знайшліся ў нас людзі, якія выкарысталі здарэнне з бацькам.

Мікіта падрабязна расказаў пра ўсе затонскія падзеі, не пашкадаваў фарбаў, каб абмаляваць Чыкілевіча і ўсе яго махінацыі і яго падступства і двухсэнсныя гутаркі пра калгас. Нарэшце апісаў і сваю сутычку з ім, як ён выгнаў яго з хаты.

Калі Мікіта дайшоў у сваім апавяданні да Мікалая Мірлікійскага, Брыль, акінуўшы Мікіту вясёлым поглядам, зарагатаў доўгім, раскацістым смехам.

— Ну, старшыня, як рэагаваць на гэта?

Пытанне Брыля мела ў сабе як-бы трохі характар экзамену для старшыні. Старшыня, замест таго каб адказаць на запытанне, сам спытаў Мікіту:

— А чаму ты не заявіў у сельсовет, што твой бацька сышоў з дому?

Ну, што сказаць яму на гэта? Але Мікіту выручыў Брыль:

— Ды вось-жа ён табе і заяўляе і заяўляе больш, чым ты пытаеш. Ды і шукаць-жа ты яго і не пойдзеш. Справа не ў гэтым. Чалавек ці прыстроіцца дзе-небудзь на работу, ці вернецца дамоў. Але вот калгас раскідаецца — вось над чым трэба падумаць!

— Ехаць трэба туды! — сярдзіта сказаў старшыня.

— О! гэта праўда.

Брыль цяпер, з фактамі ў руках, давёў старшыні, што наўперад трэба падвесці цвёрды грунт пад калгас, даць

яму цвёрдае кіраўніцтва, забяспечыць яго арганізацыйна, і толькі тады можна лічыць калгас арганізаваным.

— Адкладай, брат, паездку ў Загацце. Трэба не дапусціць развалу гэтага калгаса — у Затонне трэба ехаць.

## XXXII

Трыумфальна ехаў Мікіта па Затонскай вуліцы на пары коней. І сядзеў ён паміж старшынёю сельсовета і Брылем. І людзі бачылі яго ў такой паважанай кампаніі і віталіся. Хоць гэтае вітанне і не адносілася да Мікіты, але-ж вітанне — не чарка гарэлкі, што ёю ты можаш абдзяліць каго ў кампаніі: віталіся з старшынёю і Брылем — віталіся з Мікітам.

Дзед Піліп, бабка Цынклета і ўся іхняя хэўра, і іх правадыр Чыкілевіч спачатку не ведалі, што значыць усё гэта. Мікіта нікому не гаварыў, што надумаўся ён рабіць, але ўсё-ж такі яны дрогнулі, як варожая армія, зачуўшы на полі бою моцныя рэзервы свайго праціўніка. І дзед Піліп, сустрэўшы Амяльяна Нічыпарука, на гэты раз не запытаўся пра яго лёгкую руку, якою той першы падпісаў пратакол. Затое-ж сам Амяльян кіўнуў дзеду галавою і запытаў:

— Дык што ты, дзед, будзеш у калгасе рабіць?

— Для працавітага чалавека ўсюды работа знойдзецца. А вось ты, як быў лодырам, дык лодырам і застанешся, — сярдзіта падцяў яго дзед.

— Не злуйся, дзед, а лепш запішыся ў калгас.

— Як трэба будзе, дык запішуся. Ты першым, а я апошнім. — Калгаснікі, ганебна здрадзіўшыя калгасу, таксама раптам адчулі сябе цяпер няёмка.

І людзі, у якіх была ў той ці іншай ступені віна перад калгасам, пачыналі ўпотайку вызнаваць свае грахі, думаючы, як гэтыя грахі абярнуць у святасць. І сам Чыкілевіч успамінаў цяпер, як многа казаў ён людзям за калгас. Прыезд старшыні сельсовета і гэтага рабочага з горада ды яшчэ разам з Пракопавым Мікітам не абяцаў Чыкілевічу нічога добрага:

«Ось яшчэ скула на маім карку! — думаў ён пра Мі-

кіту. — Набрахаў на мяне, гад!». Наколькі дапамог яму Пракоп, нагэтулькі, калі не болей, пашкодзіць яму гэты шчанюк. Ну, але ён, Чыкілевіч, паглядзіць, што будзе далей. Няхай толькі праз яго пачнуць рабіць яму, Чыкілевічу, прыкрасці, то... Чыкілевіч яшчэ і сам не ведаў, якую помсту прыдумае ён. Але што-небудзь ды прыдумае!

Сам ён цяпер не паказваўся людзям на вочы, тупаў каля дому і коршунам пазіраў у бок Затоння, чакаючы далейшых падзей. Для сувязі-ж з Затоннем і для разведак паслаў ён свайго сына Юрку. Юрка быў адзін сын у бацькоў. Двух сваіх дачок Чыкілевіч пааддаваў замуж. Клопату з імі бацькам не было. А вот з Юркам справа стаяла горай. Адчуваючы няпэўнасць свайго гаспадарскага стану, Чыкілевіч думаў вывесці ў людзі і сына. Юрка годам раней за Мікіту скончыў сямігодку. З поўгода вучыўся ў ветэрынарнай школе, але яго вычысцілі адтуль, як сына кулака.

І Юрка жыў пакі што дома, падпільноўваючы зручнага здарэння. Гаспадаркаю цікавіўся ён мала.

— Каб ужо я бачыў, што ты прыстроены, то ў мяне і клопату не было-б, — казаў яму бацька: — як-небудзь з маткаю датаўклі-б веку. — Але за зямлю трымаўся ён моцна, з чыста кулацкаю заўзятасцю, спадзеючыся ў затоеных глыбінях сваіх мыслей якіх-небудзь змен.

Навіны, сабраныя Юркам, насілі агульны характар. Так, ён даведаўся, што Мікіта хадзіў у сельсовет для таго, каб расказаць там, што кулакі раскідаюць калгас, і па яго заяве прыехаў сюды старшыня сельсовета і той самы рабочы, што ўжо выступаў тут на сходзе. Цяпержа ізноў склікалі сход, прычым на сход скліканы толькі беднякі — калгаснікі і некалгаснікі. Што там гавораць на сходзе, Юрка не ведае. Адно толькі вядома яму, што на гэтым сходзе быў і Мікіта.

Гэтыя скупыя навіны не давалі Чыкілевічу стравы для разважання і для розных здагадак. Перш за ўсё вельмі падазрона, што на сход запрошаны адны толькі беднякі і, што яшчэ больш дзіўна, Мікіта!

Лічыць іхнюю гаспадарку за бядняцкую нельга: Пракоп — сераднячок ды і не слабенькі. І чым-жа гэты шча-

нюк заслужыў ласку? Ясна адно — Мікіта наплёў там чорт ведае чаго і, разумеецца, не пашкадаваў яго, Чыкілевіча. Ён стараўся адгадаць Мікітавы злыя намыслы і чым больш думаў аб іх, тым большую нянавісць адчуваў да хлопца.

«Ось настала жыццё: сам сабе больш не гаспадар! Сваё-ж кроўнае дабро, здабытае ўласнаю працаю, становіцца табе ўпоперак дарогі. І які-небудзь вырадак, сапляк прымушае цябе дрыжаць і трывожыцца!»

— Тфу! — плюнуў абурліва Чыкілевіч, і мыслі яго прынялі іншы кірунак. — Як тут выкруціцца і зрабіць так, каб ім аж моташна стала.

Але чалавеку вельмі трудна адгадаць, як павернецца справа, па якому рэчышчу паплывуць падзеі і якую прызначаць яны табе ролю. Так было і з Чыкілевічам. Як ні меркаваў ён, што можа быць для яго ў выніку гэтага сходу, з якога боку падыйдзе да яго ліха, але ніяк не чакаў, што справа павернецца такім чынам.

На другі дзень з раніцы па Затонскай вуліцы гналі невялікае стадка, штук дванаццаць жывёлы, рознага ўзросту і роду: некалькі кароў, худых, з закарэлымі сцёгнамі, бычкоў і цялушак. Жывёла, сагнаная ў такі незвычайны час з розных двароў, са збянтэжаным рыкам, штурхаючыся, паволі пасоўвалася наперад, у той бок, дзе жыў Чыкілевіч. За гэтым стадкам ішло некалькі мужчын і падлеткаў, падганяючы жывёлу. Жывёла была затонская, і людзі, што ішлі за ёю, таксама былі затонскія. Сярод жывёлы Чыкілевіч пазнаў і Пракопаву цялушку-трацячку. Сярод-жа людзей найболей яскрава выдзялялася постаць Кандрата Казея, таго самага Казея, якога не так даўно Чыкілевіч называў Пракопу, як кандыдата ў добрыя адміністратары ў калгасе. Мінуўшы вуліцу, людзі, што гналі жывёлу, павярнулі яе проста на Чыкілевічаву сядзібу, а потым, па загаду Казея, адчынілі вароты Чыкілевічавага двара і пагналі скаціну ў бок прасторнага хлява.

Усё гэта рабілі па загаду Казея, як-бы гаспадаром быў тут не Чыкілевіч, а Кандрат Казей. У Чыкілевіча не спыталі, не параіліся нават, як размясціць скаціну ў яго хляве. Адчынілі хлеў, паглядзелі, памеркавалі трохі і

самі сталі парадкавацца тут, як сапраўдныя гаспадары. Чыкілевічу сказалі толькі, каб ён ачысціў адну палавіну хаты.

## XXXIII

Чыкілевіч, яго жонка і сын сядзелі, як аглушаныя громам. Навала, што насунулася на іх, была такая неспадзяваная і такая вялікая, што адабрала ад іх здольнасць выказаць сваё абурэнне з прычыны такога гвалту: прышлі чужыя людзі, прыгналі сюды сваю жывёлу, захапілі двор і палавіну хаты і сталі тут гаспадарыць, не папярэдзіўшы, не сказаўшы ім ні слова!

Месца не знаходзіў сабе Чыкілевіч. Снаваў з кута ў кут, апусціўшы галаву.

— Дажыліся, дажыліся! Вот табе і калгас, — некалькі разоў гаварыў ён як-бы сам з сабою.

— Ну, што-ж? іх сіла, іх права! — стараўся ён заспакоіць сябе, жонку і сына.

Нічога не клеілася ніяк. Панура маўчаў Юрка, абапёршыся на край стала. Маўчала і Ульяна, Чыкілевічава жонка, злажыўшы рукі, і толькі ўздыхала.

— Нічога не парадзіш, — не пераставаў абзывацца Чыкілевіч, а ў самога ўсё гарэла ўнутры ад крыўды і злосці.

— І няўжо няма на свеце праўды? Павінна-ж быць нейкая справядлівасць! Як-жа гэта так? — недаўмявала Ульяна, — убіліся самачынна, пішчом, гвалтам у твой двор, у тваю хату: камандуюць табою, распараджаюцца тваім дабром. За што? за якія грахі? Ці мы тут кралі? грабілі? забівалі? Кроўнаю працаю прыдбалі кавалак хлеба, і ён стаў ім упоперак горла.

Ульяна змяніла тэмп і характар свае жальбы і адразу перайшла на праклёны.

— Іх сіла — іх права, — яшчэ раз заўважыў Чыкілевіч, а Юрка дадаў:

— У кожнага свая справядлівасць: свая праўда. Класавая справядлівасць.

Але маці нічога не зразумела з Юркавай заўвагі, і яна казала сваё:

— Як-жа тут цярпець і маўчаць?

— А што ты зробіш? — пытаннем адказаў ёй Чыкілевіч. І зусім іншым тонам прасіпеў:

— Каб была ў мяне сіла — паказаў-бы я вам кулака! Раскулачыў-бы я вас так, што ўсіх вас пабралі-б чэрці!

Ён раптам увесь змяніўся. Злосць, нянавісць выступалі з кожнага мускула яго твару. Але гэтая ўспышка злосці ў ім зараз-жа і пагасла. Усе трое здрыгануліся, і вочы іх павярнуліся ў бок дзвярэй. Высокі парог пераступілі ногі старшыні сельсовета Міколы Тура, і ўся яго постаць увалілася ў хату. За ім увайшоў старшыня калгаса Лукаш Гулак, за Гулаком — Кандрат Казей, цяперашні падсуседнік Чыкілевіча.

Увайшлі, і ніхто з іх не павітаўся з гаспадарамі, не сказаў дзень добры ў хату. Чыкілевіч усё гэта ўзяў пад увагу і растлумачыў, як нядобры знак.

— Ну, дык вот! — гэтак пачаў сваю прамову старшыня сельсовета: — з твайго, васпан Чыкілевіч, двара, вярней, з быўшага твайго, пачынаецца тут, у Затонні, калгас.

Чыкілевіч слухаў, але ўвага яго больш затрымлівалася на дробных рэчах. Так ён ізноў звярнуў сваю ўвагу на тое, што старшыня назваў яго «васпанам». «Васпан» быў дарэчы ў старыя часы, а цяпер ён гучаў ужо як лаянка, і яшчэ адна абраза асобы гаспадара. «Таварыша» пашкадаваў для яго!

— Покі што, — казаў далей старшыня: — ты застаешся жыць тут, але гаспадар на гэтым двары і ў гэтым доме не ты, а ён, — старшыня паказаў рукою на Кандрата Казея. — Ніякаю былою тваёю маёмасцю распараджацца сам не можаш: ні прадаваць, ні мяняць не маеш права — уся яна будзе апісана! А ўсё, што трэба табе і скаціне, якая покі што лічыцца за табою, будзе выдаваць Кандрат... Вось! Далейшае-ж тваё тут прабыванне будзе залежаць ад самога. Гэта значыць: калі выявіцца тваё шкодніцтва, хоць замах на злачынства ў дачыненні да калгаса або каго-небудзь з калгаснікаў, то ты будзеш не тут, а дзе-небудзь у іншым месцы. Зразумеў?.. Ну, дык вот!

Магільная цішыня была ў Чыкілевічавай хаце, калі старшыня сельсовета агалошваў гэту грозную рэзалюцыю. Ульяна пераводзіла вочы з старшыні на Чыкілевіча. У меры таго, як гаварыў старшыня, мяняўся ў твары Чыкілевіч. Злосць і абурэнне яго нейк вытахліся, ці то перайшлі за такую мяжу, дзе яны проста знікаюць, як дым ад пажару ў паветры. А калі старшыня скончыў сваю прамову, Чыкілевіч кіўнуў галавою ў знак згоды, а потым, памаўчаўшы момант, закалыхаўся сухім, дзервяным смехам.

Старшыня зірнуў на яго і адчуў нешта накшталт страху.

— Чаго смяешся? — запытаў старшыня.

Чыкілевіч успомніў адно здарэнне на судзе, паставіў сябе на месца таго падсуднага, якога асудзіў суддзя, і яго словамі адказаў:

— Каротка, міласціва і справядліва! Дзякую табе, Мікола, за тваю мудрасць, дабрату і ласку. Дай табе, божа, каб і цябе так справядліва судзілі і ўсіх тых, хто судзіў і мяне. Няхай жыве калгас, няхай растуць і буяюць у ім мае слёзы і мая крыўда! Не шкодзіў я калгасу і шкодзіць не збіраюся.

— Ну, і то добра! — сказаў Мікола Тур.

Абодва старшыні і Кандрат Казей вышлі з хаты.

Трое Чыкілевічаў момант заставаліся ў знямелым маўчанні. Першым загаварыў сам Чыкілевіч.

— Ну, вось табе і калгас!.. Ну, нічога не паробіш, — тонам прымірэння загаварыў ён: — бывае і горш. Будзеш-жа як-небудзь жыць.

Язык яго казаў аб прымірэнні з горкаю доляю, а мыслі напружана шукалі спосабу самай жорсткай помсты.

— Былі гаспадары, а сталі горш за батракоў. І за што, за якую кару? — з болем у голасе пытала Ульяна.

— Батракі — самае пачэснае цяпер званне, — заўважыў Юрка, а бацька дадаў:

— О, каб мы былі батракамі, былі-б шчаслівыя людзі.

— А ўсё гэта Мікіта Пракопаў навёў, — Ульяна ізноў разлілася патокамі праклёнаў.

Яны абмяркоўвалі сваё становішча. І калі, нарэшце, як гэта і бывае зазвычай, прышлі да пэўнага заспакаення, Чыкілевіч сказаў:

— Што-ж? будзем кланяцца Казею.

## XXXIV

Гучна і шумна стала ў Чыкілевічавай хаце, на той палавіне, дзе асталяваўся Кандрат Казей. Сюды прыходзілі калгаснікі — Марыніч, Амяльян Нічыпарук, першы падпісаўшы пратакол, старшыня калгаса, члены праўлення і іншыя калгаснікі. Тут адбываліся іх сходы-нарады, выносіліся розныя пастановы, складаліся планы работ. Карацей сказаць, Чыкілевічаў двор і дом сталі цяпер галоўнаю кватэраю, баявым штабам затонскага калгаснага руху.

Не раз стаяў Чыкілевіч, прылажыўшы да сцяны вуха, і слухаў, аб чым гаварылася там, за сцяною. Ён лавіў асобныя абрыўкі гутаркі і ў мыслях, а часамі і ўголас, але так, каб яго не пачулі, падаваў самыя злосныя, самыя абразлівыя рэплікі, у якіх выліваў сваю злосць супроць «лайдакоў», як называў ён калгасную беднату. І асабліва ненавісным стаўся Кандрат Казей.

— Прышлі на гатовае, селі няпрошаныя, а ты кланяйся ім, жабруй перад імі, выпрошваючы сваё ўласнае дабро. А вы што зрабілі? Запаскудзілі двор, забрудзілі хату. Латошаць толькі языкамі, а скаціна стаіць недагледжаная.

Хадзіў Чыкілевіч, як зацкаваны воўк, на сваёй палавіне. Але, сустрэўшыся з Кандратам Казеем, ён ветліва ківаў яму галавою і першы вітаўся з ім, называючы яго таварышам Казеем. І ўся панурасць яго твару змянялася тады прыемнаю ўсмешкаю. Былі ў Чыкілевіча прычыны ладзіць з Кандратам: трэба было заслужыць яго давер'е, каб праз гэта здабыць сабе права без лішніх сведак заходзіць у клуню — у клуні быў патайны пограб, а ў пограбе хаваўся кубел з салам і іншы скарб.

Але Казей паддаваўся туга, а яго круглыя жаўтаватыя вочкі пазіралі насмешліва і хітра.

Перш за ўсё павесіў замкі на клуню і свіронак і ні-

колі не пускаў туды аднаго Чыкілевіча; покі Чыкілевіч спраўляўся там, Казей стаяў і высвістваў розныя матывы. А то і проста спяваў няпоўным голасам, ніколечкі не зважаючы на Чыкілевіча:

«Паўстань, пракляццем катаваны!
Паўстань, хто з голаду век пух!»

А часамі і ў Чыкілевічаву палавіну зазірне наш Казей.

— Сядай, суседзе! — ветла сустракае яго гаспадар, а ў самога рукі згортваюцца ў кулакі.

Але Казей не садзіцца, пакруціцца трохі і выйдзе, нічога асаблівага не сказаўшы. Для Чыкілевіча такія візіты былі зразумелы.

— Глядзіць сваімі зладзейскімі вачыма, каб яны яму павылазілі, ці ўсё на месцы, — тлумачыў ён жонцы.

Іншы раз вечарамі Казей уладзіць вечарынку. Папрыходзяць хлопцы, дзяўчаты. Грыміць за сцяною гармонік. Казей хоць і жанаты чалавек, а любіў такія вечарынкі, дзе ён сам выступаў у ролі музыкі — ён быў не кепскі гарманіст.

Так праходзілі дні на Чыкілевічавай сядзібе.

Пануры быў Чыкілевіч і ўсё нешта думаў, але думак сваіх нікому не выказваў. Нядобрыя сны пачалі сніцца Ульяне. Прыснілася ёй раз, што яна чэрпала ваду сваім чаравікам і піла яе. Гэты сон устрывожыў Ульяну. Яна расказала яго Чыкілевічу.

— А, мала там што звярзецца ў сне! — махнуў рукою Чыкілевіч.

Бабка-ж Палуся паківала галавою, калі Ульяна расказала ёй гэты сон:

— Ой, не добры, мая мілая, твой сон! — і растлумачыла:

— Піць ваду з свайго чаравіка азначае смерць.

Ульяна спалохалася. Як усе цёмныя людзі, яна верыла ў сны, жыла імі. Лепш памерці, як гэтак жыць. Але паміраць ёй зусім не хацелася.

Юрка наогул быў маўклівым і таксама не вельмі быў ахвочы дзяліцца сваімі мыслямі, нават з бацькамі. Але сцяпер, бачачы, як блізка прымаюць бацькі да сэрца суседства Казея, ён рашыў выказацца на сямейнай нарадзе.

— І чаго вам так хапацца за гэту гаспадарку? —

пачаў Юрка: — усё-ж роўна нас адгэтуль выпруць. Дык лепш не чакаць гэтага часу, а кінуць усё і куды-небудзь перабрацца.

Бацька і маці са здзіўленнем паглядзелі на сына.

— Нічога не зробіш. Толькі будзеце згрызацца, жывучы тут, а проці вады паплаваеш нядоўга. Адміраюць хутары, саступаюць месца калгасам, — казаў далей Юрка.

Чыкілевіч засмяяўся.

— Самі яны адміраюць? — запытаў сына.

— А гэта ўсёроўна, ці памёр Гаўрыла, ці скула яго задавіла, — груба адказаў сын. — А факт той, што аднаасобніцкая гаспадарка дажывае свае апошнія дні.

— Кідаць сваю хату, сваю зямельку, сваю гаспадарку, ісці нямаведама куды? Што ты гаворыш, сынок? — з дакорам адазвалася Ульяна.

— Не хату, а поўхаты, — паправіў жонку Чыкілевіч. — Што-ж? можа твая і праўда, можа і давядзецца на старасці надзяваць торбу ды ісці ў свет жабраваць, — горка заўважыў ён.

— Нашто жабраваць? Можна рабіць і работу.

— Якую? — рубам паставіў пытанне Чыкілевіч.

— У горадзе работы многа. Попыт на рабочыя рукі вялікі.

— Дзякую табе, сынку! Ды хто-ж мяне, пазбаўленага голасу, на работу возьме? Ды і ці ў мае гады ламаць крута жыццё?

Юрка змоўк, але над яго мыслямі задумаўся бацька. Ён успомніў Пракопа. Таксама кінуў чалавек сваю гаспадарку і хату. І ніхто яго не гнаў. Аб тым-жа, якую паслугу аказаў Пракопу ён, Чыкілевіч не думаў і сябе ў гэтым не вінаваціў.

А што-ж, можа Юркава і праўда.

Чыкілевіч пачынае думаць у другім кірунку. Ён камбінуе новы план. Ён думае аб тым, як падгатаваць пад нагамі грунт, замацавацца на новай пазіцыі і ўжо тады расквітацца з Казеем і Мікітам за ўсе свае крыўды і насаліць калгасу так, каб ён доўга памятаў аб гэтым. Але ў яго мыслі зноў уплятаюцца патайны паграбок у клуні, кубел з салам, з запасамі круп і іншы скарб. Як-

жа з імі быць? Шкада пакідаць дабро, а яно-ж яму вельмі і вельмі спатрэбілася-б. Гэты кубел апаноўвае яго мыслі. Ён думае, камбінуе розныя праекты і, нарэшце, сам сабе ўсміхаецца:

— Ці былі калі такія выпадкі, каб чалавек думаў, як абакрасці самога сябе?

## XXXV

Некаторы час Мікіты не відаць было на Чыкілевічавым дварэ, хоць, праўда, раней ён ніколі туды не хадзіў. Можа яму трохі нязручна было цяпер паказвацца тут пасля таго, як у яго вышла такая баталія з Чыкілевічам, а можа замінала і тая акалічнасць, што праз яго ўшчамілі Чыкілевіча, як кулака і ворага калгаса. Ды ў Мікіты, сказаць, і часу не было цяпер: ён заняўся грамадскаю работаю. Брыль, другі раз прыехаўшы ў Затонне, арганізаваў комсамольскую ячэйку, а яе самым актыўным членам стаў Мікіта. Мікіта горача і гарліва аддаўся сваёй справе, старанна выконваў інструкцыі, што даў яму Брыль. Па справе ячэйкі здаралася яму хадзіць у сельсовет, трымаць сувязь з другімі ячэйкамі, а часамі прыходзілася наведвацца і ў раён. За гэты час была абсталявана хата-чытальня, быў выпушчаны нумар насценнай газеты. Ды трэба-ж было парупіцца, каб газета вышла добрая, каб моцна і трапна біла яна стары быт, ды прыдумаць ёй і адпаведнае імя. А гэта таксама адняло шмат часу. На комсамольскім сходзе было пастаноўлена даць газеце такое-ж імя, якое павінен мець і калгас. Некалькі вечароў перабіралі комсамольцы розныя імёны для газеты. Былі розныя праекты: «Чырвоны араты», «Новае Затонне», «Шлях рэволюцыі», «Світанне», «Чырвоны Кастрычнік», «Ясная раніца», «Сцяг перамогі» і іншыя.

Аказалася, што даць трапнае імя, каб яно было і арыгінальнае, не такая простая рэч, тым болей, што гэта імя павінна было падыйсці і да газеты і да калгаса. Нарэшце, пагадзіліся на назве «Ленінскі за́сеў».

У першым нумары, у перадавым артыкуле, была вызначана праграма газеты і намечаны тыя задачы, што

ставіць перад сабою «Ленінскі за́сеў». Гэтыя задачы былі такія: новая калектыўная форма гаспадаркі, бязлітаснае змаганне з класава-варожымі элементамі, з кулакамі, як ворагамі калгаснага будаўніцтва, падрыхтоўка соцыялістычных кадраў, новы быт, разняволенне жанчын і інш. Таксама ставіла сабе газета і задачы самакрытыкі, «не гледзячы на асобы». Тут-жа быў змешчан артыкул, дзе трактавалася аб тым, якімі спосабамі змагаецца кулак з калгасам і совецкай уладай. Артыкул напісаў Мікіта, маючы на ўвазе Чыкілевіча, хоць ён і не называў прозвішча, прыдаўшы яму агульны характар класавага ворага. Але ўсе Чыкілевічавы спосабы змагання былі апісаны праўдзіва.

Першы нумар «Ленінскага за́севу», вывешаны на сцяне хаты-чытальні, узварушыў Затонне. Каля газеты таўкліся групы грамадзян і слухалі, як затонскі грамацей чытаў уголас розныя раздзелы газеты. Нават бабка Цынклета стаяла тут і слухала, трасучыся ад злосці. У артыкуле аб спосабах змагання класавага ворага былі апісаны і тыя, што ўжывала сама бабка Цынклета.

— От! — казала яна потым: — да чаго дадумаліся!.. А каб вам чэрці скуру пісалі! Чаму-ж гэта пра вас ніхто не піша?

О, каб бабка Цынклета ўмела пісаць! Дала-б яна чапаласу ўсім! І калгас гэты апісала-б яна. Што гэта за калгас? Чалавек працаваў, стараўся, а цяпер нагналі скаціны і кормяць яго кормам, і самі, як вусені, ядуць яго дабро, пішчом убіўшыся ў яго хату

Але бабка Цынклета, як і дзед Піліп, пісаць не ўмелі, і нехаця прыходзілася ім замяняць пяро сваімі языкамі.

Тым-жа часам комсамольская ячэйка і яе сакратар набывалі ў Затонні ўсё большае значэнне, у меру таго, як разгортвалі яны сваю чыннасць. І асабліва злаваліся на Мікіту ўсе тыя, што былі супроць калгаса. Яны гатовы былі ўтапіць Мікіту ў лыжцы вады, бо хто-ж так стараўся, як не ён? Да апошняга, сказаць, часу ўсё было ціха, жылі сабе людзі ў згодзе, калі не лічыць дробных сварак, без якіх нідзе не абыйдзешся. Былі бяднейшыя і багацейшыя, як хто стараўся і як паводзілася каму. Бяднейшы часамі пабагацее, а багаты збяднее, калі на-

дыйдзе якое ліха. Не ведалі ніякіх кулакоў, ніякіх капіталістычных элементаў. А цяпер што стала? Пачалі нейкія патаемныя сходы, сталі настройваць адных проціў другіх, узнімаюць калатню, падзялілі ўсіх на кулакоў, серадняков, беднякоў і батракоў, калгаснікаў і некалгаснікаў, павыдумлялі нейкіх рупараў і кулацкіх падпявалаў.

Так гаварылі тыя, што былі супроць калгаса і ў калгас не пайшлі. А тут яшчэ і гутаркі пачалі хадзіць, што калгасу адвядуць самую лепшую зямлю і ў адным кавалку. І ўсё гэта комсамольская ячэйка і Пракопаў Мікітка чмуцяць! Вярнуўся-б Пракоп, ды паглядзеў-бы, што робіць яго сынок! Не па бацьку пайшоў, гад! Так уздыхалі Мікітавы ворагі. Яны радаваліся і цешыліся з Пракопавага ўчынку шэсць тыдняў, калі Пракоп пакінуў Затонне, і спачувалі яму. А цяпер яны шкадавалі, што няма яго тут, і няма каму суняць не ў меру гарлівага сынараскола. Ім здавалася, што каб быў тут Пракоп, то справа павярнулася-б іначай.

Кіпела Затонне, выбітае з каляіны заскарузлай плыні вясковага жыцця. Раскалолася старая вёска, а ў яе шчыліны напорыста ўрываліся подыхі новага, нідзе нябачанага яшчэ жыцця, змятаючы з свае дарогі ўсе перашкоды.

## XXXVI

Мікіта і Тацяна, зачыніўшы акяніцы ў хаце, сядзелі за сталом. Каля Мікіты стаяла лямпа, а ў руках у яго было пісьмо ад Андрэя. Андрэй, разумеецца, горача падтрымліваў Мікіту і хваліў яго за тое, што запісаўся з маткаю ў калгас. Пісаў таксама і пра бацьку, тлумачачы ўчынак яго несвядомасцю. Але Андрэй заспакойваў брата і матку, што бацька дзе-небудзь знойдзе сабе работу і будзе жыць, калі не захоча варочацца дамоў, і што само жыццё прымусіць яго прызнаць сваю памылку.

Мікіта і Тацяна гаварылі аб Андрэю і наогул аб сваіх сямейных справах, аддаючыся розным успамінам.

Быў даволі позны час. Стомленае таўкатнёю дня і рознымі калгаснымі клопатамі Затонне апускалася ў спа-

кой ночы. Цемра, глухмень і цішыня стаялі над вёскай. Тацяна ўстала, пазяхаючы, з лавы — замкнуць трэба дзверы на засаўку ды лажыцца спаць. Але ў гэты момант бразнула клямка на дзвярах, і чыесьці ногі затухкалі ў сенях.

— Хто-ж гэта?

Тацяна палахліва зірнула на сына.

— Можа хто з комсамольцаў? — сказаў Мікіта і таксама затрывожыўся.

Яшчэ момант — дзверы расчыніліся, і ў хаце паказалася постаць пажылога селяніна ў доўгім кажусе і з кіем у руках. Насунутая глыбока на галаву шапка і ўскудлачаная барада закрывалі твар. Пераступіўшы парог, пажылы чалавек спыніўся моўчкі.

Маці і сын пазіралі недаўменна.

— Пракоп! — у хваляванні і ў вялікім здзіўленні крыкнула Тацяна.

— Добры вечар вам, — прывітаў хату Пракоп і засмяяўся, а потым загаварыў: — Ну, вось і я! — і весела затрубіў носам.

— Бацька! Скуль ты ўзяўся?!

— Гм! Можна сказаць, з таго свету вярнуўся, — паважна адказаў Пракоп і моцна пацісснуў сыну руку.

Мікіта кінуўся памагаць бацьку раздзецца, а Тацяна раптам накінулася на Пракопа і пачала яго прабіраць і клясці, але без злосці, хутчэй ад вялікай радасці.

— А бадай-жа ты, чалавеча, спрогся, колькі ты нарабіў нам гора і клопату! От цягач, бадзяга! Ну, ці ёсць дзе на свеце такі валацуга?

— Ну, не разыходзься так, — спакойна азваўся Пракоп: — а то завярнуся і пайду, — пастрашыў ён жонку, вешаючы на ашэстак кажух.

— Куды ты пойдзеш? — зняважліва запытала Тацяна: — ужо-ж бы не вярнуўся, калі-б думаў зноў павалачыся куды, — заўважыла яна і штурхнула яго па-прыяцельску ў плечы.

— Адно-ж вы не пасварыцеся хоць, — умяшаўся Мікіта.

— Тут не сварыцца, а біць яго трэба! — прыгразіла маці.

Тады Пракоп прыняў паважную позу, зрабіў адпаведную міну і сказаў:

— Смешная ты, маці! Няўжо ты думаеш, што я такі дурны і палезу ў ваду, не пабачыўшы броду? Не, брат: Пракопа ты за тры капейкі не возьмеш! Тут самакрытыка трэба ды яшчэ і якая!

Затонне спала глыбокім сном, а ў Пракопавай хаце гарэла лямпа, хоць з вуліцы і не відаць было — акяніцы былі зачынены. На прыпечку гарэлі трэсачкі, над імі стаяў трыножнік, а на трыножніку грэлася скаварада. Тацяна, запаліўшы лучыну, пайшла ў камору па сала. Яна не магла не зірнуць на Мікалая Мірлікійскага, і, у парыве радасці і наогул узнятага настрою з прычыны шчаслівага звароту Пракопа, яна пацалавала абраз, і недарэчныя мыслі, зусім не рэлігійныя, узварухнуліся ў яе галаве, і яшчэ больш недарэчныя словы ўсплылі з яе памяці:

А мой-жа-ж ты Мікалаю,
Дзе-ж я цябе пахаваю?

Яна палажыла абраз, выбрала ёмкі кавалак сала і пайшла ў хату, каб згатаваць Пракопу, ну і Мікіце, вячэру, адпаведную гэтаму выдатнаму і рэдкаму ў жыцці выпадку.

———

Гэтая думка прышла ў Мікітаву галаву ў той-жа вечар, як вярнуўся бацька. «Добра было-б! — казаў сам сабе Мікіта:—але для гэтага трэба, каб бацька згадзіўся».

І Мікіта запытаўся:

— А што калі-б мы склікалі сход, то ці выступіў-бы ты, тата, ну, з інфармацыяй аб сваім аглядзе калгаса «Хваля рэвалюцыі»?

Пракоп затрубіў носам і паглядзеў на сына.

Ён не разумеў самога слова «інфармацыя», а калі Мікіта растлумачыў, рашуча заявіў:

— Гэта я скажу! Сам думаў аб гэтым!

Потым яны ўдвух абмяркоўвалі план і характар даклада, што меўся зрабіць на сходзе Пракоп.

Вестка аб звароце Пракопа шпарка абляцела назаўтра затонскія хаты і зрабіла яшчэ большае ўражанне,

чым вестка аб яго знікненні з сяла, і дзверы Пракопавай хаты ніколі так часта не рыпелі, як гэты раз. Прыходзілі затонцы паглядзець на Пракопа, даведацца, дзе ён быў, што з ім сталася і як прыняў ён самы факт запісу яго гаспадаркі ў калгас.

Пракоп не дужа разыходзіўся ў гаворцы — такая тактыка была ў Пракопа і ў Мікіты, — ён толькі казаў, што хоць яго і не выбіралі, але ён сам узяў на сябе ролю дэлегата ад затонцаў і хадзіў аглядаць калгасы, а што бачыў ён там, то яму проста трудна расказваць кожнаму. Для гэтага будзе спецыяльна склікан сход, і на сходзе ён скажа, што ён там бачыў і з чым вярнуўся дамоў. Мікіты-ж у хаце не было, а гэта людзі бралі на ўвагу і думалі, што ў бацькі з сынам нелады.

Сход быў не меней людны, як у той раз, калі прыязджаў Брыль і пісьменнік Базыль Базылец. Нават Чыкілевіч прышоў паслухаць Пракопа.

Сход адчыніў старшыня калгаса Лукаш Гулак, пры гэтым ён сказаў кароткае ўступнае слова.

— Таварышы! Калгасная справа — для нас новая справа, і не ўсе яшчэ разумеюць яе. Шмат хто баіцца калгаса, думае ліха ведае што. Дык нам цікава паслухаць, як жывуць тыя калгасы, што ўжо маюць пэўную практыку, як арганізаваныя раней. Вось наш таварыш Пракоп сам, сваім адумам, перш чым запісацца ў калгас, рашыў пайсці паглядзець, што робіцца ў калгасах, аб чым і мае далажыць сходу.

На Пракопа пазіралі цяпер сотні пар вачэй. Пракоп затрубіў носам і пачаў:

— Дык вось, таварышы-грамадзяне! Што я вам скажу? Вы ведаеце, што я быў прапаў. Не хацеў я калгаса. Які буду я там гаспадар? Ну, ведаеце, думаў так, як можа шмат хто з нас думае яшчэ і цяпер, і пайшоў абы ў калгасе не быць. Цягаўся я, цягаўся — дзе-ж ты ў чорта зімою работу знойдзеш, калі апроч плуга, касы і тапара ніякага струманту ў руках не трымаў? Думаў я думаў і нарэшце думаю: а давай зраблюся дэлегатам ды пагляджу бліжэй на калгас. І пайшоў. Няёмка мне было, баяўся, каб дакументу не спыталі, бо які-ж я дэлегат?

І расказаў падрабязна Пракоп пра калгас «Хваля рэ-

валюцыі», пра сталоўку, дзе так добра кармілі, пра лазню, пра кватэры калгаснікаў, пра кантору, пра знамяніты Лапкоў будынак. А калі стаў ён расказваць пра маёмасць калгаса і яго здабыткі і ўпамянуў кныра «Пана Іклінскага», то комсамольцы і калгаснікі зарагаталі і дружна запляскалі Пракопу.

Калі Пракоп скончыў, то некаторы момант сход маўчаў, глыбока здзіўлены, а потым сталі закідаць Пракопа пытаннямі, што сведчылі аб вялікай зацікаўленасці сходу калгасам «Хваля рэволюцыі». І толькі дзед Піліп выказаў сумненне, ці праўда гэта ўсё.

— Калі-б я не бачыў усяго гэтага сваімі вачыма, — адказаў на сумненне дзеда Піліпа Пракоп: — я і сам не паверыў-бы. Але вось я што скажу вам, таварышы, пашлеце вы туды дэлегацыю з тых, хто не дае мне веры. І трэба нам, таварышы, паслаць туды людзей вучыцца будаваць сапраўдны калгас.

Калгас перамог.

*16/V 1931 г.*

I

Па-над Прыпяццю між лясоў, пяскоў і балот туліцца невялічкая вёсачка, хат можа так трыццаць ці сорак. І хаты няроўныя тут, як і людзі: адна большая, другая меншая, старэйшая ці навейшая. Але хата дзеда Талаша ўсё-ж такі зварачае на сябе ўвагу. Не так знадворным выглядам, як адзіноцтвам; стаіць яна на водшыбе і ў блізкім суседстве з хмызняком ускрай балота. Побач з хатай, прыкрываючы яе ад летняга сонца, красуецца высокая разложыстая груша. Вясною, усыпаная белым цветам, як маладая дзяўчына, яна проста аздабляе дзедаў двор, і не толькі дзед Талаш, а і бусел з гнязда, змайстраванага на дзедавай клуні, залюбуецца ёю.

Нават калі скінуць гадоў пятнаццаць з плячэй дзеда Талаша, то і тады ён быў ужо немалады: было яму тады гадоў семдзесят з хвосцікам. А між тым якраз у той час праславіўся дзед Талаш як ваяка, ды які яшчэ ваяка: чырвоны партызан, і не радавы, не просты партызан!

Да гэтага-ж часу ніхто не ведаў аб ваяцкіх здольнасцях дзеда Талаша. Праўда, бывалі выпадкі, калі дзеду Талашу здаралася пускаць у ход кулакі. Але гэта бывала тады, калі дзед Талаш падгуляе, а ліхі чалавек увядзе яго ў злосць. Звычайна-ж ён быў чалавек сталы, ураўнаважаны і разважлівы, хоць, праўда, да пэўнай граніцы. Быстрыя цёмныя вочкі яго пазіралі ўдумліва,

але ў іх часамі блукаў і затоены агеньчык, гатовы разгарэцца ў адпаведныя мінуты цэлым пажарам рашучых учынкаў.

Дзед Талаш любіць лес, балоты і сваю родную Прыпяць, дзе ён так спрытна ездзіў на чоўне ды лавіў рыбу. І стралок з яго быў не кепскі: які-ж ён быў-бы паляшук, каб не ўмеў добра страляць? На тое-ж яно і Палессе — без стрэльбы там абыйсціся трудна.

Калі строга разбірацца ў фактах, то хата, аб якой была тут гутарка, не зусім дзедава хата. За доўгі час прывыклі называць яе Талашоваю хатаю. А сапраўды-ж яна належала дзедавай жонцы, цяпер бабцы Настулі. Шэсцьдзесят гадоў таму назад прыстаў Талаш у прымы да Насці Балыгі. Насця была адна дачка ў бацькоў. Вось якім парадкам стаў Талаш уладаром гэтай хаты. А ўрэшце яно і не так важна, каму належала хата, тым болей, што дзед Талаш перасыпаў яе і можа па справядлівасці лічыцца яе гаспадаром. Важна было тое, што хата стаяла воддаль ад сяла і трохі ў баку ад людскога вока. Да таго, як прыстаць у прымы, Талаш быў у пана за пастуха. І яшчэ, што можна адзначыць з мінулага дзеда Талаша, дык гэта тое, што ў яго бацькі было дванаццаць дзяцей. Васьмёра з іх паўмірала малымі, а жыць засталіся два сыны, у тым ліку і дзед Талаш, і дзве дачкі.

Спакойна і павольна, як у зачарованым сне, утуліўшыся ў балоты, нясе Прыпяць сухадоламу Дняпру сваю багатую даніну. Не спяшаецца яна выносіць дабро палескіх балот. А яго так многа, што ўсёроўна, спяшайся не спяшайся, а гэтай работы ёй хопіць на доўгія гады. Можа і надзею страціла яна вынесці хоць калі-небудзь гэта мора цёмнаружовай вады з неабсяжных балот Палесся, і з гэтай прычыны яна такая павольная і флегматычная. Вось толькі тады, калі разгуляецца вецер над зялёнаю шчэццю лясоў, над круглымі купамі-шапкамі кучаравай лазы, над барадаўкамі-купінамі жорсткай асакі, тады яна няветла пахмурнее, задрыжыць, затрасецца тысячамі хваль і сярдзіта шпурляе чаўны і чайкі-душагубкі ды голасна ўсхліпвае ў прыбярэжных чаратах, як маці ўскрай магілы, дзе пахаваны яе дзеці. І дзед Талаш не

адважваецца тады ад'язджаць на сваім чоўне на сярэдзіну Прыпяці.

Затое-ж як лагодна і ўтульна разляжацца яна ў мяккіх берагах, калі супакоіцца вецер, а над Палессем рассыплецца сонца мільярдамі залатых крупак святла! Спакой і цішыня пануюць тады над зялёнымі аксамітамі балот і лясоў. Бліскучаю сталёваю стужкаю ззяе Прыпяць, і толькі ў глыбозных чорных буктах яе плёскаюцца самы, узнімаючы срэбныя кругі-абручы. А дзед Талаш, пазіраючы на гэтыя забаўкі самоў, ссуне з ілба на патыліцу саламяны капялюш, скажа сам сабе: «О, згінь твая маты! Ось падчапіць-бы цябе, завалу!»

Спакойна і павольна, як у зачараваным сне, цякло і само жыццё на Палессі, а водгулле ўсяго таго, што дзеялася на свеце, далятала сюды ў прыглушаных прасторамі Палесся тонах або з такімі напластаваннямі людской фантазіі, што ўжо трудна было вылушчыць з іх зерне праўды.

Але час настаў!

Закалыхалася, затраслося Палессе!

І было гэта ўлетку, калі прышоў царскі загад аб мабілізацыі. Павалілі грамадою запасныя, трымаючы кірунак на бліжэйшыя чыгуначныя станцыі, павалілі пад шумную музыку гармонікаў, песень і надрыўнага плачу мацярок і маладзіц.

Хоць спачатку вайна вялася дзесь далёка, але водгулле яе ўсё галасней і галасней даносілася да ціхага Палесся.

Пасылаліся з далёкага фронта пісьмы ў глухія закуткі палескіх вёсак, і часта адказам на гэтыя пісьмы быў горкі плач асірацелых дзяцей і маладых удоў. А вайна брала ўсё новыя ахвяры. І не было канца вайне. Ды мала гэтага — фронт пачаў набліжацца сюды. Цяжка ўздыхалі дзяды і дакорліва ківалі галовамі. А дзед Талаш чуць быў у бяду не папаўся. Панёс ён у Петрыкаў прадаваць рыбу. Задзівіўся дужа дзед, калі пакупец пачаў адлічваць яму грошы папяровымі маркамі. На грошах былі царскія партрэты. На адной быў партрэт Мікалая другога і стаяла цыфра 10.

— Ты-ж гэта мне што даеш? — у абурэнні запытаў дзед Талаш, палажыўшы на далонь папяровую марку.

— Першы раз іх бачыш? Грошы цяпер пайшлі такія. Паглядзі, царскі партрэт і напісана — 10 капеек.

Перавёў дзед Талаш вочы на царскі партрэт, патрос галавою.

— Ваяка, згінь твая маты!.. Даваяваўся, сволач ты, гіцаль, да таго, што ўжо і медныя капейкі не маеш!

Натапырыў вушы паліцэйскі стражнік і да дзеда! Насілу адкараскаўся дзед Талаш ад гэтага ліха. І занатаваў сабе: на людзях трэба быць такім-жа асцярожным, як і на балотнай дрыгве: ступіш не так — і правалішся. Не разгледзішся — на гадзіну насунешся.

## II

Многа падзей адбылося за апошнія часы. Калі дзед Талаш успамінае аб іх, то яны здаюцца яму нейкім недарэчным вычварным сном. Вайна, рэволюцыя, зноў вайна. Навошта яно ўсё гэта? Чаго не падзеляць людзі? Завіхрылася жыццё і бурліць, як чорны вір. Калі-ж будзе той спакой? Што будзе далей? Дзед Талаш чутка прыслухоўваецца да шуму лесу, да ўсхліпвання ў чаротах неспакойных хваль шырокай Прыпяці. Ён востра ўглядаецца ў далечы маўклівых балот. Яны тояць штось невядомае, вострае і цікавае.

І сяло таксама прыціхла. Момант сапраўды напружаны і цікавы. Перш за ўсё няма ніякай улады. Ад гэтага трохі неяк і страшна. Яшчэ ўчора стаяла тут чырвонае войска. Нават у дзедавай хаце кватэраваў начальнік чырвоных, камандзір батальёна, чым дужа ганарыўся дзед Талаш. І цікавы быў чалавек гэты камандзір — гаваркі, просты...

«Рабочы і селянін, — вось, кажа, — хто павінен кіраваць сваім жыццём і быць поўным гаспадаром свае дзяржавы. Паны, купцы, папы і розныя багацеі — гэта ўсё нашы ворагі».

Але чырвонае войска падалося кудысь назад: кажуць, палякі насядаюць, і яны цяпер тут дзесь недалёка.

Дзеду Талашу не сядзіцца ў хаце, але і ад хаты адрывацца не выпадае, тым болей, што і бабка Наста працівіцца гэтаму, не пускае дзеда ні ў лес, ні на Пры-

пяць: ці мала што можа здарыцца ў такі небяспечны, няпэўны час! Але дзед Талаш усё-ж такі выходзіць з хаты. У лес ён не пойдзе, вось толькі сходзіць на сяло ды паслухае, што гавораць людзі, ці не дачуецца чаго-небудзь новага. Па самай сярэдзіне сяла раскінулася невялікая, але даволі ўзнятая і трохі акругленая плошча. Упоперак плошчы праходзіць яшчэ адна вулачка, крыху карацейшая, што надае сялу форму крыжа, а на перасеку вуліц стаіць і сапраўдны крыж, высока падняўшы сваю верхавіну над саламянымі стрэхамі хат. Сюды і сходзяцца людзі, каб пагутарыць аб сваіх справах ці проста, каб правесці вольную хвіліну.

Дзеду Талашу кідаюцца ў вочы дзве чалавечыя постаці: адна — Васіль Бусыга і другая — сын пана Крулеўскага, таго самага пана, у бацькі якога служыў калісь дзед Талаш за пастуха. Малады Крулеўскі адзет у вайсковую форму царскага афіцэра. Вось толькі шапак такіх не насілі царскія афіцэры: па шапцы яго можна прыняць за афіцэра чужога войска. У галаве дзеда Талаша прамільгнула некалькі думак: адкуль з'явіўся гэты фацэт? На некаторы час ён быў дзесь знік — не відаць было яго. А шапка яго сведчыла аб тым, што ён мае нейкае дачыненне да польскай арміі. Васіль Бусыга быў кандыдат у валасныя старшыні, але рэвалюцыя і ўсе далейшыя падзеі адвялі яго кандыдатуру. Па іх тварах бачыць дзед Талаш, што яны дужа задаволены паваротам справы. Дзеду Талашу хочацца ведаць, аб чым гавораць з такім захапленнем, што і не заўважаюць яго. Дзед Талаш прыпыняе тэмп свае хады, прымае від чалавека ў глыбокай задумлёнасці, апускае ўніз вочы і павольна ідзе сваёю дарогаю і слухае, аб чым гаворыць пан Крулеўскі з Васілём Бусыгам. Да дзедавых вушэй далятаюць асобныя словы і часткі сказаў, але і па іх можна дагадацца, аб чым ідзе гутарка.

— Барбары, пся крэў!

— Ды ўжо такія абармоты!.. Парадак можа будзе.

— Натуральна жэч... То ест, пане, Эўропа, культура!..

Калі дзед Талаш падыходзіў ужо да іх, то яны раптам змоўклі. Дзед зрабіў выгляд, што вельмі здзіўлен гэтым «раптоўным» спатканнем і нават спалохаўся. Ха-

піўшыся за шапку, пакланіўся і сказаў дзень добры. Пан Крулеўскі не мог захаваць свайго добрага гумору і жартам запытаў дзеда Талаша:

— Чый ты цяпер падданы?

— А нічый! — адказаў дзед Талаш.

— Ну, то праз тры гадзіны ты будзеш польскім падданым.

— Польскім?! — здзівіўся дзед, нібыта нічога не разумеючы.

З таго канца вуліцы, адкуль ішоў дзед Талаш, бяжыць ва ўвесь дух падлетак гадоў шаснаццаці. Гэта Панас, меншы дзедаў сын. Ад шпаркай беганкі Панас моцна засопся.

— Бацька! — крычыць яшчэ здалёк Панас, — паляк забірае наша сена!

Голас і словы і сам выгляд Панасаў балюча кальнулі дзеда Талаша. Ён дзіка азірнуўся і крута павярнуў назад, забыўшы ў гэты момант і Васіля Бусыгу, і пана Крулеўскага, і іх гутарку. Шпаркімі крокамі, а дзе і подбегам накіраваўся дзед на сваю сядзібу. Старшы дзедаў сын Максім, нахмураны і сур'ёзны, панура пацвердзіў Панасавы словы, хоць патрэбы ў гэтым і не было: дзедаў стажок, вазоў на пяць, стаяў непадалёку ад сядзібы ўскрай балота, ад якога адыходзіла густая бародка нізкарослага хмызу, і быў добра відаць. Каля стажка стаялі дзве запрэжаныя ў сані параконныя фурманкі, а каля іх варушыліся два польскія жалнеры. Трэці сядзеў на стажку і скідаў зверху сена. Добрая чвэрць стажка ўжо была разабрана. Бабка Наста, накінуўшы чырвоны кажушок, стаяла на двары, ламала рукі і галасіла: чым-жа цяпер карміць худобу?

Нічога не кажучы, засунуў дзед Талаш за пояс сякеру, — у дзеда быў звычай браць сякеру, адлучаючыся з дому, — і пайшоў да свайго стажка, дзе гаспадарылі польскія жалнеры. За дзедам на некаторай адлегласці пайшлі і яго сыны.

— Не заводзься з імі! — перасцерагла дзеда бабка Наста, — а то яшчэ заб'юць або заарыштуюць.

Яна засталася на двары і са страхам пазірала, што будзе далей. Як толькі дзед Талаш падышоў да стажка, бабка Наста зноў залемантавала на ўвесь двор па

стажку, як па нябожчыку. Лямант яе голасна даносіўся да балота, дзе стаяў дзедаў стажок, а таксама расплываўся і па вуліцы, парушаючы яе трывожны спакой. Людзі выходзілі на вуліцу, і весць аб палякях зараз-жа абляцела сяло.

Падышоў дзед Талаш да стажка, нізка пакланіўся жалнерам, зняў шапку. Але жалнеры не звярнулі на яго ўвагі і не адказалі на дзедава прывітанне. Адзін жалнер сядзеў на санях і таптаў сена, другі падаваў яго бярэмамі, а трэці разбіраў стажок.

— Паночкі, што вы робіце? — палахліва загаварыў дзед Талаш, — нашто забіраеце сена?.. апошняе сена!.. Чым-жа я худобу карміць-му?

— Ідзь до д'ябла! — азваўся з саней жалнер.

А другі, што сядзеў на стажку, сумыслу кінуў на дзеда жмак сена і так спрытна, што ссунуў на патыліцу дзедаву шапку, што вельмі пацешыла жалнераў, выклікала іх рогат.

Дзед Талаш моўчкі знёс гэту абразу і крыўду. Больш таго, ён схапіў рукамі за шынель жалнера, што падаваў сена, і стаў перад ім на калені.

— Паночкі! не бярыце апошняга сена! У людзей ёсць у запасе, а гэта мой апошні стажок...

— Ідзь до д'ябла, стары пёс! — ускіпеў жалнер і штурхануў дзеда ў грудзі.

Са спрытам маладога дзецюка ўсхапіўся з каленяў дзед Талаш. Вочы яго заіскрыліся страшнаю злосцю.

— Сабака! — грымнуў ён голасам, поўным нянавісці і помсты.

Сякера, як маланка, узвілася ў дзедавых руках, бліснуўшы ўгары халодным, вострым лязом. Жалнер, на якога замахнуўся дзед, пабялеў, як палатно, і падаўся крута ўбок, каб ухіліцца ад сякеры.

— Апамятайся, бацька! — падскочыў да дзеда Максім і схапіў бацьку за рукі.

Збянтэжаныя жалнеры замерлі на момант. Яны ніяк не чакалі такога рэзкага пераходу ў паводзінах дзеда.

— Бяры яго! Вяжы праклятага азіята! — першым апамятаўся жалнер з саней і саскочыў на дол.

Накінуліся жалнеры на дзеда Талаша і пачалі яго

валтузіць, стараючыся паваліць старога. Разгарнуўся дзед Талаш, павярнуў сваімі шырокімі плячамі, крутнуўся, і жалнеры паадляталі ад яго, як шчэпкі. А адзін паляцеў потырч носам у снег.

— О, шатан стары! — прамовіў толькі ён, падымаючы сваю канфедэратку.

Не чакаючы новага нападу і адчуўшы, што справа абарочваецца ў нядобры бок, стралою махнуў дзед Талаш у густы хмызняк і знік з вачэй у момант вока. Цяпер толькі ўспомнілі палякі, што яны жалнеры, што ў іх ёсць наганы. Выпалілі некалькі разоў у той бок, дзе знік дзед Талаш.

Пачаў збягацца народ. Першымі дабеглі Васіль Бусыга і пан Крулеўскі.

— Вар'ят, вар'ят! — спачуваў палякам Бусыга.

— Большэвік! — заключыў пан Крулеўскі.

Забралі палякі дзедаў стажок, а рэштку сена прымусілі Максіма павезці на сваёй фурманцы.

III

«Ваякі, трасца вашай галаве!» — сказаў сам сабе дзед Талаш, калі заціхлі стрэлы, а кулі прасвісталі па баках і над галавою, ляснуўшы сухім трэскам па галінах кустоў і па камлях. У дзедавых вачах яшчэ стаяла, як жывая, сцэна яго стычкі з польскімі жалнерамі і асабліва той момант, калі на яго наваліліся жалнеры, а ён паразмятаў іх, як вецер лёгкае смецце. Гэта значна падымала дзедаў дух і павялічвала яго ўласнае я. Аднак ён шпарка падаваўся глыбей у балота, у гушчары, у лес і толькі тады прыпыніўся і пераве́ў дух, калі адышоўся даволі далёка і ўпэўніўся, што пагоні за ім няма. На дзедава шчасце і снег пасыпаў густы і спорны. Але што-ж рабіць далей?

Выбраў зацішнае месца, прысланіўся да старой яліны пад навіссю спушчаных, прысыпаных снегам галін, дастаў раменны капшук, наклаў у люльку тытуну, выкрэсіў агню, закурыў. Пыхкае дзед Талаш люлькаю, выпускаючы дымок за дымком. Клубочкі дыму, працэджваючыся праз яловыя лапкі, выбіваюцца на прастор і

гінуць у зімнім паветры, а сам дзед думае ды разважае. Паразважаўшы, прыходзіць да думкі, што трохі пагарачыўся. Добра яшчэ, што Максім утрымаў яго рукі — было-б горай, калі-б ён засек жалнера. І невядома, што сталася з яго сынамі і з бабкаю Настаю... Ох, паганцы! І нагнаў-жа іх чорт на яго галаву. І як было іначай рабіць з імі? Прасіў, маліў іх, як добрых, станавіўся на калені, а яны толькі здзекваліся з яго, як-бы ён і не чалавек. І калі дзед Талаш пачынаў прыпамінаць, як абышліся з ім жалнеры, то злосць з новаю сілаю агортвала яго, і тады ён шкадаваў, чаму не расшчапіў галоў гэтым грабежнікам.

У выніку ўсіх гэтых думак і разважанняў само сабою напрошвалася пытанне аб тым, як даведацца, што сталася там, дома, з яго сынамі і жонкаю і як расцэньваецца яго ўчынак.

А ў гэты час, як дзед Талаш сядзеў пад ялінаю і думаў свае думкі, там, у вёсцы, пан Крулеўскі расчышчаў дарогу і падрыхтоўваў поле грамадскай думцы на карысць польскай акупацыі, польскай улады і дзяржаўнасці. Ён сабраў вакол сябе паважаных гаспадароў, ведучы з імі гульню ў польскую дэмакратычнасць. Васіль Бусыга быў яго верным памочнікам. Калі пан Крулеўскі вёў рэй галоўнага свата польскасці, то роля Васіля Бусыгі зводзілася да ролі панскага падбрэхіча. Пан Крулеўскі лічыў сябе знатаком сялянскай псіхалогіі, стараўся гаварыць іх моваю, іх лексіконам. Настрой яго быў узняты, і ён чуць не захлынаўся, калі гаварыў аб польскай культуры, аб польскай дэмакратычнасці, аб польскай місіі быць шчытом для еўрапейскай культуры ад навалы большэвіцкай азіятчыны. Толькі Польшча забяспечыць людзям волю і нацыянальную роўнасць.

Васіль Бусыга ілюстраваў панскія тэзісы наконт большэвіцкай дзікасці і грабежніцтва практычнымі прыкладамі, з якіх відаць, як большэвікі знішчалі дабро, як прыціскалі нават просты народ, хто трохі жыў багацей, забіраючы коні, каровы, адбіраючы кроўю і потам набытую зямлю і аддаючы яе гультаям, што не ўмеюць павярнуцца каля зямлі. Успомнілі тут і дзеда Талаша і яго «дзікі» ўчынак і асудзілі яго самым рашучым чынам. Не дарма-ж на яго кватэры стаяў чырвоны камандзір.

Дзед-жа Талаш за гэты час абдумаў план свайго далейшага дзеяння. Ён вышаў з свае засады, прыслухаўся, разгледзеўся. У верхавінах лесу журботна шумеў вецер, расцярушваючы між галін і на галінах дрэў бялюсенькую снежную сець. На доле было ціха і глуха. Дзесь лявей вёскі як-бы даносіліся далёкія стрэлы. А можа гэта проста толькі здавалася дзеду Талашу. Яшчэ пастаяў з хвілінку і паволі рушыў у бок свайго дома. Ішоў дзед Талаш не спяшаючыся, выбіраючы глухія лясныя сцежкі, так добра знаёмыя дзеду, ішоў роўняддзю балотных палос вады, туляючыся між аголеных лазовых кустоў, і востра ўзіраўся ў белую імглу снежнага пуху. Ішоў дзед Талаш з такім меркаваннем, каб на сядзібу папасці ў сутонне, каб лепш быць прыхаваным ад людскога вока.

А пад вечар таго самага дня ў вёсцы з'явілася група польскіх жалнераў. Увайшлі яны ціха, непрыкметна, нікога асабліва не напалохаўшы. Пан Крулеўскі, як відаць, праінфармаваны ў гэтай справе, меў гутарку з начальнікам, пасля чаго і жалнеры і пан Крулеўскі зніклі з вёскі, а праз некаторы час сюды ўвайшоў цэлы аддзел жалнераў на чале з афіцэрам. Ішлі жалнеры па вуліцы дужа брава, з падкрэсленым выглядам ваяк і пераможцаў. Малады фарсісты афіцэрык строга, коратка, як і належыць заправускаму ваяку, аддаў распараджэнне, спыніўшы сваё войска на плошчы, паставіць варту, адзначыў пункты, дзе варта павінна быць асабліва пільнай, загадаў наладзіць сувязь, выслаць дазоры і наогул трымаць вуха востра. Частка жалнераў пайшла ў нарад, а рэшта разышлася па хатах.

Страх агарнуў бабку Насту, калі яна ўбачыла на двары жалнераў. У хаце з ёю быў толькі адзін Панас. Жалнеры накіраваліся ў хату. Іх было трое. Увайшлі, не павітаўшыся, акінулі вачыма хату.

— А дзе, стара, твая нявестка? — запытаў у бабкі адзін жалнер.

— Да бацькоў пайшла, панок! — у страху адказала бабка Наста.

— А ты не кламеш? — зноў запытаў жалнер.

Бабка не зразумела і маўчала.

— А ты вадзіў кампанію з большэвікамі? — раптам запытаў другі жалнер Панаса.

— Не! — адказаў хлапец.

— А большэвікі стаялі ў вас? — дапытваліся жалнеры.

— Стаялі па хатах. Усюды стаялі.

— А чаму гэта вашу хату абраў большэвіцкі камісар?

— А ці я ведаю? — пацісну ў плячамі Панас.

— О, пся маць ваша! Большэвікі!.. А дзе бацька?

Нашумеўшы, пагразіўшы, жалнеры вышлі з хаты. Яшчэ ў большым страху калацілася бабка Наста. Што-ж будзе з старым? І дзе ён? Можа дзе злавілі ўжо яго? Нарэшце надумалася шукаць потайкам дзеда і папярэдзіць яго, каб не ішоў дахаты.

## IV

Дзед Талаш не зразу пайшоў на сваю сядзібу. Яго пацягнула на тое месца, дзе стаяў стажок і дзе адбылася яго баталія з жалнерамі. Прытаіўся дзед у хмызняку і асцярожна ўзіраецца перад сабою. Стажка не было. Адно толькі стажарышча, прысыпанае снегам, чарнелася засохлымі дубовымі галінамі. У гэты момант раптам штось мільгнула непадалёку ад стажарышча. Пазірае дзед Талаш — чалавечая постаць! Хто-ж бы гэта быў такі? То зліваючыся з мрокам, то выступаючы з яго, постаць невядомага чалавека пасоўвалася ў дзедаў бок.

На тым месцы, дзе быў стажок, яна запынілася на момант, пастаяла, паслухала, а потым накіравалася ў хмыз. Яшчэ момант, і пачуўся нясмелы воклік.

— Го-го!

— Го! — адгукнуўся дзед Талаш, пазнаўшы голас свайго Панаса.

Бацька і сын сышліся ў хмызняку.

— А я цябе каравулю, бацька! — ціхім голасам загаманіў Панас.

— Ну? — адазваўся стары Талаш, адчуваючы нешта новае ў голасе сына.

— У вёсцы палякі... Цябе шукаюць.

Бацька і сын прымоўклі на момант.

— Ты сёння дома не начуй, — парушыў маўчанне Панас.

Стары Талаш пачухаў патыліцу.

— А як маці? — запытаў ён.

— Нічога. Напалохалася трохі палякаў. Баіцца, каб не злавілі цябе. Кажа, каб ты не ішоў цяпер дадому... Вось хлеб і сала.

Панас зняў з-за плячэй даволі ёмкую торбу, гэты адвечны пашпарт сялянскай долі. Некалькі часу торба заставалася ў Панасавых руках. Стары маўчаў, як-бы ўзважваючы словы свайго сына, а потым моўчкі ўзяў торбу.

— А сена ўсё забралі?

— Усё... Аставаўся возік, дык загадалі Максіму адвезці і той.

— Го, абармоты! Няма на іх упадку! — з гораччу патрос дзед галавою! — І чым-жа худобу карміць-мем?.. Максім яшчэ не вярнуўся?

— Не.

Прымоўклі. Густы мрок звісаў над Палессем. У аголеных кустах пашумліваў вецер, і маркотна шуршэлі белыя струменні снегу ў парыжэлай траве. Сяло прытоена маўчала. Толькі сабакі, патрывожаныя ўварваннем няпрошаных гасцей, запоўніўшых двары, пераклікаліся злоснаварожым брэхам і жудасным падвываннем.

— Вернецца Максім, дык няхай паедзе да Лабузы ў Прыцькі пазычыць сена, — старога дужа заклапочвала пытанне аб корме для жывёлы.

— Ды мы худобу пракормім, — падвясельваў бацьку Панас, — сена дастанем, насячом гучкоў, веццяя, галін — не падохне жывёла.

— Эге-ж, старайцеся, сынку!

— Ты, бацька, ідзі ў Макушы да Парасکі і жыві там. Калі што, дык я падбягу туды.

Параска — замужняя дзедава дачка.

— Э, — махнуў рукою дзед Талаш, — аба мне, сынку, клопат малы... Не ведаеш, як многа тут палякаў?

Відаць, дзеда Талаша займалі нейкія думкі.

— Многа! — панізіў голас Панас, — не меней як дзвесце! Ды кажуць, што і ў Вепрах іх чортава цьма.

На развітанне ўмовіліся, дзе сустрэнуцца заўтра. І наказаў яшчэ дзед Панасу быць асцярожным ды прачуваць сёе-тое аб паляках. Назначылі час сустрэчы і разышліся.

Дні трывог, страху і непакою пачаліся для дзеда Талаша і яго сям'і. Гаравала бабка Наста. Гэткае-ж ліха ўварвалася ў іх жыццё! І дзе тая справядлівасць на свеце! За што павінен бадзяцца стары? Каго ён чапаў? Каму замінаў жыць, што ён змушаны цяпер, як бяздомнік, туляцца па лясах, па чужых кутках? І так шкада ёй стала старога, і такі жаль агарнуў яе, што яна заплакала. І Максіма з канём пагналі, невядома куды. Сваё-ж дабро прымусілі везці нейкаму лысаму чорту, а худоба здыхай з голаду. Ды яшчэ ці пусцяць яго? ці вернецца? Сям'я разбіта, параскідана, і невядома, як яно што будзе.

Сядзіць бабка Наста адна ў хаце. Газовачка цьмяна курыць на пяколку. А ў хаце так ціха! Так маўкліва і нявётла пазірае ў вокны з двара ноч, і ціхенька скаголіць у коміне вецер, як-бы ўторыць невясёлым бабчыным думкам.

Стук у дзверы распужаў гэтыя думкі.

Бабка наўперад зірнула ў акенца.

— Гэта я! — пачуўся голас з двара каля дзвярэй.

Бабка Наста адчыніла дзверы.

— Ну, што? — запытала Панаса.

— Бачыўся з бацькам. Перадаў яму харчы.

— Куды-ж ён пайшоў?..

— Пайшоў... Казаў, каб за яго не баяліся... Напэўна да Параскі пойдзе... Заўтра ён прыдзе ў зацемкі.

У бабкі Насты трохі адлягло ад сэрца.

Гутарка перайшла на палякаў. Нічога добрага спадзявацца ад іх нельга. Нягодныя, памаўзлівыя, з людзьмі абыходзяцца не па-людску.

Да бабкі Насты заходзіла Агата Смыга. Пераказвала аб розных учынках польскіх жалнераў. Да маладзіц і дзяўчат прыстаюць, па клецях лазяць, шворацца, бяруць гаспадарскае дабро. Смаж ім яечню, скваркі пячы. А чуць што не так, дык бізун у ход пускаюць.

Позна ўночы вярнуўся Максім, прывёз трохі сена. Проста сказаць, адкраў у палякаў. І злы-ж на іх Максім! І весці прывёз невясёлыя. Расправу чыніць польскае начальства над тымі, хто браў панскае дабро ў маёнтках і сек панскі лес. А пан Крулеўскі назначаецца павятовым камісарам, войтаў па валасцях ставяць.

— І няўжо-ж асядуць яны тут на нашу галаву? — уздыхнула бабка Наста.

Панылы быў настрой у хаце дзеда Талаша.

Разышоўшыся з Панасам, дзед Талаш павольна пасунуўся балотамі, прыслухоўваючыся да шолахаў і галасоў палескай ночы. Было трохі і вусцішна аднаму сярод цемрадзі і глухмені лесу. Сякера за поясам давала трохі смеласці. Дзед Талаш напэўна і сам не адказаў-бы сабе, каго яму болей страшна: нячыстай сілы, вера ў якую ўсё-ж такі тлелася дзесь у закарвашках дзедавай душы, звера ці ліхога чалавека ў вобразе польскіх жалнераў. Ноч, адзінота і страх хілілі дзедаву думку на зброю. Зусім іначай пачуваўся-б ён, калі-б у яго руках быў надзейны друг — добрая стрэльба. У дзеда Талаша, прызнацца, стрэльба і ёсць, і схавана яна якраз у лесе, схавана разам з баявымі прыпасамі: порахам, пістонамі, шротам, кулямі, гранкулькамі і ўсімі іншымі рэчамі. Трымаць яе дома ў гэты неспакойны час было не з рукі. Прыпамінаецца дзеду Талашу, што па лясах шмат схавана зброі і зброі настаяшчай. Можа прыдзе такі час, калі яна спатрэбіцца людзям.

З гэтымі думкамі падыходзіць незаметна дзед Талаш да таго месца, дзе схаваў ён сваю стрэльбу. Але ўсё-ж такі трохі патупаў, покі натрапіў поначы на дуплістае дрэва, якому даручыў ён сваю старую прыяцельку.

Выцягнуў яе дзед Талаш з дупла, агледзеў, узвёў брамку, праверыў — служыць яшчэ акуратна стары таварыш яго лясных паходаў. Надзеў праз плячо паляўнічую раменную торбу на шырокім пасе, дастаў ладункі з порахам, засыпаў у стрэльбу добрую порцыю пораху, туга забіў яго клакам. Палажыў штук шэсць гранкулек, і калі ўсё было гатова, тады насадзіў на брамку пістон і ўжо болей цвёрдымі і ўпэўненымі крокамі накіраваўся ў Макушы.

## V

На подступках да Прыпяці польскае войска змушана было запыніцца. Першыя дні ў гэтым раёне вяліся жорсткія баі. Улічваючы важнасць пазіцыі на Прыпяці, палякі імкнуліся перайсці яе, каб потым павесці свой далейшы наступ супроць Чырвонай Арміі. Але ўсе спробы польскіх легіёнаў прасунуцца наперад не мелі поспеху, і польскі ваяцкі запал значна апаў і астыў. Снягі і марозы, нечакана скаваўшы Палессе, прыпынілі ваенныя аперацыі шырокага маштаба. Адзін і другі бакі падцягвалі тылы і рэзервы, зорка сачылі адны другіх, умацоўвалі свае пазіцыі, рыхтуючыся да наступных рашучых схватак.

Значныя часткі Палесся, амаль уся Піншчына, частка Рэчыцкага і Мазырскага Палесся былі акупаваны белапалякамі.

Новую, рэзкую мяжу палітычных і соцыяльных форм праводзіла польская акупацыя. З глыбі вякоў паўставалі даўно забытыя, сцёртыя ў памяці народа парадкі, традыцыі і адміністрацыйныя функцыі абуджанай польскай дзяржаўнасці, паўставалі, як магільныя прывіды, узрушаючы псіхіку шырокіх пластоў працоўных мас. А калі што і заставалася ў народнай памяці з пахаванага, здавалася, мінулага, то яно выклікала ў яе прадстаўленні чорныя моманты прошлага, звязанага з польскім шляхецтвам, з панскасцю і прыгонніцтвам. Ваяводствы, старосты, павятовыя «камісаржы», войты, пастарункі, — ужо адны гэтыя голыя формулы змушалі падазрона наставіць вушы і станавіцца да ўсяго гэтага скептычна, варожа, безнадзейна. Але былі і такія, якім польская акупацыя была на руку. Да такіх належаў і Васіль Бусыга.

Акрыяў духам Васіль Бусыга. Проста як-бы ў яго выраслі крыллі. Ён хадзіў раўней і вышэй падымаў галаву. Толькі часамі і асабліва спачатку яго браў страх, каб зноў не вярнуліся бальшэвікі. Тым часам ішлі дні, бальшэвікі не варочаліся, і сумненні наконт трываласці новага ладу жыцця глушэлі і глушэлі, і перад Васілём усё смялей і смялей рысаваліся ружовыя далечы жыцця. Яго не засмучалі такія праявы, як расправа польскай адмі-

ністрацыі з аматарамі парушыць святое права чужой уласнасці. Адчувалася адразу, што польская ўлада нясе за сабою парадак, закон і ўпэўненасць у заўтрашнім дні, і Васіль з асаблівым замілаваннем прыкідаў у думках розныя меркаванні ў сваіх гаспадарскіх справах. Расчыняліся і мажлівасці значна павысіць вагу свае гаспадаркі. Розныя планы аб павелічэнні зямлі прыходзілі яму ў галаву. Спрыяла яму і тая акалічнасць, што пана Крулеўскага прызначылі павятовым «камісаржам». І як гэта добра, што ён, Васіль Бусыга, умее ладзіць з такімі людзьмі, як пан Крулеўскі.

Гэта акалічнасць наводзіць Васіля на думку зрабіць візіт пану Крулеўскаму, цяпер павятоваму «камісаржу». А зрабіць гэты візіт Васілю нятрудна: хіба ў яго не знойдзецца адпаведнай прычыны для ўгрунтавання свайго візіту? Прычын такіх многа. Па-першае, трэба ўпарадкаваць зямельныя справы — не пакідаць-жа іх так, як засталіся яны ад бальшэвікоў. Ды трэба-ж і ў вёсцы заводзіць нейкі іншы лад. Праявіць-жа свой пачын ніколі не пашкодзіць.

Васіль Бусыга расчасаў акуратна чорную бараду, адзеў кажух чорнага вырабу, дагкэны да стана, падперазаўся шырокім пышным поясам, спецыяльна вытканым рукамі яго Аўгіні, жанчыны віднай і павабнай. І калі Васіль, выстраіўшыся па ўсіх правілах мастацтва, стаў перад Аўгіняй, каб паказацца ёй у гэтым шыкарным убранні, яна толькі сказала: «Гэ-ж, які ты шчогаль!»

Пан Крулеўскі сядзеў у сваім кабінеце на шырокім мяккім крэсле. На стале, засланым зялёным сукном, стаялі прылады пісьма і розныя дарагія рэчы, для пісьмовага стала спецыяльна прызначаныя. Тут-жа ляжалі і розныя паперы. А ўсё гэта павялічвала значэнне адміністрацыйнай асобы пана павятовага «камісаржа». На сценах віселі партрэты польскіх генералаў, такіх непрыступных і строгіх. Між гэтых запраўскіх ваякаў кідалася ў вочы духоўная асоба, партрэт біскупа, стрыжанага, брытага, з усімі біскупскімі атрыбутамі. Васіль, зірнуўшы на яго, падумаў сам сабе: «А чаго папаў сюды гэты галамоўза?» Але ўголас не выказаў свае думкі, бо Васіль быў чалавек палітычны і спрытны. Цэнтральнае месца сярод партрэтаў займаў партрэт даволі панурага

віду генерала з даўгімі, спушчанымі ўніз, як у маржа, вусамі. На грудзях у яго быў цэлы музей крыжоў, медаляў і розных цацак, што вядуць свой пачатак яшчэ з таго часу, калі роданачальнікі нашых продкаў фарсілі ў хвартушках і звярыных шкурах.

І біскуп, і ўсе гэтыя генералы, і стол з яго ўкрасамі надавалі яшчэ болей важнасці і пыху асобе павятовага «камісаржа». Гэту асаблівасць адразу адчуў Васіль Бусыга, а таму прывітанне яго пану Крулеўскаму было яшчэ болей пачцівым, як звычайна.

Павятовы «камісарж» чуць-чуць кіўнуў галавою, і гэты ківок быў повен велічнасці і паважнасці.

— Цо повеш?

Пан Крулеўскі гаварыў цяпер па-польску, і ў голасе чуўся халодны, афіцыяльны, начальніцкі тон.

У польскай мове Васіль Бусыга быў не дужа моцны, хоць сякія-такія польскія словы ён ведаў. Размовы-ж ён меў пераважна з валаснымі пісарамі, з папамі, ураднікамі, часам з прыставам. Ад іх запазычаў ён і расійскія словы, хоць вымаўляў іх з сваім палескім акцэнтам.

— Прышоў я да гаспадына пана-камісара прачуць пра сэ-тэ, бо мы сяйчас тэрас жывэма, як гарох пры дародзы, нічаво не ведаючы.

Пан Крулеўскі зірнуў на Васіля. Хацеў зрабіць заўвагу аб польскай мове ў Васілёвым вымаўленні, але замест гэтага запытаў:

— А як060 становяцца «веснякі» да польскай улады?

— Каторыя, проша пана, станавітыя, гаспадары, тыя богу дзякуюць — парадак прыходзіць, каб можна спакойна жыць і працаваць.

— А рэшта?

— Усякія, проша пана, ёсць... Ды і трудна сказаць, покі блізка начальства няма, каб хто мог цікавіцца гэтым.

Васіль Бусыга не дагаварыў свае думкі: інстынкт самазахавання дыктаваў яму не расчыняць ёй занадта шырока дзвярэй. Але наконт начальства намякнуў ён тонка: быў-жа Васіль кандыдатам на старшыню. Але гутарка на гэтым абарвалася: у двары павятовага «камісаржа» пачуўся шум, галасы і грубыя салдацкія вокрыкі, нагад-

ваючыя сабачы брэх. Пан Крулеўскі падняўся з крэсла, падышоў да акна. Туды-ж павярнуў галаву і Васіль.

Двор запаўняла цэлая грамада палешукоў, пераважна маладых і сярэдняга века людзей. Яе абкружаў ланцуг польскіх легіянераў. Лахматыя шапкі розных форм і колераў. Доўгія і кароткія заношаныя кажушкі, чорныя простага сукна пільчакі, світкі, і ўсе абутыя ў дрэнныя лазовыя лапці з высока накручанымі анучамі. Раменныя і берасцяныя кайстры, перакінутыя цераз плечы, завяршалі іх адзенне. Твары іх былі замкнёныя, панурыя, суровыя. Дасціпныя і праз меру адданыя канвойнікі навадзілі парадак у гэтым тлумным і стракатым натоўпе, стараючыся паставіць сагнаных невядома адкуль і за што людзей у рады, лаяліся, штурхалі, пагражалі. Непрывыкшыя да такіх строгасцей і адчуваючы агіду да гэтага капральскага парадку, палешукі агрызаліся і на гэтым грунце вынікалі канфлікты, гатовыя перайсці ў цэлую буру грозных учынкаў.

— Што пхаешся, панская падэшва? Ды я цябе як піхну, дык ты і касцей сваіх не збярэш!

Высокі, плячысты, жылісты паляшук, сярдзіта ссунуўшы бровы, абсыпаў іскрамі зняваігі і злосці штурхануўшага яго канвойнага. Легіянер, сустрэўшы знішчаючы погляд злосных вачэй, трусліва здаўся.

— Мільч, сцерва! — прыкрыкнуў ён, але на ўсякі выпадак падаўся далей ад разлаванага гіганта.

— Ды гэта-ж Мартын Рыль! — апазнаў Бусыга хударлявага шырокага палешука з суседняй вёскі Вепры, і па яго целу прабегла нервовая дрыготка. Але гэта нечаканасць выклікала ў ім задаваленне.

Запыненых на некалькі хвілін палешукоў павялі за рог дома, дзе была падрыхтавана каталашка, служыўшая раней складам для featureрознага гандлярскага хламу. Хвіліны праз дзве з'явіўся капрал і далажыў пану Крулеўскаму аб прыводзе злачынцаў, бунтаўшчыкоў супроць новай улады, выяўна сімпатызуючых большэвіцкаму «барбарству» і анархіі.

Вяртаючыся дадому ад павятовага «камісаржа», Васіль Бусыга разважаў сам з сабою аб сваім войтаўстве, — яно было забяспечана яму панам Крулеўскім, і аб сваіх абавязках, — яны выплывалі з яго войтаўскага

чыну. І яшчэ думаў ён і аб Мартыну Рылю, а пытанне аб тым, ці сказаць аб гэтым Аўгіні, ці не — аставалася адкрытым.

## VI

Хто-ж такі Мартын Рыль, чый арышт узрушыў новага войта? І чаму вагаўся войт, сказаць аб гэтым Аўгіні ці не сказаць?

Я мушу вярнуцца крыху назад, адкінуць з дзесятак гадоў часу, зазірнуць у Вепры, каб сталі яснымі гэтыя пытанні.

Дзесяць гадоў таму назад у Вепрах не было дзяўчыны цікавейшай за Аўгіню, цяпер войтаву жонку. Вясёлая, жывая, дураслівая, свавольніца і першая штукарка на розныя забаўкі і выдумкі, — вось якая была Кублікавых Аўгіня. Любіла яна і з дзецюкамі пажартаваць, ды жартавала так, што кожнаму з іх здавалася, нібы ён і ёсць той, на якім запыніла яна сваю дзявочую ласку.

«Нарвецца дзяўчына», — казалі пра яе сталыя жанкі і маладзіцы, калі гутаркі пра яе дурасці даходзілі да іх вушэй. Аўгіня жартаваць жартавала, але граніц у сваіх дурасцях не пераступала. Умела быць яна сталаю і сур'ёзнаю, і вочы яе, цемнаватыя, як лёгкі змрок ясных чэрвеньскіх вечароў, пазіралі тады строга і ўдумліва. І трудна было адзначыць колер гэтых вачэй, што свяціліся, як дзве роўныя, прадаўгавата-круглыя ямінкі-багны на цёмным балотным дне ў роспісе пышных раслін. Іх можна было ўспрымаць, як карыя вочы, чуць-чуць пацягнутыя зеленкаваю павалокаю, а часамі яны здаваліся шэравата-зялёнымі. Можа проста мяняліся яны ў залежнасці ад тых думак, ад тых маладых мар, што поўнілі дзявочую галаву і гушкалі яе сэрца ў той ці іншы час. Адно можна сказаць пра іх: яны вабілі — вось, як вабіць воля і радасныя прасторы вясны, поўныя музыкі, звону і шуму жыцця, і зацягвалі, як надрэчная дрыгва, дзе звадлівым шэптам гамоняць высокія шумлівыя чароты і пахучы аір.

Але чараўнічыя гэтыя вочы, здавалася, не мелі ўлады над Мартынам Рылем, і не Аўгіню вылучаў ён з ча-

рады вепраўскіх дзяўчат. Аўгіня сама зачэпіць часамі пры здарэнні Мартына, хоць у гэтым нічога дзіўнага не было, калі прыняць пад увагу Аўгінін характар і яе дураслівасць. Мартын удзеліць ёй столькі ўвагі, сколькі патрабуюць дачыненні чалавека да чалавека. І болей нічога.

— Падабаешся ты мне, Мартын, — раз казала так да яго Аўгіня, а ў вачах яе іскрачкі дураслівай жартлівасці паблісхваюць.

Мартын спакойна ёй на гэта, нібы нічога не зважаючы:

— І ты падабаешся мне, Аўгіня.

А ў тоне яго ніякага ўзрушэння.

— А чым я падабаюся табе, Мартын?

— Тым, што я падабаюся табе.

— А калі-б ты мне не падабаўся?

— Ну, дык што-ж?

— А ведаеш, за што цябе можна ўпадабаць?

— Не ведаю. Скажы.

— За тое, што ты высокі, што ў цябе, як відаць, будуць чорныя вусы. І вочы твае шэрыя, і калі ты часамі глядзіш імі, то робіцца страшна. Я люблю, калі хлапецкія вочы змушаюць затрасціся ад страху. Але я не пайшла-б за цябе замуж: у цябе, калі ты пасталееш, будзе казлiная барада.

І заліваецца Аўгіня вясёлым смехам.

Мартыну робіцца трохі непрыемна і ад гэтага смеху і ад такога канца іх гутаркі. Ён адчувае сябе крыху зняважаным і абражаным. Пакі сабраўся ён адказаць Аўгіні якім-небудзь трапным словам на яе заўвагу аб барадзе, яна паспела ўжо шмыгнуць ад яго і, як відаць, зусім забыцца, што ў Вепрах ёсць чарнявы, высокі, шырокі ў плячах і тонкі ў стане Мартын. Але і Мартын хутка забывае ўсю гэту па істоце драбязлівую рэч. І толькі вечарам, калі ён лёг спаць, перад яго вачыма раптам устала Аўгіня. Яе заваблівыя вочы, і ўся іх гутарка аднавілася ў памяці. Разам з гэтым прыпомнілася і казліная барада, што вырасце ў яго, калі ён пасталее. Прычым тут барада? Нашто яна прыпляла яе? Непрыемна ўспамінаць гэта. Мартын узважвае ўсе словы Аўгінінай гутаркі. Калі разабрацца па справядлівасці, то яна сказа-

ла яму болей прыемных слоў, чым прыкрых. Наконт-жа таго, што яна не пайшла-б за яго замуж, дык Мартын і не думаў жаніцца з ёю і наогул аб жаніцьбе ён не думае. Але і гэта толькі словы яе, і іх можа якраз трэба разумець наадварот. І ці не напамінаюць яны яму аб чым-колечы? І ўсё-ж такі казліная барада пераважае над усім. Мартын плюнуў, павярнуўся на бок і заснуў маладым здаровым крэпкім сном.

Мартын Рыль ехаў са стрэльбаю на чоўне ўскрай Прыпяці. Ён туліцца бліжэй да чаротаў, каб спрытней падкрасціся да дзікіх качак. Яму пашчаслівілася настраляць іх штук пяць. З таго боку Прыпяці шыбуе човен. На носе чоўна ляжыць зялёная вязка свежай травы і ёмкі сноп пышнага кучаравага чароту. На чоўне бялее гнуткая, руплівая дзявочая постаць у чырвонай хустачцы, завязанай канцамі назад. Спрытна мільгае вясло ў яе пругкіх руках, і човен борзда і роўна слізгаціць па шырокім лоне спакойнай Прыпяці. Мінуўшы сярэдзіну рэчкі, човен крута верне ў бок Мартына. Мартын сумыслу едзе павольна і пільна ўзіраецца ў затокі, дзе любяць жыраваць качкі, і не глядзіць на човен з дзяўчынаю, хоць ужо ведае, хто на ім плыве. Але яму прыемна.

— А я табе ўсіх качак напужаю, — чуецца малады звонкі дзявочы голас, і следам за гэтым даносіцца яе крык.

— А ты-га! а ты-га, качкі!

Гучны плеск вясла па вадзе павялічвае шум і гулка разносіцца па рэчцы між травяністых берагоў. І сапраўды некалькі качак узнялося з затокі, і свіст іх быстрых крылляў выразна чуваць у паветры. Качкі ляцяць якраз на Мартына. Мартын цэліцца. Гулкі стрэл коціцца па Прыпяці і глухне ў прыбярэжных травах і чаротах. Адна качка хіснулася, нырае ўніз, няёмка махае аслабелымі крылямі і, апісаўшы дугу, раптам шлёпаецца ў ваду.

Аўгіня спрытна паварочвае свой човен. Уся яе гнуткая фігурка ходзіць ходарам, а на вадзе збоку чоўна пасля кожнага ўзмаху вясла кружацца віркі-леечкі з ціхім, залівістым шапатаннем.

Мартын раптам скідае з сябе павольнасць. Абагнаць Аўгіню, апярэдзіць яе і першым даплыць да забітай

качкі! Гнецца вясло пад яго магутнымі наляганнямі, і човен, як шалёны, імчыцца да акрэсленага пункта. Але Аўгінін човен рушыў з болей блізкай дыстанцыі. Шансы даплыць першай на яе старане. Мартын пачынае каяцца, што ўступіў у спаборніцтва з ёю. Ды адступаць ужо позна, і не такі ён чалавек, каб бяссільна палажыць вясло і прызнаць сябе пераможаным. Знімае пільчак, кідае на мокрае дно чоўна. Яшчэ болей крута выгінаецца яго вясло, яшчэ шпарчэй разразае ваду востраносы човен. Аўгіня бачыць, што верх бярэ Мартын. Ёй нават робіцца ад гэтага весела: яна мала што траціць, калі верх возьме ён, бо ў яго сілы не меней, як у добрага вала. Ды надзеі не траціць яшчэ і яна. Часцей замільгала вясло ў яе спрытных руках. Твар яе расчырванеўся, як макаў цвет. Дзве доўгія цёмнарусыя косы выбіліся з-пад чырвонай хустачкі, і калі яна налягае на вясло і адкідаецца назад, то канцы яе кос апускаюцца на ваду. Забітая качка ўжо недалёка. Не іначай, як Мартын падбярэ яе. Аўгіня пускаецца на хітрасць: яна крута верне свой човен наперарэз Мартынаваму чоўну. Замінка. Не паспеў Мартын і падумаць, каб абмінуць гэту перашкоду, як на іх вачах здарылася цікавая праява: качка раптам правалілася ў ваду, а на тым месцы вада ўзнялася, як-бы яе штурхнула штосьці знізу, закалыхалася і роўнымі кругамі пабегла да самага берага.

— Мартын! дзе-ж качка?

У Аўгініных вачах адбіліся страх і здзіўленне.

Паглядзеў на яе Мартын, засмяяўся.

— Ні ты, ні я не даплылі, а качку сом схапіў!

Момант Аўгіня маўчала. Відаць, гэта здарэнне яе моцна ўразіла.

— Паедзем, Мартын, назад!

Павярнулі чаўны, прытулілі іх бокам адзін да аднаго і паплылі на свой бераг.

— Ты мусіць злуешся на мяне, што я папужала табе качак.

— Не, не злуюся. Мала што бывае.

— Ну, я-ж хацела на цябе паглядзець.

Мартын і сапраўды не злаваўся на яе. Апошнія-ж яе словы зусім улагоджваюць яго. Але прыпамінаецца каз-

лінная барада. Яна робіць Мартына чэрствым і абыякавым.

— А чаго на мяне глядзець? — пытае.

— Ну, бо ты харошы, — адказвае Аўгіня і цягне яго сваімі зваблівымі вачыма.

— Для цябе, здаецца, усе харошыя, — з адценнем насмешкі заўважае Мартын.

— А хіба гэта нядобра?

— Не ведаю.

— Але ты лоўкі стралок, — мяняе гутарку Аўгіня. Мартын хацеў-бы весці пачатую гутарку далей, і змена тэмы яму не падабаецца.

— Хто са стрэльбы добра страляе, а хто вачыма.

— А хто страляе вачыма?

— Ёсць такія стральцы.

— Але-ж вачыма качак не настраляеш, — заўважае Аўгіня.

— У качак імі не страляюць.

Аўгіня смяецца.

— Каб ты быў качкаю, то я цябе ўжо многа разоў застрэліла-б.

Мартын хацеў прызнацца, што калі ён і не застрэлены, то злёгку падбіты, але замест гэтага нечакана для сябе і для Аўгіні, заявіў:

— Я прыду да цябе сёння вечарам.

Аўгініна сэрца крыху паскорыла тэмп.

— Ну, што-ж? Буду чакаць.

Чаўны падплылі да берага. Мартын падцягнуў наўперад Аўгінін човен, потым свой. Прывязаў іх, узяў вязку сена. Аўгіня — сноп чароту, і пайшлі.

І ўсё было добра, покі не стрэўся Кандрат Бус. Відаць, ён падкаравульваў Аўгіню. Як толькі яны параўняліся з ім, Кандрат падышоў да Аўгіні. Аўгіня палажыла руку на плячо Кандрату, Кандрат на яе плячо, і пайшлі, як ні ў чым не бывала. Мартын плёўся ззаду з вязкаю свежай травы, са стрэльбаю і забітымі качкамі. Хацеў кінуць траву, ды няёмка паказваць сваю злосць. Падышоў яшчэ трохі.

— Вазьмі, Аўгіня, траву, а я тут гародамі пайду.

Не пазіраючы Аўгіні ў вочы, аддаў ёй траву, а сам пашыбаваў у свой двор.

Вечарам Аўгіня чакала яго, але Мартын не прышоў.

І шмат было такіх спатканняў і такіх гутарак. Шукала яго наўперад Аўгіня, потым шукаў Аўгіню Мартын, потым шукалі яны адзін аднаго. Бывалі паміж імі звадкі, непаразуменні, бывалі і прыемныя хвіліны згоды. Былі слаўныя вечары іх блізкасці і дружбы — хіба не можа быць дружбы паміж мужчынам і жанчынаю? Людзі не адзін раз у такіх выпадках прыкрывалі дружбаю нешта большае, чым дружба.

І вось у той час, калі вепраўскія хлопцы страцілі надзею на Аўгіню, а вепраўскія дзяўчаты на Мартына, у Вепрах пачаў паказвацца Васіль Бусыга, відны дзяцюк, сын дужа багатых бацькоў. Завабілі і Васіля Аўгініны вочы. Мартынава сэрца забіла трывогу. Васіль — супорат небяспечны. Мартын — бабыль. Маленькі дворык, крывенькая хата. Што ёсць у Мартына? Стрэльба, рыбацкая снасць ды прыгожая постаць. Крапіўся Мартын, падражніваў Аўгіню Васілём. Аўгіня падсмейвалася з Васіля, але часамі і падхвальвала яго, ды шчыльней тулілася да Мартына. Відаць, ёй проста шкада было яго.

Яшчэ праз колькі часу казаў Аўгіні Мартын:

— Няма ў цябе сэрца, Аўгіня... Ты нягодная і няшчырая. Нашто ты мне лгала? Нашто зводзілі мяне твае вочы?

— Што ты маеш да маіх вачэй, Мартын? — з дакорам пытала Аўгіня. — Я любіла цябе і цябе люблю... І буду любіць, — памаўчаўшы дадала.

— І гэтыя словы ты скажаш Васілю?

— Не: так я не скажу яму, а калі і скажу, то так сабе.

— Дык на што-ж ты ідзеш за яго?

— Так трэба, — ціха і няўпэўнена гаворыць Аўгіня.

Мартын маўчыць, думае: Васілёва багацце — вось што прычына. Але ён хоча дацяць Аўгіню.

— Няўжо-ж ты паспела так блізка сыйсціся з ім і... загрубела?

Што было ёй казаць яму? Гаварыць, што ніякай блізкасці не было? А можа прызнацца ў тым, чаго не было? Не, гэтага яна не зробіць.

— Ох, як цяжка мне, Мартын. Я — вораг сабе і табе,

А блізкасці ніякай не было, не было, Мартын, павер мне. Я нягодная, злая: ты сказаў праўду.

Яна туліць гарачы твар свой да яго шчакі. Ён бярэ яе на рукі, як дзіця. Яна абхватвае яго рукамі за шыю, прынікае да яго твару.

У Мартына, як у п'янага, кружыцца галава, холад і лёгкая дрыготка прабягаюць па яго целу.

І апошні раз пасля гэтага пытала Аўгіня.

— Цяпер ты верыш мне?

Ён абнімаў яе, цалаваў і шаптаў:

— Аўгінька, мілая, любая.

— Адкасніся ад мяне. Ідзі прэч.

Што здарылася з ёю?

Яна злосна адштурхнула яго ад сябе і пайшла. А ён недаўменна стаяў, пазіраў ёй услед. Яна злілася з цемраддзю ліпеньскай ночы. Мартын пайшоў у свой бок.

Лёгка і пуста было ў яго галаве.

Вышла Аўгіня замуж за Васіля Бусыгу. Жаніўся Мартын, узяў сінявокую Грабараву Еву, сталую зграбную дзяўчыну і разумную.

Але Аўгініны вочы глыбока запалі ў яго мыслі і сэрца. І не можа Мартын пазбавіцца іх чараў аж да гэтага дня.

Мартын і Аўгіня зрэдку сустракаліся і пасля таго, калі Мартын быў жанаты, а Аўгіня была жонкаю Васіля Бусыгі. І гэтыя спатканні іх кожны раз хвалявалі. І яна і ён адчувалі розумам недарэчнасць такіх спатканняў, але сэрца не хацела слухаць довадаў розуму.

І запытаў раз Мартын Аўгіню:

— А помніш, Аўгіня, як гналіся мы, каб першаму даплыць да забітай качкі. А качку глынуў сом. Ні ты, ні я не даплылі да яе.

Аўгіня толькі ўздыхнула.

## VII

Дзеду Талашу пачынала дакучаць гэтае тулянне і бадзянне па-за межамі свайго дому.

Жыў ён некаторы час у сваёй дачкі ў Макушах. Вечарамі плёў і ладзіў унукам лапці, расказваў ім казкі. Але-ж стан рэчаў быў такі, што не хіліў дзеда на такі

спосаб жыцця. Трэба было знаходзіць нейкі выхад з гэтага няпэўнага і прыкрага становішча. Тым-жа часам чуткі аб учынках польскай улады ў дачыненні да ўсіх, хто пападаў на яе падазрэнне, разносіліся па ўсіх закутках Палесся, дзе толькі распасціраў свае крыллі «бялы польскі ожэл». І нічога добрага не было ў гэтых чутках, і горш за ўсё — яны пацвярджаліся фактамі.

З домам дзед Талаш сувязі не губляў. Гэтай сувяззю быў Панас. Дзед Талаш даведаўся ад Панаса, што Васіль Бусыга служыць за войта, што палякі загадалі праз войта сабраць па дзесяць пудоў сена і саломы з двара. А перад гэтым збіралі розную жыўнасць: кур, парасят, сала. Колькі калатні і ляманту было па вёсцы. А ўсякае супраціўленне каралася жорстка, і расправа чынілася на месцы.

У ход пускаліся нагайкі і шампалы.

«Двадзесце пеньць!» — крычалі азвярэлыя капралы. У вёсцы пачалі паяўляцца невядомыя людзі, шныраць, як цені, прыслухоўвацца, дзе што гаворыцца, дзе што робіцца. І ходзяць чуткі, што палякі будуць рабіць мабілізацыю. А войт распытваў яго, Панаса, дзе стары Талаш. Але Панас не такі дурань, каб сказаць яму праўду. Адным словам дзеду Талашу ніяк няможна варочацца дадому — такі быў нязменны прыпеў Панасавых навін.

Слухаў дзед Талаш гэтыя навіны, і яго ўласная крыўда заціралася, адступала на задні план, і стажок, што забралі палякі, паслужыўшы прычынаю ўсёй гэтай бяды, здаваўся цяпер маленькаю купінкаю і губляўся ў дзедавых думках. Справа абарочвалася значна горай, а на першае месца выпіналася агульнае ліха сялянскай галечы. І што рабіць? Трывала жыла ў ім надзея на тое, што палякаў пагоняць назад, а цяпер паяўленне іх, якое ўспрымалася яшчэ некалькі дзён таму назад, як раптоўны налёт на кароткі час, пагражае стаць зацяжным, а можа назаўсёды фактам нямілай чужацкай няволі. І няўжо-ж яму, дзеду Талашу, адрэзаны дарогі да свайго дому?.. А калі-б пайсці ды павініцца ў сваім учынку? Ды ў чым, якая віна яго? Яго пакрыўдзілі, зняважылі, а ён будзе кланяцца ім? Ды згінь, прападзі іх доля!

Дзед Талаш быў зацяты і горды, як дзікі арол.

Было гэта ў той дзень, калі дзед Талаш прышоў на

ўмоўленае месца спаткання з Панасам. Звычайна Панас прыходзіў першы і пасвістваў, чакаючы бацькі. На гэты раз першы прышоў дзед Талаш. Прыслухаўся — жуткая, злавесная цішыня. Можа ён паспяшаўся? Дзед заняў пазіцыю пад старым прысадзістым, каржакаватым, як і сам дзед Талаш, дубам. Час ішоў. Панаса не было. Прачакаў дзед гадзіну, прачакаў другую. Мулкая глухая трывога залягла ў дзедавым сэрцы. Якая прычына перашкодзіла Панасу прысці сюды? Дзед Талаш прыпамінае апошняе спатканне з Панасам — ці не магло тут быць якой памылкі, ці сапраўды на гэтым месцы ўмовіліся яны спаткацца? Не, памылкі не было. І тоўсты дуб ускрай Сухога поля — гэта добра памятае дзед Талаш. Нават Панасавы словы, што былі сказаны на адвітанні, гучаць у дзедавых вушах:

— Дык пад тоўстым дубам каля Сухога поля.

Дзед Талаш падняў вочы на гэты каржакаваты гузасты дуб з магутнымі лапамі, як-бы чакаючы адказу на свае сумненні. Дуб стаяў нерухома ў сваёй паважнай застыласці, трымаючы ў развілінах ёмкі ком снегу. Амярцвелае поле рассцілалася белым абрусам аднастайнай роўнядзі, а лес цёмнасіняю сцяною выступаў у нерухлівай постаці і тупой немаце. Прытоеная цішыня чутка вартавала кожны гук, кожны нясмелы шолах. І толькі адзін дзяцел рытмічна і заўзята тукаў па галіне звонкага дрэва, не зважаючы ні на якія дзедавы трывогі.

Маркотна рабілася старому. У яго ўяўленні замітусіліся розныя праявы і малюнкі, рысуючы яму самыя панурыя здарэнні, якія маглі налучыць Панаса, Максіма і бабку Насту. А кожная хвіліна часу востраю стрэмкаю ўядалася ў яго сэрца. Дзедаваму цярпенню прыходзіў канец — трэба кудысь ісці, трэба нешта рабіць.

На Палессе хутка насоўваўся зацяты ў сваёй маўклівасці вечар, прыводзячы безліч сваіх непадкупных вартавых і засцілаючы цямранаю посцілкаю лес, дальнія балоты і Сухое поле. Кусты і асобныя дрэвы на полі трацілі свае абрысы, пераходзілі ў постаці няясных расплыўлівых сілуэтаў.

Дзед Талаш ускінуў плячамі, ямчэй падаў стрэльбу, яшчэ раз абвёў вачыма навакол і ўжо хацеў рушыць і ісці хоць куды, абы не стаяць тут у пустым і бясплодным ча-

канні, і раптам занямеў: з глыбіні лесу пачуўся шоргат па снезе нейчых ног і прыглушаны лускат сухіх галінак пад нагамі. Шорганне чаргавалася размерна і рытмічна — раз-два! раз-два! Часамі рытм парушаўся, але ўсё-ж захоўваў агульны свой тэмп. Па чаргаванню гукаў дзед Талаш устанавіў, што гэта ішоў чалавек, але гэта былі не Панасавы крокі: ступаў хтось грамозны грузна і цяжка. Дзед прытаіўся за дубам і стаў углядацца ў той бок, адкуль даносілася гэта шорганне ног невядомага чалавека. Высокая цёмная чалавечая постаць мільгнула ў навісі зацярушаных снегам галін і паволі выплывала на прагал, вырысоўваючыся ўсё болей і болей ясна з лясной вячэрняй цемры. Дзед Талаш стаяў у напружанай постаці чакання. Аклікнуць ці не? Што за чалавек? І супраць дзедавай волі вырваўся голас яго:

— Хто ідзе?

Высокі чалавек спуджана запыніўся, спасцярожліва гледзячы перад сабою.

— Хто пытае? — пачуўся густы бас незнаёмага. Дзеда Талаша не было відаць з-за дуба.

— Пытаю я! — азваўся дзед Талаш.

— А хто ты?

— А ты хто?

Па голасу і па гаворцы дзед Талаш дазнаўся, што гэта чалавек свой, тутэйшы. Дзедава напружанасць і страх крыху ачахлі, але ўсё-ж такі ён покі што і надалей захоўваў сваё інкогніто і таму, калі наступіла недаўменная і няёмкая маўчанка ў іх распытваннях, дзед Талаш зноў падаў голас:

— Я тутэйшы!

— Ты — адзін? — запытаўся асцярожны незнаёмы чалавек.

— Адзін і не адзін: са мной стрэльба.

— Ну, то кінь сваю стрэльбу: стрэльба ёсць таксама і ў мяне і мусібыць лепшая за тваю, — горда прагучэў з лесу густы бас тонам, не дапускаўшым ніякага сумнення ў тым, што яго стрэльба лепшая за дзедаву.

Дзед Талаш высунуўся з-за дуба, а высокі незнаёмы чалавек смела і рашуча закалыхаўся да тоўстага гузастага дуба. Не даходзячы крокі тры, велікан спыніўся ў

нямым здзіўленні. Гэтае-ж здзіўленне адбілася і на Талашовым твары.

— Дзядзька Талаш? — грымнуў густы бас.

— Мартын! а бадай ты сказіўся! — радасна азваўся дзед Талаш і кінуўся да Мартына Рыля, таго самага Мартына, што пагражаў канвойніку-легіянеру пхнуць яго так, што ён і касцей не збярэ. Мужчыны крэпка паціснулі адзін аднаму рукі.

— Каго-ж тут дзядзька, вартуеш?

— Гэ, голубе! каго вартую! Выходзіць так, што вартую сам сябе... А ты?.. Як бачу, хлопча, ты дужа напуджаны...

— Ой, і не пытай, дзядзька! З паляцкай няволі, з палону вырваўся! Ды не адзін я, а трыццаць шэсць чалавек!

— Што ты кажаш?! — здзівіўся дзед Талаш. — Як-жа гэта?

— А значыць, адступілі чырвоныя; прышлі палякі. Прышлі і пачалі вылоўліваць ды хапаць найбольш тых... ну, хто ў рэволюцыю смела пайшоў ці рукі каля панскага дабра трохі пагрэў. А яны і пачалі помсціцца, парадкі наводзіць. ціхамірыць ды грахі ўсякія прыпамінаць. А народ наш... сам ведаеш... Розны народ ёсць, багацеі пачалі пад паноў падлабуньвацца ды выкрываць, хто чым грэшны. Вось і папаўся я: заарыштавалі. А па іншых месцах і другіх такіх нацапалі. Так вось і назбіралі цэлую грамаду. Сабралі да купы і пагналі. А хлопцы ўсе хвацкія. Знаёмыя і незнаёмыя. Прывялі гэта нас да павятовага камісара, заперлі ў нейкі халодны склеп, у пустую адрыну. Думалі, што і канцы там будуць. Але пайшла чутка, што пагоняць нас кудысь далей. А куды і чаго — не ведаем. А быў сярод нас удалец такі, Марка Балук з-пад Цернішч. Прабеглы чалавячуга, салдат старой арміі. — А, кажа, буду я ім цягацца, як арыштант які! А трасца ім у бок! З нямецкага палону вырваўся, а тут, называецца, дома цярпець буду? Няма дуракоў! Годзе! — Бачым, розумам чалавек па галаве кідае. Абступілі мы яго. — Як-жа ты зробіш гэта? — пытаем. —Прысягніце, кажа, мне, што будзеце слухаць мяне, дык і вы будзеце на волі. — Бачым — надумаўся чала-

век. А каму-ж не хочацца на волі быць? Дык чаму не прысягнуць? Вось ён і кажа: — Прысягалі мы Мікалаю на евангеллі, але прысяга яму не памагла. Вы-ж мне прысягніце на нашым мужыцкім лапці. Пакляніцеся, што будзеце слухаць мяне, і кожны пацалуй свой лапаць! — Сур'ёзна гаворыць, не жартуе. — Лапаць, кажа, — сцяг нашай мужыцкай долі. — І ведаеш, дзядзька, што? — давай мы цалаваць свае лапці, сабе самім у нагу. Яй-богу! Хто жартам, а хто і напраўду. Вось ён тады і гаворыць:

— Ну, дык вось што. Калі нас павядуць і адвядуць вёрст пяць-шэсць, а можа і болей — я буду меркавацца з месцам, то вы слухайце мой знак. А знак мой будзе вось які: «Стой — лапаць скінуўся!» Як вы гэта пачуеце, тады маланкаю кідайцеся за мною на канвой, абяззбройвайце яго. Усё залежыць ад раптоўнасці і хуткасці нападу. Два, тры чалавекі бяззбройныя лёгка справяцца з адным узброеным, калі толькі зробяць гэта борзда і спрытна. — Спадабалася нам гэта стратэгія. Абдумалі, абмеркавалі кожную дробязь, разбіліся на трупкі. Гаворым шэптам, каб захаваць употайку нашу змову... Вывелі нас. Глядзімо — дванаццаць канвойнікаў, трынаццаты — камандзір. Трусімся мы, але і знаку не падаем, што ў нас на мыслі. Прыкінуліся ўсе, што мы аслабелі, ледзьве падымаем ногі, хістаемся. Паставілі ў рады. Падаў капрал каманду, сам наперад пайшоў. Рушылі. Пяць канвойнікаў з аднаго боку, пяць з другога, а два ззаду ідуць. Я ў першым радзе. З капрала вачэй не зводжу, не так з самога капрала, як з яго стрэльбы: дужа-ж яна мне падабаецца. А ў вушах увесь час тры словы гучаць: «Стой — лапаць скінуўся». А наш камандзір у заднім радзе стаў. Мінулі мястэчка. У поле вышлі. Сям-там фурманкі сустракаюцца, людзі праходзяць. А канвойнікі падганяюць нас, пакрыкваюць ды такімі паскуднымі словамі лаюцца, што і слухаць моташна. А мы гарым у нецярплівасці. І ўжо так гадзіны паўтары клыхаем. А наш камандзір маўчыць. І толькі гэта мы выходзім з лесу на паляну, аж як гаркне наш Марка Балук: «Стой — лапаць скінуўся!» І што толькі сталася ў гэты момант! Што яно там зрабілася, дык і расказаць не магу. Усё мітусілася

ў адным клубку без крыку, толькі ў цяжкім сапе і хрычу. Я нават і не памятаю, як апынуўся каля капрала. Помню толькі, што ён ляжыць у снезе з абадраным вухам і толькі вачыма лыпае, сам белы, як снег, на мяне глядзіць. А я кажу яму: «Ляжы, не ўставай!» А ў мяне яго стрэльба — вось гэта самая, карабін заграні́чны на сем патронаў. І рэвальвер у мяне і шабля. Кідаюся другім памагаць, а там ужо і не трэба мае дапамогі. — Слухай маю каманду! — гукнуў Марка, голаю шабляю махнуў, а ў другой руцэ рэвальвер трымае, — гайда ў лес і канвойных вядзі! — Перапалоханыя, бледныя, як смерць, пакорна сунуцца канвойнікі. Ды не яны цяпер канвойнікі, а мы. Годзе нас быдлам называць. Адышліся гоняў з пяць. — «Стой!» — камандуе Марка. Спыніліся. — Знімайце, паны, боты! — Разуліся. Лепшую пару выбраў сабе Марка, а рэшту падзялілі нашы лапатнікі. Трынаццаць чалавек абуліся ў боты, а лапці канвойнікам аддалі. І кінулі іх там у лесе, жывых, але крыху памятых і наштурханых. Паразбіралі іх зброю — хто стрэльбы, хто рэвальверы, а хто шаблі. На развітанне Марка сказаў: — Ну, хлопцы, гайда хто куды! Але прысягі я з вас не знімаю! І вы, гіцлі, вольныя! — кажа да канвойнікаў, — адпачніце тут, ды ідзіце куды хочаце. — І падаўся ў свой бок, а кожны з нас — у свой.

— Ах, згінь іх доля! Чаму-ж гэта мяне з вамі не было?! Ну-ж і стрэльбу здабыў ты сабе, Мартын! — цмакаў дзед Талаш, разглядаючы дзівосную стрэльбу.

## VIII

Не ведаў падлетак Панас, што яго асобаю цікавяцца і не абы якія людзі, а сам войт Васіль Бусыга. Войту трэба ведаць, хто ў які лес глядзіць. Войту трэба прасачыць і выведаць, куды прапаў дзед Талаш і што ў яго на думках. Войт — начальства. А начальства носіць у галаве такія мыслі, што не ўсім падначаленым аб іх можна ведаць і асабліва аб іх не павінен ведаць такі разбэшчаны чалавек, як дзед Талаш. Дзед Талаш у грош не ставіць паноў і начальства, на чужое дабро галіцца. Дзед Талаш наогул варожа ставіцца ў дачы-

ненні да такіх гаспадароў, як Васіль Бусыга, Кандрат Бірка і шмат да якіх паважаных асоб. Гэта ён званіў сярод галадранцаў, што за заможнікаў трэба ўзяцца ды пакроіць іх палеткі. У дзеда Талаша стаяў на кватэры большэвіцкі камандзір. Дзед Талаш нарэшце з сякерай кідаўся на польскіх салдат. Карацей сказаць — дзед Талаш нанюхаўся і прасяк большэвіцкім духам. І цяпер ён напэўна злыгаўся з большэвікамі. Хто можа паручыцца за тое, што ён не навядзе сюды чырвоных? Не, покі дзед Талаш туляецца невядома дзе, невядома з якімі намысламі, да таго часу не будзе мець пакою пан войт, Васіль Бусыга. Гэта не значыць, што ён, войт, баіцца дзеда Талаша. Не: войт — начальства і стаіць на варце закона і парадку. Не дарма-ж наказ яму дан ад вышэйшага начальства, ад павятовага «камісаржа» — сачыць і браць на заметку таго, хто абуяны духам непаслушэнства і бунту. А што да чырвоных, то Васіль Бусыга спакойны на гэты конт: паляк не адзін — за яго спіною Францыя і Ангелька стаяць. Не, адспявалі сваю песню большэвікі. Але клопату нарабіць яны яшчэ могуць, тым болей, што да войтавых вушэй даходзяць чуткі: па лясах бадзяюцца цёмныя людзі, змаўляюцца, да чагось рыхтуюцца і на нешта наважваюцца. Засцярога тут не пашкодзіць. І няма нічога дзіўнага, што начальніцтва не такая ўжо простая рэч, як гэта можа здаецца каму збоку.

У першую чаргу трэба за дзеда Талаша ўзяцца.

З аднаго боку і добра, што Талашова хата стаіць на водшыбе: кожны, хто ідзе туды або адтуль, заметней у вочы кідаецца. Але ёсць тут і нязручнасць адна: калі ты сам будзеш каля яе пакручвацца, то таксама будзеш у вочы кідацца. Прыглядаючыся сяды-тады да Талашовай хаты, Васіль Бусыга заўважыў, што Панас час-ад-часу адлучаецца з дому. Цікава — куды ён ходзіць? Дагадваецца войт, што Панас і ёсць той ключ, якім можна адамкнуць месца туляння дзеда Талаша. З Панаса і трэба пачынаць, але як? Даручыць хіба каму прасачыць, прыставіць спецыяльнага чалавека? Войт памеркаваў і знайшоў гэты спосаб нязручным; і рызыкоўна замешваць сюды трэціх асоб: трэція асобы лішнія сведкі супроць

яго самога. І затым няма ўпэўненасці, што ўсё гэта застанецца ў сакрэце. Васіль Бусыга спыніўся на новым плане. Ён даложыць куды трэба, даложыць, як і праз каго можна даведацца пра дзеда Талаша, а там няхай дапытваюцца самі. І сена будзе цэла, і козы будуць сыты.

Напярэдадні таго дня, калі Панас меўся спаткацца з бацькам пад тоўстым дубам каля Сухога поля, сярод ночы раптам пачуўся стук у дзверы Талашовай хаты. Першая прахапілася бабка Наста. У трывозе падняла галаву, прыслухалася. Стук паўтарыўся з большаю сілаю і настойлівасцю.

— Ой, хто-ж гэта стукае? — голасам, поўным страху, азвалася бабка Наста.

Максім, накінуўшы кажух, босы выбег у сені.

— Хто там?

— Адчыняй! — уладна і сярдзіта закамандаваў хтось з двара.

— А хто там? — дапытваўся Максім.

— Адчыні, Максім: гэта — паны, «польская ўлада».

Максім у гэтым голасе пазнаў суседа Мікіту Цэлеха і адсунуў засаў.

Некалькі пар ног загрукала ў сенях і разам з адчыненымі дзвярамі ў хату ўварваўся цэлы пук белага святла. Адкормлены, рыжавусы, тоўстаморды чалавек зверскага віду трымаў у руках электрычны ліхтарык, асвятляючы хату і яе ўбогую абстаноўку. Максім запаліў газоўку. Чорныя цені, здавалася, яшчэ шчыльней нагусціліся каля сцен і па кутках нізенькай хаткі. Асмялеўшыя ўночы прусакі тлумна падаліся бліжэй да печы, хаваючыся ў шчылінах. Відаць і іх напалохаў гэты страшны пан сваім электрычным ліхтарыкам. Нечаканых гасцей было чацвёра: трое палякаў у вайсковай форме, а чацвёрты Мікіта Цэлех, узяты за панятога.

Бабка Наста, трасучыся, як у ліхаманцы, нацягнула на сябе дзяружку і пужлівым недаўменным поглядам азірала невядомых вайскоўцаў. Панас ляжаў нерухліва, агорнуты цёмным неакрэсленым страхам.

— Хто начуе тут? — запытаў рыжавусы. Пытанне было такое недарэчнае, такое нечаканае, што ніхто не патрапіў у першую хвіліну знайсці на яго адказ.

— Хто начуе тут? — не адступаўся рыжавусы. Гэты перапалох і страх, здавалася, яшчэ болей надаваў рыжаму пыху.

— Усе... свае, — заікаючыся ад страху, падаў голас Максім. А ў гэты час другі, юркі і віхлявы, таксама запаліў ліхтарык і свяціў ім па хаце, заглядаючы на печ, у запечак і пад палок. Трэці стаяў моўчкі і нерухома наглядаў і слухаў.

— Усе начуюць? — перапытаў Максіма той-жа рыжавусы. І ніхто ў хаце не азваўся.

Тады рыжавусы падышоў да Панасавага берлажка і штурхануў яго кулаком у плячук.

— Ну, ты... падымайся! — закамандаваў ён.

Панас пакорна прысеў на пасцелі.

— Ты хадзіў да бацькі на забачэнне?

Як нажом, разанула Панаса гэта запытанне. У галаве борзда, борзда замітусіліся думкі. Раз ён так пытае, то, значыць, ведае, што ён, Панас, хадзіў да бацькі.

Першыя прыступы страху прайшлі.

— Хадзіў! — цвёрда, пасля кароткага маўчання адказаў Панас.

Рыжавусы пахваліў яго за праўдзівасць і запытаў ужо болей лагодна:

— А дзе ест твой ойцец?

— Не ведаю.

Рыжавусы паглядзеў на Панаса строга, галавою паківаў.

— Як-то не ведаеш. А ты-ж сёння ўдзень ладзіўся ісці да бацькі?.. Ну?

Што было казаць Панасу? Праўда, ён збіраўся да бацькі. Але ў Панаса мільгнула думка, ці не бярэ яго на хітрыкі гэты рыжы д'ябал. Ён у сваю чаргу таксама кідаецца на хітрасць.

— Удзень я да бацькі не хаджу.

— Брэшаш! — прыкрыкнуў рыжавусы. — А куды-ж ты ўдзень ходзіш? — Ён думаў, што падлавіў Панаса, а Панас цвёрда адказаў:

— Хаджу на балота гучкі і вецце рэзаць, худобу карміць. У нас забралі сена.

Гэты адказ збіў з тропу рыжавусага.

— А што табе казаў бацька?
— Казаў, каб я да яго болей не хадзіў.
— А дзе ты сустракаўся з бацькам?
— У лесе.
— Аб чым-жа вы гаварылі?
— Аб усім: пра худобу, пра корм...
— А яшчэ што казаў бацька?
— Казаў, што да вясны ён дадому не вернецца.
— Брэшаш, лайдак! — загрымеў рыжавусы.
— Паночку! — падаў голас Максім. — Бацька наш стары. Яму семдзесят гадоў. Пагарачыўся, сам страху набраўся, а цяпер баіцца дома паказацца.
— Го-о, пся маць! баіцца!.. А большэвік чаму стаяў тут на кватэры?
І яшчэ болей павысіўшы тон, кінуў у твар Максіму:
— Дзе стары пёс?
Бабка Наста кулём скацілася з печы і бухнула ў ногі рыжаму пану.
— А паночак, а залаценькі! А за што-ж на нас напасць такая? Апошняе сена забралі, худоба з голаду дохне. Стары з дому збег. А ён-жа не вінаваты. Яго білі, штурхалі... А за што-ж вы калоціце нас?
Рыжавусы зняважліва павярнуў з вышыні свайго пыху разбойніцкую морду ў бок бабкі Насты, і на гэтай мордзе адбілася пагардлівасць. Нічога не сказаў, як-бы бабка Наста і не заслугоўвала таго, каб азвацца да яе, і калі яна зноў стала маліць яго, ён крыкнуў:
— Мільч!
А потым спакойна і жорстка закончыў свой візіт.
— Ну, хлопча, — павярнуўся да Панаса, — збірайся! — А калі выходзілі з хаты і вялі Панаса, сказаў цвёрда і выразна:
— Пшыдзе до нас ойцец — бэндзе мял волю хлопак!

## IX

Дзед Талаш і Мартын Рыль, расказаўшы адзін аднаму аб сваіх прыгодах, сталі радзіцца, што рабіць далей і куды ісці. Дзеда непакоіла думка аб доме, аб Панасе. І пытанне, чаму не прышоў Панас, стаяла перад ім у

трывожнай і цёмнай зацятасці. Яно выклікала непакой у дзедавым сэрцы і клалася цяжкім каменем на яго старыя плечы.

Мартын Рыль таксама думаў аб сваім доме, аб жонцы і дзецях, аб сваёй гаспадарцы. Аднаму і другому трэба было на нешта наважыцца, выясніць сваё становішча, пазбавіцца гэтай няпэўнасці.

Мартын Рыль сустракаўся з рознымі людзьмі, і людзі расказвалі аб жорсткасцях польскай ваеншчыны, аб яе бязлітасных учынках. А гэта жорсткасць выклікала агульнае абурэнне там, дзе панская ўлада заводзіць свае парадкі, дзе яна асабліва жорстка ставіцца да беднаты, да асоб, замечаных у бальшэвіцкай рэвалюцыі. Гэта абурэнне супроць паноў і польскай ваеншчыны мясцамі вылівалася ў паўстанне, і палякі прыкладаюць усе намаганні, каб выкараніць дух непакоры. А гэты выпадак з раззбраеннем польскага канвоя, дзе браў удзел Мартын Рыль, яшчэ болей раз'ярыць іх злосць і змусіць іх стаць на шлях пільнасці, помсты і бязлітаснай расправы з тымі, хто пападаў пад іх падазрэнне. Слухаў дзед Талаш і тросся ад злосці на паноў, на польскую ваеншчыну, на несправядлівасць. Гэта нянавісць і злосць агнём расцякалася па яго жылах і поўніла ўсе закарвашкі яго душы. Слоў не знаходзіў дзед Талаш, каб выказаць усю гэту навалу свайго абурэння і нянавісці да акупантаў.

— Рэзаць, сеч, паліць іх, гадаў, на агні.

Але стан рэчаў быў такі, што трэба трымаць вуха востра, каб не папасціся бязглузда ў панскія рукі.

Вепры, дзе жыў Мартын Рыль, былі па дарозе на дзедаву вёску. Да дзедавай-жа вёскі было адгэтуль кіламетраў чатыры. Удвух ім было весялей і зручней, асабліва калі прыняць пад увагу Мартынаў карабін. Вось чаму яны і выбралі такі план: зайсці да дзеда Талаша, даведацца, як і што, зрабіць там папаску і паначаваць, калі льга будзе. А ўжо там відаць будзе лепей, што рабіць далей. Скрозь цемру ночы і змрочнасць лясоў, па глухіх дарожках і тропках, накіраваліся яны, два ізгоі, у бок сваіх вёсак.

Не даходзячы кілометра паўтара да вёскі, яны аба-

ЯКУБ КОЛАС

ДРЫГВА

Вокладка аповесці «Дрыгва». 1934 г.

гнулі балотца, што падыходзіла да самай вёскі, зрабілі значны круг і павольна пасунуліся да Талашовай хаты, запыняючыся і прыслухоўваючыся.

Была ўжо ноч, глыбокая ноч, зацятая ў сваёй прытоенай маўклівасці. Сям-там па хатах блішчэлі цьмяныя бляскі агеньчыкаў, маркотна-журботныя ў сваёй адзіноце. На процілеглым канцы вёскі гучна разліваўся сабачы брэх у пустой цемрадзі задворкаў. Гэтая пустата і зацятасць зімняй цішыні надавала афарбоўку нейкай асаблівай распачлівасці заложнаму гаўканню кімся патрывожанага сабакі. Хвіліны праз дзве пачалі далучацца галасы другіх сабак, тонкія і прарэзлівыя, тоўстыя і болей паважныя. Дайшоўшы да круглай плошчы, сабачы гармідар суняўся, пачаў заціхаць, і, нарэшце, тая-ж цішыня зноў непарушна агарнула вёску.

Дзед Талаш і яго спадарожнік прыпыніліся і стаялі моўчкі, пакуль не ўлёгся брэх сабак. Стаялі яны ў хмызнячку, адкуль няясна вырысоўваўся з мроку чорны ком дзедавых будынкаў.

— Пастой-жа, голубе, тут, а я пайду даведаюся, як там і што, і дам табе знак.

Мартын астаўся ў хмызняку, а дзед Талаш знік з вачэй, расплыўся ў цемрадзі. Ён асцярожна падышоў да нізкага акенца свае хаты, паслухаў і ціхенька пастукаў у мёрзлую шыбу. Бабка Наста не спала, гаруючы аб Панасе і аб дзеду Талашу.

Гэты нясмелы засцярожлівы стук моцна ўразіў бабку і прымусіў забіцца яе сэрца: такі стук яна чула ўжо не адзін раз за доўгія часы сумеснага жыцця з сваім старым. Яна борздзенька, наколькі дазваляла ёй старасць, падбегла да акна і таксама ціха пастукала. Трохразовы ціхі стук у адказ ёй зноў пачуўся з двара.

У бабкі Насты сумненняў больш не заставалася. Накінула на плечы кажушок, уступалася ў шлапакі, на хаду раскатурхала Максіма.

— Бацька прышоў! — і кінулася адчыняць дзверы, стараючыся не рабіць шуму.

Пераступіўшы парог свае хаты, Талаш спыніўся.

— Што чуваць? — запытаў бабку Насту.

Момант памаўчала бабка Наста.

— Панаса забралі палякі, — глуха адказала яна.

У дзеда Талаша задрыжалі рукі і ногі, і востры боль падкаціўся к самаму сэрцу.

— Калі забралі?

— Учора ўночы. Уварваліся ў хату, трэслі, калацілі нас. Дапытваліся, дзе ты.

— А чаму-ж яго забралі?

— Падказаў нехта, што ён да цябе хадзіў у лес, — адказаў Максім, адзеўшыся на скорую руку.

— Усё дапытваліся, дзе ты, — тлумачыла бабка Наста.

Яна не адважвалася сказаць страшную праўду: Панаса выпусцяць тады, калі да іх прыдзе бацька. Пуста стала ў дзедавай душы. Маўклівасць, цемра і смутак запаўнялі хату.

Бабка Наста пачала шворыцца ў пячурцы, каб запаліць газоўку.

— Завесь наўперад вокны, — ціха заўважыў стары Талаш.

Бадзянне і тулянне па лясах зрабілі яго асцярожным.

— Са мною Мартын Рыль. У хмызняку астаўся. Туляецца, як і я. Пайду клікну яго. А ты, Максім, пакараўуль на двары.

У хаце засталася адна бабка Наста. Яна шчыльна пазавешвала вокны, разлажыла на прыпечку агонь, каб згатаваць вячэру неспадзяваным гасцям. Яе агортваў страх: а што калі прыдуць палякі? Гэты страх не пакідаў яе ўвесь час, покі ў хаце заставаўся дзед Талаш і Мартын Рыль.

А яны сядзелі за сталом і вячэралі.

Весць аб арышце Панаса глыбока ўсхвалявала дзеда Талаша. Ён сядзеў пануры, нахмурыўшы свой маршчыністы лоб, і думаў.

— Адзін спосаб выбавіць Панаса, — ціха разважліва сказаў ён, — самому аддацца ў іх рукі. Для гэтага-ж яны так і зрабілі.

Бабка Наста цяжка ўздыхнула, пацвярджаючы гэту горкую праўду.

На хвіліну цяжкая цішыня працяла хату.

— Ёсць і другі спосаб вызваліць хлопца, — парушыў цішыню Мартын Рыль, — аб ім і трэба падумаць.

Дзед Талаш раптам ажывіўся.

— Праўда твая, Мартын! — і дзед Талаш парывіста патрос Рыля за плечукі, — але скажы, як гэта зрабіць?

— Падумаць трэба, — ухіліўся Мартын ад простага адказу, але, відаць, у галаве яго быў нейкі план.

— Ведаеш, дзядзька Рыгор, — падняў ён вочы на дзеда Талаша, — заяўляцца да іх не трэба. І да каго заяўляцца? Да гэтых прахвостаў? Пасадзяць самога, а хлопца выпусцяць ці не выпусцяць, невядома. Няможна ім, паганцам, веры даваць. Пайсці — гэта значыць пакарыцца ім. А скула ім у бок!

— Вось-жа і я так мяркую, голубе... эге-ж! Ці так, ці сяк, а жыць нам спакойна не дадуць... Ні ты, ні я аставацца дома не можам.

Панізіўшы голас, шэптам дзед сказаў з узрушэннем:

— У лес трэба перабірацца, ды не сядзець там, злажыўшы рукі, ды не пазіраць спакойна збоку, як яны тут гаспадараць і распараджаюцца намі.

Ні дзед Талаш, ні Мартын Рыль не дагаварвалі сваіх думак да канца, але разумелі адзін аднаго вельмі добра.

— Нічога іншага не астаецца нам, дзядзька Рыгор.

— Эх, стрэльбы добрай няма ў мяне! — пажалкаваў дзед Талаш.

Рыль прамаўчаў: ён трошкі адчуваў сябе як-бы вінаватым перад дзедам Талашом, што ў яго такі хвацкі карабін, з якога можна выпаліць сем разоў у адзін захад.

— Але я здабуду сабе стрэльбу добрую, настаяшчую, — і дзед Талаш прыцiснуў кулаком стол. І, трошкі памаўчаўшы, прамовіў, як-бы адказваючы на свае думкі:

— Але аднае стрэльбы яшчэ мала... мала, браце, аднае нават добрае стрэльбы!

— Праўда, — кіўнуў галавою Мартын.

У хату ўвайшоў Максім.

— Ціха і спакойна, — далажыў ён.

Параіліся мужчыны. Стомленасць хіліла іх да думкі заначаваць тут з тым, каб заўтра досвіткам павандраваць куды-небудзь далей. Так і зрабілі.

Максім зноў заняў сваю варту, а дзед Талаш і Мартын Рыль прыляглі не раздзяючыся.

Хоць і стомлены быў дзед Талаш, але заснуў не адразу. Пагутарыў трохі з бабкаю Настаю, а потым у самоце думаў аб Панасе, аб яго вызваленні з панскай няволі і яшчэ аб тым, як здабыць сабе добрую стрэльбу. Дзедава фантазія трохі разгулялася і свавольна пераходзіла межы рэальных магчымасцей. А потым заснуў моцным сном.

Досвіткам пакінулі хату, падаліся ў лясныя пушчы. Лес і нетры палескіх балот стануць цяпер іх прыпынішчам і домам.

## X

Нерухома стаяў густы амярцвелы лес, шчыльна прытуліўшы верхавіны да верхавін, пераплёўшы галіны, акрыўшыся белымі шатамі крохкай, шапаткой шэрані. Ні звер, ні чалавек, ні птушка не парушалі яго ранішняга зімняга спакою. Толькі дзесь у гушчары галін суха палусківаў мароз, пераскокваючы з дрэва на дрэва. Пачынала святлець. З мроку вырысоўваліся стромкія камлі асін, каржакаватыя дубы, шурпатыя крывыя бярозы, а паміж іх выступалі, як пачварныя дзяды, зломаныя бураю высокія расшчэпленыя абломкі дрэў і спілаваныя пні з белымі круглымі шапкамі, з завостранымі вярхамі, ды белымі капцамі раскідаліся па лесе прыгожа скругленыя снежныя курганкі. Працяты марозам снег хрустка скрыпеў пад нагамі дзеда Талаша і грамоздкага Мартына Рыля. Ішлі яны не спяшаючыся, выбіраючы найболей глухія лясныя дарожкі і сцежкі, абыходзячы небяспечныя мясціны. Ішлі моўчкі, углыбіўшыся ў свае самотныя думкі.

Дзед Талаш — чалавек пераважна замкнуты. Сваімі думкамі не з кожным падзеліцца і думае іх спакваля, грунтоўна, асабліва калі справа ходзіць аб важных рэчах, і планы свае выношвае доўга. Але ўжо калі на што наважыцца, то не адступіцца, покі не дойдзе свайго. Так вось і цяпер. Вынасіў дзед Талаш, як маці дзіця, сваю неспакойную думку. Наўперад мільгала яна цьмяна і нясмела, але патроху ўсё болей і болей акрэслівалася, часцей

і часцей турбавала дзедаву галаву, прымала рэальную форму і настырней патрабавала свайго выяўлення ў практычным дзеянні. А гэтай акалічнасці рашуча паспрыяла здарэнне з яго Панасам. Прыспела патрэба пагаварыць аб ёй з жывым чалавекам, з такім, хто зразумеў-бы яго і прышоў-бы яму на дапамогу, бо дзедава думка была такая, што вымагала дапамогі адважных людзей.

— Як ты мяркуеш, Мартыне, — парушыў маўклівасць дзед Талаш, пачаўшы трохі здалёку, — ці можна падабраць добрых хлопцаў... ну, на манер невялічкага войска?

Мартын Рыль зірнуў на дзеда Талаша. Ён дагадваецца, куды гне стары. Яму цікава ведаць, як мысліць сабе гэту справу дзед Талаш.

— Пашукаўшы, людзей знойдзеш, — упэўнена гудзе ён і дадае, — ды вось ты і я — ужо нас двое.

— Эге-ж! — азываецца дзед Талаш, а вочы яго пазіраюць кудысь углыб.

— Людзі, дзядзька Рыгор, ёсць. Пазбіраць іх толькі трэба ды на добрую дарогу наставіць, ды даць ім добрага камандзіра.

— Вось я, голубе, і думаю пра гэта.

Яны прымаўкаюць, думаюць. Мартын чакае, покі дзед выкажацца да канца.

— Калі будуць людзі, то чалавек, хто пакамандаваўбы імі, знойдзецца.

— Часамі адзін чалавек даражэй за цэлыя дзесяткі людзей.

— Эге-ж!.. але адзін чалавек без грамады — малая сіла.

Зноў прыціхлі на кароткі час.

— А ці чуў ты, — пытае дзед, — што па лясах зброя схавана з нямецкай вайны, калі салдаты фронт пакідалі?

— Ходзяць такія чуткі... Напэўна ёсць... Кажуць, і куляметы прыхаваны ёсць... Ды шмат яе і паразбіралі, па дварах хаваюць.

— Калі-б сабраць людзей, — дзед сваю думку праводзіць, — то і зброя знайшлася-б.

Змяніўшы і знізіўшы тон, ён прыступае да самага важнага моманту свае гутаркі.

— Чуй, голубе! Бадзяемся мы, як непрыкаеныя, туляемся, як прусакі па шчылінах, у сваю хату, як злодзеі, крадземся. А што мы зрабілі? У чым наша віна? За што-ж будуць калаціць і трэсці нас? За што?

— Пачакай, дзядзька Рыгор, прыдзе вясна, загойдаецца дрыгва на балотах, загудзе лес, ды так загудзе, як ён яшчэ ніколі не гуў.

— Але-ж само яно не зробіцца, Мартын.

І, панізіўшы голас да шэпту, дзед Талаш нутраным крыкам, што ішоў з глыбіні набалелага сэрца, гаворыць далей:

— Давай, Мартын, за работу возьмемся.

— Ну, што-ж? Я згодзен, толькі не ведаю, што дзядзька надумаўся.

— Народ збіраць, бухторыць яго на вялікае рушэнне супроць катаў, гвалтаўнікоў. Чаго мы цярпець будзем, навошта спадзявацца? Чакаць, покі нас пераловяць па адным? Бо што такое мы, параскіданыя па адным? Пыл, сухі ліст, што вецер ганяе па полі. І першае, што я хачу зрабіць і ў чым прашу твае дапамогі, — мой Панас. Дзіця-ж ён яшчэ, — дзедаў голас задрыжаў. — За што-ж ён пакутуе? Я не буду мець спакою, не адступлюся, хоць галаву палажу, покі не вырву з іх паганых рук Панаса. А як вызваліць яго? Сілаю! Людзі патрэбны. Хоць-бы дзесятак адважных абаружаных людзей. Я пайду шукаць гэтых людзей, але шукай іх і ты. І божа цябе барані расказаць аб гэтым ворагу! Я пракляну цябе праклёнам бацькі, і ты згінеш!

Мартын зірнуў на дзеда Талаша і адчуў мімавольны страх. Дзед Талаш гаварыў не на вецер. Вочы яго гарэлі неспакойным злавесным агнём і зачароўвалі Мартына, адбіралі яго волю.

— Дзядзька Рыгор! за пяць чалавек я ручаюся, знайду іх. Скажы толькі, дзе знайсці цябе і калі.

Дзед Талаш ссунуў з ілба шапку, нібы яна замінала яму думаць, нахмурыў бровы, вочы яго зноў уставіліся ў неакрэсленыя прасторы, як-бы аглядаючы хвалі падзей у гэтыя бліжэйшыя дні, і пасля кароткага разважання сказаў:

— Адлічы ад сённешняй раніцы роўна тры дні. У трэці дзень, калі добра змеркнецца, будзь на Доўгім Бродзе і чакай, покі не завые воўк: гэта буду выць я (дзед Талаш умеў вельмі добра выць па-воўчы). Я завыю тры разы з перапынкамі. Вось як ты знойдзеш мяне. Запамятай-жа гэта цвёрда.

— З сённешняй раніцы адлічыць роўна тры дні. На трэці дзень, калі добра сцямнее, быць на Доўгім Бродзе і чакаць, покі завые воўк. Воўк будзе выць тры разы з перапынкамі, і тады я падыйду да дзядзькі.

— Эге, так! — пацвердзіў дзед Талаш і зірнуў доўгім выпрабоўваючым поглядам у вочы Мартыну Рылю. Мартын таксама глянуў у дзедавы цёмныя вочы, адчуваючы іх уладу над сабою, і потым мімаволі апусціў свае вочы.

— Чаго, дзядзька, так пазіраеш на мяне?

— Хачу ўпэўніцца ў табе, і вочы твае мне кажуць, што ты не лжэш.

Мартын моўчкі кіўнуў галавою.

— А калі я не пачую, як вые воўк каля Доўгага Брода? — запытаў ён.

— Тады чакай мяне дома. Я найду цябе, калі я не спраўлюся за гэты час.

— Добра.

— Ну, голубе, бывай здаровы і шчаслівы. Будзь асцярожны, бо цябе ўжо можа шукаюць. Я буду спадзявацца на цябе. Ідзі-ж даведайся, што ў цябе дома. І памятай, аб чым гаварылі мы. Дык трэці дзень у змярканні... Доўгі Брод. Вые воўк.

Мартыну рабілася не па сабе, калі ён слухаў гэтыя словы і цвёрды голас старога Талаша. Дзед крэпка, як кляшчамі, сціснуў ручышчу свайго спадарожніка і змоўніка. Ён гэтым даваў яму знаць, якая сіла захавана яшчэ ў цвёрдай і жорсткай старой руцэ.

І ўжо трошкі счакаўшы, калі прысадзістая постаць дзеда Талаша загубілася між шурпатых камлёў, Мартын сам сабе падумаў: «Куды ён пайшоў? Чаму я не запытаўся ў яго?»

## XI

Дзед Талаш ізноў адзін і ў паходзе. Ідзе ён ляснымі нетрамі, цёмнымі пушчамі, ідзе з акрэсленаю мэтаю. Дзеду трэба знайсці тую часць чырвонага войска, камандзір якога стаяў у яго на кватэры.

План дзедаў просты: перайсці на лінію Чырвонай Арміі. А там ён распытаецца, дзе знаходзіцца камандзір батальёна, што стаяў у іх вёсцы, — дзед назаве гэту вёску. На шчасце ён ведаў і прозвішча камбата — Шалёхін. Дзед раскажа яму сваю бяду, сваё бацькоўскае гора. Таксама раскажа і пра белапольскае войска — аб ім сёе-тое ведаў дзед Талаш, ведаў некаторыя пункты, дзе яно стаіць, і шмат ведае аб паводзінах польскіх легіянераў і іх афіцэраў. Хіба гэтыя весці не будуць цікавы для камандзіра войска? І на большае пойдзе дзед Талаш: ён пасуліць свае паслугі быць разведчыкам, збіраць патрэбныя весці аб размяшчэнні легіёнаў. Хто, як не ён, пакажа дарогі ў лясах і праходы ў балотах? А самае важнае, што скажа дзед Талаш, гэта тое, што ён мае намер і ўжо робіць першыя крокі ў гэтым кірунку — падняць паўстанне супроць лютага ворага сярод шырокіх пластоў працоўнага сялянства. А чаго-ж патрабуе для сябе за гэта дзед Талаш? Ён будзе прасіць камандзіра даць яму хоць з дзесятак смелых ахвотнікаў-чырвонаармейцаў, каб зрабіць нечаканы раптоўны напад на павятовага «камісаржа», на астрог, дзе пакутуе яго зняволены Панас. І яшчэ чаго папросіць для сябе дзед Талаш, гэта—добрую настаяшчую салдацкую стрэльбу. Калі пашанцуе адбіць яе ў палякаў, то ён верне назад пазычаную стрэльбу. Ён раскажа камандзіру і пра свой план нападу — гэты план смелы і просты, і страты ў людзях не будзе... Няўжо-ж ён не схіліць на свой бок камандзіра?

Вось з якімі думкамі ішоў дзед Талаш праз лясныя нетры і пушчы.

Дзед Талаш прайшоў ужо большую частку дарогі. Заставалася яшчэ кіламетраў з шэсць, каб выйсці на Гудароў лог. За гэтым логам стаіць вёска Высокая Рудня, занятая чырвонымі. У гэту вёску і накіроўваецца дзед Талаш.

Доўгая і трудная хада без дарог па лесе прытаміла дзеда Талаша. Прыпыніўся пад тоўстым дрэвам, змёў рукавіцаю сухі снег з гладкага пня і прысеў адпачыць і зрабіць папаску, бо дзеду хацелася есці. Зняў з-за плячэй стрэльбу, паляўнічую торбу, куды бабка Наста руплівою рукою палажыла поўбахана хлеба і кавалак гужавога сала. Заціснуў дзед стрэльбу між ног, адрэзаў гамёлку хлеба і сала і сілкуецца. Скончыў дзед сваё снеданне і дастаў курэцкія прылады — па ядзе добра і закурыць. Але глухі шолах у лесе прымусіў дзеда прыслухацца і разглядзецца. І бачыць дзед Талаш — вялізны дзікі кабан павольна выходзіць з ляснога гушчару і брыдзе па чэрава ў снезе, не зважаючы на дзеда. Кабан падыходзіць да прыгожага, як-бы вытачанага рукою здольнага майстра, стажка-мурашніка, акуратна і роўна прысыпанага снегам, і запыняецца. А потым пачынае разрываць яго сваім страшным ікластым лычом. Кожны рух магутнага лыча высока ўскідае ўгору камякі снегу разам з смеццем, нанесеным мурашкамі за цэлыя гады ўпартай працы. І хутка дзве цёмныя баразны вырысоўваюцца на чыстым някранутым снезе. Кабан рые павольна і заложна, усё болей і болей углыбляючыся ў зямлю. Дзед Талаш нерухліва і з вялікай цікавасцю наглядае за кабаном. А кабан ад яго — крокаў сорак-пяцьдзесят і так захапіўся работаю, што нічога не бачыць і не чуе, як не бачыць і не чуе дзед Талаш, што з такога-ж гушчару выкрадаецца воўк і таксама наглядае за вепрам. І толькі тады заўважыў дзед воўка, калі ён падкраўся да кабана крокаў на пятнаццаць, а ў кабана была відаць толькі адна спіна. Яшчэ большае дзіва ўзяло дзеда Талаша. Што-ж гэта за праява? І яшчэ з большаю цікавасцю глядзіць, што будзе далей. У меру таго, як вепр глыбей зарываўся ў зямлю, набліжаўся да яго асцярожна, як злодзей, і воўк. І раптам, падкраўшыся зусім блізка, маланкаю кідаецца на вепра і хватае яго зубамі за чэрава знізу і з такою-ж быстрынёю адскоквае ад яго. Вепр дзіка рохкнуў, выскачыў з рову і ўпаў на снег з разарваным жыватом і з выпаўшымі вантробамі, б'ючыся ў страшнай перадсмяротнай агоніі. А воўк стаіць зводдаль і прагавітымі вачыма смакуе ўжо сваю багатую спажыву.

Такой раптоўнай і неспадзяванай развязкі ніяк не чакаў дзед Талаш, і яго чалавечы пачутак быў глыбока ўзрушан гэтым драпежніцкім воўчым учынкам. Прылажыўся дзед Талаш, і гулкі стрэл здрыгануў лясную глухмень, і трыумфуючы воўк таксама падскочыў угору і асунуўся, як мяшок, уткнуўся носам у акрываўлены снег.

Вялікае маральнае задаваленне адчуў дзед Талаш пасля гэтага ўдалага стрэлу, і першае, што мільганула ў яго свядомасці, была мысль аб справядлівай адплаце. І раптам дзед сам азірнуўся, як-бы яго нешта ўкалола: гэта злучэнне падзей толькі што адбытай у глухім лесе драмы, дзе ён і сам прыняў удзел, як караючая рука справядлівага прысуду, умомант выклікала ў ім думку, ці не глядзяць і за ім чые-небудзь ліхія вочы. Але ў лесе было ціха і спакойна. Дзед Талаш наўперад набіў стрэльбу, усыпаў шчодрую порцыю пораху і на гэты раз залажыў у рулю круглую алавяную кулю, і толькі тады падышоў ён да разрытага мурашніка, дзе ляжаў растрыбушаны воўкам агромністы кабан з страшнымі выгнутымі трохкантовымі ікламі і забіты дзедам вялікі хударлявы воўк. Уся гэта праява і сцэна набывалі ў дзедавых вачах значэнне нейкага жыццёвага філасофскага сімвала, і толькі цяпер успомніў ён пра сотні тысяч маленькіх, спачатку не ўзятых ім пад увагу, мурашак. Іх тут і не відаць. Яны глыбока запаўзлі ў падземныя норы. Яны можа і не чулі, што сталася з іх домам. І толькі вясною, калі сыйдзе снег, а ад воўка і вепра астануцца адны голыя косці, угледзяцца яны і ўбачаць барбарскае разбурэнне свайго гнязда і дружнаю грамадою, не гаруючы многа, возьмуцца за адбудову свайго разбуранага котлішча, над якім упарта працавалі яны на працягу цэлага раду летніх сезонаў. Задумаўся дзед і сам сабе паківаў галавою — цікавыя бываюць на свеце праявы.

Але яго філасофскі настрой змяніўся практычнымі разважаннямі. І кабан і воўк — каштоўны здабытак. З воўка можна злупіць скуру, а кабана разабраць і даставіць дадому — колькі было-б спажытку! Дзед задумаўся на другі лад... Эх, няма калі гэтым займацца! Але ў галаве яго на скорую руку з'явілася новая думка: са-

драць з воўка скуру, покі ён не акачанеў — гэта будзе дзедаў трафей, а кабана спрэзентаваць чырвоным байцам. Гэта думка неблагая. І ён жыва ўзяўся за работу. Садраў з воўка скуру, вымыў у снезе рукі, выцер іх аб полы кажушка, злажыў скуру, закінуў яе на плячо і важна, як шчаслівы паляўнічы, павандраваў далей, беручы кірунак на Высокую Рудню.

Нарэшце лес кончыўся. Дзед вышаў з лесу і запыніўся, каб разгледзецца. Перад ім рассцілалася круглае поле, атуленае высокаю сцяною лесу, а з сярэдзіны поля выступала вёска белымі стрэхамі хат, шчуплымі пастацямі высокіх клёнаў і вязаў, клунямі і ветракамі на выгане. Ад высокай сцяны лесу адлучаўся цэлы ярус густога нізкарослага хмызу.

Дзед уважна акінуў вокам хмыз. Чалавечая постаць мільгнула ўскрай хмызу і схавалася. Зоркія дзедавы вочы разглядзелі ў ёй вайскоўца, толькі дзед не разабраў, свой гэта ці чужы. На ўсякі выпадак дзед падаўся трохі назад, бліжэй к лесу, і раптам пачуў грозны вокліч:

— Стой! Хто ідзе?

Дзед запыніўся. Голас і словы запакоілі яго, і ён быў узрадаван спатканнем з чырвонаармейцам, бо гэта палягчала яго задачу.

— Свой! — азваўся дзед Талаш.

З хмызу высунулася фігура маладога чырвонаармейца са стрэльбаю, з патроннаю сумкаю за поясам з аднаго боку і з пураю гранат з другога. Від яго быў даволі грозны, хоць гэта грознасць не зусім пасавала з яго лагоднымі шэрымі вачыма, якімі ён акінуў дзеда Талаша і яго трафей, звісаўшы з пляча чуць не да самых пят і прыдаваўшы дзеду выгляд першабытнага чалавека.

— Дакумент! — кінуў чырвонаармеец.

— А які, голубе, можа быць дакумент у такога бадзягі, як я? Я не тутэйшы: ад палякаў хаваюся. Хто-ж мне дасць дакумент?

— А куды ідзеш? — усё яшчэ афіцыяльным тонам распытвае чырвонаармеец.

— Да вас, таварыш, іду, да чырвоных. Спецыяльна.

Дзед Талаш сам адчуваў, што ён гаворыць добра,

асабліва вось гэта «спецыяльна». Чырвонаармеец бачыць — чалавек цікавы, ад якога можна сёе-тое праведаць.

— Я зараз выклічу начальніка заставы. У нас такі парадак.

Рэзкі свісток вострымі тонкімі хвалямі расплываецца ў хмызе і заціхае.

Некаторы час яны слухаюць, маўчаць і чакаюць. Чырвонаармеец думае, што ён даложыць пра дзеда начальніку заставы, і калі ў хмызе заківалася яго постаць, чырвонаармеец паказаў вачыма на скуру ваўка.

— Воўка ўпаляваў? — запытаў дзеда.

Дзед ведаў, што пра гэтую скуру яму прыдзецца расказаць цэлую гісторыю, але з прычыны таго, што яго аудыторыя складаецца з аднаго толькі слухача, а часу ў яго няма, бо падыходзіць начальнік заставы, дзед абмяжоўваецца кароткім адказам:

— Эге-ж!

Начальнік заставы, загартаваны ў вайне і ўжо не першай маладосці чалавек з абветраным тварам, поглядам ваеннага чалавека акінуў дзеда Талаша з галавы да ног, даўжэй запыніўшыся на воўчай скуры.

Чырвонаармеец далажыў:

— Не мае дакументаў. Заяўляе, што ідзе з польскага боку спецыяльна да чырвоных...

Начальнік заставы яшчэ ўважлівей зірнуў на дзеда Талаша.

— Што прымусіла цябе, айцец, ісці да нас?

— Няможна стала мне жыць дома, таварыш начальнік, па лясах туляюся: мяне ловяць палякі.

— За што?

— Ды вось, таварыш начальнік, прыехалі яны забіраць маё апошняе сена. Прасіў, маліў іх, а яны яшчэ і штурхаць пачалі мяне. Ну, я і раззлаваўся і кінуўся на іх з сякерай. Каб не сын, дык засек-бы каторага гада. Яны і наваліліся на мяне, звязаць хацелі. А было іх трое салдат. Вырваўся я і ў лес уцёк. Стралялі нават у мяне з рэвальвераў. Вось і пачалі помсціцца, чапляцца, што ў мяне бальшэвік на кватэры стаяў, камандзір. Майго сына недалетка заарыштавалі, як заложніка, каб я сам

да іх прышоў. Я, таварышы, нясу да вас бяду маю і гора... Надумаўся знайсці камандзіра, што стаяў у мяне на кватэры... Ён знае мяне...

— А з якога ты сяла?

Дзед Талаш назваў сваю вёску.

— А які камандзір стаяў у вас на кватэры?

— Так што камандзір таварыш Шалёхін, — крыху на стары салдацкі манер адказаў дзед Талаш.

Чырвонаармеец і начальнік заставы зірнулі адзін на аднаго. Дзедаў адказ адвёў падазронасць ад яго асобы.

— А скуль гэта воўчая скура? — пацікавіўся начальнік заставы.

Дзед расказаў гісторыю пра вепра і воўка і закончыў яе так:

— Я, таварышы, рашыў падараваць вепра вам, чырвоныя ваякі. А вепр ладны, пудоў на восемнаццаць. Дастаньце фурманку, паеду з вамі, пакажу. Ён тут не так і далёка.

Зайшлі на заставу. Начальнік вылучыў двух чырвонаармейцаў у сяло па фурманку.

А ўжо надвячоркам з вялікім трыумфам ехаў дзед Талаш з чырвонаармейцамі ў Высокую Рудню, везучы на развалках агромністую тушу дзікага вепра. Праславіўся дзед Талаш на ўсю Высокую Рудню, а для яшчэ большага пыху ён насіў на сабе воўчую скуру, і калі ў яго запыталі, на што ён цягае яе на сабе, то дзед хітра адказаў:

— Го! Я яшчэ буду выць па-воўчы!

Людзі смяяліся, а дзед сваю думку думаў.

## XII

Пажылы, друзлы сівавусы палкоўнік сядзеў у штабе польскай дывізіі, схіліўшыся над ваеннай тапаграфічнай картаю Палескага раёна. Ён ставіў баявую задачу дывізіі і рыхтаваў ёй загад у сувязі з надыходзячай ваеннай кампаніяй супроць Чырвонай Арміі пасля зімняга перапынку. Палкоўнік пан Дэмбіцкі, даўшы волю і разгон сваёй стратэгічнай творчасці, старанна адзначаў на карце пункты важнейшых участкаў ваеннага ўдару, які,

па меркаванню стратэга, павінен быў скрышыць супраціўленне Чырвонай Арміі, забываючы на тое, што ў часе бою абстаноўка мяняецца і што вынікі яго залежаць ад тысячы дробязей, якіх ніякі штаб не можа прадбачыць. Палкоўнік пан Дэмбіцкі не лічыўся і з тою акалічнасцю, што ў штабе яго праціўніка не заўсёды вялі рэй прафесіяналы-штабісты старой ваеннай школы, а бралі ініцыятыву людзі таленавітыя з рабочага асяроддзя, непасрэдна высунутыя рэвалюцыяй і ваенным часам. Тым не меней палкоўнік пан Дэмбіцкі рупліва размяшчаў на абраных участках тыя ці іншыя вайсковыя часці, прызначаючы ім розныя ролі. Але пан палкоўнік не мог цалкам аддацца сваім стратэгічным практыкаванням і выверыць свой план хоць на ваеннай карце. Ужо некалькі разоў яго ўвагу перабіваў тэлефон. З розных пунктаў размяшчэння дывізіі паведамлялі яго аб варожым руху мясцовага насельніцтва, накіраванага супроць польскага войска. Пан палкоўнік злаваўся, што яго адрываюць ад важнай работы і рэкамендаваў звярачацца да паліцыі і жандараў і прасіў, каб не турбавалі яго такімі глупствамі. Але калі яму далажылі аб разбраенні польскага ваеннага канвоя натоўпам бяззбройных палешукоў, то пан палкоўнік падскочыў на крэсле, як-бы яго кальнулі знізу шавецкім шылам.

— Цо? цо? цо? — зацокаў ён разоў тры і аж затросся і пачырванеў увесь.

Яго абурэнню не было канца — такая абраза, такі сорам прычынен быў польскаму войску ў асобе канвойнікаў, вёўшых няшчасных хлопаў. Пан палкоўнік аддаў строгі загад прыняць рашучыя меры аж да расстрэлу і канфіскацыі маёмасці за ўсякія «бандыцкія» замашкі, накіраваныя супроць славутага польскага войска, а канвойнікаў, даўшых сябе абяззброіць, судзіць ваенным судом.

Гэты загад быў далёка не на руку Мартыну Рылю, які падыходзіў да свае вёскі, і ўсім яго таварышам, арудаваўшым пад камандаю бывалага салдата Балука з-пад Цернішч.

Ужо надвечар таго дня, калі дзед Талаш спаткаўся з Мартынам Рылем каля тоўстага дуба, людзі з вёскі Вепры

заўважылі адзнакі нейкай нядобрай праявы. Ваенны час, поўны неспакою і неспадзевак, прымушаў іх трымаць вуха востра і спасцярожліва. Пад вечар прайшла чутка, што ў ваколіцах вёскі паявіліся конныя польскія легіянеры. Напэўна гэта была іх нейкая разведка, судзячы па тым, як яны туляліся, каб не быць заметнымі. Вепраўцы ўжо мелі выпадак бачыць на вуліцы і ў сваіх хатах польскае войска. Але палякі толькі паначавалі ў вёсцы, а назаўтра, забраўшы сякі-такі скарб, харчы для сябе і фураж для коней, яны падаліся кудысь у іншае месца. Дні праз тры пасля гэтага прыехалі жандары і забралі Мартына Рыля. Трое вепраўцаў: Мікіта Самок, Кузьма Ладыга і Кандрат Бус, спачуваўшыя большэвікам і выступаўшыя за совецкую ўладу, збеглі з сваіх хат і прыходзілі дамоў на кароткі час, рызыкуючы папасціся ў рукі польскай паліцыі ці контрразведкі. Вось чаму, калі прышла чутка аб паяўленні польскіх легіянераў, людзі затрывожыліся і спадзяваліся нейкага новага ліха. Але ноч прайшла спакойна, а раніца новага дня прынесла з сабою болей смелы настрой і ўпэўненасць, што нічога страшнага не здарыцца. І наогул удзень чалавек адчувае сябе болей смела. А палякі якраз раніцаю падкраліся незаметна, незаметна расставілі салдат вакол вёскі, пераняўшы ўсе дарогі, і толькі тады заўважылі іх вепраўцы, калі цэлы табар польскай конніцы галопам праімчаўся па вуліцы. Спачатку людзі не ведалі, чаго наехалі палякі. Сапраўдны страх пачаўся тады, калі палякі, разбіўшыся на некалькі груп, уварваліся ў двары. Мартынаў двор быў заняты ў першую чаргу. Два легіянеры, саскочыўшы з коней, рынуліся ў Мартынаву хату. Некалькі чалавек кінуліся ў клуню.

— Дзе арыштант? — загрымеў легіянер, пераступіўшы парог Мартынавай хаты.

Мартынава жонка млела ад страху і шырока раскрытымі вачыма пазірала на легіянера.

Не дачакаўшыся адказу, легіянеры пачалі варочаць, трыбушыць штыкамі падушкі і дзяругі. Яны ўчынілі сапраўдны пагром, усё кідаючы на зямлю, разбівалі прыкладамі гаршкі і міскі.

Трое малых дзяцей, насмерць перапалоханых, кіну-

ліся да маткі, падняўшы немы крык і трасучыся ад страху. Старэнькі дзядок Мікола, Мартынаў бацька, нічога не разумеючы, жахліва ціснуўся да сцяны і маўчаў, пазіраючы на дзікае буйства азвярэлых вар'ятаў.

— Дзе арыштант? — крыкнуў на дзеда легіянер. Тады дзед Мікола сказаў:

— Вы-ж забралі яго, шчо-б вас боль забраў!

— Смярдзюх стары, — агнём злосці запаліўся легіянер і сунуў кулаком у зубы старому Міколу. Дзед стукнуўся патыліцай аб сцяну, а з зубоў і носа палілася кроў. Анямеў дзед Мікола, стаіць аглушаны і моўчкі выцірае далонню акрываўленыя губы і размазвае кроў па твары і па рэдзенькай сівай бародцы, звісаўшай, як мох на старым дрэве, на расхлістаныя загрубелыя ад старасці і холаду грудзі.

— О, пся крэў! — крычаў легіянер. — Мы пакажам, цо ест пожондэк і повага до польскего жолнежа.

Разгрannulамілі Мартынаву хату, павыбівалі вокны і вывіхрыліся на двор.

Тое самае чынілася па дварах і ў хатах сялян, папаўшых у няласку і на падазрэнне паліцыі і польскай ваеншчыны.

Кандрат Бус, зачуўшы наезд польскай конніцы, схапіў кажух і шапку, адзеўся на хаду і кінуўся на задворкі, каб драпануць адтуль у лес. Ногі ў яго лёгкія, сам ён чалавек гадоў пад трыццаць — што яму значыць прабегчы з вярсту да лесу. Палякі ўязджалі ўжо ў двор, калі ён выбег з задворкаў на адкрытае поле. Выбіраючы лагчынкі, туляючыся каля хмызу, бег Кандрат, прыгнуўшыся, колькі было змогі. Ён завальваўся ў глыбокі снег, ногі яго вязлі, снег путаў іх і замінаў шпаркаму руху наперад.

Конны польскі легіянер зглядзеў з двара, як у лес шыбуе чалавек. Жалнер быў выдатны наезнік, і конь пад ім быў лёгкі і быстры. Дух паляўнічага і інстынкт ганчака абудзіўся ў конніку. Махнуў ён з канём на задворкі і праз расчыненыя веснічкі вылецеў у поле следам за Кандратам.

Ад лесу ўлева напярэймы ўцекачу выбег польскі салдат. Убачыўшы верхавога, салдат запыніўся: вер-

хавы махнуў яму шабляй, даў знак спыніцца — злавіць збега ён браўся сам.

Азірнуўся Кандрат і ўвесь закалаціўся ад смяртэльнага страху. Адна мысль пранізала яго мазгі: прапаў! З гарачкі і безразважна бег ён напрасткі ў лес. А лес быў ужо недалёка. Лес — яго збавенне. У лесе яго не зловяць. Але адлегласць паміж ім і коннікам змяншалася з кожным момантам. Кандрат выбіваўся з сіл. Ад цяжкага і шпаркага бегу ён упарыўся, з ілба каціліся буйныя кроплі поту. Сэрца стукала моцна і гатова было разарвацца. Ногі і рукі дрыжалі, а горла сціскалі сухія спазмы. Коннік наганяў Кандрата і ўжо трымаў напагатове шаблю. Яму проста хацелася папрабаваць лоўкасць і сілу свайго ўдару. Але ў рашучы момант конь пад ім недалужна згайдануўся, нырнуў і заваліўся пярэднімі нагамі ў яму, прысыпаную снегам, і завіс на ёй, моцна прыціснуўшы конніку правую нагу і кінуўшы яго бокам у халодны сыпучы снежны пясок. Рука з паднятаю шабляю закапалася ў снег. Ні конь, ні коннік без дапамогі не маглі вырвацца з гэтай расткі. Кандрату заставалася некалькі дзесяткаў сажняў, каб дабегчы да лесу. Група польскіх салдат чалавек пяць выбеглі з лесу і глядзелі на пагоню чалавека на кані за чалавекам без каня. І калі чалавек з канём упаў, а пешы чалавек гатовы быў шмыгануць у лес, яны кінуліся былі бегчы на дапамогу конніку, але запыніліся, ускінулі карабіны да пляча. Грымнулі стрэлы, і Кандрат Бус зваліўся ў снег ды так і застаўся там ляжаць, як загнаны і застрэлены звер. Пасля гэтага салдаты зноў пусціліся бегчы ратаваць конніка. Але тут здарылася нечаканая замінка: з лесу таксама пачуўся стрэл, і адзін польскі салдат выпусціў карабін і прысеў на снег, схапіўшыся за нагу. Чацвёра другіх прышлі ў замяшанне і спыніліся. Пачуўся другі стрэл, і куля змяіным віскам праляцела над самаю галавою аднаго з салдат. Палякі залеглі ў снезе і сталі адстрэльвацца ад невядомага ворага, падаючыся назад і шукаючы прыкрыцця.

Перастрэлка ўстрывожыла палякаў у вёсцы. Адтуль выслалі раз'езд у абход фланга нябачнага ворага. А гэты вораг паслаў яшчэ два стрэлы і адным з іх прабіў

галаву залёгшаму ў снезе польскаму салдату, і болей стрэлаў з лесу не было.

Падаспеўшыя з вёскі палякі выцягнулі з ямы каня. У конніка была вывіхнута нага і адмарожана рука. Падабралі забітага легіянера і раненага ў нагу. А Кандрат Бус ляжаў адзін у халодным снезе. А ўрэшце яму цяпер было ўсёроўна. Нават калі ў вёсцы Вепры гарэла некалькі двароў, у тым ліку і двор Кандрата Буса, то ён ляжаў нерухліва з застылым спакойным тварам.

Так аднаўлялі польскія ваякі гонар і славу польскай арміі.

## XIII

У хаце было дужа накурана. Дымы розных гатункаў тытуноў і папярос пераваліся, перамяшаліся і цэлым воблакам звісалі пад нізкаю столлю сялянскай хаты. А калі адчыняліся дзверы, то навалока сіняватага дыму рэзка калыхалася, як хвалі ўзбунтаванага ветрам возера, і з сілаю рвалася ў дзверы на прастор, на свежае паветра. Людзі, сядзеўшыя за сталом і на лавах, былі пераважна камандзіры, пачынаючы ўзводным і канчаючы камандзірам батальёна т. Шалёхіным. Ніякіх адзнак іх камандзірскага стану не было ні на плячах, ні на каўнярах. Сядзелі як папала: у шапках і без шапак, у памятых выцертых і пабачыўшых усякую бывальшчыну шынелях. І зусім не адчувалася, што тут сышліся радавыя байцы і камандзіры розных рангаў. Сядзелі і гаварылі вольна, ніколечкі не цягнучыся адзін перад другім, курылі і спрытна цыркалі тонкімі струменьчыкамі сліну пасля ёмкіх махорачных зацяжак. Была нават свая паэзія і хараство ва ўсёй гэтай бязладнай абстаноўцы ваеннага паходнага жыцця. Вайсковая прастата і дэмакратычнасць кідаліся ў вочы. Сам камандзір батальёна сядзеў за сталом, займаў цэнтральнае месца. Побач з ім сядзеў узводны Букрэй — нясkладны і шырокі, як шафа. Два ротныя камандзіры дапаўнялі застольную бяседу. На голым, незасланым стале ляжалі кускі хлеба, а пасярэдзіне стаяла бурае, старое глінянае цёрла з мёдам. Кож-

наму, хто хацеў паласавацца мёдам, давалася права падыйсці да стала і запусціць у цёрла руку з кавалкам хлеба. Камандзір батальёна, як гаспадар, запрашаў, хто заходзіў сюды, папрабаваць мядку. Для большай зручнасці мёд разагрэлі ў печы і яго елі разам з вашчынаю і пчалою, калі яна траплялася тут, выходзячы з правіла, што салдацкі жывотператравіць шрубу, гайку і ружэйнае сала. Было шумна і бязладна. Людзі забывалі пра вайну, гутарылі на розныя тэмы, далёкія ад вайны. Батальён быў на адпачынку, і трэба-ж крыху адпачыць.

Дзверы адчыняліся і зачыняліся. Шызыя клубкі халоднага паветра ўрываліся ў хату. Калыхалася пад нізкаю столлю сіняватая заслона дыму, накуранага курцамі.

На гэты раз дзверы расчыніліся болей урачыста, павольна і стала, і парог пераступіла даволі фацэтная і маляўнічая постаць штацкага чалавека са стрэльбаю, з паляўнічаю торбаю, напалавіну прыкрытаю воўчаю скураю, перакінутаю праз плячо. За гэтым чалавекам увайшоў чырвонаармеец. Каб гэта быў не дзед Талаш, ды каб і дзед, але без воўчай скуры, то на яго наўрад ці звярнулі-б тут увагу. Але воўчая скура сама сабою кідалася ў вочы і выразней адцяняла своеасаблівую дзедаву постаць. Дзед Талаш быў у кароткім кажушку, у суконных з раменнымі латамі майтках, абуты ў чукі.

Як-жа можна было не звярнуць увагі на гэтага палескага інсургента? Дзед Талаш громка сказаў «здраствуйце!» і быстрымі, вострымі вочкамі прабег па тварах вайскоўцаў. Губы яго разышліся ў лагодную ўсмешку, калі ён заўважыў за сталом т. Шалёхіна і парывіста падаўся да яго. Прыветная ўсмешка прабегла і па твары камандзіра.

— А, друг стары! Якая бура занесла вас сюды?

Ён моцна патрос дзедаву руку і пасадзіў яго каля сябе.

— Гэта мой стары прыяцель, дзед Талаш, у яго я жыў на кватэры, — сказаў ён да вайскоўцаў.

— Ну, што ў вас новага? — запытаў дзеда.

— Ох, таварыш камандзір, — уздыхнуў дзед Талаш, — новага шмат, ды не цешыць яно!

— Што — з палякамі не паладзілі?

— Грабежнікі, гвалтаўнікі, хай іх багна глыне! — і дзед Талаш безнадзейна махнуў рукой.

І расказаў дзед Талаш пра свае прыгоды, пра стажок, пра сваё ўніжэнне перад польскімі жалнерамі, пра іх насмешкі і здзек, пра ўспышку свае злосці, што паслужыла прычынаю баталіі паміж ім і палякамі. У залежнасці ад характару падзей мяняўся і тон дзедавага апавядання. Калі дзед расказваў, як ён прасіў не браць яго апошняга сена, ён быў увесь пакора і жаласлівасць. А калі дайшоў да стычкі з жалнерамі, вочы яго загарэліся агнём змагання, ён раптам напружыўся, згарнуў кулакі, як дзяцюк, саскочыў з лавы і наглядна, рухамі рук, паказаў, як ён шаргануў палякаў, як паляцелі яны ад яго, як ён вырваўся і кінуўся ў лес.

— Брава, дзед! — пахвалілі яго вайскоўцы.

— Няўжо ты, дзед, такі дужы? — не паверыў крыху шырокі Букрэй.

Дзед Талаш запыніў на ім свае быстрыя цёмныя вочкі, момант паўзіраўся ў яго.

— А давай паборэмся! — ціха, але цвёрда і ўпэўнена, з рашучаю гатоўнасцю памерацца з Букрэем сілаю заявіў дзед Талаш.

Вайскоўцы дружна і весела запляскалі.

— Малайчына дзед! Вот гэта дзед!

Шырокі Букрэй змушаны быў скасавацца пад шумныя галасы вайскоўцаў. А дзед Талаш яшчэ з большым захапленнем расказваў далей пра падзеі апошніх дзён, пра сваё бадзянне па лясах, пра тулянне па чужых кутках, пра сваё спатканне з пакрыўджанымі людзьмі, пра розныя эпізоды з іх жыцця. Нарэшце запыніўся—і гэта было цэнтральным месцам яго апавядання — на здзеках польскіх акупантаў над людзьмі, спачуваўшымі совецкай уладзе, на арышце яго Панаса. І калі дзед гаварыў пра свайго сына, пра яго няволю і нявінную пакуту, пра пакуту недалетняга юнака, то дзедаў голас дрыжаў, у ім чуліся ноткі глыбокага бацькоўскага гора. І скончыў сваё апавяданне так:

— Дзе-ж мне шукаць справядлівасці? Да каго-ж

мне звярнуцца, як не да вас, таварышы чырвонае войска? Вось я і прышоў прасіць парады і дапамогі.

Малады чалавек, адзеты напалавіну ў ваеннае, напалавіну ў штацкае, маўчаўшы ўвесь час і ўважна слухаўшы, прычым твар яго захоўваў акамянеласць і застыласць, падышоў да дзеда Талаша.

— Дужа рад сустрэцца з вамі. Вы — слаўны дзед! — І крэпка паціснуў дзеду руку. А потым звярнуўся да вайскоўцаў.

— Таварышы! Старому трэба дапамагчы. Трэба вызваліць яго сына. Трэба! — падкрэсліў ён апошняе слова.

Дзедаў твар засвяціўся надзеяй, і ён з глыбокай падзячнасцю зірнуў на незнаёмага маладога чалавека — хто-ж ён такі?

— Я, таварышы, буду служыць з вамі, буду дапамагаць і вам, бо мне-ж там няма цяпер месца, — з жарам гаварыў дзед Талаш. — Я ведаю лес, балоты, рэчкі, азёры. Прайду з вамі так, што ніякі панскі чорт не будзе ведаць. І яшчэ, таварышы, прашу я вас даць мне настаяшчую ваенную стрэльбу. Калі не даць, дык пазычыць. Адваюю ад палякаў, вярну вам, таварышы.

Гэта непасрэднасць, наіўнасць і жаданне мець ваенную стрэльбу развесяліла вайскоўцаў і яшчэ больш хіліла іх да дзеда.

— Трэба залічыць дзеда ў рады Чырвонай Арміі і выдаць яму стрэльбу, як чырвонаармейцу, — не то жартліва, не то сур'ёзна заўважыў адзін з ротных камандзіраў.

— Стрэльбу дзеду мы дамо, — сказаў камандзір батальёна, — але яму наўперад трэба папрабаваць нашага мядку. Частуйцеся! — звярнуўся ён да дзеда Талаша.

Дзед Талаш наўперад быў крыху замяўся, але вайскоўцы населі дружней. Букрэй падаў яму кусок хлеба.

— Еш, дзед, ваяваць разам будзем!

Тады ўжо дзед Талаш зрабіў некалькі разоў экскурсію ў цэрла з мёдам.

— Ну, таварышы, давайце падумаем, як дапамагчы дзеду, — зноў загаварыў камандзір батальёна. — На мой

погляд не шкодна было-б заадно пашчупаць і польскія пазіцыі крыху глыбей... Што скажаце на гэта, таварышы?

— Справа добрая!

— Гэта ідэя!

Дружна падтрымалі думку камандзіра.

— Дазволь, таварыш камандзір, мне слова!

— Гавары, Букрэй!

— Сёння вечарам мы змяняем трэці батальён. Выслаць сёння-ж разведку, ды паглыбей. Для разведкі падабраць дзесяткі два — тры ахвотнікаў... Калі даручыце гэту справу мне, то мы з дзедам абмазгуем яе, і я сам выклікаюся ў яе.

Букрэй быў вядомы ў батальёне, як адважная, смелая, камбінатарская галава, і яму ахвотна даручылі арганізаваць і правесці разведку польскага тылу. Дзеду Талашу пастанавілі выдаць чырвонаармейскую стрэльбу і быць за праваднікa на разведцы.

— Дык ваюем, дзед? — сказаў да дзеда Букрэй і палажыў яму на плячо руку.

Радасны і ўзрушаны дзед Талаш абодвума рукамі патрос Букрэеву руку.

Калі дзед Талаш вышаў з хаты, за ім вышаў і малады незнаёмы хлопец, напалавіну вайсковец, напалавіну штацкі.

— Хацеў-бы з вамі пагутарыць трохі, — сказаў ён дзеду. — Вы куды цяпер ідзеце?

— А тут... да аднаго знаёмага.

— Мне вось цікава ведаць, — сказаў незнаёмы, — калі-б вас асабіста не пакрыўдзілі палякі, то ці паўсталі-б вы супроць іх?

Дзед Талаш захоплены быў знянацку і, не ведаючы, куды гне незнаёмы, адказаў нейтральна:

— Не чапалі-б мяне, не чапаў-бы і я іх.

Трошкі падумаўшы, разважліва дадаў:

— А ўрэшце не ведаю, як-бы яно было.

Незнаёмы памаўчаў.

— Ну, а ці ведаеце вы, што нясе з сабою польская вайна? І хто з намі ваюе?

— Ды, мабыць, хочуць сваю Польшчу збудаваць.

— А калі-б яны збудавалі, як вы кажаце, сваю

Польшчу, то вам, сялянскай беднаце, і нам, рабочым, што яны дадуць?

Дзед Талаш паглядзеў незнаёмаму ў вочы.

— А скажыце, хто-ж будзеце вы?

Замкнёны твар незнаёмага асвятліўся ветлаю ўсмешкаю.

— Я — рабочы з Гомеля. Маю і прозвішча, як і ўсякі чалавек, але яно мне непатрэбна тут. А калі вы хочаце зваць мяне, то завіце Нявідны.

Здзівіўся дзед Талаш.

— А я вас хутчэй назваў-бы — Дзіўны.

«Нявідны», як ён сам назваў сябе, усміхнуўся.

— Не, дзіўнага тут нічога няма, — сказаў ён. — Справа ў тым, што я вяду патаемную, або, як гаворыцца, падпольную работу ад нашай партыі большэвікоў. І калі вы чулі, што сям-там супроць палякаў узнікаюць паўстанні, то тут трошкі паложана і мае работы.

Тады дзед Талаш прыцішаным голасам паведаміў:

— Эге! Вось-жа і я пачаў такую работу.

— Я адгадаў, што вы — чалавек патрэбны і цэнны, але вам трэба зірнуць на свет трохі па-іншаму і трохі далей.

Цікавыя рэчы расказваў Нявідны дзеду Талашу, і не мог не згадзіцца дзед Талаш, слухаючы, што перад ім выступала праўда.

## XIV

Дзед Талаш не проста праваднік у Букрэевай разведцы. Па-першае, ён сам поўнапраўны ваяка: ён мае «настаяшчую» ваенную стрэльбу і сорак пяць патронаў, па-другое, у яго ёсць свая каманда, цэлых восем чалавек сялян з Высокай Рудні. А народ гэта быў спрытны і адважны. Сабраць такую каманду было не так-та і лёгка, але дзед Талаш не пашкадаваў гарачых, як агонь, слоў і яркіх фарбаў, каб разагрэць кроў сваіх ваяк і рушыць іх на справу змагання супроць лютых акупантаў.

— Няўжо, таварышы, вы будзеце грэць пуза на печы, падпіраць яе плячамі ды чакаць, покі і да вас пры-

дзе паляк і стукне даўбешкаю па галаве? Не памілуе вас пан, прыпомніць кожны дубок, высечаны ў лесе, рагач, што выкапалі вы для сахі, каб калупацца ў полі. Але і поле ён забярэ ў вас, паставіць вас за батракоў у сваім маёнтку. Апошнюю нітку выцягне з вашай кашулі. Мы павінны памагчы нашаму чырвонаму войску прэч выгнаць панскую псярню, каб не паны, а мы самі, каторыя бедната і рабочыя, з таварышамі большэвікамі былі тут гаспадары і па-свойму ладзілі сваё жыццё.

Не апошнюю ролю ў гэтай мабілізацыі васьмі адыграў дзедаў расказ аб раззбраенні польскага канвоя і асабліва карабін Мартына Рыля, здабыты ім у часе раззбраення. Мартына Рыля тут шмат хто ведаў. Найболей грунтоўную дапамогу дзеду аказаў Нявідны, бо ён быў спецыяліст у гэтай справе.

На змярканні рушылі ў паход дзве групы войска: трыццаць чырвонаармейцаў з Букрэем на чале і восем чалавек сялян пад камандаю дзеда Талаша, а ўсяго разам сорак чалавек. І быў гэта другі дзень з тых трох дзён, на сходзе якіх дзед Талаш і Мартын Рыль павінны былі злучыцца на Доўгім Бродзе. Дзед Талаш цвёрда трымаў гэта ў памяці. Такім парадкам наперадзе была цэлая доўгая зімняя ноч і цэлы кароткі зімні дзень. Часу зусім выстарчала для таго, каб не спяшаючыся прыйсці ў тэрмін на ўмоўленае месца.

Надвор'е памякчэла. Яшчэ з вечара неба з паўднёвага боку засценьвалася дымнаю павалокаю лёгкіх воблакаў, а над далёкімі лясамі звісала тонкая блакітная смуга, прадвеснік адлігі. Яркія фарбы неба тускнелі, а на зямлю хутка апускалася цемра. Маршрут паходу быў вызначан загадзя Букрэем і дзедам Талашом пры жывым удзеле паўстанцаў-партызан, складаўшых войска дзеда Талаша. Яны таксама былі ўзброены ваеннымі стрэльбамі. Першы прывал на паходзе быў назначан у фальварку Віркуцце.

Букрэй — чалавек з багатаю ваеннаю практыкаю. Не раз ён рабіў такія паходы, не раз быў у бойках і на фронце імперыялістычнай вайны, і на франтах вайны грамадзянскай. Быў ён і на Уральскім фронце, і пад

Астраханню, і ў шырокіх стэпах Украіны. Чырвонаармейцы любілі яго і пакладаліся на яго. Ён аддаў загад начальнікам аддзяленняў прыняць меры аховы паходнай калоны. Былі высланы бакавыя і пярэднія дазоры, устаноўлена адпаведная сувязь байцоў у дазорах з ядром калоны.

Дзед Талаш прыглядаўся да Букрэя, прыслухоўваўся да яго загадаў і каманды і ўсё гэта матаў сабе на вус. Ён, як праваднік, на якім ляжала адказнасць у сэнсе захавання войска ад розных ліхіх неспадзевак у дарозе на паходзе, праяўляў усе адзнакі руплівасці і турботы, каб усё было добра і шчасліва. Ён то адставаў на некаторы момант ад калоны, то заходзіў наперад ці збочваў, каб адыйсціся ад шуму, тупату ног, прыпыняўся і чуткім вухам лавіў галасы зімняй ночы і падазроны шолах лесу. Яму прыемна было адчуваць, што на яго плячах шчыльна прыліпла важкая «настаяшчая» стрэльба з ёмкім вострым штыхом, з якім не страшна выступіць адзін на адзін і супроць мядзведзя. Усё бачанае і перажытае ў Высокай Рудні цяпер адступіла кудысь далей, а перад ім паўставалі новыя з'явы так, як дыктаваліся яны ходам падзей, — спатканне з Рылем, план вызвалення Панаса і далейшыя праявы, якія так трудна прадугледзець і падпарадкаваць сваёй волі і сваім жаданням. Але дзед Талаш адчуваў цяпер за сабою сілу і ўпэўненасць; гэту сілу і смеласць прыдавала яму ў значнай меры і «настаяшчая» стрэльба. Калі ён адыходзіўся трохі воддаль і быў адзін, ён знімаў з-за плячэй стрэльбу, браў яе «на руку» для бою ў штыхі, як паказваў яму Букрэй. Пацешную позу прымаў у гэты час дзед Талаш: ён браў стрэльбу праваю рукою за шыйку ніжэй затвора, леваю падхватваў яе знізу на адлегласць у локаць, і сам прысядаў, згінаючыся ў каленях, выставіўшы трохі наперад левую нагу. І твар яго тады быў грозны, як у чалавека, гатовага нанесці смяротэльны ўдар свайму ворагу. Але гэтыя практыкаванні не засланялі сабою дзедавых турбот і дбання, каб правесці калону шчасліва.

Да фальварка Віркуцце заставалася вярсты тры. Дзед Талаш ціха падазваў да сябе двух чалавек з свае-

каманды — Купрыянчыка і Нупрэя і даў ім загад збегаць на фальварак даведацца, ці няма там палякаў. Купрыянчык і Нупрэй шмыгнулі незаметна і расплыліся ў цемрадзі лясной глушы, а калона тым-жа тэмпам, захоўваючы цішыню і парадак, рухалася далей. Шлях яе руху, дарогамі і без дарог, ляжаў увесь час праз лес. Лес ужо канчаўся, і калона зараз-жа павінна была выйсці на круглае поле між лясоў, дзе і быў фальварак Віркуцце.

Дзед Талаш падышоў да Букрэя.

— Зараз падыходзім да фальварка, — ціха паведаміў начальніка калоны, — трэба спыніцца.

Букрэй перадаў па ланцужку каманду спыніцца.

— На ўсякі выпадак трэба паслаць разведаць хутар, — сказаў ён.

Букрэй ужо хацеў выслаць разведку.

— Я паслаў ужо сваіх людзей, — далажыў дзед Талаш.

— Правільна зрабіў, дзед! — пахваліў яго Букрэй.— На паходзе, на вайне разведка і сувязь маюць дужа важнае значэнне, — павучаў ён дзеда.

Мінуты праз дзве з мроку выплылі тры постаці. Гэта былі Купрыянчык і Нупрэй і з імі нехта трэці.

Дзедава разведка данесла:

— У фальварку палякі! Распытайцеся вось у яго, — ён ведае аб іх болей, — і паказалі на прыведзенага чалавека.

Букрэй зрабіў яму допыт.

— Ты хто?

— Дарвідошка, — адказаў прыведзены чалавек.

— Дарвідошка ці Дацягнідошка — гэта няважна, — заўважыў Букрэй. — Ты што за чалавек? Чым займаешся?

— Чалавек я... — і Дарвідошка безнадзейна махнуў рукою, — і займаюся не тым, чым трэба.

— Дзе вы яго ўзялі? — запытаў дзед Талаш сваіх разведчыкаў.

— Ды гэта-ж парабак з Віркуцця... Ён трохі выпіў.

— Ага, парабак! — згадзіўся дзівакаваты Дарвідошка, — і выпіў... ну але, выпіў!..

— А з кім ты выпіў? — распытваў Букрэй.

— Салдат паднёс у пляшачцы. Паляк... Там, брат, палякі з'ехаліся... Паны, паненкі, афіцэры... П'юць, гуляюць! А мне салдат і гаворыць, — ён за вартавога прыстаўлен, — прывядзі, кажа мне, маладзіцу... Яй-богу!

Парабак пачынаў гаварыць цікавыя рэчы.

— Многа там афіцэраў? — дапытваўся Букрэй.

— Тры... ну але, тры.

— А салдаты ёсць?

— Ёсць і салдаты... ну але, ёсць.

— А колькі іх?

— Ды так, мусіць, чалавек з шэсць... Ну але, шэсць!

Прабеглы і хітры Букрэй зараз-жа злажыў план дзеяння. У аснову яго палажыў маладзіцу.

— Вось што, брат Дарвідошка, слухай і зарубі сабе на носе: ты прывядзеш вартавому маладзіцу.

Дарвідошка ўпаў у адчай.

— А дзе-ж я вазьму яе? Ну але, дзе?

— Ты слухай мяне: за маладзіцу буду я!

— Гы-гы-гы! — зарагатаў парабак. — Такая маладзіца ўбрыкне яго, ну але!

Чырвонаармейцы і партызаны абкружылі іх. Букрэева выдумка выклікала вясёлы настрой.

— Мы прыдзем туды, — развіваў Букрэй далей свой план, — я спынюся дзе-небудзь у двары, а ты скажаш— прывёў маладзіцу. Рэхт?

— Рэхт!.. Гы-гы-гы!

Букрэй адвёў убок начальнікаў аддзяленняў і дзеда Талаша і аддаў загад, каму дзе і што рабіць.

Наабапал дарогі ў фальварак амаль ад самага лесу цягнуліся густыя старасвецкія ліпавыя прысады. Калона падзялілася на дзве палавіны і рушыла ў фальварак, туляючыся паміж тоўстых камлёў прысад. Букрэй і парабак ішлі ў галаве. За імі дзед Талаш і два яго разведчыкі. Не даходзячы да двара, калона спынілася. Букрэй зняў шынель, аддаў яе дзеду Талашу, а сам надзеў яго кажушок. У партызана знайшлася хустка, служыўшая за шалік, а замест спадніцы дзед Талаш абкруціў Букрэя воўчаю скураю. У цемры ён прыняў падабенства

да страшнай пачварнай жанчыны. выклікаўшы смех, не гледзячы на напружанасць момапту.

Букрэй і Дарвідошка аддзяліліся ад калоны. За імі на некаторай адлегласці ішлі дзед Талаш і два партызаны. Букрэй выбраў месца ў глухім кутку двара каля нейкай будыніны, прырыхтаваў на ўсякі выпадак наган. Дарвідошка пайшоў у бок стайні да вартавога з рапартам. Каля стайні яго не было. Вартавы падаўся бліжэй да святліцы, дзе ярка блішчэлі вокны, прыкрытыя лёгкаю фіранкаю. Праз непрыкрыты кусочак шыбінкі ён бачыў маладога прыгожага чарнявага афіцэра, які сядзеў каля раяля і перабіраў пальцамі клавішы. Гукі раяля, зліваючыся ў мілагучную мелодыю, ледзь чутна даляталі да вушэй вартавога. Непадалёку стаяла стройная бландынка і, як зачараваная, слухала музыку і не зводзіла вачэй з музыканта.

Салдат у сваю чаргу не адводзіў вачэй ад бландынкі і часамі ўздыхаў, прагнучы жанчыны і смуткуючы па ёй. У часе гэтага рамансовага настрою і падышоў да яго парабак. Дарвідошка мусіў штурхнуць вартавога, каб вярнуць яго на двор фальварка з краіны мар.

— Маладзіцу прывёў! — таемна сказаў Дарвідошка.

Салдат здрыгануўся, зірнуў і заспакоіўся.

— Дзе она ест? — узрушана запытаў салдат.

— Каля адрынкі чакае — саромеецца сама ісці, ну але...

— Млода?

— Ага, як калода! ну але... О, печ, агонь маладзіца!

Салдат захваляваўся. Вышэй паставіў вусы і хутка пайшоў за парабкам, паспеўваючы, каб не бянтэжыцца перад ім, на мазурскі лад:

Умарл Мацэк, умарл,
Юз лезы на дэсцэ!
Зэбысь ему заграць,
Падскоцыл бы есцэ[1].

---

[1] Памёр Мацейка, памёр,
Ужо ляжыць на дошцы!
Каб яму заграць,
Падскочыў-бы яшчэ.

«Паглядзім, як ты падскочыш!» — думаў сам сабе парабак, ведучы кавалера.

«Маладзіца» яшчэ шчыльней тулілася да сцяны і для большай сарамяжлівасці падалася трошачкі назад. Парабак адстаў, прыпыніўся, а салдат храбра падаўся наперад.

— Не ленкайся, мая душа!

Паставіўшы каля сцяны стрэльбу, салдат далікатна падняў рукі, абняў і прытуліўся да «маладзіцы». Умомант вока «маладзіца» сціснула, як жалезнымі абручамі, рамансовага кавалера і грымнула яго ў снег.

— Не пікні, гад, бо тут табе магіла!

Густым мужчынскім голасам, поўным пагрозы, прыстрашыла «маладзіца». Увесь рамансовы настрой і ўсе салдацкія гармоны як-бы карова языком злізала. Ён толькі прашаптаў:

— Пан бог з намі, дух свенты!

— Не пан бог і не дух свенты, а ўзводны Букрэй.

Салдата адвялі пад ліпы. Чырвонаармейцы і партызаны рынуліся ў двор. Абкружылі святліцу і дваровую хату, дзе бавіліся за чаркаю легіянеры, паставіўшы стрэльбы ў куток каля парога.

У адзін час і ў святліцу, і ў дваровую хату ўварваліся чырвонаармейцы і партызаны.

— Ні з месца! — загрымеў Букрэй у святліцы.

— Рукі ўгору! — крыкнуў дзед Талаш у дваровай хаце на чале свае каманды, бураю ўляцеўшы і прыставіўшы штыхі амаль не ў грудзі салдатам. Салдаты паслухмяна паднялі рукі.

А ў святліцы стройная бландынка абамлела. Анямеў раяль. Музыка-афіцэр, як сядзеў, так і застыў у гэтай постаці. Бразнулі на падлогу талеркі і чаркі, паскіданыя перапалоханымі гасцьмі. А вочы, поўныя жаху, пазіралі на сталёвую шчэць нахіленых чырвонаармейскіх штыхоў і на цёмныя рулі страшных наганаў.

— Пшэпадлі! — шапталі пабялелыя губы прыгожага чарнявага афіцэра-музыканта.

## XV

У тую-ж ноч палонных салдат і афіцэраў, у ліку дзевяці чалавек, усадзілі ў парадныя вазкі, на якіх з'ехалася шляхта адсвяткаваць банкет з поваду адбудовы польскай дзяржавы і ў гонар польскай арміі, і пад канвоем конных чырвонаармейцаў, пасеўшых на коней палонных палякаў, адправілі ў вёску Высокая Рудня. Дарвідошка і адзін з партызан паселі за фурманоў. Дарвідошку якраз давялося кіраваць фурманкай, на якой сядзеў і той салдат, што так няўдала спаткаўся з «маладзіцаю». Моўчкі з нянавісцю кідаў гэты салдат погляды на свайго здрадлівага «свата», а «сват» спадцішка толькі пасміхаўся ды заўзята паганяў коні.

Выпіўка і закуска, а яе не пашкадавала шляхта для такой урачыстасці, хоць і не поўнасцю, але ў значнай ступені папала ў жываты чырвонаармейцаў і партызан. Прыкончыўшы банкет і зрабіўшы запас на дарогу, аддзел войска пад камандаю Букрэя рушыў у лес. Аставацца тут на прывале Букрэй палічыў небяспечным. У фальварку паставілі некалькі вартавых, якім было загадана на пэўны час нікога не выпускаць з фальварка. Госці сядзелі, як мышы пад мятлою, а стройная бландынка, забіўшыся ў куток, з сардэчным болем і смуткам думала аб тым, як коратка і няпэўна шчасце на свеце, а вобраз прыгожага маладога афіцэра-музыканта, як жывы, стаяў у яе вачах.

Дзед Талаш ведаў у пушчы мазырскіх лясоў спрытна пабудаваныя салашы, дзе летам мелі прыпынак смалакуры.

Сюды і павёў ён чырвонаармейцаў і партызан. Сюды-ж павінен быў ісці, адбыўшы варту, і Купрыянчык з часткай чырвонаармейцаў. Купрыянчыка пакінуў дзед Талаш за праваднiка, каб паказаць дарогу вартавым чырвонаармейцам да смалакураўскіх салашоў.

Іх было тры. Стаялі яны між стромкіх камлёў глухой дзікай пушчы, куды рэдка заглядала людское вока. Салашы мелі форму звычайнай страхі, пастаўленай на доле. Вакол іх густа-густа збіўся толькі малады купчасты ельнік. Чатыры ёмкія слупы па кутах, чатыры тоўстыя жэрд-

кі, прымацаваныя да слупоў, і цэлая сетка лат, прыбітых да жэрдак дзерванымі гваздамі, шчыльна і густа апле-ценых яловымі лапкамі, — такія былі смалакураўскія салашы.

Стаялі яны тут ужо доўгі час. Дробныя ігліцы яловых лапак высахлі і асыпаліся, услаўшы дно салашоў тоў-стым пухкім пластом.

Партызаны расчысцілі снег, падгатавалі месца для вогнішча. Чырвонаармейцы жыва нанасілі дроў, разла-жылі касцёр. Прыветліва загаманіў агонь і залатым бляс-кам расцёкся па тоўстых шурпатых камлях, па зелені ку-чаравых ёлак, па шынелях і па тварах чырвонаармейцаў і партызан. Зацяты спакой застылай у зімнім змяртвенні пушчы быў парушан прыходам гэтых суровых людзей, знайшоўшых тут сабе прыпынак для начнога адпачынку. Як мурашкі, варушыліся людзі. Хто насіў дровы і кідаў іх на касцёр; хто стаяў каля агню ў самай вялічлівай постаці чалавека, дасягшага вышэйшага ў свеце шчасця, і грэўся, падстаўляючы да агню то адзін бок, то другі, то спіну; хто аглядаў салашы, выбіраючы ўтульнае месца для стомленага цела, а хто ладзіў каля агню прынесе-ныя бярвенні, каб зрабіць з іх нешта накшталт лавы або палацяў для болей зручнага ўлуштавання на начны спакой.

Заняўшы пазіцыі каля кастра, як дзе каму давялося, жмурачыся ад дыму і выціраючы слёзы загрубелымі ру-камі, сядзелі чырвонаармейцы і партызаны, прыпаміналі падзеі гэтай ночы. Гутаркі і жарты канцэнтраваліся пе-раважна каля Букрэевай асобы і яго ролі ў якасці «ма-ладзіцы». Букрэй з ціхаю ўсмешкаю маўчаў і слухаў, паварочваючы свой буйны твар з жорсткімі калючымі ву-самі то да аднаго, то да другога ў залежнасці ад харак-тару або ступені трапнасці тых ці іншых жартаў, ды даб-радушна пасмейваўся, устаўляючы зрэдка сваё важкае слова, выклікаўшае агульны смех. У гэту ноч узводны Букрэй здабыў шырокую славу «чырвонаармейскай ма-ладзіцы».

— Толькі вы, сабачыя хрышчэнікі, не расказвайце ў палку, а то і будуць зваць мяне «чырвонаармейскаю ма-ладзіцаю».

Дружны рогат пачуўся ў адказ на яго папярэджанне. І нельга было не смяяцца, пазіраючы на пышную Букрэеву постаць. Ён сядзеў на бярвеннях каля агню, накінуўшы наверх салдацкай шынелі яшчэ болей шырокае, чым ён сам, шляхецкае футра з шырачэзным каўняром. У гэтым футры ўся фігура яго з жорсткімі калючымі вусамі нагадвала важнага польскага магната.

З поваду гэтага футра Букрэй меў прамову перад сваім войскам. Букрэй катэгарычна асуджаў грабежніцтва, дзе-б яно ні было, і асабліва на вайне. Але ўзяць у ворага тое, што табе канечне патрэбна ў баявым жыцці, дазваляецца.

Цікавую і маляўнічую сцэну станавіў сабою гэты начлег чырвонаармейцаў і партызан у дзікай пушчы старога лесу. Панура і грозна зяўрылі сваімі цёмнымі адтворынамі смалакураўскія салашы, як пасці пачварных страшылішч. Ваякі ляжалі ў самых рознастайных і вычварных позах каля агню і ў салашах. Навучаныя практыкаю паходаў пры ўсякіх абставінах жыцця летам і зімою, яны зрабілі для сябе сякія-такія запасы з адзежы ў тым-жа фальварку Віркуцці, каб можна было латвей правесці ноч на холадзе ў лесе. Былі тут і дзяружкі, і кулі саломы, і living рознае барахло, знайшоўшае сабе ўжытак у гэтых незвычайных абставінах начлегу вайскоўцаў у лесе зімнім часам.

Дзед Талаш стаяў з боку ад гэтага вясёлага шуму, гаворкі, смеху і жартаў бесклапотных людзей, знайшоўшых сабе гасцінны прыпынак каля агню між смалакураўскіх салашоў. Яго старая галава думала свае думкі, неспакойныя, неадчэпныя думкі аб заўтрашнім вечары, аб спатканні з Мартынам Рылем і аб усім тым, што злучалася з гэтым паходам. У цэнтры яго думак нязменна стаяў Панас. Покі хлопец застаецца ў няволі, не будзе спакою і дзеду Талашу.

Дзед сядзеў на кучы лам'я, прыкрытага тоўстым пластам яловых лапак. На гэтай кучы прылёг дзед Талаш, каб трохі адпачыць і, галоўным чынам, каб не паказваць свае заклапочанасці, сваіх думак і тым самым не кідацца ў вочы бестурботным чырвонаармейцам. Агонь прыграваў яго збоку, воўчая скура, якою акрыўся дзед, зверху,

і ён скора заснуў, а думкі яго, вышаўшы з-пад кантролю, вялі і далей сваю работу, сплятаючыся ў самыя вычварныя спалучэнні.

І прыснілася дзеду сцэна з дзікім вепрам, прычым вепр быў не проста вепр, а сам дзед Талаш, на якога нападаў страшны воўк і біў дзеда хвастом па твары. Дзед схапіў воўка за хвост і стукнуў яго аб дуб галавою. Але воўку ад гэтага нічога не сталася. Ён павярнуў на дзеда галаву, пазіраў хітрымі вачыма і выскаляўся пачварным смехам. Злосць падшыбла дзеда, закруціў яшчэ раз воўка, каб мацней стукнуць ім аб дуб, аж воўк адарваўся, у дзедавых руках астаўся толькі яго хвост, а сам воўк адляцеў і ўпаў у снег. Пазірае дзед Талаш — з снегу замест воўка падымаецца Панас, глядзіць на бацьку засмучонымі вачыма і гаворыць: «За што ты б'еш мяне, тата?» Дзед прачынаецца, сэрца яго стукае моцна, і сам ён дрыжыць. Гэты сон пакідае ў ім такі непрыемны і прыкры след... «Тфу!» плюе дзед Талаш і адкідае воўчую скуру, садзіцца на кучу лам'я і азіраецца навакол, а сэрца яго шчыміць ад болю па Панасу. «Сынок мой, сынок!» — шэпча дзед Талаш.

Агонь заміраў. Канцы перагарэлых пален ляжалі пахаладзелыя вакол вогнішча, а на сярэдзіне ў самым жару датляваў корч, то патухаючы, то ўспыхваючы слабым белаватым полымем. Гаслі і астывалі патрошку і вугольчыкі, пакрываючыся лёгкім белым попелам, і перашэптваліся слабеючымі адзнакамі свайго апошняга жыцця, пераходзячы ў яго іншыя формы, ужо незаметныя для чалавечага зроку. Сіняваты струменьчык дыму бясшумна і спакойна плыў угару і туліўся ў кашлатых шапках старых дзеравяк, як-бы шукаючы там сабе прыпынку, каб не згінуць бясследна ў халодных прасторах надзем'я. Было штосьць журботнае і тужлівае ў гэтым заміранні кастра, быць можа таму, што яно напамінала аб нейкім канцы, аб знікненні жыцця.

Начны зімні холад пачынаў прабіраць дзеда Талаша. Дзед падышоў да агню, паклаў галавешкі і перагарэлыя канцы пален у жар. Гусцей паплыў дым, і скора вясёлы агеньчык успыхнуў полымем, разагнаў цемень, асвяціў салашы і фігуры людзей, спаўшых і курчыўшыхся ад хо-

ладу. Тут-жа каля кастра ляжала куча дроў, загатаваных яшчэ з вечара. Дзед падкідаў на агонь дровы. Агонь зноў ажыў, загаманіў рухлівымі гарачымі стужкамі, разганяючы цемру, а разам з ёю журботны дзедаў настрой.

Дзед Талаш сядзеў каля агню і грэўся. Тыя-ж неадступныя думкі зноў апанавалі яго. Прыпомніў ён падзеі мінулага дня. Цяпер яны ўсталі перад дзедам у другім святле. Весці аб тым, што ў Віркуцці нечакана з'явіліся чырвоныя і захапілі банкетаваўшых там афіцэраў і салдат, хутка стануць вядомы палякам. Палякі ўстрывожацца, пашлюць цэлае войска супроць жменькі букрэеўскіх салдат. Гэта акалічнасць затрывожыла дзеда Талаша. Ён зірнуў на Букрэя. Букрэй, улёгшыся на бярвеннях-падмостках, падаслаўшы саломы і закруціўшыся ў шляхецкае футра, спаў спакойным сном чуць не святога чалавека. Пад уплывам сваіх думак дзед Талаш падняўся і асцярожна пасунуўся ў лес, каб паслухаць, на ўсякі выпадак, ці не чуваць дзе падазронага шуму, ды паглядзець, хоць спотайку, як нясуць варту прыстаўленыя для гэтага людзі.

Вартавыя стаялі на сваіх месцах, перакінуліся з дзедам параю слоў. На іх запытанне, куды ідзе дзед, ён адказаў, што ідзе па дровы. Дзед Талаш адышоўся яшчэ далей, спыніўся і спасцярожлівым вухам прыслухаўся да немай, зацятай цішыні. Азірнуўся назад — агню бадай што і не відаць было. Гэта яшчэ больш заспакоіла дзеда Талаша. Ён толькі падумаў, што ніколі раней не прыходзіла яму ў галаву думка аб тым, як далёка відаць ноччу ў лесе агонь. Дзед Талаш выбраў танклявую сухастоіну, упёрся ў яе рукою, а нагамі ў снег і папрабаваў зламаць яе. Дрэва хіснулася раз, другі; за трэцім разам гучна трэснула каля кораня і ўпала. Дзед палажыў яго на плячо і пайшоў назад да агню.

Закурыў дзед піпку і прысеў на кучу лам'я, дзе прысніўся яму такі паганы сон, і думаў. Ён думаў аб тым, што падзеі ў Віркуцці парушаюць маршрут, а ў сувязі з гэтым трэба зрабіць змены і ў самым плане. Першае, што выходзіла з гэтых падзей, — заставацца тут больш-менш доўгі час не выпадае, і засцярожлівасць пры такіх абставінах ніколі не пашкодзіць. Войску трэба перасунуцца ў другое месца, а на разведку звярнуць асаблівую ўвагу.

Перад дзедавымі вачыма пачалі выступаць патайныя нетры, глухія куткі Палесся і людскіх паселішч. Такіх куткоў на Палессі багата, але не ўсе яны ляжаць паблізу і па дарозе іх руху... А чаго рухацца ўсім разам? Вось якое пытанне паставіў сабе дзед Талаш і ў гэтым кірунку паплылі цяпер яго думкі.

Новы план пачаў вырысоўвацца перад дзедам Талашом. Няма патрэбы ўсяму ўзводу ісці пад Доўгі Брод, як гэта было намечана раней, тым болей, што для гэтага трэба зрабіць значны крук. А Мартына там можа і не быць. Ці не лепей узводу перасунуцца ў патаённое месца бліжэй да мястэчка, што ставіла сабою асноўную задачу Букрэеўскага паходу. Ці не лепей дзеду аднаму або з кім-небудзь з сваіх людзей прайсці туды?

Разважыўшы з усіх бакоў гэта пытанне, дзед Талаш цвёрда запыняецца на такім вырашэнні яго. Аб гэтым ён паведаміць Букрэя. Дзед упэўнен, што Букрэй прыме такую змену ў іх маршруце.

На світанні вярнуліся чырвонаармейцы з Купрыянчыкам з фальварка Віркуцце. Ноч прайшла шчасліва. Смалакураўскія салашы ажывіліся, напоўніліся людскімі галасамі. Новы дзень нёс свае турботы і ставіў новыя задачы Букрэеўскаму войску.

## XVI

Раніцаю, як толькі сышоў змрок, Букрэй аддаў загад выступаць у паход. Перад гэтым была нарада. Абмяркоўвалі план маршруту і парадак руху ўзвода. Букрэй прыняў пад увагу меркаванні дзеда Талаша і адобрыў яго праграму на сённешні дзень. Пры гэтым ён сказаў дзеду Талашу:

— Табе, бацька, трэба быць начальнікам штаба, а не проста праваднікам і разведчыкам.

Тэорыі ваеннай навукі дзед Талаш не ведаў, але яму прыемна было пачуць пахвалу. На нарадзе была асабліва звернута ўвага на поўную сакрэтнасць і захаванасць месцазнаходжання ўзвода, для чаго ўвесь час дзяржацца лесу, разведваць дарогі і людскія паселішчы. У гэтай справе выключную ролю павінны былі адыгрываць пар-

тызаны, дасканала ведаўшыя тапаграфію месца і яго геаграфію. Агульны кірунак браўся на мястэчка, дзе меў сваю рэзідэнцыю пан Крулеўскі. Да мястэчка ад смалакураўскіх салашоў было кілометраў пятнаццаць. Кожнаму разведчыку была дана свая задача і ясныя інструкцыі. Пры Букрэю за правадніка назначан быў Купрыянчык. Дзед-жа Талаш з Нупрэем узялі на сябе задачу абследаваць пункты, што ляжалі па дарозе на мястэчка.

Гадзіны дзве ўся калона рухалася разам з партызанамі. Потым партызаны адлучыліся і пайшлі кожны сваім маршрутам.

Купрыянчык павёў узвод на Глухі востраў.

Востраў прадстаўляў сабой высокі груд, заросшы густым лесам сярод непраходнага балота. Дабрацца летам да Глухога вострава мог толькі той, хто дасканала ведаў звілістыя сцежкі між дрыгвы і куп'я, заросшага алешнікам, дзікаю лазою, кустамі нізкарослага бярэзніка і рознаю зараслю. Па гэтых сцежках можна было ісці па адным чалавеку ад купіны да купіны, месцамі прабіраючыся па бярвенцах-кладках. Здрадлівая дрыгва пагражала зацягнуць у сваю багну кожнага, хто аступіцца або зробіць неасцярожны крок. Зімою Глухі востраў быў болей даступным, хоць пад снегам часамі таілася яшчэ большая небяспека, як летам. Сюды рэдка хто заходзіў, хіба толькі самыя дасціпныя паляўнічыя зазіралі зрэдку сюды сваім зоркім вокам.

На развітанне Букрэй пажадаў удачы разведчыкам і яшчэ раз напомніў ім аб іх інструкцыях.

Спасцярожліва ідуць Нупрэй і дзед Талаш праз лес, прабіраюцца праз зараснікі балот, праходзяць бязлюдныя паляны між лесу і балот. Выходзяць часамі і на дарогі, прыглядаюцца і прыслухоўваюцца. Хоць-бы сустрэць жывога чалавека, хоць-бы сякія-такія весткі мець ад яго аб паляках. Іх чуйнасць яшчэ больш павялічваецца, калі яны падыходзяць да вёскі Цернішч, першай вёскі, якая ляжыць на шляху іх маршруту. Гэта вёска выклікае ў дзедавай памяці цэлы вянок сцэн і малюнкаў, аб якіх расказваў яму Мартын Рыль. З гэтай вёскі родам Балук Марка, якому прысягаў і Мартын Рыль.

На ўскрайку лесу дзед Талаш і Нупрэй запыняюцца.

Тут праходзіць дарога з вёскі, і сама вёска відаць адгэтуль. Яны мяркуюць, як латвей даведацца, што робіцца ў вёсцы, ці ёсць там польскае войска і якое.

На дарозе паказваецца постаць жанчыны. Яна ідзе ў вёску. Дзед Талаш перадае Нупрэю стрэльбу і воўчую скуру, асцярожна выходзіць на дарогу. Турботы, невясёлыя думкі адбіваюцца на твары маладзіцы. Яна пазірае на дзеда Талаша шэрымі, круглымі вачыма з-пад тонкіх дуг чорных броў. На яе галаве красуецца белая наміткa з вышытымі канцамі. Падыходзіць, вітае дзеда добрым днём. Талаш уважна адвітваецца.

— Скажы, нябога, ты з гэтай вёскі?

— Эге-ж, — каротка адказвае маладзіца.

— Што я хачу запытаць цябе, маладзіца: ці не тут жыве Марка Балук?

Маладзіца раптам сумелася, вочы яе моргнулі мгненным спалохам, тонкія чорныя бровы чуць-чуць заварушыліся. Яна зірнула дзеду ў вочы сваімі шэрымі спасцярожлівымі вачыма.

— А вы скуль ведаеце яго?

— Чалавек, які быў з ім разам арыштаваны палякамі, прасіў даведацца пра яго.

Маладзіца яшчэ больш затрывожылася. Дзед Талаш уважна сочыць за рухам кожнага мускула ў яе твары.

— Быў ён тут, а цяпер няма.

— Ты яго жонка? — рубам ставіць пытанне Талаш.

Маладзіца прыходзіць у замяшанне.

— А вы што за чалавек?

— Ды такі, можна сказаць, як і твой Марка.

— А вы скуль ведаеце, што ён мой? А можа не мой?

— А я па тваіх вачах бачу.

Маладзіца, каб не сказаць чаго лішняга, раптам мяняе тактыку.

— Такому стараму, як вы, не варта глядзець на мае вочы.

Дзед Талаш усміхнуўся.

— Мне вачэй тваіх не трэба, нябога, мне патрэбна твая праўда.

— Няма цяпер праўды нідзе, — сурова адказвае маладзіца.

— Сякая-такая ды ёсць. Вось можаш-жа сказаць ты мне праўду: ёсць тут палякі ці не?

— А дзе іх няма цяпер? — у голасе маладзіцы чуваць абурэнне. — Усюды панаганяла іх, каб ім дыхавіцу нагнала.

— А многа іх тут у вас?

— У кожнай хаце па два, па тры стаяць. А я дык ужо і хаты свае не маю. Пазабіралі ўсё. Худобу з хлява павыводзілі...

Разгаварылася маладзіца. Прызналася, што хадзіла да павятовага «камісаржа», як ёй раілі людзі, шукаць праўды. І шмат чаго даведаўся дзед Талаш з гутаркі з маладзіцаю. Даведаўся ён, што ў мястэчку, дзе меў рэзідэнцыю павятовы «камісарж», палякаў яшчэ болей, як тут, што ў іх там і машыны розныя стаяць, а гэтыя машыны ездзяць і страляюць.

Нельга сказаць, каб гэтыя весці парадавалі дзеда Талаша. Ён ведаў, што справа з вызваленнем Панаса патрабуе шмат затраты часу, што гэта справа не такая лёгкая і простая, асабліва пасля апошніх падзей — разбраенне канвоя, захват палякаў у Віркуцці, але паведамленне маладзіцы аб машынах, што ездзяць і страляюць, занепакоіла дзеда. І ўсё-ж дзед Талаш не паў духам. Па-першае, трэба праверыць словы маладзіцы і па-сапраўднаму разведаць, якое становішча ў мястэчку і, па-другое, трэба параіцца з Букрэем. Была яшчэ надзея і на Мартына Рыля і на яго людзей, якіх ён абяцаў мабілізаваць. Словам, памеркаваўшы ды падумаўшы, можна да чаго-небудзь і дадумацца.

Ён развітаўся з маладзіцаю. На развітанне сказаў ёй:

— Пабачыш свайго Марку, дык скажы яму, няхай не туляецца адзін, а ідзе да нас, ды людзей з сабою няхай кліча.

Дзед Талаш назваў Мартына Рыля, які пад камандаю Маркі браў удзел у раззбраенні польскага канвоя і адабраў ад капрала карабін. Сказаў, дзе і як знайсці Мартына. Дзеду дужа хацелася залучыць да сябе такога спрытнага чалавека, як Марка Балук.

Дзед Талаш і Нупрэй зрабілі невялікую нараду. Нупрэй трымаўся таго-ж погляду. Верыць можна толькі та-

ды, калі на рэчы зірнеш сваімі вачыма. І яны зноў павярнулі ў лес і асцярожна пасоўваюцца ў бок мястэчка. Мястэчка гэта цяпер мела нейкую ўладу над дзедам Талашом, цягнула яго да сябе і ў той-жа час і палохала.

Адна дробная з першага погляду рэч запыніла на сабе іх увагу. Яны ўбачылі ў лесе сляды чалавечых ног. Адлегласць між слядамі гаварыла за тое, што чалавек, пакінуўшы гэтыя сляды на снезе, бег шпаркім бегам. А што асабліва кідалася ў вочы і прымушала звярнуць на сляды ўвагу, дык гэта тое, што там-сям на слядах выступалі чырвоныя плямы, крыху рассмактаныя вільготным снегам. Не было сумнення ў тым, што гэта кроў. Дзед Талаш і яго спадарожнік дужа зацікавіліся гэтаю акалічнасцю, а дзеда Талаша яна моцна ўразіла. Каб заспакоіць дзеда, Нупрэй выказаў дагадку, што гэта напэўна паляўнічы гнаўся за падстрэленаю дзіччу.

— А дзе-ж, голубе, след гэтай дзічы? — запытаў дзед Талаш? Нупрэева дагадка адпадала. — Не, хлопча, справа тут горай: гэта кроў таго, хто пакінуў тут свае сляды. Давай пойдзем па слядах.

Хоць, ідучы па слядах, яны і аддаляліся ад мястэчка, але праява гэта іх моцна ўсхвалявала. Дзед Талаш адчуваў нейкую няясную трывогу ў сваім сэрцы.

Ішлі яны так з поўгадзіны. Сляды паказвалі, што чалавек мяняў тэмп свайго руху: роўнамернасць іх парушалася. Відаць, чалавек выбіваўся з сіл, запыняў бег, ішоў прыцішанаю хадою, каб адпачыць і перадыхнуць. Нарэшце сляды збочылі пад тоўстую густую елку, дзе амаль што не было снегу.

Дзед Талаш і Нупрэй сталі аглядаць месца, дзе адпачываў чалавек. Паталочышча паказвала, што чалавек адграбаў снег, каб прылегчы на болей цёплым месцы. Каля выступаўшага яловага кораня была ямінка — чалавек, лежачы, апіраўся на локаць. У тым-жа месцы, дзе былі яго ногі, таксама засталася крывавая пляма. З гэтага дзед Талаш і Нупрэй вывелі заключэнне, што кроў у чалавека ішла з нагі. Прычым сляды былі зусім свежыя.

Агледзеўшы месца, зноў пайшлі па слядах. Правая нага чалавека ступала цвёрда, след-жа левай нагі быў няпоўны — чалавек моцна кульгаў. Відаць, чалавеку было

трудна ісці, і сляды зараз-жа збочылі зноў у бок густога маладога ельніку. Туды, прадзіраючыся скрозь засохлую знізу навісь яловых лапак, пайшлі дзед Талаш і Нупрэй.

— Стой! хтось ляжыць! — ціха і ўстрывожана сказаў дзед Талаш і спыніўся.

Нерухлівая постаць ляжаўшага чалавека навяла на іх страх. Чалавек ляжаў скурчыўшыся, утуліўшы галаву з глыбока насунутаю шапкаю ў старэнькі кажушок. Твару яго не было відаць.

І раптам затросся дзед Талаш. Вочы яго шырока раскрыліся, на твары адбіўся жах. Ён рэзка падаўся наперад.

— Панас! — вырваўся нямы крык з грудзей старога, і ён кінуўся да нерухлівай постаці свайго сына. Панас не паварушыўся.

— Сынок, сынок мой! — ламаў рукі дзед Талаш, прыкленчыўшы перад сынам. — Не дачакаўся, сынку, ты свайго часу, — жаласліва гаварыў дзед Талаш, зусім страціўшы сваю старую галаву.

Нупрэй памацаў рукою Панаса.

— Ён жывы яшчэ. Ён толькі абамлеў.

Нупрэй захадзіўся, кінуўся раскладаць агонь, а дзед, здаецца, нічога не чуў і не цяміў. Ён толькі катурхаў сына, будзіў, зваў яго, але Панас не паказваў ніякіх адзнак жыцця. Заламаў дзед на галаве рукі і з бязмерным горам пазіраў на Панаса. Нупрэй жыва наклаў агню, наламаў бярэма яловых лапак, налажыў іх каля агню, заслаў воўчаю скураю.

— Перанясем яго сюды.

— Ратуй, ратуй яго, Нупрэй!

Панаса палажылі на воўчую скуру. Нупрэй скінуў свой кажух, накрыў Панаса і борздзенька кінуўся разуваць яго акрываўленую нагу. Левая нага збоку, вышэй калена, была прастрэлена, але косць, як відаць, была цэлая. Ён змогся, страціў многа крыві і абамлеў ад голаду, холаду і страху. Нупрэй расшпіліў яму каўнер, расціраў яго цела рукамі, адграваў яго. Панас чуць-чуць паварушыўся і слаба застагнаў.

— Жыць будзе! — весела азваўся Нупрэй. Радасць ахапіла дзеда Талаша.

— А штоб-жа ты сказіўся! — радасна адгукнуўся дзед Талаш, громка прачысціў свой нос і выцер вочы.

## XVII

Сагрэўся Панас каля агню на воўчай скуры пад Нупрэевым кажухом і прышоў да памяці. Першае, што адбілася на яго твары, былі страх і здзіўленне. Але пачуцці гэтыя змяніліся радасцю, калі пабачыў ён старога бацьку і вясёлы Нупрэеў твар.

— Ну вось і ажыў хлопец! — весела парушыў цішыню Нупрэй.

— Баліць нага?

— Глупства, — азваўся Панас, — вось зараз падымуся і пайду.

Ён папрабаваў усміхнуцца і паварушыў хвораю нагою. Але на яго твары адбіўся боль. Нага яго распухла, і ісці ён не мог.

— Ах, сынку, сынку! — гаварыў узрушаны Талаш, — і паваяваць ты нам не даў за цябе. А мы ўжо рыхталіся. Ну, ды дзякуй богу, што ўсё так абярнулася, і ты жывы, хоць трохі і пакульгаеш.

— Нічога: покі жаніцца — загаіцца, — жартаваў Нупрэй.

Панасаву нагу прамылі, агледзелі рану, завязалі, як маглі і чым маглі. Нупрэй прывёў у парадак заскарузлыя ад крыві Панасавы нагавіцы, вычысціў іх у снезе і прасушыў каля агню. Словам, Нупрэй праявіў усе дактарскія і санітарскія здольнасці. Рабіў ён з усведамленнем важнасці свае работы: ад гэтага і самому яму было прыемна. Дзед Талаш сілкаваў Панаса хлебам і салам, спецыяльна спечаным тут-жа на ражончыку над агнём. Пасілкаваўшыся, Панас пачуўся шмат ямчэй. Але ісці яму яшчэ было трудна і няможна: ад хады зноў крывавілася-б рана.

Нупрэй і дзед Талаш прынялі гэта пад увагу.

— Мы яго панясём, — сказаў Нупрэй.

— Хіба што на пераменку.

— Насілкі зробім.

Нупрэй быў салдатам і ведаў, як носяць раненых.

Ён узяў у дзеда сякерку, высек дзве сухія лёгкія жардзіны, падгладзіў іх. Да жардзін прывязаў воўчую скуру. Вышлі добрыя насілкі, зручныя для таго, каб несці ў іх Панаса.

Дзеда Талаша і Нупрэя здзівіў Панасаў расказ аб яго вызваленні з астрога. Панасу памог выбрацца з няволі польскі салдат, што стаяў там на варце. Хто ён такі, гэты добры чалавек, Панас не ведае. Салдат разгаварыўся з Панасам, распытаў, хто ён такі, за што яго забралі. Відаць было па ўсім, што ён спачуваў Панасу. І вось, калі ён стаяў на варце ўжо трэці раз і Панас папрасіў яго вывесці на двор, салдат шапнуў яму:

— Пачакай трошкі: я выпушчу цябе потым. А сам аглядаецца. Праз колькі хвілін ён выпусціў Панаса.

— Ідзі, хлопча, і назад не варочайся. Ды глядзі, каб не злавілі, а калі зловяць, то кажы, што ты сам збег. Я потым падыму трывогу, а ты за гэты час пастарайся знікнуць так, каб цябе не знайшлі.

Салдат хваляваўся, а па твары яго было відаць, што ён не жартуе. Было гэта раненька, надосвіці. Праз гадзіну, калі Панас выбраўся, туляючыся, з мястэчка і падыходзіў к лесу, яго аклікнуў польскі дазорца. Ведаючы, што будзе значыць для яго спыненне, Панас задаў такога драпака, што снег курэў пад яго нагамі. Салдат выстраліў некалькі разоў, покі Панас дабег да лесу. Боль у назе Панас пачуў потым, калі ён далёка ўжо быў у лесе.

Панасава апавяданне зрабіла добрае ўражанне на дзеда Талаша і Нупрэя і змусіла зірнуць на польскага салдата іншымі вачыма. Выходзіла, што не ўсе палякі такія жорсткія людзі, як гэта зложылася ў дзедавай галаве, што сярод іх ёсць і добрыя. Але-ж адной дабраты яшчэ малавата, каб дакладна вытлумачыць паводзіны польскага салдата ў дачыненні да Панаса.

— Розныя людзі ёсць і між польскіх салдат, — устанавіў Нупрэй факт.

— Так, — згадзіўся дзед Талаш, — сярод іх ёсць напэўна і такія, што не спачуваюць панам і ваююць супроць сваё волі. Пан ёсць пан, а наш брат просты чалавек, гарапашнік — ён сваю мае думку і свой інтарэс, паляк ён ці немец.

Успомніўся дзеду Талашу і Нявідны. Тое, што тады не ўсё было ясна дзеду з гутаркі Нявіднага, цяпер пачынала даходзіць да свядомасці і розуму.

Дзед Талаш і Нупрэй мелі ўсе падставы адмовіцца

на сённешні дзень ад разведкі мястэчка. Яны змушаны былі задаволіцца тымі весткамі аб палякаx, што перадала ім маладзіца, Балукова жонка, і варочацца назад на Глухі востраў. Другога выйсця не было: не пакідаць-жа хлопца ў лесе або ў чужых людзей, дзе яго лёгка маглі-б выявіць. Вызваленне Панаса з няволі і выпадковае шчаслівае спатканне з ім вырашылі тую задачу, што паставіў сабе дзед Талаш. Калі здарэнне ў Віркуцці парушала маршрут, то вызваленне Панаса парушала ўвесь план паходу. Цяпер усё будзе залежаць ад Букрэя. Калі дзед перадумаў усе гэтыя думкі, то ён прышоў да заключэння, што і ў яго, і ў Букрэя рукі развязаны і што ў іх болей прастору, бо яны цяпер не звязаны пэўным месцам і пэўным планам.

Мерна і плыўка пагойдваюцца саматужныя насілкі, зладжаныя Нупрэем. Дзве пары крэпкіх рук нясуць Панасаляснымі нетрамі, цёмнымі сцежкамі. Панасу добра і выгодна калыхацца ў жолабе воўчай скуры. Ён прыжмурвае вочы, дрэмле і марыць. Для яго гэта незвычайнае становішча, і той факт, што яго нясуць двое мужчын, нясуць як раненага на вайне, ствараае асаблівы настрой і асаблівае адчуванне. Нага яго ные тупым болем, але ён не наракае на гэта, бо гэты боль апраўдвае Панаса ў яго ўласных вачах і дае права яму на тое, каб яго неслі ў насілках. Ён думае аб тым, куды яго нясуць і што ён там убачыць. У яго вачах рысуюцца фігуры грозных ваяк, чырвонаармейцаў і партызан, рысуюцца ў такім выглядзе, у такіх спалучэннях, якія ніколі не супадаюць з тым, што дае нам рэчаіснасць. Ён думае і аб сваёй хаце, аб старой матцы, аб Максіму, аб сваіх сябрах. Якіх толькі цікавых гісторый не раскажа ён ім, калі сустрэнецца з імі.

Скрозь галіны лесу свеціцца шэрае, агорнутае вобламі неба. Сон і яў зліваюцца ў адным тлумным шматгранным малюнку маладога жыцця з яго радасцямі і трывогамі і многалучнымі праявамі.

Абуджаецца ён ужо на Глухім востраве. Збоку каля яго шугае агонь. Чыясь руплівая рука ўкрыла яго цёплым футрам. Навокала агню стаяць і сядзяць людзі ў вайсковай адзежы. Сярод іх чарнеюць постаці сялян,

узброеных ваеннымі стрэльбамі. На кароткім тоўстым абрубку сядзіць грамозны шырокі чалавек з светлымі грознымі, жорсткімі вусамі, з буйным рэзкім тварам. Спакойныя шэрыя вочы яго пазіраюць у запісную кніжку, павольна паўзуць па радках запісанага тэксту. Каля яго стаяць двое партызан са стрэльбамі і чалавек без стрэльбы з сякераю за поясам. Шырокі чалавек адрываецца ад кніжкі, падымае спакойныя вочы на чалавека з сякераю за поясам, штось распытвае.

Чалавек адказвае, гаворыць доўга. Шырокі чалавек уважна слухае, потым штось запісвае ў сваю кніжку.

— Ну, як ты пачуваеш сябе? — да Панаса падыходзіць Нупрэй, пазірае на яго з лагоднаю ўсмешкаю, паказваючы цэлы рад белых роўных зубоў.

— Добра, — гаворыць Панас і варушыць раненаю нагою, — я памаленьку ўжо і сам пайшоў-бы.

— Ну, вот бачыш.

Нупрэева ўсмешка яшчэ шырэй рассоўвае чорныя вусы.

— Гэта табе воўчая скура здароўя дала, — смяецца ён.

Іх абкружаюць чырвонаармейцы і партызаны. Цікава паглядзець на хлопца, што быў заарыштаваны палякамі. Панаса закідваюць пытаннямі. Ён не ўпраўляецца адказваць на іх. Ды пытанні і заўвагі часам такія, што на іх не канечна і адказы даваць.

Уся гэта абстаноўка для Панаса нязвычна, і ён адчувае сябе крыху не па сабе сярод тлумнага зборышча дарослых людзей. Ён шукае вачыма бацьку, але дзеда Талаша тут не відаць. Нарэшце да Панаса падыходзіць шырокі чалавек з жорсткімі вусамі. Ён скончыў гутарку з чалавекам з сякераю і палажыў у кішэню запісную кніжку.

— Ну, маладзец, як пажываеш? — пытае Панаса.

— Нічога, добра.

Панас стараецца быць чалавекам смелым.

— Малайчына, — хваліць яго Букрэй, — ты павінен цяпер быць хвацкім салдатам... Хочаш ваяваць?

— Хачу, — храбра заяўляе Панас.

— Казак хлопец!

Букрэй разгаварыўся з Панасам, распытваў яго, як

паводзілася ў палякаў, што ён чуў там і бачыў. Панасу лёгка было адказваць на запытанні грознага на выгляд дзядзькі з жорсткімі вусамі: гэты дзядзька ўмеў стаць на роўную нагу з Панасам, умеў сказаць трапны жарт і развесяліць хлопца.

— Ну, адпачывай, дружа, ды папраўляйся: моцныя людзі доўга не хварэюць, — сказаў ён, пагутарыўшы з Панасам.

Панаса накармілі і далі яму спакой. За ім даглядаў Нупрэй, за якім пачынала замацоўвацца слава доктара і санітара.

Дзеда Талаша і сапраўды не было тут.

Дзед Талаш трымае ў памяці свае словы. Сёння вечарам сходзіць тэрмін — ён павінен быць каля Доўгага Брода, як было дамоўлена з Мартынам Рылем. Цяпер дзед Талаш — вольны казак. Ён пазбыў свой цяжкі клопат, і яго бацькава гора абярнулася ў радасць: ён знайшоў свайго сына і даручыў яго надзейным людзям.

З ведама Букрэя ладзіцца дзед Талаш у свой паход к Доўгаму Броду. Людзі яму непатрэбны сёння, і ён мяркуе пайсці туды адзін, каб не турбаваць людзей. Але з ім самі выклікаюцца Куприянчык і Аскерыч, яго верныя ваякі. Тлумачаць гэта тым, што аднаму чалавеку не выпадае цягацца ўночы. Апроч таго, ім хочацца пабачыць Мартына Рыля і яго карабін, хоць пра гэта яны не гавораць.

Ужо ноч густа спусціла свае шаты на лясы і балоты зацятага ў сваёй знямеласці Палесся, калі дзед Талаш і яго спадарожнікі прышлі к Доўгаму Броду. У дзеда Талаша была раней думка захапіць з сабою воўчую скуру: дужа было-б цікава падаць умоўлены знак іменна ў воўчай скуры. Дзед Талаш любіў эфектныя сцэны. Але на воўчай скуры ляжаў у насілках Панас, і дзед не хацеў трывожыць сына дзеля эфектнасці моманту, тым болей, што Мартын Рыль мог і не быць.

— Ну, стойце-ж, мае сокалы, тут, а я адыйдуся ды клікну маіх ваўкоў, — сказаў дзед Талаш і пайшоў далей.

Адышоўся дзед крокаў на пяцьдзесят, спыніўся, ссунуў з ілба шапку, паставіў кулак на кулак, зрабіўшы з іх

трубу, кашлянуў, прыгнуўся і завыў у кулакі, завыў наўперад ціха, тоўста, а потым выццё яго мацнела і павышалася ў сваім тоне, а разам з гэтым паволі разгінаўся дзед Талаш, падымаў кулакі і галаву ўсё вышэй і вышэй і, нарэшце, усю гэту музыку скончыў страшным жудасным завываннем.

Трудна было паверыць, што гэта быў дзед Талаш, а не воўк.

— Ну, і аматар,— дзівіўся Купрыянчык.

— Тфу, проста вусцішна! — азваўся Аскерыч.

Трошачкі счакаўшы, выццё, яшчэ болей жудаснае, паўтарылася зноў, а хвіліны праз дзве завыў дзед і ў трэці раз, ды так ужо завыў, што Купрыянчык з Аскерычам толькі ахнулі.

Як толькі скончыў дзед Талаш свой трэці воўчы вой, раптам непадалёку збоку грымнуў дружны магутны залп, перапалохаўшы сваёю неспадзяванасцю дзеда Талаша і яго ваяк: Мартын Рыль таксама любіў эфектныя сцэны. А праз хвіліну з мроку выплыла яго высокая постаць, а за ім цэлая чарада абаружаных людзей.

## XVIII

Партызаны-разведчыкі сабралі дужа шмат важных вестак аб размяшчэнні часцей польскага войска, аб яго канцэнтрацыі. Усе гэтыя весткі Букрэй акуратна запісваў. На падставе іх можна лёгка разгадаць, на якія пункты накіроўвае польскі штаб свой галоўны ваенны ўдар.

Букрэеўская разведка таксама ўстанавіла, які настрой пануе сярод сялян, акупаваных палякамі вёсак. Яркі малюнак гаспадарання польскай ваеншчыны падаў Мартын Рыль і яго дружына — шэсць чалавек, якія ахвотна паўсталі на абарону інтарэсаў беднаты. Ён расказаў аб наездзе палякаў на Вепры, дзе ён сам быў сведкаю, як на яго вачах забілі Кандрата Буса, за якога ён папомсціўся, забіўшы аднаго польскага салдата і раніўшы другога. Ён расказаў аб спаленых будынках сялянскай беднаты, аб здзеках, што чынілі польскія капралы над старымі людзьмі, над жанчынамі і дзецьмі, чые бацькі выступалі супроць паноў. Беднаце няма куды

дзецца. Яна змушана бегчы ў лес. Што ёй астаецца рабіць? Скарыцца перад панскаю уладаю і налажыць зноў ярмо на свой карк? Не, лепей са зброяй у руках ваяваць за сваё права быць вольнымі, біцца за інтарэсы гарапашнікаў. Лепей загінуць у змаганні за сваю волю, за права будаваць сваё жыццё па-свойму, чым прызнаць панскую ўладу і панскую волю.

— Добра гаворыш, голубе! Праўду гаворыш! — падтрымаў свайго паплечніка дзед Талаш, — не будзем пакарацца панам. Не туды ідуць нашы дарогі, не ў тыя лясы глядзяць нашы вочы. Давайце, сябры, крэпка трымацца адзін аднаго. Няхай кожны з нас збярэ каля сябе дружыну адважных людзей. Нечакана, раптоўна будзем біць гвалтаўнікоў. Порахам, кулямі будзем частаваць няпрошаных гасцей.

Пасля дзеда Талаша выступаў чалавек з сякераю за поясам, немалады, сутулаваты, з даўно нябрытым тварам. Цёмнасінія вочы яго глыбока запалі ў лоб. На тонкіх сціснутых губах прабягала часамі горкая ўсмешка. Чалавек гэты зазнаў у жыцці многа крыўды і гора. Гэта Цімох Будзік з вёскі Карначы. Яшчэ пры цару яго засудзілі на два гады арыштанцкіх рот за падпал панскай стадолы. А з панам у яго выходзілі нелады на грунце сервітутных спраў. За розныя дробныя праступкі ў парушэнні маёмасных адносін яго судзілі і штрафавалі. Цімох не мог знайсці нічога лепшага, як падпаліць панскую стадолу. Адбываючы арыштанцкія роты, ён каяўся, чаму падпаліў стадолу, а не панскі дом або клуню. Цяпер усе яго грахі прыпомніліся яму, і яго зноў сталі цягаць і калаціць. Цімох і цяпер прытрымліваецца старых спосабаў помсты і змагання, ён жыве думкамі аб падпале панскіх маёнткаў, і ён носіць у сваёй галаве шырокія планы падпалаў. Сустрэўшыся ў лесе з партызанамі дзеда Талаша, ён заявіў аб сваім жаданні далучыцца да партызанскага руху і шырока разгарнуць работу па часці падпалаў.

— Казалі — бальшэвікі робяць непадобныя справы, забіраюць набытак, дабро, — так пачаў Цімох Будзік. — Мы ведаем, як бралі і як бяруць бальшэвікі. Яны бралі панскае дабро, дабро заможнікаў. Ды ці гэта іхнімі рукамі прыдбана яно? Мы здабывалі яго сваімі гарбамі.

І большэвікі аддавалі яго таму, хто век працаваў, ды не меў нічога. А цяпер што робіцца? Вярнуліся паны з сваёю чэляддзю, пачалі заводзіць свае парадкі, ды яшчэ горш за царскія. Войтаў, солтысаў пазаводзілі. А там, дзе раней быў адзін ураднік, цяпер дзесяць жандараў паставілі на нашу галаву. Навалілася на мужыцкія гарапашніцкія плечы ненаедная саранча, выбіваюць духі, апошні скарб вытрасаюць. Вы паглядзіце, грамада, што робіцца па вёсках. Узброеныя польскія шайкі наязджаюць з кулямётамі, выбіваюць мужыцкі скарб і ўсякую жыўнасць. Мы тут гаворым, а па дарогах з вёсак снег пад палазамі рыпіць, стогне і плача сялянскім плачам. Сваё-ж дабро самі сяляне вязуць, паганяюць коні, а саміх іх падганяе панскі бізун. Хіба-ж можна далей цярпець? Няма ў іх літасці да нашага брата. Дык няхай-жа, браткі, і ў нас не будзе літасці да іх. Біць, знішчаць, паліць іх трэба пякучым агнём пажараў!

Будзік дужа маляўніча распісваў учынкі палякаў у часе іх наездаў на вёскі, што вельмі часта практыкаваліся імі для пабораў, выбівання гвалтам рознай даніны з сялян. Ён яшчэ болей разагрэў дух помсты і змагання супроць палякаў і польскай улады. Вось чаму і чырвонаармейцы, і партызаны дружна прынялі Букрэеў загад зрабіць напад на палякаў, што, як сведчылі сабраныя весткі, завітаюць у вёску Ганусы для чарговага збору сялянскага скарба.

Букрэй, начальнікі аддзяленняў, дзед Талаш, Мартын Рыль, Купрыянчык і Будзік устроілі цэлую нараду, каб падрабязна абмеркаваць план нападу. Прыняўшы пад увагу невялікую колькасць людзей і факт знаходжання на тэрыторыі, занятай палякамі, на нарадзе пастанавілі не ўвязвацца ў адкрыты бой, а зрабіць напад нечакана ў дарозе, калі палякі ўжо будуць варочацца з награбленым дабром.

— Таварышы! рыхтавацца ў паход, — перадавалі адзін аднаму чырвонаармейцы і партызаны.

Раненька, надосвіцы, выслалі разведку ў вёску Ганусы. Да Ганусаў ад Глухога вострава было кіламетраў пяць на ўсход — у бок пазіцыі Чырвонай Арміі. Дзед Талаш меў падставу не браць удзелу ў гэтым паходзе: пад яго

апекаю быў Панас. Але ён даручыў Панаса Нупрэю і Кандрату Кругламу з Высокай Рудні. Панас адчуваў сябе добра і казаў, што ён ужо можа хадзіць, і яму дужа хацелася астацца пры войску.

— Адпачынь, брат: няхай загоіцца нага, а паваяваць ты яшчэ паспееш, — сказаў Букрэй.

Нупрэй і Круглы з Панасам накіраваліся на Высокую Рудню. У Гударовым лагу яны павінны былі чакаць букрэеўцаў і дзеда Талаша. Дзед Талаш лічыў сваім абавязкам не пакідаць Букрэя і партызан, і ён цвёрда паставіў падпарадкаваць свае асабістыя інтарэсы інтарэсам агульным.

Паход на вёску Ганусы ставіў пытанне аб назначэнні асобнага начальніка для партызан: іх было ўжо каля двух дзесяткаў. Фактычна дзед Талаш лічыўся іх правадыром, толькі юрыдычна не было гэта аформлена. У сувязі з гэтым стаяла і другое пытанне: як назваць начальніка партызан?

— Ну, хлопцы, вам трэба абраць атамана! — звараючыся так да партызан, Букрэй прадрашаў пытанне аб назве начальніка.

— Атамана, атамана абраць! — падхапілі партызаны.

— З свайго боку, таварышы, я параіў-бы вам абраць нашага бацьку, дзеда Талаша, ён чалавек змыслы, хітры, асцярожны, але рашучы і смелы і чалавек паважаны. Я прыглядаўся да яго і кажу: начальнік ён будзе кругом на сто дваццаць.

— Абярыце каго маладзейшага і болей спрактыкаванага ў ваеннай справе, — заявіў дзед Талаш.

— Дзед Талаш!

— Дзеда Талаша! — дружна, як адзін, падалі голас партызаны.

— Няхай дзед Талаш будзе атаман наш! — сказаў хтось нават у рыфму.

Дзед Талаш расчуліўся. Зняў шапку. Жаўтавата-белая лысіна яго бліснула, як сонца. Куртаты, шыракаваты на канцы і трохі задзёрысты нос яго падняўся ўгору і апусціўся ўніз.

— Дзякую вам, голубы мае. Яшчэ раз скажу: абярыце каго-небудзь болей вартага, чым я.

— Талаш, Талаш атаман! — яшчэ грамчэй крыкнулі партызаны.

Дзед яшчэ раз зняў шапку. Другі раз пакланіўся.

— Я буду, таварышы, старацца за вас, за кожную кроплю вашай крыві буду дрыжаць. Будзем стаяць адзін за аднаго. Справа-ж наша — біць гвалтаўнікоў. Ніякай літасці да паноў. Але-ж паслушэнства павінна стаць нашым законам. Я буду слухаць ваш голас, а вы павінны слухаць мяне, бо іначай не будзе ладу.

— Праўда, — пацвердзілі партызаны.

— Дысцыпліна — першая справа,— заўважыў Букрэй.

— А сваім памочнікам дазвольце абраць мне Мартына Рыля, — звярнуўся дзед да партызан.

— Дазваляем.

Вось як дзед Талаш стаўся партызанскім атаманам.

Раніцаю, як толькі-толькі пачынала займацца на свет, усё войска рушыла ў паход. Сувязь паміж разведчыкамі і галоўнаю калонаю падтрымлівалі партызаны. Першае данясенне разведкі прышло гадзіны праз дзве. Разведка данесла: у вёску Ганусы прыехала дваццаць чатыры коннікі і дзве фурманкі з кулямётамі. У букрэеўцаў кулямётаў не было. Чырвонаармейцы былі пры вінтоўках і з ручнымі гранатамі.

Ціха, бясшумна прасоўваўся Букрэй і партызаны, трымаючы кірунак на дарогу ў Ганусы. Настрой быў узняты, асабліва сярод партызан, якім упершыню прыходзілася стыкнуцца з польскім войскам са зброяй у руках.

Пільнасць чырвонаармейцаў і партызан стала яшчэ большаю, калі падышлі яны да краю лесу, дзе пачыналася ўжо ганусанскае поле, і сама вёска вырысоўвалася шэрымі плямамі сваіх уросшых у зямлю будынкаў на белым снежным фоне. За вёскаю выступаў хмыз журботнымі постацямі аголеных кустоў, а за хмызам сінела сцяна высокага лесу.

Букрэй аддаў загад расставіць ланцуг дазораў для нагляду за вёскаю. Палякі, як данеслі разведчыкі, таксама паставілі варту на ўсход ад вёскі: адтуль спадзяваліся яны небяспекі — у тым баку былі пазіцыі Чырвонай Арміі. Яны ніяк не чакалі, што гэта небяспека іх можаналучыць з тылу, з заходняй часткі вёскі, дзе і спыніліся чырвонаармейцы і партызаны.

Букрэй, дзед Талаш і Мартын Рыль уважна агледзелі мясцовасць і выбралі пазіцыю. Пазіцыя знаходзілася на ўскрайку лесу, там, дзе дарога сціснута з двух бакоў цёмнаю кучмаю хвой і ялін. На балоце паабапал дарогі раслі кусты лазы і алешніку. Каб яшчэ больш сцясніць пазіцыю і не даць палякам разгарнуцца для бою, Букрэй загадаў заваліць дарогу за грэбляю, каб конніца не магла праскочыць. Чырвонаармейцы і партызаны так замаскаваліся, што іх нельга было згледзець з дарогі, як ні ўглядайся па баках.

Падрыхтавалі пазіцыю, размеркавалі на ёй байцоў, заняўшы два бакі дарогі і пераняўшы яе трохі далей, у лесе, і сталі падкаравульваць палякаў. Марудна і напружана праходзілі хвіліны чакання. Букрэй і атаман дзед Талаш абходзілі пазіцыю, правяралі начальнікаў звенняў і кожнага байца, звараючы ўвагу на вытрыманасць, спакой і строгае выкананне каманды. Без каманды не падаваць ніякіх адзнак жыцця.

Дзед Талаш хваляваўся глыбокім нутраным хваляваннем. Была трывога за лёс гэтай стычкі, дзе ён першы раз будзе браць удзел як баец і як начальнік. Але ён нічым не выказваў свайго пачутку. Яго мыслі цалкам уваходзілі ў гэтую першую стычку з палякамі арганізавана, паваеннаму.

Яму паказалася — частка пазіцыі, што бліжэй да вёскі, слаба насычана байцамі, што палякі там могуць прарвацца і праскочыць: баявая задача заключалася ў тым, каб ніводзін польскі салдат не быў выпушчан. Гэты ўчастак пазіцыі падмацавалі — Букрэй мусіў згадзіцца з дзедавымі довадамі.

Гадзіны ў дзве па поўдні цэлы абоз сялянскіх фурманак, наладованых жыўнасцю, прадуктамі і фуражом, выехаў з вёскі. Абоз расцягнуўся больш як на вярсту. Уперадзе ехала шэсць конных легіянераў. За імі паўзлі дзве фурманкі з кулямётамі, а на іх сядзелі па тры, па чатыры салдаты. Група коннікаў, гарланячы песню, ехала ў сярэдзіне, а рэшта знаходзілася ў хвасце абоза. Чатыры коннікі замыкалі абоз.

Дзіўны і нязвычны малюнак станавіў сабою гэты абоз. Маўкліва і панура сядзелі палешукі ў санях, нехаця паганяючы коні. Некаторыя моўчкі мяліся каля фур-

манак, азіраючыся на лес і на ненавісных легіянераў, гарцаваўшых на конях і палайваючых падводчыкаў. То там, то сям з саней падавала свой праразлівы голас свіння, бляяла авечка. Усе гэтыя тлумныя, рознагалосныя гукі зліваліся з адрывістаю песняю салдат і з іх сярдзітымі вокрыкамі па адрасу палешукоў-падводчыкаў.

Галава абоза ўжо мінала грэблю, паабапал якой залеглі партызаны і чырвонаармейцы. Здавалася, абоз пройдзе спакойна і нічога не здарыцца. Партызаны сударажна сціскалі стрэльбы ў руках, гатовыя паслаць кулю ў польскага салдата. Але яны чакалі каманды. І раптам, здрыгануўшы паветра, уперадзе пачуўся гук, нібы ляснуў пярун. Гэта гранатчыкі кінулі гранаты ў пярэднюю групу коннікаў. У той-жа момант грымнуў залп у хвасце абоза. Паніка, мітусня, суматоха паднялася ў абозе. Коні папудзіліся, крута рванулі, хто куды, кінуліся ў хмыз, імчачы за сабою перакінутыя на бок або палазамі дагары сані. Залп у цэнтры абоза падняў яшчэ большы перапалох і хаос. Тут была самая большая група коннікаў, тая самая, што спявала песню. Людзі, ездакі і салдаты, жывёла, выкінутая з саней, качаліся на снезе. Адзін коннік, астаўшыся на кані пры хвасце абоза, кінуўся ў лес. Наперарэз яму, як з-пад зямлі, выскачылі партызаны пад камандаю Мартына Рыля і штыхамі перагарадзілі дарогу. Конь захроп, падняўся на задніх капытах. Спрытны наезнік, як уліпшы да сядла, выхапіў з гарачкі шаблю і замахнуўся на Рыля. Мартын карабінам адвёў удар шаблі. Будзік, аказаўшыся тут, як кот, падскочыў ззаду, схапіў конніка за бокі і сцягнуў яго з сядла.

Уся баталія цягнулася некалькі мінут. Большая палавіна польскіх салдат была перабіта, частка была ўзята ў палон, а трох цяжка параненых адправілі назад у Ганусы. Яны раскажуць палякам аб гэтай падзеі, і віна ўсім цяжарам не ляжа на вёску Ганусы.

## XIX

У той-жа дзень даведалася Аўгіня аб падзеях у Веприх. Яшчэ некалькімі днямі раней дачулася яна аб тым, што палякі забралі Мартына Рыля. Сэрца яе зашчыме-

ла, ды каму было сказаць пра гэта? Сталася неяк так, што яна ўхілялася гутарак аб Мартыну Рылю, хоць з сваімі думкамі яна гутарыла аб ім, калі часцей і глыбей, а калі проста так злёгку, з налётам лагодных адчуванняў аб тым, што было калісь. Выкінуць з памяці Мартына або думаць аб ім зусім спакойна, як аб чалавеку, што адышоў ад нас у прошласць, Аўгіня не магла да гэтага часу. Дужа моцна заселі ў сэрцы карані яе першага кахання, каб ад іх не адыходзілі сяды-тады парасткі ціхага жалю, як водгулле смутку аб утраце, якой ужо не вернеш. Часамі толькі з Васілём заходзіла гутарка пра Мартына Рыля. І гутаркі бывалі розныя; часамі ім надаваўся характар лёгкага жарту, а часамі ў яе ўносіўся элемент папрокаў і зайздрасці з боку Васіля. Падставаю для гэтага зазвычай бываў выпадак спаткання Аўгіні з Мартынам і неасцярожна кінуты Аўгіняй погляд яе чараўнічых вачэй на Мартына. Але ўсё гэта мела інтымны характар сямейнага жыцця. Апроч усяго, Аўгіня ўмела накіраваць справу так, што верх заставаўся за ёю. Можа быць у гэтым дапамагалі ёй яе заваблівыя вочы і ўменне глянуць імі так, каб рассеяць усякія падазрэнні наконт яе адданасці і шчырасці. А можа і сапраўды была яна такою ў момант праяўлення яе гэтых эмоцый.

У той прыблізна час, калі Васіль Бусыга варочаўся ад павятовага «камісаржа», дзе ён убачыў арыштаванага Мартына Рыля, і разважаў над пытаннем сказаць аб гэтым Аўгіні ці не сказаць, Аўгіня разважала над пытаннем — схадзіць ёй у Вепры ці не. Ёй хацелася даведацца болей падрабязна, за што арыштавалі Мартына і што яму пагражае.

Яна знайшла прычыну схадзіць у Вепры: ёй трэба было занесці да свае маткі воўны, бо самой Аўгіні ўправіцца з пражаю трудна. У хаце застаўся дзед Купрыян, Васілёў бацька, і дзеці.

Адна акалічнасць балюча адгукнулася ў Аўгініным сэрцы: у Вепрах хадзілі ўпартыя чуткі, што арышт Мартына Рыля стаіць у простай залежнасці ад даносу Васіля Бусыгі. Няўжо-ж Васіль дайшоў да таго, што ўжыў такі спосаб помсты? Аўгіня адчула тут і сваю віну. Яшчэ з першай ночы закралася ў Васіля чорная падазронасць супроць дзявоцтва маладой, увесь яго гнеў і зато-

еная нянавісць скіраваліся на Мартына Рыля. І гэта нянавісць жывілася ў ім двухсэнсоўнымі жартамі і намёкамі з боку таго ці другога прыяцеля. А пастаянным напамінкам пра гэта служыла Алеся, першае дзіця, нібы меўшая падабенства да Мартына Рыля. Васіль ненавідзеў Алесю, хоць адкрыта і не выказваў гэтага. Затое Аўгіня кампенсавала ёй бацькаву халоднасць гарачымі матчынымі ласкамі. У тых разах, калі паміж Васілём і Аўгіняю вынікалі нелады, Аўгіня, на злосць Васілю, сумыслу дэманстравала сваю прывязанасць да Алесі. Звычайна-ж пры іншых выпадках яна старалася гэта рабіць употайку ад Васіля. Хацелася Аўгіні зайсці да Евы, Мартынавай жонкі. Калісь дзяўчатамі яны сябравалі. Але дружба іх раскідалася і не тады, калі Мартын быў нежанаты, а пасля. Хоць на гэтым грунце адкрытых канфліктаў між імі і не бывала, але іх раздзяліла мяжа адчужэння. Ева трымала ў сэрцы затоеную крыўду супроць Аўгіні. Аўгіня чула сваю віну і перад Еваю. Так і не адважылася зайсці да яе. І як было зайсці? Што сказаць? Паспачуваць ёй, што Васіль падкусіў, ды яшчэ як падкусіў Мартына? І якое мае яна, Аўгіня, права непакоіцца за Мартына? Сама-ж яна выбрала Васіля, пагналася на яго багацце. Ну, дык і цешся сваім Васілём і сваім багаццем!

Невясёлая вярнулася Аўгіня з Вепраў, і не было з кім ёй пагаварыць, развеяць непрыемны настрой, што цяжкім туманам віўся каля сэрца. І не выходзіла з галавы думка: няўжо Васіль дапусціўся да таго, што данёс польскай паліцыі на Мартына? Васіль яшчэ не вярнуўся ад пана Крулеўскага. Чаго ён пайшоў туды? Аўгіня не ўваходзіла ў Васілёвы справы, і Васіль не дужа ахвотна раскрываў ёй свае карты. Ён не залазіць у яе дробныя жаночыя справы і лічыць лішнім раіцца з ёю ў сваіх планах і гаспадарскіх меркаваннях. У гэтым сэнсе былі ў яго межы, за якія бабе наогул пераступаць не след. Ставіў-жа ён Аўгіню перад тым ці іншым канкрэтным выпадкам, як перад фактам, які не падлягае ніякаму абмеркаванню, ніякай дыскусіі. Аўгіня не зносіла калатні ў хаце. Яна не любіла надзьмутых і сярдзітых, бо сама была па натуры вясёлая і жывая, а таму часта ўступала, абы было ціха і спакойна ў хаце. Цяпер стан

рэчаў павярнуўся так, што з усёю відавочнасцю сведчыў аб ненармальнасці такіх стасункаў і такіх поглядаў на хатнюю згоду, і ў ёй абуджаўся дух пратэсту.

Дзед Купрыян тупаў на дварэ, прыбіраў клуню, рабіў парадак у хлявах. Старасці ўласціва гэта дбанне аб парадку, аб драбязлівай эканомнасці, ад гэтага старыя людзі бываюць часта бурклівымі. Алеся — ёй было ўжо каля дзевяці гадкоў — сядзела за праснічкаю, завязаўшы чарнявую галоўку даволі замурзанаю хусткаю. Яна прывучалася прасці і смыкала грубыя ніткі кудзелі горшага гатунку, няёмка пакручваючы верацяно і насліньваючы тонкія пальчыкі. Два меншыя хлопчыкі забаўляліся сваімі дзіцячымі гульнямі.

Аўгіня ўвайшла ў хату.

— Прадзеш, мая дачушка? — лагодна, з матчынаю любасцю звярнулася яна да Алесі.

Аўгіня адчула асаблівую ласку да свае дачкі. Алеся ўсміхнулася матцы, — яна ўжо ў хаце недарма есць бацькаў хлеб, — і спасцярожлівымі дзіцячымі вачыма, яснымі і чыстымі, як крыніца на цёмным дне, паглядзела ў матчыны вочы. Ад яе погляду не схавалася затоенае засмучэнне маткі. Але яна нічога не сказала ёй.

Першы раз за гады замужаства акінула Аўгіня крытычным вокам хату свайго мужа. Хата была прасторная і пабудаваная з адборнага матэрыялу. Значную частку хаты займала шырокая прысадзістая печ з ямкамі, пячуркамі, выступамі, карнізікамі і цэлымі катушкамі па баках, дзе хаваліся розныя рэчы хатняга ўжытку. Ад самай печы да процілеглай сцяны раскінуўся шырокі палок, такі шырокі, што на ім можна класціся спаць упоперак. У галавах, як горы, высіліся ёмкія падушкі, зложаныя на дзень суконныя коўдры ў клетку, посцілкі і прасцірадлы хатняга вырабу. Каля печы вышэй палка выступалі даволі шырокія палаці, дзе асталяваўся дзед Купрыян. Над пярэднім краем палка пад столлю быў прымацован акуратны ашэстак, увешаны рознаю адзежаю: новымі кажухамі, чорнымі купленымі, жоўтымі з сваіх аўчын, халатамі, світкамі. Звісаючы з ашэстка, адзежа прыкрывала палок і адгароджвала яго ад хаты. Побач з палком каля сцяны стаяў з гарбатым пакатым вечкам пакоўны куфар, акованы лістовым жалезам. У куфры

хаваліся яшчэ дзявочыя Аўгініны ўборы і дабро, набытае за часы замужаства: палотны, абрусы, настольнікі, ручнікі, хусткі, паясы, кофты і спадніцы.

Гэты куфар асабліва любіла Алеся. Бывала астануцца яны з маткаю ў хаце, адчыняць куфар і пачнуць пераглядаць цікавыя рэчы: пярсцёнкі, што хаваліся ў прыскрынку, дарагія хусткі ў яркія бліскучыя, як агонь, кветкі з ліпкімі доўгімі брыжамі, рознакаляровыя стужкі. Для Алесі збірала маці і хавала гэта дабро, калі яна вырасце вялікаю.

Аўгініна маці не надбала сваёй дачцы столькі дабра, але сёе-тое прынесла яна ў дом свайго мужа. У хаце і ў клеці, у клуні і хлявах дабра было многа, і дабро гэта расло і множылася. Але яно сёння не толькі не радавала Аўгіню, а дакарала і не цешыла.

Тым часам работа ў хаце не чакала. Па прывычцы Аўгіня ўзялася за яе. Трэба было прыгатаваць корму свінням нанач, хлеб расчыніць на заўтра, прынесці вады, дроў накласці ў печ і згатаваць вячэру. Аўгіня пераапранулася ў сваю штодзённую рабочую вопратку.

— Кідай, дачушка, прасніцу. Прынясі дзежку з клеці, няхай прыгрэецца ў хаце, — сказала яна.

Алеся патрошку памагала матцы. Аўгіня хацела аддаць яе ў школу, але Васіль не падтрымаў: Алеся і гэту зіму засталася дома. Цяпер Аўгіня цвёрда пастанавіла вучыць Алесю на другую зіму. Аўгіня была порсткая ў рабоце і адна спраўлялася ў хаце. Сама яна была непісьменная. Падзеі апошніх часоў пахіснулі яе погляд на трываласць пэўнага ладу жыцця. Ці даўно Васіль і сама яна дрыжалі за сваю гаспадарку, за свой набытак? Быў цар, яго скінулі. Была адна рэвалюцыя і новае начальства, усё гэта зноў змянілася. Былі бальшэвікі. Пачалася новая вайна. Прышлі палякі. Але вайна з імі не скончылася, а што будзе далей, невядома. Сённешні Аўгінін настрой быў такі, што яна нічога не мела супроць таго, каб бальшэвікі вярнуліся. Усё-ж свае людзі, а не палякі, што адразу пачалі з арыштаў.

Ужо надвячоркам вярнуўся Васіль Бусыга. Важнасці ў ім было цяпер яшчэ болей, як раніцаю. Пераступіў парог, абабіў снег з закарчанеўшых ад холаду ботаў, акінуў вачыма хату, ці ўсё ў ёй на месцы і ў парадку. Тады

зняў шапку, зірнуў на абразы, як-бы аддаючы святым падзяку за шчаслівы дзень, і потым, важна надзьмуўшы шчокі, — а гэта азначала, што ён трохі ўтаміўся, — стаў распранацца.

Васіль думаў, з чаго разгаварыцца. Выступаць адразу з паведамлення важнай навіны звычайна не практыкуецца. Так робяць дзеці. Людзі дарослыя падаюць сваю навіну з захаваннем пэўнай паступовасці, вылучаюць зручны момант. Хіба ўжо калі навіна экстраная, важная такая, што можа збіць з ног, то тады дарослыя людзі паступаюць па-дзяцінаму. Кінуўшы скосу погляд на Аўгіню, Васіль крыху сумеўся: Аўгіня ўхілялася глядзець у вочы Васілю. Відаць было, яна чымся засмучана і незадаволена. Гэтай акалічнасці Васіль не ўлічыў, і праграма гутаркі, зложаная ў дарозе, такім чынам парушалася.

— Ну, што ў цябе чуваць? — запытаўся Васіль не па праграме.

— Нічога, — даволі суха азвалася Аўгіня.

— Лепей нічога, чым благога, — дзелавіта заўважыў Васіль. Ён яшчэ болей пераканаўся, што Аўгіня чымся незадаволена, і прычыну гэтага незадаволення ён перш за ўсё адчуў у сабе. У чым-жа канкрэтна яго віна? Ён выясніць яе ў далейшай гутарцы. Тым не меней акалічнасць гэта яго трохі расхаладзіла, і праграма яго зусім касавалася, але ён успомніў некаторыя моманты яе і сказаў так, як думаў раней сказаць.

— Ну, Аўгіня, можаш павіншаваць мяне: я — войт.

— А хто гэта войт і хто паставіў цябе за войта? — варожасць пачулася ў голасе Аўгіні.

Такая манера запытання па меншай меры сведчыла аб непавазе да асобы войта і, па-другое, мела ў сабе якбы характар допыту. Не спадабалася гэта Васілю.

— Якая муха ўкусіла цябе сёння?

— Трэба з людзьмі ладзіць, а не з панамі. — Аўгіня на штось намякала. Васіль ускіпеў.

— З якімі гэта людзьмі? Што ты вучыш мяне?

Алеся са страхам зірнула на матку. Дужа баялася яна Васіля, асабліва, калі ўваходзіў ён у злосць. Адчула набліжэнне буры і Аўгіня. Сварыцца яна не любіла, але з свае пазіцыі адступаць не хацела. Яна толькі мякчэй сказала:

— Паны твае ў паветры целяпаюцца. Яны так-жа хутка могуць пакаціцца назад, як і прыкаціліся. А з людзьмі табе жыць трэба. Паслухаў-бы, што людзі гавораць.

— Людзі? Талаш і Рыль? Тфу, твае людзі! Гэтых людзей гуртам ганяюць, як тавар, ды ў астрогі садзяць. Волі захацелі? Якой волі? Свавольства! Блазенства! Грабежніцтва! Але пазатыкаюць ім ненаедныя пасткі, гультаям, галадранцам, як старому разбойніку Талашу.

— А ты будзеш на паноў старацца ды людзей тапіць? — не сцярпела Аўгіня.

Злосна паглядзеў на яе Васіль.

— Не на паноў, а на цябе, курыная твая галава. На сябе буду старацца, на дзяцей, на сумленных гаспадароў... Людзей! Разбойнікаў, а не людзей.

Не па праграме вышла гутарка, і войтаўская годнасць не дужа гладка і зусім без трыумфу ўвайшла ў сваю ўласную хату.

## XX

Не было па глухіх закутках Палесся ні газет, ні тэлеграфаў, ні тэлефонаў, — гэтых здабыткаў людскога розуму, гэтых перадатчыкаў вестак аб падзеях на свеце. Але весткі хадзілі па глухіх палескіх вёсках. Ад чалавека да чалавека, ад сяла да сяла вандравалі яны тысячамі дарог і сцежак і расказвалі аб падзеях, што тварыліся на Палессі, дзе асталяваліся палякі і заводзілі свой парадак. І ўспрымаліся гэтыя весці па-рознаму. Адных яны радавалі і абнадзейвалі, другіх засмучалі і трывожылі, у залежнасці ад таго, хто іх успрымаў і якія былі весці. Па-рознаму ўспрымалі іх Васіль Бусыга і Аўгіня.

Адна з такіх успрынятых па-рознаму вестак была весць аб тым, што грамада арыштаваных сялян раззброіла польскі канвой і разбеглася па лясах. Аўгіня ўжо ведала аб арышце Мартына Рыля. Дачуўшыся аб раззбраенні польскага канвоя, яна павесялела: у яе сэрцы радзілася надзея, што сярод уцёкшых з-пад арышту сялян быў і Мартын Рыль. Васіль Бусыга пахмурнеў: у яго сэрца закралася трывога, ці не было там Мартына Рыля,

ці не на волі цяпер Мартын? Непакоіла яго і тая акалічнасць, што дзед Талаш хаваецца па лясах. Панаса забралі як заложніка, каб дзед Талаш прышоў і замяніў сына. Але дзед Талаш не спяшаецца. Або ён не ведае аб арышце Панаса, або штось тоіць на думках. Васілю, як войту, як чалавеку, што бароніць сваё ўласнае права і сваю волю, трэба аб гэтым падумаць і трэба нешта прыдумаць. Не пашкодзіць можа параіцца з сваімі аднадумнікамі. У гэтым кірунку шаволяцца Васілёвы думкі.

Аўгіня, хаваючыся ад Васіля, зайшла да бабкі Насты пасля таго, як забралі Панаса. Гэта быў якраз той дзень, калі дзед Талаш начаваў тут з Мартынам Рылем, а на досвіцці падаліся ў лес. Бабка Наста сядзела на дубовай калодачцы каля печы, унурыўшыся ў свае нескладаныя, апавітыя журбою думкі. І сапраўды—крыўдна было бабцы Насце: жылі век у беднасці ды хоць спакойна, не ведалі такога ліха, а цяпер яшчэ большая беднасць і разбітае жыццё. Забралі Панаса, хочуць забраць і старога, і як яно што абернецца, невядома. У хаце апроч бабкі Насты нікога не было. Максім і Алена, яго жонка, — яна толькі сёння вярнулася ад бацькоў, — былі на двары, пілавалі дровы. Яны нядаўна пажаніліся, і дзяцей у іх яшчэ не было.

Чаго прышла сюды Аўгіня?

Яна прышла ў няяснай надзеі прачуць што-небудзь з таго, што займала яе мыслі. Ёй хацелася ведаць, чым жывуць, што думаюць гэтыя людзі, да якіх так варожа ставіцца Васіль і людзі яго круга. Не мела пэўнасці Аўгіня ў тым, што выпадкам зложаны стан рэчаў у выніку бурлівага ходу падзей замацуецца. Яна была ў прамежку паміж заможнікамі і беднатою. Матывы асабістага парадку хілілі яе ў процілеглы Васілю бок, асабліва цяпер, калі Васілёва гаспадарка і яго войтаўства, так неасцярожна прынятае, могуць пайсці прахам.

Бабка Наста дужа здзівілася, калі Аўгіня ўвайшла ў хату:

— Дзень добры вам, бабка! — ветла і весела прывіталася Аўгіня. У голасе яе было так многа шчырасці, што бабка Наста крыху заспакоілася.

— Сядай, Аўгінька!





Бабка Наста заварушылася і нават хацела ўступіць Аўгіні сваю калодку.

— Нічога, бабка, я на хвіліну забегла да вас. Прысяду тут.

Аўгіня прысела на палок супроць бабкі Насты.

— Прышла я да вас, бабка, — Аўгіня адразу прыступіла да справы, каб паказаць, што яна сапраўды забегла на хвілінку, — ці не ўзялі-б вы спрасці мне трохі кудзелі? Самой управіцца трудна.

Кудзеля тут была толькі зачэпкаю.

Бабка Наста ўздыхнула.

— Чаму-ж, можна і папрасці. Работы ў хаце няма такой. Ды і Алена вярнулася ад бацькоў, і ёй няма чаго рабіць. Вечары доўгія, і дзень сцягваецца, калі работы няма. Сядзіш вось ды думаеш. Думаеш, думаеш, галава, як кацёл, зробіцца, і не ведаеш, куды падзецца, за што рукі заняць. А тут яшчэ і газа вышла, запаліць няма чаго, і дзе дастаць яе, ліха яе ведае.

Бабка Наста гаварыла доўга і многа. Адно слова чаплялася за другое, адна думка выклікала другую, і хоць моцнай сувязі паміж імі і не было, але гутарка лілася безупынным зацяжным восеньскім дожджыкам. Аўгіня ўважна слухала, ківала галавою ў знак згоды і глядзела на бабку ласкавымі, выразлівымі вачыма. І ёй таксама хацелася гаварыць. А гутарка між жанок — вір слоў, бясконцы паток іх.

— У мяне газы трохі ёсць у запасе. Я вам зашлю праз Алесю. А ўжо аб заплаце мы сойдземся. Ці кудзеллю заплаціла-б вам, ці скаромам.

— Ды ўжо-ж памяркуемся, Аўгінька.

— А што чуваць у вас? — асцярожна, украдліва запытала Аўгіня.

— Ох, любая ты мая! — цяжка ўздыхнула бабка Наста, — такое-ж ужо гора! Ды гэтакае ліха навалілася на нас!

Распачала бабка цэлую доўгую тыраду пра бяду нагул, а потым пачала доўгую гісторыю аб ліху, што налучыла іхнюю хату. Расказала і пра стажок і пра дзедаву бяду, пра ўварванне ў хату сярод ночы палякаў. Як іх тады калацілі, як трэслі! Колькі страху нацярпеліся!

А бедны Панас! Горкі плач перарываў бабчын расказ. Расказала, як арыштавалі Панаса і для чаго арыштавалі яго. Бабка так разгаварылася, што нічога не прапусціла ў гісторыі гэтых ліхіх падзей. Расказала яна і пра тое, што прыходзіў стары Талаш гэтаю ноччу з Мартынам Рылем.

— З Мартынам? — вырвалася ў Аўгіні.

— Ах, міленькія-ж мае! — пляснула рукамі бабка Наста! — а на што-ж я расказала пра гэта? Мая-ж ты, мілая Аўгінька! не кажы-ж ты нікому пра гэта. Не кажы, што яны прыходзілі!

— Не бойцеся, бабка, мяне, дзецьмі прысягну, што нікому не скажу.

— Не кажы, мая любая! Ты-ж — войтава жонка. А войт дабра нам не мысліць.

За бабчыну адкрытасць і шчырасць Аўгіня ад радаснай весці не магла стрымацца, каб не адказаць тым-жа.

— Ой, бабулька Наста: гэта яго войтаўства мне ўпоперак горла стаіць. Пасварыліся з-за яго. Хто цябе, кажу, за войта ставіць? Нашто табе, кажу, з панамі знацца? Табе з людзьмі, кажу, трэба жыць і ладзіць з імі трэба. Не залюбіў. З якімі, кажа, людзьмі? З Талашом? З Мартынам?.. Вы яго асцерагайцеся, бабка: дурны ён і злы чалавек. Дык вось-жа я вас папярэджваю. У Вепрах гавораць, што гэта ён Мартына ўдаў... Але-ж і вы, бабка, нікому-нікому не кажыце, што гэта я вам казала.

Аўгіня, як і бабка Наста, спалохалася, што залішне сказала. У выніку, як і ў алгебры, мінус на мінус дае плюс: гэта лішніца, сказаная з аднаго і з другога боку, прымушала іх маўчаць і ў той-жа час клала пачатак для ўзаемнага давер'я.

Васіль зайшоў да свайго прыяцеля Кандрата Біркі. Бірка добры гаспадар, хоць скупы і зажымісты. Рыжая, як агонь, барада і такія-ж валасы, маленькія хітрыя вочкі сведчылі аб жорсткасці і драпежнасці яго натуры. Сюды падышоў яшчэ і Сымон Бруй, станавіты на выгляд мужык, разважлівы і спакойны. Яны — блізкія прыяцелі між сабою і самыя багатыя людзі на вёсцы. Кандрат і Сымон болей актыўна і жыва адгукнуліся на Васілёва паведамленне аб тым, што ён — войт. Гэта ў значнай ступені падняло Васілёў дух. Яму патрэбна была перш за ўсё нейкая маральная апора і спачуванне, чаго не знайшоў ён

у Аўгіні. А калі Қандрат і Сымон азнаёміліся і з войтавымі абавязкамі, то актыўнасць іхняя і задаваленне з поваду прызначэння Васіля ў войты праявілася яшчэ з большаю сілаю.

Станавіты і разважлівы Бруй урачыста заявіў навапечанаму войту:

— З цябе, брат, належыць фундацыя, — на што Васіль Бусыга выказаў поўную сваю згоду.

Ён нават падміргнуў сваім прыяцелям і таемна прызнаўся, што ў яго ёсць польскі спірытус пад прыгожаю назваю «злоты клос», і запрасіў іх на вечар да сябе.

А пасля ўжо гэтага пачалася гутарка, адпаведная войтавай годнасці.

— Дык значыцца — войт?

У гэтыя простыя словы Қандрат Бірка ўкладаў многа зместу.

— Войт, — важна пацвердзіў Бусыга.

— Раз войт, дык трэба і за парадкам дасачыць, — далучыўся да гутаркі Бруй, — а то ўжо на нашы галавы падымалася даўбежка — свярбелі рукі ў «таварышоў».

Вось тут раптам усердаваўся Қандрат.

— Як ты дасочыш, калі, паміж намі кажучы, польскія салдаты — бабы: ну, як гэта можна дапусціць, каб гэтыя самыя «таварышы» з голымі рукамі абяззброілі канвой? Смех адзін. А вось цяпер ты іх злаві, папрабуй. Пазашываюцца ў лес і ўдзень ты іх са свечкаю не знойдзеш. А яны табе сядзець там будуць?

— І не сядзяць, ужо не сядзяць і не будуць сядзець. А вось прыдзе вясна, тады, брат, разгону ім болей будзе. Разлайдачыліся. Давай ім усё: і зямлю, і гаспадарку. А яна табе, гаспадарка, сама прышла ў рукі? — Разважлівы Бруй сказаў цэлую, усім вядомую прамову на тэму, чаму адны жывуць і хлеб маюць, а другія толькі на чужое дабро раты разяўляюць.

Выслухаўшы прыяцеляў, слова ўзяў сам войт. Ён заспакоіў іх. Страшнага няма нічога ў тым, што канвой абяззброілі. Такія выпадкі бывалі і бываюць, і свет ад іх не пераварочваўся. Але і нам што-колечы рабіць трэба, а не чакаць, покі цябе дзяліць прыдуць.

— Што-ж, нам ці што ў партызаны ісці? — запытаў Қандрат.

Разважлівы Бруй на ляту падхапіў думку:

— А ты кажаш праўду. Не пашкодзіла-б нам сваіх партызанаў мець.

— А ты, Сымоне, праўду кажаш: трэба было-б знайсці чалавека ды падаслаць да іх нібы іх хаўрусніка, — ухапіўся войт за гэту думку.

Прыяцелі знайшлі спосаб. Усім спадабалася такая камбінацыя, і яны сталі падшукваць адпаведнага чалавека. Называлі кандыдатаў. А ў кандыдатах ніколі нястачы не бывае на свеце. Знайшоўся падхадзяшчы чалавек і ў нашых прыяцеляў. Разважлівы Бруй назваў такога кандыдата, а прыяцелі дружна падтрымалі яго. Гэтым кандыдатам аказаўся Саўка Мільгун. Хто-ж такі Саўка, і ў чым яго кандыдацкія вартасці?

Перш за ўсё Саўка Мільгун размашысты чалавек, шырокая натура і гультай. Гаспадаркаю ён не займаўся, гуляў, выпіваў, трохі краў і прыставаў да розных цёмных людзей. Яго можна было наняць на якую хочаш справу. Камбінацыя трох прыяцеляў заключалася ў тым, каб падбіць Саўку за пэўную ўзнагароду звязацца з тулягамі, паўстаўшымі супроць багацеяў, і даваць аб іх інфармацыю. Прасцей сказаць, прыяцелі прызначалі Саўку ролю правакатара і даносчыка.

Як толькі разышліся, па сяле прайшла чутка аб вепраўскіх падзеях. Гэта чутка дужа моцна ўсхвалявала сяло. Але і гэту весць людзі ўспрынялі па-рознаму. Васіль Бусыга адчуў здаваленне. Тая акалічнасць, што палякі спалілі Мартынаву хату, гаварыла за тое, што яны шукаюць Мартына і ўсю кампанію, што была з ім, і помсцяцца за раззбраенне канвоя. У той-жа час на яго павявала непакоем: хто-ж такі той невядомы, хто застрэліў польскага салдата і раніў другога? І яго не злавілі. Можа гэта Талаш? А можа Мартын?

Калі дачулася аб гэтым Аўгіня, то яна моцна затрывожылася. Нашто спалілі Мартынаву хату? Куды-ж падзенецца яго сям'я? За што забілі Кандрата Буса, таго Кандрата, з якім яна калісь дружыла, які любіў яе? Ёй прыпомнілася, як ішла яна з Мартынам з Прыпяці, як сустрэўся ёй Кандрат Бус, і яны пайшлі з ім поруч. Мартын угневаўся і не прышоў да яе. Цяпер усё гэта ўсплыло ў яе памяці, і яна асудзіла свой лёгкадумны ўчынак.

Весць аб смерці Кандрата і аб падпале яго хаты зрабіла цяжкае ўражанне на Аўгіню. Яе цешыла толькі думка аб тым, што нехта невядомы папомсціўся за Кандрата, і яго не злавілі. Хто ён? Можа Мартын з дзедам Талашом? І гэта падобна было да праўды: яны сёння былі тут.

Першы прышоў да войта Кандрат Бірка. У хаце была адна Аўгіня і меншыя дзеці. Аўгіня стаяла каля печы, папраўляла вілкамі дровы. Кандрат паздароўкаўся і запыніўся каля Аўгіні. Ён ніколі не прапускаў здарэння, каб не зачапіць яе.

— Ой, холадна, Аўгінька! Ці няможна пагрэцца каля цябе? — сказаў ён і пасунуў сваю рыжую мардасіну бліжэй да Аўгінінага твару і абняў яе адною рукою.

Аўгіня рэзка павярнулася, хоць і сказала, што любіць рыжых, і вызвалілася ад яго рукі. Яна зараз-жа стрымала сваю рэзкасць і лагодна зазірнула яму ў вочы, зазірнула так, як умела зазіраць яна.

— Бач, які ваяка: на бабу напаў. Ты-б у лес пайшоў ды паваяваў.

Маленькія Кандратавы вочкі замасліліся.

— І зусім не нападаю: дакрануцца да цябе лічу за шчасце... Эх! — змяніў ён рэзка голас. — Ну, каб ты не была войтава жонка!.. войта мне шкада. А ваяваць я не пайду: мы за сябе ваяку паставім.

І расказаў Аўгіні пра камбінацыю з Саўкам. Такой прыгожай жанчыне, ну хоць добраю навіною дагадзіць. Расказаўшы, самазадаволена захіхікаў.

## XXI

Не толькі ў Віркуцці, але і шмат па якіх маёнтках акупаванага Палесся ладзілі паны пышныя банкеты польскаму афіцэрству. Польскае шляхецтва перажывала мядовы месяц адраджэння свае дзяржаўнасці, зварот да жыцця, здзейсненне гадаваных вякамі надзей. І тыя паны, што вярнуліся ў свае маёнткі, адчувалі сябе на сёмым небе і лічылі, што цяпер яны сапраўдныя, настаяшчыя, поўнапраўныя іх уладары. Уся палітычная абстаноўка складалася на іх карысць. Польшча мела сваю армію, узброеную на сродкі Антанты, якая адводзіла Поль-

шчы значную ролю ў вайне з Советамі. Становішча-ж Советаў было дужа цяжкае.

Ім прыходзілася напружваць сілы супроць насядаўшай з усіх бакоў контррэволюцыі ва ўмовах эканамічнай разрухі, нястачы, голаду і цяжкай спадчыннасці, пакінутай царызмам. Усё гэта палягчала задачу польскай ваеншчыне і жывіла надзеі польскай буржуазіі на перамогу ў вайне з Советамі.

Следам за польскай арміяй ціснулася цэлая хваля буйнай і дробнай шляхты, выгнанай рэволюцыяй з іх котлішч, прадстаўнікі рэлігійнага культу і цэлая псарня іншых дармаедаў і паразітаў. І для ўсёй гэтай грамады ўзаконеных марадзёраў трэба было знайсці і месца і размеркаваць ролі. На гэты раз «ужондзіць» банкет узяўся павятовы «камісарж» пан Крулеўскі. Банкету надавалася спецыяльнае значэнне. Ладзіўся ён не толькі для таго, каб пагуляць і павесяліцца польскай шляхце разам з афіцэрствам: банкету прызначалася і іншая роля.

Маёнтак пана Длугошыца адзін з пышнейшых у павеце. Гэта — котлішча старога польскага рода. На працягу вякоў пераходзіла яно ад бацькі да старшага сына, пераходзіла, як умацаваная, вякамі непарушная спадчыннасць. І толькі пры апошнім уладару, пры пану Лявону Длугошыцу захісталася гэта спадчыннасць ад подыхаў вялікай рэволюцыі. Пан Длугошыц змушан быў пакінуць свой маёнтак і падацца глыбей на захад. Цяпер пан Длугошыц вярнуўся ў сваё радавое гняздо, вярнуўся, як чалавек, які тапіўся і якога адратавалі ад смерці.

Даволі было аднаго толькі абеглага погляду на палац, на дваровыя будынкі, на ўвесь маёнтак у цэлым, каб адразу ўбачыць, што гэта — старасвецкая рэзідэнцыя багатай, радавітай польскай фаміліі. Таўшчэразныя таполі і разложыстыя ліпы пышным вянком абкружылі панскую сядзібу. На ўзвышку, атулены густым садам з шырокімі прагаламі, дзе разлегліся прасторныя, роўныя дарожкі, стаяў мураваны белы палац, высока ўзняўшы над садам сваю чатырохкантовую вежу, аздобленую рознымі скульптурнымі ўкрасамі. Горда і пыхліва выступаў ён з цэлага лесу купчастых дрэваў і стромкіх таполяў сваёю вежаю, масіўнымі белымі сценамі і чырвоным чарапічным дахам. У самым палацы, у яго шматлікіх пакоях, пра-

сторных залах, дзе можна размясціць сотні народу, сабраны дабро і раскоша, скрозь якія прабіваліся людскія слёзы, гора і пакута. Шмат чаго з гэтага дабра страцілася за часы рэволюцыі, і пан Длугошыц, вярнуўшыся з выгнання, паставіў на ногі цэлы штат прыслужнікаў, каб знайсці і сабраць расцягненае дабро ў скарбніцу фамільнага палаца. З гэтых палацаў разыходзіліся ніці нянавісці і злобы да паўстаўшых «хлопаў», у гэтых палацах завязваліся вузлы змагання супроць новых асноў жыцця, заложаных Кастрычніцкай рэволюцыяй. У гэтым-жа палацы рыхтаваўся цяпер пышны банкет у гонар польскай дзяржаўнасці.

Зазіхацелі, загарэліся яркімі агнямі вокны палаца пана Длугошыца, узіраючыся ў цёмныя закуткі двара і ў панурыя лясы і балоты стоенага ў сваёй трывожнай маўклівасці Палесся. Вечарам, калі на лясы і балоты густа пасунулася цемра, пачалі з'язджацца госці. Як звычайна вядзецца ў такіх разах, першымі з'яўляліся меней значныя асобы, уласнікі дробных фальваркаў, арандатары маёнткаў з сваімі жонкамі і дочкамі, у каго яны былі. Усё, што было лепшага для выезду на такую ўрачыстасць, надзявала шляхта на сябе і на сваіх коней. Слугі збіваліся з ног, прымаючы гасцей і прыбіраючы іх вазкі.

Пан Длугошыц, кожны раз сустракаючы новага госця, выказваў усе адзнакі гаспадарскай радасці і шляхетнасці: кланяўся, ветліва паціскаў руку, кідаў тую ці іншую фразу, адпаведна выпадку ці асобе госця.

Склад гасцей быў даволі стракаты і рознастайны. Тут былі абшарнікі розных катэгорый, арандатары і проста дробная шляхта, а таксама і прадстаўнікі інтэлігенцкіх прафесій, дактары і адвакаты. Вельмі заметную частку гасцей складалі вайскоўцы, дзе былі прадстаўлены ўсе іхнія катэгорыі, пачынаючы ад ніжэйшых афіцэрскіх чыноў і канчаючы генераламі. Быў тут і палкоўнік пан Дэмбіцкі. Сярод ваеннай і цывільнай публікі мільгалі таксама і постаці ксяндзоў у доўгіх сутанах. З прычыны важнасці і ўрачыстасці палітычнага моманту «свентыя ойцы» дазволілі сабе некаторую вольнасць, з'явіўшыся на банкет. Таксама адступалі яны і ад правіл ксяндзоўскага статута ў дачыненні да жанчын, выказваючы сябе

болей кавалерамі, чым служкамі пана бога. Праўда, паненкі і маладыя дамы ахвотней гарнуліся да вайсковых. Яно і не дзіва: ужо адна вопратка іх і асабліва становішча, як ваяк, здабыўшых і здабываючых польскую вольнасць і незалежнасць, вельмі выгодна вылучала іх у вачах маладых шляхцянак. Затое-ж трохі паблеклыя пад уплывам часу дамы кружыліся каля ксяндзоў, як мухі перад дажджом каля гаршкоў, з якіх нядаўна вылілі зацірку і не паспелі яшчэ вымыць і вышараваць рагожаю.

За нядоўгі час сам сабою зрабіўся адбор гасцей, іх натуральны падзел на групы. У кожнай групе былі свае спецыфічныя інтарэсы і тэмы гутарак, хоць усе яны вяліся пад лозунгам маладой польскай дзяржаўнасці і яе гістарычнай місіі. Адно толькі моладзь — паненкі, панічы і маладое шыкарнае афіцэрства — з'яўлялася ў значнай ступені аўтаномнай ў гэтым сэнсе, аддаўшыся цалкам парывам радасці нестрыманых хваль свае моладасці. Несціхана грымеў ваенны аркестр. Бурныя польскія танцы змяняліся адны другімі. Паненкі і маладыя дамы стараліся перашчагаляць адна другую прыгожаствам, далікацтвам рухаў, чароўнасцю сваіх дзявочых усмешак і вабнасцю погляду сваіх вачэй. Кавалеры вылузваліся са скуры, каб звярнуць на сябе агульную ўвагу і закасаваць усіх іншых. Якіх толькі талентаў не было выяўлена тут. Якіх толькі штук не выраблялі яны. Як хораша выкідвалі ногі, як лоўка тупалі, падскаквалі, а як хвацка кружылі сваіх дам. Як спрытна насілі іх на паветры і раптам прысядалі перад імі на адно калена, каб гэтак-жа раптоўна падняцца і да канца выпаўняць сваю місію.

Каля палкоўніка пана Дэмбіцкага згуртавалася цэлая грамада гасцей. Тут сядзіць і пан Длугошыц, чалавек сярэдняга века. Усё яго аблічча паказвае на арыстакратычнасць яго рода. Ён салідны і павольны, ва ўсім захоўвае меру і пачуццё свае годнасці. Ксёндз Ксаверы Пацейкоўскі і Ян Галандзеўскі таксама людзі паважныя, дыпламаты, хітрыя палітыкі і людзі пранырлівыя, заўзятыя патрыёты. Болей думаюць і дбаюць аб справах людскіх, чым аб інтарэсах боскіх. Тут-жа сядзіць і павятовы камісарж пан Крулеўскі, адвакат пан Ладунскі і некалькі дробных панкоў, яшчэ не паспеўшых дайсці да сваіх маёнткаў — маёнткі гэтыя яшчэ не заваёваны.

Наўперад гутарка датыкалася чыста ваенных тэм. У цэнтры ўвагі палкоўнік пан Дэмбіцкі. Яго слухаюць з напружанаю ўвагаю і з вялікім нацыянальным самазадаволеннем. Палкоўнік пан Дэмбіцкі расказвае пра розныя аперацыі ў вайне з большэвікамі, у якіх яму, як кіраўніку і начальніку штаба дывізіі, прыходзілася браць непасрэдны ўдзел. Былі крытычныя моманты, і толькі ўмяшанне пана Дэмбіцкага, яго надзвычай смелыя і, можна сказаць, геніяльныя манеўры вырывалі кожны раз перамогу з рук большэвікоў. Расказваючы, пан Дэмбіцкі рысуе на стале пальцамі, паказвае пазіцыі чырвоных, іх прасоўванне наперад і тое месца, адкуль ён пасылае свае рэзервы і б'е большэвікоў.

— А як пан палкоўнік глядзіць на далейшы ход ваенных падзей? — пытае пан Длугошыц, важна падпёршы рукою гладка выбрытую бараду. На яго твары, як і на твары іншых слухачоў, блукае радасная ўхмылка.

— Попэндзім, пся крэв, аж до Смоленска, — пыхліва сцвярджае пан палкоўнік і даводзіць гэта дзесяткамі розных меркаванняў. Перш за ўсё Польшча — яшчэ някранутая маладосць, у ёй яшчэ дрэмлюць вялікія мажлівасці. Цяпер-жа яна — жывы парыў, энтузіязм. Палякі — самы ваяўнічы, самы здольны да вайны народ. Ян Сабескі, Стэфан Баторый, Касцюшка, маршал Пілсудскі — хіба мала гавораць гэтыя імёны? Сіла Польшчы — яе дэмакратызм, якога не ведае ніводзін народ.

Сам пан Дэмбіцкі і яго слухачы падвялі пры гэтым вочы на суб'екта, што сядзеў у іх кампаніі, але не зусім падыходзіў да яе. Ён слухаў гутарку паноў і ў той-жа час трымаў на рэчы свой погляд, хоць і не выказваў яго. І сваім абліччам, і ўсёю сваёю постаццю, і манерамі трымацца, і нават складам сваіх мысляй чалавек гэты вылучаўся з панскай грамады. Сярэдняга росту, шырокі і прысадзісты, ён усім сваім выглядам сведчыў аб дэмакратычнасці свайго паходжання. Невялікія ўдумлівыя шэрыя вочы яго пазіралі кудысь унутр. Яго мыслі, хоць марудна і павольна, вялі нейкую сваю работу. Але не ўсё з таго, што ён думаў, выкладаў ён перад сваімі слухачамі. Чалавек гэты вёў нейкую прыхаваную палітыку. На выгляд яму было гадоў трыццаць. Яго прозвішча — Галініч.

Выразны позірк, кінуты панамі на Галініча, прыму-

шаў яго так ці іначай азвацца на словы пана палкоўніка аб вялікім польскім дэмакратызме.

— Мы, беларусіны, дужа ўлічваем, панове, дэмакратычнасць польскага народа, — азваўся Галініч, — і не толькі ўлічваем, але і высока цэнім яго. Вось чаму мы і звязваем лёс беларускага народа з лёсам вялікай польскай нацыі, бо і ў мінулым іх лёсы былі аднакія. Не на азіяцкую бальшэвіцкую Маскву, а на дэмакратычную еўрапейскую Варшаву арыентуемся мы.

— Натуральна жэч! — пацвердзіў ксёндз Галандзеўскі.

Панам Длугошыцу, Дэмбіцкаму і іншым панам не дужа спадабалася, што Галініч ставіць на адну роўніцу польскі народ з беларускім. Такое суседства двух народаў за сталом жыцця ім было проста не пад гонар, але, як хітрыя палітыкі, нічога аб гэтым не сказалі, а толькі кіўнулі галовамі. Галініч-жа, каб аддзякаваць ксяндза Галандзеўскага, дадаў:

— Нават той факт, што першыя беларускія часопісы «Наша доля» і «Наша ніва» падтрымліваліся польскаю грамадскасцю і паважаным каталіцкім духавенствам у першую чаргу, тады, як ніводзін прадстаўнік праваслаўнай царквы іх не выпісваў, выразна гаворыць за тое, ад каго мелі мы спачуванне ў сваім імкненні да адраджэння беларускага народа і яго культуры.

Ксяндзы і польскае грамадства скромна апусцілі вочы. У заключэнне Галініч даў абяцанне падтрымліваць палякаў у змаганні з бальшэвікамі вострай зброяй слова, паколькі беларусы іншай зброі не маюць: фармаванне спецыяльнага беларускага войска знаходзілася яшчэ ў стадыі свайго зачатку.

Паны выказалі сваё задаваленне дэмакрату Галінічу. Але ў паноў ёсць усё-ж некаторая доля непакою. Яна гучыць у запытанні пана Крулеўскага.

— Але, пся крэв, хлопы не заспакоёнэ. Цо то бэндзе?

Пан Дэмбіцкі злёгку нахмурыўся.

— А то, пане, глупство! — зняважліва кідае ён. Непрыемна было наогул у такі ўрачысты момант гаварыць пра хлопаў, тым болей непрыемна, што «хлопы» хаваліся па лясах. Гэтая акалічнасць міжволі нагадвае па-

нам іх уласнае тулянне ў часе мецяжу, калі яны самі шыбавалі «до лясу».

— То не ест глупство, пане пулковніку! — асцярожна запярэчыў пану Дэмбіцкаму адвакат Ладунскі. — Я баюся, што недаацэнка сілы «хлопскага» руху можа прычыніць нямала непрыемных неспадзяванак. Сялянскія паўстанні — гэта адгаліненне таго-ж большэвізма, таго-ж самага цёмнага пачатку, што ёсць унутры чалавека і асабліва ў натуры нізавых мас. Пад сцягам большэвізма і пад непасрэдным кіраўніцтвам большэвікоў вядуцца паўстанні хлопаў, і ў гэтым іх небяспека. У чым сіла большэвізма? У яго лозунгах і закліках да разбурэння. Большэвікі дасканала ведаюць натуру галатвы і апелююць да яе цёмных пачаткаў.

— А! — азваўся адзін з абшарнікаў, — пан Ладунскі напалохан большэвікамі, і ён лічыць іх за вялікую сілу.

А музыка грымела. Весялілася шляхецкая моладзь. А калі нагуляліся і нагаварыліся, госці селі за стол. Шумны, пышны быў банкет у палацы пана Длугошыца пад аховаю батальёна польскіх салдат. Агалашаліся патрыятычныя тосты. Крычалі «віват» польскай дзяржаве, маршалу Пілсудскаму, польскаму войску ў асобах генералаў і пана Дэмбіцкага, гаспадарам, духоўным асобам, найпрыгажэйшым польскім жанчынам.

## XXII

Дагаварыцца аб справе з Саўкам Мільгуном узяўся разважлівы Бруй. Ён выбраў зручную часіну і вечаркам, на змярканні, накіраваўся ў Саўкаў двор. Бруй увайшоў у хату і спыніўся каля парога: у хаце нікога не было. Завярнуўся і хацеў ужо ісці назад, аж з печы пачуўся голас:

— Хто там?

— Гэта ты там, Саўка? — запытаў і Бруй.

— Я! — спакойна азваўся Саўка і не дужа спяшаўся падымацца — проста не хацелася варушыцца: хата халодная, а печ была цёплая.

— Здароў, Саўка! Што ты парабляеш там?

— А вось ляжу і думаю сабе.

— Ну, што-ж? і гэта работа, калі няма чаго лепшага... Аб чым-жа ты думаеш?

Бруй зайшоў з другога боку печы, бліжай да Саўкі. Саўка памкнуўся быў, каб устаць, але перадумаў і рашыў адказаць госцю лежачы.

— Думаю, чым заняцца. Рабіць-жа нешта трэба, а рабіць, дык вось не прыдумаю што.

Пры гэтым Саўка падумаў: «Цікава, чаго ты прышоў?»

— Галава ты, галава! Работы сабе не знойдзеш. Ды ты не любіш работы!

— Ну, як то не люблю. Глядзя, якая работа.

— Смешна гаварыць, каб чалавек работы сабе не знайшоў.

«Ці не прышоў ты клікаць мяне на якую-небудзь сваю работу», — у мыслях сказаў Саўка. — «Не, брат, дудкі, да цябе працаваць не пайду».

— Чалавек шукае работы па сабе, — уголас сказаў Саўка.

— Гультай ты, Саўка, вось я табе што скажу. У такі час, каб ты не знайшоў сабе чым заняцца!

— Ну, дык скажы — чым.

Саўка зрабіў рашучае намаганне і сеў. Ён счуў — Бруй мае сказаць нешта такое, што варта паслухаць седзячы.

— Ты вось што мне скажы, — адразу пачулася, што Бруй пераходзіць да справы, — да якой партыі належыш ты?

— Як партыі? — пачухаў патыліцу Саўка.

— А так, за каго ты стаіш?

— Я? ні за кога. Сам за сябе стаю.

— Вось гэта і нядобра. Калі ты ні за каго не стаіш, то і за сябе не стаіш... Ты паглядзі, як ты жывеш: холадна, цёмна, пуста...

— Ну, гэта не заўсёды так бывае, — запярэчыў Саўка, — калі пуста, а калі і густа.

— Слухай, Саўка: ёсць адна справа — вазьміся за яе. Шкадаваць не будзеш... Якраз будзе густа.

Саўка пачуў, што рыбка пачынае торгаць.

— Кажы — што?

— А вось што: зрабіся ты партызанам.

Саўка памаўчаў, а потым адрэзаў:

— Не хачу.

— Ты не ведаеш, у чым тут соль.

— Соль добра, калі ёсць што саліць, — заўважыў Саўка. «Закручваеш, брат, ты нейкую штучку. Чую сальцам пахне», — сам сабе думае Саўка, але не спяшаецца выказваць рух свае душы.

Разважлівы Бруй пакрыўдзіўся.

— Калі ты не хочаш нават пацікавіцца, у чым тут справа, дык нам і гаварыць няма аб чым.

І ён змоўк. Не падаваў голасу і Саўка. Ён разважаў так: пойдзе за дзверы, тады вярну яго. Але Бруй за дзверы не пайшоў.

— Чаму ў цябе няма агню? — запытаў ён.

— Дзеці ў суседа гуляюць. Жонка да маткі пайшла, а я, покі не надумаў, што рабіць, не маю патрэбы ў агні.

— Цяжка-ж ты думаеш.

— Усякія думкі бываюць.

— Дык ты партызанам быць не хочаш?

— Не, не хачу.

Як відаць, яму надакучыла гэта гульня ў хітрыкі, і ён дадаў:

— Кажы проста, і не хітруй, пане Бруй.

— Дык вось слухай. Ты — чалавек, на якога крыўды мы не маем. Чым ты займаўся там, мы не ведаем. Дзяліць нас ты не збіраўся. Але былі таварышы, што на наша дабро, на наш набытак ужо разяўлялі раты і працягвалі рукі. Цяпер яны па лясах туляюцца ды ў шайкі сходзяцца. А з гэтага дабра не будзе. Парадак-жа павінен быць, і вуха трымаць трэба востра. Вось-бы ты і ўзяўся за імі пасачыць. А для гэтага табе і трэба партызанам прыкінуцца. Табе яны павераць, а ваяваць табе не канечне. Ты толькі праведвай, дзе яны хаваюцца і што яны думаюць рабіць, і папярэджвай нас праз войта Васіля Бусыгу. Вось і ўся твая работа. А плата будзе табе някепская: хлеб будзе, да хлеба будзе, капейка будзе і ні ў чым нястачы не будзе.

Саўка акінуў поглядам сваіх мыслей увесь складаны комплекс той ролі, на якую падбіваў яго Бруй, з усімі

яе выгодамі і хібнымі бакамі. Ён адразу пачуў цвёрды і прасторны грунт дзеяння. У хаце было цёмна, і Бруй не мог сачыць за выразам Саўкавага твару. Ён цярпліва чакаў, покі Саўка думаў, і меркаваў, ці спрытна пад'ехаў ён да Саўкі.

«Ці не пагарачыўся я?» — развaжаў разважлівы Бруй і з некаторaю трывогай чакаў Саўкавага слова. Саўка-ж адразу ацаніў стратэгічную важнасць свае пазіцыі і ўзважыў сваю ролю і спосабы яе выпаўнення.

— А што вы дасцё мне за гэта? — нарэшце запытаў ён.

У разважлівага Бруя як-бы камень з плеч скаціўся.

— Аб плаце мы дамовімся лёгка, і крыўды мець ты не будзеш.

Усякі такі торг і скончэнне торгу звычайна адзначаецца барышом. Бруй заклікаў Саўку да рыжабародага Біркі, як гэта было ў іх заранеў абмяркована. Туды-ж павінен быў падыйсці і Васіль Бусыга.

Сышліся ў Біркі.

Пілі самагон, елі скваркі. Тут-жа гуртам акрэслілі круг Саўкавых абавязкаў, а таксама дамовіліся і аб плаце, прычым у яе аснову быў паложан прынцып прэміі — болей старання, плата звыш нормы, і чым большы вынік, тым большая прэмія.

Падазроным, спасцярожлівым вокам акінула Аўгіня Васіля, калі ён вышаў з хаты і па яго прыслалі ад Біркі. З таго дня, калі Аўгіня так нявeтла прыняла Васілёва паведамленне аб тым, што ён — войт, яны амаль што не гаварылі. Праўда, Аўгіня гатова была пайсці на згоду.— У яе былі на гэта свае меркаванні, яна першая рабіла захады ў гэтым кірунку, але Васіль закуражыўся і астаўся глух. Гаварыў з ёю скупа і то толькі ў афіцыяльных выпадках, калі справа датыкалася гаспадарскіх інтарэсаў. Зацялася тады і Аўгіня: цяпер яна мела на гэта права, як абражаная і пакрыўджаная жанчына. У мыслях яна была нават і рада гэтаму, але ад прыроды яна была трохі артыстка і спрытна праводзіла ролю зняважанай жонкі.

«Куды-ж гэта пайшоў ён? чаго?» — карцела пытанне ў Аўгінінай галаве. Ёй адразу цюкнула, што тут мае месца змова. Яна ўспомніла словы рыжабародага Кан-

драта Біркі аб партызанах. Усё гэта яе зацікавіла і занепакоіла. Ёй раптам стала страшна, страшна таго прамежнага стану, у які папала яна. Яна ўспомніла бабку Насту, гутарку з ёю. Перад ёю таксама ўсплылі апошнія падзеі ў Веправ. Жыццё намотвала вакол яе ліпкія ніці, у якіх можна лёгка заблытацца, як муха ў павуцінне. Адыйсціся ўбок ад усяго гэтага яна ўжо не магла. Ёй трэба ведаць, што робіцца вакол яе і не хадзіць сляпою. Ёй трэба, нарэшце, на нешта наважыцца і пайсці па нейкай пэўнай дарозе.

Аўгіня апранула кажушок, што вельмі ўтульна аблягаў яе, накінула на галаву цёплую хустку і выйшла на двор. Спынілася каля весніц. Ужо цёмная ноч густа заткала цемраддзю вуліцу, хаты і двары. Тускла і нясмела свяціліся вокны. Па вуліцы зрэдку праходзілі адзіночныя чалавечыя постаці. Аўгіня хвілінку пастаяла, а потым рашуча накіравалася ў бок хаты Кандрата Біркі. Хацелася праверыць сваю дагадку.

Біркава хата стаяла непадалёку па другі бок вуліцы. Разглядаючыся, Аўгіня асцярожна ўвайшла ў двор, ціхенька расчыніўшы веснічкі, і стаілася за вуглом, каб не папасціся каму на вочы. Расслухаўшыся, яна высунула галаву ў палоску святла, што ішло ад акна. Яна хвалявалася, як чалавек, што змушан падглядаць спотайку, рызыкуючы быць злоўленым. Па хацеківаліся цені, няясна даносіўся прыглушаны гоман. Разгледзець, што робіцца ў хаце, было трудна. Аўгіня прыгнулася, зайшла з другога боку і зноў зазірнула ў акно. Скрозь чысты, незатканы марозам кусочак шкла, яна разгледзела мужчын, сядзеўшых за сталом і выпіваўшых. Дзве постаці найболей звярнулі на сябе Аўгініну ўвагу: Васіль і доўгі, хударлявы, чарнамазы Саўка Мільгун. У Аўгіні ніякіх сумненняў цяпер не заставалася: Саўку нанялі, купілі за грошы і ставілі на цёмную, здрадніцкую справу. Ад Саўкі можна спадзявацца ўсяго. Пачуцці страху і агіды калыхнуліся ў Аўгініным сэрцы. Аставацца тут болей не было чаго. Так-жа ціхенька выйшла на вуліцу і пайшла ў сваю хату. Тут толькі ўляглося яе хваляванне, і сэрца стала біцца спакайней.

Дзед Купрыян ужо драмаў на сваіх палатках, ці можа проста думаў пра ўсе гэтыя падзеі апошніх дзён. Не

спачуваў дзед Купрыян усёй гэтай валтузні і калатэчы і не разумеў нічога з таго, што пачало тварыцца на свеце. У яго было цвёрдае пераконанне ў тым, што ўсё ліха пайшло ад таго, што скінулі цара.

Меншыя Аўгініны дзеці — два хлопчыкі — спалі бесturботным сном шчаслівага дзяцінства. Не спалі толькі Аўгіня і Алеся. Яны сядзелі каля камінка, пралі і ціхенька вялі гутарку. Алеся дзіцячым інстынктам угадвала бацькаву няласку да сябе, і пад уплывам гэтага яе псіхіка была сціснута і прыгнечана беспрычынным страхам і боязню. А ў апошнія дні гэты страх і неспакой яе дзіцячага сэрца сталі яшчэ болей вострымі, асабліва, калі бацькава панурасць накіравалася і на матку. Яна трацілася ў дагадках, чаму гэта так, але не магла вытлумачыць сабе прычын бацькавых паводзін. Тое, што гаварылі ў хаце навакол яе старэйшыя, параджала ў яе сэрцы няясныя і страшныя мыслі аб людской жорсткасці і несправядлівасці.

## XXIII

Невысокі хударлявы чалавек размеранаю роўнаю хадою ідзе лесам. Лес, ахінуўшы свае плечы белаю накідкаю, урачыста захоўвае цішыню і спакой. Такі лагодны спакой бывае толькі ў мінуты мудрага разважання аб таемных, заваблівых глыбінях жыцця, або тады, калі заціхае ўсякая трывога, усякі клопат і нічога ў свеце не турбуе ні мыслі, ні сэрца, а ты адчуваеш поўнае суглоссе з тым, што над табой і вакол цябе.

І гэты невысокі хударлявы чалавек, адзеты болей на гарадскі лад, прычым і абутак і адзенне яго дастасаваны да пешага перасоўвання, здаецца паддаўся чарам гэтага ляснога спакою і цішыні. Сяды-тады ён углядаецца ў гэты лес, у гэта часамі дужа цікавае спалучэнне дрэваў у розныя вычварныя групы і згуртаванні. І нельга не запыніць увагі вось на гэтай групе. Невысокі хударлявы чалавек уважна ўглядаецца ў яе сваімі шэрымі халоднымі вачыма. Стаіць разложысты дуб. Магутныя сукі яго і шырокі верх крыху нахіліліся ў той бок, дзе свеціць сонца. Праз гэтыя сукі прасоўвае сваю круглую

галаву стромкая асіна. З другога боку высокая танклявая елка праціскае скрозь дубовыя галіны свае зялёныя калючыя лапы. Там, дзе галіны стыкаюцца адна з другою, кара на іх сцерлася. Цяпер яны застылі нерухома, але, калі вецер, спяшаючыся ў сваю дарогу, праходзіць над лесам, яны пачынаюць церціся адна аб другую і глуха скрыпець.

Невысокі хударлявы чалавек спасцярожлівым вокам ловіць усе гэтыя драбніцы. Ён яшчэ раз акідае поглядам дзіўную групу і ў мыслях паўстае пытанне: што гэта — змаганне за жыццё ці то — згода і дружба? Невысокі хударлявы чалавек наогул не верыць ні гэтай цішыні, ні гэтаму ляснему спакою: гэта цішыня і гэты спакой — толькі зманлівая відомасць цішыні і спакою. На шырокіх прасторах зямлі бурліць вір змагання, жорсткага, бязлітаснага, але не бязладнага і хаатычнага, а змагання, падпарадкаванага акрэсленаму закону. У буры гэтага змагання невысокі хударлявы чалавек поўным нутром адчувае нараджэнне новай эпохі і замацаванне яе на зямлі. Вось чаму ён так упэўнена ходзіць у гэтым віры. Кажуць, хто сее вецер, той пажынае буру. Невысокі хударлявы чалавек — сейбіт буры: праз буру прыдзе новы лад, і народзіцца новы чалавек.

Гэты сейбіт — таварыш Нявідны, той самы Нявідны, чыё прозвішча, ды і сам ён так здзівілі дзеда Талаша. У Нявіднага за пазухаю даволі ёмкі пакет. У пакеце зложаны адозвы да сялянства акупаванага Палесся, інструкцыі для падпольных бальшэвіцкіх арганізацый, гэтых патаемных крыніц для жыўлення ідэй класавага змагання і апоры Саветаў на месцах. У гэтым-жа пакеце ёсць шмат матэрыялаў, напісаных рукою класавага ворага і накіраваных супроць бальшэвікоў. Тут-жа ляжыць і адозва акупацыйнай польскай улады да абшарнікаў, каб яны варочаліся і займалі свае «законныя» маёнткі і сядзібы, а сяляне каб звярнулі ім розны набытак, забраны імі ў часе рэвалюцыі і ўлады Саветаў. Нявідны акуратна збірае ўсе гэтыя матэрыялы: на гэтых матэрыялах ён вядзе агітацыю супроць акупантаў і раскрывае іх сапраўднае нутро. Рызыкуючы сваёй галавою, пераходзіць ён з месца на месца, арганізуе новыя ячэйкі, падтрымлівае, дапамагае ўжо арганізаваным. Цяпер ён ідзе

ў вёску Паставы. Гэта другі яго паход сюды. Быў ён там з месяц назад, калі вёска Паставы была яшчэ ў руках чырвоных. Былі ў яго там сувязі і знаёмствы. Нявіднага цікавіць, што сталася з ячэйкай, якую залажыў ён у Паставах і аб якой не мае цяпер ніякіх вестак. Яму трэба дазнацца, як жыве, чым жыве і ці жыве яна наогул.

Самая прыкрая рэч, калі чалавек знаходзіцца ў стане поўнага няведання. Што ведае Нявідны аб вёсцы Паставы? Нічога. Ведае толькі, што яна знаходзіцца пад палякамі, што ў Паставах, як і ў кожнай занятай палякамі вёсцы, ёсць іх шпіёны і агенты, што час-ад-часу паяўляюцца там польскія раз'езды і наезды. Вось чаму Нявідны ідзе асцярожна. Ён ведае, як зорка сочаць жандары, паліцыя і польская контрразведка за такімі небяспечнымі людзьмі, як ён. Ведае, што чакае яго, калі ён пападзецца ў іх рукі. Шкада не толькі волі, жыцця, а шкада і правалу той работы, якую даручыла яму партыя.

Перш чым увайсці ў вёску, ён стаіўся ў лазовых кустах каля замёрзлай рэчкі і стаў прыглядацца і слухаць. У вёсцы было ціха і бязлюдна. Нявідны стаяў і цярпліва лавіў зручны момант, каб выйсці з свае засады. Але момант гэты не налучаўся.

І раптам дзесь з боку на рэчцы пачуліся дзяцiныя галасы. За купамі аголеных кустоў мітусіліся хлапчукі школьнага ўзросту. Было іх пяцёра. Яны працерлі нагамі вузенькія доўгія сцежкі на лёдзе і коўзаліся, хто на дзервяных чурбачках, прыладзіўшы іх да лапця, а хто проста з разгону на сваіх нагах, абутых у самыя прымітыўныя лапці. Адзетыя яны былі ў старыя латаныя суконныя халацікі, падперазаныя даматканымі каляровымі паясамі. На нагах смешна варушыліся радняныя нагавіцы. З-пад расхлістаных халацікаў відзеліся голыя грудзіны. Шапкі на іх былі самыя рознастайныя, непамерна вялікія, зімовыя ці проста летнія. Але хлопцам было весела. Яны громка перакідаліся словамі, часамі лаяліся і звонка рагаталі.

Нявідны адчуў нейкую радасць, калі да яго слыху данёсся гэты шчэбет дзіцячых галасоў, а іх постаці паказаліся перад яго вачыма. Каб не спалохаць іх, ён асцярожна вышаў з кустоў і памаленьку падаўся ў іх бок,

бесклапотна высвістваючы нейкі матыўчык вясёлай песні. Хлапчукі раптам навастрыліся і змоўклі.

— Гуляйце, хлопчыкі, гуляйце! Не бойцеся!

— Мы не баімося! — храбра адказаў адзін з іх.

Нявідны падышоў бліжэй. Хлопцы ўсё-ж не зусім верылі яму і пазіралі спасцярожліва, прыпыніўшы свае забаўкі.

— А чаму вы, хлопцы, у школу не ходзіце, а коўзаецеся?

— Настаўніка няма! — дружна адказалі хлопцы.

Нявідны відавочна затрывожыўся.

— А дзе-ж ваш настаўнік?

— Палякі забралі.

— Арыштавалі?

— Эге-ж! — пачуліся іх галасы.

Нявідны сумеўся. Весць гэта яго моцна ўразіла.

— А калі яго арыштавалі?

— Учора.

Настала кароткае маўчанне. Тая акалічнасць, што гэты незнаёмы чалавек цікавіцца настаўнікам, хіліла дзяцей да Нявіднага.

— А скажыце, — парушыў ён маўчанне, — Нічыпар Барэйка дома ці не?

Галасы хлопцаў падзяліліся. Адны казалі дома, другія — не. Яны зусім асвойталіся з Нявідным і лічылі яго за чалавека, з якім можна гутарыць смела. Яны адказвалі наўперад разам, але ў болей трудных выпадках, дзе адказ на запытанне павінен быць асцярожным і дыпламатычным, адказваў старшы з іх, Мікітка Гулік. Ён заразжа распарадзіўся паслаць у вёску Міхалку Крупіка справіцца, ці дома Нічыпар. Каб скончыць спрэчку, умяшаўся і Нявідны.

— Калі ён дома, то скажы, няхай падыйдзе сюды: яго, скажы, хоча пабачыць Нявідны.

Ахвотны Міхалка хацеў ужо бегчы, але Нявідны затрымаў яго.

— Пачакай трошкі!.. А палякі ёсць у вёсцы? — запытаў ён хлопцаў.

— Цяпер няма, — адказаў Міхалка, — але яны стаяць тут блізка.

— Дык ты, браток, перадай Нічыпару ціхенька, каб ніхто не чуў.

Міхалка пабег, а Нявідны стаў гутарыць з хлопцамі.

— Ну, як — добра вам жыць пры паляках?

Хлопцы ўтупілі вочы. Відаць, яны ўсё-ж не адважваліся казаць тое, што думалі; боязна памыліцца. Нарэшце Мікітка сказаў з адценнем журбы ў голасе:

— Не, нядобра!

— Чаму?

— Ды вось забралі нашага настаўніка. Хлеб, жывёлу, насць адбіраюць. А калі хто трошкі пачне спірацца, таго б'юць.

— А як вы думаеце, за што забралі вашага настаўніка? — пацікавіўся Нявідны, хоць добра ведаў прычыну арышту. Дзецям спадабалася, што гэты дарослы чужы чалавек лічыцца з іх думкамі.

— Кажуць, за тое, што бальшэвіком быў, — нясмела азваўся Мікітка.

— А як маглі даведацца палякі, што ён — бальшэвік?

— Крук Марцін удаў яго, — рашуча заявіў Мікітка.

— А хто такі Марцін Крук?

— Чалавек адзін тут. У яго бальшэвікі забралі каня, дык ён са злосці і топіць усіх, хто бальшэвік, — тлумачыў Мікітка.

— А скуль ты ведаеш, што яго ўдаў Крук?

— Усе так гавораць.

Гутарка спынілася: бег Міхалка. Усім было цікава ведаць, з чым вернецца ён. А Міхалка яшчэ здалёку паведаміў, што Нічыпар дома і зараз ідзе сюды сам. І, сапраўды, хвілін праз колькі прышоў і Нічыпар, пануры і заклапочаны. Рыжаватыя бровы яго зрасліся на носе, а сам нос яго, хоць і задзёрысты, выглядаў даволі маркотна і нявесела.

На выгляд Нічыпару можна было даць гадоў дваццаць з невялікім хвосцікам. Відаць, нейкая думка яго моцна непакоіла.

Твар яго трохі пасвятлеў, калі падышоў ён да Нявіднага.

Нявідны паглядзеў у вочы Нічыпару.

— Што, брат, нявесел?

— Не вяселіцца штосьці, — вінаватаю ўсмешкаю ўсміхнуўся Нічыпар.

Хлапчукі стаялі тут-жа: ім хацелася чуць, аб чым будуць гутарыць мужчыны. Мікітка, як старшы, пагнаў іх коўзацца і сам адышоўся: прыроджаны такт падказваў яму, што не хлапецкая справа слухаць гутарку дарослых, ды яшчэ пры такіх абставінах.

Нявідны і Нічыпар таксама рушылі з месца. Ідучы гутарылі.

— Сакратар арыштован?

— Арыштован, таварыш Нявідны! — панура адказаў Нічыпар.

— Якую-ж работу рабілі вы тут?

— Збіралі сходы. Агітавалі супроць белапалякаў, выступалі за Советы.

— І якія вынікі?

— Ды ўжо згуртавалі чалавек дванаццаць хлопцаў. А вось цяпер работа прыціхла: паліцыя пачала дужа насядаць. Шпіянаж на ногі паставілі. А тут і настаўніка забралі!.. Настрой зніжаны.

— А баявую дружыну маеце вы?

Нічыпар крыху замяўся.

— Парассыпаліся хлопцы.

— Ні чорта вы не зрабілі. І грош цана такой вашай рабоце.

Ціхі і лагодны з віду Нявідны загаварыў цвёрда і жорстка:

— Як-жа гэта вы не паставілі людзей, здольных узяць у рукі зброю? На вас насядае паліцыя... Дзеці адкрыта гавораць пра даносчыка Марціна Крука. А што вы з ім зрабілі?

— А што зрабіць з ім? — запытаў Нічыпар.

Нявідны паглядзеў на яго халоднымі вачыма.

— У расход яго вывесці! — цвёрда прамовіў ён. — Ці вы спадзяецеся, што паліцыя запросіць вас на работу і скажа: калі ласка, агітуйце супроць нас!.. Ні к чорту ваша работа! Бабы вы! Старыя дзяды самі сваім розумам даходзяць да думкі, што трэба ўзброенае змаганне супроць акупантаў. Самі збіраюць людзей, зброю самі дастаюць і самі становяцца на чале партызан. А вы спало-



Якуб Колас і дзед Талаш. Масква. 1942 г.

халіся паліцыі, арыштаў і стаіліся, як мышы пад мятлою... Склікаць сёння-ж сход.

Але Нічыпара непакоіла адна думка, і не сказаць пра яе Нявіднаму не выпадала.

— Горш за ўсё вось што, таварыш Нявідны: на вобыску ў часе арышту нашага сакратара забралі дакумент — спісак членаў замосцінскай падпольнай арганізацыі.

Яшчэ халадней глянуў Нявідны на Нічыпара.

— Самі работы не робіце, ды яшчэ другіх падводзіце. Далі знаць аб гэтым у Замосце?

Нічыпар маўчаў вінавата і панура.

— Паведаміць! Ва што-б там ні стала паведаміць Замосце.

— Замосце на вялікім падазрэнні ў паліцыі і прабрацца туды трудна.

Нявідны змерыў Нічыпара з ног да галавы халодным поглядам.

— Няма ў вас арганізацыі, няма ў вас работы... людзей у вас няма... Ёсць людзі, але вы не здолелі паставіць іх на работу.

Нявідны змоўк. Што было гаварыць Нічыпару?

— Вось што, — памаўчаўшы сказаў Нявідны, — сход склікаць на паслязаўтра. Калі я не вярнуся, праводзьце сход самі. Задача сходу — разгарнуць работу, жывую, большэвіцкую. Арганізаваць партызанскі актыў, іначай вы не людзі змагання, не большэвікі, а мёртвы баласт. Не чакаць, покі паліцыя дазволіць вам насіць зброю — самі вазьміце яе ў паліцыі.

І перадаў Нічыпару жмут адозваў.

— Расклеіць гэтыя адозвы, дзе толькі можна. — Нявідны пайшоў; Нічыпар маўчаў, пазіраў яму ўслед.

— Таварыш Нявідны, і я іду з табою.

Нявідны азірнуўся.

— Аставайся тут і рабі тое, што я табе казаў.

Нявідны знік у кустах. Нічыпар яшчэ пастаяў некалькі хвілін. Яму стала прыкра і сорамна.

Нічыпар задумаўся, і ў другім кірунку пайшлі яго мыслі.

## XXIV

Калі Саўка Мільгун сам не дадумаўся, якою справаю заняцца яму, дык за яго людзі падумалі, і добра падумалі. Цяпер Саўка злез з печы, ажывіўся, парухавеў, — словам, другім стаў чалавекам, і думак у яго поўная галава. Думкі яго ідуць па двух асноўных лініях: першая — як практычна звязацца з партызанамі і другая — як застрахавацца ад іх на ўсякі выпадак. Іначай сказаць, што трэба зрабіць, каб і сена было цэлае і каб козы былі сытыя? Як вядома, такую мудрасць шмат хто праводзіць у жыцці. І Саўка бярэцца за работу. Не брацца нельга: барыш выпілі, задатак узяў. Крупы, мукі, сала таксама перапала. А наперадзе гэта перападанне абяцае стаць яшчэ болей шчодрым. Не трэба толькі спаць у шапку і не быць дурнем.

Сабраўся Саўка ў дарогу, напусціў на сябе ваяўнічы выгляд і многазначна прайшоўся перад вокнамі войтавай хаты і яго прыяцеляў: няхай ведаюць, што ён выконвае свае абавязкі. І войт убачыў яго з двара і таксама многазначна кіўнуў яму галавою.

Саўка ідзе ў Вепры — з Вепраў пачне ён сваю работу. Сустракаючы сяго-таго з сваіх знаёмых, ён асцярожна заводзіць гутарку аб гэтай бядзе, што на людзей насунулася, аб тым, як цяжка жыць пад польскай акупацыяй.

— Куды, Саўка, ідзеш? — запытаюць яго.

Саўка нахмурыць бровы і грозна адказвае:

— Чалавеку цяпер адна дарога — у лес!

І скажа такім тонам, што ўсім становіцца ясна, чаго трэба чалавеку ў лес ісці.

— Охо-хо! — уздыхне толькі Саўкаў слухач.

І нічога дзіўнага няма; зусім слушна гаворыць Саўка, і яго словы разумеюць, як заклік да паўстання. Людзі спачуваюць яму, а некаторыя нават папярэджваюць, каб ён асцерагаўся, бо можна лёгка папасціся. Саўка і сапраўды думае, што трэба асцерагацца.

Строга акрэсленага плана ў Саўкі няма. Ён накідаў толькі самыя агульныя абрысы яго, а рэшта — Саўка проста пакладаецца на шчаслівы выпадак. Вось чаму яго дзейнасць болей падпарадкуецца натхненню, чым

папярэдняй прадуманасці, і калі Саўка выходзіў ужо з сяла, трымаючы кірунак на Вепры, і ў поле яго зроку трапіла хата дзеда Талаша, то ён рашыў не мінаць яе: а ну-ж, натрапіць на след старога паўстанца. Па істоце Саўка нічога не мае супроць дзеда Талаша і тых людзей, за якімі ўзяўся ён сачыць, ён глядзіць на іх, як на сродкі да жыцця. Ён гатоў нават і спачуваць ім, але што ты зробіш, калі так збегліся акалічнасці?

Максім тупаў на двары. Тая бяда, што навалілася на дзедаву хату і яго сям'ю, здавалася, абмінула Максіма і не налажыла на яго свайго адбітку. Прынамсі, на Максімавым твары не заўважалася нічога такога, што сведчыла-б аб згрызотах і трывогах душы. Але і не вечна-ж заставацца твару адным і тым-жа, а ў Максіма, быць можа, былі прычыны праясніць свой твар.

Максім трохі здзівіўся, убачыўшы на двары Саўку: такі рэдкі быў ён тут госць. Але Саўка, як ні ў чым не бывала, падышоў да Максіма, прывітаўся.

— Асірацеў ты, брат Максім, — пачаў гутарку Саўка.

— Выходзіць, што асірацеў.

Максім быў захоплен знянацку і не знайшоў болей трапнага адказу.

Саўка-ж трымаўся ўзятага тону. Ён дакорліва патрос галавой.

— Вось, брат, часы насталі! Ні ў чым пэўнасці няма, і сам сабе не можаш быць гаспадаром. Я проста не ўрымшчуся. Месца сабе не знаходжу.

— А табе што?

Максім падумаў, што Саўку палякі пакрыўдзілі.

— Ну, як-та што? Ты-ж думаеш, баліць толькі таму, каго за жабры ўзялі? Баліць і таму, хто змушан глядзець на ўсё гэта. Ведаеш-жа, што робіцца. Не мне гаварыць табе пра гэта.

— Ну, дык што? — і Максім недаверліва паглядзеў на Саўку.

— А тое, што сядзець не трэба ціха.

— А чаго-ж ты сядзіш? — папікнуў Саўку Максім.

— Вось-жа і не ўседзелася мне. Людзі ідуць у лес, і я іду туды.

Максім падазрона ўжо глянуў Саўку ў вочы.

— Ты, брат Максім, не ведаеш Саўкі, але ты скора пачуеш пра яго, — развейваў Саўка Максімава падазрэнне.

— Ты гаворыш так, што цябе і зразумець трудна, — заўважыў Максім. У яго голасе ўсё-ж адчувалася недавер'е да Саўкі. Гэта адчуў і Саўка.

— Ты хочаш сказаць — трудна паверыць? — запытаў Саўка і, не чакаючы адказу, дадаў:

— Скажу проста — іду, брат, партызаніць, з добрымі людзьмі скампанавацца хачу. Ды толькі ты — маўчок, ні гу-гу.

Максім пазіраў на Саўку шырока раскрытымі вачыма, а Саўка гаварыў далей:

— Табе я скажу, а другому не скажу, бо твой бацька герой. Чым я лепшы за твайго бацьку? Чаму ён павінен партызанам быць, а я дома сядзець?

Максім затрывожыўся.

— Бацьку не даюць дома сядзець: яго ловяць, і ён мусіць хавацца, бо ў астрозе сядзець нікому ахвоты няма.

— Як за добрую справу, то і ў астрозе не шкада пасядзець. Але ты скажы — мне ты можаш сказаць праўду, — куды мне падацца, каб пабачыць твайго бацьку? А калі не яго, то Мартына Рыля ці каго-небудзь з іх?

— А скуль я магу ведаць? Бацькі даўно дома не было. Як вырваўся ад палякаў тады, дык і не паказваецца. Дзе ён, што з ім — не ведаю.

— Можа яно і лепей, што не ведаеш, — разважліва зазначыў Саўка, — хіба людзям цяпер можна верыць?.. Ну, але хто хоча свайго дабіцца, той даб'ецца. Дык бывай, Максім, здаровы!

— Бывай!

Саўка крэпка паціснуў Максіму руку.

Максім доўга стаяў, пазіраў, як Саўка выходзіў з сяла і павярнуў на дарогу ў Вепры, пазіраў, покі зусім не знік з вачэй, і думаў над гэтым дзіўным візітам такога няпэўнага чалавека, як Саўка Мільгун. У выніку разважанняў над гэтаю гутаркаю з Саўкам Максім сказаў сам сабе: шалахтун... А ўрэшце ад яго ўсяго можна спадзявацца.

І ўсё-ж Максім не мог заспакоіцца на гэтай думцы. Саўкавы словы і яго намер пайсці ў партызаны ніяк не месціліся ў Максімавай галаве — ці не было тут якога падступства? Ці не падаслалі яго, каб выведаць пра дзеда Талаша? Максім-жа, шчыра кажучы, нічога не ведаў пра бацьку і пра Панаса. З таго часу, як начавалі яны з Мартынам Рылем, бацька дома не паказваўся.

Новая акалічнасць разбіла Максімавы думкі і сумненні, выкліканыя Саўкам, і засланіла яго самога на некаторы час. Прышла Алена. Яна была на сяле. Не заходзячы ў хату, Алена падышла да Максіма.

— Ведаеш, Максім, што за праява была ў Ганусах?

Па тону Аленінага запытання Максім адчуў, што праява была дужа цікавая.

— Не, не ведаю, не чуў, — адказаў Максім і з некаторраю трывогаю зірнуў Алене ў вочы.

— У сяле гавораць, што пад Ганусамі паўстанцы-сяляне ўшчэнт пабілі палякаў, паадбіралі награбленае дабро і жыўнасць, а саміх іх знішчылі да аднаго.

— Вось гэта добра, калі то праўда! — азваўся Максім, і ў вачах яго бліснула радасць і задавальненне.

— Праўда, Максім, і самі людзі з Ганусаў расказвалі пра гэта. І ведаеш, яшчэ што расказваюць? Што паўстанцамі камандаваў стары, ужо сівы чалавек, што там былі нашы салдаты. А гэты стары чалавек, па расказах, вельмі падобен да нашага бацькі.

— Ну, што ты кажаш?! — здзівіўся Максім.

— Праўда, праўда, Максім!

— Не, гэта, мусібыць, брахня.

— Не брахня, а людзі гавораць, — стаяла на сваім Алена, — і не адна я так думаю, а і шмат хто думае так.

— Ну, калі ён управіўся народу назбіраць і трапіць аж у Ганусы?

Алена не здолела растлумачыць, як гэта магло здарыцца, але яна была цвёрда пераканана ў тым, што ў ганусаўскіх падзеях браў удзел і дзед Талаш. Яе ўпэўненасць была такая моцная, што перадалася, нарэшце, і Максіму. У сувязі з гэтым ён успомніў Саўку Мільгуна. Саўкавы словы, яго паводзіны і намер прадставіліся цяпер у іншым асвятленні: проста Саўка дачуўся аб герой-

стве партызан, і ўчынкі іх натхнілі яго на ваяўнічы лад. Нічога дзіўнага няма ў тым, што пры такіх абставінах Саўку і сапраўды захацелася зрабіцца партызанам. Але чаму Саўка нічога не сказаў пра падзеі ў Ганусах? А ён, відаць, проста сумыслу не гаварыў пра іх, каб не зніжаць свайго ваяўнічага намеру. Гэтыя меркаванні здаваліся Максіму зусім натуральнымі і яшчэ болей умацоўвалі ў ім тую ўпэўненасць, што перадавалася яму ад жонкі. Сваімі думкамі ён падзяліўся з Аленаю, расказаўшы ёй сваё спатканне і гутарку з Саўкам. Алена цалкам далучылася да Максімавых поглядаў на Саўкава партызанства. Такім чынам, усе няяснасці і сумненні, прынесеныя Саўкам, цяпер развеяліся.

Навіны-ж аб ганусанскіх падзеях перадаваліся з хаты ў хату і глыбока захаплялі ўсіх і хвалявалі. Яны сталіся асноўнаю тэмаю для гутарак, разважанняў і розных спалучэнняў падзей у іх цэлым жывым вянку, сплеценым людскою пакутаю і кроўю. Раззбраенне польскага канвоя, арышт Панаса, знікненне дзеда Талаша, жорсткая расправа палякаў у Вепрах, — усё гэта адышло цяпер на другі план, засланілася ганусанскімі падзеямі. Людская гутарка аздабляла сапраўдныя падзеі, прыплятаючы сюды розныя эпізоды, драбніцы і такія акалічнасці, якіх у сапраўднасці не было, але якія маглі быць. Ганусанскія падзеі набывалі значэнне гераічнай быліны, дзе партызаны выступалі, як волаты, а іх атаман рысаваўся, як народны герой, як рука караючай справядлівасці і помсты за людскія крыўды і пакуты. Гэтыя-ж падзеі падымалі дух працоўнага сялянства і клікалі яго да актыўнага змагання супроць акупанцкай навалы.

Толькі бабка Наста па-свойму прыняла гэту весць аб падзеях у Ганусах. Яе асабліва занепакоіла тая акалічнасць, што ў гэтых падзеях мог браць удзел і дзед Талаш. Быў ён там, ці не быў, напэўна ніхто не ведаў. Але-ж людзі называлі яго імя. Ведаючы-ж характар свайго старога, бабка Наста зусім была ґатова паверыць, што ён там быў, і гэта акалічнасць яе зусім не цешыла. Што-ж будзе з Панасам? Што станецца з іх хатаю? Неспакойна было на сэрцы ў бабкі Насты.

Вечарам, калі зусім ужо змерклася, бабка Наста ся-

дзела адна ў хаце, запаліўшы газовачку, прала кудзелю, што прынесла ёй Аўгіня. Невясёлыя думкі, такія-ж аднастайныя і доўгія, як і тыя ніці, што смыкала яна і накручвала на верацяно, віліся над яе старою галавою. Бабка Наста адчувае сябе зусім адзінокаю. Максім і Алена — крыўдзіцца на іх бабка Наста не магла — больш паміж сабою перагаворваюцца. Яны маладыя. Усё жыццё яшчэ перад імі. Моладасць-жа не так кратаюць згрызоты, як старасць. Яны ўдваіх. Бабка-ж Наста зусім, зусім адна. Яна думае пра Панаса, і слёзы, як восеньскія дажджавыя кроплі на халодным шкле, паволі коцяцца па яе маршчыністым твары.

Дзверы бабчынай хаты ціха скрыпнулі.

Бабка Наста зірнула — парог пераступіла постаць маладзіцы. Яна была так захутана, што нельга было разгледзець яе твар. І толькі калі яна сказала:

— Добры вечар, — бабка па голасу пазнала Аўгіню.

— А, гэта ты, Аўгінька!.. А я кудзелі яшчэ не дапрала.

— Ліха з ёю, з кудзеляю!

Аўгіня падышла зусім блізенька да бабкі Насты. Голас яе перарываўся. Сама яна хвалявалася.

— Бяда, бабка Наста! — здушаным голасам сказала Аўгіня. — Я прышла вас папярэдзіць.

Яна расказала пра Саўку Мільгуна і пра яго ролю, якую адводзілі яму войт і два яго прыяцелі.

— Што-ж цяпер рабіць? — сашчаміла рукі бабка Наста.

— Трэба даць знаць, папярэдзіць трэба вашага старога і тых, хто з ім. Не палохайцеся, бабка!

Аўгіня прадумала ўсе спосабы і расказала аб іх бабцы Насце. Трэба даць знаць у Вепры жонцы Мартына Рыля. Трэба так ці сяк паведаміць дзеда Талаша ці кагонебудзь з яго сяброў. Гэту справу можна даручыць Алене або Максіму. Нарэшце, бабка Наста сама можа гэта зрабіць. Баяцца няма чаго. Саўка вялікай бяды не наробіць, калі будуць ведаць, што ён за партызан.

— Толькі-ж, бабка, божа барані, не кажыце, што гэта я перадавала вам!

Аўгіня так-жа ціха вышла з хаты дзеда Талаша, як і прышла.

Талаша з першым баявым хрышчэннем і звярнуўся да іх з заклікам не кідаць так удала пачатай справы змагання з гвалтаўнікамі-акупантамі.

— Таварышы, — казаў ён, — цяпер вы самі бачыце, што ваша сіла — згуртаванасць, строгі парадак, дысцыпліна і дружная работа плячо ў плячо з Чырвонай Арміяй. Наш паход — гэта маленькая драбніца ў радзе ваенных падзей, якія прыдзецца перажыць нам у недалёкім часе.

Тым не меней і гэта драбніца адгукнецца нямалым рэхам сярод нашых ворагаў. Вось чаму і хачу папярэдзіць вас, што вораг навострыць вушы і стане яшчэ болей жорсткім, каб выкараніць дух паўстання і непакоры. А ваш, таварышы, абавязак — шырыць, развіваць паўстанне, збіраць народ, гуртаваць яго ў баявыя групы, у цэлае войска і шчыльна трымацца Чырвонай Арміі. Яна дасць вам ваенную вывучку, дасць кіраўнікоў. Камандзіры-ж знойдуцца і паміж вас, таварышы. Прыклад таму наш слаўны атаман і бацька — Талаш.

Але, таварышы, і не ўсякага прымайце ў свае рады; пад відам вашага прыхільніка будуць прыставаць да вас і вашы ворагі, і правакатары. Дык будзьце асцярожны і не спускайце гэтага з-пад увагі.

Некалькі слоў сказаў і дзед Талаш. Ён падзякаваў Букрэя і чырвонаармейцаў за дапамогу і добрую параду. Сумесна былі тут вызначаны і некаторыя прынцыпы арганізацыйнага парадку партызанскага руху. Былі назначаны начальнікі партызанскіх груп і выбрана месца збору, якое павінна было заставацца ў строгім сакрэце, а таксама выпрацаваны і формы сувязі, і назначан быў час, калі начальнікі партызанскіх груп павінны былі з'явіцца для інфармацыі і далейшых планаў партызанскай дзейнасці.

Дзед Талаш цяпер проста шчаслівы чалавек, калі толькі ёсць на свеце шчаслівыя людзі. Усе яго жаданні збыліся: ён папомсціўся палякам за сваю асабістую крыўду і за крыўды, прычыненыя палякамі другім. Але гэта між іншым. Ён мае сапраўдную ваенную стрэльбу, і апроч таго, уся адабраная ад палякаў зброя, што папала ў рукі партызан і чырвонаармейцаў, паступіла ў яго рас-

параджэнне — так пастанавілі на ваенным сходзе. Ён знайшоў свайго зняволенага сына, і сын яго з ім на волі. Пад руплівым доглядам Нупрэя Панас можа не толькі хадзіць, але і бегаць. Нарэшце дзед Талаш — партызанскі камандзір. Праўда, войска яго яшчэ павялічыцца і значна павялічыцца — на гэты конт сякія-такія меры ўжо прыняты. Чырвоныя камандзіры прынялі яго ў сваю сям'ю, іменна, як камандзіра і свайго чалавека. Хіба гэта не гонар дзеду Талашу? Але дзедава галава знае меру і не пераходзіць той граніцы, ад якой галава пачынае кружыцца. Ён цвяроза глядзіць на рэчы. У гэтай галаве жывуць цяпер пераважна чыста ваенныя і камандзірскія мыслі. Ён думае аб далейшым ходзе падзей: не за гарамі вясна, а вясною пачнуцца такія справы, што трэба быць гатовым да ўсяго. У дзедавай галаве ёсць месца і для думак аб доме — аб бабцы Настусі, аб Максіме і аб гаспадарцы. Бабка Наста з жалю заходзіцца па Панасу ды і аб ім трывожыцца. І не ведае яна, што Панас вырваўся з няволі і што ён разам з бацькам. Гэтыя мыслі і накіроўваюць дзеда Талаша ў бок свайго дома.

Пасля некалькіх мяккіх і лагодных дзён пагоды дыхнуў з поўначы вецер, пазганяў нізкія воблакі і заціх. Неба раз'яснілася, афарбавалася ў зеленаваты халодны колер, і на Палессе зноў насунуліся пякучыя маразы.

Патаемнымі сцежкамі і дарогамі, а дзе і без дарог, прабіраецца, ідзе дзед Талаш у сваю вёску. Не ведае дзед, што ён — вядомая асоба не толькі сярод партызан і вайсковых людзей, але і сярод яго заклятых ворагаў, што за ім з асаблівай увагаю і пільнасцю сочыць польская контрразведка і паліцыя. Пасля захвату польскіх афіцэраў і салдат у Віркуцці і ганусанскіх падзей палякі прынялі рад строгіх захадаў, накіраваных на вылоўліванне такіх небяспечных людзей, як дзед Талаш, Мартын Рыль і іх паплечнікі. Дзед Талаш і Мартын Рыль былі запісаны ў асобны спісак з пералічэннем прымет, па якіх можна пазнаць іх.

Хоць і не ведаў аб гэтых строгасцях дзед Талаш, але, адчуваючы свае грахі перад акупантамі, ён таксама трымаў вуха востра. Так, ён не адважыўся ўзяць з сабою «настаяшчую» стрэльбу, хоць разлучацца з ёю яму было

цяжка: пападзешся са стрэльбаю, тады прапаў вечным правам. Гэта засцярога і дасканалае веданне свайго Палесся дапамагалі дзеду шчасліва дайсці дамоў. Пад поўнач ужо ўваходзіць дзед у сваю хату.

Бабка Наста не можа цалкам аддацца сваёй радасці, пабачыўшы дзеда і даведаўшыся аб Панасе: абставіны былі такія, што кожны час, кожная мінута пагражала і дзеду, і Панасу, і ўсім ім страшным ліхам, і цяпер бабка трасецца ад глухой і цёмнай трывогі. Што можа сказаць яна дзеду Талашу, калі ён так далёка зайшоў у сваіх учынках.

Адно можна сказаць: не паказвацца болей тут, не дражніць ліха, покі жыццё не зменіцца ў лепшы бок — ад свайго дома ён сабе адрэзаў усякія дарогі.

Дзед Талаш моўчкі і з глыбокаю ўвагаю слухае навіны, што расказвае яму бабка і Максім. І што асабліва зацікавіла дзеда Талаша, дык гэта паведамленне аб Саўку і яго фальшывым партызанстве, і аб той ролі, якую адыгралі ў гэтым Васіль Бусыга і яго прыяцелі. Дзед Талаш маўчыць. Уся яго злосць пераходзіць на войта і яго прыяцеляў.

— Бач іх, якія спрытныя! — нарэшце падае голас дзед Талаш.

— Ну, добра.

У гэтым... «Ну, добра» чуваць пагроза. Дзед Талаш яшчэ і сам не ведае, якою мераю адмерае ён войту, але гэта ён так не папусціць.

Пасля доўгага разважання над усім тым, што даведаўся дзед Талаш, ён сказаў рашуча і цвёрда:

— Дык вось што, мае мілыя, паслухайце-ж вы мяне.

Адразу пачулася, што дзед скажа нешта вельмі важнае.

— Вам усім трэба сыйсці з дому, — катэгарычным тонам заявіў дзед Талаш, — так, трэба сыйсці.

Дзедава заява была такая нечаканая, што ніхто не знайшоў, што сказаць на яе. А дзед тым-жа тонам казаў далей:

— Рашыць гаспадарку — яна ў нас не дужа вялікая. Хату забіць, бо калі будзеце тут сядзець, яе ўсёроўна спаляць палякі, а вы набярэцеся лішняй бяды і страху.

— А куды-ж мы дзенемся? Што ты гаворыш, стары,— жахліва запытала бабка Наста.

— Ты, маці, — спакойна, але цвёрда адказаў дзед Талаш, — перабірайся ў Макушы да Тэклі. Алена пажыве ў сваіх бацькоў, а табе, Максіме, няма чаго пільнавацца бабы. Калі Саўка пайшоў у партызаны, то і табе трэба туды падацца, ды толькі не па Саўкавай дарозе ісці. Пакуль вы будзеце ліпець тут, чакаючы кожны дзень бяды, то і мяне і Панаса будзе цягнуць хата, і позна ці рана паловяць нас, літасці нам не будзе.

Трудную задачу задаў дзед Талаш, і вышла яна зусім нечакана і для самога дзеда, і для яго сям'і.

Ламалі над ёю галовы і нарэшце мусілі згадзіцца, што іншага і лепшага выхаду з іх становішча няма. Пакінутая хата можа астацца цэлаю... Сапраўды, не кепска гаворыць стары.

Выходзячы з дому яшчэ досвіту, ён весела сказаў:

— А што да Саўкі, дык я вельмі задаволен гэтай навіной: мы з ім трохі пагутарым. Знайдзіце-ж яго і скажыце яму: няхай ідзе ў Карначы і запытае Цімоха Будзіка. Гэта наш верны чалавек. Цімох і пакажа яму дарогу да нас.

Ужо кіламетраў пяць прайшоў дзед Талаш, калі пачало ўзыходзіць сонца. У лесе было ўрачыста ціха. Адзін толькі мароз гучна палусківаў у галінах старадрэвін, ды звонка скрыпеў сухі снег пад дзедавымі нагамі. Самыя небяспечныя мясціны, як здавалася дзеду, засталіся ззаду, і ён ішоў павольна і спакойна, аддаўшыся цалкам сваім думам. Думаў ён пра Саўку Мільгуна, пра Васіля Бусыгу. Затым думаў дзед і пра сваю хату, што праз колькі дзён застанецца адна без гаспадароў. Што будуць гаварыць людзі, як успрымуць яны весці аб тым, што Талаш і яго сям'я сышлі з дому? Дзеду здавалася, што гэта весць усхвалюе людзей, і ён яшчэ болей упэўніўся ў правільнасць свайго ўчынку. Ды і спакайней будзе і яму з Панасам і ўсім ім. З такімі думкамі падыходзіў дзед Талаш да Сухога поля, дзе ён, чакаючы Панаса, сустрэўся з Мартынам Рылем. Вось і той стары каржакаваты дуб. Стаіць ён з тым-жа комам снегу, заціснутым між развілін, такі-ж, як і быў, крэпкі і звязісты, толькі мароз,

аздобіўшы яго інеем, зрабіў яго яшчэ болей паважным і сталым.

Загледзеўся дзед Талаш на гэты дуб і даў зевака: і не агледзеўся ён, як перад ім, быццам з снегу выскачыўшы, вынырнулі тры легіянеры.

Наставіўшы на дзеда стрэльбы, грозна крыкнулі:

— Стой!

Затроссяя дзед Талаш. Ком гарачыні пакаціўся дзесь у сярэдзіне каля сэрца. «Прапаў ты, брат Талаш!» — сам сабе сказаў дзед і спыніўся. Але ў той-жа момант моцна ўзяў сябе ў рукі. — Тфу, тфу, тфу, — тры разы плюнуў дзед Талаш і сказаў тры гэтым: — Як-жа вы злякалі мяне, гіцлі!

Дзед пастараўся прыняць самую пацешную постаць перапалоханага чалавека. Такая перапалоханасць і дзедава збянтэжанасць развесяліла легіянераў і пальсціла ім.

— Хто ты і куды ідзеш? — спытаў старшы легіянер.

— Тутэйшы, пане! Іду на балота — бучы паставіў: можа ўюн ці не ўлез?

— Ідзі з намі! — загадаў той-жа салдат.

— Куды і чаго? — вялікае недаўменне адбілася на дзедавым твары.

— Ідзь, ідзь, галган стары! — салдат злёгку штурхануў дзеда.

Паскроб дзед патыліцу.

— Ды мне-ж і часу няма.

Дзеда штурхнулі яшчэ энергічней.

— А бадай-жа вы па свеце не хадзілі! — сказаў дзед і пайшоў з салдатамі.

«Канец», — думае сам сабе дзед Талаш. І вялікі прадсмертны сум ахапіў яго душу.

Наабапал іх дарогі стаіць лес, пасівелы ад інею, як і дзед Талаш ад старасці. Дзед прыглядаецца да лесу. Няўжо гэта апошні раз бачыць ён гэты лес? І так-жа не хочацца ўміраць. Ён успамінае сваю хату. Ці добра зрабіў, сказаўшы сваім дамашнім сыйсці з дому? Апошні яго ўчынак устае перад ім у іншым святле. Жаль і вялікую

адзіноту і поўную адарванасць ад свету, ад людзей адчувае дзед Талаш. Але гэты мінутны ўпадак духу і слабасць яго праходзяць. Маланкай мільгаюць яго мыслі. З незвычайнай быстрынёй і з неймавернаю чоткасцю праходзяць перад ім перажытыя з'явы, падзеі і цяперашняе яго становішча. Успомніў і сваіх таварышоў па зброі: Мартына Рыля, з якім ён так моцна зжыўся і палюбіў, як роднага сына, за часы агульнага тулянння па лясах і агульных паходаў, Нупрэя, Купрыянчыка, Цімоха Будзіка і ўсю грамаду сваіх ваяк. Што-ж будзе цяпер з імі? Што станецца з тою агульнаю справаю, якую выношвалі ўсе яны ў сваім сэрцы, за якую так многа цярпелі і пакутвалі? Жыць, што-б там ні стала! Вось заключны акорд усяго складанага комплекса жыцця, што праходзіць перад яго вачыма.

З паразліваю яснасцю вынікае перад ім Мартын Рыль, яго апавяданне пра сваё вызваленне з-пад польскага канвоя. Ён пераводзіць вочы на свой канвой. Легіянеры курчацца ад марозу, наставілі каўняры шынеляў. Двое ідуць наперадзе. За імі дзед Талаш, а трэці старшы ідзе ззаду і трохі наўзбоч. Дзед Талаш мерае вокам іх фігуры, ацэньвае іх фізічную сілу. Яны здаюцца яму, як сам ён казаў, «шчуплымі». І раптам нешта знутры штурханула дзеда Талаша. Умомант вока ён хватае карабін з рук старшага легіянера, таго, што ішоў наўзбоч ззаду, і б'е яго з такою сілай прыкладам па галаве, што ложа карабіна ломіцца. Трэск зломанага карабіна і хруст чэрапа зліваюцца ў адзін гук. Як сцяты маланкаю, легіянер тут-жа падае. Толькі адзін крык, немы і невыразны, вырваўся з яго грудзей.

— Сюды! Ка мне, хлопцы! — дзіка крычыць дзед Талаш і кідаецца з металёваю часцю карабіна, што засталася ў яго руках, на другіх салдат. Яны-ж ад нечаканасці і страху пакідалі свае карабіны і кінуліся наўцёк у лес.

Падабраў дзед іх карабіны і, як дзікі звер, сам кінуўся бегчы.

Калі ён крыху апамятаўся і заспакоіўся, то першае, што ён адчуў і што потым доўга не забывалася, гэта быў хруст разбітага ім чэрапа невядомага яму чалавека. Хруст гэты некалькі дзён стаяў у яго вушах.

## XXVI

Васіль Бусыга і яго прыяцелі з напружанасцю чакалі першых данясенняў ад свайго «партызана» Саўкі Мільгуна. Але праходзілі дні, а Саўка не паказваўся і не падаваў аб сабе ніякіх вестак. Гэтая акалічнасць пачынала непакоіць войта і наводзіць яго на розныя мыслі. Хоць і не ў такой ступені, але непакой гэты адчувалі і войтавы прыяцелі. Часамі, сустрэўшыся, яны так ці іначай завядуць гутарку пра Саўку.

— Нешта-ж не чуваць нашага Саўкі, — гаворыць войт і ўважліва пазірае ў вочы Брую. Бруй бачыць, што войту не церпіцца.

— Не чуваць, — пацвярджае разважлівы Бруй.

— Не чуваць падлы, — паўтарае Бірка.

— Што-б гэта значыла? — войту хочацца ўсё-ж дайсці прычыны.

— Справа, бачыш ты, далікатная, — становіцца на шлях разважання разважлівы Бруй. — Вы пастаўце сябе на яго месцы — хутка і не зробіш тут. Гэта не тое, што ўзяў цэп і пайшоў малаціць.

— Ды і цэп узяўшы, адразу малаціць не будзеш, — устаўляе слова і Бірка.

— Саўка, на мой розум, і добра робіць, што не спяшаецца, — гаворыць далей Бруй: — тут, браткі, трэба спрытна падыйсці. Лепш памарудзіць, але зрабіць гладка і акуратна. Цяжэй за ўсё зрабіць першыя крокі... Трохі пачакаем.

Войт паддаецца Бруевым разважанням і на некаторы час заспакойваецца, але ўсё-ж цень трывогі дзесь туліцца ў яго сэрцы, і варта было яму застацца аднаму, каб закалыханая Бруем трывога абуджалася ў ім ізноў.

Хоць войт і меў прыяцеляў у асобах Бруя і Біркі і начальніцкае падтрыманне з боку пана Крулеўскага, тым не меней ён часамі адчуваў сваю адзіноту і адарванасць ад грамады. Адчуванне адзіноты паглыблялася ў ім яшчэ тою акалічнасцю, што з таго часу, як стаўся ён войтам, паміж ім і Аўгіняй лёг цэлы рад непаразуменняў. Вясна-ж і тыя настроі, што насіліся ў самым паветры, усе гутаркі, звязаныя з няяснымі і грознымі падзеямі, што

мае прынесці з сабою вясна і тая напятая засцярожлівасць, што панавала ўсюды, куды ні паткнецца войт, усё гэта выводзіла яго з роўнавагі, прыгнятала яго. Пад уплывам гэтых настрояў Васіль ужо хацеў пераглядзець свае адносіны да Аўгіні за апошні час і пайсці на згоду. Ён толькі вылучаў зручную мінуту, каб зрабіць гэта палітычна, не паступаючыся годнасцю войта, гонарам мужа і мужчыны наогул. Але здарылася адна праява, што яшчэ глыбей выкапала расколіну паміж імі і паставіла Аўгіню па другі бок ад Васіля.

Раз пад вечар ішоў Васіль па вуліцы. З таго часу, як дзед Талаш збег з дому і заставаўся на волі, ды не сядзеў злажыўшы рукі, дзедава хата набывала нейкую ўладу над войтам, і ён ніколі не мог спакойна праходзіць міма яе. Дзедава хата як-бы пасміхалася з войта і з яго марных стаpанняў злавіць небяспечнага паўстанца. Усё-ж тыя гутаркі і чуткі, што наверчваліся каля асобы дзеда Талаша, сеялі непакой у войтавым сэрцы. Апроч усяго іншага, Васілю было проста непрыемна, што ён, войт, не гледзячы на ўсе захады, каб злавіць старога Талаша, аставаўся, як кажуць, з носам. Праўда, цяпер была надзея на Саўку Мільгуна, але Саўка да гэтага часу не падае аб сабе ніякага голасу.

Васіль прыпыніўся ў прыхаваным закутку, пазіраў на Талашову хату і разважаў. Тут прышла яму ў галаву думка, — ці не лепей было-б проста паставіць патайную варту, нават з польскіх салдат? Хіба пагаварыць аб гэтым з панам Крулеўскім? Не, трэба счакаць яшчэ: а ну-ж з'явіцца Саўка з добраю навінаю. І бачыць Васіль — з двара Талашовай хаты выходзіць жаночая постаць. Жанчына спасцярожліва азірнулася па баках і борздзенька накіравалася ў бок сяла, але не пайшла вуліцаю, а павярнула загуменнем у задворкі. На дварэ ўжо змерклася, і пазнаць жанчыну было трудна. Васіль зацікавіўся і нават злёгку захваляваўся і вышаў з свае засады, не спускаючы жанчыны з вока. Туляючыся каля будынкаў, ён пайшоў назіркам туды, куды пайшла і жанчына. На сярэдзіне сяла ён згубіў яе. Як ганчак, збіўшыся з зайцавага следу, Васіль прашнураваў туды і сюды, а потым выбег на вуліцу: тая-ж жаночая постаць мільгнула на

вуліцы і шмыгнула ў вароты войтавага двара. І толькі цяпер ён пазнаў, што гэта Аўгіня, яго жонка! Здзіўлены і яшчэ болей усхваляваны войт спыніўся, як аслупянелы: чаго хадзіла яна туды? Які мае там яна інтарэс? Цэлы жмут думак і пачуццяў калыхнуўся ў Васілёвым сэрцы. Страшная думка раптам працяла яму галаву: ці не хадзіла яна на пабачэнне з Мартынам Рылем? Аж горача зрабілася войту. Як-жа дазнацца яму праўды? Чаго яна хадзіла туды? Чаго? І да каго хадзіла? Да яго заклятага ворага.

Войт зусім разгубіўся. Шалёная злосць прашыбла яго ўсяго. Ён парывіста рушыў у свой двор, каб не даць апамятавацца здрадлівай жонцы і захапіць яе знянацку. Злы, раз'юшаны, са сцятымі зубамі і з ссунутымі брывамі пераступіў ён парог свае хаты. Аўгініны вочы—зоркія вочы: яна заўважыла Васіля, калі ён ішоў за ёй назіркам, і адразу пачула, што папалася і што з-за гэтага будзе вялікая перапалка, а можа яшчэ і горшае што. Выкручвацца тут не выпадала. Апраўдвацца, — але ў чым? Яна-ж проста хадзіла да бабкі Насты. Хіба яна не мае права хадзіць, куды яна хоча? Што ёй да таго, што ён закляты вораг старога Талаша? Але ўсё-ж нейкі голас з нутра ёй пярэчыў — раз ён твой муж, то з мужам ты павінна быць заадно. Ды голас гэты быў дужа слабы, і слухаць яго яна не хацела. І Аўгіня спакойна, як чалавек, упэўнены ў немінучасці ліха, гадала, з якога боку і з якой сілай наваліцца на яе гэта ліха.

— Ты дзе была? — націскаючы на «дзе» запытаў Васіль, а зеленкаватыя, поўныя падазронасці вочы яго пазіралі на Аўгіню. Аўгіня старалася не глядзець на Васіля і, толькі пачуўшы грозны тон у яго голасе, зірнула на яго халоднымі, чужымі і безуважнымі вачыма.

— А што табе да таго, дзе я была? І чаго ты глядзіш такім зверам?.. Не баюся я цябе! — апошнія словы яна сказала ўзняўшы голас.

— Кажы, дзе была, гадзюка ты, шлюха! — загрымеў на ўсю хату Васіль, сашчаміўшы зубы, і ўсутыч падступіўся да Аўгіні.

Голас яго адбіўся ў кожным закутку хаты і вострым болем адгукнуўся ў сэрцы дзяцей. Як асіна, закалацілася

Алеся. З немым крыкам, белая, як палатно, кінулася яна да маткі, абняла яе моцна рукамі, каб загарадзіць яе сваім кволым дзіцячым целам ад бацькавай ярасці. Пятрок і Грышка знямелі ад страху, стаіліся каля печы і пазіралі на бацькоў перапалоханымі вочкамі. Нават дзед Купрыян прысеў на палатках і падняў на Васіля свае мутныя старэчыя вочы.

— Чаго іх там чэрці дрэнчаць? — ціха сказаў ён хутчэй да самога сябе, чым да Васіля і Аўгіні. Хацеў яшчэ параіць Васілю ўзяць лейцы ды лепей лейцамі сербануць разы са два, калі яна вінавата, але не сказаў і толькі патрос галавою.

— Горшай гадзюкі, як ты, няма. Чаго ашчэрыўся, як звер? Дзяцей насмерць перапалохаў. Чым яны вінаваты? — спакойна, але цвёрда азвалася Аўгіня. Яна ўся траслася, але роўнавагі не губляла.

— Прызнавайся, чаго ты хадзіла да старога разбойніка?

Замест адказу Аўгіня схапіла клубок нітак, шпурнула ім у чорную Васілёву бараду.

— Вось па што хадзіла. З'еш яго!

Клубок ніцяў, кінуты Аўгіняй у войтаву асобу, адыграў ролю халоднага душу. Збіты з тропу Васіль недаўменна пераводзіў вочы то на клубок, то на Аўгіню. У гэтай стычцы з Аўгіняй ён чакаў дазнацца чагось большага і страшнейшага за гэты клуб ніцяў. Запал яго асеў, гарачка спала. Цяпер кіраўніцтва далейшаю сваркаю ўзяў у ім войт.

— А чаму гэта ты носіш туды кудзелю?

— А ты што-ж? — забароніш мне? — дзёрзка запытала Аўгіня.

— І забараню! — тупнуў нагою войт.

— Мамка, маўчы. Не сварыся з татам! — залементавала Алеся, націскаючы на матку сваім кволым целам, каб адвесці яе далей ад грознага і страшнага войта.

— Я не твая падданая і не нявольніца, каб слухаць твае забароны!

Войт шырока расплюшчыў вочы.

— Дзе-ж гэта набралася ты такой вольнасці? — злы

смех пачуўся ў войтавым запытанні. — Можа і ты ў лес збіраешся?

— Ды ўжо-ж лепей у лес ісці, як быць войтам, як ты.

Новая хваля злосці пашыбла войта. Але ён цяпер ужо не схібіць — у яго ёсць цвёрдая лінія, і ён ведае, як павесці справу, і ведае, чым кончыць сваю гэту стычку з Аўгіняю.

— Гэта ты ў Талашоў набралася такога розуму? Ці можа навучыў цябе Мартын?

Назваўшы Мартына, Васіль зразу адчуў усю нянавісць да яго і да Аўгіні. Таксама і Аўгіня не магла спакойна пачуць гэта імя.

— Хто-б сабе ні вучыў, абы навучыў. А вось цябе дык ніхто не навучыць. І людзі глядзяць на цябе, як на воўка... Ты сам сабе яму капаеш...

— Ты мне капаеш яму! — перапыніў Аўгіню Васіль.— Як ты смееш хадзіць да гэтых Талашоў і кампанавацъ з імі? Хіба гэта людзі? Разбойнікі, галадранцы, злачынцы. Ці табе хлеб мой гаспадарскі надакучыў? Ці табе няма ў што адзецца, што водзіш з імі дружбу? Хто-ж ты пасля гэтага?

— Што ты папікаеш мяне сваім хлебам? — заваблівыя Аўгініны вочы сталі злымі і халоднымі. — Хіба-ж я не працавала? Не зарабіла сабе на хлеб, на адзежу?

Яна заплакала і, змяніўшы голас, сказала:

— Дык няхай-жа ён агнём пойдзе твой хлеб і твая адзежа! Лепш-бы я батрачкаю засталася!

— А! абжэрлася! Батрацтва захацела? — Васілёвы губы пачварна скрывіліся, чорная барада заківалася. — Дык забірай свайго байструка і — марш з мае хаты! Вон, каб тут і смуроду твайго не было! Не трэба мне здрадніцы і ворага ў хаце! Вон!

Схапіў за плячук Аўгіню і з сілаю штурхнуў яе ў дзверы. Алеся, прыліпшы да маткі, хіснулася разам з ёю і стукнулася галавою аб касяк. Яна схапілася рукою за гаrange лаву, але не плакала і не крычала, а толькі калацілася ўся, як у ліхаманцы. Пятрок і Грышка кінуліся з плачам да маткі і таксама пачапляліся ручкамі за яе адзежу.

Такая горкая крыўда і такая абраза!

Нічога падобнага не зрабіў так з Аўгіняй ніхто на

свеце. Яна сама перапалохалася не менш за Алесю. Жахліва зірнула на раз'юшанага войта, потым прытуліла Алесю.

— Дачушка мая! Галоўку табе пабіў гэты звер?

— Мамка! На што ты сварылася з татам? — з дакорам запытала матку ціхенька Алеся.

А Васіль у парыве дзікага буйства рынуўся да ашэстка, стаў зрываць Аўгініну і Алесіну адзежу і кідаць яе пад ногі.

— Забірайце свае транты і не мазольце мне вачэй! Годзе!

Потым паваліў на бок куфар, ускочыў на яго з ботамі і пачаў таптаць і біць яго абцасамі.

Аўгіня моўчкі надзела кароткі кажушок, накінула на галаву цёплую хустку, адзела Алесю.

— Пойдзем, дачушка, нам няма тут месца, — Пятрок і Грышка паднялі лямант.

— Не ідзі, маці!

— І мы з табою!

— Марш на печ! — тупнуў на іх бацька.

Хлопчыкі пакорна выпусцілі з рук матчын кажушок і з апушчанымі галовамі пашыбавалі ў падсуседзі да дзеда Купрыяна і там пачалі голасна плакаць.

— Не плачце, дзеткі! — сказала да іх маці. — Я вярнуся і вас вазьму.

— А скулу табе! — крычаў Васіль. — Хопіць з цябе твайго байструка!

— Ну, гэта мы яшчэ пабачым, — і пагроза чулася ў Аўгініным голасе.

Васіль расчыніў дзверы. Аўгіня, не чакаючы новага штурхеля, узяла за руку Алесю і выступіла за парог у цемру зімняга вечара.

Назаўтра па вёсцы Прымакі, — так звалася вёска, дзе жыў дзед Талаш, — толькі і гутаркі было, што пра Аўгіню ды пра яе сварку з войтам Васілём Бусыгам. А пад вечар таго-ж дня другая навіна не меней здзівіла Прымакі: Талашова хата і ўсе яго будынкі засталіся пустымі, пакінутымі гаспадарамі.

У Саўкі Мільгуна выпрацаваўся свой погляд на рэчы: лепей спазніцца, чым не ў часе схапіцца. Вось чаму, развітаўшыся з Максімам, павольна, не спяшаючыся, пасоўваўся ён у бок Вепраў. Ды і чаго наогул спяшацца? Усёроўна, спяшайся, не спяшайся, а свайго не мінеш. У Вепрах Саўка запыніўся на некаторы час: былі ўсе падставы для таго, каб пабыць там даўжэй. Па-першае, там было многа народу, моцна пакрыўджанага палякамі: у Вепрах палякі забілі Кандрата Буса, спалілі Мартынаву хату. Наогул Вепры абадралі яны, як ліпку. Па-другое, у Вепрах былі і Саўкавы прыяцелі, даўнейшыя хаўруснікі па часці канакрадства. Праўда, справы гэта ўжо не такія пачэсныя, каб на іх тут доўга спыняцца і раззвоніваць, але ўспомніць пра іх у добрай кампаніі пры чарцы самагону ўсё-ж можна было, асабліва, калі прыняць пад увагу, што рабіліся яны яшчэ за царом. А ў Саўкі якраз і аванс быў, выданы яму войтам і яго прыяцелямі. Такім чынам у Вепрах прабыў Саўка дзён тры ці чатыры. І трэба сказаць, дарма часу ён і тут не зводзіў: і тут ён пашыраў, праўда, пад вялікім сакрэтам, тыя-ж погляды, аб якіх расказваў Максіму, гаварыў аб сваім замаху стаць партызанам. У гэтай справе ён ужо набіў, як кажуць, руку. Ён так захапіўся партызанствам, што і сам пачынаў верыць у яго. Але за гэты час адбыліся некаторыя падзеі, у выніку чаго сюды, у Вепры, прышла Талашова нявестка і таксама па сакрэту расказала Мартынавай жонцы пра тую ролю, якую адвялі Саўку войт і яго прыяцелі. Вепраўцы, дачуўшыся аб гэтым, былі дужа абураны, і невядома што сталася-б тут з Саўкам, калі-б не прышоў сюды Талашоў Максім і не перадаў загад свайго бацькі накіраваць Саўку ў Карначы да Цімоха Будзіка. Гэтым вырашэннем справы ўсе засталіся задаволены: сам Максім, бо ён выпаўніў бацькаў загад знайсці Саўку, каб накіраваць яго да Будзіка; вепраўцы — ім не трэба было думаць, што зрабіць з Саўкам. Задаволены быў і Саўка: ён знайшоў тое, чаго шукаў.

З Вепраў падаўся Саўка ў Карначы.

Цімох Будзік доўга і ўважна паўзіраўся ў Саўку Міль-

гуна. Саўку было нават трохі няёмка пад такім пранізлівым позіркам Цімохавых вачэй. Але ён храбра вытрымаў гэты выпрабоўваючы позірк і ў сваю чаргу, не маргнуўшы вокам, пазіраў на Цімоха.

— Дык гэта ты і ёсць той самы Саўка Мільгун? — запытаўся нарэшце Будзік.

«Прычым тут той самы? і чаму «той самы»? — сам сабе падумаў Мільгун. У гэтым «той самы» яму пачулася нешта такое, што шоргнула па ім, як кажухом па печы.

— Як гэта «той самы»... Хіба ёсць яшчэ і не той самы Саўка Мільгун, і ты ведаеш такога? — пацікавіўся Саўка.

— Можа ёсць, можа і ведаю, — многазначна ўсміхнуўся Цімох, і смех не зусім ішоў да яго суровага твару.

— Здаецца, як-бы я цябе дзесь бачыў, — Цімох зноў паглядзеў на Саўку.

— Можа і я цябе дзесь бачыў, — і Саўка таксама паўглядаўся ў Цімохаў твар, падкрэсліўшы слова «дзесь».

— А дзе было гэта «дзесь»? — запытаўся Цімох. Саўка хітра зірнуў на Будзіка.

— Калі не памыляюся, дык у Мазыры елі царскія сыры.

Саўка намякаў на Мазырскі астрог. Ён прасядзеў там цэлы год, як асуджаны за палітычную справу, за распаўсюджванне пракламацый. Гэта акалічнасць, паказваючы Саўку з новага боку, вымагае тлумачэння. Справа тут вось у чым: Саўка ведаў, што асуджаныя за «палітыку» карыстаюцца павагаю з боку шырокіх колаў грамады. На гэтым ён і пабудаваў сваю тактыку. І ў апошнія часы, калі ён ішоў на лоўлю, гэта значыць красці коні, то браў з сабою і пракламацыі. Яго злавілі, як канакрада, але ў яго аказаліся пракламацыі. І судзілі Саўку не як канакрада, а як «дэмакрата-соцыяліста».

Цяпер Саўка з энтузіязмам хваліцца, што і ён змагаўся з царскім «прыжымам». Цімох Будзік, як ужо вядома, адбыў два гады арыштанцкіх рот за падпал панскай стадолы, сядзеў як крымінальнік.

— Гм! так, так! Помню, — рэзюмаваў успаміны пра былое Цімох. — А цяпер, значыцца, ваяваць з панам?

— Ваяваць, брат, да канца ваяваць! — сказаў Саўка і рашуча кіўнуў галавою.

— Ну, то і добра. Завяду я цябе да нашых, пазнаёмлю з нашым атаманам.

Дзед Талаш, так удала вырваўшыся са свайго палону, заняўся Саўкам Мільгуном: што з ім рабіць? Як быць з ім? У дзеда Талаша было многа розных праектаў, але паколькі гэта справа мела грамадскі характар, то дзед Талаш палічыў болей правільным перадаць гэту справу на вырашэнне партызанскай грамады, у якой ужо складаліся свае парадкі і законы. Якраз гэтымі днямі партызанская грамада значна павялічылася. Партызанскі рух з набліжэннем вясны рос і шырыўся. Сюды прышоў Марка Балук з-пад Цернішч. Прышоў ён адзін, але ў яго была свая грамада адважных людзей. Яму трэба было звязацца з партызанамі дзеда Талаша і выпрацаваць план сумеснага дзеяння.

Аўтарытэт Маркі Балука высока стаяў у вачах тутэйшых партызан. Прывёў яго Мартын Рыль, і сустрэлі яго з радасцю. Дзед Талаш моцна і доўга трос яго руку, пазіраў яму ў вочы.

— Дай-жа, саколе, паглядзець на цябе. Чуў я, чуў пра Марку Балука. Шукаў цябе, сынку, эге-ж: жонку тваю выпадкам спаткаў. Аб табе гутарылі.

Прыход Маркі Балука, набліжэнне вясны і пашырэнне партызанскага руху высоўвала цэлы рад новых пытанняў, аб якіх трэба было пагаварыць. Нараду правялі ў лесе. На нарадзе былі: Марка Балук, Мартын Рыль, Цімох Будзік, Нупрэй, дзед Талаш і некалькі радавых партызан. Гаварылі аб формах сувязі сярод партызан, абмеркавалі ўмоўныя знакі, каб пазнаваць сваіх, аб вярбоўцы людзей у партызаны, аб размеркаванні раёнаў баявога дзеяння. Калі ўсе гэтыя пытанні былі абмеркаваны, выступіў дзед Талаш, каб расказаць пра Саўку Мільгуна.

— А цяпер, хлопцы-малойцы, раскажу вам адну рэч, — пачаў дзед Талаш, — памятаеце вы, што гаварыў нам таварыш Букрэй? Ён гаварыў, што да нас будуць прыставаць і нашы ворагі... Як ён іх называў, забыўся.

— Правакатары, — падказалі дзеду.

— Во, во, гэтыя атамары. Вось-жа ён і не памыліўся. Я маю пэўныя весткі аб тым, што Васіль Бусыга з нашай вёскі і яго прыяцелі-багацеі нанялі злодзея Саўку

Мільгуна, каб ён, прыкінуўшыся нашым чалавекам, прышоў да нас, як партызан-ваяка. Праз гэтага злодзея яны хочуць выведаць усе нашы сакрэты, а нас прадаць панам. Чуеце, што робіцца? Да чаго дадумаліся падлюгі! І Саўка да нас прыдзе. Я нават сказаў, каб яму перадалі, як да нас зайсці. Я сказаў, каб ён прышоў да Цімоха Будзіка. А ты, Цімох, і прывядзеш яго да нас, нічога не кажучы яму пра тое, што мы аб ім ведаем. Дык што мы з ім зробім? Давайце памяркуем разам.

Зашумелі суровыя галасы абурэння. На Саўку Мільгуна пасыпаўся цэлы град крэпкіх слоў і жорсткіх праклёнаў. Нарэшце ўсё гэта вылілася амаль аднагалосна ў суровы прысуд:

— Застрэліць гада!

— Павесіць здрадніка!

— Ды ўжо-ж не пашкадуем яго, — сказаў стары Талаш, — але-ж за спіною Саўкі стаяць яшчэ большыя нашы ворагі: сам войт Бусыга, Бірка і Бруй. Што-ж яны за божыя ўнукі? Так ім і падараваць?

— І ім туды дарога! — пачуліся грозныя галасы.

Мартын Рыль стаяў пануры. Думаў аб тым, у якім асяроддзі жыве Аўгіня. Няўжо яна не ведае аб гэтай змове свайго мужа і яго прыяцеляў? Не выказаўся таксама і Марка Балук.

— А ты як мяркуеш, сынку? — запытаў у яго дзед Талаш.

Балук усміхнуўся.

— А я, бацька, вось як мяркую. Калі да нас прыдзе Саўка і раскапае тое, што яму трэба, дык яго трэба пусціць.

— Як-жа пускаць такога гада? — запытаў Цімох Будзік.

— А вот вы слухайце.

І Марку слухалі з напружанай увагай.

— Саўка пойдзе і раскажа таму, хто паслаў яго. А яны пойдуць і заявяць пра гэта ў паліцыю. І Саўка прывядзе сюды паліцыю ці салдат. Вось тут і трэба падкараўуліць і сустрэць іх так, каб ніхто з іх не вярнуўся з лесу.

— А ты праўду кажаш, сынку. Эге-ж! Залатая ў цябе галава. Не горшая, як у Букрэя.

Усім спадабалася Балукова выдумка і гуртом прыступілі да распрацоўкі ўсяго плана.

Дзён праз колькі пасля гэтага прывёў Цімох сюды Саўку. Дарогаю расказаў яму, што партызанскі атаман стары Талаш з меншым сынам Панасам і з Мартынам Рылем хаваюцца ў лесе, начуюць у салашы.

А салаш гэты зрабілі спецыяльна для таго, каб ашукаць Саўку, спадзяючыся, што Саўка раскажа аб гэтым войту, а войт ужо зробіць усё, каб прышлі сюды палякі, і Саўка напэўна прывядзе іх.

Дзед Талаш сядзеў у салашы на дубовай калодцы, з важнаю і гордаю мінаю партызанскага атамана, пыхкаў люлькаю, выпускаючы струменьчыкі сіняга дыму. Перад ім курыўся невялічкі агеньчык. У салашы ляжала салома і жорсткае сена. Некалькі дзяружак, скамечаных і кінутых як папала, сведчылі аб тым, што тут начуюць людзі.

— Вось, бацька, прывёў я ваяку! Партызанам хоча быць, — адрэкамендаваў Цімох Саўку Мільгуна.

— Добра, сынку, добра!.. Ну, здароў, Саўка!

Дзед Талаш падаў Саўку руку.

— Што-ж павяло цябе на гэту справу?

— Не магу зміріцца — такія крыўды чыняцца людзям.

— А якую маеш крыўду?

— Мяне яны, сказаць, не пакрыўдзілі. Але не магу спакойна глядзець, як другіх крыўдзяць. Вы-ж ведаеце. А пра вас так многа гавораць, што мне проста захацелася з вамі быць, біцца з панамі насмерць. На ліха яны здаліся?

— Ну, добра. Мы цябе прымаем, але памятай — слухаць павінен. У нас па-ваеннаму, строга! Дамо табе даручэнне, ты мусіш яго выпаўніць.

— Усё буду рабіць, што загадаеце! — горача заявіў Саўка.

Дзед паглядзеў на яго. Саўка і вокам не змаргнуў.

— Дужа добра! Дык вось на першых часах ты павінен да палякаў прыглядацца, разведваць, дзе іх войска, куды яго гоняць. Ды глядзі, сынку, язык трымай за зубамі. Што ведаеш пра нас, нікому ні гу-гу.

— Вядомая рэч, ці я не ведаю? — падхапіў Саўка.

— Ну вось і ўсё покі што. Старайся, сынку!

Саўка, як злодзей, украдкай агледзеў салаш і лес.

— І вы, бацька, адзін жывеце тут? — пацікавіўся Саўка.

— Усяляк бывае: і адзін і хто-небудзь у падсуседзі прыдзе. Прыходзь-жа сюды не пазней трох дзён, раскажаш нам, што здабудзеш за гэты час. Апознішся, то можа мяне не застанеш тут.

На гэтым і скончыў дзед Талаш сваю аудыенцыю.

У лесе на скрыжаванні дарог развітаўся Саўка з Цімохам. Унурыўшыся, ішоў ён праз лес. Першы раз у жыцці яго заскрэбла штосьці моцна-моцна. Яго пачынаў агортваць страх, і ён часамі жахаўся той ролі, якую навязалі яму войт і яго прыяцелі. У ім пачыналі варушыцца рэшткі сумлення. У яго вачах увесь час стаяў дзед Талаш. Яму чуўся нават яго голас. Куды-ж ён, Саўка, ідзе? З чым ідзе? Што скажа? Скажа, дзе знаходзіцца дзед Талаш з сынам і з Мартынам Рылем. Ён проста прадасць іх, як прадаваў калісь крадзеных коней. Але адна справа жывёла, а гэта жывыя людзі, людзі, загнаныя ў трушчобы, як дзікія звяры, людзі, якія хочуць жыць і якія ніколі не бачылі дабра.

Былі моманты, калі Саўка важыўся вярнуцца назад, каб расказаць Цімоху ўсю праўду. Але Саўка не так далёка яшчэ зайшоў у сваім злачынстве. Апошні і рашучы момант яго злачынства адбудзецца тады, калі ён раскажа войту пра дзеда Талаша. Гэта акалічнасць крыху заспакойвала Саўку, і ён думаў аб тым, як рабіць яму далей. Ні да чаго пэўнага не прышоў Саўка ў сваіх думках, там відней будзе, пакінуў Саўка за сабою свабоду дзеяння і сунуўся далей.

Была ўжо глыбокая ноч, калі ён прышоў у Прымакі, але па хатах сям-там яшчэ свяціліся агні. У Васілёвай хаце агню не было. Саўка запыніўся, трохі пастаяў. Хацеў быў пастукаць у акно, а потым махнуў рукой і пайшоў далей. Тым не меней яму карцела пабачыць войта і яго прыяцеляў. Трэба было неяк выблутацца з таго прыкрага становішча, у якім апынуўся Саўка, і бляск у вокнах Біркавай хаты яго пацягнуў, як агонь цягне начнога матыля. Апроч усяго іншага, Саўка быў галодны. І ён зайшоў да Біркі.

Гаспадар адчыніў яму дзверы. Саўка пераступіў парог і спыніўся. Стол быў пакрыты настольнікам. На стале стаяла пляшка самагону, выпітая да палавіны, і закуска: скваркі і кіслая капуста. Войт сядзеў за сталом пануры і чорны, як ноч. Угледзеўшы Саўку, ён трохі ажывіўся. Разважлівы Бруй з шумам вылез з-за стала.

— Ну вот, я вам і Саўку прывёў, — урачыста абвясціў Бірка.

— Ну, сядай-жа з намі!

Саўка павесіў на крук шапку. Кажушка ён не зняў, а толькі расшпіліў: у хаце было цёпла. Ды і распранацца яму было не з рукі: распранацца можна было толькі ў кампаніі роўных паміж сабою людзей. А ці Саўка можа раўняцца з імі, гаспадарамі-багацеямі? Што такое Саўка? Злодзей, канакрад, чалавек, якога можна купляць і стаўляць на цёмныя справы. І калі яго пусцілі ў хату і пасадзілі з сабою за стол, дык толькі таму, што ў ім мелі патрэбу. Усё гэта прамільгнула абразлівым ценем у Саўкавай галаве.

Прыступаць адразу да справы, распытваць, з чым прышоў Саўка, ніхто першым не адважваўся. Перакідаліся малазначнымі словамі і сказамі, нічога агульнага не меўшымі з Саўкавай місіяй.

— Выпі-ж, Саўка, ды закусі, ты пэўна-ж галодны з дарогі.

Бруй наліў яму шклянку самагону. Саўка неспакойнымі прагавітымі вачыма акінуў стол і закуску на ім. Не адрываючыся ад шклянкі, выжлуктаў самагон і энергічна паставіў яе на стол. Самагонная поскудзь борзда разлілася па яго жылах, стукнула ў галаву. Як воўк, глытаў ён скваркі і напіхваў рот цэлымі кучамі кіслай капусты. Капуста скрыпела і трашчала на яго зубах, а сківіцы варушыліся, як жорны.

Прыяцелі пазіралі на яго і па ім бачылі, што прышоў ён не з пустымі рукамі. Саўка чакаў, калі-ж запытаюць яго аб справе, і адчуваў, што аб ёй пара пачаць гутарку. Але ў яго не было на гэты конт раней надуманага плана: гэтага не было ў Саўкавым звычаі.

Ён проста рабіў, выяўляў сваю дзейнасць па натхненню, пад уплывам мінуты.

— А мы, цябе, Саўка, чакалі, думалі аб табе, непа-

коіліся за цябе, — першым па-дзелавому загаварыў войт. — Ну, як-жа ты схадзіў? што бачыў, чуў? Раскажы.

Саўка абцёр губы, нагнуўся пад стол, прывёў у парадак нос.

— Чакалі мяне? думалі пра мяне? непакоіліся за мяне? Эх, Саўка! Ты чуеш, у якой ты пашане, які гонар табе... Нічога, хадзіў нагамі, пазіраў вачамі, слухаў вушамі, — з горкай ірoніяй загаварыў Саўка. Войт і яго прыяцелі клюнулі насамі і прыгнулі галовы. Невялічкая, няёмкая пауза, некаторае замяшанне.

— Гэта ўсё правільна. Але-ж самі ведаем, што хадзіў ты не галавою, — таксама пад жарт у тон Саўку азваўся Бруй.

— А нашто Саўку галава? — тым-жа тонам запытаў Саўка. — Нашто яна яму? За Саўку мудрэйшыя галовы падумаюць. А Саўкава справа — нагамі папіхацца.

— Ты, Саўка, чымся згрызены. Не ў гуморы ты. Выпі яшчэ.

Гаспадар наліў яму самагону. Саўка адвёў рукою Біркаву руку са шклянкаю.

— Не хачу! — катэгарычна заявіў ён. Яго паводзіны выклікалі агульнае недаўменне.

— Што ты, Саўка, бунтуеш? — строга звярнуўся да яго войт. — Кажы да ладу, калі з табою людзі гавораць.

— Людзі? якія людзі? Хто людзі — вы? Сволачы вы, а не людзі. Я — гультай і злодзей, канакрад, прапашчы чалавек... Я зусім не чалавек. Але вы, вы пяты мае не варты. Я краў і гандляваў коньмі, а вы гандлюеце людзьмі і сваім сумленнем. Вы — плюгаўства, нікчэмнасць. На вас плюнуць і растаптаць!

— Саўка, распусціў ты язык. Ой, глядзі! — прыстрашыў яго войт.

З Саўкам нешта здарылася. Яго паводзіны пачыналі сур'ёзна непакоіць войта і яго прыяцеляў. Яны яшчэ не трацілі надзеі дазнацца прычын гэтых дзіўных Саўкавых паводзін.

Але Саўка зацяўся, як камень. Ён толькі лаяўся, абражаў падвыпіўшую кампанію і зневажаў яе, як толькі ўмеў.

Нарэшце войт страціў цярпенне.

— Годзі задавацца, Саўка. Даволі камедыянства! Я знайду спосаб прымусіць цябе гаварыць тое, што трэба.

— Ты прымусіш мяне гаварыць пра тое, што вам трэба? Гаварыць пра старога Талаша, пра Мартына Рыля, дзе і як знайсці іх? Дудкі, ідзіце самі ды пашукайце іх. А я вам больш не слуга!

Саўка стаў на ногі і падпёр кулакамі бакі, паваліўшы на стол шклянку і бутэльку з недапітым самагонам. Кашлатая Саўкава галава з цэлаю шапкаю чорных валасоў зняважліва ківалася. Войту зусім не спадабалася такая гордая пастава Саўкі Мільгуна. Сярдзіта паглядалі на яго і войтавы прыяцелі.

Войт крута павярнуўся да Саўкі ўсім корпусам.

— Што ты казырышся тут? — крыкнуў на Саўку. — Сядзь!

І ў той-жа момант схапіў яго за плечы і з сілаю ціскануў, каб пасадзіць Саўку на лаву. Саўка ўскінуў угору пругкімі локцямі і адным локцем крэпка стукнуў войта па носе.

— Прэч, панскі папіхач!

Войт не знёс гэтай абразы. Размахнуўся і трэснуў Саўку ў зубы. Падняўся шум, крык. Яны шчапіліся і з усёй сілы пачалі штурхаць і лупіць адзін аднаго. Бірка і Бруй кінуліся памагаць войту. Саўка схапіў са стала нож з вострым канцом і пырнуў войта пад бок. Войт пахіснуўся, пабляднеў і асеў, схапіўшыся за бок, а Саўка з усёй сілы штурхануў стол. Стол з громам бразнуўся на падлогу. Саўка, як тыгр, пераскочыў цераз яго, схапіў з крука шапку і кінуўся ў дзверы, а за ім Бірка і Бруй.

— Лаві, лаві яго! Караул! — крычалі яны і гналіся за Саўкам, і гэты крык, як лямант роспачы, дрыгацеў у зацятай цемрадзі палескай ночы, будзячы і трывожачы заснуўшых сабак.

## XXVIII

Саўка напэўна ўцёк-бы, калі-б за ім не пагналіся разам з гаспадарамі сабакі. Яго нагналі і аглушылі колам, звалілі з ног, білі і мялі, а потым чуць жывога

прывалаклі ў хату, дзе ў гэты час войту прамывалі і завязвалі рану. Рана аказалася неглыбокая і не дужа страшная, хоць нож і задзеў яму край печані, і войт знайшоў у сабе сілы, каб аддаць распараджэнне даставіць Саўку куды трэба і перадаць там, што Саўка меў зносіны з паўстанцамі. Хай учыняць яму належны допыт: Саўка ведае, дзе хаваюцца паўстанцы.

Для польскай контрразведкі Саўка Мільгун прадстаўляў дужа цікавую і дужа патрэбную знаходку. Вось чаму, калі там даведаліся, хто такі Саўка, куды і для чаго ён хадзіў і для якой ролі быў прызначан, кіраўнікі контрразведкі зрабілі экстраную нараду і пастанавілі зараз-жа ўчыніць Саўку допыт, ужыўшы ўсе спосабы на тое, каб дабіцца ад яго патрэбнага паказання. Саўку надзелі наручнікі, абкружылі яго моцным канвоем і прывялі ў пакой допытаў.

Калі Саўка акінуў вокам гэты пакой з яго дзіўным абсталяваннем і з яго прыладамі, аб прызначэнні якіх ён з садрыганнем сэрца мог толькі дагадвацца, то дух яго апаў, і яму стала жудасна, хоць Саўка на сваім шляху прайшоў не адну камеру допытаў. Пакой гэты быў досыць прасторны. Пасярэдзіне пакоя стаяў грамозны дзябёлы стол. За сталом сядзелі тры асобы. Адзін з іх, рыжы тоўстаморды мужчына, асабліва кідаўся ў вочы сваім жорсткім абліччам і тупою халоднасцю. Другі быў кароценькі і шустры, з крываватым носам і гладка падбрыты. На яго губах бегаў салодзенькі смяшок, сам ён увесь варушыўся, ківаўся, гатовы, здаецца, пралезці ў самую маленькую шчылінку. Трэці, доўгі, худы і пануры з зямлістым колерам твару, сядзеў над нейкаю паперкаю, углыбіўшыся ў чытанне, і рабіў сяды-тады ў ёй паметкі. Збоку ў сцяне віднеліся яшчэ адны дзверы, вузкія і нізкія, наганяўшыя страх і наводзіўшыя на невясёлыя думкі.

Некалькі хвілін на Саўку не зварачалі ўвагі. Трое сядзеўшых за сталом зрэдку перакідаліся паміж сабою глухімі сказамі ды ківалі галовамі ў знак згоды. Уся гэта абстаноўка і патаемнае перагаворванне прыгнятала Саўку і наводзіла на яго жудасць. Ён стаяў нерухліва, пазіраў у адзін пункт, каб паказаць сябе чалавекам лайяльным ды чакаў са страхам, з якога боку і з якою

сілаю паднімуць над ім абух. Яго мыслі, выбітыя з свае каляіны гэтаю неспадзяванаю праяваю, перабягалі з аднаго на другое, каб вырашыць цэлы рад неспакойных запытанняў.

Нарэшце Рыжы, відаць старшы з іх, падняў галаву і ўставіўся ў Саўку пранізлівымі лупатымі вачыма. Пазіраў з хвіліну, як-бы зачароўваў яго.

— Ходзь тутэй! — ціха, але голасам уладнага загада пазваў ён Саўку.

Саўка, вмяты і збіты, у сіняках і з наручнікамі ступіў крокі два да стала і спыніўся.

Шустры паўзіраўся ў Саўку мышынымі вочкамі. Салодзенькі смяшок яшчэ болей скрывіў яму нос.

— Дзе цябе так пабілі? — спагадліва запытаў Саўку.

Ад хвалявання і ад усяго пражытага за апошні час у Саўкі перасохла ў роце, і голас яго быў хрыплы.

— Выпівалі і пабіліся, — адрывіста адказаў Саўка і падумаў сам сабе, што не варта гаварыць многа, каб не заблытацца горай, а толькі адказваць на запытанне. Так гаварылі і людзі, прайшоўшыя практыку допытаў.

— Выпівалі і пабіліся! — паўтарыў Шустры і вельмі хітра і многазначна пасміхнуўся, а гэты смех як-бы казаў: «Расказвай, расказвай! А мы ведаем нешта іншае і шмат горшае».

Пасля допыт павёў Рыжы. Ставіў адно пытанне за другім.

— Як завуць?

— Колькі гадоў?

— Чым займаўся?

— Ці судзіўся?

— За што судзіўся?

Усе гэтыя, як і іншыя пытанні такога-ж парадку для Саўкі былі ўжо няновыя, і ён адказваў на іх не адзін раз. Але і на гэтыя нескладаныя пытанні ён адказваў сумыслу трохі блытана, каб паказаць сваю дурноту: Саўка ведаў, што болей трудныя пытанні яго чакаюць наперадзе. І такія пытанні яму зараз-жа і паставіў Рыжы.

— Ты прызнаеш польскі «ужонд»?

Саўка падумаў і сказаў:

— Прызнаю.

У такіх умовах Саўку трудна было не прызнаць польскага «ужонду».

— Ты ведаеш, — гаварыў далей Рыжы, — што войт ёсць «польска асоба ужондова». Што-ж змусіла цябе зрабіць замах на забойства войта?

— Замах на забойства? — здзівіўся Саўка. — Ніякага замаху на забойства я не меў, і ў думках у мяне гэтага не было.

— Але нож у бок ты ўсадзіў яму?

Саўка здзівіўся яшчэ болей. На яго твары адбіўся жах — ці можа гэта быць, каб ён усадзіў нож у бок войту?

— Дык хто-ж усадзіў яму нож?

— Я не помню гэтага.

— Але ты помніш, што «выпівалі і пабіліся»? — з салодзенькім смяшком напомніў Саўку яго словы Шустры.

— Што выпівалі і пабіліся, я гэта помню, але як пабіліся, ці кідаўся я на войта з нажом, не помню.

— А з-за чаго ў вас вышла бойка?

Пытанне гэта для Саўкі было небяспечнае. Каб даць на яго адказ, трэба было шмат чаго расказаць. Саўка-ж не ведаў, у якой ступені паінфармаваны яго следчыя. Лепш асцярожней, а потым відней будзе.

— У выпіўках заўсёды бываюць і сваркі і бойкі. Я быў п'яны і нічога не помню, — як за якар збавення ўхапіўся Саўка за п'янства.

Шустры не спускаў з Саўкі вачэй, і цяпер, калі Саўка спаслаўся на запамятанне, ён так хітра ўсміхнуўся, і такая выразная была гэта ўсмешка, што Саўку нялоўка стала: ён бачыў, што яму не даюць веры.

— Ну, то я табе прыпомню, — сказаў Рыжы. І расказаў аб гутарцы Саўкі з войтам і яго прыяцелямі. Саўка зразумеў, што следчым ужо вядома тая роля, на якую нанялі яго войт і яго прыяцелі. Ён кінуўся на хітрасць: самому расказаць пра ўсё гэта, не гаварыць толькі пра спатканне з Цімохам Будзікам і з дзедам Талашом, каб на ўсякі выпадак застрахавацца і ад іх. Ён так і зрабіў, пачаўшы сваё апавяданне з таго, што ён раскажа праўду і прызнаецца.

Слухалі Саўку ўважна. Калі Саўка скончыў, яго

нават пахвалілі, што ён узяўся за добрую справу, за справу выкрыцця злачынцаў і ворагаў польскага «ужонду». Але яны чакалі ад Саўкі пачуць пра самае важнае для іх, і такім прызнаннем не задаволіліся. Але Саўка скончыў.

З хвіліну памаўчалі. Рыжы, моўчкі пазіраючы на Саўку, пабарабаніў пальцамі па стале. У Шустрага быў такі выгляд, як-бы ён толькі-толькі настрыўся слухаць пра самае цікавае, а Саўка так недарэчы спыніў на гэтым месцы сваё апавяданне. Нават Доўгі натапырыў вушы. Шустры, не дачакаўшыся ад Саўкі фіналу апавядання, падагуліў тое, што ўстанавіла следства.

— Лічым неабвержна ўстаноўленым, што замах на забойства асобы «ужондовай» з твайго боку быў... Нех пан так і запішэ, — павярнуў ён крывы нос да доўгага і панурага чалавека з зямлістым колерам твару

— Так, замах на забойства — устаноўлены факт, — зноў паўтарыў Шустры, зварочваючыся да Саўкі, — гэтага аднаго даволі, каб па закону ваеннага часу павесіць цябе. Так, павесіць. Далей. З твайго паказання выходзіць ясна і лагічна, што ты меў дачыненне з паўстанцамі супроць польскага «ужонду», і ты гэта ўтаіў. А з гэтага выходзіць, што ты спачуваеш злачынцам і пакрываеш іх, іначай сказаць — ты сам такі-ж злачынец і другі раз заслугоўваеш таго, каб цябе падняць на шыбеніцу. Так, так. Але збавенне для цябе яшчэ не страчана, калі ты раскажаш нам, дзе «ест» злачынцы, з якімі ты бачыўся і меў гутарку, і дапаможаш «злапаць» іх.

Саўка папаў у акрутнае становішча. Але ён быў упэўнены, што яго бяруць «на зыхер», як называецца на мове арыштантаў. Ён заняўся і ўпарта адмаўляў, што бачыўся з паўстанцамі і гаварыў з імі. Доўга біліся з ім у гэтым пункце паны следчыя. Націскалі на яго то ўгаворамі, то абяцаннямі, то пагрозамі, ушчувалі рознымі спосабамі. А Саўка цвярдзіў сваё:

— Не ведаю. Не бачыў.

Тады Рыжы крута змяніў тактыку допыту. Ён раптам ускочыў на ногі, калодка-твар яго пачырванеў. Як шлягаю, грукнуў кулаком па стале і крыкнуў:

— Лжэш, галгане! Але мы запытаем цябе іначай.

Сарваўся з-за стала і злосна накіраваўся да вузкіх і нізкіх дзвярэй. Стукнуў два разы гучна ў дзверы і крыкнуў:

— Адольф!

У той-жа момант дзверы расчыніліся. Прыгнуўшы галаву, граміла волатаўскага складу пераступіў парог і апынуўся ў пакоі допытаў.

— Слухам пана! — прагрымеў яго голас.

Рыжы кіўнуў яму на Саўку.

— Запытаць у яго праўды!

Саўка і не агледзеўся, як яго схапілі жалезныя рукі і павалаклі да той страшнай прылады, якая яшчэ спачатку звярнула на сябе яго ўвагу. На момант ён страціў прытомнасць. Апамятаваўся толькі тады, калі шыя яго была крэпка ўшчымлена дзервянымі ліштвамі. Ён пачуў, што нейкая сіла адрывае яго ад зямлі. Нясцерпны боль туманам заслаў яму вочы. Жылы і косці яго расцягваліся і гатовы былі лопнуць у кожны момант. Ён закрычаў немым і дзікім крыкам і абамлеў. Калі ён ачнуўся, то ўбачыў, што ляжыць на падлозе, а каля яго стаяць страшны Адольф, Рыжы і Шустры.

Саўка тупа паглядзеў Рыжаму ў вочы.

— Скажаш праўду? дзе паўстанцы?

— Не ведаю, — адказаў Саўка.

Ён думаў, што цяпер яму паверацць, але Рыжы зноў назваў страшнае імя:

— Адольф!

Саўка адчуў, што сілы болей няхопіць, не вытрымае, і ён здаўся.

. . . . . . . . . . . . . . .

Тры фурманкі на добрых конях, запрэжаных у шырокія прасторныя сані, шпарка шыбуюць ляснымі дарогамі і гацямі паміж балот. У санях сядзяць незнаёмыя людзі, відаць, здалёк. На трох фурманках іх трынаццаць чалавек. І народ усё крэпкі, малады, здаровы, як на падбор.

Па віду яны фальваркоўцы, сярэдняй рукі абывателі. І трымаюць сябе шляхетна, паважна. Куды яны едуць? Ці не ў госці ў які-небудзь хутар?

Цікава толькі, што едуць адны мужчыны. Але ноч

закрывае іх сваёю цемраю ад погляду цікаўных. Хіба толькі рэдкі падарожны, запазніўшыся ў дарозе, правядзе іх дапытлівымі вачыма, сышоўшы на бок, ды сам сабе запытае: «што гэта за людзі?» І ніяк не дагадаецца, што гэтыя людзі — пераапранутыя агенты польскай контрразведкі, што на пярэдняй фурманцы сядзіць Саўка Мільгун і паказвае дарогу ў той лес, дзе знайшоў сабе схоў і прыпынак выгнаны з дому Талаш, як не дагадваецца і Саўка, што там у лесе яго ўжо чакаюць разам з «гасцямі».

Не дужа добра пачувае сябе Саўка і не таму, што яго моцна набілі войтавы прыяцелі і аддалі ў рукі гэтых катаў, не таму, што яго катавалі, расцягвалі яму жылы і косці, а таму, што волю яго, упартасць, зацятасць зламалі і прымусілі рабіць так, як ім было трэба. Саўка хацеў паквітацца з войтам і яго прыяцелямі, парваць з імі кантракт і адступіцца ад той бруднай ролі, на якую падбілі яго. Неяк-жа кідаўся-б, жыў-бы на свеце і без іх ласкі. Але сталася не гэтак. Гадка, паршыва павярнулася справа, і страшна Саўку таго лесу, салаша таго, дзе ён гутарыў з дзедам. І сам дзед Талаш у вачах стаіць, а ў вушах гучаць яго словы: «Трымай язык за зубамі». І Саўка хацеў трымаць за зубамі язык — не таму, што так казаў дзед Талаш, не — ён проста сам жахнуўся агіднасці той справы, за якую ўзяўся так лёгкадумна. А можа там нікога не будзе? Вось было-б добра, каб там быў пусты салаш! Рыжы нічога не зробіць з ім, калі салаш знойдуць пусты: не прывязаць-жа было Саўку дзеда Талаша. А сляды яго нойдуць. Саўка не думае, што будзе далей, калі вернуцца з лесу. Не думае нават і аб тым, што ён — нявольнік, што з яго рук не зняты наручнікі: іх знімуць тады, калі Саўка пакажа салаш, дзе прытуліліся небяспечныя канаводы паўстанцаў — так яму абяцалі. Ды Саўка і не верыць ім.

Але цяпер за кожным яго рухам пільна сочаць дзве пары вачэй. Дзве рукі трымаюць напагатове рэвальверы. Варта Саўку толькі паварушыцца чутачку мацней, як гэта трэба, або падаць голас людзям, што ён — нявольнік, каб яго тут-жа застрэлілі, як сабаку. А можа ўсё-ж

папрабаваць у лесе даць драла? Ноч, лес, глухмень. Авось вырвецца, уцячэ?..

Пагана адчувае сябе Саўка, а ўсё таму, што не дадумвае сваіх думак, робіць на авось, пакладаючыся на шчаслівы выпадак. Страшна Саўку таго лесу. Не, не лесу; страшней за ўсё суд людскі. А лес гэты ўжо блізка. Зараз дарога скончыцца — трэба ісці пехатой.

Пярэдняя фурманка спыняецца. Дзве другія пад'язджаюць усутыч і таксама спыняюцца. Тры кіламетры адлегласці да таго месца, дзе стаіць салаш, схоў і прыпынак старога атамана, яго сына і памочніка яго, Мартына Рыля. Рэй вядзе Рыжы.

— Да зброі! — ціха камандуе ён.

Шпікі і агенты скідаюць маскарад, бяруць карабіны, рэвальверы, закладаюць патроны і вылазяць з саней. Зрушваюцца з месца, ідуць расцягнутым ланцугом адзін за адным вузкаю лясною дарожкаю. Папераздзе Саўка і два яго канваіры. Яго не спускаюць з вока, не выпускаюць з рук. Ідуць як мага ціха, ступаюць асцярожна, каб не рабіць шуму. А лес, апавіты цемраю, чутка ловіць кожны неасцярожны гук, кожны шолах. Лес маўчыць глуха, зацята, знямела. Здаецца — пуста ў ім, бязлюдна і мёртва. Але гэта толькі відомасць цішыні і амярцвення. У гэтай глухой зацятасці начной цемры лесу шнуруюць, як цені, невідомыя людзі, прабіваючы яе вачыма. Яны ўжо ведаюць — вораг у лесе, смяртэльны іх вораг, ад якога няма ім літасці. Яны падлічваюць яго сілу, шэптам перадаюць па густому кругу людзей аб здабытых пра ворага вестках і звужаюць сваё кола.

А вораг набліжаецца. Саўкавы вочы трывожна, неспакойна ўглядаюцца ў цемру лесу, у той бок, дзе стаіць салаш. Крадуцца ўжо з гадзіну. Салаш павінен быць блізка. І раптам — бліснуў у лесе агеньчык. Агеньчык мігае, як воўчае вока, у начной цемры, пад навіссю лесу. Эх, стары, стары! Сам дапамагаеш ворагу, палягчаеш задачу яму. Саўка дрыжыць, як у ліхаманцы, рукі яго трасуцца.

— Тут! — шэпча канвойнікам і паказвае на маленькую баязлівую чырвоную плямку.

Запыняюцца.

Саўка і два яго канвойнікі застаюцца ззаду. Саўкава

місія, паганая, здрадніцкая місія, скончана. А дзесяць чалавек пад камандаю Рыжага ідуць далей, разыходзяцца кругам, здалёку абхватваюць гэтым кругам салаш і лагодны мірны агеньчык каля яго. Марудна, да болю напружана праходзяць хвіліны, доўгія, тамлівыя. У меру таго, як звужваецца каля салаша кола, насоўваюцца канвойнікі, падштурхваюць Саўку — ногі не хочуць служыць яму, дранцвеюць. Салаш ужо блізка, аточан шчыльна, безнадзейна для тых, хто знайшоў сабе ў ім схоў і адпачынак.

Праходзіць момант, адзін і другі, праходзяць хвіліны нясцерпнай цішыні. Бліснуў белы бляск, шпікі ліхтарыкамі асвяцілі салаш. У салашы пуста: засталося толькі жорсткае сена і пара старых дзяружак. Рыжы і яго каманда сходзяцца ў кучу, мітусяцца каля агеньчыка, даносяцца іх галасы. Яны расчараваны, абескуражаны: пракляты паўстанец знік, як злы дух! А ён тут быў, быў нядаўна!

Рыжы мяркуе, абдумвае план бліжэйшага дзеяння. Ён гатоў ужо аддаць новы загад, і раптам, як порах, успыхнуў агонь з боку ад салаша, і полымя зараз-жа ўзнялося да палавіны лесу, абвіло яго сукі і галіны. І другі агонь, такі-ж раптоўны і імклівы, асвяціў лес з другога боку.

Салаш і лес вакол салаша асвяціўся, як летнім паўднёвым сонцам. Гэта Цімох Будзік, спец па часці падпалаў, устроіў такую ілюмінацыю.

— Складай аружжа! — як гром пачуўся чыйся страшны голас.

— Складай аружжа! — як рэха падхапіў паток людскіх галасоў. З усіх бакоў, з берагоў цемры, адсунутай і згушчанай агнямі, рынулі партызаны, трымаючы вінтоўкі, як для штыхавога бою, і абкружылі густою сцяною Рыжага і яго каманду. Моўчкі і пакорна пакідалі яны сваю зброю.

— А мы вас даўно тут чакаем! — сказаў стары атаман, і нядобрая ўсмешка рассунула яго губы і асвяціла суровы твар.

З натоўпу партызан праціснуўся Панас. Ён здрыгануўся, зірнуўшы на Рыжага.

— А гэта той самы, што мяне заарыштаваў!

Саўка ўпаў у снег. Перапалоханыя канвойнікі таксама пападалі. Ззаду падбеглі партызаны, наставіўшы на іх цэлыя пукі вострых штыхоў. Абяззброілі і ўсіх трох павялі да салаша.

Тут-жа адбыўся і кароткі суд. Судзілі агулам.

Некалькі залпаў з'явіліся адказам на прыгавар суда.

А Саўку судзілі асобна, судзілі ўважна і доўга. У лесе было вядома, што Саўка ўсадзіў нож у бок войта, што Саўку аддалі ў рукі польскай улады. У Саўкі на руках былі наручнікі, на твары сінякі, а на шыі сляды катавання. Але не было згоды ў поглядах суддзяў. Адны стаялі за тое, каб Саўку дараваць, другія — за Саўкаву смерць. Нарэшце пастанавілі: аддаць на вырашэнне справу дзеду Талашу і Мартыну Рылю, паколькі Саўкава злачынства ў першую чаргу было накіравана супроць іх.

Дзед Талаш паглядзеў на Саўку, паглядзеў доўга, дакорліва, а потым сказаў:

— Ідзі, ідзі прэч, каб цябе не бачылі мае вочы!.. Жыві! — Запытаў Мартына: — Ты згодзен?

Мартын моўчкі кіўнуў галавою.

## XXIX

Неспадзяваны мароз, раптоўна наваліўшыся на Палессе пасля некалькіх ціхіх і мяккіх дзён на сходзе зімы, пратрымаўся нядоўга. Надвор'е змянілася адразу. Паветра стала цёплым і лагодным, а над далечамі балот і палёў звісла сінеча-смуга — адзнака цяпла і адлігі. Асеў глыбокі снег па лясах і балотах. Жычліва калыхнуў паўднёвы вецер настыўшыя галіны, атрос засеўшыя на іх белыя снежныя покрывы, з песняю на веснавы лад прайшоўся над акачанелымі хмызнякамі і весцю аб вясне шаргануўся па саламяных стрэхах сялянскіх хат. Весялей зірнулі на свет вызваленыя ад холаду дрэвы, радасна адгукнуліся густым шумам на павевы цёплага ветру. Заплакала зіма пад капяжамі мільёнамі слёз. Размяклы, працяты вадою снег гурбінамі папоўз з саламяных стрэх, трывожным шэптам парушаючы цішыню, а на вуліцах і дарогах пачалі выступаць жаўтавата-мут-

ныя лужыны, і рушылі ў свае дарогі першыя веснавыя ручайкі-травальчыкі. Гімнамі вясне зазвінелі звонкія песні жаваранкаў... У тысячах з'яў заўважалася наближэнне вясны, вясны ранняй і дружнай.

Вясна — малады, бурлівы вір жыцця, імклівы, неспакойны рух у неакрэсленыя прасторы, шырокія, як сама воля, і няясныя, як засмужаныя іх далечы; рух, якому падпарадкуюцца людзі і жывая прырода. Вясны-ж на Палессі чакалі са страхам і трывогаю... «Што прынясе вясна?» «Што вясна пакажа?» «Што будзе вясною?» — у прадчуванні важных падзей пыталіся людзі і ўпотайку рыхтаваліся да іх.

Рухавей павялі сваю работу ваенныя штабы, дзе ўмацоўваючы пазіцыі, дзе перагрупоўваючы жывую сілу, падвозілі гарматы і бронемашыны, намацвалі найболей слабыя і балючыя цэнтры свайго праціўніка, камбінавалі, строілі планы, каб увесці яго ў аблуду і пры першым-жа зручным выпадку стукнуць па ім там, дзе ён меней за ўсё спадзяецца. У той час, калі польскія генштабы ўшчыльнялі людзьмі і ваеннаю тэхнікаю свае пазіцыі, штабу Чырвонай Арміі ў сувязі з вайною на паўднёвым фронце, дзе насядаў Врангель, прыходзілася знімаць адгэтуль цэлыя вайсковыя часці і перакідаць іх на поўдзень. Але падрыхтоўка да вайны вялася і па іншых лініях. І на гэтых лініях асаблівую чыннасць праяўляў польскі бок: вялася ідэалагічная падрыхтоўка. У першых радах актыўных работнікаў па часці ідэалагічнай падрыхтоўкі да вайны з Советамі ішлі ксяндзы.

Гарадышчанскі касцёл носіць імя святога Казімера. Святы Казімер карыстаецца вялікаю пашанаю сярод каталікоў, і святкаванне яго прыпадае напрадвесні. «На Казімера зіма ўмера», — кажа каталіцкая прыказка. З самай раніцы каля касцёла незвычайны рух і ажыўленне. Плошча, бліжэйшыя двары і задворкі застаўлены коньмі і павозкамі. З блізкіх і далёкіх месц, фальваркаў, маёнткаў, хутароў і засценкаў з'ехаліся паны, панкі і простая шляхта. Хіба-ж гэта не цуд маткі боскай, што «свенты косцел», анямеўшы на доўгі час, загаманіў сёння голасна на ўсю акругу сваімі тужліва-жалобнымі званамі? Сёння ў касцёле першае набажэнства. І правіць яго ксёндз Пацейкоўскі. Прыехаў сюды загадзя, прыехаў з цэлым

штатам прыслужнікаў. Ён прыехаў, каб належным чынам падрыхтаваць касцёл да набажэнства. Яму адвялі, адбудавалі і адпаведным парадкам абставілі цэлы дом, прасторны і раскошны. Але ксёндз Пацейкоўскі ёсць манах і служка пана бога. Ён суровы, просты і строгі ў сваім жыцці. Сурова і проста яго абстаноўка. Ніякага следу раскошы. Адно толькі кіпарысавае распяцце ды некалькі абразоў матак боскіх і святога Казімера аздабляюць сцены яго кабінета. Але ў сталовай туліцца ёмкі і стыльны буфет з цэлаю фалангаю пляшак дарагіх і рэдкіх він і розных трункаў. Ксёндз Пацейкоўскі не толькі служка пана бога, але і спрытны і таленавіты артыст каталіцкай царквы. Ён вялікі мастак на тое, каб стварыць адпаведны настрой у свае паствы, каб потым выігрываць на яе струнах патрэбныя яму мелодыі. Уся ігра яго зводзіцца на тое, каб калектыўную волю парафіян падпарадкаваць інтарэсам касцёла, гэтага агітпропа старога эксплаататарскага свету. Некалькі вечароў прысвяціў ксёндз Пацейкоўскі, каб улажыць казанне на першае набажэнства. І цяпер сядзіць ён над ім, праглядае тэзісы, тэму і змест казання, робіць папраўкі, дадаткі, шліфуе, адточвае кожны сказ, кожнае слова. І калі ўдаецца яму які-небудзь надзвычай трапны сказ, зварот, ён паўтарае яго ўголас, і тады адступае ад манаскага статута і выпівае шкалік французскага трунка.

Тым часам падышоў і дзень набажэнства. Пануры, апушчаны і заняпалы ў часе свайго зняменьня касцёл сурова глядзіць сваімі цяжкімі вежамі і пачарнелымі мурамі. Нават тысячы свечак, запаленых пад абразамі гарлівасцю набожных парафіян, не могуць разагнаць яго панурасці і суровасці.

«Dominus, wobiscum», — рознастайнымі, з адценнем жудасці. трэлямі пераліваецца голас ксяндза Пацейкоўскага. Мяккім музычным громам адклікаюцца арганы. Кленчаць пабожныя каталікі, разгортваюць кантычкі. Пачынаюцца агульныя спевы касцёльных модлаў. Нескладныя спачатку галасы выроўніваюцца, выпраўляюцца і, нарэшце, зліваюцца ў жудасным аднастайным шуме далёкай навальніцы, таемнай і страшнай у сваім невыразным многагалосым гомане. На кафедру выходзіць ксёндз Пацейкоўскі. Праграму набажэнства, паложаную

статутам касцёльнага рытуалу, ён перасыпае казаннямі. А казанні гаворыць з натхненнем і перакананасцю. Уся-ж абстаноўка — гром арганаў, адзенне ксяндза і прыслужнікаў, іх урачыстыя выхады, масіўныя шэрыя сцены мураў, пакутныя і бялесыя твары святых на абразах і ўся палітычная сітуацыя моманту — усё гэта спрыяе стварэнню патрэбнага ксяндзу настрою. Ён падымае рукі, закочвае вочы пад скляпенне касцёльных мураў, дзе павінен сядзець пан бог, і пачынае гаварыць. Гаворыць аб моцы, гневе, справядлівасці і бясконцай літасці «вшэхмогонцэго» пана бога. Боскі гнеў і дабрата даводзіцца прыкладам аб тым, што было і што сталася з касцёлам «свентэго Казімера». Як калісь народ ізраільскі быў у Вавілонскім палачэнні, дзе змоўклі струны яго арфы, так быў у няволі і палоне «свенты косцел» і польскі народ, прагневіўшы пана «бога-ойца». Цяпер-жа пан бог змілаваўся над святым сваім домам, бо толькі касцёл ёсць праўдзівы і сапраўдны дом божы, і над народам сваім і вывеў яго з няволі. Дык трэба цвёрда памятаць аб гэтым і ні на адзін момант не адступаць ад святой веры каталіцкай, не паддавацца граху і не загразаць у яго цёмнай спакуслівай багне. Святы касцёл, утрачаны праз грэх, цяпер вернут з ласкі боскай, але касцёл апушчан, і святы Казімер балесна пазірае з свайго раю на занядбаны дом свой. Трэба шчодрыя ахвяры для аднаўлення касцёла.

Казанне сваё ксёндз Пацейкоўскі канчае заклікам даваць ахвяры, а разам з гэтым аддаць і «подзенькован» пану богу за яго літасць да верных каталікоў, да ўсяго польскага народа, якому пан бог таксама дарує і крулеўства.

Казанне змяняецца зноў набажэнствам, громам арганаў і агульнымі спевамі, а касцёльныя служкі ў спецыяльным адзенні ходзяць па касцёлу з срэбранымі талеркамі, прычым адзін з іх стукае святою булавою, каб напомніць парафіянам аб іх абавязках перад панам богам і святым Казімерам. Праз некаторы час кафедру зноў займае ксёндз Пацейкоўскі. Цяпер ён гаворыць казанне на тэму аб рэлігіі. Другое казанне працяг першага. Рэлігія, як гаворыць ксёндз Пацейкоўскі, ёсць «святлосць», адсутнасць-жа рэлігіі, бязбожніцтва, гэта — «цемносць».

Яго папярэднія казанні толькі ўступ, падрыхтоўка да трэцяга, самага асноўнага і патэтычнага, дзе ён запыняецца і з усёю сілаю свайго красамоўства накідаецца на бальшэвікоў, носьбітаў атэізма.

Пасля набажэнства радавітая шляхта, паны-абшарнікі і ваенная арыстакратыя заходзяць да ксяндза Пацейкоўскага на «шклянку гарбаты». Ксяндза-пробашча віншуюць: яго прамова — шэдэўр красамоўства. Яму пацікаюць руку і пан Длугошыц і палкоўнік пан Дэмбіцкі. Ксёндз Пацейкоўскі ўвесь цвіце і свеціцца задаваленнем. Але ён, як і сотні другіх служак пана бога, у касцёле вядзе толькі тэарэтычную падгатоўчую работу. Ён паказвае гасцям газеты, часопісы, дзе змешчаны яго артыкулы, накіраваныя за вайну супроць бальшэвікоў, паказвае адозвы, дзеліцца праробленай работаю па часці практычных мер, накіраваных супроць Саветаў: наладжванне шпіянажу, арганізацыя банд і свае агентуры на савецкай тэрыторыі. Стала і грунтоўна рыхтуецца панская Польшча да веснавой ваеннай кампаніі супроць Чырвонай Арміі і чакае толькі пагоды, калі прасохнуць дарогі, каб рушыць свае войска ў паход.

Вясна, пачаўшыся раптоўна, несупынна збірала сілу і ў некалькі дзён змяніла палескі краявід. Балоты абярнуліся ў суцэльныя вадзяныя пустыні, дзе маркотна выступалі адны толькі парыжэлыя купіны з сухою леташняю травою, голыя купы лазовых кустоў, да палавіны залітыя вадою, ды высокія шпяні алешын, ужо выбыўшых з строю жывога жыцця, захаваўшы толькі журботна ўзнятыя ўгару гнілыя цыбуры. Адны толькі цёмныя пушчы захоўвалі сваю звычайную суровасць, нават няветлую панурасць, тоячы ў сваіх нетрах звярыныя логвы, непраходныя дрыгвяністыя балоты, рэчкі, азярцы, пясчаныя груды-астравы, вузкія, не ўсім вядомыя, праходы, дарогі з бясконцымі бродамі і цэлыя шырачэзныя рэчкі снегавой вады, што рухліваю, хоць маруднаю, лавінаю пералівалася з балота ў балота па цёмных нізінах, накіроўваючыся ў Прыпяць. Але як вясёлы і прыветны цяпер ускраіны гэтых пушчаў, дзе кожная пядзя зямлі, прыгрэтая веснавым сонцам, жыве радасным абуджаным жыццём, выпускаючы першыя парасткі маладога зе-

ляніва. Заварушыліся мурашкі, рознастайныя жучкі, кузуркі, такія малюсенькія, што трэба ўважна прыглядацца, каб заўважаць іх радасны мітуслівы рух на кожным абагрэтым сонцам шматочку зямлі, на сухіх былінках, на кары даўно згніўшага дрэва. А паветра звініць птушыным гоманам, крыкамі, шлюбнымі злётамі і клопатамі аб сваім доме, аб прыпынішчы, дзе-б можна было асталявацца і зажыць сямейным жыццём. Аднаўляецца зямля, ажывае прырода, і радасны шолах жыцця ходзіць па галінах кустоў і старога лесу.

Гуляе паводка, адбіваючы ў сабе чыстае неба і бліскучае сонца. Як астраўкі, сям-там параскіданы людскія паселішчы. І ціха ў іх, не відаць чалавека. Прытаілася палеская вёска. Але гэта толькі адна зманлівая відомасць цішыні і спакою. Носіць вадзяная пустыня на ўлоннях сваіх быстрыя востраносыя чаўны і лёгкія чайкі-душагубкі. А ў гэтых чаўнах, а ў гэтых чайках шнуруюць ад вёскі да вёскі суровыя, замкнёныя ў сабе сыны Палесся, патрывожаныя, выбітыя з каляін жыцця ўварваннем ненавісных акупантаў. Спасцярожліва ўзіраюцца яны ў далечы залітых вадою балот і шыбуюць між кустоў, туляцца каля высокіх сухіх чаратоў. На гэтых прасторах вады, пад цёмнаю навіссю панурых лясоў тояцца грозныя замыслы паўстаўшага сялянства. Патаемная змова туліцца пад стрэхамі заняпалых хат. Чутка ловіць гукі спасцярожлівае вуха і зорка ўглядаецца ў далечы вострае вока...

Надыходзіць вясна. Што нясе яна з сабою?

## XXX

Трывожна здрыганулася Палессе.

Балота балоту, лес лесу перакідалі грознае водгулле невыразнага гуду. Баязліва калыхнулася ў ціхім паветры маладое, яшчэ зусім кволае лісце на гнуткіх галінках адноўленага дрэва. Ажыўшыя купчастыя бярозкі, ашлякоўваючы высокі бор жывым вянком свежай, пахучай зелені, стаялі ў нейкім разважлівым зняменні і, здаецца,

прыслухоўваліся да гэтага нязвычнага далёкага грукату, ад якога калыхалася ціхае, прагрэтае сонцам паветра і ўздрыгвала зямля, перадаючы гэта ўздрыгванне дрэвам і маладому лісцю на іх. Такое-ж дапытлівае недаўменне выяўляў усім сваім выглядам і сам стары бор, высока ўзнёсшы свае пышныя верхавіны і грэючы іх на веснавым сонцы ў хвалях чыстага паветра. А калі па лесе праходзілі лагодныя павевы ветру, то галінкі і лісце на іх лёгенька пакалыхваліся і шэптам пыталі ветру: «Што? што? што?» Нават сталыя буслы прыпынялі свой шпацыр па ўскрайках балот і трывожна прыслухоўваліся да дзіўнага гулу. А гэты гул расцякаўся па нетрах балот і лясоў, трывожыў звяроў і птушак. Старыя вепры натапырвалі вушы, слухалі, не разумелі нічога, але, палахліва рохкнуўшы, на ўсякі выпадак падаваліся глыбей у дзікія пушчы і вялі за сабой сваё маладзейшае пакаленне.

Гром і цяжкае бухканне, нібы вохканне зямлі ад нейкага болю, наводзілі страх і трывогу. Людзі, як слухачы і разам з тым удзельнікі і акторы вялікай соцыяльнай драмы, дзе вырашаліся лёсы мільёнаў, выходзілі на двор, станавіліся ў зацішнае месца, лавілі вухам далёкія, глухія пярэклічкі гармат, з баязнюківалі галовамі і гаварылі:

— Пачалося.

А іх растрывожаныя думкі рысавалі ім жудасныя малюнкі вайны.

Сялянская руплівасць і дбанне аб заўтрашнім дні загадзя ставілі на чаргу дня цэлы рад турботных пытанняў. І людзі ў цішы сваіх цёмных і лясных закуткаў думалі, як захаваць мізэрны запас хлеба ад прагавітай пасці вайны, як усцерагчы сваю худобу, каня і іншы набытак ад панскай ненаеднасці, як, нарэшце, злаўчыцца самому, каб не папасці пад крывавае кола вайны.

— Рушылі палякі! — перадавалі з двара ў двор, з вёскі ў вёску страшныя весткі аб вайне.

Людзі хапаліся за работу, каб выкарыстаць, покі не позна, кожны дзень, кожную часіну, каб аддаць зямлі на захаванне і на прырост хоць малую колькасць збожжа і бульбы, а рэшту схаваць, каб не адабралі няпрошаныя

госці. Спяшаліся сеяць, спяшаліся хаваць, спяшаліся прыпыніць худобу па мала вядомых выспах, па недаступных астравах.

Хоць усе ведалі і спадзяваліся, што з вясною вайна пачнецца з новай сілаю, але, калі прышла вясна і прынесла весці аб вайне, то гэтыя весці тым не меней глыбока трывожылі і хвалявалі народ. Што-ж будзе? Чым кончыцца гэта вайна?

А вайна толькі пачыналася, толькі разгортвалася.

І першымі пачалі яе белапалякі. А момант для гэтага быў зручны. Цэлыя часці Чырвонай Арміі зняліся з гэтага фронта, каб перакінуцца на поўдзень. Падцягнулі белапалякі войска, падвезлі гарматы, бронемашыны, зброю. Болей дзесятка дывізій сабралі правей Палесся і рушылі іх на Кіеў, па старой, пратоптанай інтэрвентамі дарозе. Шпарка пасоўвалася наперад белапольскае войска, на шырокім фронце павялі наступ. Зашуршэлі, як лісце ў позьнюю восень, польскія лістоўкі і газеты. Буйнымі літарамі апавяшчалі яны аб перамогах польскай зброі, аб захопе сёл, гарадоў і цэлых раёнаў. Гарліва маліліся ксяндзы па касцёлах, чыталі паведамленні з франтоў аб перамогах і заклікалі народ на ахвяры, на геройскія ўчынкі, на вайну за святую веру каталіцкую супроць бязбожнікаў-бальшэвікоў.

Граніц не было панскай радасці і панскаму гонару. Высока ўзносіла іх патрыятычная хваля, і шмат хто з іх ужо лічыў, што бальшэвікам прышоў канец, што польскае крулеўства закрасуе ад мора да мора, і не марудзілі яны варочацца ў свае панскія котлішчы, адкуль павыганяла іх Кастрычніцкая рэвалюцыя.

Радасць, патрыятычнае захапленне веснавым разводдзем залівалі панскую Польшчу, а з-за гэтага віру патрыятычнага энтузіязму не бачылі паны, ці не хацелі бачыць таго, што не ўсё было спакойна ў глыбокіх і блізкіх тылах ваеннага фронта. На фоне падзей шырокага маштаба, дзе ставіліся на карты лёсы мільёнаў, дзе вырашалася пытанне, быць ці не быць новай, маладой сістэме жыцця, за якую біліся бальшэвікі, адбываліся падзеі малых ахватаў, дзе выступалі паасобныя людзі ці групы

людзей, як адгаліненне падзей вялікага размаху, з тою толькі розніцаю, што тут яны не такія згушчаныя, не такія яркія і мала каму вядомыя.

Тыдні два праваляўся ў пасцелі Васіль Бусыга пасля стычкі з Саўкам Мільгуном. Дзён пяць паляжаў у бальніцы. Васіль Бусыга папаў адным бокам свайго жыцця ў струмень няўдач. З самага пачатку свайго войтаўства не ладзілася ў яго доме. Гэтыя нелады выліліся, нарэшце, ў бурны канфлікт з Аўгіняй, і канфлікт скончыўся тым, што ён выгнаў яе з дому. Мартын Рыль, у арышце якога не апошнюю ролю адыграў войт, уцёк з-пад канвоя. Дзеда Талаша, не гледзячы на ўсё старанне і на розныя махінацыі, як, напрыклад, арышт Панаса, ніяк не ўдаецца злавіць. Саўка Мільгун, якога ён разам з сваімі прыяцелямі пыставіў у якасці свайго вока наглядаць за паўстанцамі, нечакана змяніў свае паводзіны і скончыў скандалам і яшчэ пырнуў яго, войта, нажом у бок. Цёмнаю плямаю злёг цяпер Саўка на войта, цёмнаю ў тым сэнсе, што войт не ведаў, куды знік Саўка. Войту вядома, што Саўка павёў польскую контрразведку ў лес, каб палавіць небяспечных паўстанцаў, што польская контрразведка з лесу не вярнулася: яе расстралялі там усю да аднаго чалавека. Іх непрыбраныя трупы пазнаходзілі ў лесе, але Саўкі сярод іх не было. Усё гэта наводзіла на думку, што палякам у лесе падстроілі пастку. Але як гэта сталася? Якую ролю адыграў у гэтым Саўка?

Вось пытанні, якія мучылі і непакоілі войта, засланялі ўсе іншыя.

Васіль Бусыга ходзіць пануры. Ён пачарнеў і асунуўся. У хаце яго пуста і ціха: ён ды бацька яго, стары Купрыян. Як відаць па старым, ён не спачувае Васілю ў яго крутой расправе з Аўгіняй і Алесяй. Дзед Купрыян трымаецца свайго: трэба было трохі пасвянцаць жонку лейцамі, калі яна зрабіла правіннасць, і кончыць на тым. Але хто паслухае старога? Паразумнеў надта малады народ, не слухаюць старэйшых. Ад гэтага і пайшла катавасія на свеце. Яму шкада Васіля, але яго, старога, хто пашкадуе? Хто прыслухаецца да яго слова?.. Эх, старасць, старасць! Каму ты патрэбна? Дзед Купры-

ян думае, думае пра нелады ў хаце. Заходзіла сюды Аўгіня тады, калі Васіль у больніцы быў.

— Ну, вось і добра, што ты прышла, — так сустрэў яе стары Купрыян.

Дзед Купрыян лічыць, што час Аўгініных прочак сышоў. Ёй трэба вярнуцца і пагадзіцца з Васілём, тым болей, што з ім здарылася такое ліха.

— Ён не зваў мяне, і я не пайду, — адказала Аўгіня, і вострая крыўда чуваць яшчэ ў яе голасе. І яна дадае цвёрда і рашуча:

— Калі-б і прасіў, і малiў мяне вярнуцца, я ўсёроўна жыць з ім не буду.

Дзед трасе галавою.

— Не трэба так зацінацца, Аўгіня! Ну, мала што бывае паміж мужыком і жонкаю.

— Ён папікае мяне хлебам, адзежаю, як-бы я не працавала. Дык не хачу ні хлеба яго, ні адзежы, ні яго багацця. Даволі з мяне і таго, што пагналася на яго багацце, няхай яно затане.

— Дык чаго-ж ты прышла? — недаўмявае дзед Купрыян.

— Прышла забраць тое, што прынесла з сабою з дому, ды хлеба дзецям узяць. Карміць-жа іх трэба.

Дзед Купрыян маўчыць. Ён ведае, што дзецям есці трэба. Але таксама ён ведае, што калі Аўгіня возьме хлеб, і ён дазволіць ёй гэта, то ён зробіцца як-бы яе хаўруснікам і змоўнікам супроць Васіля. Дзед пратэстуе, напірае на тое, што трэба забраць дзяцей і вярнуцца сюды. Яго ўнукі, як толькі бацьку павезлі ў больніцу, паўцякалі да маткі. Але Аўгіню ніяк не ўгаворыш. Уперлася кабета на сваім і ні з месца. Дзед бездапаможна трасе галавой, разводзіць рукамі. Ну, што ёй парадзіць? А дзяцей, праўда, трэба карміць... Няхай робяць, як хочуць.

Аўгіня забірае свой куфар, мяшок круп, ды два мяшкі мукі і кладзе на сані. Дзед Купрыян ці то ўжо з жалю, ці то з іншых матываў кажа:

— То вазьмі ўжо і скораму.

Пра ўсё гэта потым далажыў ён Васілю.

Што падумаў Васіль, невядома, але не азваўся ніводным словам.

Адным словам, войт папаў у струмень прыкрасцей і няўдач. І горш за ўсё гэты Саўка, дзед Талаш і Мартын Рыль. Яны зачынілі яму свет, і покі не дойдзе ён тут ладу, не будзе яму спакою.

І не аднаго войта непакоіў Саўка. Думалі пра яго і войтавы прыяцелі. Не думаць аб ім нельга: занадта блізка датыкаўся Саўка і да іх. Вось табе і Саўка, іх «партызан». Так закруціў справу, што лепей было-б і не звязвацца з ім. Не жарты: дванаццаць палякаў улажылі ў лесе замест таго, каб забраць саміх партызан. Відаць-жа, іх сіла там немалая. А што, калі Саўка раскрыў іх сакрэты? Знакам невыразнасці і страху заставаўся для іх Саўка Мільгун.

Войтава хата прасторная. Цяпер яна робіць нават уражанне пустаты, не гледзячы на тое, што дабра ў ёй нямала. Бракуе жывых людзей. Не відно гаспадыні, а без жанчыны хатняя пустата набывае характар нейкай журботы. Не відаць жвавых, рухлівых дзіцячых постацей, не чутно іх шчэбету. Ціха ў войтавай хаце, і гэта цішыня аддае маўклівасцю магілы. А можа гэта толькі так здаецца з непрывычкі. Дзед Купрыян ляжыць на палатках каля печы. Гэта яго старэчы прыпынак. Стыне старая кроў, ёй трэба цеплыня. Дзед Купрыян і войтава хата, хата яго сына — дзве ўжо слаба звязаныя паміж сабою катэгорыі: дзедаў круг звужваецца, і хата астаецца як-бы ў старане ад яго. Іх узаемныя інтарэсы канчаюцца. Сам войт шнуруе па хаце, думае. Выгляд у яго пануры. Тое-ж уражанне раз'еднання робіць і войт, толькі гэта раз'еднанне іншага парадку. Войтава дарога і накіраванасць пераважнай большасці сялянства, у тым ліку і Аўгіні, ляжаць у розных роўніцах. Гэтага не ведае войт, але гэта ён адчувае, адчувае сваю ізаляванасць і сваю асуджанасць. Ад таго ён можа і пануры такі.

Ён трохі развясельваецца, калі дзверы ў хату расчыніліся, а парог пераступілі Бірка і Бруй.

— Ну, як здароў, Васіль?

Бірка, а потым і Бруй ціснуць войту руку.

Гэта «Ну, як здароў, Васіль» гучыць сёння не так, як гучыць яно звычайна: цяпер яно выклікае цэлы комплекс з'яў апошняга часу і ў першую чаргу той вечар, калі вярнуўся з «паходу» Саўка.

Спачатку гутарка не клеілася, і толькі пасля таго, як Бруй паставіў на стол пляшку, бяседа ажывілася.

— І ўсё-ж, скажыце вы, дзе падзеўся Саўка?

Бірку не меней за войта і Бруя цікавіць гэта пытанне. Бруй маўчыць: яны з Біркам ужо думалі аб гэтым. Цікава, як глядзіць на гэта Васіль.

— Ліха яго ведае, — ускідае плячамі войт.

— А ці не думаеце вы, што ён прымазаўся да паўстанцаў? — пытае ўсё той-жа Бірка.

— Ад Саўкі можна ўсяго спадзявацца, — заўважае разважлівы Бруй, — дзе яму болей дадуць, туды ён і пойдзе.

— Шкада толькі, што аб гэтым не падумалі раней, — тонам дакору адзываецца войт і дадае, — тут, ведаеце, вось што цікава: чаму ён не хацеў казаць, што быў у іх, бачыўся з імі і ведае, дзе яны? А прызнаўся толькі тады, калі яму добра хвост ушчамілі і запыталіся па-сапраўднаму.

— Дык гэта зразумела чаму, — сказаў Бруй, — раз ён пайшоў ужо з імі заадно, дык і не хацеў выказваць іх. А можа і збаяўся іх.

Апошняе меркаванне, што Саўка спалохаўся паўстанцаў, змусіла войта задумацца.

— Гэта магло быць, — згадзіўся ён, — але справа паказвае іншае. Як-жа магло здарыцца, што дванаццаць чалавек, трынаццаты Саўка паехалі туды і ніхто назад не вярнуўся? Значыцца знянацку іх там не захапілі; значыцца яны спадзяваліся, што прыедуць іх браць і падрыхтаваліся добра і было іх там нямала... вось гэта вы як растлумачыце?

Бруй і Бірка маўчаць.

— Ліха яго ведае, як яно было там, — разводзіць рукамі Бруй.

— У тым-та і ўся бяда, што справа гэта цёмная. Дапусцім, — разважае далей войт, — Саўка выдаў на-

шы сакрэты. Што тады заставалася ім рабіць? Калі ў іх сілы не было, яны проста перайшлі-б у другое месца, а раз сіла ў іх была, то яны тады сказалі-б Саўку: «Ідзі раскажы ім, гэта значыць нам, дзе мы. Яны перакажуць куды трэба, і нас прыдуць лавіць, а ты, Саўка, сам вядзі іх сюды». Вось што яны сказалі-б яму. І Саўку не было-б тады сэнсу маўчаць. А Саўка нябось нічога не казаў.

Відаць, войт шмат памазоліў мазгі, думаючы пра ўсю гэту страшную і няясную гісторыю. А гэта няяснасць душыла яго, прыгнятала, як прыгнятала яна Бірку і Бруя.

— Ты думаеш, што Саўка не выдаў ім нашу змову? — пытае войта Бірка.

— Трудна сказаць тут што-небудзь пэўнае. Але сама справа паказвае, што ён не гаварыў пра гэта.

Войтаў адказ заспакойвае Бірку, яму робіцца трохі лягчэй.

Але слова бярэ разважлівы Бруй.

— Ты, Васіль, у гэтай справе разабраўся лепей за нас і сказаць што супроць нельга. Саўка, напэўна, не казаў, што яго падаслалі мы. Але-ж з Саўкам нешта здарылася, яго штось моцна ўзрушыла. Памятаеце, які ён быў тады? Ён не падобен быў да Саўкі, і такім ён ніколі не быў.

Бруй равеў дух і сказаў, панізіўшы і сцішыўшы голас:

— Для мяне цяпер ясна адно: не Саўка, а хтось іншы перадаў Талашу і пра Саўку, і пра нас.

Гэтыя словы зрабілі ўражанне перуна, стрэліўшага ў комін войтавай хаты. Бірка задрыжаў, а войт пацямнеў яшчэ болей. Войт успомніў Аўгіню: успомніў той адвячорак, калі яна выходзіла з Талашовай хаты. Відаць, недарма назваў Бруй яго імя. А перад Біркавымі вачыма таксама прамільгнуў вобраз Аўгіні і з паразліваю яснасцю прыпомніўся той час, калі ён увайшоў у гэту самую хату, заставшы Аўгіню пры печы і сказаў ёй: «Холадна, Аўгінька. Ці не можна пагрэцца каля цябе?» І яшчэ другія свае словы прыпомніў цяпер Бірка: «Ваяваць я не пайду, мы за сябе ваяку паставім».

Войт панура маўчыць. Не адважваецца падставіць знойдзеную велічыню ў формулу Бруя і яго прыяцель Бірка.

## XXXI

Ранні і раптоўны наступ польскай арміі, наступ на шырокім фронце, захапіў і Палессе. На яго акупаваных землях правялі палякі мабілізацыю. Тысячы маўклівых і суровых сыноў Палесся супроць сваёй волі і жадання мусілі пад аховаю польскай ваеншчыны ісці ў глыбокія тылы для фармавання новых часцей, на папаўненне войск на фронце. Польскае ваеннае камандаванне, праводзячы мабілізацыю, мела на ўвазе і партызанскі рух, і мабілізацыяй думала яно зменшыць яго памеры. Але мера гэта прыводзіла якраз да адваротных вынікаў. Перш за ўсё, значная частка падлягаўшых мабілізацыі замест таго, каб ісці на мабілізацыйныя пункты, зразу-ж падалася ў лясы, а рэшта, забраная гвалтам, тоячы нянавісць да акупантаў, бегла з казармаў, бегла з сваіх часцей, бегла адкуль толькі можна было бегчы пры кожным зручным выпадку. Іх лавілі, жорстка распраўляліся з імі, але і жорсткія кары не спынялі дэзертырскага патоку сілаю забраных у войска людзей. Вясна, цеплыня і багацце лясоў спрыялі таму, што лясныя нетры сталіся надзейнымі прыпынкамі і сховамі для тых, хто вырваўся з польскай ваеншчыны, не жадаючы ваяваць за варожыя ім інтарэсы панскай Польшчы. Лясы тулілі неспакойных людзей, на якіх падала панская няласка і паліцэйская помста. Гэтыя-ж лясы сталіся школаю іх класавай свядомасці. Следам за імі прыходзілі сюды і цэлыя кадры падпольшчыкаў і праводзілі сярод іх шырокую работу, вялі прапаганду за Советы, тлумачылі праграму большэвікоў, іх задачы і мэты, давалі ім арганізацыйныя формы, раскрывалі сэнс белапольскай вайны і ўсіх тых, хто стаяў за спіною панскай Польшчы і фактычна кіраваў ёю. Гэтыя лясы жывілі і множылі партызанскія групы і цэлыя згуртаванні іх, густа раскінуўшы іх сетку на далёкіх і блізкіх тылах польскага фронта.

На пясчаным узгорку ўскрай лесу, дзе раскінуліся, як авечкі на пашы, маладыя разложыстыя хвойкі, ціха, утульна і добра. З аднаго боку рассцілаецца даволі шырокае поле, абкружанае лесам і стуленае па краях хвойнікам. Па другі бок узгорка стаіць мешаны лес, густы і

пануры. І гэтае поле і гэты лес у сваю чаргу абкружаны непраходнымі балотамі. З усіх бакоў гэты ўзгорак дасканалая пазіцыя: ты сам стаіш на ім, і ніхто цябе не бачыць, але сам ты ўбачыш адгэтуль і поле, і дарогу на ім, і ўсе падыходы, і, апроч усяго, ты можаш пагрэцца тут на веснавым сонцы, як не трэба лепей. А калі ты любіш паразважаць на розныя высокія тэмы або проста скупануцца ў хвалях прыемных мар, то і гэтаму твайму занятку ніхто не перашкодзіць тут.

Вось чаму дзед Талаш і абраў сабе гэта месца для свайго часовага прытулку. Але цяпер дзед Талаш тут не адзін: з ім неразлучны яго друг і таварыш Мартын Рыль. І не для таго толькі, каб проста правесці час, прышоў сюды дзед Талаш з Мартынам Рылем: сюды павінны сыйсціся і іншыя іх таварышы: Цімох Будзік, Мікіта Самок і Кузьма Ладыга з Вепраў. Можа нават прыдзецца правесці тут шырокі сход — ёсць дужа важныя пытанні, аб якіх трэба пагаварыць. Трэба-ж, нарэшце, пачаць і болей сур'ёзную работу. Сюды-ж, на гэты ўзгорак, прыходзяць свае людзі з рознымі навінамі і весткамі.

Словам, узгорак гэты — часовы штаб дзеда Талаша.

І з надворнага боку дзед Талаш нагадвае цяпер ваеннага чалавека. На галаве ў яго красуецца чырвонаармейская шапка. Замест латанага зашмуленага і выцертага кажушка носіць ён мундзір ваеннага пакрою. Праўда, ад мундзіра застаўся толькі пакрой і матэрыя, усе-ж адзнакі яго прыналежнасці да катэгорыі мундзіраў польскіх вайскоўцаў — каўнер, гузікі з белымі арламі — дзед Талаш павыпорваў і замяніў іх сваімі саматужнымі, паляшуцкімі. І на нагах у яго не лапці, а элеганцкія боты і майткі з добрага сукна, ды з лампасамі, як у казака або ў генерала. Хіба не заслужыў дзед Талаш, партызанскі атаман, насіць такую форму? Яна дужа да твару і вельмі выгодна вылучае яго з партызанскай грамады, і самім партызанам яна надзвычай імпануе.

Мартын Рыль, апёршыся на локаць, ляжыць на баку на прагрэтым дзірване. Мыслі яго блукаюць дзесь далёка ад гэтага ўзгорка.

— І калі-ж мы, згінь яго доля, за работу возьмемся? Самы час сяўбы, — уголас разважае Мартын.

— Будзем жывы, і каля зямлі паходзім, голубе, эге-ж! А цяпер няхай жанкі, ды хто дома застаўся, спраўляюцца з работаю. Наша-ж, голубе, работа цяпер толькі і пачынаецца.

— Цяпер куды болей разгону, — ажыўляецца Мартын. — Вясною і сам чорт нам не брат. Знай толькі лес ды добрую часіну з лесу паказацца... А глядзі ты — паляк, падла, папёр.

— Пачакай трохі, голубе: на ражон ён напорацца, — аўтарытэтна і многазначна адзываецца дзед Талаш. Трудна нават дагадацца, на штоківае тут дзед Талаш. Можна падумаць, што ён мае на ўвазе шырокія партызанскія аперацыі. Яно так і ёсць, але не на адно толькі гэта спадзяецца дзед Талаш. Ён да апошняга часу не траціў сувязі з Чырвонай Арміяй. А там ён дачуўся ад камандзіраў, што ў наступе палякаў нічога страшнага і неспадзяванага для Чырвонай Арміі няма, што Чырвоная Армія на некаторы час падасца на ўсход: шмат чырвонага войска знята з гэтага фронта і перакінута на поўдзень, каб хутка і дашчэнту дабіць Врангеля, а потым прыдзе чарга і да белапалякаў. Між іншым, як дазнаўся дзед Талаш, і тая рота, дзе быў узводным Букрэй, паехала на Врангеля.

— А там хтось вышаў з лесу, — падымае галаву Мартын і паказвае на лес па той бок поля і на дарогу, што ідзе полем.

Дзед Талаш і Мартын Рыль углядаюцца ў чалавечую постаць. Чалавек запыніўся, стаіць, разглядаецца.

— Відаць, не наш, — заўважае Мартын.

— Будзем-жа ведаць: на дарозе наша варта стаіць, — спакойна адказвае дзед Талаш.

Невядомы чалавек адлучаецца ад лесу, ідзе дарогаю, пераходзіць поле.

Дзед Талаш і Мартын маўчаць, не спускаюць з вока незнаёмага чалавека. Ён праходзіць палавіну дарогі праз поле, набліжаецца да лесу. Ідзе размеранаю, роўнаю хадою. Ён ужо блізка ад лесу. Яшчэ некалькі хвілін і ён — у лесе.

— Нібы дзесь бачыў я гэтага чалавека: такая-ж са-

мая фігура і такая-ж хада, — прыпамінае дзед Талаш і не можа ўспомніць, дзе бачыў ён такога чалавека.

— Можа Саўка, — пасміхаецца Мартын.

— Саўка? Не, гэта не Саўка... А ведаеш, Саўка не такі ўжо прапашчы чалавек. Вось-жа не сказаў Васілю пра нас, хоць злодзей і канакрад. З нажом кінуўся, бок прапароў. Шкада толькі, што насмерць не закалоў гада. А мы-ж яшчэ з ім не паквіталіся.

— А скажы, дзядзька Талаш, скуль вы даведаліся пра гэтую змову Саўкі з Васілём і яго хаўруснікамі?

Дзед Талаш колькі хвілін глядзіць на Мартына, маўчыць.

— Мяне дужа прасілі не казаць пра гэтага чалавека, хто выдаў іх змову. Але табе я скажу: сказала гэта Аўгіня, Васілёва жонка.

Мартын злёгку страсянуўся, але пастараўся схаваць ад дзеда Талаша сваё хваляванне.

— Цікава! — спакойна, нават безуважна азваўся Мартын. Ды і што яму Аўгіня?

— Але гаварыць пра гэта ты нікому не будзеш? — пытае дзед Талаш і хітравата глядзіць у вочы Мартыну.

Мартын не ўправіўся адказаць: з боку лесу пачулася глухое тухканне ног па мяккай зямлі. Дзед Талаш і Мартын павярнулі галовы ў той бок. З-за купчастай хвойкі зараз-жа высунуліся дзве постаці: вартавы партызан з карабінам і незнаёмы чалавек, той самы, што ішоў дарогаю цераз поле.

Зірнуў дзед Талаш на незнаёмага. На дзедавым твары адразу засвяцілася ўсмешка. Як дзяцюк, борздзенька падняўся на ногі і кінуўся насустрач.

— Таварыш Нявідны, — здаровенькі булы! — на палескі лад прывітаў яго дзед Талаш. На момант Нявідны сумеўся: у новым адзенні дзед Талаш так змяніўся, што адразу трудна было пазнаць яго. Потым твар Нявіднага адразу прасвятлеў.

— Дзед Талаш! — і па-прыяцельску пацісн уў дзеду руку.

— Як добра, што я сустрэўся з вамі, стары дружа... А я іду ды думаю: куды-ж гэта вядзе мяне таварыш?

І паказвае на вартавога партызана.

— Ну, я-ж вас не ведаю, а праверыць трэба, што вы за чалавек, — дзелавіта заўважае партызан.

— Правільна, таварыш, правільна!

А дзед Талаш задаволена пасміхаецца: яго ваякі ведаюць службу. У іх-жа парадак і строга, як у арміі.

— Які-ж добры вецер і скуль нясе вас, таварыш Нявідны?

— А я абход раблю свайго раёна. Работы шмат. І трэба-ж на гэту работу людзей падабраць і паставіць.

— Што-ж добрага чулі, бачылі?

— Ды шмат чаго бачыў... Справа наша жыве, расце... у вас-жа што чуваць?

Расказаў дзед Талаш пра падзеі апошняга часу, пра Букрэеўскі паход, пра стычку з палякамі пад Ганусамі, пра свае прыгоды, пра захват польскай контрразведкі.

Нявідны слухаў з захапленнем.

— Дык вы дарма не сядзелі. Малайцы! Пра вас далёка гавораць.

— Варушымся патрошку, — адказвае дзед Талаш, — а сёння ў нас і нарада будзе. Хочам трохі з лесу выйсці. І вельмі добра, што вас мы знайшлі. Вы скажыце нам колькі слоў пра вайну з панамі.

— Дужа рад буду пагутарыць з вамі.

— Дык давай, Мартыне, — гэта мой верны таварыш, адзін з тых, што раззбройвалі польскі канвой, — цяпер толькі адрэкамендаваў дзед Талаш Нявіднаму Мартына Рыля, — давай, дружа, народ склікаць!

Мартын моўчкі падняўся.

Цяпер толькі заўважыў Нявідны, што ў Мартына ёсць не толькі карабін, а і труба, пры боку на зялёным шнурку, ёмкая крывая труба, дзервяная, самадзельная, шчыльна абверчаная бяростаю.

Падышоў Мартын трохі бліжэй да лесу, паднёс да губ трубу, выставіў крыху наперад левую нагу і затрубіў так, як трубяць у лесе пастухі. Громкі і даволі несамавіты зблізку дзервяны гук паплыў па лесе і змоўк. Хвілінку счакаўшы, дзесь у глыбіні лесу адгукнулася другая труба. Дзед Талаш слухаў і ківаў галавою, паказваючы ў той бок, адкуль пачулася труба. Яшчэ далей і яшчэ бо-

лей ціха азвалася трэцяя. Дзед Талаш, відочна, быў здаволены, слухаючы водгулле труб.

— Каму што да таго, што ў лесе «пастухі» трубяць? — заўважыў ён.

Не прайшло і чвэрці гадзіны, як з лесу пачалі выходзіць цэлыя групы людзей з карабінамі, з вінтоўкамі, з абрэзамі, з бярданкамі, з аўстрыйскімі і нямецкімі стрэльбамі. На чале груп стаялі спрактыкаваныя ў ваенных справах людзі. Яны стараліся прыдаць сваім падначаленым выпраўку і ваенны выгляд. Адзеты і абуты былі ваякі, як папала. На галовах пападаліся старыя салдацкія шапкі, бачыўшыя на сваім вяку Галіцыю, Карпаты, Польшчу і Нямеччыну. Сям-там прыкідаліся былыя гімнасцёркі і казённыя раменныя папругі. Абуты былі хто ў боты, хто ў шчыблеты з абмоткамі часоў керэншчыны, а хто ў традыцыйныя палескія лапці, але сам народ быў сур'ёзны, цягавіты, гартаваны бурамі вайны і рэвалюцыі і гатовы біцца не на жарты, народ, з якім не так-та лёгка змагацца ў гэтых балотах і палескіх трушчобах.

А групы ваяк прыбывалі, натоўп узброеных людзей рос і рос. Нарэшце, калі збор кончыўся, выступіў дзед Талаш.

— Таварышы, партызанскае войска! Давайце пагамонім аб справе. Пара нам за дзела ўзяцца. Не па сваёй волі, сокалы мае, туляемся мы па лясах. Паднялася на нас панская навала. Пазганялі нас паны сваім войскам з нашай кроўнай зямлі, папалілі нашы хаты, разбурылі нашы гарапашніцкія двары, разграбілі наш набытак. А за што? За тое, што не захацелі быць панскімі батракамі, што асмеліліся скінуць ярмо, у якое ўпрэглі гарапашніцкі бедны народ паны і капіталісты; за тое, таварышы, што стаялі мы і стаімо за бальшавікоў, за савецкую ўладу, якая скінула ўладу багатых і перадала яе ў рукі рабочых і беднага сялянства. Рушылі паны ў наступ сваё белае войска, каб адабраць ад нас зямлю, каб парабіць нас сваімі падданымі ды зноў прымусіць працаваць на сябе. Ці-ж згодзімся зноў стаць панскімі нявольнікамі?

— Далоў паноў! — грымнулі партызаны.

— Дык не будзем-жа мы туляцца па лясах ды ся-

дзець, злажыўшы рукі. У нас ужо ёсць сіла, і сёе-тое можам рабіць. А што нам рабіць? Мы звяжам тут рукі панам, прымусім іх трымаць тут войска, будзем нападаць на іх абозы, разбураць дарогі, паліць іх маёнткі, без літасці біць таго, хто будзе стаяць за паноў. Паможам нашай Чырвонай Арміі, покі збярэ яна сілу, і разам з ёю пагонім паноў і іхнюю паліцыю, ксяндзоў і ўсякую поскудзь.

Пасля дзеда Талаша слова ўзяў Нявідны.

— Дазвольце, таварышы, ад імя партыі бальшэвікоў прывітаць вас, актыўных барацьбітоў, выступіўшых арганізавана і са зброяй супроць нахабнай навалы наймітаў капіталістычнай Еўропы.

Таварышы! Наша партыя, загартаваная ў агні Кастрычніцкага паўстання, разбіла і скінула ўладу капітала ў Расіі і ўзяла дзяржаўнае стырно ў свае рукі для таго, каб разняволіць закабаленыя масы рабочых і сялян ад гнёту капітала, ад панскага ярма, каб аддаць у рукі працоўных фабрыкі, заводы, зямлю, каб зрабіць іх гаспадарамі гэтых фабрык, заводаў, зямлі, каб яны самі сталі вольнымі будаўнікамі свайго дабрабыту, свайго жыцця на новых соцыялістычных асновах. Выгнаныя фабрыканты, купцы, прамыслоўцы, памешчыкі, царскія генералы і іншы зброд дармаедаў знайшлі сабе спачуванне сярод замежных капіталістаў. З іх дапамогаю сабралі яны полчышчы белагвардзейцаў, узброіўшы іх браневікамі і танкамі, і пад камандаю царскіх генералаў і афіцэраў рушылі іх супроць улады Советаў, каб у крыві рабочых і працоўнай сялянскай беднаты заліць агонь рэвалюцыі і вярнуць сабе ўладу, уладу бізуна і нагайкі. Якая гэта ўлада, вы ведаеце самі цяпер. Дзенікін з поўдзеня, Калчак з Далёкага Усхода, Юдзеніч з захада, ангельцы з поўначы здушылі цесным колам нашу краіну, каб замарыць яе голадам, каб прыбраць нас, галодных, абяскроўленых, у свае рукі і знішчыць совецкую ўладу. Але, таварышы, наша маладая рэвалюцыйная рабоча-сялянская Чырвоная Армія, пад кіраўніцтвам бальшэвіцкай партыі, напоўгалодная, слаба ўзброеная разбіла ўшчэнт царскіх генералаў і адміралаў, выгнала вон чужацкае войска замежных капіталістаў, а цяпер дабівае Врангеля. Але на-

шы бязлітасныя класавыя ворагі, замежныя капіталісты на чале з Англіяй, не супакойваюцца. Яны ўтварылі так званую «Вялікую Польшчу» і выкарысталі панскую прагавітасць захапляць чужыя землі для таго, каб накіраваць яе супроць совецкай улады. І вось, таварышы, вайна гэта пачалася. Што нясе нам гэта вайна, вы ведаеце. Вы самі, таварышы, узяліся за зброю — вы сталі на правільную дарогу: другога шляху нам няма. Таварышы, мы ваюем не для таго, каб забіраць чужыя землі, мы змушаны ваяваць, абараняць сваю айчыну, сваю ўладу, свае інтарэсы: наша ўлада — гэта мы, гэта нашы інтарэсы. Совецкая ўлада гэта — сімвал вызвалення ўсяго прыгнечанага чалавецтва ад няволі капіталізма. Мы ваюем не з Польшчаю наогул, мы ваюем з панскаю белаю Польшчаю, з Польшчаю капіталістычнага прыгнечання. У нашых радах, у радах большэвіцкай партыі, ёсць многа, тысячы выдатных рэволюцыянераў-большэвікоў палякаў, якія разам з намі б'юцца з панскаю Польшчаю. У радах польскага войска ёсць шмат рабочых і сялян, часткаю абдураных сваім урадам і ксяндзамі, часткаю змушаных гвалтам стаць у рады арміі. І трэба, таварышы, не толькі пускаць у ход зброю знішчэння ў вайне з панамі, а трэба таксама і развязваць вочы несвядомым польскім салдатам, абуджаць іх класавую свядомасць: з ворагаў яны стануць нашымі саюзнікамі і плячо ў плячо з намі пойдуць супроць сваіх прыгнятальнікаў. Таварышы, мы пераможам, будучыня наша! Цяпер-жа, таварышы, прыступайце да арганізацыі рэволюцыйных камітэтаў, — гэтай паходнай баявой совецкай улады: недалёка той час, калі совецкая ўлада стане тут цвёрдымі нагамі. Няхай трыумфуюць нашы ворагі з прычыны сваіх перамог — трыумф іх нядоўгі. Дык за справу, таварышы, за адзіна справядлівую нашу рабоча-сялянскую справу, справу нашага вызвалення, за бязлітасную класавую вайну з панамі!

Няхай жывуць чырвоныя партызаны!

Няхай жыве Чырвоная Армія і яе арганізатар — Комуністычная партыя!

Мітынг скончыўся клятваю біцца да канца з панамі, біцца за вызваленне працоўных.

## XXXII

Самыя цяжкія і самыя страшныя хвіліны, якіх яшчэ ніколі не перажываў Саўка Мільгун, былі для яго тыя хвіліны, калі выносіў яму свой прысуд дзед Талаш. Калі-б дзед Талаш сказаў: «Смерць Саўку»! — то гэта не так уразіла-б, як уразілі яго простыя, звычайныя словы суровага, але па істоце добрага, бясхітраснага чалавека: «Ідзі! Ідзі прэч, каб цябе не бачылі мае вочы!» і яго апошняе слова: — «Жыві!»

Саўка так цяжка змучыўся за час свайго допыту ў засценні польскай контрразведкі і асабліва за той час, калі яго змусілі паказаць дарогу ў лес, каб знайсці страшны салаш, дзе прыпыніўся паўстанцкі атаман з сваім сынам і з сваім таварышам, што ён зусім атупеў і ўжо слаба ўспрымаў усе далейшыя падзеі: неспадзяваны выбух агнёў, страшныя постаці ўзброеных людзей, вынырнуўшых з цемры, і іх мітусенне ў бляску агнёў, суд, залпы расстрэлаў і ўсё іншае. Але гэты момант, калі дзед Талаш зірнуў яму, Саўку, у вочы сваімі цёмнымі вострымі вачыма, і яго словы, даваўшыя Саўку волю і жыццё, — моцна, без краю глыбока патрэслі Саўку. «Ідзі! Ідзі прэч!» І яшчэ, што ўрэзалася ў Саўкаву памяць, — Мартын Рыль, маўклівы і трохі пануры, той самы Мартын, якога важыўся прадаць Саўка войту і яго прыяцелям, падышоў да яго, Саўкі, і сваімі рукамі, як жалезнымі абцугамі, зламаў наручнікі і вызваліў Саўкавы рукі.

Перад Саўкам расчынілася цёмная багна, і абняла яго страшная пустэля. Ён — жывы і вольны, перад ім той самы вялікі і шырокі прастор, якога ён не заўважаў раней, як-бы не бачыў яго і толькі цяпер адчуў яго бяскрайнасць, але таксама адчуў ён, што ў гэтай бяскрайнасці яму няма месца... «Ідзі, ідзі прэч!» Пустэля і адзінота агарнулі Саўку сваёю цемраю.

Не падымаючы вачэй, з апушчанай галавой рушыў Саўка з лесу. Суровыя партызаны моўчкі правялі яго вачыма. І толькі ў самога Саўкі вырваліся словы, вырваліся самі без усякай надуманасці:

— Даруйце мне, вінаваты перад вамі!

Ён быў дужа стомлены, атупелы, безуважны, прыбіты.

У яго не было акрэсленай мэты. Ён проста ішоў, куды вочы глядзяць, бо яму не было тут месца.

«Ідзі, ідзі прэч!» — стаялі ў вушах гэтыя словы і гналі яго.

Маўклівая, глухая ноч абнімала стары лес. Змоўклі людскія галасы. Патухлі агні, і Саўка апынуўся ў поўным адзіноцтве. Доўга блукаў ён без дарогі па лесе. Сухія галіны чапляліся за вопратку, білі па твары. Ногі западалі і вязлі ў снезе, ён натыкаўся на пні, правальваўся ў яміны. Нарэшце выбіўся на дарогу. Ішоў, покі не пачуў, што далей ісці не можа. Спыніўся, азірнуўся па баках. Ноч, глухмень, цёмнае неба над галавою, лес і балоты навокал.

«Ідзі, ідзі прэч!».

І ён пасунуўся далей, ледзь перастаўляючы ногі і разглядаючыся па баках. Непадалёку ад дарогі на балоце між хмызу цьмяна вырысоўваецца з мроку цёмны сілуэт стога. Саўка звярнуў з дарогі, пайшоў пад стог і спыніўся. Тут можна і адпачыць. Выскуб у стозе нару і зашыўся ў настыўшае на холадзе сена. Саўка адчуў усім сваім стомленым целам і ныўшымі ад болю касцьмі ўсю слодыч адпачынку. Яму цяпер болей нічога не трэба, толькі-б ляжаць, ляжаць бясконца і не варушыцца. І Саўка заснуў крэпкім і цяжкім сном без меры стомленага і змучанага чалавека.

Спаў ён доўга, спаў моцна, як забіты, і калі прачнуўся і глянуў на свет, то было зусім светла, і дзень, відаць, пачаўся даўно. На адзін момант Саўка дужа здзівіўся, што ён ляжыць у сене, але гэты часовы прарыў і пустата ў яго памяці борзда і востра запоўніліся ўспамінамі, і ўсе нядаўнія падзеі ўсталі перад ім у сваёй страшнай сапраўднасці. Колькі хвілін паляжаў Саўка ў сваёй нары, каб трохі ачухацца і прыйсці да поўнай прытомнасці. Сон падмацаваў яго, жахі пережытай ночы і ўсяго таго, што здарылася з ім нядаўна, у святле дня адсунуліся трохі далей, страцілі сваю вастрыню і ўжо не налягалі на яго такім балючым цяжарам, як учора.

Саўка ляжаў і думаў. У такім цяжкім беспрасветным стане ён не быў ніколі. Куды-ж яму падацца і што рабіць? Дзе ён цяпер прыткнецца?.. Успомнілася камера

допыту, следчыя і страшны Адольф. Шустры і Доўгі і гэты самы кат Адольф у лес не паехалі. Яны засталіся, і гора будзе Саўку, калі пападзецца ён ім у рукі. Яго запытаюць, чаму расстралялі польскіх агентаў, а яго пакінулі?

Ад гэтых думак Саўку прабіраў холад.

І чаму не вярнуўся ён тады, як ішоў з лесу, пабачыўшыся з дзедам Талашом, і не расказаў Цімоху Будзіку ўсё, не прызнаўся яму, што ён за партызан? Гэтага Саўка не можа цяпер дараваць сабе. Цімох Будзік, стары знаёмы яго, запыніў на сабе Саўкавы думкі. За Цімоха Будзіка ўхапіўся ён цяпер, як хапаецца за купіну сярод дрыгвы чалавек, страціўшы пад нагамі грунт, каб зачапіцца за яе рукамі і не апусціцца з галавою ў цёмнае прадонне багны. Саўка, лежачы ў сваёй нары, угледзеў цяпер маленькую прагалінку, і яна пацягнула яго да сябе, як нейкая яшчэ не зусім ясна акрэсленая надзея.

Некалькі дзён туляўся Саўка ў Карначах і яго ваколіцах, каб сустрэць Цімоха Будзіка. Цярпліва каравуліў ён тую дарогу, якою не так даўно вёў яго Цімох да дзеда Талаша. Пры зручным здарэнні распытваў сяго-таго з карначоўцаў пра Цімоха, але Цімох не паказваўся. Саўка ўсё-ж не траціў надзеі знайсці Цімоха. Нарэшце ранічкаю, калі не зусім яшчэ развіднелася, Саўка асмеліўся зайсці ў Цімохаў двор.

Сустрэў ён Цімоха на двары каля клуні.

За гэтыя дні згрызот Саўка пахудзеў і асунуўся.

Хударлявы без таго, цяпер ён меў выгляд чалавека, знятага з крыжа.

— Здароў, Цімох! — з вінаватаю ўсмешкаю, сароме́ючыся глядзець Цімоху ў вочы, прывітаў яго Саўка.

Цімох зірнуў на Саўку і здрыгануўся, як-бы перад ім стаяў не Саўка, а яго цень з таго свету. Момант стаяў ён моўчкі і нерухліва, потым падазрона азірнуўся па баках.

«Скуль ты ўзяўся і якая халера прынесла цябе сюды і чаго?» — у думках запытаў Цімох Саўку, а ўголас: — Чаго табе трэба? — суровасць чулася ў Цімохавым голасе.

— Не злуйся, Цімох, я зараз пайду. Хачу толькі пагаварыць з табою. Я шукаю цябе ўсе гэтыя дні.

Цімох зірнуў на Саўку спасцярожліва, адчуўшы няясны непакой.

— А што табе трэба ад мяне? — усё тым-жа халодным тонам запытаў Цімох.

— Я не такі вінаваты, як вы думаеце.

— Ну, дык што-ж з гэтага? Цябе-ж пусцілі.

— Я хачу, каб вы ведалі праўду.

Цімоху не ўсё было ясна ў гэтай справе, і таму ён запытаў болей лагодна:

— Якую праўду?

— Я, Цімох, не буду апраўдвацца: я ўзяўся за гадкую, паскудную справу. Мяне нанялі войт і яго сябры, каб я стаў фальшывым партызанам і даносіў ім на вас. Талашоў Максім накіраваў мяне к табе: я распытваў Максіма, як вас знайсці. Наўперад ён не гаварыў мне пра вас нічога. А потым...

— А потым сам стары Талаш сказаў Максіму, каб ён паказаў табе дарогу да мяне, — перабіў Саўку Цімох.

— Сам Талаш? — здзівіўся Саўка.

— І я табе скажу праўду: перш, чым ты прышоў да нас у лес на разведку, мы ведалі ўсе твае сакрэты і тваю змову з войтам.

Саўка здзівіўся яшчэ болей, а Цімох яшчэ і туману пусціў у вочы.

— Дзівак ты, — сказаў ён, ды мы-ж ведаем, як чые думкі шаволяцца ў галовах, асабліва здрадніцкія думкі. І мы ведалі, што ты прывядзеш сваіх паноў да нас.

Цімох засмяяўся д'ябальскім смехам.

Саўка зусім растраціўся і ў здзіўленні глядзеў на Цімоха. Цяпер сцяміў Саўка, чаму так дружна і гладка сустрэлі там у лесе «паноў», як называе іх Цімох.

— Калі вы ўсё ведаеце, — пачаў збіты з тропу Саўка, — то вы павінны ведаць і пра тое, што я адступіўся ад войта і ад свае службы ім.

— Аднак з панамі ты прышоў, — заўважыў бязлітасны Цімох.

Саўка апусціў галаву: што скажаш супроць праўды?

— Але ты, Цімох, не ведаеш, чаго каштавала гэта мне. Я сам па сваёй волі ні слова не гаварыў пра вас, нікога з вас не называў. Ні войту, ні там на допыце. Але мяне мучылі, мяне катавалі. Мне расцягвалі жылы і косці. І пасля гэтага я не прызнаваўся. Але, калі ізноў паставілі мяне на кабылку, я не вытрываў, змогі не было вытрываць.

Але і гэтыя словы не кранулі суровага Цімоха.

— Значыцца, ты няцвёрды чалавек, — сказаў ён.

І супроць гэтага доваду нічога не мог запярэчыць Саўка.

— Тады, калі я варочаўся з лесу, як вадзіў ты мяне ў салаш, я хацеў вярнуцца да цябе і прызнацца, што мяне падаслаў войт і яго сябры.

— Але-ж ты не вярнуўся.

— У мяне нехапіла смеласці прызнацца: самому мне агідна стала мая справа, мой учынак. І я не думаў, што ўсё гэта павернецца ў такі бок. Біўся з імі. Войту бок нажом прапароў. Уцёк быў ад іх, вырваўся. Каб мяне тады не злавілі і не аддалі ў рукі катаў, я прышоў-бы да вас. Напэўна прышоў-бы.

— Тады-б іншая была справа, — суха азваўся Цімох.

Саўка спадзяваўся, што яго прызнанне і каянне хоць злёгку кране Цімоха, што Цімох паспагадае яму, зразумее яго і падтрымае яго ў цяжкую часіну. Але Цімох паставіўся суха і нават варожа ў дачыненні да Саўкі і не азваўся ні словам спагады. Тая бяздонніца, што пралегла між Саўкам і імі, заставалася такою-ж цёмнаю і непарушнаю.

Гутарка змоўкла.

Аб чым-жа яшчэ гаварыць?

Саўка пастаяў трохі, а потым сказаў:

— Ну, я пайду.

— Ну, што-ж... — азваўся Цімох, абы толькі азвацца.

Саўка замяўся.

— Можа-б ты даў мне хоць кавалачак хлеба ў дарогу? — нясмела папрасіў ён Цімоха.

— Што-ж, можна... Пойдзем!

Падышлі да Цімохавай хаты. Саўка прыпыніўся на

дварэ каля хаты. Цімох вынес ёмкі кавалак хлеба. Саўка ўзяў хлеб, падзякаваў.

— Ну, бывай-жа здаровы.

— Бывай.

Саўка ступіў крок, спыніўся.

— Болей ад мяне ніякага ліха вам не будзе, не будзе, Цімох. Мне сорамна цяпер пазіраць вам у вочы, але я выкуплю сваю віну перад вамі, выкуплю, чым толькі змагу. Скажы гэта старому Талашу і Мартыну Рылю.

Саўка расчуліўся. Вочы яго набеглі слязьмі.

Яшчэ хацеў штось сказаць, але голас яго абарваўся. Ён цяжка ўздыхнуў.

— Чалавекам стаць хачу, — сказаў ён.

— Ну, ну, — мякчэй азваўся Цімох.

У гэтым «ну-ну» Саўка пачуў нотку спогадзі, і яму стала лягчэй. Хударлявая і высокая постаць яго заківалася і знікла ў глыбі двара за будынкамі і дрэвамі. Цімох пастаяў трохі і правёў яго вачыма.

«Можа і сапраўды чалавекам стане», — падумаў ён.

Даволі доўгі час пра Саўку не чуваць было нічога. Ні ў Вепрах, ні ў Прымаках яго не бачылі. Аб ім хадзілі супярэчлівыя чуткі. Адны гаварылі, што Саўкі няма жывога, што яго забілі партызаны. Другія даводзілі, што Саўку забралі палякі і задушылі ў астрозе. Трэція трымаліся таго погляду, што Саўку і сам чорт не возьме, што такія людзі, як Саўка, не прападаюць. Іх погляды грунтаваліся на тым, што Саўка не першы раз прападае цэлымі месяцамі. І яны не памыліліся.

Як толькі растаў снег і сышла паводка, а зямля трохі прасохла, Саўка вярнуўся потайкам у сваю хату і нават прынёс сякія-такія гасцінцы жонцы і дзецям. Ён строга-настрога даў наказ дзецям і жонцы нічога не гаварыць аб ім, як-бы яго і на свеце няма. Дома сабраў ён весці пра войта і пра яго прыяцеляў. Цэлымі днямі Саўка дзесь прападаў і нікому не паказваўся на вочы. У Саўкі была важная камбінацыя, над якой ён і ламаў цяпер сваю галаву. Саўка не забываў сказаных на развітанні Цімоху слоў, што ён хоча стаць чалавекам.

Наўперад Саўка высачыў месца, дзе пераважна збіраліся партызаны. Гэта складала частку яго задуманага плана. Калі ён дайшоў гэтага, то зараз-жа прыступіў да ажыццяўлення ўсёй камбінацыі ў цэлым. Для гэтага яму прышлося папрацаваць большую палавіну ночы.

Без шуму, як цень, увайшоў Саўка ў двор Кандрата Біркі. Наставіў адно вуха, потым другое, паслухаў — ціха, вёска спіць глыбокім сном. Біркаў сабака, загадзя ўлагоджаны Саўкам, прыязна памахваў яму хвастом, а з хлява даносілася пырханне завадскога жарабца, красы, гордасці і гаспадарскай уцехі. Але вароты ў хляве былі дзябёлыя і крэпкія, замкнёныя моцным унутраным замком. Саўка зайшоў з другога боку хлява. У яго ўжо быў на прымеце камень пад падрубаю. Саўка прылёг, адгарнуў ад каменя зямлі і памаленьку выкаціў яго з-пад падрубы, а дзірку пракапаў, расшырыў і нырнуў у яе. Праз хвіліну ён быў у хляве і гладзіў жарабца. А потым падышоў да варот і ціхенька адсунуў засоў. Без шуму і скрыпу расчыніў вароты і вывеў жарабца на двор, дваром — у загуменне, адтуль — у лес. Але Саўкава работа была яшчэ не ўся. У войта і ў Бруя было па пары ладных валоў, адкормленых і з вялікімі рагамі. І трудна было сказаць, чые валы лепшыя, войтавы, ці Бруевы, тым болей трудна, што і самі іхнія гаспадары не сходзіліся поглядам у іхняй ацэнцы.

З валамі справа была шмат лягчэйшая. Саўка пачаў па-парадку. Выгнаў наўперад Бруевых валоў. Потым задворкамі зайшоў у двор Васіля Бусыгі. Яго якраз і дома не было. Яшчэ з вечара паехаў ён да пана Крулеўскага па войтаўскіх справах. А дзед Купрыян ляжаў на палатках і падводзіў падрахункі пражытаму жыццю. Войтавы валы былі болей упартыя і не хацелі сярод ночы выходзіць з хлява. Але ім паказаў дарогу і паддаў ахвоты бычок-пярэзімак. Утрох яны пайшлі весялей, а калі Саўка далучыў да іх і Бруевых рагалёў, то ўсе яны зусім дружна рушылі ў паход разам з Саўкам.

Яшчэ да ўсходу сонца дзве пары валоў, бычок-пярэзімак і заводскі жарабец былі на месцы. Саўка пусціў іх на добрую пашу, жарабца навязаў, а сам пайшоў хадзіць па лесе. Яго зараз-жа затрымаў вартавы партызан

і адвёў у партызанскі штаб. А Саўку гэтага якраз і трэба было.

Здзівіліся дзед Талаш, Будзік і Рыль, убачыўшы Саўку.

— З чым-жа ты прышоў цяпер? — запытаў яго дзед Талаш.

— Не гневайцеся, дзядзька, і вы, браткі: я прывёў вам жарабца вашага і майго цяпер ворага Кандрата Біркі, прыгнаў пару войтавых валоў і з імі бычка-пярэзімка, ды пару валоў Сымона Бруя. Я хачу чалавекам стаць і не думайце пра мяне, што я вораг ваш.

Дзед Талаш, Мартын Рыль і Цімох Будзік пераглянуліся. У іх вачах заіскрыліся ўсмешкі.

— Саўка застаўся Саўкам, — смяяліся яны потым. А Саўка, выходзячы з лесу ад іх, вышэй трымаў галаву, адчуваючы, што ён зрабіў вялікі крок наперад для таго, каб «стаць чалавекам».

## XXXIII

Раз адвячоркам ішла Аўгіня з лесу. Яна несла за плячамі даволі ёмкі мех першай маладой травы. У Аўгінінай маткі, дзе жыла яна цяпер з дзецьмі, была цялушачка. Для яе і несла Аўгіня траву. Ішла яна побач дарогі так, каб не кідацца людзям у вочы і асабліва польскім салдатам, якіх нядаўна прыгналі ў Вепры і якіх яна баялася: ад іх можна ўсяго спадзявацца. Ішла Аўгіня, а разам з ёю ішлі і яе думкі.

З таго часу, як пакінула яна дом свайго мужа, яна з ім і не бачылася. Хоць у маткі і жылося ёй нялёгка, але варочацца да Васіля яна не думала. Ды і як ёй, так ганебна, з такой зняславаю выгнанай, было варочацца, кланяцца яму, раняць перад ім свой жаночы гонар? Калі-б так была яна патрэбна яму, то ці не знайшоў-бы ён да яе дарогі? Аўгіня спадзявалася, што Васіль прыдзе, калі не па яе, дык да хлапчукоў. З аднаго боку, яна не хацела ні ісці да Васіля, ні аддаваць яму меншых дзяцей. З другога-ж боку, яна адчувала прыкрасць, што Васіль не паказваецца і не просіць яе вярнуцца. Разу-

меецца, яна і не вярнулася-б, яна нагаварыла-б кучу непрыемных для яго слоў, абразіла-б і зняславіла-б яго яшчэ горай, як абразіў і зняславіў ён яе тады. Потайкам, калі Васіля не было дома, яна забягала яшчэ раз да дзеда Купрыяна, каб разжыцца чым-небудзь з харчоў. Хіба не павінен быў Васіль плаціць ёй на ўтрыманне дзяцей? Але Васіль строга-настрога прыказаў старому бацьку не даваць ёй нічога. Дзед Купрыян бачыў, што пагадзіць іх трудна і ўжо не рабіў з свайго боку ніякіх захадаў пamірыць іх. Хто цяпер паслухае старога? Дзед трос сам сабе галавою і не ўмешваўся ў іх справы, але потайкам і ён перасылаў сяды-тады сёе-тое для ўнучкаў.

Васіль-жа чакаў, што Аўгіня, прыціснутая нястачаю, засмуткуе па куску хлеба і сама прыдзе да яго, паклоніцца яму і будзе ўніжацца перад ім. З таго моманту, як у яго сэрца запала падазронасць на Аўгіню, што гэта яна папярэдзіла старую Талашыху, выдала ёй патаемную змову яго з Саўкам Мільгуном, ён зацяўся на яе і чакаў толькі, каб яна вярнулася — не для таго, каб жыць разам, а для таго, каб пагаварыць з ёю, як следуе, а потым прагнаць яе раз назаўсёды. Войт ужо прыглядаўся, каб узяць сабе другую жонку. Ён яшчэ не стары. Хай толькі акажацца, — за яго пойдзе любая. Яго становішча, як войта і прыхільніка польскай акупацыі, умацоўвалася: белапалякі націскалі, а фронт чырвонага войска падаваўся назад. Палякі занялі ўжо к гэтаму часу Мазыр і Рэчыцу. Правае крыло іх войска шпарка пасоўвалася на Украіне і пагражала ўжо Кіеву. Партызанскі рух, здавалася, заціхаў. Сюды падагналі палякі войска. Яго заклятыя ворагі, Талаш і Мартын Рыль, напэўна, пайшлі разам з чырвонымі і сюды наўрад ці вернуцца, а калі і вернуцца, то Васілю цяпер яны не так і страшны.

Вось якія думкі хадзілі ў войтавай галаве.

Чырвоны кружок сонца ўрэзаўся ўжо ў верхавіны лесу і смутнаю ўсмешкаю развітання рассыпаў агністыя косы ў глыбіні неба, пакідаючы там ружовыя дарожкі, па паверхні зямлі, дзе яшчэ не злёг і не насунуўся цень ад лесу, па стрэхах будынкаў, па верхавінах кучаравых дрэваў і па знямелых у вячэрняй цішыні вепраўскіх ветраках.

Ад балота патыхала прохаладдзю і сырасцю, і дзесь далёка-далёка вохкала зямля, і боязна ўздрыгвалі балоты ад глухіх гарматных выстралаў. Гэта бухканне гармат напаміна Аўгіні аб вайне, і яна адчувала няясны смутак і страх перад невядомаю будучыняю. Адступленне Чырвонай Арміі адбівалася на ёй, як водгалас нейкіх утрачаных надзей, як напамінак аб тым, што і яе асабістае становішча ў сувязі з гэтым пагаршаецца. Але звароту назад ёй не было, і адкрытымі вачыма ёй трэба глядзець у твар гэтай будучыні.

Аўгіня прыпынілася. Скрозь галіны дрэў ужо прасвечвалася вепраўскае поле, і самі Вепры выступалі даволі ясна з лёгкага вячэрняга суцення. Яна ўжо хацела рушыць далей, але асцярожнае, глухое шорханне галін і лёгкі хруст гнілога ламачча пад чыімісь нагамі ў гушчары хмызу змусілі яе азірнуцца ў той бок. Яна павярнула туды галаву і задрыжала: з ляснога змроку выступіў цёмны высокі сілуэт чалавечай постаці. Постаць гэта таксама запынілася. Аўгіня хацела ўжо кінуцца ўцякаць, каб выскачыць на поле, яно тут зусім блізка, і там, здавалася ёй, не так страшна, бо бліжэй да вёскі.

— Аўгіня? — пазваў яе прыязны, нізкі, ціхі голас, і штось блізкае, даўно знаёмае пачулася ёй у гэтым голасе. Яна апусціла на зямлю мяшок і дапытлівымі, яшчэ ўсё-ж захаваўшымі сваю прывабнасць, вачыма зірнула на высокага чалавека і пазнала яго.

— Мартын! — вырвалася ў яе.

— Я, я! — ціха азваўся ён і падышоў усутыч. Аўгіня боязна азірнулася навокал. Каго баялася яна ў гэты момант, яна не ведала і сама. Можа гэта была несвядомая боязнь, навеяная Васілём, а можа гэта проста была звычайная засцярожлівасць маладой жанчыны. Мартын таксама азірнуўся, але страх яго быў іншага парадку. Ён доўга трымаў Аўгініну жорсткую ад работы і цвёрдую руку і пазіраў ёй у вочы.

— Здарова, Аўгінька! Як-жа даўно не бачыў я цябе, а думаў аб табе шмат усе гэтыя дні.

— Не варта я таго, каб думаць аба мне, — адказала Аўгіня. Яна проста хацела выпрабаваць і праверыць пе-

рад самой сабою, ці варта яна таго, каб аб ёй думаў Мартын...

— А я от думаў і... буду думаць.

Аўгіня ўтупіла вочы. Ёй прыемна, што Мартын думае пра яе і будзе думаць.

— А што думаў ты пра мяне, добрае ці благое?

— Ды гэта і расказаць трудна. Шмат чаго думаў. Думаў, як-бы пабачыцца з табою, пагутарыць... паглядзець на цябе... і даўнейшае так от на думкі ўсплыве.

Гэта «даўнейшае» Мартын гаворыць з асаблівым націскам і яшчэ бліжэй горнецца да Аўгіні. Ёй трохі няёмка і сорамна, і яна чутачку падаецца ад яго. А Мартын гаворыць далей, як-бы нічога не зважаючы.

— Не, не, ды і ўспомніцца, як мы з табою на чаўнах гналіся. Даўно ўжо гэта было, а вось не забываецца. І ведаеш — ты і тая качка, што схапіў сом, злучаюцца неяк у маёй галаве, робяцца адною толькі Аўгіняю, а сом абарачваецца ў Васіля.

— І гэты сом, — горка пасміхнулася Аўгіня, — узяў цяпер і выкінуў з свайго прожара гэту качку.

— Лепей было-б, каб ён падавіўся ёю адразу. Але тут, калі гаварыць праўду, не так быў вінаваты сом, як сама качка.

Аўгіня апусціла галаву. Гутарка іх абарвалася.

— А стралец, што падбіў качку, не быў вінаваты? — ціха пытае Аўгіня і кажа. — Але гаварыць аб гэтым цяпер па часе. Пэўна-ж, я сама вінавата: на багацце пагалілася. А гэта багацце мне вылезла бокам і атруціла мне жыццё. Радасць не ў дастатку, і шчасце не ў багацці. Я была чужая для яго, а ён быў чужы для мяне. Аб адным я шкадую, мне трэба было самой кінуць яго, а не чакаць пакуль ён мяне выжане.

— А чаму-ж ты не зрабіла гэта?

— З-за дзяцей, Мартын. Чым-жа дзеці вінаваты?

— Значыць, калі-б ён не выгнаў цябе, дык ты дагэтуль жыла-б там?

— Не ведаю... напэўна-б кінула, бо я думала аб гэтым і толькі чакала зручнай часіны: жыццё для мяне было там не такое салодкае, як ты думаеш. І ты ведаеш чаму... павінен ведаць.

— Не, я гэтага не ведаю, — суха адказаў Мартын.

Аўгіня маўчала. На яе твары адбівалася крыўда і засмучэнне. Мартыну стала шкада яе.

— А чаму табе нясоладка жылося? Ты-ж знайшла тое, чаго шукала. І што я павінен ведаць?

Аўгіня з дакорам паглядзела Мартыну ў вочы. Няўжо ён нічога не разумее?

— Я адна, Мартын, адна вінавата, і я адна павінна несці кару.

— Чым-жа ты вінавата?

— Тым, што пайшла за яго замуж, любячы не яго самога, а яго дабро.

Аўгіня прымоўкла і ціха дадала.

— І пайшла не дзяўчынаю. Ты-ж гэта павінен ведаць.

Цяпер і Мартын сарамяжліва апусціў вочы. А потым абурыўся на Васіля.

— Сволач ён! Панскі падліза! Даносчык! Шпіён! Гэта ён удаў мяне польскай паліцыі. Праз яго цягалі мяне па астрогах, спалілі маю хату. І не адну маю, і не аднаго мяне цягалі. Ах ты, сабачая морда! Смярдзюх! Пачакай-жа ты, панскі выжал! Я яшчэ не такую свінню падлажу табе!

Выліўшы сваю злосць на Васіля, Мартын крыху заспакоіўся.

— Раскажы, як ён выгнаў цябе.

Яны сядзелі на мяшку травы. У лесе ўжо цямнела. На вясеннім чыстым небе скрозь проразі верхавін мігалі далёкія халодныя зоры.

— Ты не гневайся на мяне, Аўгінька! — ласкава сказаў Мартын і палажыў руку на яе плячо. — Я можа жорстка гавару з табою, і не так хацеў я гаварыць. Я многа думаў пра цябе. Ты не выходзіш з маёй галавы. І пэўна-ж ніхто так не любіў цябе, як я. Я і цяпер люблю цябе, — сказаў ён зусім ціха і прытуліў яе.

— Не трэба гэтага, Мартын! — устрывожана сказала Аўгіня. І ўсім целам адхіснулася ад яго, каб вызваліцца з яго рук.

— Чаму? — запытаў Мартын. — Я-ж люблю цябе.

— А што скажа Ева?

Напамінак аб Еве расхаладзіў Мартына. Ён разняў

рукі і нават чутачку падаўся ў бок ад Аўгіні. Ева была добрая, ціхая жанчына, і ён шкадаваў яе.

— Давай лепей так пагутарым. Я-ж даўно не бачыла цябе і думала аб табе, быць можа болей, як ты аба мне. Я таксама люблю цябе, але не так, як ты думаеш.

— Ну, як?

— А проста люблю, як брата. Я-ж адна, Мартын, зусім адна. Матка мая, хоць і не гаворыць мне, хацела-б, каб я вярнулася да Васіля. А я не хачу і не вярнуся ўжо да яго ніколі. Буду жыць адна з дзецьмі. І каго я люблю яшчэ — Алесю. Яна-ж твая дачка, Мартын. Васіль зненавідзеў яе, як чужое дзіця. Яна адчувала гэта і дрыжала перад ім. У яе два бацькі, а яна не ведае бацькавай ласкі. А якая яна ціхая і добрая! Калі ён выганяў нас — забірай, кажа, свайго байструка і марш з мае хаты — і схапіў мяне за руку, каб выпхнуць за дзверы, яна стала паміж ім і мной, каб абараніць мяне ад яго злосці. Ён так штурхануў мяне і яе разам са мной, што мы паляцелі ў дзверы, і яна моцна стукнулася галоўкай аб касяк, але не заплакала, а толькі ручкаю схапілася за галоўку, сказаўшы мне ціхенька: «Нашто ты, мама, сварылася з ім?»

— З чаго-ж у вас пачалося? За што ён цябе выгнаў?

— Ну, як табе сказаць? Ладу ў нас не было ніколі. Ён часта папікаў мяне табою, але я цярпела, або абарачала ўсё ў жарты, і яго старалася ўлагодзіць, абы ціха было ў хаце.

Пачалося-ж усё з прыходам сюды палякаў. Ён хадзіў да гэтага самага пана Крулеўскага. Там яго паставілі за войта. Ён прыходзіць і хваліцца мне. А я ў тойжа дзень хадзіла сюды, у Вепры, і дачулася, што гэта ён выдаў цябе польскай паліцыі. Зненавідзела я за гэта яго і кажу яму: «Адступіся ты ад свайго войтаўства. Трэба з людзьмі жыць і ладзіць, а не з панамі, бо твае паны, кажу, у паветры целяпаюцца». — «З якімі, кажа, людзьмі? З Талашом? з Мартынам Рылем?» — убачыў ён, што я не ў адну дудку з ім іграю. Ну, і пайшло. Далей, болей. Хадзіла я потайкам да бабкі Талашыхі. Мне-ж хацелася ад яе і пра цябе пачуць. Яна прагаварылася, што ты начаваў з дзедам Талашом у іх, а потым схамянулася, спалохалася, што расказала мне, вой-

тавай жонцы, пра дзеда і пра цябе. Я заспакоіла яе. Потым кудзелю прыносіла ёй прасці. Цяжка мне стала, Мартын, жыць з чалавекам, які пачаў займацца непадобнымі справамі, тапіць людзей, наводзіць паліцыю. Навошта гэта? Да чаго? З-за таго, каб сабе толькі жыць, а другім не даваць ходу? Ды няхай яно прахам пойдзе, такое жыццё! Нават дзіця, малая Алеся, не спачувае гэтаму. Пытала мяне пра палякаў, хто яны, чаго хочуць. Раз ён падпільнаваў мяне, як выходзіла я з Талашовай хаты. Вось ён убягае ў хату, як толькі вярнулася я, і давай дапытвацца, чаго я туды хадзіла.

Аўгіня падрабязна расказала, як вышла і чым кончылася сварка.

— А ці ведала ты, — запытаў Мартын, — пра яго змову з Саўкам Мільгуном?

— Ведала. Выпадкам даведалася. Яны хаваліся ад мяне, таіліся. Але я падгледзела, як яны частавалі Саўку, а потым Кандрат Бірка прагаварыўся. «Я, кажа, ваяваць сам не пайду, а за нас пойдзе ваяваць Саўка», і расказаў мне ўсё. А я папярэдзіла бабку Насту.

— А ты, Аўгіня, вялікую паслугу зрабіла нам.

— А скажы, Мартын, што будзе з гэтаю вайною? Няўжо так і застануцца тут палякі? І няўжо-ж вы будзеце ўвесь час туляцца па лясах. Не будзе-ж тады жыцця ні вам, ні мне.

— Пачакай трохі, Аўгінька, пацярпі: пакоцяцца палякі адгэтуль, толькі стрыбалкі бурчаць будуць ды пяты іх блішчаць.

— А куды ты ідзеш, Мартын?

— Хачу дамоў забегчы, паглядзець, як яны жывуць.

— Не хадзі, Мартын: у вёсцы салдаты польскія.

— А чорт іх бяры! Ты правядзеш мяне. Я вазьму твой мяшок, і мы сабе пойдзем, памаленьку, як хадзілі калісь з Прыпяці.

— Я баюся за цябе, Мартын!

— А ты не бойся, Аўгінька. Мы пойдзем памаленьку, разглядаючыся.

Мартын узяў мяшок, прыкрыў ім свой неразлучны карабін і ў шэраватым вячэрнім змроку рушылі ў Вепры.

На развітанні Мартын сказаў Аўгіні:

— Ты-ж глядзі Алесі. Пабагацею, дапамагу і ёй і табе.

— Ну, бывай-жа здаровы, Мартын! Ды асцерагайся, каб не злавілі.

Яна хацела ўжо ісці, але Мартын затрымаў яе руку.

— Аўгінька, можа я болей і не пабачу цябе. Развітаемся шчырэй!

Прыблізіў яе твар да свайго твару, цалаваў яе.

Аўгіня ішла і думала, ці можа яна смела глядзець цяпер у вочы Мартынавай Еве.

## XXXIV

Некаторы час на партызанскім фронце было зацішша. Аб партызанскіх выступленнях не было ніякіх чутак. Самі палякі і іх прыхільнікі: фальваркоўцы, розныя арандатары і заможнае сялянства радаваліся і цешыліся, што партызаншчына ў сувязі з пераможным белапольскім наступам скончылася, што польская ўлада зліквідавала яе. Але раз уначы, у другой палавіне красавіка, у разгар белапольскага наступу і трыумфавання паноў, раптам начное цёмнае неба афарбавалася чырвоным грозным бляскам. Крывавая чырвань агністымі снапамі раскідалася па небе. Крывава-агністыя снапы і нерухомыя бледнаружовыя слупы свідравалі начную цемру, зацятую ў сваёй занямелай цішыні, разрывалі і злавесна асвятлялі яе грозным сваім бляскам.

Было штось страшнае ў гэтых пераліваx чырвані і ў яе фантастычным палыханні ў глыбінях агорнутага мроkам неба. Ноч разам пасвятлела, мрок рассунуўся, стала светла, як на досвіце перад усходам сонца. З парадзелай цемры выступалі няясныя абрысы лясоў, раскінутых на далёкім небасхіле, будынкі з панурымі спушчанымі к долу стрэхамі і высокія постаці адзінокіх дрэваў каля будынкаў. Устрывожаныя гэтым незвычайным з'явішчам сабакі заліваліся неспакойным брэхам і жудасна вылі, як-бы прадчуваючы нейкую бяду і няшчасце.

Людзі прачыналіся, пазіралі ў вокны і, уражаныя чырванавата-ружовым колерам, разлітым па дварах і па стрэхах будынкаў, выбягалі на двор і ў страху глядзелі

на гэта грознае палыханне пажару і недаўменна пыталі саміх сябе: што гэта гарыць? Ды стараліся адгадаць, дзе гуляе страшны бляск пажару, хто гарыць і з якой прычыны, і трывожнае пачуццё непакою і страху западала ў іх сэрца. А там, дзе людзі жылі ў блізкім суседстве з пажарам, дзе выразна чуўся шум агнявога патоку і ясна віднеўся ўзлёт к небу языкоў полымя і цэлай мяцеліцы іскраў у хвастах чорнага і сівага дыму, там было яшчэ страшней і жудасней. І людзі там не гадалі, дзе гарыць і што, а проста казалі: гарыць маёнтак такога-та пана.

Ціха спачывае ў глыбокім сне маёнтак пана Длугошыца, той самы маёнтак, дзе зімою было так шумна і весела, дзе грымела ваенная музыка і весялілася шляхта разам з шыкарным афіцэрствам. Старасвецкі панскі палац, старое гняздо радавітай польскай фаміліі, утуліўшы ў полаг цемры сваю вежу, панура вырысоўваецца на фоне цёмнага неба. Стайні, стадолы, свірны і клуні зліваюцца з мрокам і яшчэ, здаецца, ніжэй туляцца да зямлі.

Ціха ў маёнтку пана Длугошыца, але ў гэтай цішыні, у цёмных закутках двара туляюцца невядомыя прышлыя людзі са стрэльбамі і гранатамі. Ціха, без шуму, шчыльна трымаючыся будынкаў, робяць яны патаемную работу. Там і сям успыхваюць маленькія агеньчыкі. Чуецца ўмоўлены свіст. Свіст паўтараецца ў розных канцах двара. Невядомыя прышлыя людзі выходзяць з двара і полем накіроўваюцца ў лес. У маёнтку ў розных мясцінах выбухаюць агні, падымаюцца ўгору, шугаюць з большаю і большаю сілаю, асвятляюць двор, сад і крывавым водблескам кладуцца на мураваныя сцены высокага палаца. Невялікая група цёмных сілуэтаў шпарка падаецца ў лес. Хаваўшы іх полаг цемры расступаецца ўсё болей і болей, і хутка ўсё поле, залітае бляскам пажару, вынырае з мроку і паказвае групу людзей — чалавек сем. Яны ўжо каля самага лесу, а калі ўвайшлі ў лес, прыпыніліся і паглядзелі на маёнтак пана Длугошыца. Бушуе агонь, кідае цэлыя патокі полымя высока ў паветра.

— Ну, хлопцы, работа зроблена на заказ! — гаворыць адзін і смяецца. На яго выскаленых зубах, на твары і ў вачах адбіваюцца водбліскі пажару, робяць яго страшным і бязлітасным.

— Пойдзем! — адзываецца другі.

— Ідзіце, хлопцы, не чакайце мяне, — гаворыць першы, — а я пастаю тут трохі, пацешуся.

Шэсць чалавек ныраюць у лес і зараз-жа знікаюць з вачэй, а ён, спец па часці падпалаў, Цімох Будзік, астаецца адзін, туліцца на ўскрайку лесу і глядзіць, як бушуе агонь. Але гэта пазіцыя яго не задавольвае. Ён аглядаецца, выбірае лепшы пункт для назірання пажару. Яго вочы запыняюцца на пышнай фігуры магутнага дуба. Ідзе к дубу, закідае ямчэй за плечы стрэльбу і лезе на дуб. Залез да палавіны волата-дуба. Становіцца на тоўсты развілісты сук, спіною ўпіраецца ў шурпаты ствол дуба. Вось гэта пазіцыя!

Як высокае залатое жыта пад ветрам, хістаецца полымя, то сцелючыся над долам агнявымі пасмамі, то яркімі стужкамі ўзвіваючыся ўгору, выкідаючы агромністыя слупы бліскучага знізу і цёмнага ўверсе дыму. Цімох не зводзіць вачэй з гэтага дзікага шалу агню, пажыраўшага будынкі і знішчаўшага здабыткі людской працы. Буйства пажару знаходзіла жывое водгулле ў Цімохавай душы, пазнаваўшай цяпер вышэйшы экстаз радасці з поваду разбурэння гэтага змяінага гнязда яго адвечных класавых ворагаў. У меру таго, як шугала полымя, абвіваючы і ліжучы сваімі пякучымі языкамі суседнія дрэвы і будынкі, вырываючы са стрэх і выкідаючы высока ў неба агромныя жмуты струхлелай саломы і мільёны іскраў, расло і Цімохава захапленне. З яго твару, афарбаванага баграю агнёў, не сходзіць усмешка, зларадная, помслівая ўсмешка чалавека, стаўшага вышэй гэтых людскіх законаў. Але па яго твары прабягае часамі і заклапочанасць і зніжае паўнату яго трыумфу. Цімох трывожна пераводзіць вочы на панскі горды палац. Заліты бляскам пажару, ён робіць уражанне, нібы ён у агні, але вецер адхіляе полымя ў другі бок, і палац застаецца някранутым агнём, стаіць, высока ўзнёсшы сваю вежу, і пазірае грозна і зняважліва на гэты шалёны вір агню. Няўжо Цімох схібіў, даў маху ў падпале гэтага ненавіснага панскага ідала? Цімох углядаецца, пазірае пільней, на момант як-бы замірае. З яго твару сходзіць турботная заклапочанасць, праблескі дзікай радасці праменяцца ў яго цёмных бліскучых вачах: з высокай

вежы палаца, як з гіганцкага коміна, паплыў борзда ўгору белаваты дым, штораз гусцейшы і болей цёмны. Успыхнулі агеньчыкі ў вокнах палаца. Агні залатымі расцёкамі пабеглі, паплылі, як жвавыя бліскучыя струменьчыкі ўгору. Бухнула ў вокны густое і напорыстае полымя. Не, Цімох не схібіў! Цімох зрабіў сваю справу, аб якой так многа думаў у розныя моманты свайго бядацкага жыцця. Цімох гатоў быў танцаваць, крычаць ад радасці, каб цалкам аддацца ахваціўшаму яго вар'яцкаму экстазу. Сярод шуму і гуду пажару, трэску і грукату падаўшых перагарэлых бэлек і сцен чуліся распачлівыя, надрыўныя крыкі людзей. Усё гэта злівалася ў грозную і жудасную сімфонію разбурэння. Цімох, як нейкі чарадзей, стаяў на дубе і поўным кубкам чэрпаў асалоду свайго трыумфу.

І раптам яго чуткае вуха ўлавіла тупат конскіх капытоў. Зірнуў Цімох у той бок — дарогаю і полем ад пылаўшага ў агні маёнтка пана Длугошыца імчаліся на конях польскія уланы. Даскакаўшы да лесу, яны веерам рассыпаліся па яго ўскрайку па адзін і па другі бок дарогі. Група коннікаў, чалавек дванаццаць, ехала асобна, шчыльна збітаю кучкаю. Гэта былі пераважна афіцэры. Група накіравалася ў той бок, дзе сядзеў на дубе Цімох Будзік.

«Напэўна будуць ачэпліваць лес, каб злавіць падпальшчыкаў, — сам сабе падумаў Цімох: — А што калі-б паслаць ім з дуба гасцінца?» — Не разважаючы многа, дастаў Цімох з-за пояса гранату, заняў зручную позу, каб кінуць яе, улучыўшы адпаведную хвіліну. Трымаючыся адною рукою за сук, размахнуўся Цімох, высока ўскінуў гранату насустрач пад'язджаўшым коннікам і ў заміранні сэрца чакае, схаваўшыся за шырокія плечы волата-дуба. «Раз... два... тры» — лічыць Цімох і раптам здрыгаецца: грымнуў выбух. Здрыгануў волат-дуб. Са звонам і спевам паляцелі асколкі гранаты. Рвануліся спуджаныя коні, наскочылі адны на другіх. Адзін пахіснуўся і недалужна грымнуўся на зямлю разам з коннікам. Як ашалелыя, паімчаліся коні, адны без коннікаў, другія валочачы іх па полі галовамі ўніз. Цяпер толькі апамятаўся Цімох і адчуў усю безразважнасць свайго ўчынку. А можа гэта яму дапамагло. У часе сумятні і

перапалоху ён шугнуў наніз, кінуўся ў лес і пабег у гушчар, чапляючыся стрэльбаю за сукі і галіны.

Васіль Бусыга і яго прыяцелі, не паспеўшы належным чынам нагаравацца з прычыны налучыўшай іх бяды, а налучыла яна іх толькі мінулаю ноччу, і прыняць адпаведныя захады, каб знайсці невядома кім выведзеную з хлявоў скаціну, таксама пазіралі на бляскі пажараў і панура хілілі галовы. У гэтых бляскак чыталі яны засцярогу сабе і свой уласны прысуд. Гэта была грозная і страшная ноч, навёўшая паніку на паноў і ўстрывожыўшая польскія ваенныя штабы. Яна паказала, што партызанскі рух пусціў глыбокія карэнні ў народзе акупаваных зямель, што ён вядзецца ўпарта, шырока, арганізавана і жорстка. Шмат якія вайсковыя часці польскага войска, прызначаныя на падмацаванне фронта, былі затрыманы. З партызанствам прыходзілася лічыцца і лічыцца сур'ёзна.

Вайна-ж, у якой бралі ўдзел рэгулярныя арміі двух бакоў, не спынялася. Палякі развівалі свой поспех на Кіеўскім кірунку, захватваючы сваім цэнтрам і частку Палесся на лініі Рэчыца — Мазыр. Слабая насычанасць нашага фронта жывою сілаю, нястача належнага ўзбраення давалі магчымасць белапалякам шпарка прасоўвацца наперад, адціскаючы малалікія часці Чырвонай Арміі. Каб аслабіць польскі ўдар у кірунку на Кіеў, часці Чырвонай Арміі, займаўшыя раён Палесся, перайшлі ў контрнаступ супроць цэнтра польскага фронта. У склад гэтай арміі ўваходзіў і батальён таварыша Шалёхіна. Дзед Талаш з сваімі партызанамі падтрымліваў сувязь з гэтым батальёнам. Але з наступам белапалякаў і з адходам Чырвонай Арміі сувязь абарвалася. Дзед Талаш з сваімі партызанамі апынуўся ўжо ў глыбокім тыле польскага фронта і вёў свае баявыя аперацыі самастойна або па ўказанню прадстаўнікоў падпольных комуністычных арганізацый. Цяпер яго войска ўжо налічвала каля двух соцень байцоў, узброеных ваеннымі стрэльбамі і меўшых некалькі кулямётаў. Правей у гэтым-жа раёне праяўляла сваю баявую чыннасць і група партызан Маркі Балука, налічваўшая ў сваіх радах добрую сотню байцоў.

Палеская, або Мазырская група Чырвонай Арміі, як значылася яна афіцыяльна, абрала ўчастак контрудара на

ліній Крыўцы — Высокае, куды падцягнула войска і гарматы. У дваццатых чыслах красавіка, раніцаю на світанні, гулка загрукацелі чырвоныя батарэі, сканцэнтраваўшы агонь на польскіх пазіцыях. Некалькі гадзін грымелі нашы гарматы, і водгулле іх грому далёка расплывалася па нетрах лясоў і балот Палесся. Дакочвалася і па той бок Прыпяці да акупаванай часткі Палесся, разносячы весці аб наступе Чырвонай Арміі. Пасля кароткай, але напружанай артылерыйскай падгатоўкі імклівым патокам рынуліся ў атаку пяхотныя часці чырвоных байцоў. Загараўся ўпарты сустрэчны бой. Палякі намагаліся з усіх сіл, каб адбіць атаку і ўтрымаць свае пазіцыі. Баявыя ланцугі іх, як хвалі, ішлі адны за другімі, але скошваліся гарматным і кулямётным агнём. Сілы іх надарваліся, упартасць іх была зламана. Яны захісталіся, падаліся і пакаціліся назад, пакідаючы зброю, забітых, раненых і здаючыся ў палон. Ім не давалі апамятавацца і гналі іх к Прыпяці. Задача першай стадыі контрманеўра ўдарнай групы Чырвонай Арміі заключалася ў тым, каб кароткім ударам адкінуць палякаў за Прыпяць, на іх плячах перайсці яе, забяспечыўшы пераправу і тэрыторыю на заходнім беразе Прыпяці для разгортвання сваіх сіл у мэтах далейшага наступу. Разгромленыя, змятыя часці польскага войска ўжо не думалі, каб запыніць напор насядаўшых палкоў Чырвонай Арміі — яны думалі толькі аб тым, каб вырвацца з сціскаўшых іх кляшчоў і шчасліва адступіць за Прыпяць.

Весць аб наступе Чырвонай Арміі даляцела і да партызан. У той-жа час іх начальнікі экстрана абмеркавалі важнае пытанне аб дапамозе Чырвонай Арміі і аб поўным разгроме адступаўшых белапалякаў. Дзед Талаш з сваім войскам спешным маршам рушыў на Прыпяць, каб заняць пераправу і пашкодзіць палякам замацавацца на яе правым беразе. Балуку было даручана вартаваць камунікацыі польскага тылу і ўсімі мерамі затрымліваць польскія рэзервы з тылу, каб не даць ім своечасова прыбыць на выручку сваіх. Пад вечар дзед Талаш на чале паўтары сотні партызан ужо быў у раёне Высокай Рудні, дзе меркавалася пераправа палякаў праз Прыпяць, і заняў флангавую пазіцыю на высокім правым беразе Прыпяці. Гэта пазіцыя загароджвала палякам шлях адступ-

лення па адзіна зручнай у гэтым раёне дарозе на Ставок — Карначы. Авангард іх ужо вышаў на правы бераг, кілометра ў паўтара ад таго месца, дзе занялі пазіцыю партызаны. Перапраўляліся яны і па пантонах і цераз мост. З таго берагу грымелі нашы гарматы. Снарады падалі ў Прыпяць па адзін і па другі бок пераправы, уздымаючы высокія махрыстыя фантаны, залятаналі на гэты бераг і наводзілі паніку сярод адступаўшых. Палякі густою калонаю перліся па мастах і пантонах, цісналіся, зрываліся і кідаліся ў глыбокія воды Прыпяці. Пераправіўшы некалькі гармат, яны спешна вывозілі іх на пазіцыю, на той высокі бераг, дзе залеглі партызаны. Падпусціўшы іх на блізкую адлегласць, дзед Талаш падаў каманду, прычым ад хвалявання ён забыўся, як падаецца ваенная каманда, а крыкнуў проста:

— Лупі іх, хлопцы.

Грымнуў траскучы дружны залп, зататакаў кулямёт, адзін і другі. Не чакалі палякі з гэтага боку ворага і не ведалі, хто ён. Кінуліся назад, пакінуўшы гарматы, беглі, падалі і не падымаліся. Кінуліся партызаны да гарматы, захапілі яе разам з двуколкамі і з усёю запрэжкаю. Знайшліся старыя салдаты-артылерысты. Гармату павярнулі жаралом у бок палякаў і пачалі біць у іх з блізкай дыстанцыі простаю наводкаю. Палякі пакідалі зброю, гарматы і бязладным натоўпам, не слухаючы сваіх камандзіраў, беглі ў лес, хто куды. Як ваенная арганізаваная сіла, гэта часць польскага войска перастала існаваць.

Неспадзяваны контрудар Чырвонай Арміі, нанесены з такою сілаю, грукатам грому разнёсся па польскім тыле і ўстрывожыў польскі ваенны штаб. Але вышэйшае польскае камандаванне, трэба аддаць яму справядлівасць, не згубіла галавы. Тэрмінова і рашуча арганізавала ліквідацыю прарыву свайго фронта, кінуўшы ўсё, што можна было кінуць з тылавых рэзерваў і з часцей, прызначаных на іншыя ўчасткі фронта. Ужо на другі дзень часці Чырвонай Арміі сустрэлі жорсткае і ўпартае супраціўленне палякаў. Польскія падмацаванні ішлі з усіх бакоў, беручы ў кляшчы ў сваю чаргу нашы наступаўшыя часці. Гарачы, напружаны бой кіпеў у лясах, перасечаных балотамі, у ваколіцах і на вуліцах вёсак. Часці Чырвонай



Арміі, у некалькі разоў уступаўшыя ў сіле праціўніку, змушаны былі запыніцца і падацца назад. Прычым сувязь між асобнымі вайсковымі злучэннямі страцілася. Некаторыя часці, батальёны, роты біліся самастойна, без агульнага аперацыйнага кіраўніцтва. І асабліва ў цяжкое становішча папаў батальён Шалёхіна, узяты палякамі ў вілы між Прыпяццю і прымыкаўшым да яе возерам з дрыгвяністымі берагамі. Змучаны безупыннымі баямі і паходамі на працягу некалькіх дзён, не маючы ні правіянта, ні патронаў, батальён стойка біўся да апошняга патрона, адбіваючы атакі ворага штыхамі.

Была глыбокая ноч. Скрозь галіны дрэваў скупа прабіваўся тужлівы бляск месяца. Стомленыя байцы, акапаўшыся на выспе, з трывогаю чакалі недалёкай раніцы заўтрашняга дня. Большая частка іх спала, скурчыўшыся каля камлёў, палажыўшы галаву на карані. Пад разложыстым дубам прытуліўся камандны склад батальёна: Шалёхін, тры ротныя камандзіры і начальнік кулямётнай каманды. Змучаныя, стомленыя і атупелыя, яны панура маўчаць, зрэдку перакідаюцца кароткімі фразамі.

— Справа — швах! — гаворыць начальнік кулямётнай каманды.

— Ты-б сказаў што-небудзь новае, — панура заўважае адзін з ротных камандзіраў.

— Мая думка — спрабаваць прабіцца, — кажа другі.

— Калі-б для гэтага зброяй служыў кулак, то можа і прабіліся-б, — адзываецца камандзір другой роты.

— Куды прабівацца? — пытае кулямётчык.

— Дык што-ж па-твойму? Здавацца ў палон? — сярдзіта асаджвае яго Шалёхін.

Ён дзелавіта чухае патыліцу і крэпка лаецца, ні да кога не адрасуючы сваіх крэпкіх слоў.

Камандзір першай роты не дарэчы і не да месца ціха спявае старую песню, колісь модную ў царскіх казармах:

«Бывалі дні вясёлыя,
Гуляў я, маладзец».

— І дагуляўся, — іранічна заўважае кулямётчык.

Шалёхін думае і прыдумаць нічога не можа. Ён нервова кусае губы. У такім паганым мяшку не быў ён ніколі. Яму прыкра, прыкра перад усім батальёнам, перад

радавымі байцамі, даручыўшымі яму свой ваяцкі гонар і славу.

— Хоць-бы закурыць, чэрці-б яго пабралі,— чуецца чыйсь голас, а потым і адказ на яго:

— Дажыліся палякі, што ні хлеба, ні табакі.

Маўклівая цішыня змяняе іх гутарку. Стомлены Шалёхін не спіць. Не спяць камандзіры. Упадніцкія думкі западаюць у сэрца, але ніхто аб іх не гаворыць: не да твару яны байцу. Астаецца дзесь у глыбінях свядомасці і месца для надзеі: а ну-ж, выхад знойдзецца.

Шалёхін раптам падымае галаву: пачулася яму, ці гэта проста галюцынацыя слуху? Ён кладзе руку на наган, прыслухоўваецца. Чыесь асцярожныя крокі, нібы хтось крадзецца. Падымае галаву і камандзір першай роты, высокі, сухі, з глыбока запаўшымі вачыма. Яны ўзіраюцца ў цемру ночы, яшчэ болей густую пад навіссю галін. Прысадзістая цёмная постаць чалавека выплывае з цемры.

— Таварыш Шалёхін! — ціха аклікае цёмная постаць.

Камбат прыпадымаецца.

— Хто мяне кліча?

— Я, Талаш! — адказвае цёмная прысадзістая постаць.

Шалёхін парывіста ўстае, кідаецца да дзеда Талаша.

— Бацька, гэта вы!

І крэпка трасе старому руку.

— Не журыцеся, таварышы: я выратую вас!

— Ды ты будзеш наш большэвіцкі ангел! — чуецца чыйся радасна-жартлівы голас.

— Склікайце-ж начальнікаў, збірайце байцоў і ў паход!

— У які паход?

— Цсс! — сунімае дзед Талаш громкі голас кулямётчыка, — за мною, на Прыпяць: мой флот і мае матросы чакаюць вас, таварышы, — урачыста-жартліва гаворыць стары атаман.

Мінута — батальён на нагах. Бясшумна цянюць на Прыпяць. Без канца доўгая фаланга чаўноў і лодак упіраецца ў бераг вострымі насамі. Пагрузілі на лодкі ўсе кулямёты. Паселі байцы. Суровыя і маўклівыя перавозчыкі са стрэльбамі і гранатамі адчальваюць ціха, без

шуму, плывуць некаторы час удоўж берага між высокіх маладых чаротаў, а потым вернуць упоперак Прыпяці і шчасліва прыстаюць на яе другі бераг.

## XXXV

Аднавілася, ажыла зямля.

Многагалосы, рознастайны паток жыцця залівае кожны шматок яе, поўніць лясы, поле, балоты і несціханым звонам калыша чуллівае празрыстае паветра. Адзеліся дрэвы ў новую зялёную вопратку, і такую паважную, поўную свайго мудрага сэнсу гутарку вядзе дрэва з дрэвам, лісток з лістком, а пад дрэвамі — былінка з былінкаю, а ў гэтых дрэвах, лістах і былінках пераклікаюцца птушкі, кузуркі, і іх галасы зліваюцца ў адну сімфонію дзівоснай музыкі жыцця.

Невысокі хударлявы чалавек прыслухоўваецца да многагалосага звону, спеву, музыкі, што ідуць разам з ім дарогаю ўскрай лесу, ідуць усюды, дзе ні ступае нага яго. Уся гэта сімфонія, калі ўслухацца ў яе глыбей і бліжэй прыгледзецца да ўсёй гэтай сугучнасці жыцця, ёсць водгулле прыхованага, а часамі і непрыкрытага зацятага змагання за жыццё. Невысокі хударлявы чалавек, сейбіт буры і змагання, упэўнен у гэтым, бо перад яго вачыма раскрыта праўда жыцця і яго завуаляваныя спружыны. Вось чаму ён так упэўнена і смела ходзіць патаемнымі дарогамі па зямлі акупаванага Палесся і поўнаю жменяю сее насенне буры і нянавісці да класавых ворагаў, глыбока ўзорваючы глебу свядомасці прыгнечаных, загнаных у закуткі жыцця. У яго глыбокая вера ў праўду гэтай сяўбы. Ён бачыць багатыя ўсходы свайго севу, і ад таго яму так весела, і настрой яго ўзняты.

Жыццё яго поўна небяспекі. Кожны дзень, кожная гадзіна тояць у сабе прыхованае падступства і здраду. І шмат было ў таварыша Нявіднага напружаных момантаў, такіх, калі воля і само жыццё яго віселі на танюсенькай павуцінцы. Ён расказаў-бы шмат цікавых здарэнняў з практыкі свайго патаемнага вандроўніцтва і нелегальнага жыцця ў драпежнай пастцы жорсткіх акупантаў. На яго расстаўляюць сеці дасціпныя ама-

тары польскай паліцыі, хітрыя і прабеглыя шпіёны заходнееўрапейскага складу. Але яму дапамагае арганічнае зрастанне з масамі загнанай у закуткі жыцця беднаты. Яна яго любіць, верыць яму, як свайму чалавеку. Яна-ж і бароніць яго, папярэджвае, хавае, вырывае з рук добраахвотных сышчыкаў накшталт Бусыгі, бачыўшых пагібель сваю ў прапагандзе і падпольнай рабоце Нявіднага. Нявідны ведае, што чакае яго, калі зловіць яго панская агентура. Але ён ведае і верыць у праўду новага ладу жыцця, таго ладу, за ідэалы якога змагаецца партыя камуністаў. І гэта дае яму паўнату жыцця, сэнс і апраўданне таго, што ён робіць, ходзячы здрадліваю, вузенькаю тропкаю па краю цёмнага прадоння, рызыкуючы зваліцца туды ў кожную часіну. Усё гэта змушае яго трымаць вуха і вока на варце, хадзіць з аглядкаю. Цікава-ж, нарэшце, пабачыць, як пойдзе у рост далей той засеў змагання і класавай нянавісці, дзе нямала ёсць зернят, кінутых яго рукою. Цікава наогул жыць і біцца за новы лад жыцця і ведаць, як і калі скончыцца гэта змаганне і як будзе будавацца гэта новае, светам нябачанае. Ён прыпамінае партызанскі мітынг на бязлюдным полі каля лесу, дзе ён выпадкам сустрэўся з дзедам Талашом. У яго вачах устаюць каларытныя фігуры старога партызанскага атамана і яго памочніка Марцына Рыля з карабінам і дзервяною трубою. Усё гэта такія з'явы, якія шмат аб чым гавораць і перш за ўсё аб тым, якія глыбокія карэнні пусціла ў працоўных масах партыя комуністаў. Усё гэта цешыць і радуе таварыша Нявіднага і жывіць яго непахісную веру ў перамогу. Ён думае аб пажарах панскіх маёнткаў, як аб водгуллі партызанскай вайны. Гэтыя пажары ў канчатковым падрахунку будуць спрыяць пашырэнню і паглыбленню партызанскага руху. Яго ўпэўненасці ў перамозе новага ладу жыцця не парушае факт адходу Чырвонай Арміі пад напорам польскіх легіёнаў, узброеных на кошт Антанты: гісторыя грамадзянскай вайны, гісторыя шмат якіх інтэрвенцый супроць Краіны Советаў даводзіць яму, што перамога будзе на баку большэвікоў і на гэты раз.

Ідзе Нявідны, разам з ім, побач яго і над ім шуміць многагалосы паток жыцця, гарманічны, сугучны з першага погляду, супярэчлівы і прасякнуты духам змагання,

калі прыгледзецца да яго ўважней і глыбей. Нявідны сам сабе пасміхаецца, ён ведае, хто з'яўляецца прапаведнікам гэтай гарманічнасці жыцця не толькі ў прыродзе, але і ў людскім грамадстве, каму і для чаго патрэбна яна. Нявідны не прызнае такой пропаведзі — ён сейбіт буры і класавай нянавісці ў імя новага чалавека і новага сацыяльнага ладу, бо толькі праз буру змагання будзе звергнуты стары свет і прыдзе новая эпоха. Думкі заводзяць Нявіднага далёка за межы сённешняга дня і закалыхваюць яго спасцярожлівую пільнасць. Ён забывае, што ходзіць над краем бяздоння, што ворагі ўсюды сочаць за ім. Ён цьмяна, як у сне, бачыць на момант чалавечую постаць, але яна зараз-жа знікае з поля яго зроку і з яго свядомасці.

Дарога сціскаецца лесам і спускаецца ў лагчыну, потым ізноў падымаецца на горку. Нявідны ідзе далей. Перад ім раскрываецца круглая паляна, а на паляне відаць сядзіба — хутар ці сярэдняй рукі фальварак. Нявідны хоча звярнуць з дарогі ўбок, каб не быць заметным з боку сядзібы. Аж зірк — на спатканне яму высоўваюцца нейк адразу трое мужчын. Па вопратцы тутэйшыя сяляне. Нявідны крыху сумеўся: у іх абліччы і поглядзе, кінутым на яго занадта ўважна, яму паказалася штось не зусім ладнае. Але зварочваць у лес цяпер ужо было пачасе. Нявідны ідзе насустрач ім, стараючыся нічым не выказваць свайго непакою.

— Панічок, ці няма ў вас агню? — украдліва-пачціва пытае яго адзін з пабітым воспаю тварам. І для большай натуральнасці такога запытання паказвае скручаную з газетнай паперы цыгарку. Усе трое спыняюцца, прычым двое другіх становяцца па баках Нявіднага.

«Шпікі», — маланкаю мільгае ў галаве Нявіднага.

— Агонь павінен быць, — бестурботна-спакойна адказвае ён і абмацвае кішэні, затрымаўшы правую руку на рукаятцы браўнінга. Стаяўшыя па баках пераглянуліся, вачыма далі знаць адзін аднаму.

— Беж его!

І раптам кінуліся на Нявіднага. У момант вока Нявідны выхапіў браўнінг і выстраліў, не цэлячыся, у таго, што быў злева. Сышчык упаў на зямлю. Але гэта была толькі яго хітрасць: куля праляцела міма, прабіўшы яму

адзежу і чуць крануўшы скуру на баку. Другі ў той-жа момант схапіў Нявіднага за руку ніжэй локця і крэпка сціснуў яе. Аспаваты кінуўся наўцёкі. Упаўшы сышчык маланкай падняўся на ногі і схапіў руку Нявіднага з браунінгам і так сціснуў яе, што пальцы разагнуліся, рэвальвер выпаў на зямлю. Між імі пачалася страшная барацьба.

Нявідны вырываўся з усіх сіл, каб вызваліць рукі. Але сышчык трымаў яго моцна і стараўся паваліць.

— А, пшэклёнты большэвік! Ніц не паможэ! — хрыпеў ён. Другі, што падняўся з зямлі, рвануў Нявіднага за ногі, і ён упаў. Цяпер падбег і аспаваты. З лесу выбегла яшчэ двое ў форме вайскоўцаў. Нявіднага таптаді нагамі і білі, але з такім разлікам, каб пакінуць жывым. Збіты і акрываўлены, Нявідны ляжаў нерухліва. Яго перасталі біць,ператрэслі кішэні і тады надзелі яму наручнікі. З сядзібы пад'ехала фурманка. Нявіднага кінулі ў павозку і павезлі пад канвоем трох польскіх агентаў.

Толькі ў дарозе, спусціўшы некаторы час, Нявідны ачнуўся і прышоў да памяці, але ён не паказваў гэтага сядзеўшым каля яго агентам. Відаць, яны мала клапаціліся за жыццё свае ахвяры: яны былі спецыялісты па часці біцця да пэўнай мяжы, з тым, каб захаваць сваю ахвяру для допыту ў засценні польскіх астрогаў. З трыумфам ехалі яны і пільна вартавалі сваю ахвяру. Нявідны, перамагаючы боль збітага цела, прыпамінаў, што з дакументаў папала ў рукі яго катаў. Такіх дакументаў, якія маглі-б пацягнуць за сабою арышты другіх асоб, Нявідны не меў звычаю насіць пры сабе. Пры ім было некалькі брашур ваеннага агітпропа, накіраваных супроць белапольскай акупацыі, адозвы да працоўнай беднаты з заклікам адкрыта ўступаць у бой з класавым ворагам шляхам партызанскай вайны і арганізацыі рэвалюцыйных камітэтаў. Самі па сабе дакументы гэтыя нічога не давалі панскай агентуры ў сэнсе выкрыцця іншых асоб, апроч Нявіднага. Гэта яго заспакоіла. Яго мучыла смага, але ён цярпеў. Агенты прабавалі гаварыць з ім, але ён, не хаваючы свае агіды да іх, маўчаў і не пазіраў на іх.

Аб арышце небяспечнага «злачынца» былі зараз-жа апавешчаны вышэйшыя органы адпаведных польскіх

аддзелаў. Адтуль распарадзіліся даставіць Нявіднага глыбей у тыл, у болей надзейны астрог. Некалькі дзён перасылалі Нявіднага з астрога ў астрог пад моцным канвоем, дзе пехатой, дзе фурманкамі, і, нарэшце, чыгункаю.

Астрог, збудаваны яшчэ пры цару, быў цёмны і пануры. Нявіднага ўвялі ў кантору астрога, здалі па дакументах, дзе быў адзначан характар «злачынства»: падпольная работа, накіраваная на зрыў польскага «ужонда», арганізацыя «разбою» і распальванне класавай нянавісці да пануючага класа. Яго абыскалі, і ўжо турэмная стража пад моцным канвоем павяла яго ў адзіночную камеру, што змяшчалася ў ніжнім этажы рагавой турэмнай вежы. Сотні арыштаваных за ўдзел у рэвалюцыйным руху напаўнялі астрог. Іх бледныя, змучаныя твары паказваліся ў закутых у жалеза вокнах з усіх паверхаў астрога.

— Адкуль, таварыш?

— За што? — чуліся мужчынскія і жаночыя галасы.

— З Палесся!

— То нявольна! — крыкнуў Нявіднаму чорны астрожны цэрбер і штурхануў яго ў плечы, а варта, пастаўленая на дварэ астрога, стрэльбамі пагражала зняволеным і з спецыфічна астрожнаю лаянкаю адганяла іх ад акон.

З іржавым скрогатам расчыніліся грузкія жалезныя вароты, як пасць астрога. Цёмным карыдорам падзямелля, дзе смутна блішчалі агоньчыкі ліхтароў, а побач змяшчаліся карцэры і розныя клятушкі-камеры, павялі Нявіднага ў рагавую вежу. Прайшлі карыдор, павярнулі ў цесную шчыліну, у вузкі праход між тоўстых мураваных сцен, прайшлі яшчэ адны дзверы, і Нявідны апынуўся ў круглай, маленькай камеры. У камеры было пуста, холадна і сыра. На цэментавай падлозе стаяў дзервяны тапчан-койка, а высока ўгары была зроблена невялічкая ніша, забітая жалезнымі кратамі. Праз яе скупа прабівалася святло ў камеру. Турэмшчыкі вышлі. Загрымеў ключ у замку, дзверы цяжка зачыніліся, і Нявідны астаўся адзін, адгароджаны ад свету, людзей і волі. Ён прысеў на голы тапчан, азірнуўся... тупік. Далей ходу няма!.. канец!..

Нявідны не цешыў сябе ніякімі ілюзіямі. Смяротэльная маркота ахапіла яго. Адзін, ні жывой душы. Жудасная цішыня, а ў гэтай цішыні плылі нейкія далёкія, глухія гукі і губляліся тут... Там, у Гомельшчыне, засталася старая маці. Ніколі ў жыцці не адчуў ён такой вострай жаласці да яе, як у гэты момант. Яна так дрыжала над ім, так старалася ўсцерагчы яго. Два сыны яе загінулі на імперыялістычнай вайне. Дзве дачкі павыходзілі замуж і паўміралі. Чарга за ім, а маці застаецца адна ў свеце, перажыўшы дзяцей і мужачорнарабочага. Не бачыла яна радасці ў жыцці, і не ведае яна, што ён, апошні сын яе, яе радасць і апошняя сувязь яе з жыццём, адзін сядзіць у гэтай дамавіне.. Лічаныя дні, а можа гадзіны аддзяляюць яго ад цёмнага, жудаснага ў сваёй пустаце і маўклівасці нябыту.

Ён апёр галаву на рукі. Паток вострага болю і пакуты падхапіў яго і закружыў у мутных сваіх хвалях... Прэч, прэч слабасць і маладушнасць! Ён рашуча зрываецца з тапчана. Твар яго робіцца суровым і зацятым. Цвёрдымі крокамі ходзіць ён па камеры. Раз, два, тры. Раз, два, тры. Камера цесная — тры крокі і — паварот. Хада і рух сунялі яго нервы, ён трохі заспакоіўся. Ён думае аб тым, што робіцца там, на Палессі, думае, у якой ступені выбыццё яго з строю работы адаб'ецца на самой рабоце. Работа не спыніцца. Яго месца зоймуць дзесяткі, сотні, тысячы новых барацьбітоў, роджаных у буры вайны і рэвалюцыі, тысячы новых сейбітаў буры і змагання.

Доўга хадзіў ён і думаў. Стомлены хадою, думкамі і ўсім перажытым за апошні час, ён прылёг на голы тапчан і заснуў, заснуў цяжкім сном чалавека, змучанага маральна і фізічна.

Скрогат ключа ў замку разбудзіў Нявіднага. Адразу-ж успрыняў ён гэту ўсю жахлівую рэчаіснасць. У камеру ўвайшлі трое турэмшчыкаў.

— А ну, падымайся! — груба штурхануў яго адзін.

Яго павялі на допыт.

Нявідны з цікавасцю паглядзеў на следчых. Працўныя, ненавісныя. Гэта — прагавітыя п'яўкі. Яны будуць высмоктваць сокі мазгоў яго, нерваў. Было іх тут двое.

Адзін нарыхтаваўся запісваць. Другі будзе дапытваць. Нявідны паглядзеў на пісара і падумаў: «Многа ты не напішаш». Ён адразу паставіўся варожа да свайго допыту і ўзяў курс на тое, каб меней гаварыць і нічога не расказваць аб тым, што іх будзе найбольш цікавіць.

— Хто ты і як тваё прозвішча? — было першае запытанне.

— Рэволюцыянер. Прозвішча ў мяне няма.

— Нявідны, гэта—твой псеўданім?—запытаў следчы.

— Так я называю сябе сам.

— А прозвішча ты сказаць не хочаш?

— Лічу, што гэта непатрэбна.

— Аб тым, што патрэбна і што непатрэбна, судзіць не табе.

— Я думаў, што ў «дэмакратычнай» панскай Польшчы права судзіць дано ўсім, — іранічна заўважыў Нявідны.

— Што можна ваяводзе, то не тобе, смродзе, — так-жа спакойна адказаў следчы.

— Дасканалая «дэмакратычная» прыказка, — засмяяўся Нявідны.

Следчы пачынаў злавацца.

— Мы аб табе маем вялікі дакументальны матэрыял, — пачаў ён. — Тваё злачынства нам дасканала вядома, і запірацца тут не мае сэнсу. Нам вядома, што ты на тэрыторыі Польшчы, на тэрыторыі, заваёванай польскай арміяй, вёў падрыўную злачынную анархабольшэвіцкую работу, накіраваную на звяржэнне польскай улады, на арганізацыю хлопскіх банд для ўзброенага выступлення, на падпал маёнткаў і на тэрор у дачыненні да іх законных уладароў і адміністрацыі польскай дзяржаўнасці. Прычым гэту злачынную дзейнасць вёў у Палессі, аб'яўленым на ваенным палажэнні. Цяжар кары за ўсе гэтыя злачынствы можа быць зменшаны, калі ты скажаш, хто твае хаўруснікі.

— Вы хочаце гэта ведаць? — падкрэсліваючы слова «гэта», запытаў Нявідны.

— Так, гэта.

— Хаўруснікаў маіх многа. Калі-б я назваў тых, каго я ведаю асабіста, то гэта была-б якая-небудзь адна

мільённая частка іх. Мае хаўруснікі — паўстаўшы супроць соцыяльнай несправядлівасці, спрадвечнага гнёту і эксплаатацыі народ, мнагамільённая маса працоўнага сялянства і рабочых. Мае хаўруснікі — мільёны прыгнечаных Польшчы!..

— У нас тут не большэвіцкі мітынг, — спыніў Нявіднага следчы. — Занадта многа тваіх хаўруснікаў. Нас цікавяць якраз тыя, якіх ты ведаеш асабіста, удзельнікі тваёй злачыннай дзейнасці.

— Скажу проста і катэгарычна: я іх не выдам і не назаву.

Следчы бліснуў вачыма.

— У нас, апроч слоўнай мовы, ёсць мова іншых спосабаў.

— Я чуў і ведаю вашу мову «іншых спосабаў».

Тады следчы сказаў:

— А ты ўсё-ж падумай. Даём табе дзесяць мінут на разважанне.

Нявіднага вывелі ў карыдор.

Праз дзесяць мінут яго зноў прывялі на допыт. На запытанне следчага аб выніках разважання суровы, спакойны і зацяты невысокі хударлявы чалавек, сейбіт буры і змагання, сказаў:

— Прыступайце да вашай мовы «іншых спосабаў», болей нічога вам не скажу.

І Нявідны стрымаў сваё слова. Ён маўчаў, калі яго білі, паваліўшы на брудную падлогу каземата, таўклі і мясілі цяжкімі жандарскімі ботамі; маўчаў, калі ўшчэмлівалі яго рукі між дошак, спецыяльна прыстасаваных, рвалі яго цела, расцягвалі жылы і косці.

Ён абярнуўся ў нежывога, страціўшага чуласць і прытомнасць чалавека. Яго адлівалі вадою, зноў мучылі, а ён толькі скрыгатаў сціснутымі зубамі, але не сказаў ніводнага членападзельнага слова.

Яго каты, здаравенныя, адкормленыя людзі, утраціўшыя чалавечы воблік, адчувалі сябе пабітымі сабакамі.

На досвіце трэцяга дня зняволеныя ахвяры старога царскага астрога чулі шум у рагавой камеры.

Дзесяткі бледных людскіх ценяў прыніклі да акутых жалезам акон астрога, пазіралі на цёмную групу чалаве-

чых сілуэтаў, выводзіўшых за вароты астрога невысокага хударлявага чалавека на апошні этап яго галгофы.

Невысокі хударлявы чалавек заўважыў бледныя цені ў вокнах астрога. Ён знайшоў у сабе сілы громка сказаць ім:

— Прашчайце, таварышы! Няхай жывуць Советы!

## XXXVI

Калі часці Чырвонай Арміі перайшлі былі Прыпяць і падыходзілі ўжо да вёсак Прымакі — Вепры, Васіль Бусыга і яго прыяцелі перажывалі трывожныя дні. Няўстойлівасць фронта, усё большы і шырэйшы маштаб партызанскіх аперацый, іх стыхійны рост — усё гэта змушала войта і яго аднадумнікаў турботна чухаць патыліцы ды падумаць, што нясе ім хаўрусаванне з панамі. А што, калі паны прагараць? У меру хістання самога фронта хістаўся і іх настрой. Упадніцкія думкі іх праходзілі, калі верх бралі палякі, асабліва настрой іх падняўся тады, калі часці Чырвонай Арміі змушаны былі зноў адыйсці за Прыпяць і калі прайшла весць, што палякі ўзялі Кіеў. Яшчэ болей павесялелі Бруй і Бірка, калі войт прынёс паведамленне, што супроць партызан дзеда Талаша палякі высылаюць войска, што на чале яго становіцца сам павятовы «камісарж» пан Крулеўскі. Пан Крулеўскі — афіцэр. Ён добра ведае мясцовасць, а яго маёнтак таксама свяціў небу ў тую страшную ноч. З гэтага выходзіць, што пан Крулеўскі пастараецца.

Весць аб карным батальёне пана Крулеўскага не мінула вушэй дзеда Талаша і яго ваяк. Партызаны мелі дасканалую інфармацыю аб усім, што чынілася іхнімі ворагамі. Кожны польскі наезд, кожная экзекуцыя, выбіванне харчоў і падаткаў, паяўленне дзе-небудзь у вёсцы польскай паліцыі, польскіх салдат — усё гэта станавілася вядомым партызанам, і яны рэагавалі на ўсё гэта раптоўным паяўленнем там, дзе іх не чакалі.

У глухім лесе, адгароджаным непрыступнымі балотамі, мелі нараду партызанскія атаманы і іх вы-

датнейшыя памочнікі. Гаварыў дзед Талаш партызанскаму войску:

— Таварышы грамада! Насоўваецца ліха на нас. Пасылаюць польскія генералы на нас войска; цэлы батальён, а за камандзіра паставілі пана Крулеўскага. Сказалі яму — што хочаш, а войска іхняе знішч усё да аднаго чалавека. А іхняга атамана, старога Талаша, і хто іншыя камандзіры прывядзі жывымі. Вось, таварышы грамада, з чым ідзе на нас пан Крулеўскі. У яго бацькі я пасвіў гавяду, а сынок хоча, каб я на старасць папасвіў панскія вошы ў астрозе, а потым паздзеквацца з мяне і іншых нашых камандзіраў і ўжо тады пазабіваць нас.

— А скулу ім у бок! — вырваўся з партызанскай грамады голас, поўны злосці і абурэння.

— То як-жа будзе, таварышы грамада? — дзед Талаш хоча ведаць настрой свайго войска.

— Іх саміх перабіць, як шалёных сабак!

— А пана Крулеўскага на асіне павесіць! — загула партызанская грамада.

— Дык будзем ваяваць з імі?

— Ваяваць, біцца да апошняга чалавека.

— Добра, добра, хлопчыкі! Дзякую вам, таварышы грамада! Дык будзем ваяваць. У нас ужо ёсць свае думкі, як ваяваць. Але тут я вам не скажу пра іх. І хвоя можа мець вушы.

— Мы верым табе, бацька, і нашым камандзірам.

Дзед Талаш зняў шапку і бліснуў лысаю галавою.

— Дык старайцеся-ж, сокалы! Зорка глядзіце, чутка слухайце і рабіце ўсё тое, што скажуць вам камандзіры.

— Будзем глядзець, будзем слухаць і рабіць усё так, як нам скажуць, — дружна адгукнуліся партызаны.

Сакрэтна і патаемна рушыў у паход пан Крулеўскі на чале свайго батальёна пры чатырох лёгкіх гарматах з кулямётамі. Ехаў ён горда, пышліва, як праслаўлены леваяка. Нібы танцаваў пад ім гняды стаенны конь, як лебедзь, выгнуўшы пругкую шыю. Пану Крулеўскаму здавалася, што на яго цяпер пазірае ўвесь свет, і пышлівасці яго не было канца.

Не даходзячы Вепраў, батальён спыніўся. Батальён налічваў соцень шэсць салдат. Пан Крулеўскі сабраў

паноў афіцэраў і падрабязна выламсыў ім свой стратэгічны план, размеркаваў пазіцыю, даў кожнаму аддзелу сваю баявую задачу, назначыў пункт, да якога павінен рухацца батальён, расчлянёны на тры часткі, даў падробныя інструкцыі кожнаму начальніку, паклапаціўся аб сувязі між паасобнымі аддзеламі, словам, нічога не ўпусціў з-пад увагі. Аддаючы гэтыя загады, пан Крулеўскі пачынаў сам пераконвацца, што ён не толькі дасканалы камандзір батальёна, а мог-бы камандаваць і дывізіяй і, быць можа, нават, яшчэ лепей, як батальёнам: ваяцкай творчасці яго было-б там болей разгону.

Батальён непасрэдна пераходзіў на палажэнне разгорнутых баявых часцей, гатовых пачынаць бой, хоць праціўнік яшчэ не быў знойдзены. Задача, пастаўленая батальёну панам Крулеўскім, была такая: ахапіць «жалезнымі лапамі» прадпрыпяцкую пушчу, дзе хаваліся партызаны, і ніводнаму з іх не дазволіць выйсці з яе. Батальён потайкам уначы абышоў Прымакі і Вепры і схаваўся ў лесе, выставіўшы варту і рассыпаўшы дазоры, і ў баявым парадку запыніўся на начлег у лесе.

Саўка Мільгун, тоячыся дома, дачуўся аб карным батальёне. Страх папасціся ў панскія рукі змусіў яго падацца ў лес. У тую-ж ноч ён сабраўся, палажыў у берасцяную кайстру хлеба і ў поўнач рушыў у дарогу. Ужо каля лесу яго аклікнуў вартавы і загадаў спыніцца. «Няма дурняў спыняцца!» — сам сабе сказаў Саўка і так драпануў у лес, што толькі вецер засвістаў каля вушэй. Салдат выстраліў. Саўка падскочыў ад страху, але тут-жа сказаў сам сабе: «Трасцу ты пацэліш». На ўсходзе сонца ён быў ужо далёка ад Прымакоў і сядзеў у жарале старога дуба. Гэта схованка яму дужа спадабалася. Яму толькі прышла ў галаву страшная думка: а што, калі палякі падсмаляць гэта жарало? У Саўкі не было акрэсленага плана. Планы і камбінацыі давалі яму тыя ці іншыя праявы. Так вось і цяпер: ён не пайшоў-бы ў лес і не зашыўся-б у гэта жарало, калі-б не карны батальён. Седзячы ў жарале дуба, ён агледзеў дзірачку. Праз яе ледзь-ледзь прабіваўся пучочак святла вясенняй раніцы. У гэтым месцы быў калісь сук. Цяпер ён згніў. Саўка пракалупаў нажом шырэй шчы-

лінку і зрабіў з яе вочка, праз якое можна было згледзець сёе-тое з таго, што рабілася ў лесе.

Першы дзень баявых дзеянняў батальёна пана Крулеўскага не даў ніякіх вынікаў. Разведка, высланая ў лес, не вярнулася. Ці яна заблудзіла ў лесе, ці папала ў партызанскую засаду, ці проста дэзертыравала — асталося невядомым. Пан Крулеўскі аддаў батальёну загад прасунуцца глыбей у лес і заняць новыя пазіцыі. Сам ён са сваім штабам і сваім аддзелам, якім кіраваў непасрэдна, заняў цэнтр пазіцыі. Адной групе войска загадаў рассыпацца ў баявы ланцуг, ахваціўшы адно крыло надпрыпяцкай пушчы, і прайсці яе, трымаючы кірунак на цэнтр пазіцыі. Пан Крулеўскі меркаваў, што баявы ланцуг, прайшоўшы пушчу, зрушыць і напужае партызан, і яны будуць уцякаць у другое крыло, дарогу, якую ён пераняў сваім войскам. Вось тут, думаў ён, і будзе ім лазня. Такі манеўр болей дадаваўся для палявання на зайцоў, па часці якога пан Крулеўскі быў спец, чым для вайны з партызанамі. Не даў жаданага спаткання з партызанамі і другі дзень знамянітай аперацыі пана Крулеўскага, але ў гэты дзень здарылася адна даволі цікавая акалічнасць, абяцаўшая багатае жніво на ніве вайны: разведка затрымала ў лесе дужа фацэтнага чалавека-жабрака, ці то прыдуркаватага валацугу. Сядзеў ён каля дарогі, пад дзеравам, увесь трохся ад страху. Адзеты ў лахманы, абвешаны торбамі, з даўгою арэхаваю палкаю, ён па абліччу нагадваў нейкага ляснога гнома, і асабліва дзіўна была ў яго сівая бародка, збітая ў касмыкі.

— Ты хто такі? — запыталі яго салдаты.

— Ніхто. Чалавек.

— Адкуль ідзеш?

— З Петрыкава.

— Куды ідзеш?

— Нікуды.

— А чаго ты трасешся?

— Напалохалі мяне.

— Хто напалохаў?

— Не ведаю: можа людзі, а можа чэрці.

Яго павялі да пана Крулеўскага.

— Сконт ты ест? — запытаў пан Крулеўскі.

— Га? — не зразумеў пытанне дзед.

— Адкуль ты?

— З лесу, адкуль-жа я? — спакойна адказаў дзед і плюнуў некалькі разоў. Ён апусціў уніз галаву і, відаць, нешта сам сабе думаў.

— А ты-ж казаў, што ідзеш з Петрыкава?

— Ну, але, з Петрыкава, — матнуў галавою дзед.

— А цяпер ты кажаш, што ідзеш з лесу.

— Ну, і з лесу.

— А хто напалохаў цябе?

— Напалохалі, ой, напалохалі! — ажывіўся дзед і плюнуў разы са два.

— Хто напалохаў?

— Ну, хто-ж? Яны — чэрці... з дрыгвы павылазілі. А дрыгва там вялікая! Людзі не ходзяць па ёй, бо калі ступіш на яе, дык ужо наверх не выберашся. Не, не выберашся.

— Раскажы нам падрабязна пра іх. Мы ніколі не бачылі чарцей.

— Кінь, панок, пытацца пра іх: сніцца паганыя потым будуць.

Але дзеда ўгаварылі расказаць пра чарцей.

— Іду я, мае мілыя паночкі, — пачаў стары, — аж зірк — выходзіць адзін, ды такі-ж страшны, чорны! А на грудзях у яго накрыж цэлыя маністы ладункаў навешаны. З выгляду нібыта і чалавек, але скуль-жа там чалавеку быць? Такая немарач, нетра, глухмень. Неба з-за лесу не відаць, а збоку — балота, ды такое дрыгвяністае, што толькі там і жыць ім. Страх мяне агарнуў. Стаю, пазіраю. А яны, як шугнуць з балота, ды як зарагочуць, убачыўшы мяне — скура на мне шорхнула. Кінуўся я ўцякаць, хавацца. А яны за мною. «Стой!» — крычаць. Дагналі мяне, абкружылі. А мне і вочы туман заслаў. — «Хто ты такі? Куды ідзеш? Хто падаслаў цябе сюды?» — І ўсё напіраюць, чаго я ў іхняе пекла трапіў? Пусцілі мяне... «Ідзі, кажуць, ды глядзі, нікому не кажы, што бачыў тут: раскажаш — у багну ўкінем». І толькі як пусцілі мяне, успомніў тады, што я — хрышчоны чалавек. Стаў я хрысціцца ды пацеры шаптаць, бадай іх немач пабрала...

— Лжэш, галгане! — крыкнуў пан Крулеўскі і схапіў

старога за бараду. Збітая ў касмыкі дзедава барада засталася ў панскай руцэ.

— Што-ж ты скажаш цяпер? — запытаў яго пан Крулеўскі, сунуўшы ў нос безбародаму дзеду касмыкі ялавага моху.

Пераадзеты партызан маўчаў.

— Ты прышоў шпіёніць? Прызнавайся, лайдак.

— Панок, прызнаюся, — бухнуў у ногі пану Крулеўскаму выкрыты партызан: мяне паслалі на разведку. Вось я сабе і думаю, дай пайду, але назад не вярнуся, уцяку дамоў і кіну ўсё гэта. Ці-ж мы, простыя мужыкі, можам ваяваць з такім войскам, як польскае? А калі дачуліся, што супроць нас ідзе сам палкоўнік пан Крулеўскі, дык на нас напаў страх, і пачало наша войска разбягацца. А рэшта пазашываліся ў такія трушчобы, што хутчэй з голаду паздыхаюць, чым іх знойдуць там.

— А, пся маць! Цяпер толькі розуму дайшлі, — не сунімаўся пан Крулеўскі, але ён значна памякчэў, калі пачуў такую атэстацыю польскаму войску, калі яго назвалі палкоўнікам, — ён быў у чыне капітана.

— А для чаго-ж ты ў жабрака пераапрануўся?

— Паночак, думаў, што жабрака не запыняць: жабракоў шмат ходзіць цяпер.

— Не веру, пся крэў!

— Панок! Праўду кажу! Няхай не пабачу я ні свету, ні дзяцей, калі лгу. Абрыдла мне ўсё гэта.

— А ты пакажаш мне тое месца, дзе хаваюцца вашы разбойнікі?

— Баюся, панок: усёроўна заб'юць мяне, калі даведаюцца. Я лепей раскажу, як зайсці туды.

— Не, ты мусіш паказаць сам гняздо сваё, — не адступаўся пан Крулеўскі, — не пойдзеш, тут-жа загадаю расстраляць цябе.

Выкрытага партызана ўзялі пад строгую варту. Як ні адбрыкваўся ён, але змушаны быў паказваць месца прыпынку партызан.

У сувязі з гэтым пан Крулеўскі злажыў новы план. Двум ротам аддаў загад заняць усе праходы, а сам з галоўнымі сіламі рушыў к дрыгвяністаму балоту, дзе туліліся партызаны. Пасоўваліся даволі марудна. Узяты пад стражу партызан сумленна паказваў дарогу. Не давяра-

ючы яму, пан Крулеўскі пасылаў на разведку месца і дарог.

Прайшоўшы вёрст пяць, разведка данесла, што ў лесе знойдзена свежае вогнішча і вытаптана месца вакол яго. Каля вогнішча былі знойдзены і рэшткі партызанскай папаскі: скарынкі хлеба, лупіны ад бульбы. Пан Крулеўскі сам агледзеў яго. Праваднік пацвердзіў, што гэта партызанскае вогнішча і нават паведаміў, што непадалёку ёсць яшчэ некалькі вогнішчаў. Усе яго паведамленні пацвярджаліся. Рух войска яшчэ болей замарудзіўся, і праваднік сказаў, што месца партызанскага схова ўжо недалёка.

А лес глушэў болей і болей. Часцей пападаліся забалочаныя нізіны, заваленыя вываратамі і гнілымі калодамі. Сам пан Крулеўскі, афіцэры і салдаты заметна хваляваліся. У такім напружаным стане прайшлі яшчэ з поўгадзіны. Нарэшце праваднік падаў знак спыніцца.

— Там! — ціха сказаў ён і паказаў рукою на прагаліну ў лесе.

Пан Крулеўскі запыніў галаву калоны і падаў знак падцягнуць войска. Афіцэры сабраліся вакол свайго начальніка і чакалі распараджэнняў. Пан Крулеўскі пачаў аддаваць загады ротным камандзірам. І раптам густы траскучы залп з тылу, а потым з правага фланга перарваў дачу гэтых загадаў. Некалькі дзесяткаў салдат упала. Град куль са змяіным піскам завыў над галовамі афіцэраў, вырваўшы з іх групы трох чалавек адразу, і стукнуўся ў галіны і камлі дрэваў. Салдаты рынуліся, хто ўрассыпную, хто збіраючыся ў кучы, а хто без каманды кладучыся на зямлю, ці хаваючыся за дрэва. Узвод і роты перамяшаліся. Тры салдаты, вартаваўшыя праваднікa, кінуліся таксама наўцёкі.

У гэтай мітусні пераадзеты ў жабрака партызан Марка Балук шчасліва далучыўся да сваіх байцоў.

Пан Крулеўскі кідаўся сюды і туды, угнуўшы галаву, штось крычаў, але ніхто яго не слухаў.

Адзін толькі паручык Жыгалкоўскі не згубіў галавы. Ён кінуўся да свайго ўзвода, падаючы каманду лажыцца і рассыпацца ў баявы ланцуг. Але ў гэты-ж момант меткая партызанская куля яго самога палажыла на дол, і ўзвод яго быў захоплен агульным патокам сумятні і

панікі. Пад несупынным агнём у мітусні і бязладдзі займалі палякі пазіцыі, але іх выбівалі невядомыя ворагі, не давалі ім часу замацавацца. Толькі ў адным месцы запынілася група салдат з двума афіцэрамі, паставілі кулямёты і адкрылі бурны агонь, секучы кулямі камлі старога лесу, стрымліваючы партызанскі напор.

— Забраць кулямёты! За мною! — крыкнуў Мартын Рыль. Сам уперадзе, а за ім чалавек трыццаць партызан рынуліся на кулямёты. Крокаў дваццаць аддзялялі Мартына Рыля ад жаданай мэты. Польскі афіцэр, сам страляўшы з кулямёта, страляў да апошняй мінуты. Тры кулі ўрэзаліся ў шырокія Мартынавы грудзі. У гарачцы атакі абмінулі яго партызаны, пакідаючы за сабой сцятых кулямётам таварышоў. Дабеглі, штыхамі і прыкладамі перабілі кулямётную каманду і зацятага афіцэра-кулямётчыка.

З другога боку партызанская лавіна кінулася на фланг палякаў. Не вытрымалі палякі, кінуліся бегчы, але дарогу ім перагарадзіла дрыгвяністае балота. Некалькі салдат з гарачкі і страху скочылі ў балота і праваліліся ў багну з галовамі. А партызаны гусцей і цясней зажымалі свой грозны круг. Пакідалі салдаты стрэльбы, пападымалі рукі. Бледны і перапалоханы, стаяў пан Крулеўскі адзін збоку, не палажыўшы зброі і не падняўшы рук угору.

— А ну, сынкі, выходзьце на пляц! — сказаў польскім салдатам дзед Талаш. Стаяў ён і пазіраў, як горды арол палескіх пушчаў. На грудзях яго блішчалі стужкі патронаў, апяразваючы крутыя дзедавы грудзі двума шырокімі паясамі. У адной руцэ трымаў ён «настаяшчую» ваенную стрэльбу, апёршы яе прыкладам на імшысты дол. Побач з ім таксама з патроннаю стужкаю цераз плячо стаяў яго меншы сын Панас і ўсе партызанскія камандзіры. Не было толькі сярод іх Мартына Рыля.

— А ты, пан, што-ж не складаеш зброі? Ці ваяваць яшчэ хочаш? — запытаў дзед Талаш пана Крулеўскага. Той моўчкі зняў шаблю і рэвальвер і аддаў іх партызанам.

— Ну, чый-жа ты цяпер падданы? — прыгадаў яму дзед Талаш тое-ж пытанне, што сам чуў калісь. Пан Крулеўскі маўчаў.

— Вядзіце іх туды, — вялікім пальцам левай рукі паказаў у лес стары атаман. — І яго вядзіце! — кіўнуў ён на пана Крулеўскага.

Пана Крулеўскага вялі асобна ад салдат. З афіцэраў адзін толькі ён і застаўся: усе яны палі ў часе бою. На маленькай гарбінцы зямлі, шырока раскінуўшы нерухомыя рукі, ляжаў грамозны чалавек. Смерць налучыла яго тады, калі з невялікай западзінкі выбягаў ён на гэты гарбок зямлі. На левай руцэ яго, ніжэй локця, ляжаў неразлучны яго спадарожнік, заграпічны карабін. Бледны твар забітага героя-партызана, абернуты к небу, слепа глядзеўшаму на зямлю скрозь густыя макушы старога лесу, быў урачыста спакойны. Суровыя складкі на ілбе разгладзіліся, і строгі былі яго самкнёныя губы і выгнутыя чорнымі дужкамі вусы на іх.

Нежывою групаю трохі далей ляжалі забітыя партызаны.

Дзед Талаш акінуў іх смутнымі старымі вачыма. Ён спыніўся над трупам свайго вернага таварыша і панура звесіў над ім пасівелую галаву. Ні на кога не гледзячы, гаварыў дзед Талаш словы развітання над трупам свайго друга і забітых таварышоў.

— Не падымецеся болей, мае саколікі, на голас ваяцкай трубы! Мартыне, мой голубе! вырваўся ты з панскай няволі, і гэты карабін, што лёг на тваю нежывую руку, здабыў ты, баронячы сваю волю. Расплюшчжа, мой голубе, вочы, ды зірні: вунь ён, вораг наш, стаіць, апусціўшы вочы. Не ўдалося яму забраць нас жывымі... Спачывайце-ж, сокалы мае родныя, і не турбуйцеся: не загіне наша справа, — мы будзем вартаваць яе пільна і дзяцей вашых мы не пакінем.

Дзед Талаш змоўк і нізка апусціў галаву.

— Капайце, таварышы грамада, магілу: пахаваем іх!

Падняў дзед Талаш вочы, зірнуў на польскіх салдат.

— А вы, сынкі, што-ж? Паны ці панскія слугі, што прышлі занявольваць нас, гарапашніцкую галечу?

З натоўпу палонных выступіў салдат.

— Бацька-камандзір! Вярні мне волю і стрэльбу: з вамі пляча ў плячо я буду ваяваць.

І яшчэ выступіў адзін з палонных. Падышоў да Панаса.

— Ці пазнаеш ты, хлопчэ, мяне? — запытаўся і ўважна паглядзеў Панасу ў вочы. Панас паглядзеў на яго і радасна ўсміхнуўся.

— Бацька! Вось ён той самы салдат, што выпусціў мяне з астрога!

Зірнуў дзед Талаш на пана Крулеўскага.

— Бачыш, пан: твае салдаты на наш бок пераходзяць, і ўсе яны пяройдуць, калі дазнаюцца праўду.

І яшчэ адзін чалавек стаяў адзінока ў лесе, наглядаючы гэту сцэну. Ён хацеў падыйсці сюды і сказаць сваё слова, але не адважыўся. Чалавек гэты быў Саўка Мільгун.

Востраносы човен шыбуе ўпоперак Прыпяці. Два чалавекі сядзяць у чоўне. Адзін малады, курносы, з узбітым чубам, не спяшаючыся, рытмічна, узмах за ўзмахам гоніць човен. Другі важна сядзіць на пярэдняй частцы чоўна. Пад пахаю ў яго партфель. Шмат гадоў запісалі часы ў маршчынах яго твару, у глыбокіх складках на высокім ілбе. Удумліва пазіраюць кудысь углыб, відаць, у мінулае, яго цёмныя, яшчэ жывыя і вострыя вочы. Гэта — дзед Талаш, старшыня сельсовета. Човен гоніць яго сакратар, Самок з Вепраў. Адпачывае дзедава «настаяшчая» стрэльба, ужо астыўшая ад гарачыні зацятых боек па дзікіх трушчобах Палесся. Цяпер у дзеда Талаша другі клопат, іншыя мыслі, але гэта шырокая Прыпяць будзіць дзедавы ўспаміны аб нядаўнім мінулым.

— А помніш, Самок, як лоўка вырвалі мы батальён таварыша Шалёхіна з польскіх лап і пераправілі на той бок?

Самок весела падымае шэрыя вочы, і ў вокнах іх іскрыцца смех.

— Паднеслі ім, называецца, дулю пад нос... Ну, дзівіліся-ж яны, куды зніклі чырвонаармейцы!

Дзед Талаш толькі ў вус пасміхаецца.

— Ну, а як ты мяркуеш, голубе: ці пойдзе наша гуртовая гаспадарка?

— А чаму не пойдзе? Зямля ёсць, коні ёсць, рабочых рук хапае... Пойдзе! — і ўпэўненасць чуваць у сакратаровым голасе.

— Эге-ж! І я думаю, што пойдзе. — Па справе «гуртовай» гаспадаркі едуць яны ў волвыканком, каб аформіць яе. Гуртам надумаліся залажыць яе. Яна практычна развязвае цэлы клубок турботных пытанняў аб дапамозе сем'ям забітых партызан: Мартына Рыля, Кандрата Буса і іншых. У гэту гаспадарку адводзяцца землі Кандрата Біркі і Сымона Бруя. Іх судзілі пролетарскім судом і засудзілі на высылку. Войта Васіля Бусыгу ў «расход» вывелі, як зацятага контррэволюцыянера. Аўгіня не захацела аставацца на Васілёвай гаспадарцы, аддала «грамадзе» ўсю маёмасць і падала заяву, каб і яе прынялі ў «гуртовую» гаспадарку. Абмеркавалі заяву, узялі пад увагу Аўгініную заслугу перад партызанамі і пастанавілі — прыняць.

Шуміць і гамоніць Савецкае Палессе, і новыя акорды чуваць у гэтым шуме і ў гэтым гомане. Прынікае вецер гарачым тварам да шырокіх, анямелых у сваім адвечным застоі балот і шэпча зялёнай жорсткай траве на купінах аб тым, што ідзе сюды новы, савецкі чалавек, каб парушыць іх знямене, каб абярнуць іх у багатыя лугі і нівы. Гуляе вецер над купчастымі макушамі палескіх пушчаў, калыша галіны над свежымі курганамі-магіламі, параскіданымі на высокіх пясчаных выспах, і толькі ён адзін, гэты вольны баян, апявае славу пахаваных у курганах-магілах ды складае людзям песні аб сейбітах буры і змагання.

Над дрыгвяністым балотам узнімаецца выспа, на выспе — курган. Высокі і шырокі слуп, старанна ачэсаны партызанскаю сякераю, вартуе гэту магілу-курган. На дубовым слупе выразаны рукою няхітрага разбяра два словы: «Мартын Рыль». На магіле ляжыць просты вянок з жывых кветак Палесся. Сюды зрэдку, у вольныя дні, прыходзяць дзве жанчыны: маці і дачка. Адкрыла маці дачцы сваю тайну, праўду аб тым, хто яе бацька. У засмучэнні падымае Алеся сваю чарнявую галоўку на высокі дубовы слуп. Гэта яна прыносіць на магілу вянок жывых кветак. Моўчкі ідуць яны ад магілы, адна ў за-

смучэнні аб тым, што было, другая ў радасным усведамленні, што сапраўдны бацька яе — герой-партызан.

Праходзяць гады. Дзеду Талашу цяпер восемдзесят гадоў з хвосцікам. Трудна ўжо яму займацца грамадскаю работаю, але без работы ён застацца не хоча. Ён — вартаўнік на Прыпяці. Яго работа — даглядаць і запальваць ліхтары нанач. Дзед Талаш любіць успамінаць сваё партызанства. Як вынік тых успамінаў, і з'явілася аповесць «Дрыгва». Канчаючы яе, я хачу сказаць людзям пра адно моцнае дзедава жаданне, якім ён жыве цяпер: дзед Талаш дужа хоча пабачыць таварышоў: Сталіна, Варашылава і Будзённага. І яшчэ адзін штрышок да абрысоўкі постаці старога партызанскага атамана.

Калі дзеду Талашу напомніць аб ворагах совецкай улады і аб вайне супроць яе, тады ён выпрастае прыгнутую гадамі спіну, зірне па-арлінаму.

— Го! Я сеў-бы на каня і паказаў-бы яшчэ, чаго варт стары Талаш!

Мінск
*19/XI-1933 г.*

## «НА ПРАСТОРАХ ЖЫЦЦЯ»

Аповесць Якуба Коласа «На прасторах жыцця» — адзін з лепшых празаічных твораў беларускай савецкай літаратуры 20 гадоў, у якім праўдзіва адлюстраваны ідэалы і імкненні савецкай моладзі.

У аповесці паказана, як маладое пакаленне Савецкай краіны, узнятае Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй, імкнулася да асветы, да набыцця ведаў, несла святло навукі і культуры ў самыя глухія куткі Беларусі, прапагандавала калектыўныя метады працы, змагалася са спадчынай мінулага, за новае жыццё, за новыя адносіны паміж людзьмі, за новую, камуністычную мараль.

Тыповым прадстаўніком перадавой вясковай моладзі, выхаванай ленінска-сталінскім камсамолам, з'яўляецца ў аповесці Сцяпан Барута. Сын селяніна-бедняка, ён пасля сканчэння пачатковай школы едзе ў горад і паступае вучыцца на рабфак. У час летніх канікул Сцяпан Барута арганізоўвае камсамольцаў і перадавую вясковую моладзь на асушку Гнілога балота, паказвае прыклад калектыўнай грамадскай працы.

На ўзаемаадносінах Сцяпана Баруты і Аленкі Гарнашкі пісьменнік раскрывае рысы новай маралі, народжанай сацыялістычным грамадскім ладам.

Аповесць «На прасторах жыцця» была напісана ў 1926 годзе і ў гэтым годзе ўпершыню апублікавана ў зборніку апавяданняў пад назвай «На прасторах жыцця»; у 1930 годзе яна выйшла ў свет асобным выданнем. Друкуецца па тэксту, змешчанаму ў кнізе «Беларуская проза і драматургія» (ДВБ, Мінск, 1949).

* * *

Стар. 7. **Весніцы** (веснічкі) — простыя вясковыя вароты.
Стар. 18. **Келб** — пяшкур.
Стар. 20. **Сакрамант** (царк.) — прычасце ў каталікоў; святыня.
Стар. 27. **Іспас** (спас) — назва рэлігійнага свята, якое адзначалася 6-га жніўня.
Стар. 30. **Цвінтар** — абгароджанае месца вакол царквы; царкоўны двор.

Стар. 32. **Адрына** (адрынка) — будынак для складвання сена і саломы.
Стар. 32. **Бамбіза** — высокі, нязграбны чалавек.
Стар. 33. **Гэрад** — ірад.
Стар. 35. **Клуня** — пуня пры гумне для сена.
Стар. 46. **Гула** — фіга.
Стар. 49. **Конка** — гарадская чыгунка з коннай цягай, якой раней карысталіся ў буйных гарадах да з'яўлення трамвая.
Стар. 56. **Галоўпрафобр** — Галоўнае ўпраўленне прафесіянальнага навучання (образования).
Стар. 63. **Лабатрас** — лодыр, гультай.
Стар. 79. **Валока** — мера зямлі каля 20 дзесяцін.

## «АДШЧАПЕНЕЦ»

Аповесць «Адшчапенец» з'явілася водгукам Якуба Коласа на найвялікшы гістарычны пералом у жыцці вёскі — калектывізацыю сельскай гаспадаркі.

«... Ідэя аповесці, — адзначаў пісьменнік, — перарабленне псіхікі селяніна-індывідуаліста ў працэсе калгаснага будаўніцтва» [1].

Працэс вызвалення сялянства ад прыватна-ўласніцкіх імкненняў і інстынктаў і ўступлення яго на шлях калгаснага жыцця паказан у вобразе Пракопа Дубягі — галоўнага героя твору. Прадстаўнік серадняцкай часткі вёскі, ён спачатку недаверліва адносіцца да калектывізацыі, выяўляе хістанні, не разумее перавагі буйнай калектыўнай гаспадаркі над індывідуальнай сялянскай гаспадаркай, «не бачыць плесені заскарузлага ў сваёй архаічнасці вясковага жыцця», падпадае пад уплыў кулацкай агітацыі.

У год вялікага пералому Пракоп пакідае сваю сям'ю, гаспадарку і ідзе шукаць праўды, хоча сваімі ўласнымі вачыма ўбачыць калгаснае жыццё. У час сваіх вандраванняў пазнаёміўшыся з жыццём перадавых калгасаў і на ўласным вопыце пераканаўшыся ў перавагах калгаснага ладу, ён вяртаецца ў сваю вёску зусім іншым чалавекам, актыўным агітатарам і змагаром за калгасы.

У вобразе старшыні калгаса «Хваля рэвалюцыі» Максіма Шахлевіча Колас вывеў перадавіка калгаснага будаўніцтва, прадстаўніка бядняцка-батрацкай часткі сялянства, якая ў першыя дні калектывізацыі рашуча стала на шлях новага, калгаснага жыцця.

Аповесць напісана на працягу 1930—1931 гг. Упершыню друкавалася на старонках часопіса «Полымя» (№№ 11—12 за 1930 г., 2, 3, 4, 5 за 1931 г.). Асобнай кніжкай вышла ў свет у 1932 годзе. Друкуецца па тэксту апошняга выдання (ДВБ, Мінск, 1950).

---
[1] «Заклік» № 1, 1933 г.

* * *

Стар. 96. **Пасад** — тут рад снапоў для малацьбы цэпам.
Стар. 98. **Бравэрка** — сялянская адзежа з сукна хатняга вырабу.
Стар. 113. **Котлішча** — аселішча, сталае месца жыхарства.
Стар. 114. **Мікалай Мірлікійскі** — адзін з так званых айцоў цэрквы.
Стар. 121. **Кунежна** — пяшчотна.
Стар. 126. **Фартэцыя** — крэпасць.
Стар. 135. **Пілсудскі Юзэф** — польскі контррэвалюцыйны буржуазны дзеяч. У 1926 г. пасля зробленага ім фашысцкага перавароту стаў фактычным дыктатарам Польшчы і ў змове з імперыялістамі іншых краін рыхтаваў вайну супроць СССР.
Стар. 144. **Склюд** — шырокая, выгнутая сякера з крывым тапарышчам для абчэсвання сцен.
Стар. 149. **Варыўня** — кладоўка для захоўвання гароднiны.
Стар. 152. **Шалагон** — ветрагон.
Стар. 156. **Лухта** — глупства, недарэчнасць, бязглуздзіца.
Стар. 157. **Звадыяш** — зводнік, ашуканец, дураслівец.
Стар. 173. **Апантаны** — адурэлы, шалёны.
Стар. 176. **Васпан** — устарэлая ветлівая форма звароту роўназначная рускаму — «сударь».
Стар. 181. **Рэгент** — тут дырыжор хора.
Стар. 196. **Баталія** — тут бойка, сварка, калатня.
Стар. 197. **Даць чапаласу** — даць лупцоўкі.

## «ДРЫГВА»

Аповесць «Дрыгва» — класічны твор беларускай савецкай прозы. Аповесць адлюстроўвае гераічную барацьбу беларускага народа супроць белапольскіх акупантаў у гады грамадзянскай вайны і іншаземнай інтэрвенцыі.

Галоўным вобразам аповесці з'яўляецца герой грамадзянскай вайны, камандзір партызанскага атрада дзед Талаш. Прадстаўнік вясковай беднаты, былы парабак, ён усёй душой ненавідзіць прыгнятальнікаў народа, але спачатку, у сілу абмежаванасці свайго светапогляду, не разумее сэнсу рэвалюцыйнай барацьбы і стаіць у баку ад грамадскіх падзей.

Уступленне дзеда Талаша на шлях барацьбы з акупантамі паказана ў аповесці як заканамерны працэс, абумоўлены сацыяльна-гістарычнымі прычынамі. Знешнім штуршком да гэтага паслужыў выпадак са стажком сена, якое прыехалі забіраць белапалякі. Узняўшыся стыхійна на абарону сваёй уласнасці і чалавечай годнасці, дзед Талаш затым пад выхаваўчым уздзеяннем бальшэвіцкай

партыі і Чырвонай Арміі становіцца свядомым змагаром за савецкую ўладу, арганізатарам і камандзірам партызанскага атрада.

Партыйнае кіраўніцтва партызанскім рухам паказана ў вобразе прадстаўніка рабочага класа большэвіка-падпольшчыка Нявіднага. Бясстрашны салдат рэвалюцыі, ён увасабляе розум і волю большэвіцкай партыі, веліч яе ідэй, мужнасць і гераізм.

Якуб Колас у вобразах Нявіднага, дзеда Талаша, Мартына Рыля раскрыў тыповыя рысы беларускага нацыянальнага характару: мужнасць, патрыятызм, любоў да свабоды, нянавісць да ворагаў працоўных мас народа, гатоўнасць да самаахвяравання ў імя сваёй Радзімы і народа.

Аповесць «Дрыгва» сцвярджае сілу і неперможнасць ідэй Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, раскрывае крыніцы савецкага патрыятызма, адлюстроўвае працэс станаўлення і росту новага, савецкага чалавека ў перыяд грамадзянскай вайны. У гэтым перш за ўсё і заключаецца яе ідэйна-мастацкае значэнне.

Аповесць «Дрыгва» была напісана Якубам Коласам на працягу 1933 года. У гэтым-жа годзе ў газеце «Літаратура і мастацтва» № 14 упершыню быў надрукаваны урывак з аповесці. Поўнасцю «Дрыгва» была апублікавана ў часопісе «Полымя рэвалюцыі» за 1933 год, №№ 5, 6, 7, 8—9, 12. Асобным выданнем аповесць «Дрыгва» вышла ў 1934 годзе.

Друкуецца па тэксту выдання 1946 года (ДВБ, Мінск).

* * *

Стар. 208. **Гіцаль** — тут у значэнні — махляр, круцель, ашуканец.
Стар. 209. **Фацэт** — комік, шут, забаўнік.
Стар. 210. **Жалнер** (польск.) — салдат.
Стар. 212. **Канфедэратка** (польск.) — чатырохкантовая вайсковая шапка.
Стар. 214. **Кламеш** — маніш, хлусіш.
Стар. 218. **Войт** (польск.) — старшыня воласці.
Стар. 218. **Гранкулькі** — круглыя паляўнічыя кулі.
Стар. 218. **Брамка** — курок паляўнічай стрэльбы.
Стар. 218. **Ладунак** — гільза.
Стар. 219. **Ваяводства** — вобласць.
Стар. 219. **Пастарунак** — паліцэйскі ўчастак.
Стар. 220. **Біскуп** — асоба духоўнага звання, якая мае так званую трэцюю ступень свяшчэнства.
Стар. 221. **Ураднік** — паліцэйскі чын у часы царызма.
Стар. 221. **Прыстаў** — начальнік паліцыі невялікай адміністрацыйнай адзінкі ў царскай Расіі.
Стар. 222. **Капрал** — старшы радавы ў польскай арміі.
Стар. 228. **Супорат** — супрацоўнік.
Стар. 232. **Інкогніто** — скрыта, таемна, не выяўляючы свайго імя, асобы.
Стар. 240. **Ізгой** — тут у значэнні выгнаннік.
Стар. 245. **Настырна** — настойліва, напорна.
Стар. 256. **Пожондэк** ( польск.) — **парадак**.

Стар. 258. **Цёрла** — гліняная пасудзіна для расціранне маку, канапель.
Стар. 259. **Чукі** — скураныя лапці.
Стар. 259. **Інсургент** — паўстанец, удзельнік паўстання.
Стар. 260. **Лава** — доўгі шырокі тапчан.
Стар. 287. **Стадола** — канюшня, стайня.
Стар. 287. **Сервітут** — права карыстання чужой уласнасцю ў пэўных межах; таксама абмежаванне права ўласніка ў выкарыстанні сваёй уласнасці ў пэўных адносінах.
Стар. 298. **Тавар** — тут у значэнні — буйная рагатая жывёла.
Стар. 300. **Тырада** — доўгая фраза, працяглы ўрывак маналога, выказаныя ў больш ці менш прыўзнятым тоне.
Стар. 304. **Антанта** — палітычны і ваенны саюз імперыялістычных дзяржаў на чале са Злучанымі Штатамі Амерыкі, Англіяй і Францыяй, якія пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі прадпрынялі тры ваенныя паходы супроць маладой савецкай рэспублікі з мэтай устанаўлення ўлады памешчыкаў і капіталістаў.
Стар. 305. **«Ужондзіць»** (польск.) — у сэнсе дагадзіць.
Стар. 324. **Шалахтун** — балбатун, лапатун.
Стар. 333. **Буч** — прылада для лоўлі рыбы, нерат з дубцоў лазы.
Стар. 333. **Галган** (польск.) — балван, ёлуп (лаянка).
Стар. 351. **«Ужонд»** (польск.) — урад.
Стар. 353. **Шляга** — дзервяны молат, даўбня.
Стар. 354. **Ліштвы** — тут вузкія дошкі.
Стар. 359. **Засценак** — невялікі пасёлак.
Стар. 360. **Парафіяне** — веруючыя, якія належалі да той ці іншай парафіі, царкоўнага прыходу.
Стар. 360. «Dominus, wobiscum» (латын.) — выраз з каталіцкага набажэнства («уладыка, благаславі»).
Стар. 360. **Арган** — музыкальны касцельны інструмент, механізм якога складаецца з сістэмы духавых труб, паветраных насосаў, клавіятур і рэгістравых ручак.
Стар. 360. **Кантычка** — зборнік малітваў і духоўных песень (кантаў).
Стар. 360. **Модлы** — малітвы.
Стар. 361. **Рытуал** — тут — сукупнасць абрадаў, якімі суправаджаецца касцельная служба.
Стар. 390. **Выжал** — сабака-ганчак.
Стар. 406. **Цэрбер** — у старажытна-грэчаскай міфалогіі — злы сабака, які ахоўваў уваход у пекла. Тут у пераносным значэнні — злы, люты вартаўнік, наглядчык.
Стар. 410. **Галгофа** — месца паблізу Іерусаліма, дзе адбываліся пакаранні смерцю; тут у пераносным значэнні—месца пакут.
Стар. 410. **Экзекуцыя** — тут у значэнні — расправа, катаванні.
Стар. 413. **Гном** — у заходнееўрапейскай міфалогіі — падземны дух, увасабленне стыхійных сіл зямлі.
Стар. 416. **Паручык** — у царскай арміі — старшы афіцэрскі чын, сярэдні паміж падпаручыкам і штабс-капітанам.

*Заўвагі склалі*
*кандыдаты філалагічных навук*
*В. В. ІВАШЫН і А. А. СЕМЯНОВІЧ.*

## ЗМЕСТ

